В·ЛАСТОЎСКІ

# ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСКАЙ (КРЫЎСКАЙ) К·Н·І·Г·І



1926

# GUDŲ KNYGOS ISTORIJA.

AIŠKINAMOSIOS BIBLIOGRAFIJOS BANDYMAS NUO X ŠIMTMEČIO GALO LIGI XIX ŠIMTMEČIO PRADŽIOS.

SUDARĖ V. LASTAUSKAS.

IŠLEISTA GUDŲ VEIKIMO CENTRO LIETUVOJE LĖŠOMIS.

---

SPAUSDINTA F. SAKALAUSKIENĖS IR G. LANO SPAUSTUVĖJE
: : : : : KAUNAS 1926. : : : : :

# ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСКАЙ (КРЫЎСКАЙ) КНІГІ.

## СПРОБА ПАЯСЬНІЦЕЛЬНАЙ КНІГОПІСІ АД КАНЦА Х ДА ПАЧАТКУ XIX СТАГОДЗЬДЗЯ.

АПРАЦАВАЎ В. ЛАСТОЎСКІ.

ВЫДАНА КОШТАМ БЕЛАРУСКАГА ЦЭНТРУ Ў ЛІТВЕ.

---

АДЦІСНУТА Ў ДРУКАРНІ САКАЛОЎСКАГА і ЛАНА.
: : : : КОЎНА, 1926 ГОД. : : : :

Няма больш занядбанай дзедзіны ў сьветавой пісьменнасьці як гісторыя паняволеных народаў. Вышэйсказанае асабліва кідаецца ў вочы калі ўзяць якую колечы галіну нашай, крыўскай, гісторыі. То знача гісторыі народу, каторы, ня так яшчэ даўно, жыў сваім самаістым палітычным і культурным жыцьцём. Супярэчнасьць між сьведчаньнем гістарычных помнікаў і асьвятленьнем іх сучаснай пісьменнасьцю—прост паражаючая. Бяручы ў рукі гістарычную кнігу часовых нашых пераможцаў, ня ведама чаму больш дзівіцца, ці іх безкрытычнасьці, ці паражаючай умеласьці тэндэнційна выкарыстываць об'ектыўныя сьведчаньні гісторыі.

І, запраўды, сколькі трэба безкрытычнасьці або надуманай волі, каб, прыкладам, з паважнай мінай, чалавек, з імем гісторыка, мог гаварыць аб Русі, як аб націіі засяляючай усходна-эўропэйскую раўніну! Усякаму ведама, што пад імем Русь, калісь, у IX стагодзьдзі, прышла на ўсходна-славянскія землі нормандзкая вольніца, не славянскага, а нормандзка-нямецкага племя. Гэта нормандзка-нямецкая вольніца дала рожназоўным і рожнамоўным усходна-славянскім плямёнам пануючую дынастыю, эвэнтуальна—вярхі грамадзянства, якія растварыліся ў славянскім моры, і, ўрэшце, даўным даўно зыйшлі з гістарычнай арэны. Яшчэ большую безкрытычнасьць выказуе гісторапісь трактуючы гензу і істоту літоўскага пэрыоду нашай мінуўшчыны. Тут ужо такое награмаджаньне ачавістых нісянецці, што найсьвятлейшыя галовы, замест разсьвятляць пануючую цемру, самі пагразаюць у бязвыхадных лабірынтах супярэчнасьцяў, награмаджаючы новыя загаты на шляху надыходзячай патомнасьці. А літоўскі сфінкс, сваей паражаючай масай гістарычных фактаў і матэр'ялаў, высіцца панад кніжнымі і архіўнымі людзьмі роўна не разгаданы і неясны на балонах кронік XVI як і ў найвыдатнейшых працах гісторыкаў XX стагодзьдзя.

Прычына ў тым, што найранейшыя летапісы дахавалі нам не істотную гісторыю, а палітычныя трактаты ілюстраваныя сякімі-такімі жывымі падзеямі, на апраўданьне гістарычных злачынаў і гвалтаў дакананых над вольнымі народамі, тымі або іншымі, дынастыямі і палітычнымі цэнтрамі. Гісторыя дагэтуль была служкай палітыкі пануючых дынастый і дзяржаў. Довадаў на вышсказанае—мільёны, ня толькі з даўных, але з навейшых і найнавейшых часаў. Прыкладам, у гэтай кнізе, на 636 балоне, мы сумысьля зьмесьцілі адзін з такіх „гістарычных сьведчань", гэта ёсьць мэдаль адбіты царыцай Кацярынай II, на прылучэньне крыўскіх зямель да Масковіі (пераназванай у 1725 годзе ў расійскую імпэрыю). На мэдалі красуецца вымоўны і самапэўны надпіс: „оттор-

женная возвратихъ“ (адарванае вярнула). Крытычнае вока, спазірнуўшы на гэты мэдаль, загарыцца гневам абураньня: бо як сьвет-сьветам ніколі крыўскія землі перадтым не належалі да Масковіі! А знача, надпіс аб звароце адарванага—няпраўда! Але, на апраўданьне няпраўды, імпэрыя паклікала сваю крывапрасяжную сьведку, „гісторыю“ пануючай нацыі, і, яна, не заікнуўшыся і не пачырванеўшы, прысьведчыла цэлай масай дынастычных басень і фальшаваных дакумантаў, праўдзівасьць сказанага; і далей прысьвядчала, на працягу цэлага сталецьця, несчысьленым лікам вусн і друкаў!

Ясна, што пры гэтакай гісторапісі, ў якіх сто гадоў, паняволеныя народы аказваліся ня толькі, саўсім праўна, абяздраўленымі, але і пазбаўленымі сваей слаўнай мінуўшчыны. Шчасьлівыя пераможцы, лепшыя балоны гісторыі паняволенага брата, ўпісывалі ў сваю гісторыю. І, колішні патульны сусед ці нават васал, прыбраўшыся ў зьдзерты, с плеч заняпаўшага, ґурпур, станавіўся „пурпурародным“...

Гэтак, нядаўна яшчэ, мы чыталі ў школьных падручніках, празначаных для адукацыі моладзі 120 мільённай Расіі: „Беларусы самая малодшая галіна рускага народу“. „Беларусы загнаныя і панурыя („унылыя“), малаздольныя да культурнага разьвіцьця, але добрыя зямлякопы“. „Беларусы пісьменнасьці сваей ня вытварылі“ і г. д. і г. п.

І родзіцца пытаньне, што гэта: нямаючая граніц безкрытычнасьць, ці несумленнасьць, якая, дзеля сваіх мэт, не перабірае ў спосабах?

Але, ўзгадаванае на падобных „праўдах“, шырокае грамадзянства дагэтуль шчыра пераконана, што: „беларусы пісьменнасьці ня вытварылі“.

Тымчасам, каб не наша старая пісьменнасьць, не было-бы ў Расіі Пушкіна. На нашых помніках разьвівалася і шліфавалася цяперашняя расійская мова, так не падобная да мовы колішняй Масковіі. На нашай мове ўзрастала адраджэньне польшчыны у XV і XVI ст. і сыцілася ў часе заняпаду яе дзяржаўнасьці ў XIX ст.

Дзеля гэтага патрэбен грунтоўны крытчыны перагляд усей гістарычнай пісьменнасьці, створанай нашымі пераможцамі аб нас.

Мэта гэтай кнігі, стяўленая аўторам пры яе апрацаваньні, была паказаць што пісьменнасьць крыўскага народу па сваей даўнасьці сягае X стагодзьдзя, а па багацтву помнікаў займае першае мейсца на ўсходнай славяншчыне. І, дзеля гэтага, ня толькі заслуговуе, але абавязуе сваім зьместам, быць ўведзенай ў курс кождай катэдры славянаведаньня, асабліва ў курс кождай катэдры ўсходна-славянскага моваведаньня і пісьменнасьці.

Праца гэта ёсьць першая спроба даць, памагчымасьці, ўсестароннае паняцьце аб стара-крыўскай (беларускай) пісьменнасьці, само сабой не прэтэндуючы на поўнае пералічэньне ўсіх захаваўшыхся да нашых часаў пісаных крыўскай мовай помнікаў. Бо на поўнае пералічэньне трэ было-бы многа томаў падобных кніг, як гэта. Прыкладам, дакуманты Мэтрыкі в. кн. Літоўскага сабраны ў 556 тоўстых томах; Віленскі Цэнтральны Архіў зьмяшчае аж некалькі мільёнаў дакумантаў. Акром гэтага вялікі лік дакумантаў маецца Вітабскім Цэнтральным Архіве, ў старасховах Менска, Смаленска, Ноўгарад-

Северска і па ўсіх музэях і архівах Расіі, пачынаючы ад Масквы і Петраграда і канчаючы Кіявам, Адэсай, Казаньню, Тыфлісам і нават Томскам. Ня менш багаты старакрыўскімі пісанымі помнікамі музэі і архівы Польшчы—Кракаў, Люблін, Варшава, Познань і інш. У дадатку дагэтуль маецца многа дакумантаў і рукапісных кніг у прыватных сабраньнях і ў фамільных архівах тутэйшых памешчыкаў, а нават у дробнай шляхты ды ў сельскага духавенства.

Пералічаючы помнікі нашай пісьменнасьці мы ўзялі пад увагу толькі абшар заключаны паміж Нёманам, Вяльёй а Дняпром; Прыпяцьцю а Дзьвінай, але ў нашу пісьменнасьць трэба ўключыць яшчэ Северскія землі*) і землі Пскова і Вялікага Ноўгарада**). Адзінства культуры ў пісаных помніках, у малярстве, будаўніцтве і грамадзкім укладзе, праяўляецца на ўсім абшары ад Навагорадка Наднёманскага да Навагорадка Северскага і Вялікага Ноўгараду „тудѣ бо живяху Крывічы", як выражаецца летапісец.

Многія моманты ў разьвіцьці нашай пісьменнасьці прыходзілася трактаваць пабежна, або і саўсім абыходзіць, с тэй прычыны, што распрацоўка нашай пісьменнасьці была роблена дагэтуль толькі чужымі і пад саўсім няпраўдным вуглом погляду: крыўская пісьменнасьць трактавалася не як праява самабытнай культуры Крывічоў, а як галіна, уроенай расійскім цэнтралізмам, агульна-расійскай культуры. Дзеля гэтага перад гісторыкам крыўскай пісьменнасьці, які ня хоча паўтараць старыя спамылкі, на кождым кроку паўстаюць труднасьці, каторыя можна будзе асіліць толькі з разьвіцьцем нашай уласнай гісторапісі. Зрэшта, у нас дахавалася аграмадная маса юрыдычных дакумантаў, але, у параўнаньні, толькі нязначныя абломкі кніжнага багацьця; бо рукапісы безжаласна нішчаны былі ў часе нашых рэлігійных закалотаў, якія панавалі ад XVI ст. немаль да нашых часаў, а такжа ў часе частых воен і рэволюцій. Дзякуючы гэтаму, з ланцуга бурных і багатых у пісьменныя помнікі пэрыёдаў, —як пашырэньне каталіцтва пры першых Ягеллонах, пашырэньне сэкты жыдоўствуючых, і рэформацкі рух,—дахаваліся нязначныя абрыўкі, якія можна рэстутаваць толькі пры натужнай працы сталых краёвых вучоных устаноў, якіх не было дагэтуль.

Пры апрацаваньні гэтай кнігі перад аўторам паўставала пытаньне як угрупаваць сабраны матэр'ял. Калі агранічыцца абшарам быўшага в. кн. Літоўскага, то намячаюцца выразна зарысаваныя тры пэрыёды: 1. Крыўска-славянскі да XIII ст., 2. Літоўскі да палавіны XVII ст., і 3. Літоўска-рускі. Але прыймаючы пад увагу, што адкіданьне пісьменнасьці Ноўгарадзка-Пскоўскай і Ноўгарад-Северскай не вытрымлівае крытыкі,—а да згрупаваньня яе меліся

*) „Крывічы... былі прабацькамі цяперашніх Беларусаў. ...У найбліжэйшым з імі сваяцтве знаходзіліся Дрыгвічы, якія жылі паміж Прыпяцьцю і Бярэзінай. Гэта была асобная галіна тыхжа Крывічоў, азначанная асобным імем у залежнасьці ад прыроднай уласьцівасьці занятай імі тэрыторыі („дрыгва"—балота, „трясіна"). ...У цесным сваяцтве с Крывічамі былі Радзімічы, якія жылі на Сожы" (Проф. М. Н. Любавскій: „Основные моменты исторіи Бѣлоруссіи". Москва, 1918 г.).

**) Крывічы з сыстэмы Днипра выйшлі на поўнач, на начы рэк Волгі і Зах. Дзьвіны, а іх галіна Словене, занялі сыстэму возера Ільменя" (Акадэмік С. Ф. Платоновъ „Учебникъ русской исторіи". Прага 1924).

не дапераможаньня труднасьці, бо кнігу здарылася апрацовываць на эміграцыі, ня толькі ня маючы доступу да арыгінальных помнікаў, але нават пры вялікай нястачы найбольш патрэбнай літэратуры,—прышлося выбраць хроналёгічны парадак, як найлягчэйшы да ор'ентаваньнеся ў забытках нашай старой пісьменнасьці і агранічыцца пісьменнасьцю толькі аднэй галіны крыўскага племя. Поўная гісторыя павінна ўключаць помнікі Пскова, Ноўгарада і Северскай зямлі.

Пасколькі пазвалялі маючыяся пад рукамі матэр'ялы, аўтор стараўся даць хоць кароценькія выпіскі з кніг і дакумантаў ня толькі для ілюстрацыі мовы помніка, але і ў надзеі, што гэткім спосабам удасцца зьвярнуць увагу чытаючага грамадзянства на неадзоўную патрэбу ўвясьці ў курс нашых сярэдніх школ, выклад старакрыўскай пісьменнасьці і граматыкі, каб зьвязаць новачасную пісьменнасьць са старымі традыціямі і здабыткамі ў дзедзіне духовасьці.

Для заакцэнтаваньня таго, што старая наша пісьменнасьць і сучасная народная мова адна з другой выплываюць, дадзены ў канцы кнігі слоўнік помнікаў старакрыўскай мовы, бо яшчэ нядаўна можна было сустрэць у друку ,,вучоныя“ трактаты аб тым, што мова актаў в. кн. Літоўскага і народная беларуская (крыўская) мова, зьяўляюцца двумя рожнымі мовамі. Закід саўсім няслушны, бо наша старая мова, да мовы народнай займае палажэньне гістарычнага дыялекту, падобна як у расійцаў мова часаў Пятра і Кацярыны да сучаснай літэратурнай расійскай мовы, ці як у палякаў мова Рэя, да мовы Словацкага і Высьпянскага, або, адна і другая, ў параўнаньні з іх народнымі дыялектамі. Рожніца атрымаецца ў нас нават меншая, чым, у прыведзеных здарэньнях, у расійцаў і палякаў.

У надзеі, што кніга мая, паміма многіх яе недастаткаў, прынясе карысьць нашай адраджаючайся пісьменнасьці, хоць-бы пабуджаючы другіх да працавітых досьледаў на полі нашай мінуўшчыны, а асабліва пісьменнасьці, працу гэту добрароднай зычлівасьці чытачоў паручаю.

Аўтор.



Застаўка з рукапісу XI ст.

# ЎСТУП.

> ... „а Словѣни (маюць княжэньне) свое Новѣгородѣ, а другое на Полотѣ, иже Полочане, отъ нихъ же Кривичи иже сѣдять на верхъ Волги, и на верхъ Днѣпра, ихже град Смоленскъ, [град сей отъ нихъ создань (Пераясл. сп.)]: тудѣ бо сѣдять Кривичи; таже Сѣверъ отъ нихъ“.
>
> ... „а по Двинѣ (шляхъ) въ Варяги, а изъ Варягь до Рима, отъ Рима же и до племени Хамова“.
>
> Пачатны Летапіс, сьпіскі: Лаўрэнціеўскі, Іпаціеўскі, Ніконаўскі, Васкрэсенскі, Тверскі, Софійскі I, Ноўгародзкі і Львоўскі.

**Славяне і племя Крывічоў.** Першапачатковая калыбка славянаў, адкуль яны разыходзіліся ў розныя староны, знаходзілася паміж сярэднім Дняпром, Прыпяцьцю і Карпацкімі горамі (Niderle „Slovanske starožytnosti“, 1902). Валва перасяленьня народаў адрывала часьці славянскага племя і адціскала іх на Захад і Поўдзень. Гэткім чынам, з адзінага славянскага племя, з бегам часу, утварыліся тры групы Славянаў: заходная, (Палякі, Кашубы, Лужычане, Чэхі і Славакі), палуднёвая (Баўгары, Сэрбы, Харваты, Словінцы), ўсходная (Крывічы і Паляне) з іх аднаплемнымі галінамі.

Крывічы, самае большае і сільнейшае усходна-славянскае племя, яшчэ ў дагістарычныя часы аб'ядналіся ў дзяржаўна-палітычную адзінку з галоўным цэнтрам сьпярша ў Тураве, а пазьней у Смаленску, ў землях якога зыходзяцца вярхі чатырох вялікшых рэк скіраваных на ўсход, поўдзень, захад і поўнач (Волгі, Дняпра, Дзьвіны і Волхава). Па гэтых рэках, ад вярхоў у нізы, і ішло разсяленьне Крывічоў. Найдаўнейшай калёніей Крывічоў быў Ізборск, другой зчароду крыўскай калёніяй быў Полацак, які ляжыць на сярэдняй Дзьвіне і трэйцяй—гор. Дрогічын у вярхох Прыпяці, над Бугам.

Калі крыўскія выселкі на поўначы і захадзе абмацаваліся і размножыліся,— яны выдзеліліся ў асобныя, провінціянальныя цэнтры*).

К IX стагодзьдзю па Нар. Хр. Крывічы займалі: ўсё парэчча Прыпяці з галоўнымі гарадамі Туравам і Дрогічынам, верхняе і сярэдняе парэчча Дзьвіны з гарадамі Усьвятам і Полацкам, вярхоўкі Волгі і абшар ад верху да сярэдняй часьці Дняпра з гор. Смаленскам і Любечам, парэччы—Волхава і Вялікай з гарадамі Ноўгарадам і Псковам.

Займаючы такі грамадны абшар, Крывічы сяліліся і на балотах (дрыгве), і ў лясох (дрэвах), і на горках, дзе яны былі, згэтуль па мейсцу разсяленьня свайго Крывічы, якія займалі дрыгвістае Палесьсе, называны былі Дрыгвічамі, каторыя жылі ў лясох, па Бярэзіне і Дняпру, называліся Дрэўлянамі, а Смаленцы, Палачане і Ноўгародцы атрымалі назовы ад галоўных гарадоў сваіх. Акром гэтага, адна галіна к р ы ў с к а г а племя была саргалізавана ў дзяржаву славянскімі прыходцамі з захаду, з Балтыцкага паморья, якія знаходзіліся пад кіравецтвам двох старшын сваіх—Радзіма і Вяткі.

Зтуль, пазьней гэта галіна слыла пад назовам Радзімічоў і Вяцьчоў. Што гэта было адзінае племя, раскінутае на вялікіх адлегласьцях, найлепш сьведчыць аднолькавасць мовы, якая і сягоньня чуваць на гэтых абшарах, акром Ноўгарада, Пскова і Любеча, якія, падпаўшы пад чужыя ўплывы, ў значнай меры зацерлі ў сабе крыўскія азнакі.

---

*) „У даўнасьці Беларусы, засяляючыя цяпер большую часьць Паўночна-Заходнага краю Расіі, называліся Крывічамі.

„Славяна-рускае племя Крывічоў было вельмі многачысьленным і раскінута на аграмадным абшары. Палудневае узьбярэжжа зямлі крывічоў ішло па водаразьдзелах паміж Прыпяцьцю, Неманам і Бярэзінай на правай старане Дняпра, і валокамі паміж Дняпром і Сожам, і верхнімі цячэньнямі паўночных прытокаў Дзясны—на левай старане Дняпра. На ўсход зямля Крывічоў пашыралася да Радзімічоў, якія жылі па рацэ Сожу, і Северан, якія жылі па Дзясьне і Семі (Сейму) і Суле; на паўночна-ўсход трапілася у лясістым і многаводным верхнім Паволжы; на поўнач даходзіла да разсяленьню Ноўгародзкіх славянаў. На паўночна-захад Крыўскія пасяленьні ішлі па цячэньню Зах. Дзьвіны да прытнага закрута яе на поўнач ад Дзінабурга (па стараму-Неўгіна), а адтуль на поўдзень ўздоўж літоўскіх пасяленьняў, перамешваючыся з імі ў аколіцах Вялы і Немана да самага водаразьдзелу гэтай апошнай ракі з поласьцю Прыпяці. Разкіданае на абшырным прасторы, племя Крывічоў рана распалася на асобныя землі, галоўнымі цэнтрамі якіх былі Ізборск, Полацак і Смаленск". (П. Н. Батюшковъ „Б ѣ л о р у с с і я и Л и т в а. И с т о р и ч е с к і я с у д ь б ы С ѣ в е р о - З а п а д н а г о к р а я". С в ы с о ч а й ш а г о с о и з в о л е н і я и з д а н о п р и М и н и с т е р с т в ѣ В н у т р е н н и х ъ Д ѣ л ъ. С.П.Б. 1890 г.).

„Паводле сьведчаньня летапісца (Лет. па Лавр. сп.) Крывічы палілі сваіх нябожчыкаў, а прысок ссыпалі ў урны. Гэткім характарам адрожніваюцца і курганы ў сялібах Крывічоў: у іх знаходзяцца сьляды вогнішчаў і урны з перапаленымі касьцямі. Апрыч таго, курганы часта абводзяцца канаўкамі і абкладаюцца каменьнямі; камяні часам бываюць і ў сярэдзіне курганаў. (Падробнасьці у Голубовскаго „Обозрѣніе нѣкоторыхъ губерній и областей Россіи въ археолог. отношеніи", 20—32 (вып. II,) 1—10 (вып. III.). Пры гэтым больш даўныя курганы, агульныя Палачанам, Смаленцам, і Пскоўцам, маюць яшчэ адну агульную азнаку: яны маюць выгляд валаў да дзесяці сажняў ў доўжкі (Спицынъ „Обозр. нѣк. губ. и обл. Россіи в архел. отн.). Маркуючы з гэтай азнакі мы можам дагадывацца, дзе спярша аселі Крывічы. Гэткія курганы ведамы каля Пскова і Апочкі, каля Себяжа, Сенны і у Барысаўскім павеце, ў Смаленскім, Гарэцкім і Духаўшчынскім, а также ў Бельскім, ўрэшце Асташаўскім пав. (в. Ізвелава).

„Іншыя крывіцкія курганы маюць звычайную паўклубавую форму. Яны сустрачаюцца ў па-

**Крывічы, Готы і Русь.** Усе немаль, істнуючыя дацяпер, вялікія эўропэйскія дзяржавы былі сарганізаваны Готамі—племем, з якога паўстаў нямецкі народ. Разсяляючыся з І-га стагодзьдзя па Нараджэньню Хрыста да IV—V стагодзьдзя, яны ў гэтым часе заснавалі некалькі дзяржаў: Остгоцкае ў Італіі, Франкскае ў межах цяперашняй Францыі, Англа-Саксонскае ў цяперашняй Англіі, а каля IX ст. з Франкскай дзяржавы выдзялілася дзяржава Нямецкая.

Крывічы з Готамі сакнуліся не пазьней VIII стагодзьзя, як аб гэтым сьведчаць знаходкі манэт па Дзьвіне і Волзе, а такжа па Нёману і Прыпяці. У гэтым часе ў нізах Волгі, каля цяперашняй Астрахані, было багатае і сільнае Баўгарскае царства, а ў парэччы Дону—Хазарскае. Для абмену тавараў з гэтымі царствамі і праязджалі Варагі ў нашу зямлю ў VIII—IX стагодзьдзях. Торговы шлях з Захаду на Усход—па Дзьвіне і Волзе—належыць да найстарэйшых і адносіцца да Гоцкіх часаў **).

Гэтыя гоцкія купцы, побач з таргоўляй, як ўсе тагочасныя купцы, займаліся па дарозе такжа грабежніцтвам, а ў асобных здарэньнях, часам, падбівалі некаторыя плямёны, якія трапляліся ім па дарозе, і засновывалі на іх землях дзяржавы. Такое панаваньне Готаў у нас, паводле ўсякай праўдападобіцы, істнавала да IX ст., але на пачатку IX ст., пры невядомых нам варунках,

---

ветах Лепэльскім, Сенінскім, Себежскім, каля Браслава ў Новаалександраўскім павеце і часьцю ў суседніх мясцох Смаленскай губ. (у Смал. Духаўшч. Парэц. і Бельск. пав.), гэтай-жа адмены кўрганы трапляюцца у Бранскім пав. Арлоўск. губ., на верхняй Дзясьне. Крыўскіе курганы XI ст., больш познага тыпу, захоплюють яшчэ большы абшар: яны даходзяць да Ржэва і Зубцова на Волзе, да вярхоў Масквы-ракі, Угры і Жыздры, праз Бранскі павет ідуць да верху Дзясны і Сожу; далей граніца іх ідзе на Оршу, Барысаў, Лагойск; на заходзе і поўначы курганы гэтага тыпу сустрачаюцца у Рэжыцкім, Себежскім і Невельскім павеце (Зраўняй: Даниловичъ. „Очеркъ Исторіи Полоцкой земли до конца XIV в. Кіевъ 1896 г.). Калі ўсе сказанае перанесем на карту, то акажацца, што ўся паўночная і паўночна-усходная Беларусь была заселена Крывічамі, і цікаўна, што старасьвецкія межы гэтага племя, ў агульным, акром часьцю поўначы, зыходзяцца з цяперашняй этнографічнай мяжой Беларусаў.

„Не пярэчаць азначаным межам і данныя номэнклятурныя. Маркуючы па іх, асабліва сьцежучы сялібы „Крывічы", мы бачым, што каленіі Крывічоў далёка пашыраліся на поўдзень: гэтак ведамы сялібы „Крывічы" у Лідзкім павеце, Новагрудзкім, Слонімскім і Рэчыцкім". (Пасяленьні Крывічоў у Лідзкім павеце пацьвярждаюць і данныя археолёгіі гл. Wandalin Szukiewicz. „Poszukiwania archeologiczne w pow. Lidzkim gub. Wil. Krakôw 1914.").

Далей праф. Карскі кажа, што калі Ноўгородскія славяне былі Крывічы, як гэта цьвердзіць акадэмік Шахматов (факты сабраны ў яго працы „Къ вопросу объ образованіи Русск. Народа), то яны раней другіх усходна-славянскіх плямен, па Дняпру і Бярэзіне рушылі на поўнач да возера Ільменя.

„За імі пайшлі Крывічы Полацкія і Смаленскія. Можна меркаваць, што яны жылі пры сутоках р. Прыпяці ў Дняпро. Гэтым можна вытлумачыць і той мяшаны тып курганаў, які адзначыў Завітневіч (Вторая археолог. экскурсія въ Припетск. Полѣсье), і сустрачанае тут мясцовае найменьне ў Рэчыцкім павеце „Крывічы"... „Далейшы колёнізацыйны рух Крывічоў быў гэткі: з Дняпра яны ішлі на парэччы Бярэзіны, а далей на Дзьвіну — да Палаты — Палачане; адгэтуль да вярхоўяў Дзьвіны, на верхні Днепр—Смаленск—і ў парэчча Волгі (Голубоўскі, 46—49). Па Бярэзіне, Веліі і Дзьвіне Крывічам прышлося сакнуцца з Літвінамі і Латышамі, якія, іх названьне — Kreeves, пашырылі на ўсіх расійцаў"... (Карскі „Бѣлоруссы" Вільня 1904).

**) Проф. І. М. Кулишер: История русской торговли до XIX в. Петербург, 1923.

Готы былі прагнаны з краю. Ці ўсе—нет ведама. Здаецца, што ў парэччы Дзьвіны і Нёмана асталіся князі старага паходжаньня. Выгнаўшы ад сябе чужую уладу, славяне аднак няздолелі сарганізавацца, бо рожныя розбойніча-купецкія шайкі не давалі ім спакою. Дзеля гэтага Ноўгародзкія і Пскоўскія Крывічы, на якіх найбольш націскалі выхадцы з поўначы, пастанавілі прыняць ізноў адну з тэкіх вайскова-купецкіх шаек, для абароны ад іхніх набратымаў. Зьвярнуліся яны з гэтым да нормандзкага, ці як у нас іх называлі, варажскага, або русскага*) князька. Гэта быў Рурык. Рурык згодзіўся, прыняць на сябе абарону і прыйшоў да Ноўгародцаў з дружынай. Але Варагам, якія прывыклі да разбойнага разгулу, не спадабалася жыцьцё ў народапраўным Ноўгарадзе, дзе ўсімі справамі кіравала веча. І вось, часьць дружыны, пад кіравецтвам аднаго са старшых дружыннікаў Алега (Гельга), аддзяліліся ад Рурыка і пайшла на поўдзень, шукаючы сабе больш свабоднага прыпынку. Смаленска асьцярожны Алег не чапіў, бо горад быў добра баронены і людны: „зане бѣ градъ великъ и многолюденъ"... але спусьціўшыся ўніз Дняпром, убачыў слаба боронены гарадок Кіяў; Алег тут спыніўся, пабіў мясцовых князёў і сам апавесьціў сябе князям над славянскім, не надта сільным, як з гэтага відаць, племем Палянаў.

Весьць аб заснаваньні на ўсходзе вольнай нямецкай дзяржавы хутка абляцела землі паўночна-нямецкіх плямён і ўсякая тамэчная вольніца пачала сабірацца каля новага князя. Алег, пасьля першай удачы, задумаў яшчэ большую справу: напасьці на багатую сталіцу Грэціі Візанцію. Набраўшы даволі людзей ён рушыў ў паход. Паход удаўся. Фантастычныя басьні аб гэтым паходзе і карысьцях з яго, ізноў зварухнулі Норманаў і адтуль хлынула новая хваля вольніцы. Паходы на Візанцію не заўсёды бывалі удачны, асабліва пры наступніках Алега, але заваяваньне усходна-славянскіх плямён, давала няўпынную зручнасьць да грабяжа і да выбіраньня з паняволеных даніны. Гэта разьвіло такую энэргію ў Варагаў-Русі, што, да палавіны X стагодзьдзя, яны запанавалі ад Ноўгарада да Карпатаў і ад Дрогічына да Дону. Усе гэты заваяваньні рабіліся ад імені Русі і кождую заваяваную зямлю, Варагі лічылі сваей уласнасьцю, зямлёй Русаў, якая ставалася такой фактам заваяваньня яе **).

---

*) Копэнгагенскі прафэсар Wilh. Thoms n у кнізе Der Ursprung des Russischen Staates (1879), кажа: што фінскае слова Ruotsi, якім Фіны называлі Варагаў, ёсьць перарэбленае старанямецкае слова Rothsmenn, знача вясьляр, мараплаўшчык, марскі чалавек. Гэты прыметнік Ротс, Рос, Рус, стаўся найменьнем усіх варажскіх высяленцаў на ўсходна-славянскія землі, пазьней, ў X—XI ст. —найменьнем кіяўскага княства (не абыймаючы крыўскіх і ноўгародзкіх зямель), далей,—назовай веры усходнага абрадку, а ўрэшце цэлага конглёмэрату ўсх. сл. плямён.

**) Памершый у часе усясьветный вайны сабра Расійскай Акадэміі Навук, праф. Шахматоў апублікаваў ў 1914 годзе праз Расійскую Акадэмію Навук сваю працу: „Сказаніе о призваніи Варяговъ", у якой на 56 балонцы аб назове „Русь" кажа:

„Яшчэ у XVIII ст. Туннман зьвязаў гэту назову з фінскім найменьнем для Швэціі Ruotsi. Найменьне гэтае можна прызнаць агульным для усіх заходна-фінскіхъ дыялектаў: зраўняй Эстонск. —Rôtsi, Ліўскае—Ruotsi.

„Швэдаў Фіны называюць Ruotsalainen, Эстонцы—Rôtslane, Водь—Rôtslainê, Лівы—Ruotsli.

„Форма „Русь", як заўважыў і Томсэн, так адносіцца да Ruotsi, як старасьвецкае Сумь

Улада Русаў у Ноўгарадзе была агранічанай, бо яны прыйшлі туды па угодзе, але ў землях заваяваных Нарманы-Русы устанаўлялі ўладу абсолютыстычную: дзе зьявіліся рускія князі, там моўклі славянскія вечы. Зрэшта Русы даражылі Ноўгарадам, як першым этапам, брамай, у славянскія землі, і, дзеля гэтага, стараліся ладзіць з Ноўгародцамі. Калі быў заваяваны Кіяў, паміж Кіявам,—палуднёва-варажскай дзяржавай—і Ноўгарадам,—паўночна-варажскай дзяржавай,—лягла зямля Смаленская, якая іх раздзяляла. Дзеля гэтага другой Крыўскай зямлёй, каторая была заваявана Русамі, сталася зямля Смаленская. Урэшце, ў канцы X ст. (970—980), былі падбіты землі Тураўская і Полацкая, пры чым у Полацку Русы вырэзалі ўсю княжую сямь'ю: князя Рагвалода і яго двох сынаў, а дачку Рогвалодаву—Рагнеду, кн. Валадзімер узяў сабе за жонку.

Гэткім чынам, у X ст. на крыўскіх, і, наагул, усходна-славянскіх землях, зьявіўся новы гістарычны чыннік—нармандзкае племя Русь.

**Характэрыстыка племя Русь.** У старажытнасьці Скандынавія была падзелена на множества дробных зямель, з якіх кождая мела свайго князя (конунга). Па сьмерці конунга ўлада перахадзіла да старшага брата, а малодшыя даставалі кавалак зямлі на ленных правох. Гэтыя малодшыя князі, будучы ў большасьці нездаволенымі, набіралі дружыну з рожнага галцяйства і

---

(якое сустрачаецца ў летапісных артыкулах XIII ст., у Сынод. і др. сьпісках Ноўгародзк. 1-й)—да фінскага Suomi.

„Мне здаецца, што элемэнтарныя мэтодолёгічныя мяркаваньні не пазваляюць адлучыць сучаснае фінскае Ruotsi ад імя „Русь“.

„З аднэй стараны ясна, што Варагаў, г. зн., Скандынаўцаў запраўды на ўсходзе называлі „Русь“, Rôs... Зраўняй зьменку Бэрцінскіх анналаў аб тым, што людзі, якія зьявіліся ў Канстантынопалі ў 839 годзе і якія самі сябе называлі Ros, аказаліся, пасьля патрэбных выведаў, швэдзкага паходжаньня (eos gentis esse Sueonum); пісьменнік X ст. Ліудпранд двойчы атожсамлюе Русаў (Rusii) з Нарманамі (Nordmanni); Канстантын Багранародны процістаўляе Русі (Ros) славянаў (Крывічоў, Лучанаў і др.), а падаючы назовы Дняпроўскіх парогаў, пад rosioli разумее стара-скандынаўскую мову, што відаць і з самых гэтых назоў; арабскія пісьменнікі, прыкл. Ібн-Даст, так-жа процістаўляюць Русь (Rûs) Славянам.

З другой стараны бачым, што краіна Варагаў, г. зн. Швэдія, называецца „Русь“ Фінамі (Ruotsi) і дагэтуль.

„Дзеля гэтага, ня можа быць, як здаецца, ніякага сумневу, што да тожсамнасьці назову „Русь“, дадзенага Варагамі Славянам, з назовам Ruotsi, які знача ў Фінаў краіну гэтых самых Варагаў.

„Нас можа не цікавіць этымолёгія імя „Русь“; этымолёгія гэтага імя, якой-бы яна ня была, ня можа нарушыць вываду, што Фіны і Славяне назвалі Скандынаўцаў „Русьсю“.

„Пакажу на праўдападобнасьць запазычаньня акурат ад Фінаў гэтага імя для азначаньня Варагаў. Фіны былі тым пасярэднім цэнтрам, праз які Варагі пранікалі да Славянаў. Ўспомнім, што берагі Балтыцкага-Варажскага мора былі заселены фінскімі пляменамі; па Няве сядзела Водь, якая займала і палудневы берег фінскай затокі, а на усьцях Дзьвіны і па ўзьбярэжжу Рыжскай затокі сядзелі Зэмігала, Летгала і Лівы. Ўспомнім, што нават рачны шлях, з Варагаў у Грэкі ішоў на поўначы праз фінскія краіны, толькі часьцю заселеныя Славянамі, якія урэзаліся клінам сьпярша, відаць, вельмі вузкім, ў суцэльнае фінскае жыхарства, якое цягнулася ад берагоў Балтыцкага мора да Волгі і далей да ўсходу. Славяне запазычалі у Фінаў імя „Русь“ для азначаньня Варагаў так сама, як яны запазычылі ў іх-жа назовы рэк і вазераў, засяляючы сабой пракавечныя фінскія землі. Гэтае імя „Русь“ для азначаньня Варагаў перададзена Словенамі і Крывічамі також і палудневым Славянскім пляменам, перададзена так, як передаюцца наагул запазычаныя словы“.

ехалі з ей у сьвет шукаць шчасьця: або ў адкрытае мора грабіць купцоў і падарожных, або нападалі на ўзморныя гарады і забіраліся па рэках глыбока ў чужыя краі, падбіваючы тамтэйшыя плямёны.

Адны з гэткіх конунгаў, выбраўшы з падбітых даніну і прадаўшы набраных нявольнікаў, варочаліся назад да сябе, другія, наадварот, стараліся ў новападбітым краю умацавацца назаўсёды. Да апошняга тыпу належалі скандынаўскія дружыны, якія звалі сябе Русьсю.

У славянскіх крыніцах аб племю Русь гаворыцца мала, затое аб гэтым племі больш падробна знаходзім у арабскіх пісьменнікаў. Усе гэтыя пісьменнікі (Ібн-Ростах, Гардізі, Аль-Бэкры і іх пазьнейшыя комэнтатары) аднагалосна сьведчаць, што гэта было купецка-разбойніцкае племя, якое, акром вайны, разбою і прадажы дабытага гэтым промыслам дабра, нічым іншым не займалася. Ібн—Ростах, арабскі пісьменнік IX—X ст. так аб іх апавядае: „Русь мае цара, які называецца Хакан-Русь. Яны робяць напады на Славянаў: пад'язджаюць да іх на чаўнох, выходзяць на бераг і палоняць народ, які адпраўляюць ў Хозэран і да Баўгараў і прадаюць там. Ароміны Русь ня мае і корміцца толькі тым, што дабывае ў зямлі Славянаў. Калі у каго з Русі родзіцца сын, бацька бярэ голы меч, кладзе яго перад дзіцяцяй і кажа: не пакіну табе ў спадку ніякай маемасьці,—будзеш мець толькі тое, што дабудзеш сабе гэтым мячом“.

Характар заваёўнікаў паказуе, якую сыстэму мела заваяваньне славянаў Русамі.

**Крывічы і Грэкі.** Грэцкія купцы вельмі рана зналі шлях па Дняпру і Дзьвіне да берагоў Балтыцкага мора, зкуль яны вывозілі самы дарагі ў тыя часы тавар—бруштын. Грэцкія багатыя выселкі ў Крыме з гарадамі: Херсонэсам, Тэадосіяй, Пантыкапэяй, Фанагорыяй, Танаісам і інш., як паказуюць знаходкі грэцкіх манэт, высылалі сваіх купцоў у крыўскія землі ўжо V—VI ст. па Н. Х.; яны тут мелі, праўдападобна, і свае сталыя тарговыя факторыі. Смаленск, каторы слыў у Грэкаў пад найменьнем Мілітэск, быў у VIII ст. галоўным тарговым цэнтрам для абмену тавараў, якія прыходзілі з Грэціі (па Дняпру), з Баўгарыі, Хазарыі і Пэрсыі (па Волзе і Дону) і са Скандынавіі (па Дзьвіне і Волхаве).

Калі-ж Варагі-Русь заселі на сярэднім Дняпры, ў Кіяве, гэтыя стасункі Крывічоў з Грэкамі перайшлі мала-памалу ў рукі кіяўскіх Варагаў-Русі. А дзеля таго, што падзьвінскія крыўскія землі утрымалі сваю незалежнасьць, то і тарговы шлях „з Вараг у Грэкі“, абмінаючы Дзьвіну, пайшоў з Кіева праз Волхаў і Ноўгарад у Фінскую Затоку.

Гэтыя прадаўныя стасункі крыўскіх зямель з высокакультурнай і хрысьціянскай Грэціяй, мелі вялікі культурны ўплыў на усх. славянаў і спрычыніліся да таго, што хрысьціянства было вельмі рана занесена ў Крыўскія землі. Скандынаўскія сагі апавядаюць аб істнаваньні, яшчэ да афіцыяльнага прыняцьця хрысьціянства, недзе ў аколіцах Полацка, на гарэ, цэркві Пр. Багародзіцы (гл. Сапуновъ „Рѣка Зап. Двина“). Гэткім чынам, да X ст. між Крывічамі, як і між іншымі усходна-славянскімі плямёнамі, хрысьціянства было

ўжо добра ведама, як роўна была ведама і тая высокая культура, якой абладалі Грэкі. Хрысьціянства заходнага абраду прыходзіла праз варажскія княжыя дружыны; гэтак сама ўсходныя, грэцкія ўплывы прыходзілі праз паходы на Грэцію,—і службу варажскіх дружын у Візанціі, а такжа праз нявольнікаў, запраданых у грэцкія землі, якія, тым ці іншым спосабам, вярталіся назад. Такім чынам хрысьціянства здавён ужо пранікала ў жыцьцё Крывічоў і падгатаўляўся грунт да ўсеагульнага прыняцьця хрысьціянства.

**Прыняцьце хрысьціянства.** Як вышэй сказана, хрысьціянства пранікала з Усходу і Захаду. З Захаду, праз Варага-Рускія (нямецкія) дружыны, праз тарговыя стасункі з нямецкімі землямі і праз нямецкіх прапаведнікаў, якія прыходзілі з Варажскімі дружынамі*). З усходу—праз паходы ў Візанцію, праз тыя-ж тарговыя зносіны і, такжа, праз прапаведнікаў з ужо хрысьціянскіх палуднёва-славянскіх зямель—Баўгарыі і Сэрбіі.

І хоць да X ст. хрысьціянства было даволі пашырана, але яно не было выкарыстывана для дзяржаўных мэт. Шчасьлівая мысьль зрабіць хрысьціянства верай дзяржаўнай, была падсунута грэкамі кіяўскаму князю Валадзімеру. У 988—990 гадох Валадзімер прыняў хрысьціянства і, пры помачы грэцкіх сьвятароў, ахрысьціў сваю дружыну і кіяўскіх мяшчанаў. Гэты крок Валадзімера меў страшэнна важныя вынікі: Варагі-Русь ўзялі ў свае рукі ініцыятыву хрышчэньня ўсходных славянаў, або, іначай кажучы, набылі сабе права рабіць падбоі славянскіх плямён пад відам наварачываньня ў хрысьціянства. Больш таго, крыж у руках Варагаў-Русі, акружыў іх аўрэоляй носьбітаў і пашыцеляў вышэйшай культуры. Кіяў стаўся асяродкам распашырэньня хрысьціянства, а кіяўскі князь, нараўне з мітрапалітам-грэкам, стаўся галавой гэтага хрысьціянства, якое на ўсходна-славянскіх абшарах заслыло пад назовам „рускай“ веры.

У справе замацаваньня варажскіх заваяваньняў на ўсходнай славяншчыне прыняцьце хрысьціянства Варагамі-Русьсю адыграла першарадную ролю. Мала таго, гістарычныя даныя даюць факты, якія гавораць аб тым, што Валадзімер імкнуўся пры помачы хрысьціянства зцэнтралізаваць ўсе зробленые Варагамі заваяваньні. Што ня гэтулькі ішло Кіяву аб само хрысьціянства, як аб дзяржаўны цэнтралізм, найлепш сьведчыць гісторыя Турава. Адначасна немаль з прыняцьцем хрысьціянства ад Грэкаў у Кіяве, тураўскі князь, Сьвятаполк, сын кіяўскага Валадзімера, хрысьціў Тураўцаў пры помачы біскупа немца—Рэйнбэрга паводле заходнага абрадку. Дазнаўшы аб гэтым Валадзімер напаў на Тураў, паланіў кн. Сьвятаполка і біскупа Рэйнбэрга, а Тураўцаў перахрысьціў нанова, па грэцкаму абрадку.

Пераход у новую „рускую“ веру, разглядаўся ў тыя часы, як адначасны пераход ў новую нацыянальнасьць „рускую“.**)

*) А. А. Шахматовъ: Замѣтки къ древнѣйшей исторіи русской церковной жизни.—Научн. Истор. Журнал, 1914, № 4, бал. 30—61.

**) „Візантыцкі рэлігійны прынцып у стасунку да нехрысьціянскага сьветагляду і яго выражэньню ў літэратуры азначаўся поўнай непашанай, а ласьне: ён чужога народнага сьветагляду не прызнаваў. Усё, што не ўкладалася ў рамкі хрысьціянства, як яго разумелі візантыйцы, лічылася адрынутым, „бесаўскім“. Усякае выражэньне да-хрысьціянскага вераньня безумоўна асуджа-

Перад хрышчэньнемся Валадзімер адпусьціў жану сваю Рагнеду і сына Ізяслава назад у Крыўскія землі, але да гэтага часу Рагнеда была ўжо хрысьціянкай, дык мабыць, яна вярнуўшыся ў родную зямлю, і апавесьціла тут хрысьціянства афіціяльнай верай, што прыпадае на 990-ты год*). У кождым здарэньні, ў канцы X стагодзьдзя былі заснаваны біскупствы ў Тураве, Полацку, і Смаленску. Заснаваньне гэтых біскупстваў летапісі прыпісуюць Валадзімеру, што аднак жа трэба прыймаць крытычна.

**Славянская граматнасьць.** Разам з хрысьціянствам усходнае Славянства атрымала славянскую граматнасьць. Славянскія літары былі ўложаны, а справядлівей грэцкія літары дапасаваны да славянскай мовы двумя братамі Кірылам і Міфодзіям, якія былі родам з гораду Солуня ў Македоніі. Славянскія літары былі ўстаноўлены каля 862 году. Поўная абэцэда славянская складалася з 38 літар, з якога ліку 24 былі запазычаны з грэцкага. Зложыўшы абэцэду Кірыл прыступіў да перакладу на стара-баўгарскую мову Евангельля і важнейшых царкоўных кніг. Палуднёвыя славяне—Баўгары, Сэрбы і Мараўцы прынялі хрысьціянства на сто з лішнім гадоў раней (Баўгары каля 865 г., Мараўцы і Сэрбы каля 860-х гадоў), дзеля гэтага да часу прыняцьця хрысьціянства у нас, на сэрба-баўгарскай мове была ўжо даволі багатая рэлігійная літэратура. Літэратура гэта складалася з кніг рэлігійна-маральнага зьместу, як прыкладам: кнігі біблійныя, тлумачэньні айцоў цэркві, літургічныя кнігі, духоўныя песьні, жыцьцёпісы сьвятых, апавяданьні аб хрысьціянскіх мучаніках ў зборніках званых „Чэтьі Мінэі“ і „Патэрыконы“, пропаведзі і навукі. Да гэтай духоўнай літэратуры належалі такжа апокрыфічныя творы, г. зн.—апавяданьні аб старазаконных і новазаконных падзеях і асобах, якія дапаўнялі або зьмянялі апавяданьні біблійныя, а такжа—кнігі забабоннага характару: астролёгічныя і варажбіцкія.

---

лася і прасьледавалася, як чартоўскае, у якім-бы стасунку па істоце яно не было да хрысьціянства. Пад гэтае паняцьце — (чартоўскага, процілеглага хрысьціянству) падтасовывалася гэткім чынам і праяўленьне народнасьці", (гэта знача,—мова мясцовых плямен іх звычаі і абычаі). М. Н. Сперанскій „Истор. Древ. Русск. Лит.“ Москва 1920. Кіевскій період; балона 286.) І далей, там-жа, кажа гэты самы аўтор, глыбокі знавец старасл.вянскай пісьменнасьці: „У грэкаў ў стасунку да нас прынцып народнасьці быў падменены прынцыпам праваслаўя“. (Ці праўдзівей, тое і другое—і народнасьць і праваслаўе—падмяняліся імям Русь, якое процістаўлялася паганскаму, „бунтарскаму“, „бесаўскаму“, „сьмярдзячаму“ (зраўняй „смэрд“), якімі прыметамі азначалі Варагі ўсё мясцовае—народнае, ўключаючы сюды і мову, і пісьменнасьць, і звычаі, і абычаі).

*) Аб тым, што у гэты час ня толькі было пашырына у нас хрысьціянства, прынамні у вярхох грамадзянства, але нават іствавалі ужо манастыры, дае права так думаць Пачатны Летапіс, які передае размову Валадзімера з Рагнедай:

„Посла (Валадзімер пасьля хрышчэньня) къ женѣ своей Рогнѣдѣ, глаголя сице: азъ убо нынѣ крещенъ есмь, и пріяхъ вѣру и законъ Христіанскій, подобаше ми едину жену имѣти, юже поялъ въ христіанствѣ. Избери убо собѣ отъ вельможъ моихъ его же хощеши, да счетаю ти ему. Она же отвѣщаша рече ему: или ты единъ хощеши царствіе земное и небесное воспріяти, а мнѣ маловременныхъ сихъ и будущаго дати не хощеши. Ты бо отступи отъ идольскія прелести въ сыновленіе Божіе, азъ же бывъ царицею, не хощю раба быти земному царю, ни князю, но уневѣститися хощю Христови, и въспріиму ангельскій образъ“. („Обзоръ Исторіи Бѣлоруссіи съ древнихъ временъ“ Ѳ. Турчиновича, СПБ., 1857, дапіска 60).

Рагнеда памерла мнішкай у манастыры Заслаўскім пад імем Анастасіі (Карамзін I).

Апокрыфы карысталіся вялікай пачытнасьцю ў Баўгарыі, як сярод сьвецкіх людзей, так і паміж духавенства. Са сьвецкай літэратуры было перакладзіна на баўгара-сэрбскую мову некалькі візантыцкіх кронік, якія апавядалі аб падзеях ад Адама да пазьнейшых часаў. Да гэтых адносяцца кроніка Малалы, Арматола і Мэтафраста. Трэцьці аддзел баўгарскай літэратуры станавілі гістарычныя повесьці: Аб Траянскай вайне, Александрыя, Варлаам і Іоасаф (хрысьціянская перапрацоўка з жыцьцёпісу Будды) і інш.

Вось, з гэтай літэратурай прыходзіла хрысьціянства да нас, разам з баўгара-сэрбскім духавенствам. А дзеля таго, што для новааткрываных царкве́й патрэбны былі кнігі, то адначасова з заснаваньнем біскупстваў, засноўваліся і манастыры, ў якіх вучылі пісаць, чытаць і перапісываць кнігі. Спершапачатку галоўным заданьнем манастыроў было спасобленьне кандыдатаў да духоўнага стану і перапіска літургічных і іншых кніг для засмакаваўшых ў чытаньні вярхоў грамадзянства. Такім парадкам, ўжо ў першым стагодзьдзі пасьля прыняцьця хрысьціянства, у нас свае мяйсцовыя перапісчыкі абслугоўвалі кнігамі цэркві. Пры манастырох, як цэнтрах асьветы і размножаньня кніг, сабіралі кнігі і складалі бібліатэкі. Чым багацейшы быў кнігамі манастыр, тым большая была яго слава.

Кнігі стараліся перапісываць літара ў літару, хоць не глядзя на тое, там-сям пракрадаліся „спамылкі" сьпярша толькі ў правопісі, а пазьней памалу пачалі ўхадзіць і паасобныя мяйсцовыя словы. Гэтая царкоўна-баўгаршчына, адзіная для ўсяго славянства, паслужыла вялікай зьбліжаючай сілай для паасобных мяйсцова-племянных гутарак. Дзеля гэтага ў пэрыёдзе між X—XIII ст. ўсе кнігі, пісаныя на абшарах Усходнай-Славяншчыны, мала чым ад сябе рожняцца. Мова царквы і граматнасьці была ад Карпат да Ноўгарада адна і тая-ж самая царкоўна-славянская, або „руская". Большыя адступленьні відаць ў мове арыгінальных твораў, пісаных мясцовымі людзьмі, асабліва—ў будове сказаў і часьцю ў слоўніцтве. Значны ухіл да народнай мовы павінен быў быць у лістох і граматах, судзячы паводле прыкладаў, якія дайшлі да нас з пазьнейшых часаў, з XII—XIII ст.

**Перапісчыкі кніг.** Пісалі кнігі тросьцямі (каламамі), якія прывазіліся з Візанціі. Замест цяперашняй паперы ужывалі толькі пэргаміну, які выраблялся з авечай ці іншай якой скуры, так сама прывожанай з Грэціі і Баўгарыі. Ужываньне паперы пачынаецца толькі з другой палавіны, а сьцісьлей—з апошняй чверці XIV стагодзьдзя. Папера гэна называлася „бомбіцына" і была вельмі высокага гатунку.

Пэргамінныя кнігі пісаліся у нас пераважна на добрым пэргаміне. Да пісаньня сьпярша прыгатаўлялі сшыткі, якія лінавалі чым цьвёрдым для азначаньня даўжыні і вышыні пісанага радка, каб ва ўсей кнізе шырыня і даўжыня запісанай балоны была аднастайная. На балонах пакідаліся шырокія чыстыя белягі („полі"). Кнігі ў цэлы аркуш пісалі зазвычай ў дзьве гранкі, а ў поўаркуша ў адну гранку. Пісалі шырока, тоўстымі рысамі, ставілі літары проста, аддзельна адна ад другой. Кождая літара апрацовывалася з поўнай выразістасьцю. Пачатныя літары і агалоўкі малявалі мініяй (чырвонай фарбай)

і аздаблялі рожнымі фігурамі і рысункамі. Перапісчык кнігі мусіў быць адначасна і малярам. Пісалі не на сталах, як мы цяпер робім, а на разгорнутай далоні левай рукі, абапертай локцям аб калена.



Перапісчык. Міньятюра з рукапісу XIII—XIV. ст.

Перапісываньне кніг было справай, вымагаючай ня толькі вялікага умецтва, цярплівасьці, але і зьверхняй помачы. Дзеля гэтага, да пісаньня кніг приступалі з малітвай; канчаючы перапісываць кнігу, выражалі падзяку Богу, азначалі год, месяц і дзень калі было закончана пісаньне. Дзеля гэтага, што перапісываньне кніг было справай вельмі доўгай і цяжкай, то ў некаторых кнігах маецца падробнае абазначаньне часу, калі была напісана тая або другая кніга. На самае скорае напісаньне кнігі зужывалася многа часу. Апостал 1220 году (240 карцін у кнізе) быў напісаны ў два месяцы бяз некалькіх дзён г. зн. па $4^1/_2$ карцін у дзень. Другія кнігі, якія вымагалі больш акуратнага пісьма, пісаліся яшчэ павальней.

Дзеля гэтага ў канцы кнігі зазвычай маюцца прыпіскі, ў якіх выражае перапісчык радасьць з дакончанай працы, прыкладам:

„Як радуецца жаніх, убачыўшы нявесту сваю, так радуецца пісец, бачучы апошнюю балону і як радуецца купец атрыманьню зыску, або корнік—прыбыцьцю ў прыстань, ці падарожнік павароту ў бацькаўшчыну,—так-жа радуецца і перапісчык кнігі дакончаньню працы свае“.

У іншых рукапісах сустрачаюцца і такія прыпіскі, ў якіх перапісчык выказуе надзею на збаўленьне душы ў нагароду за сваю працу, і, ў яшчэ іншых прыпісках, просіць перапісчык выбачаньня за свае мімавольныя спамылкі ды пакорна моліць аб тым, каб чытачы паміналі яго ў сваіх малітвах.

Галоўнымі цэнтрамі перапіскі кніг у Крыўскай зямлі былі: Смаленск, Тураў, Полацак і Навагорадак. З дахаванага да нашых часаў Тураўскага—Евангельля XI ст., перапісыванага, безумоўна, перапісчыкам мясцовага паходжаньня, мы бачым, як у гэтым дзеячасе высока ўжо стаяла тут умецтва перапісываньня кніг.

**Характар і мова пісьменных помнікаў.** Дзякуючы таму, што мова пісьменнасьці у нас прынялася чужая, то ў помніках гэтай старой пісьменнасьці заўважаецца цікавы працэс асыміляціі моваў: з аднэй стараны, пісаныя помнікі прыймаюць пад ўплывам жывой мовы яе фонэтычныя і морфолёгічныя азнакі, а з другой—у жывую мову пад уплывам пісьменнасьці, часьцю сьвядома, а часьцю і несьвядома, пранікаюць формы, а асабліва, словы, якія выражалі новыя паняцьці. Славянская мова з самага пачатку заваявала сабе палажэньне мовы царкоўнай, дзеля гэтага, ня толькі пераклад-

ныя богаслужэбныя і царкоўныя кнігі пісаліся па—славянску, але такжа і ўсе арыгінальныя творы, калі яны гаварылі аб рэчах веры і цэркві. У гэтых творах лічылася чамусьці нягожым ужываць народныя звароты. Затое, калі здаралася пісаць што-колечы, ня маючае стычнасьці з царквой, то ў гэткіх творах (граматах, актах) народная крыўская мова прабіваецца з большай сілай.

Дзеля гэтага, чым помнік бліжэйшы да царквы, тым яго мова бліжэй да славяна-баўгарскай і наадварот: чым помнік далей ад царквы, тым яго мова больш блізка да жывой крыўскай мовы. Калі мы возьмем якое—колечы царкоўнае казаньне, прыкл.,—што-колечы са „Слоў" Кірыла Тураўскага і зраўняем прыкладам, са смаленскай граматай 1229 г., то гэта рожніца ў мове стане нам зусім яснай: „Слова" Кірыла Тураўскага напісана царкоўна-баўгарскай мовай, ў якой дзе-недзе трапляюцца крыўскія словы і асобнасьці, тады як смаленская грамата пісана тагочаснай крыўскай, народнай мовай з налётам славянізмаў. Гэты працэс характэрны ня толькі для нашай першапачатнай пісьменнасьці (да XIV ст.), але і для ўсей пазьнейшай пісьменнасьці (да XVIII ст.). Гэта рыса яшчэ ярчэй выступае ў пазьнейшыя часы, прыкладам, ў „Словах" мітрапаліта Грыгора Цамблака і граматах В. Кн. Вітаўта, ці літоўскіх кроніках.

**Св. пісаньне.** Што тычыцца св. пісаньня, то нашы прадзеды карысталіся доўгі час толькі спадчынай ад Кірыла-Міфодзіеўскіх часаў, перанятай ад Баўгараў. Самаістых перакладаў гэтай пісьменнасьці з гэбрайскіх і грэцкіх арыгіналаў не чуваць да XV ст. Поўны-ж тэкст св. пісаньня зьяўляецца у нас толькі ў пачатках XVI ст. ў перакладзе Фр. Скарыны. Да гэтага часу, калі ў тым кірунку штоколечы і рабілася, то ўсё зводзілася да падноўкі устарэўшых баўгарскіх тэкстаў.

**Богаслужэбная пісьменнасьць.** Аб гэтай пісьменнасьці можна тое-ж самае сказаць, што і вышэй: богаслужэбнікі старэнна перапісываліся, а пазьней перадруковываліся, літара ў літару, з баўгарскіх арыгіналаў, прычым, народнай мовы зусім сьвядома ўнікалі, нават у службах, сваім мясцовым сьвятым. Калі ў гэтыя апошнія службы і пранікаў народны элемэнт, дык толькі дзякуючы няўменьню іх аўтораў выслаўіцца на чыста баўграскай мове.

**Богаслоўска-павучаючая пісьменнасьць.** Богаслоўская пісьменнасьць патрэбна была, каб вытлумачыць нованавернутым асновы хрысьціянскай веры, а полемічная,—каб абараніць верных ад пабочных уплываў. І тая і другая пісьменнасьць была ў нас даволі пашырана, але не арыгінальнымі творамі, а пераважна пераніцаванымі з баўгарскага. Тыя-ж арыгінальныя павучаючыя творы, якія ў нас пісаліся мясцовымі ураджэнцамі, знаходзіліся пад вялікім уплывам перакладаў з грэцкай мовы ў баўгарскай пісьменнасьці і грэцкіх арыгіналаў, так што гэта літэратура не магла мець самаістага разьвіцьця: яна немаль да апошніх часаў была прыпадобленьнем да візантыцкага царкоўнага красамоўства.

**Полемічная пісьменнасьць.** Да XIV ст. полемічная пісьменнасьць была у нас мала пашырана. Тлумачыцца гэта тым, што са старой славянскай верай змагаліся не пераконываньнем а падбоямі, а такжа тым, што паганства

нашых прашчураў ня было арганізаваным і не магло змагацца з хрысьціянствам сыстэматычна, як асобная ад мясцовай княжай ўлады сіла. Калі сустрачаюцца ў нас паасобныя выпады супроць паганства, то толькі ў павучаючай пісьменнасьці, і гэта—не арыгінальныя выступы мясцовага духавенства, а перапрацоўка грэцкіх „слоў", ськіваваных супроць грэцкага паганства. Словы супроць лацінынікаў мелі пад сабой больш рэальны грунт, бо лацінскія ўплывы ішлі з суседняга нямецкага Заходу праз таргоўлю, але паміж нашым духавенствам, відаць, не было людзей з патрэбнай дагматычнай падгатоўкай, бо арыгінальных твораў ня маем. Уся полемічная пісьменнасьць супроць лацінітаў да XIV ст. ёсць перакладной з грэцкай мовы. Арыгінальная і багатая полемічная пісьменнасьць зараджаецца у нас у XVI ст. з прычыны рожнаверства і Уніі.

**Пропаведзь.** У гэтай галіне пісьменнасьці мы маемо з даволі раннага часу некалькіх першай вартасьці аўтораў, даволі назваць імёны такіх выдатных пісьменнікаў, як Кірыл Тураўскі і Клім Смаляціч. Яны далі цэлы рад надзвычайна добрых пробак царкоўнага красамоўства. Разумеецца, што гэта красамоўства знаходзілася пад уплывам візантыцкага, але па выконаньню, па жывому пачуцьцю не уступае лепшым грэцкім тагочасным пісьменнікам. Да гэтых двох нашых царкоўных красамоўцаў некатарыя аўторы далічаюць і Грыгора Цамблака, якога стыль вельмі сходны са стылям Кірыла Тураўскага.

**Помнікі канонічныя.** Гэткімі помнікамі зьяўляюцца „Правило церковное" мітр. Іоана II і „Вопрошанія Кірыка". Першы з іх зьявіўся каля 1089 г. спачатку ў грэцкай мове, ў форме адповедзяў нейкаму чорнарызцу Якаву на яго пытаньні аб непаразуменьнях у царкоўнай практыцы. Іоан II—грэк, ён быў мітрапалітам у Кіяве. Яго „Правило" належала да вельмі пашыраных у нас кніг у першыя векі хрысьціянства.

„Вопросы Кирика" і другіх (у іх ліку—і Кліма, мабыць,—Кліма Смаляціча) зьмяшчаюць у сабе адказы на пытаньні аб непаразуменьнях у царкоўным жыцьці нейкага Кірыка (К и р и к, К и р і а к, К и р и л л,—можа гэта Кірыла Тураўскага?).

Гэтыя два помнікі даюць вельмі цікавую характэрыстыку умысловага стану тагочаснага духавенства, але—не нашага выключна, а агульна ўсходна-славянскага. Зрэшта абодвы помнікі зьяўляюцца не чым-колечы індывідуальным плодам, а формулоўкай царкоўных правіл, робленай рожнымі асобамі.

**Жыцьцёпісы.** Акром перакладных жыцьцёпісаў сьвятых, мы маем цэлы шэраг арыгінальных помнікаў гэтай галіны царкоўнай пісьменнасьці. Да іх належаць: жыцьцё Барыса і Глеба*), Мэркурыя Смаленскага, Аўраамія Смаленскага, Кірыла Тураўскага, Еўфрасініі Полацкай і інш. Гэта галіна пісьменнасьці дае вельмі багаты і цікавы гістарычны матэр'ял, як да палітычнай так і да абычаёвай гісторыі нашага краю і народу, раскрывае нам круг інтэрасаў і стан асьветы нашага духавенства ў першыя векі хрысьціянства. Па

*) „Життя святыхъ мучениковъ Бориса и Глѣба и службы имъ" выданы па цэламу раду сьпіскаў і рэдакцій Д. И. Абрамовічам у „Памятники древне-русск. литер. (выд. Акад. Наук) вып. 2 (Петр. 1916 г.) тут сабраны і увесь матэр'ял датычны гэтых сьвятых.

мове, гэта—помнікі царкоўнай пісьменнасьці, а дзеля гэтага ў іх пераважае царкоўна-славяншчына, мяйсцовай, крыўскай рэдакціі. У адных сьпісках крыўскі элемэнт больш значны, ў іншых менш, залежна ад таго, дзе перапісываўся дайшоўшы да нашых часаў экзэмпляр помніка.

**Паломніцкая пісьменнасьць.** прадстаўлена у нас Данілам паломнікам і Ігнатам Смаленцам. Гэта пісьменнасьць такжа не зьяўляецца паводле мовы народнай, але ў кождым разе значна прыбліжаецца да народнай, а с а б л і в а ў аддзельных некатарых сьпісках.

**Кронікі і летапісы.** Полацкі, Смаленскі і Тураўскі летапісы загінулі. Найстарэйшы летапіс захаваўся з XIV ст. (Абрамкі), які на асноведзі кіяваноўгародзкага летапісу ўносіць мясцовыя, смаленскія падзеі. Але ўжо гэты летапіс зьяўляючыся сьвецкай пісьменнасьцю, дае мясцамі прыгожую старакрыўскую мову. Далёка лепшую народную старакрыўскую мову даюць т. зв. Літоўскія кронікі. Тут ужо народная мова немаль саўсім ачысьцілася ад баўгарызмаў; лепшую пробку гэтай мовы зьмяшчае т. зв. „Кроніка Быхаўца“.

**Сьвецкія повесьці.** Да найстарэйшых помнікаў гэтай пісьменнасьці належыць „Слова аб палку Ігаравым“, якое дайшло да нас у зьлепку, зложаным з некалькіх асобных рыцарскіх песьняў, між якімі выдатнае мейсца займаюць ўплеценыя ў гэту повесьць адрыўкі песьняў аб крыўскіх князёх, як аб Ўсеславе Полацкім і Ізяславе Горадзенскім. Помнікі другіх рыцарскіх повесьцяў дайшлі да нашых часаў толькі ў сьпісках XVI ст.. з якіх „Александрыя“ безумоўна істнавала ў XV ст., а можа і раней. Усе гэтыя повесьці пісаны старакрыўскай народнай мовай і для нашай пісьменнасьці маюць першараднае значэньне: яны даюць лепшыя прыклады крыўскай кніжнай мовы XV, XVI і XVII ст.

**Юрыдычныя помнікі** ўсе немаль бяз вынятку пісаны народнай мовай. Да гэтага ліку помнікаў адносяцца граматы, прывілеі і статуты. Большасьць гэтых помнікаў належаць да арыгінальнай нашай пісьменнасьці і выяўляюць сабой вялікай цаны творы народнага генія, а адначасна—бяздонную капальню матэр'ялу для нашых гісторыкаў, моваведаў і прававедаў. Некатарыя з помнікаў гэтай галіны нашае пісьменнасьці маюць агульна-эўропэйскую славу, як, прыкладам, „Статут Вялікага Князства Літоўскага“ або як „Мэтрыка В. Кн. Літоўскага“, ня маючае прыкладу ў другіх народаў сабраньне дзяржаўных дакумантаў, якія ў цэласьці становяць найабшырнейшую ў Эўропе дзяржаўную кроніку.

**Кнігі для мусульманаў.** Сьвятыя мусульманскія кнігі былі, праўдападобна, ў XV ст. перакладзены на крыўскую мову і запісаны арабскімі літарамі. Дагэтуль адчытана толькі адна такая кніга „Аль-Кітаб“, але ёсьць весткі, што гэткіх рукапісаў захавалася некалькі ў Ленінградзкай Публічнай Бібліатэцы, і, адзін ці два, ў музеі ім Ябланоўскіх ў Лейпцыгу. Між Ленінградзкімі рукапісамі маецца Аль-Коран. Гэтыя мусульманскія кнігі перакладзены на народную крыўскую мову і, дзякуючы асобнасьцям арабскай абэцэды, даюць вельмі цэнны матэр'ял для нашых моваведаў. Між іншым, мусульманскія рукапісы паказуюць, што асобнасьці крыўскай мовы „дзэканьне“

і „цэканьне“ (ц мяккое) істнавалі ў поўнай меры ў XV ст., а толькі славянскімі літарамі не перадаваліся на пісьме, г. зн.,—што славянская пісьменнасьць умоўна перадавала фонэтыку крыўскай мовы.

**Кнігі для жыдоў.** Падобна мусульманскім рэлігійным кнігам, былі ў XV ст. перакладзены на дзяржаўную мову В. Кн. Літоўскага, знача крыўскую мову, і рэлігійныя жыдоўскія кнігі. Цікавым помнікам гэтай жыдоўскай літэратуры ёсьць Біблія, якая пераховывалася ў Віленскай Публ. біб., перакладзеная з гэбрайскага і разложаная на аддзельныя чытаньні да ужытку ў сынагогах.

---



Застаўка з Тураўскага Евангельля XI ст.

# Канец X-га і XI-е стагодзьдзе.

Саўсім зразумела, што першыя хрысьціянскія сьвятыні, карысталіся царкоўнымі кнігамі. Нажаль кнігі, царкоўныя і духоўныя захаваныя да нашых часаў, не сягаюць далей канца X і пачатку XI стагодзьдзяў, дый з гэтага часу ледзь некалькі славянскіх, крыўскай рэдакціі, рукапісаў ведамы нам ў тагочасных тэкстах. Большасьць царкоўнай, адзінай на тыя часы пісьменнасьці загінула ў рэлігійных змаганьнях, частых войнах а найболей—ў часе заняпаду дзяржаўнасьці; многа што з нашага стараветнага багацьця прысвоена чужымі і яшчэ гэтае прысвоеньне ня высьветлена. Адно толькі ведама, што крыўскія культурныя цэннасьці, ў першы чарод—старадаўныя кнігі і рукапісы, паразцяганы немаль па ўсёй Эўропе, а найболей іх трапіла ў маскальскія, ды польскія старасховы. Толькі час і сумленныя досьледы змогуць выказаць запраўдны лік нашых пісьменных помнікаў з X—XI стагодзьдзяў.

„Шляхам навуковых досьледаў даволі моцна устаноўлена, што хрысьціянства безумоўна істнавала у нас да 988 г., і ня толькі істнавала, але і карысталася ведамым прызнаньнем, у кождым здарэньні мысьлілася, як вера роўная паганству.“ (М. Н. Сперанскій. „Истор. Древн. Русск. литер.“ Москва, 1921, бал. 186—187, Падробна аб гэтым глядзі: Макарій „О христіанствѣ на Руси до Владиміра, СПБ. 1868; Голубинскій „Истор. Русск. Церкви, выд. 2, Москва 1901, Т. I; В. Пархоменка „Начало хрыстіанства на Руси“. Полтава, 1913. Аб пачатках хрысьціянства на крыўскіх землях глядзі: Сапуновъ „Рѣка Западная Двина“).

СУПРАСЛЬСКІ РУКАПІС. Да сярэдзіны XIX ст. рукапіс гэты пераховываўся ў Супрасьльскім манастыры (каля Беластоку), зкуль быў узяты М. Баброўскім. Цяпер 118 лістоў яго знаходзіцца ў Любляне, (Юга-Славія, бібліятэка Копітара); 151 ліст—у бібліятэцы графа Замойскага ў Варшаве; 16 лістоў—у Публічнай Бібліятэцы ў Петраградзе. Агульна вучонымі прызнаецца, што Супрасьльскі рукапіс узьнік у канцы X, або ў пачатках XI стагодзьдзя, але пры гэтым некатарыя лічаць, што перапісаны ён са шмат ранейшага яшчэ арыгіналу, які павінен быў сягаць IX стагодзьдзя.

Срезневскій ў сваёй працы „Опыт словаря древнерусского языка“ падае шмат слоў, узятых з Супрасьльскага рукапісу, якія і цяпер ужываюцца ў Горадзеншчыне, між іншым,—адзіна ў заходнай часьці Горадзеншчыны ужыванае,—слова „судашаць“, „судосіць“ ў значэньні—сустрачаць, сустрэць. Пры гэтым у Супрасьльскім рукапісе маюцца асобнасьці крыўскага аканьня, напрыклад: н ѣ к о г а (275.23 *), к о г а (435.22), к о і е г а (441.20) і е г а (509.21), в с ѣ к о г а (487.13).

У некатарых адрыўках гэтага рукапісу маюцца нотныя знакі, паводле якіх пяяліся тэксты.

Пісаны рукапіс на пэргаміне прыгожымі выразнымі літарамі.

Супрасьльскі рукапіс складаецца з адрыўку Мінэі-Чецьі, г. зн.,—зборніка жыцьцёпісаў сьвятых, распаложаных па месяцох і празначаных да чытаньня на кожды дзень, а такжа—з адрыўку „Златыя ч е п и“, г. зн., казаньняў на вялікі пост. Усяго ў рукапісе: 24 жыцьцёпісы сьвятых, 20 Слоў Яна Златавустага, Слова Епіфанія Кіпрскага і Слова патрыарха Фоція.

Поўны перадрук Супрасьльскага рукапісу выдаў Фр. М і к л о ш ы ч у Вене ў 1851 годзе: „Monument linguae paleoslovenicae e codice Supraslensi.“ Новае выданьне зрабіў С. С ѣ в е р я н о в ъ: „Супрасльская рукопись, I“ (тэкст) СПБ. 1904 г.

АДРЫВАК СУПРАСЛЬСКАГА ЕВАНГЕЛЬЛЯ X—XI СТ. Гэты адрывак Евангельля, падобна вышэйпрыведзенаму Супрасьльскаму Рукапісу вывезены М. Баброўскім ў сярэдзіне XIX ст. з Супрасьльскага Васільянскага манастыра. У канцы XIX і пачатку гэтага стагодзьдзя, да вайны, было больш дзесяці лістоў памянёнага Евангельля ў сабраньні віленскага аматара старасьветчыны Заштаўта, які меў свае сабраньні ў М і с і я н а р с к і х мурох. Балонкі рукапісу без аправы, аддзельнымі ня нумараванымі лістамі добрага гладкага пэргаміну, $5^1/_4$ на $4^1/_4$ вяршка. Заставак на захаваных балонах няма, але пачатныя літары старэнна рысаваны і размаляваны чырвонай, сіняй і зялёнай фарбамі. Пісана зьлітна, буйным, „полууставам“ з юсамі, па 14 радкоў на балоне. Выпіска зроблена крыўскім вучоным археолёгам, І в а н а м Л у ц к е в і ч а м і мной, ў 1912 годзе.

Мова тэксту:

Бѣху же погане нѣции отъ нихъ иже вступиху абыхусе поклонили въ день славен. сиже бѣ отъ Беѳсаиды Галилеискые. и про-

*) Лічбы паказуюць балоны і радкі ў выданьні Сѣвярнова.

мѣсѧца марта кѕ мѫчениѥ стааго иринеа

Егда нравъ благъ съ доброѫтьстиниѥмь
въздрастъ болъшиихъ желаа страхъ
божии прииметь. тъгда вьсеи же вѣкъ
семь житии прѣобидѣвъ. къ обѣшта
ныихъ благыихъ приѩтию подвиза
ѥтъ сѧ. да иже послоушаниимъ ѣкысѧ
штавъ вѣроѭ твръдоѭ вида въжделаа.
та же пакы божиѩ славоѭ въсприимъ
славитъ господа. иже бѣстъ и о блаженѣ
мъ иринеи епископѣ сремьскааго гра
да. кротостиѭ да и лихыѩ. и же о божии
доброговѣнии. дѣлъ оутврьди наречене
ноѥ. постигъ шоубогонѥнии. иже бы

Адрывак Четьі-Мінэі з Супрасльскага рукапісу, канца X або пачатку XI ст.

сиху и рекуце. гди хощмо видѣти іса. приде пилипп и рече се Андрею. Андрей пакы и пилиппъ рекоста іесусу. Іесусъ отвѣце има река+приде година ать ославися сын чловѣчь. вѣру вѣру правю вамъ. ачь зьрно житно падша въ землю не умрло буде. само се останеть. ачь ли буде умрьло многа плод принесе+кто люби душу свою прѣда ю, и кто ненавиди душе свое въ семъ свѣтѣ. въ животъ вѣченъ стрѣже ю.

„О ПОСТАВЛЕНИИ ТУРОВСКОЕ ЕПИСКОПИИ“. Гэта ёсьць статут, дадзены Тураўскай біскупіі кн. Валадзімерам у 1005 годзе. Захаваўся ў пазьнейшым сьпіску ў Кіява-Пячэрскім Патэрыку, рэдакціі архімандрыта Трызны (1647—1656). Рукапіс Троіцкай Лаўрскай бібліатэкі № 714, бб. 73, 74. Аб часе установленьня біскупіі сказана:

„третие богомолие епископию постави(х) въ Туровѣ въ лѣто 6513 (!) и придахъ къ ней городы съ погосты въ послушаніе и священіе, и благословеніе держати себѣ Туровской епископіи: Пинскъ, Новгородъ, Городенъ, Берестье, Волковыескъ, Здитовъ, Неблестескъ, Дубровица, Высочко, Случескъ, Копысь, Ляховъ, Городокъ, Смѣдяне, и поставихъ первого епискупа Өому, и придахъ села, винограды, земли бортныя, волости со всѣми придатки... Святому Спасу и Святѣй Богородицѣ.“

У цяперашні час ведамы біскупы Тураўскія: 1) Симеон, 2) Ігнат, 3) Якім і 4) Георгій,—упамінаныя ў „Слове аб Мартыне мнісе Тураўскім“, як наступаўшыя адзін па другім. Аб Якіме ведама з летапісаў, што ён быў пастаўлены ў 1144 годзе, і, часова ці назаўсёды, ськінуты ў 1146 годзе. Пасьля 5-м біскупам быў сьв. Кірыла, ведамы пісьменнік, 6—Лаўрын, які ўпамінаецца ў летапісах пад 1182 годам. У пазьнейшых каталёгах („Историко-статистическое описаніе Туровской епархіи, составленое ректоромъ Минской духовной Семинаріи, архимандритомъ Николаем“, СПБ., 1864) рад Тураўскіх біскупаў крыху прадоўжаны: Симеон, Ігнат, Якім І-шы, Георгій, Кірыла І-шы (ад 1114 да 1120 г.), Якім ІІ-гі (ад 1144), Іоан (ад 1146 г.), Кірыл ІІ-гі (пісьменнік), Лаўрын.

Гл. Ундоскій „Іосифъ Тризна, Редакторъ Патерика Печерского“. Е. Голубинскій „Истор. Рус. церкви“. Москва, 1880, бб. 560, 561.

ТУРАЎСКАЕ ЕВАНГЕЛЬЛЕ XI СТ. Адкрыта ў Тураве Гразновым, які знайшоў яго ў скрынцы з вугалямі ў 1860-х гадох і перадаў ў Віленскую Публічную бібліатэку. Пісана на крэпкім гладжаным пэргаміне. Фармат 5×4 вяршка. Агалоўкі і пачатныя літары маляваны сіняй, зялёнай і чырвонай фарбамі. Захаваўся толькі адрывак яго—20 балонак.

Гэтае Евангельле належыць да тыпу Евангельляў, званых па грэцку „aprakos“, г. зн.,—нядзельныя Евангельлі, распаложаныя ў парадку царкоўнага чытаньня на ўвесь год. Такім чынам, Тураўскае Евангельле ня толькі сучаснае Астраміраўскаму, але зьяўляецца таго-ж самага тыпу богаслужэбнікам.

шанхъовьцѧ азъѥсмьдвьрьми
ноѭжащекътовънидетьспсетьсѧ
икънидеть иизидеть· ипажить
обрѧщеть

ъ· — д г

# ВЪПѦТЪК Є НЄ ЄВА

ѿ иоана глава ?ѕ

Рѣ гь къпришьдъшимъкънѥ
моуиюдеомъ· сегорадимѧоць любь
гь ꙗкоазъполагаѭдшѫмоѭ дапа
кыприимоуѭ· никътожевъзьмь
тьѥѩѿмене нъазъполагаѭособѣ
овластьвоимамъ положитиѭ но
властьимамъпакыприѩтиѭ с
ѭ заповѣдьприѩтъоцьмоѥго
распьрѧжепакыбысть въиюден
хъ засловесаси глаахѫжемно
зиѿнихъбѣсъимать инеисто

Балонка Тураўскага Евангельля XI ст.

У Тураўскім Евангельлі ўпісаны 2 наданьні кн. Канстантына Іванавіча Астрожскага 1508 і 1513 г., якімі ён надае Тураўскай Прэабражэнскай царкве некалькі ніў, сенажацяў і сад з пасекай:

„а хто нарушитъ наше наданье, тому судитъ Господь Богъ и Пресвятая Его Мати, и да будетъ причтенъ съ тыми, которые суть прокляты Св. Отцы на святых седми соборехъ".

„ДІОПТРА". У канцы кнігі маецца прыпіска:

„Сію кнігоу написал Филип(п) философъ во градѣ Смоленскѣ 6603 г. (1095)."

Пісаў гэту кнігу Філіп па просьбе свайго духоўнага айца Калінніка, які такжа жыў ў Смаленскай зямлі. (Сахаров Сказ. Русск. Нар. Т. II, б. III). Хто быў гэты філосаф Філіп,—невядома, ў летапісах аб ім няма зьменкі. Діоптра, слова грэцкае, азначае ў перакладзе зерцало *). Гэта ёсьць паэма, зложаная з пяці кніг або „Слоў", ў якой гутарацъ вершам аб дагматычных і маральных пытаньнях душа з целам і такім арыгінальным спосабам, што цела зьяўляецца вучыцелям душы.

Діоптра цешылася ў нас вялікай популярнасьцю, аб чым сьведчаць перадрукі яе: ў Еўю (1612, 1642), ў Вільні (1642), ў Кутэйне (1657—1654), ў Магілеве (1698), ў Чарнігаве (1705).

МЕСЯЧНАЯ МІНЭЯ 1096 г., пісана на добрым пэргаміне ў 4-ку, сшыткамі. У канцы прыпіска буйным уставам.

„Якіме... писано въ лѣто SХД мца марта въ КГ."

На іншым мейсцы гэтага рукапісу.

„стая бце помагай рабоу своемоу дъмъкѣ на многа лѣта".

На прыналежнасьць гэтай Мінэі да крыўскай пісьменнасьці зьвярнуў увагу праф. Янчук у лісьце да мяне, ў 1913 годзе; апісана яна ў Срезнеўскага (Славяно-Русск. Палеогр.).

„О ДѢВАХ СМОЛЕНСКИХЪ КАКО ИГРИ ТВОРИЛИ". Захавалася гэтае апавяданьне ў „Цвѣтнику" 1665 году; рукапіс Сынодальнай бібліатэкі № 908. Перадрукавана ў Буслаева („Древне-Русск. Народ. Литература", бал. 14—15). Нямаючы літэральнага тэксту, падаём тут нашу повесьць у перакладзе на сучасную крыўскую мову. Буслаев адносіць памянёную повесьць да твораў XI ст.

Было гэта ад городу Смаленска за 30 вёрст, па Чарнігаўскай дарозе, здарылася быць на вялікім полі бязстыднаму ігрышчу. Многа дзеў і жон зышліся на чортава зборышча, неразумнае і благое, ў ноч у якую радзілася Прасьветлае Сонца—вялікі Іан Хрысьціцель, першы прапаведнік пакаяньня, дзеля яго-ж ўсякае стварэньне невымоўна цешылася. А гэты акаянныя бесам навучаны былі. І зволіў Гос-

*) Зерцало (діоптра), знадабьбе да вымерываньня высотаў, кшталтам цяперашняй астролябіі

пад Бог пакараць іх у навуку людзём, і паслаў да іх св. Вялікамучаніка Ягорья. Сьвяты зьявіўся перад імі і казаў ім, каб яны спыніліся ад гэтай чартоўшчыны, але яны глупа пярэчылі яму з вялікім бязстыдзтвам. Тады ён пракляў іх, і ўсе яны ў той час акамянелі, і дацяпер на полі тым бачны, стаяць як людзі: ў навуку нам грэшным, каб так не рабілі, каб не былі з чортам засуджаны на вечную муку.

„Повесьць гэта, будучы ў ачавістай сувязі з пагудкамі аб перамене харобраў-волатаў ў камяні, звыш таго, годна вялікай увагі дзеля цікавага памяшаньня паганскага элементу з хрысьціянскім, дзе гэты элементы зьмяшаны да такой меры, што „Прасьветлае Сонца“, катораму, паводле паганскіх абрадаў запраўды сьвяткавалі дзень К у п а л ы, аднесена як эпітэт на Іана Хрысьціцеля“ (Б у с л а е в ъ „Русская Народ. поэзія“ СПБ. 1861).

ЖЫЦЬЦЁПІС БАРЫСА І ГЛЕБА, захаваўся ў Пачатным т. зв. Нэстаравым летапісу і асобнай рэдакціяй. Стыль жыцьцёпісу Барыса і Глеба зыходзіцца з жыцьцёпісамі, пісанымі ў Смаленску. Як літэратурны твор, апавяданьне аб Барысу і Глебе вырожніваецца усільным імкненьнем аўтора да драматызму, якое выяўляецца ў тым, што ён укладае Барысу і Глебу многія і доўгія прамовы, якія, дзеля чакаючай іх горкай сьмерці, складаюцца з жаласных нараканьняў і малітваў да Бога. Што да стылю, гэтыя прамовы не безвартныя, але ў іх заўважаецца штучнасьць. Гэты самы стыль мы заўважаем і ў другіх творах пазьнейшых смаленскіх аўтораў і нават у Кірылы Тураўскага. На гэтай аснове праф. Перэтц робіць вывад, што жыцьцёпіс Барыса і Глеба пісаны Смаленцам у Смаленску ў хуткім часе пасьля забойства гэтых князёў.

„ЖИТІЕ КОДРАТА МУЧЕНИКА“. Захаваліся дзьве карціны (Востоков. „Учен. Записки II. Отд. Акад. Наук, кн. II, вып. 2, бал. 65. Срезневскій. „Древн. пам. Рус. пис. и яз.“, балон. 21; тутжа зьнімкі з арыгіналу).

„ЖИТІЕ ФЕКЛЫ ПЕРВОМУЧЕНИЦЫ“. Захаваліся дзьве карціны. Апісана ў Востокова и Срезневскага ў цытатах пад жыцьцёпісам Кодрата.

МАНЭТА ТУРАЎСКАГА КНЯЗЯ СЬВЯТАПОЛКА. У сябе дома Нормани пачалі прыймаць рымскае хрысьціянства з 826 году. У гэтым годзе хрысьціўся пры дварэ франкскага імпэратара Людвіка адзін з дацкіх князёў, па імю Гэрыольд або Гаральд, выгнаны са свайго пасаду другімі дацкімі князямі. Хрышчэньне Гэрыольда збудзіла ў імпэратары жаданьне установіць місію для навяртаньня Норманаў і выпаўніцелям





Манэта тураўскага кн. Сьвятаполка.

яго жаданьня явіўся сьв. Ансгары, мніх Новакарвэйскі, ад 831 да 865 г. першы Гамбурскі архібіскуп, які працаваў над пашырэньнем хрысьціянства ў

Даніі, Норвэргіі і Швэдіі. Дзеля гэтага, саўсім магчыма, што першыя хрысьціяне паміж Варагамі зьявіліся разам з Рурыкам і Алегам са сваей бацькаўшчыны Нормандзіі. Што між Варагамі хрысьціяне былі ў X стагодзьдзі, гэта факт агульна вядомы. Аб гэтым факце вымоўна сьведчыць умова Ігара з грэкамі 944 году, дзе ў самым пачатку умовы гаворыцца: „Иже помыслитъ отъ страны русскія разрушити таку любовь, и елико ихъ крещение пріяли суть, да пріимутъ месть отъ Бога Вседержителя, осужденье на погибель и въ сій вѣкъ и въ будущій, и елико ихъ не хрещено есть да не имутъ помощи отъ Бога ни отъ Перуна“. Пасьля заключэньня умовы паслы прыймалі прысягу і аб гэтым прыпісана ў акце: „мы же (пасльі варагаў-Русі) елико насъ хрестилися есмы, кляхомся церьковью святаго Ильи въ соборнѣй церкви, предлежащимъ честнымъ крестомъ“... З унутраннага жыцьця Варагаў-хрысьціянаў пры Ігары мы ведаем, што яны мелі ў Кіяве царкву прарока Ільлі. Царква гэта ў летапісе называецца—саборнай. Сьвятароў Варагі для сваіх царквей, ведама, прывозілі са сваей бацькаўшчыны, з Нормандзіі. Гэты першыя варажскія сьвятары трымаліся абрадку лацінскага, які панаваў ў іх на бацькаўшчыне. Прыняцьце Валадзімерам хрысьціянства грэцкага абрадку і славянскай літургіі, саўсім натуральна, павінна было выклікаць апазыцію прынамні сярод варажскага духавенства і некатарага кругу варажскай дружыны. Тым болей, што сам Валадзімер быў ў 987 годзе хрышчоны варажскімі сьвятарамі *) і што Варагі ў богаслужэньні ўжывалі готскай мовы. А найважнейшым аргумантам варажскай опозыціі было тое, што дзяржава Русаў, багатая сырымі прадуктамі, ўцягалася ў сферу ўплываў Візанціі, а не нямецкіх краёў, як было дагэтуль. На чале гэтай опозыціі становіцца сын Валадзімера, Сьвятаполк, які княжыў ў Крывічанскім Тураве, паміж Дрыгвічоў. Замест грэцкага духавенства ён выпісуе з Нямеччыны, ці з Польшчы лацінскага біскупа Рэйнбэрга і хрысьціць тураўцаў. Валадзімер пасьпяшае з войскам пад Тураў і бярэ ў палон Сьвятаполка і біскупа Рэйнбэрга. Але гэтым ня кончыцца змаганьне за гоцка-нямецкія ўплывы: па сьмерці Валадзімера Сьвятаполк імкнецца захапіць ўсю ўладу над усходным славянствам у свае рукі і з гэтай мэтай, на хуткую руку зьбірае войска „з п а м і ж Д р э ў л я н і ў П і н с к у“ (Архангелагорадзкі сьпісак Пачатнага Летапісу), дзе былі яго староннікі, ды прызваўшы ў помач цесьця свайго, польскага караля Болеслава, займае Кіяў і пасылае забойцаў да сваіх братоў Барыса і Глеба, якія і падаюць з рук убіўцаў (1015 г.). Супроць Сьвятаполка паўстае княжыўшый ў Ноўгарадзе брат Яраполк, які набірае сабе ў помач Варагаў і апіраецца на „грэцкую“ партію. У бітве Сьвятаполк праігрывае сваю справу з прычыны сваіх памочнікаў Палякоў і павінен уцякаць заграніцу. Грэцкае духавенства надзяляе яго тытулам „акаяннага“ і праклятага, а Барыса і Глеба канонізуе і робіць сьвятымі. Гэтак закончылася змаганьне за ўплывы пад усходным Славянствам Заходу з Усходам, у пачатках XI ст.: усход перамог. Яраслаў стаўся апорай грэцкіх уплываў. Але змаганьне ў істоце гэтым ня вычэрпалася, яно ішло далей, вагаючыся на Крыўскіх землях то ў тую, то у

*) Гл. Г о л у б и н с к і й „Ист. Русск. Цер. Т. I, б. 113“.

другую старану: ў XII і XIII ст. пранікае на крыўскія землі каталіцтва праз Літву, у XVI ст. шырыцца у нас, запачаткаваная ў Нямеччыне рэформацiя, а ў XVII-унiя. У XVIII, асабліва XIX ст., усходны абрад дае адпор заходнаму на нашых землях.

Пададзеная на рысунку манэта Сьвятаполка належыць да часу яго найвялікшай сілы, калі ён быў Тураўскім князем. На аднэй старане гэтай манэты выбіты славянскімі літарамі надпіс вакол асобы, седзячай на пасадзе: „святополко са столе“, а з другой—гэрб і надпіс: „а се его сребро“.



Плашчаніца XI ст. шытая золатам. Пераховывалася ў Мікалаеўскім саборы ў Вільні. (Перадрук з літаграфіі, памешчанай ў альбоме Батюшкова).

ДАПАЎНЕНЬНЕ ДА ТЭКСТУ „СУПРАСЛЬСКІ РУКАПІС.“ Аб гэтым рукапісе праф. А. І. Соболевскій („Древній Церковно-славянскій язык. Фонетика“. Масква 1891) дадае, што 2 сшыткі (16 лістоў) становяць уласнасць акадэміка Бычкова. Гэты бычкоўскі адрывак выданы фотолітаграфаваным спосабам „Обществомъ древней писменности“ (пад № 49). На 17 балоне выш згаданай кнігі проф. Соболеўскі кажа: „Супрасльскі рукапіс мае найбольшы лік рожніц раўняючы з другімі“ рукапісамі ў мове. Безумоўна, „славянская мова зьмянялася ў рукапісах пад пяром перакладчыкаў і перапісчыкаў і пад уплывам жывых гутарак.“



Застаўка з Евангельля XVI ст. знойдзенага ў Мікалаеве (каля Дзісны).

# XII. стагодзьдзе.

ПОЛАЦКАЕ ЕВАНГЕЛЬЛЕ XII. СТ., пісанае на пэргаміне; пераховуецца ў Румянцаўскім музэі ў Маскве (па каталёгу Востокова № 103). У Евангельле ўпісана наданьне Вялікага Князя Полацкага Андрэя.

„СТРАННИКЪ БОГОМЪ ПОЧИНАЕМЪ“ (Падарожа ігумена Даніла ў Ерузалім). Сьпісак канца XVII ст. знаходзіцца ў зборніку, разам з Псалтыром пісаным крыўскай (беларускай) мовай, пераховуецца ў Румянцаўскім музэі. Другі сьпісак агалоўлены: „Житіе и хожденіе Даніила Рускія земли Игумена“, знаходзіцца ў Петр. Публ. Бібліатэцы. На рукапісе маецца надпіс:—ex museo Petri Dubrowsky. Трэцьці сьпісак XVI ст. знаходзіцца ў бібліатэцы Красінскіх, у Варшаве.

Ігумен Даніла адбываў падарожу ў Палестыну ў той час, калі крыжовые паходы адкрылі свабодны ўход у сьвятыя мейсцы.

Хто быў Ігумен Даніла і зкуль ён быў родам,—дагэуль яшчэ акуратна не ўстаноўлена. Апіраючыся на Данілавым параўнаньні Іордану з ракой Сновай, працякаючай ў крыўскай часьці Чарнігаўшчыны (праз Новазыбкаўскі і Гарадоцкі паветы), рабілі вывады, што ён быў ураджэнцам Чарнігаўшчыны. Час яго падарожы ў Палестыну ўстанаўляецца апавяданьнем Данілы аб тым, як ён быў у паходзе разам з каралём Бальдуінам Ерузалімскім. Кароль Бальдуін I выступіў у паход на Дамасак ў 1115 годзе. Акром гэтага Даніла кажа, што ён памінаў многіх „рускіх“ князёў пры гробе Хрыстовым, у ліку гэтых князёў называе: Глеба кн. Менскага, Давыда Ўсеславіча і Барыса Ўсеславіча; ўсе тры князі—сыны слаўнага полацкага князя-чараўніка Усеслава.

Хоць падарожаньне Данілы дайшло да нас у рожных сьпісках (найстарэйшы XV ст.), але мова, якой напісана яно, ў некатарых сьпісках, падобна да мовы Смаленска-Полацкіх умоў з Немцамі. Гэныя данныя паказуюць, што Даніла паходзіў з абшараў полацка-крыўскіх зямель, а падарожу сваю адбываў у першай чверці XII стагодзьдзя.

Выпіску падаемо тут з расійскага перадруку:

„Іерданъ же рѣка течеть быстро, берегы же имать обонъполъ прикруты, а отъсюду пологы; вода же его мутьна, и сладъка пити вельми и нѣсть сыти піющимъ воду ту святую, и здрава бысть вода та піющимъ ю, ни съ нея болить, ни пакости въ чревѣ нѣсть; вьсѣмь же есть подобенъ Іерданъ къ рѣцѣ Сновьстѣй, въшире и глубле, лукво же вельми и быстро течеть; болонія же имать, якоже и Сновь рѣка; глубле же есть четырей саженъ среди самоѣ купѣли, якоже самъ собою искусихъ и измѣрихъ и пребродихъ на ону страну Іердана, и много походихъ по брегу тому Іерданову любовію; въшире же есть Іерданъ рѣка, якоже на устьи Сновь рѣка есть. И есть же по сей странѣ купѣли тоя яко лѣсокъ малъ, древіе многа по брегу Іерданову превысоко, яко вербіе есть, и подобьно, но нѣсть верба; выше купѣли, яко лозіе много по брегу Іердана; но нѣсть наша лоза, но инака, яко кисляжи подобно есть.

„СЛОВО О МАРТЫНѢ МНИСѢ ИЖЕ ВЪ ТУРОВѢ У ЦЕРКВИ СВЯТУЮ МУЧЕНИКУ ЕДИНЪ ЖИВЫЙ О БОЗЕ.“ Рукапіс Румянцаўскага Музэю, № CCCXXI.

Зьмест слова:

„Нѣкто старець, именемъ Мартынъ, бывъ преж поваръ епископомь Туровьскимь Суміону, Игнатью Іоакиму. Сего епископъ Георги свободи старости ради, и бывъ мнихъ, пребываше въ епископли монастыри у святую мученику на Болоньи. Единъ живый часто боляше старець лономъ; чрева ему влонь въходяху. И егда бываше, тогда лежаше старець крича немоги въстати и послужити своему тѣлесе. Единою же болящу ему тѣмже недугомъ олежаше вкеліи, отъ жажа водныя изнемогаша, никому же посѣтившу его, ни служащу ему; зане бѣ вода велика около монастыря того. Въ третіи жъ день внидоста къ нему святая мученика Борисъ и Глѣбъ явѣ въ своемъ подобіи, якож и на иконѣ писана еста, и глаголаста: чимъ болиши старче? Онъ же сказа ему недугъ свой. И рѣста: хощеши ли воды? И рече старець: о господина, уже ея давно жадаю. И announcements взeмъ единъ ручку, и принесе старцю воды. И вземше корець възлѣяста на старця И рече старець: чья еста дѣтска? Глаголаста: Ярославля. И мнѣвь старець: Георгіевича Ярослава слузѣ еста? *) И рече: Господь Богъ створить вама лѣта многа, господина моя; обаче вземше соль хлѣбъ, ядита; азъ бо не могу служити вама. Она же рѣста: ни, наблюди себѣ на потребу; бѣ уже отъидеве, а ты не боли; но упочини ты, яко невидима быста. Старець же обрѣтеся здравь, и се самъ въставъ прославити Бога и свята мученика, и пребы до того же года здравъ. И се самъ сказа духовному отцю.“

ПАСЛАНЬНЕ КЛІМА СМАЛЕНЦА ПРЭЗБІТАРУ ТОМУ, дайшло да нас у пазьнейшых сьпісках.

Клім Смаленец (Клімъ Смолятичъ) манах-схімнік, а пазьней, выбраны саборам мяйсцовых біскупаў-мітрапаліт кіяўскі (1147—1154). Як сьведчаць летапісы, Клім быў вельмі асьвечаны чалавек і філёзаф „бѣ философъ якого не бяшеть въ

*) Яраслаў Георгіевіч, унук Сьвятаполка і праўнук Ізяслава, князь Пінскі, спамінаецца ў летапісе (Іпат. сп.) пад 1183 годам.

Руси“. Выбары Кліма ў мітрапаліты прынясьлі яму многа непрыемнасьцяў ад духавенства і некатарых князёў, якія лічылі, што мітрапаліт можа быць стаўлены толькі канстантынопальскім патрыярхам.

Клім Смаленец належаў да пладавітых пісьменнікаў, але з яго прац да нашых часаў дайшоў толькі адзін ліст, які ён пісаў да свайго прыяцеля прэзбітара Тома: „Посланіе написано Климентомъ Митрополитомъ русскимъ Ѳомѣ, пресвитеру смоленскому, истолковано Аѳанасіемъ мнихомъ“. З гэтага агалоўку відаць, што ліст гэты дапоўнены нейкім мніхам Атанасам. Такім чынам, пасланьне гэтае не ва ўсіх сваіх часьцях прыналежыць пяру самога Кліма. Не глядзя на гэта, пасланьне раскрывае нам сьветаглад і інтэрасы тагочаснага асьвечанага смаленскага грамадзянства. Аказуецца, што Клім і яго пасьледаўнікі, прыкладам лепшых тагочасных візантыцкіх стылістаў, дапускалі алегорычнае тлумачэньне сьв. Пісаньня, апіраючыся ў сваіх тлумачэньнях на творы Гомэра, Плятона, Арыстотэля. Іншага кірунку быў нехта Грыгоры, такжа „кніжнік“ Смаленскі, які прытрымліваўся літары сьв. Пісаньня. Абедзьве стараны, якія вялі спрэчку, чыталі названых вышэй грэцкіх філёзафаў у арыгінале.

Прычына, якая паслужыла да напісаньня гэтага слова, была ў тым, што Смаленскі князь Расьціслаў адмовіўся прызнаць Кліма мітрапалітам, лічучы яго выбары, паміма канстантынопальскага патрыярха, няпраўнымі. Каб прымірыць з сабой Расьціслава, Клім паслаў яму недайшоўшы да нашых часаў ліст, у якім зачапіў прэзбітара Тома. Пакрыўджаны Том напісаў Кліму дакорлівае пасланьне. Адповедзю на пасланьне Тома і зьяўляецца дайшоўшае да нашых часаў пасланьне Кліма.

Пасланьне гэтае складаецца з дзьвех часьцей. Першая часьць тоўпіць адповедзь Кліма на закіды Тома. Том пісаў, што мітрапаліт Клім у сваім лісьце да Расьціслава „славя себя и творася философомъ“, пісаў не на аснове пісаньняў сьв. айцоў, а ад „Омира“ (Гомэра), Арыстотэля і Плятона. Клім пярэчыць закідам Тома. Ен кажа, што, папершае, ня шукае сьвецкай славы, пагарджае багацьцем і заняты аднэй толькі думкай аб пасьмертным збаўленьні; падругое,—няпраўда, бытцам ён піша, кіруючыся думкамі Гомэра, Арыстотэля, Плятона. Тое, што Том прыймае за ідэі гэтых пісьменнікаў, зьяўляецца алегорычна-сымволістычным тлумачэньнем сьв. Пісьма.

Другая часьць пасланьня, прыналежачая, праўдападобна, пяру мніха Атанаса, складаецца з падробнага яго тлумачэньня, большай часьцю запазычанага з твораў айцоў цэркві і вылажанага ў форме прыповесьцяў і пытаньняў-адповедзяў. Атанасы мніх карыстаўся да гэтага тлумачэньня „Шестодневам“ Іоана экзарха баўгарскага, „Богаслоўем“ Іоана Дамаскіна і асабліва пытаньнямі-адповедзямі на Пяцікніжжа справядлівага Тэадарыта.

Вось прыклады тлумачэньняў:

> Што значыць: я не ўсьцярогся тэй „піявицы“, якая сочыць ня толькі за эгіпцянамі, але і за іерузалімцамі? „Піявица“—гэта ўлада і слава; эгіпцяне—сьвецкія людзі, іерузалімцы-мніхі. Славы і ўлады жадаюць ня толькі сьвецкія людзі, але і мніхі: жаданьне яе прасьледуе нас да магілы.

Морская рыбка эхіна, аб якой ў тыя часы, на аснове легандаў, былі перакананы, што яна пяром сваім затрымлівае караблі на моры,—дае прычыну да абшырнага тлумачэньня.

> Малая рыба эхіна многаму вучыць марскіх падарожнікаў: яна ведае, калі будзе бура, а калі сьціша. Калі яна прачувае буру, то ўзлязае на цьвёрды камень, як на катвігу. Калі Госпад выказаў сваю клапатлівасьць да эхіны, то ў сколькі разоў большыя яго шчодрасьці да нас, людзей, якія пакладаюць надзею на яго: Госпад прамудра клапоціцца аб нашым збаўленьні і загадуе кождаму выпаўняць тое, чаго Ён хоча. Калі прарок Іона, пасланы Богам прапаведываць у Ніневію аб маючым стацца разбураньні яе, уцёк ад Госпада ў Тарсіс і быў на моры, то эхіна не стрымала карабля, на дне якога спаў Іона. Узьнялася бура, караблю пагражала зьніштожаньне. Бура сунялася толькі тады, калі Іона быў выкінуты ў мора і трапіў ў нутро кіта. Кіт вырыгнуў Іону, і Іона павінен быў выпаўніць Божы загад: ісьці прапаведываць у Ніневію. Жыхары Ніневіі паслухалі Іоны, пакаяліся і збавілі сваё жыцьцё.

Магчыма, што часьць твораў Кліма Смаленца скрываецца пад назовай многіх твораў, прыпісываных сьв. Кліму, біскупу Словенскаму, сучасьніку Кірылы і Міфодзія. Памер Клім Смаленец у 1164 годзе.

## СЛОВЫ І КАЗАНЬНІ (ПОУЧЕНІЯ) КІРЫЛЫ ТУРАЎСКАГА,

дайшоўшыя ў сьпісках XIII і XIV ст. (Кормчая 1281 году Маск. Сынод. бібліатэкі).

Кірыла Тураўскі быў сынам багатых тураўскіх мяшчанаў. Калі ён радзіўся нет ведама; думаюць—каля 1130 году. Як сын багатых бацькоў, ён

Пачатная балона слова Кірылы Тураўскага „На възнесение Господне".

атрымаў старэннае выхованьне ў сваім родным горадзе, каторы ў тыя часы быў ня толькі адным з выдатнейшых дзяржаўных цэнтраў, які не уступаў Кіяву,

але ў дадатку ў гэтым часе жыла тут грэцкая царэўна, што была замужам за тураўскім князем. Тураўскую княгіню акружаў двор, зложаны з грэкаў, каторыя праўдападобна і далі Кірылу асьвету, якой абладалі ў тыя часы вярхі грэцкага грамадзянства.

У маладых гадох жыцьця Кірыла паступіў у манастыр, дзе зьвярнуў на сябе увагу сваімі аскетычнымі спасіламі. Не здавальняючыся звычайнымі спосабамі аскетызму, Кірыла замураваўся ў вежы, дзе на адзіноце аддаваўся пасту і малітве. Адукаванасьць Кірылы і яго цьвёрды аскетызм зьвярнулі увагу тураўскага князя і жыхарства. Па іх просьбе Кірыла быў выбраны ў біскупы. Пунктуальна годы яго біскупства не вядомы, але ў кождым здарэньні яны прыпадаюць на другую палавіну XII стагодзьдзя. Памёр Кірыла каля 1182 году.

Кірыла Тураўскі быў вельмі пладавітым пісьменнікам. Не глядзя на тое, што большасьць з яго пісаньняў загінула, але і тое, што захавалася, становіць аграмадную па абшырнасьці, а яшчэ больш па цэннасьці, спадчыну. Пісаў ён „поученьня“ (казаньні), малітвы і прамовы („словы“).

Са слоў, якія безумоўна прыналежаць Кірылу Тураўскаму, можна назваць гэткія:

1. „Слово на недѣлю Ваій“, 2. „Слово на Пасху“, 3) Слово на вторую недѣлю по Пасхѣ“, 4) „Слово на третью недѣлю по Пасхѣ“, 5) Слово на четвертую недѣлю по Пасхѣ“, 6) „Слово на шестую недѣлю по Пасхѣ“, 7) „Слово на Вознесеніе“, 8) „Слово на седьмую недѣлю по Пасхѣ“. З павучэньняў яго ведама: 1) „О душѣ и тѣле человѣческомъ“ 2) „Сказаніе о черноризьтемъ чинѣ отъ вѣтхого закону и новаго“, 3) „Притча о человѣцѣ бѣлоризцѣ“, і інш.

Пачатная балона сказаньня Кірылы Тураўскага „О черноризьтемъ чиноу.

Творчасьць Кірылы Тураўскага знаходзілася пад вялікім уплывам Візантыйскай літэратуры і сьветагляду. Ен, як назвычайна здольны пісьменнік і стыліста, перапрацовываў візантыйскія тэмы на свой лад з прыналежным яму красамоўствам.

Кірыла Тураўскі, акром красамоўства, абладаў яшчэ поэтычнымі здольнасьцямі і дзеля гэтага часта ў сваіх „Словах“ перадае падзеі ў жывой драматычнай форме: а) ён рысуе падзеі такімі, якбы яны адбываліся

цяпер—у той якраз момант, калі аўтор гавора; б) ён укладае ў вусны дзеючых асоб няраз абшырныя прамовы.

Першы спосаб драматызацii—выабражэньне бiблiйных падзей бытцам цяпер адбываючымiся—надзвычай цiкавы для характэрыстыкi сьветагляду самога Кiрылы Тураўскага i па свайму ўплыву на слухачоў наагул. Гэтага спосабу апiсаньня падзей, у цяперашнiм часе, Кiрыла дасягае пры помачы слоў: „днесь", „нынѣ". Гэтак, Кiрыла ў казаньнi на Вербную нядзелю кажа:

„Днесь горы и холмы точать сладость, удолiя и поля плоды Богу приносятъ, горнiи воспѣваютъ а удольнии рыдаютъ. Ангелы дивятся, видяще на землѣ, невидимаго на небесахъ и на жребяти сѣдящаго сущаго на престолѣ херувимстемъ, обступаемымъ народами—неприступнаго для небесных силъ".

У слове на новую нядзелю па Вялiкаднi, якое гаварылася вясной, Кiрыла кажа:

„Нынѣ солнце красуяся к высотѣ восходитъ и радуяся землю огреваетъ: взыде бо намъ отъ гроба солнце Христосъ и всѣхъ вѣрующихъ ему спасаетъ".

Гэткая драматызацiя рабiла вялiкае ўражаньне на слухачоў: яны выносiлi ўражаньне з гэтых „Слоў", што запраўды падзеi, апавяданыя Кiрылам, адбываюцца ў тыя днi,—калi Кiрыла гаварыў свае „Словы". Гэтае пераконаньне слухачоў Кiрылы было так крэпка, што адбiлася на вуснай творчасьцi Крыўскага народу. Народ дагэтуль пераконаны, што ў ведамыя сьвяты па ўсей зямлi паўтараюцца зьвязаныя з iмi падзеi. Гэтак, на Каляды „Хрыстос выходзiць на зямлю i ходзiць па хатах", на Вадохрышча „вада калыхаецца" i г. пад.

Другi спосаб драматызацыi—дыялёгi дзеючых асоб. Прыкладам, у „Слове" на новую нядзелю па Вялiкаднi Хрыстос кажа да Тамы (ў перакладзе):

Падай руку тваю i глядзi прабiцьцё рэбр маiх i вер, што я сам тут. I раней патрыархi i прарокi верылi майму ўчалавечаньню... Даткнiся да мяне, што Я сам тут, як перш датыкаўся Сымэон i з верай прасiў адпушчэньня ў спакою. I ня будзь няверны, як Iрад, каторы, дачуўшыся аб маiм нараджэньнi, казаў валхвом: дзе Хрыстос родзiцца, хай я пакланюся яму, а ў сэрцы сваiм думаў забiць мяне... Дай палец твой i абач на рукi мае, каторымi я адкрыў вочы сьляпым, глухiм дараваў слух, а нямым вярнуў мову; глянь на ногi мае, каторымi я хадзiў па моры перад вамi; i яўна ступаў па паветру, зыходзiў ў падысподнюю i, патаптаўшы iмi пекла, iшоў з Кляопам i Лукой да Эммауса, i нябудзь няверны.

Тама адпавядае Хрысту:

Веру, Госпадзi, што ты ёсьць Хрыстос, Бог мой, аб каторым пiсалi правiдзiўшы духам прарокi, каторага празьвесьцiў ў законе Майсей, ад каторага адрынулiса фарызэi з сьвятарамi, над каторым насьмiхалiся жыды з кнiжнiкамi, каторага асудзiў на распяцьце Пiлат з Каяфам, але каторага Бог Айцец ўваскрасiў з мертвых. Бачу бок, з якога Ты вытачыў ваду i кроў—ваду, каб ачысьцiць анячысьцiўшуюся зямлю, кроў,—каб асьвяцiць iстоту чалавечую. Бачу рукi твае, ка-

торымі Ты тварыў ўсякае стварэньне, насадзіў рай, стварыў чалавека, каторымі благаславіў патрыархаў, каторымі памазаў цароў, каторымі сьвяціў пракакаў... І я, Госпадзі, веру, што ты ёсьць Бог.

Уасобленьне адвалочных паняцьцяў—такжа адзін са спосабаў красамоўства Кірылы Тураўскага. Гэтак, у „Словѣ на Вознесение" уасабляецца паганская царква, якая прадстаўлена быўшай пры ўзнясеньні Хрыста:

Тутжа была і паганская царква, як абручніца Хрыстова; бачучы Хрыста, узнёсшагася на неба, яна смуціцца, стогне сэрцам і кліча славамі Саламона: зранена я каханьнем тваім, жаніс нябесны.

У „Словѣ на Антипасху" Кірыла кажа аб нядзелі, як аб „царыцы дней". Гэткае уасобленьне зыходзілася з сьветаглядам слухачоў, пераконаных у тым, што нядзеля—гэта істота жывая, падобная да тых багоў, веры ў каторых яны яшчэ не пазбыліся.

Як практычны і добра павытараны ў красамоўстве, Кірыла ў сваіх творах ужывае такжа антытэзы, г. зн.,—процістаўляе адну чыннасьць другой, адну рэч—іншай рэчы. У „Словѣ на Пасху" Кірыла кажа:

Перад учарашнім днём Ісус Хрыстос, як чалавек, быў распяты, а як Бог, зацямніў сонца, месяц у кроў пераменіў, і цемра сталася па ўсей зямлі; як чалавек, ўсклікнуўшы, дух свой аддаў, але, як Бог, устрое зямлю, і камяні разсыпаліся; як чалавек, быў прабіты ў бок, але як Бог, раздраў заслону першага закону; як ягнец, праліў кроў з вадой замест ягняцоў колатых перш на жэртву, але сабой прынёс жэртву Богу Айцу за збаўленьне сьвету; як чалавек быў паложаны ў гроб, але, як Бог, асьвяціў аўтар паганскай царквы.

Сымвалізм у Кірылы Тураўскага бывае траякі: 1) сымвалістычнае тлумачэньне зьявішчаў прыроды, 2) сымвалістычнае тлумачэньне сьв. Пісьма і 3) сымвалістычнае тлумачэньне абрадаў.

Гэтак у „С л о в ѣ н а Ѳ о м и н о в о с к р е с е н і е" абнаўленьне прыроды вясной выабражаецца, як сымвал абнаўленьня чалавечай прыроды хрысьціянскай верай. Неба—апосталы; сонца—Хрыстос; месяц, які зьнікае пры сонцы,—стары закон, які уступіў Евангельлю; бурныя ветры—грэшныя помыслы; зямля—чалавечая натура; семя, якое вырастае на зямлі,—слова Божае і г. д..

Урэшце прыповесьці („Притчи") сустракаюцца ў творах Кірылы.

Вышэй пададзеныя асобнасьці прамоў і твораў Кірылы Тураўскага былі разлічаны не на шэрую народную гушчу, якая не магла-бы пасьцігнуць яго высокага стылю, а на дабраны круг высокаасьвечаных слухачоў, каторыя маглі быць толькі пры князю. Вышэй было згадана, што ў той час у Тураве бавіла нямала грэкаў, якія, адыйшоўшы ад прыдворнага Візантыцкага клуму, праводзілі тут у спакою час, сярод узгадаванай імі на грэцкай культуры мяйсцовай інтэлігенціі, вось на гэты прыдворны круг асьвечаных слухачоў і былі разьлічаны прамовы Кірылы Тураўскага.

ЖЫЦЬЦЕПІС СЬВ. ЕЎФРАСІНІ КН. ПОЛАЦКАЙ (+ 23. V. 1173 г.). Напісана мніхам Спаскага манастыра ў Полацку, для ігуменьні та-



Сьв. Еўфрасіня кн. Полацкая; паводле старой іконы.

го-ж манастыра, што можна бачыць са слоў жыцьцёпісу. „Игуменьи монастыря святаго Спаса и Пречистыя Его Матере, иже во Полотсцѣ градѣ. Благослови, отче“ (Рукапісны зборнік XVI ст. Троіцкай Лаўры, балонкі 206—225). У гэтым жыцьцёпісе сказана аб сьв. князёўне, што прабываючы ў „каменномъ голбцѣ“ пры цэркві сьв. Сафіі, „нача книги писати своима руками“. Жыцьцёпіс сьв. Еўфрасіні мае ў сабе шмат цікавых гістарычных данных, датычных гор. Полацка і духоўнага тагочаснага жыцьця ў ім, што паказуе на чыста мяйсцовае паходжаньне аўтора. Жыцьцёпіс гэты быў напісаны не пазьней канца XII ст.



Спаская царкоўка, будаваная сьв. Еўфрасініяй кн. Полацкай у палавіне XII ст. ў Сяльцы, каля Полацка.

Еўфрасінія, ў сьвеце Прадслава, была ўнучкай слаўнага полацка-крыўскага князя Ўсеслава Брачыславіча (+ 1101) і дачкой малодшага з сыноў Ўсеслававых—Юрья-Сьвятаслава. Змалку яна выказала гэткую ахвоту да навукі, што дзівіла сваіх бацькоў. А ў дванадцать гадоў, калі многа якія з акалічных князёў пачалі шукаць яе рукі, і бацькі думалі заручыць яе з найбольш годным, яна цішком уцякла ў адзін жаночы манастыр (як ён называўся,—няведама), дзе была мнішкай яе родная цётка, жана кн. Рамана Ўсеславіча. У гэтым манастыры Прадслава была падстрыжана ў мнішкі. Нейкі час маладая князёўна прабыла ў гэтым манастыры пад кіравецтвам свае цёткі. Пасьля упрасіла полацкага біскупа Ільлю, каб той пазволіў ёй жыць у келятцы, прыбудаванай да полацкай катэдры сьв. Сафіі *). Тут на адзіноце маладая мнішка перапісывала кнігі і плату, атрыманую за іх, раздавала бед-

*) Польскі гісторык Несецкі кажа, што полацкая біскупская катэдра з царквой і дзяволым манастыром на Верхнім замку заснавана каля 1000 году. Гэта самае паўтарае і другі гісторык Стэбельскі (Zywot SS. panien Eufrosinii i Parascewii), дадаючы, што катэдра Полацкіх біскупаў і царква на Верхнім замку заснаваны Валадзімерам сьв. або Ізяславам. Урэшце, аўтор „Степенной книги“ ў жыцьцёпісе справядлівай Еўфрасіні кн. Полацкай кажа, што ў часы Барыса, роднага

ным. Яшчэ пазьней біскуп падараваў ёй каля Полацка мяйсцовасьць, званую Сяльцо, з тым, каб яна заснавала тут манастыр. Манастыр у Імя Спаса хутка быў уладжаны пад кіравецтвам самой Еўфрасіні. У гэты манастыр паступіла і яе родная сястра Гардзіслава, ў мнішстве Эўдокія, а также— зродная сястра Еўфрасіні Зьвеніслава, ў мнішстве Эўпраксія; пазьней паступілі ў гэты манастыр дзьве пляменіцы Еўфрасіні, з якіх адна была названа Агатай, а другая Эўтыміяй. Еўфрасінія пабудавала ў сваім манастыры мураваную царкву ў імя Спаса, ў якой абапал хораў прыбудавала па аднэй цеснай келятцы, дзе і пасялілася на адзінокае жыцьцё. Аздобіўшы свой Спаскі манастыр і надзяліўшы яго ўсім патрэбным, Еўфрасінія заснавала непадалёк ад яго другі манастыр—мужскі, з мураванай царквой ў імя Пр. Богародзіцы. У гэтай царкве быў пастаўлены абраз Эфэскай Божай Маці, багата аздоблены, які на просьбу полацкай князёўны прыслалі ў Полацак грэцкі імпэратар Мануэль Комнін **) і патрыарх Лука Хрызовэрг. Для абодвых манастыроў Еўфрасінія напісала уставы. Пад канец жыцьця Еўфрасінія з другой сваёй сястрой і братам Давыдам адправілася ў Палестыну. Па дарозе пабывала яна ў Канстантынопалі. Дасьцігшы Ерузаліму, яна дала ў дар храму гроба Хрыстова залатую кадзільніцу. У Ерузаліме Еўфрасінія захварэла і пасьля 24 дзён хваробы памерла 23 мая 1173 году, маючы веку каля 50 гадоў. Еўфрасінію пасьля сьмерці кананізавалі і залічылі ў почат сьвятых праваслаўнай царкві.

КРЫЖ. СЬВ. ЕЎФРАСІНІ КН. ПОЛАЦКАЙ. У Спаскай цэркві ў Полацку захаваўся да нашых часаў крыж, спраўлены Еўфрасініяй. Крыж гэты зроблены з золата і аздоблены дарагімі каменьнямі і 20-цю міньятурнымі з эмаліі абразкамі. На крыжу ёсьць надпіс:

„+ въ лѣ S. N. XSΘ. (1161) покладаеть Офросинья чьсьтныи крстъ. въ манастыри своемь, въ цркви. стого спса. чьстьное дрѣво бесцѣньно есть. акованье его. злото. и серебро. и камѣнье. и жьнчигъ. въ. Р (100) гривнъ. а др.... М гривнъ. да неизнесѣться из манастыря. никогдаже яко ни продати. ни отдати. аще се кто прѣслоушаеть. изнесѣть и от манастыря да не боуди ему помощникъ. чьстныи крстъ ни въ сь вѣкъ ни въ боудщии. и да боудеть проклятъ с(в)тою животворящею троицею. и с(в)тыми отци T. U. NI. семию

дзядзькі Еўрасіні, які, як ведама, памёр у 1128 годзе. Полацкі біскуп Ільля уступіў ёй для манастыра мястэчка Сяльцо, якое прыналежала біскупскаму дому, і перадаючы сказаў: „есть там церьковь всемилостивого Спаса, идеже братія наша лежать, преже нас бывшыя епископи". З гэтага вывад,—што ў Ільлі быў папярэднікам не адзін біскуп Міна, але было іх некалькі, ня лічучы нават Нікіфара, пахаванага ў Кіяве. Тацішчаў і Мітр. Платон кажуць, што Мітрапаліт Нікіфар I, які пасьвяціў Міну Полацкага, сам быў пясьвячовы ў Мітрапаліты з Полацкіх біскупаў.

**) Дом Комніных быў ў сваяцкай сувязі з домам полацкіх князёў: цётка Еўфрасіні была замужам за сынам імпэратара Аляксеям.



Залаты крыж сьв. Еўфрасіні князеўны Полацкай, які па яе загаду зрабіў полацкі залатар Лазар Богша ў 1161 годзе.

съборъ с(в)тыхъ отць. и боуди емоу часть съ июдою: иже прѣда Хса. кто же дрьзнеть сътвори с.... властелинъ. или князь или пискоупъ. или игумѣнья, или инъ которыи любо члвкъ а буди емоу клятва си. офросинья же раба Хва. стяжавъши крстъ сии. приметь вѣчную жизнь съ всѣ... и с...“

У самым нізе крыжа напісана:

„ + ги помози рабоу своему лазорю нареченомоу богъши съдѣлавшемоу крьстъ сии црькви стаго спаса и офросиньи.“

Гэты шацоўны помнік крыўскай культуры XII ст., зроблены мяйсцовым полацкім майстрам Богшам, па мастацкасьці выконаньня не ўступае найлепшым гэтага роду помнікам Візантыцскім і заходна-эўропэйскім.

СЛОВЫ ЕФРЭМА СІРЫНА. Два рукапісы—адзін XII, а другі XIII ст. знаходзяцца ў бібліатэцы Троіцкай Лаўры, першы—пад № 12, а другі—пад № 7.

Ефрэм Сірын (ураджэнец Сірыі + 372 г.) пакінуў пасьля сябе многа догматычна-полемічных, маральных, аскэтычных і другіх рэлігійных твораў. У іх Ефрэм Сірын выказуе глыбокую веду сьв. Пісьма і вялікую вучонасьць. Акром вучонасьці, Ефрэм Сірын абладае і паэтычнай здольнасьцю: большая часьць яго твораў мае форму песьняў і вершаў. Не выдзяляючыся зьнешняй апрацоўкай, яго вершы маюць многа пачуцьця, пераважна—пачуцьця раскаяньня, мысьляў аб сьмерці і аб загробным судзе.

„Мінае дзень, сьледам за ім ідзе другі, і калі не гадаеш—сьмерць ужо стаіць над галавою тваей... Дзе мудрацы, якія напісалі кнігі і пісаньнямі сваімі напоўнілі сьвет? Дзе тыі каторыі дзівілі сьвет сваім словам і творамі, аваражывалі сваімі думамі?... Дзе тыі, каторыі пышыліся дарагімі шатамі, спачывалі на пурпуровых ложах. Дзе тыі, каторыі здзіўлялі сваей прыгожасьцю? Дзе рукі, якія аздабляліся пэрламі? Дзе тыі, перад загадамі якіі трухлелі і якіі паняволівалі зямлю страхам свае ўлады? Скажы зямлі, і яна пакажа табе, дзе яны; спытай магіл, і яны табе пакажуць, куды яны паложаны. Во, ўсе яны разам ляжаць у зямлі, ўсе абярнуліся ў прысок, і не разрожніш, дзе астанкі багатага і дзе парахно убогага“... „Бачыў я, як лачная магіла пажырае і заўсёды ня сыта; чым больш нябожчыкаў ў яе ўходзіць, тым шырэй разяўляецца яе пашча. Нязлічоныя тысячы ляжаць там і багатых, і бедных, нязлічоныя соймы бачыў я ляжачых там... Ціха ляжаць яны ў дамоўках...“

З твораў Ефрэма Сірына найбольшай папулярнасьцю карыстаўся „Парэнезис“. Гэта зборнік слоў і навук Ефрэма Сірына. З памешчаных тут слоў асабліва многа чытаны былі тыя, якія гаварылі аб сканчэньні сьвету.

„Трэба будзе вялікай натугі для верных, каб устаяць супроць цудаў і знакаў, якія ён (Антыхрыст) здзеіць, калі ў страшных відзежах пакажа сябе падобным Богу, будзе лётаць па паветры, і ўсе бе-

> сы, падобна анелам узьнімуцца перад мучыцелем... Хто ўстаіць супроць яго спакусаў, калі ўбачыць па ўсёй зямлі распашыраны невымоўны смутак, калі ўбачыць, што ўвесь сьвет у трывозе і што кожды бяжыць схавацца ў горах, і адны ўміраюць з голаду, другія таюць як воск, ад смагі? Кожды са сьлязьмі будзе пытацца другога: „Ці ёсьць дзе на зямлі слова Божае? “ І пачуе адповедзь: „нідзе!“ І многія паклоняцца мучыцелю, клічучы: „Ты наш збавіцель!“.

Словы Ефрэма Сірына былі перакладзены ў XI ст.; іх любіў чытаць Аўраамі Смаленскі, а такжа выбражаць адтвараныя імі фантазіі на абразох: „изо всѣхъ любя часто почитати ученія преподобного Ефрема и великого вселенныя учителя Іоанна Златоустого“ (Житіе Авраамія „Правосл. Собесѣдникъ“, 1858, ч. 3., балонка 142).

„ЗЛАТЫЯ ЧЕПИ“—зборник слоў Яна Златавуста. Жыцёпісьменнік Аўраамія Смаленскага ссылаецца на кнігу „Златыя чепи“, якую любіў, між іншымі кнігамі, чытаць Аўраамі Смаленскі. Кніга „Златыя Чепи“ дахавалася толькі ў сьпіску XIV ст. (Бібліатэка Троіцкай Лаўры, № 11), хоць 20 слоў Яна Златавуста, якія дахаваліся ў Супрасльскім рукапісе X—XI ст., становяць ужо часьць зборніка „Златыя Чепи“.

Творы Яна Златавуста (347—407), які атрымаў сваё названьне за надзвычайнае красамоўства, былі ў нас з першых часаў хрысьціянства вельмі распашыраны. Акром красамоўства, гэтаму распашыраньню яго твораў спрыялі надзвычайная яснасьць і прастата яго стылю. Навукі Яна Златавуста прасычаны любоўю да бліжняга: ён прагалошываў любоў да ворагаў і любоў да грэшнікаў, якіх ён умеў пацешаць і асаблівую любоў да бедных і паніжаных. Спачуцьцё Яна да бедных было так вялікае, што раз ён выказаў такую думку: „Бог не так хутка выслухае справядлівых, як бедных“...

„Златыя Чепи“,—гэта навукі на нядзельныя дні тыдняў Вялікага посту, яны паслужылі прототыпам „Златаустнікам“, г. зн. зборнікам казаньняў на Вялікі пост, а пазьней, наагул, ператварыліся ў зборнікі казаньняў.

„БЛАЖ. ИСИДОРА ПИЛУСІЙСКОГО РАЗУМИ“ У пэргамінным зборніку XII ст. Троіцкай Лаўры, пад № 12. Рукапіс пачынаецца словамі:

> „Яко печали съ благодарениемь търпящемъ многы грѣхы расыплють“ балонка 175: „Вѣрую въ единого Бога Отця нерожена и въ единого Сына рожена и въ единъ св. Духъ исходящь“.

„СКАЗАНІЕ О ХРИСТОСѢ И О АНТИХРИСТѢ“. Рукапіс канца XII ст. ў бібліатэцы Чудава манастыра. Перадрукаваны Новоструевым у кнізе „Слово св. Іпполита объ Антихристѣ“. (Масква, 1868 г.).

КАМЕННЫЯ КРЫЖЫ ПОЛАЦКАГА КН. БАРЫСА. Гэткіх камянёў з надпісамі і крыжамі захавалася некалькі ў Дзьвіне. На гэтым рысунку паказаны тры камяні. Першы з іх (што ўверсе рысунка) ляжыць пры



Дзьвінскія камяні кн. Барыса полацкага, жыў каля 1128 г.

самым беразе Дзьвіны пры сутоках яе з Павянужкай. Ў пяросярад камень мае 2 аршыны. На ім высечаны чатырохканечны крыж. Надпісы па бакох трудна вычытаць. Можна разабраць у пачатку: „Госпо“... і канец надпісі „помози“.

Другі камень (паказаны пасярэдзіне рысунка) так сама ляжыць у Дзьвіне, за 5 вёрст ад гор. Дзісны, наўпроць вёсак: з правай стараны Кавалёў, а з левай-Бярозаўкі. Камень у вышыню $2^1/_2$ арш., у даўжыню $5^1/_2$ арш. На гэтым камяні высечаны крыж, а абапал крыжа надпіс:

“Господи помози рабоу соему Борису.“

У 1818 годзе, калі ачышчалі дно Дзьвіны ад камянёў, гэты камень быў пашкоджаны ўзрывам.

Трэцьці камень (паказаны ўнізе рысунка) знаходзіцца ў двох вёрстах ад г. Дзісны, наўсупроць вёскі Балоткі, немаль на сярэдзіне ракі. Ен мае $3^1/_2$ арш. ўвышкі, $5^1/_4$ ўдоужкі і каля 8 сажняў ўнаўкол. На плосмай паверхні яго высечаны шасьціканечны крыж, абапал якога зроблены надпіс:

„Господи помози рабоу своему Борису“.

Чацьверты Барысавы камень знаходзіцца ў Высокім-Гарадцы, б. Сененскага павету. Гэты апошні камень ў 1880 годах быў панішчаны пры такіх варунках. Мяйсцовы праваслаўны сьвятар старэтныя славянскія літары прыняў за лацінскія, і, зразумела, прылажыў рукі каб помнік „польскасьці“ зьнішчыць. На гэтым камяні, акром звычайнай надпісі на барысавых камянях: „Господи помози рабоу своему Борису“, мелася яшчэ і другая зваротка, ад якой асталіся толькі: „многая..... енва.....“

На якую памятку паложаны гэты камяні нет ведама. Некатарыя гісторыкі дагадываліся, што гэта гранічныя камяні, але хутчэй за ўсё паложаны яны на памінаньне памершага. Дагэтуль у нас на кладках і мастох ёсьць звычай выразаць ступні ног. Кожды, хто праходзіць праз такую кладку ці мост, абавязан сказаць па адрэсу тых, што будавалі мост ці кладку: „Памажы Божа“.

Князь Барыс, сын Усеслава, кн. Полацкі, памер у 1128 годзе. Безумоўна, —надпісі гэтыя зроблены па яго загаду, а знача,—не пазьней першай чверці XII ст.

## УСТАЎНАЯ ГРАМАТА СМАЛЕНСКАГА КНЯЗЯ РАСЬЦІСЛАВА МСЬЦІСЛАВІЧА, ДАДЗЕНАЯ СМАЛЕНСКАЙ БІСКУПІІ Ў 1150 ГАДУ (30 ВЕРАСЬНЯ).

У гэтай грамаце Расьціслаў спярша сказаўшы, што ён, з волі бацькі свайго Мсціслава ўстанавіў ў Смаленску біскупію, якой перш не было, надае рожныя прывілеі новаму біскупу і яго саборнай царкве і устанаўляе крыніцы для утрыманьня іх. Гэткіх крыніц паказана пяць. Першая:

> „Се даю,—кажа князь,—св. Богородицѣ и епископу прощенники, съ медомъ и съ кунами и съ вирою и съ продажами, и ненадобѣ ихъ судити никакому же человѣку“.

Пад найменьнем „прощенниковъ“ тут разумеюцца, мабыць, нявольнікі, прошчаныя, або адпушчаныя на волю сваімі валадарамі:登становячы асобную клясу ў грамадзянстве яны аддаваліся цяпер князям пад загад біскупа. Другая крыніца—дзесяціна грашыма:

> „Се даю св. Богородицѣ и епископу десятину отъ всѣхъ даней смоленскихъ, что ся въ нихъ сходить истыхъ кунъ, кромъ продажи, и кромъ вири, и кромъ полюдья“.

Пасьля падробна вылічаецца, сколькі дані йшло князю з рожных мейсц смаленскай зямлі *) і сколькі павінна выдзяляцца бісупку з іх, так што агульна выходзіла для біскупа 308 грывень і 3 нагаты; аб некатарых толькі мяйсцох заўважана: „сколькі з іх дані няведама, але сколькі бы не прыйшло, дзесяціна біскупу“. Трэцяя крыніца — дзесяціна харчамі: князь дае сьв. Багародзіцы і біскупу дзесяціну ад усіх рыб, якія ішлі да яго з рожных мейсц і наагул,—ад усіх падобных даняў, вялікіх і малых, якія прыходзілі для князя і для княгіні са ўсей Смаленскай зямлі. Чацьвёртая крыніца—сёлы і землі і рожныя зямельныя ужыткі: князь надаў біскупу і саборнай царкве два сёлы—Дросенскае і Ясенскае з зямлёй і сяланамі („изгоями“); а ў іншых мяйсцох—толькі зямлю, вазёры з сенажацямі, гароды і з ўласнага двара акрэсьленую меру воску на асьвятляньне царквы. Урэшце, пятая крыніца—царкоўныя суды, за якія плата ішла ўся ў пажытак біскупскі, а часам дзялілася з князям або пасаднікам. Аб'екты гэтых судоў пералічаны ў гэткім парадку: развод, хто водзіць дзьве жоны, няпраўныя жанідзьбы, умыканьне дзеў (пры гэтым заўважана: „што возьме князь,—з біскупам папалам, або што возьме за суд пасаднік,—з біскупам папалам“), атручаньне і душагубства, бойка дзьвёх жон, ўсе праступкі людзей царкоўных і інш. У канцы граматы Расьціслаў упамінае ізноў аб аткрыцьці ім смаленскай біскупіі і кажа, што зрабіў гэту пастанову разам з біскупам сваім Мануілам, што ў суды біскупскія не павінен ніхто з сьвецкіх людзей умешывацца, што ці будуць зьмяншацца ці павялічацца князевы дані,—заўсёды дзесяціна з іх павінна выдзеляцца саборнай царкве, і заклінае каб ніхто і па яго сьмерці не зьмяняў гэтай устаўнай граматы і ніхто не асьмяляўся ў будучым закрыць новаадкрытай ім біскупіі і злучыць яе з Пераяслаўскай, як было перш. Грамату гэту пацьвердзіў сваей прыпіскай і грознымі закляцьцямі і Мануіл, першы біскуп Смаленскі.

Не глядзя на запэўненьні граматы і на мянаваньне біскупа Мануіла сябе першым Смаленскім біскупам, маюцца сьляды, што князь Расьціслаў толькі аднавіў біскупію, заснаваную ў Смаленску ў самых пачатках XI ст. Відаць, біскупія гэта была занянаўшы і нават злучана ў адно з Пераяслаўскай. У

*) У даны кругабег часу Суздальская зямля знаходзілася ў леннай залежнасьці ад Смаленска, што відаць са слоў граматы: „Суждалі залѣская дань, але воротить Гюрги, а что будеть въ ней, изъ того Святой Богородицѣ десятитна“.—Істнаваньне гэткай дані,—кажа акад. Шахматаў: („Къ вопросу объ образованіи русскихъ нарѣчій“ Ж. М. Н. П. ч. CCCXXII, 1899 г. б. 337, а такжа: Бѣляевъ „Какъ образовалось великорусское племя.“ Изв. антроп. отд. общ. любит. естествознанія I. М. 1865),—„як гэта ужо адзначана гісторыкамі, паказуе на залежнасьць Суздаля ад Смаленска і тлумачыцца тым, што перасяленцы ў зямлю Меры ішлі з зямлі Крывічоў“.

Іпаціеўскім сьпіску Пачатнага Летапісу пад 1101 годам чытаем: „въ се же лѣто Володимеръ заложи церьковь у Смоленьсцѣ святоѣ Богородицѣ камяну, епископью“.

Грамата перадрукавана ў „Дополненіяхъ къ Акт. Истор.“ Т. І, № 4. Вышэй пададзеная выпіска ўзята з „Истор. Русск. Церкви“ Макарія СПБ. 1868. Т. III, бб. 240, 241.



Камень Васіля (Рагвалода) Барысавіча 1171 г.

ЗАПІС КНЯГІНІ ЎДАВЫ ГЛЕБА ВАСІЛЬКАВІЧА МЕНСКАГА КІЯВА-ПЯЧЭРСКАМУ МАНАСТЫРУ, (да 1159 г.). (Срезневскій „Слав.-Русск. Полеогр.“). Князь Менскі Глеб памер у Кіяве, як палоннік кіяўскіх князёў, і быў пахаваны ў Пячэрскім Кіяўскім манастыры; ўдава запісам закупіла модлы за яго душу.

КАМЕННЫ КРЫЖ ПОЛАЦКАГА КН. РАГВАЛОДА 1171 г. Камень гэты ляжыць ў в. Дзятлаўцы, б. Аршанскага павету, пры даро-

зе з Друцка ў Оршу. На гэтым кямяні высечаны, пасярэдзіне, шасьціканечны крыж, абапал крыжа надпіс:

„іс хрс ни-ка сну борисову“ а наўкол крыжа:

„Въ лѣ(то) SХОД (6679—1171) мца мая въ 3 днь доспенъ кръ сиї ги помози рбу своему василию въ крщени именемь рогьволоду.“

Рагвалод-Васілі Барысавіч быў полацкім князям да 1160 году, але пасьля няўдатнага паходу на Менск быў выгнаны з Полацка і пасяліўся ў Друцку. У гэтым часе ім тут і „доспен“ гэты крыж.

ЧАРА КНЯЗЯ ВАЛАДЗІМЕРА ДАВЫДАВІЧА ЧАРНІГАЎСКАГА. Чара сярэбраная, пазалочаная з надпісам:

„а се чара кня володимерова давыдовча кто из нее пь тому на здоровье. а хваля Бога своего осподаря“.

Паўночна-заходная часьць Чарнігаўшчыны і цяпер заселена крывічамі (беларусамі). Праф. Карскі адносіць да этнографічна беларускага абшару 5 паветаў Чарнігаўшчыны: Старадубаўскі, Суражскі, Новазыбкаўскі, Мглінскі і Гараднянскі. У XII ст. граніца гэта ішла шмат далей на поўдзень, займаючы горад Любеч. Пасьля татарскай навалы жыхарства кіяўскіх зямель нахлынула на захад і поўнач. Дзеля гэтага помнікі Чарнігаўшчыны да XIII ст. прыналежаць безумоўна да помнікаў крыўскай культуры. А пасьля Андрусаўскага міру Чарнігаў стаўся мейсцам прыпынку для праваслаўных крыўскіх культурных і рэлігійных працаўнікоў, адкуль яны шырылі свае ўплывы за граніцу Рэчыпаспалітай.

АЎРААМІ СМАЛЕНСКІ (+ 1221 г.). Аўраамі радзіўся ў Смаленску з багатых бацькоў. Быў выхаваны „ў страху божым і научэньні кніжным.“ Па сьмерці бацькоў, ён раздаў ўсю іх маетнасьць царквам, манастырам і ўбогім, адзеўся ў зрэбьбя і хадзіў, як убогі і бажавольны, гэтак апавядае аб Аўраамію яго вучань Ефрэм. Пасьля Аўраамі паступіў у манастыр Прасьв. Багародзіцы, які быў у адлегласьці пяці вёрст ад Смаленска, ў Селішчы. Аўраамі, выпаўняючы рожныя манастырскія паслугі, аддаваўся чытаньню пісьма сьв. Айцоў, асабліва—Яна Златлавуста, Ефрэма Сірына, а такжа жыцьцёпісаў сьвятых: Антоняга Вялікага, Еўфімія, Савы, Тэадоса палэстынскіх і друг. Бачучы пабожнасьць і вучонасьць Аўраамія, ігумен перакагаў яго прыняць сьвятарскі стан і дазволіў яму прыймаць богамольцаў і гаварыць ім казаньні. Гэта было ў дні князя Мсціслава (1197—1215). Але хутка насталі для справядлівага дні напасьцяў. Некатарыя спаміж духавенства, заздросьцячы яго славы і таму, што яго высокая вучонасьць і красамоўства прыцягалі многіх, як мніхаў, так і сьвецкіх з гораду,—пачалі выдумляць на справядліўца рожныя няпраўды і рабіць яму рожныя непрыемнасьці, якія ён перанасіў з найвялікшай пакорай у прадоў-

жаньні 5-ці гадоў, не перастаючы працаваць сілай свайго слова. Урэшце і сам ігумен напоўніўся завісьцю да Аўраамія, забарэніў яму вучыць і нават выдаліў з манастыра. Тады справядлівы перайшоў у горад і пасяліўся ў бедным і малалюдным манастыры сьв. Крыжа. Тут яшчэ больш пачалі зыходзіцца да Аўраамія; манастырская царква заўсёды была поўна богамольцаў, жадаючых чуць яго навукі; многія прыносілі яму свае ахвяры, каторыя ён ужываў на прыаздобленьне царквы і раздзяляў брацьці і ўбогім. Заздрасьць і тут не пакінула справядлівага ў спакою: на Аўраамія паўстала немаль усё гарадзкое духавенства затое, што ён прыцягаў да сябе так многа народу. Аб Аўраамію сталі распускаць чуткі, што ён гэрэтык, чытае „голубіныя кнігі", жыве нячыста, прыкрываючыся зьнешняй сьвятасьцю, і, урэшце, паднялі такую замутню ў народзе, што ўсе жыхары гораду зьвярнуліся да біскупа Ігната і прасілі паддаць суду Аўраамія. Біскуп паслаў па яго сваіх слуг, і ў той час, як слугі ганьбячы валаклі справядліўца па вуліцах, адзін справядлівы мніх, па імю Лукаш Прусін, адбываючы дзевяты час малітвы ў манастыры Арханела Міхайлы, чуў з неба голас, што Аўраамі бязвінна пакутуе. На біскупскім судзе пры бытнасьці самога князя аказалася, што ўсе абвінавачаньні, якія закідаліся Аўраамію, былі няпраўдай.



Сьмерць Тэадоры; з іконапісных тэм Аўраамія Смаленскага.

Але, каб супакоіць узбураны народ, біскуп Ігнат загадаў Аўраамію выдаліцца ў Богародзіцкі мананастыр, дзе ён быў пастрыжаны, і забараніў яму адбываць царкоўную службу. За некалькі дзён адзін смаленскі сьвятар, па імю Лазар, які пасьля быў смаленскім біскупам, прыйшоў да Ігната і сказаў, што горад будзе строга пакараны за несправядлівую напасьць на божага чалавека. Страшная посуш, якая сталася ў зямлі смаленскай, апраўдала гэту прапаведню. Дарэмна жыхары маліліся і хадзілі крыжовым ходам наўкол гораду: дождж ня было. Тады біскуп, паклікаўшы да сябе Аўраамія, пазволіў яму рабіць духоўныя адправы, і прасіў у яго дараваньня сабе і ўсяму гораду ды прасіў памаліцца

аб сасланьні дожджу. Справядлівец Божы, пакорна высказаўшы сваю недасканальнасьць, не адмовіўся, аднак, выпаўніць архіпастырскі загад. І перш, чым ён дасьцігнуў свайго манастыра, сільны дождж напаіў засмагшую зямлю. Усе ўбачылі ў гэтым сілу малітвы справядліўца і сьпяшылі выпрасіць у яго дараваньне. А біскуп Ігнат, пабудаваўшы каля гораду новы манастыр у чэсьць палажэньня рызы Прасьв. Багародзіцы, даручыў ігуменства ў ім Аўраамію і ўшанаваў яго сваей прыязьню. Як і перш, пачалі сходзіцца да яго баяры і просты народ, багатыя і убогія, каб слухаць яго навукі. Многа было жадаючых паступіць у яго манастыр, але справядлівы прыймаў з вялікім пераборам і то—пасьля толькі папярэдніх выпрабаў, так што, ў яго лічылася ўсяго 17 чалавек брацьці. Аўраамі перажыў свайго прыяцеля і дабрадзея біскупа Ігната, і пасьля пяцідзесяцілетняга мнішага жыцьця, спакойна апачыў ў Богу.

Як відаць з павыжшага, жыцьцёпіс Аўраамія не дае безпасярэдных дат, але, паводле прыблізнага ліку, Аўраамі жыў у XII і першай чверці XIII ст. Жыцьцёпіс апавядае, што Аўраамі жыў пры біскупе смаленскім Ігнаце і яго наступніку біскупе Лазару, а Лазар быў смаленскім біскупам у першай чверці XIII ст., што відаць з пасланьня сучасьніка яго, Сымона, да Палікарпа („Пам. Росс. Слов.“ XII в., бал. 255). Сам Ігнат упамінаецца ў летапісах пад 1206 г. (Карамз. III. увага 11). Гаворыцца яшчэ ў жыцьцёпісе, што Аўраамі стаўся іераманахам у дні смаленскага князя Мсціслава, а князь Мсціслаў Раманавіч панаваў у Смаленску ад 1197 да 1215 году.

Што ў асобе Аўраамія Смаленскага ўсходняя славяншчына мае аднаго з найвыдатнейшых культурных дзеячоў канца XII ст.,—можна мяркаваць са зьменак аб ім яго жыцьцёпісьменніка Ефрэма і другіх старасьвецкіх пісьменнікаў. Аўраамі Смаленскі быў „хитръ божественнымъ книгамъ и вся вѣдый и проходя“, так што ніхто не важыўся перад ім „от книгъ галаголати“. Сам Аўраамі любіў з вялікай пільнасьцю займацца чытаньнем і перапіскай кніг: „отъ всѣхъ избирая и списая ово свою рукою, ово многими писцы“. Яму была дадзена прасьвяда Божая „не токмо почитати, но и протолковати, яже мнозѣм не свѣдущимъ, и отъ его наказанія разумети всѣм, и слышащимъ къ сему изъ устъ и памятію сказах.“ (Жыцьцё прэп. Аўраамія. Рукапіс Ноўгар. Соф. бібл., XVI, бал. № 322). Аўраамі быў ня толькі письменнікам, але і мастаком малярам.

Акром гэтага, з жыцьцёпісу Аўраамія чэрпаем важную вестку аб тым, што ў яго часы існавалі ўжо ў Смаленску правільна сарганізаваныя школы для дзяцей: калі Аўраамі падрос, бацькі яго „даста и книгам учити“, што ён „не увываше, якоже прочая дѣти, но скорымъ прилежаніемъ извыче, сему же на игры со инѣми не исходяше“.

Аўраамію Смаленскаму прыпісуюць „С л о в о о н е б е с н ы х ъ с и л а х ъ, ч е с о р а д и с о з д а н б ы с т ь ч е л о в ѣ к ъ“. („О словѣ, приписываемомъ Авраамію“.—Изв. Акад. Наукъ VIII, 326; IX, 182—192).

Д в а н а д ц а ц ь с л о ў, я к і я з а х а в а л і с я ў П р а л о г у Н о ў г а р. Соф. б і б л і а т э к і, пісаным не пазьней 1250 году, і ў другім Пралогу тэй-жа бібліатэкі XIII—XIV ст.: пяць слоў на конадні вялікіх сьвят і

сем—на самыя сьвяты. Усе дванадцаць гэтых казаньняў вельмі кароткі і напісаны з асаблівай прастатой: відаць, што яны дапасаваны да паняцьцяў хрысьціянаў, яшчэ нядаўна навернутых, якімі і былі тады нашы прадзеды. Чытаючы гэты навукі, прыходзіш да мысьлі, што ўсе яны ўложаны неякім адным пісьменнікам і паводле аднаго стылю, тым больш, што навукі на перадсьвяточныя дні нават пачынаюцца аднымі і тыміж словамі: „ад есте вѣдуще, братіе, яко въ сій день“... (Ист. Русск. Церк. Митр. Макарія Т. III, 212).



Страшны суд; з іконапісных тэм Аўраамія Смаленскага.

„Слово о мытарствах и страшном судѣ“. Надрукавана ў Калайдовіча ў „Пам. Росс. Словес., XII в.“ і прыпісана Кірылу Тураўскаму („Истор. Русск. Слов.“ Лекціи Шевырева. ч. III, 1858 г., які робіць папраўку да Калайдовіча).

„Сказанія о загробной жизни“ (Рукаісны зборнік бібл. Уварова XVIII ст. № 823). Гэты апошні зборнік дайшоў да нас у вельмі позным сьпіску, але зьяўляецца нязьмерна цікавым помнікам таму, што зложаны з міньятур з кароткімі апавяданьнямі аб выхадзе душы з цела і аб напаветравых мытарствах, сьведчучы нам, што да апошняга часу іконапісныя матывы, якія апрацовываў Аўраамі Смаленскі, карысталіся папулярнасьцю ў прадоўжаньні многіх стагодзьдзяў. (Буслаевъ, „Истор. очерки Рус. Нар. Словес.“ Т. II, 120).

Для прыкладу падаемо паводле Буслаева некалькі артыкулаў з гэтага зборніка:

„Исход душы праведного“. Анел прыходзіць па душу з радасьцю і бярэ з чэсьцю, благаслаўленьне бывае душы тэй, дьявал-жа ўцякае з сорамам ад таго мейсца.

„Исход душы грѣшного“. Тады анел-вартаўнічы душы тэй стаіць засмучаны і плача, дьявал прыйшоўшы радуецца і паказуе сьпіскі вялікіх спраў яе.

„У трэцьці дзень усходзіць душа пакланіцца Хрысту, і дзеля таго творым памяць за памерших.“

„Два дні душа бывае ношана па зямлі дзе хоча, або дамоў, або назад.“

„Трацьціны чынім, бо ў трэцьці дзень чалавек выглядам перамяняецца.“

„Дзевяціны чынім, бо ў той дзень ўсё цела распадзецца, толькі адно сэрца цэлае.“

„Саракавіны чынім, бо ў той дзень і само сэрца гіне і косьці распадаюцца.“

„Пасьля загадае Госпад анелу паказаці душы тэй рожныя райскія прыгожасьці і жылішчы сьвятых. Калі справядлівая душа, то радуецца, а калі грэшная, то вельмі смуціцца, што гэткай шчаснасьці пазбаўлена.“

„ Калі сьвятар адпраўляе паніхіду і моліцца аб атрыманьні тэй душы мейсца сьветлага і мейсца супакойнага, тады анел-вартаўнічы радасна на неба ўсходзіць.“

„І ўзышоўшы на неба, запісуе імя тое ў вечных сялібах.“

„Тады анел Госпадаў сходзіць ў цёмныя мейсцы і зносіць душы тэй сьвятло нябеснае і асьвятляе яе.“

„Калі сьвятар адпраўляе літургію і памінае імя памершага, тады анел Божы стаіць з радасьцю.“

„У Дзевяты дзень па сьмерці ўсходзіць справядлівая душа на неба пакланіцца Хрысту, і анелы сустрачаюць яе на першым небе з радасьцю і пачнуць душу хваліць, мовячы: шчасьлівая ты душа. Бо жыла ты паводле закону Божага, і цяпер прыходзіш у вечны пакой. І радасна душа тая.“

„Также ўсходзіць і грэшная душа на неба пакланіцца Хрысту. Сустрачаюць яе анелы з плачам, мовячы: О многагрэшная душа і праклятая! жыла ты на зямлі не па закону Божаму, цяпер-жа ідзеш на вечныя мукі. І смутная бывае душа тая.“

„У саракавы дзень душа грэшная ўсходзіць на пакланеньне Хрысту, і гнеў Божы прыходзіць на душу тую, і шасьцікрылатыя хэрубімы закрываюць аблічча Божае, і рызамі аўтар Божы, ня хочучы паказаць славы аблічча Госпадавага. І выганяна бывае душа тая агністым мячом.“

Да кождага артыкулу маецца тагож зьместу рысунак-мініятура, адтвараючая ў наіўных абразох гэту хрысьціянскую паэму аб блуканьні душы па выхадзе яе з цела.

У расійскай літэратуры многа разоў было гаворана аб мастацка-малярскіх здольнасьцях Аўраамія Смаленскага. Тэмы, якія выбіраў гэты сьвяты муж для сваіх іконапісных твораў, былі самымі папулярнымі ў сярэднавеччы і ў нас і на Захадзе: гэта страшны суд і загробнае жыцьцё памершых, або на-

паветраныя мытарствы душ. Тая і другая тэма вельмі падробна вылажаны ў жыцьцёпісе Васілія Новага, які (жыцьцёпіс) з першых дзён хрысьціянства быў распашыраны між нашымі продкамі і меў уплыў на нашага смаленскага іконапісца.

У апавяданьні аб „Мытарствах“ (г. зн., граніцах, дзе бяруць мыта) выводзіцца пабожная жанчына Тэадора, якая дасьцігшы глыбокай старасьці, памёрла. Аўтор яе вельмі паважаў і пасьля яе сьмерці мучыўся пытаньнем, што сталася з душой Тэадоры. Раз у ночы Грыгораму паказалася відзежа. Нейкі маладзён павёў Грыгора ў жытлө Тэадоры, і Тэадора сама расказала Грыгораму, як яна перайшла сьмяротную муку і як абмінула напаветраных напасьнікаў, г. зн.,—бесаў. Вось яе апавяданьне:

> Як я магу павядаць табе ўсё тое і як выабразіць ў розуме сваім? Са страху і дрыжаньня шмат што забылася: бачыла я відовішчы, якіх перш ніколі ня відзела, чула я словы, якіх да туль ніколі не чувала. Як разкажу я табе аб муках цялесных, аб вялікай бядзе і нудзе, якую церпяць уміраючыя? Ведай жа: хто нагі уходзіць у страшны агонь і згарае, памалу палены распадаецца; гэткая і боль сьмяротная, і люта разлучэньне душы з целам. Калі прыблізілася я да канца жыцьця,—ўбачыла, як прыступіла да майго ложа многа зьверападобных эфіопаў. Страшна глядзелі яны на мяне сваімі касавурымі і крывавымі вачыма; абліччы іх былі выкрыўлены, а самі чорныя, горш смалы. І трымалі яны аграмадныя зьвіткі сьпісаныя і адвівалі іх, усяк пужаючы мяне. Калі была я ў гэткім неапісаным помірсе і ніадкуль не спадзявалася сабе ратунку, раптам станулі перада мной двоя прыгожых маладзікоў, у залатых вопратках, з белымі, як сьнег, валасамі. Я невымоўна ўсьцешылася, і адзін з гэтых сьветлых маладзікоў, грозна зьвярнуўшыся да тых амярочных праклятых, сказаў ім, каб яны адступіліся, таму што нябудзе тут ім здабычы. Але яны, бязстыднікі, сталі вылічаць ўсе мае грахі з першых дзён моладасьці і да сьмерці і многа мяне зьневажалі і напасьць чынілі. Пасьля прыйшла сама сьмерць, сьмерць як леў рыкаючы, помірсна-страшная, але чалавечай будовы. І насіла яна на сабе ўсякае знадабьбе—і мячы, і нажы, пілы, сярпы, стрэлы і іншыя многія няведамыя прылады, якімі яна мучыць. Убачыўшы гэтае страшнае відовішча, спамерсла душа мая, а маладзён сказаў сьмерці: „Што марудзіш? Развяжы зьвязі!“ Тады сьмерць падышла да мяне і ўзяўшы малы аскордзец, стала адсякаць мне ногі, пасьля рукі, а іншай прыладай другія мае цялесныя суставы, а іншай іншыя, і так разарвала ўсе зьвязі і чэлясы цела майго і двадцаць пазнокцяў маіх раздзерла. І амярцьвела ўсё цела маё, і ня мела я ўжо ні рук, ні ног і не магла рухацца. Пасьля, узяўшы сякеру, адцяла мне галаву. Пасьля сьмерць наліла нечага ў кубак і дала мне піць. О, сын мой Грыгоры! Як горкі быў той кубак! Так горкі, што ў той-жа момант вырвалася душа мая і скочыла з цела, як птушка з рук лаўца. Тады тыя двоя прыгожых маладзікоў прынялі мяне вопраткамі на свае рукі. І зірнула я назад і ўбачыла цела маё, якое ляжала бяздушна і непарушна і бязпочаўна; бытцам хто, скінуўшы з сябе вопратку, рынуў яе і стаіць, узіраючыся.

Пасьля гэтага павялі маладзікі душу Тэадоры па мытарствах. Першае мытарства абмовы і другое насьмешкі былі шчасьліва пройдзены. Трэйцяе

мытарства зайздрасьці також мінулі. У пятым пробавалі Тэадору ў гневе і лютасьці. У шостым — гордасьці — нічога не знайшлі, бо Тэадора была убогай рабыняй. Сёмае — пустаслоўя. Урэшце, апошняе, — двадцаць другое, — і душа Тэадоры, мінуўшы гэта, трапіла ў краіну шчасьця і радасьці.

У гэтым самым стылю апавяданьне аб страшным судзе.

СЛОВА АБ ПАЛКУ ІГАРА. Повесьць гэта знойдзена была ў канцы XVIII стагодзьдзя ў рукапісным зборніку другой палавіны XVI ст. У часе пажару Масквы ў 1812 годзе, зборнік са „Словам аб палку Ігара“ згарэў. З таго часу другога старога сьпіску „Слова“ ня знойдзена, і да нашых часаў дайшло яно толькі ў одпісе, зробленым для царыцы Кацярыны і ў першадруку, выданым з арыгіналу ў 1800 годзе.

„Слова аб палку Ігара“, гэта знача — повесьць аб паходзе князя Ігара на Полаўцаў. Паводле маючыхся ў ім данных, было напісана ў 1187 годзе. Ці вышэй пададзены агаловак быў паложаны самім аўтарам, ці прыпісаны пазьнейшымі перапісчыкамі, — нет ведама. У тэксце аўтор называе гэты свой твор повесьцю і песьняй ды зраўнівае яго з былінамі ранейшых часаў.

Паводле свайго зьместу і формы, гэта ёсьць героічная паэма, пісаная прыпадковымі рымамі.

Апавядаецца ў гэтай паэме аб няўдатным паходзе аднаго з рускіх (варажскіх) князёў на Полаўцаў і аб уцёку яго з палавецкага палону. Полаўцы — качавы народ, які меў свае качоўі ў палёх (стэпах) паміж Донам і Дняпром. Зьявіліся яны ў палавіне XI ст., выціснуўшы спярша качаваўшых там Печанегаў, і, ў свой чарод, самі былі вынішчаны татарскай навалай. Як тагочасныя рускія, так і палавецкія князі і іх дружыны галоўнай крыніцай свайго дабрабыту лічылі грабежніцкія напады на суседзяў. Дзеля гэтага Полаўцы часта нападалі на славянскія землі, ў якіх панавалі русы (варагі), і, наадварот, Русы нападалі на Полаўцаў. Адзін з падобных нападаў Русаў на Полаўцаў і паслужыў тэмай аўтору „Слова.“ Кіяўскі князь Сьвятаслаў Ўсеваладавіч, з роду чарнігаўскіх князёў, у 1183 і ў 1184 годах зрабіў два ўдатныя напады на Полаўцаў. Зайздросьцячы яму здабычы і славы, адзін з тыхжа чарнігаўскіх князёў, князь Ноўгарад-Северскі, Ігар Сьвятаславіч, паставіў разбагацець на палавецкіх здабычах, і, ціхачом ад другіх рускіх князёў, у 1185 годзе выступіў са сваімі сваякамі ў паход. Першая стычка з Полаўцамі была вельмі ўдатнай: „узорачамі палавецкімі і кажухамі гацілі гаці праз балоты“. І каб Русы з гэтай дабычай уцяклі, ўсё было-бы добра, вярнуліся-бы дамоў са славай і здабычай, але яны асталіся на полі пабеды начаваць. За ноч Полаўцы змоцніліся, сабралі больш людзей дый акружылі ў стэпах Русаў. Гэты апошнія пастанавілі адступаць з боем і першы дзень дружына Ігарава білася добра, але на другі дзень пусьцілася наўцёкі. Ігар хацеў іх стрымаць, але адбіўся ў старану і быў злоўлены Полаўцамі разам з іншымі трымя князямі. Дружыны іх былі часьцю перабіты, часьцю трапілі ў палон. З усей дружыны здолела ўцячы з поля бітвы ўсяго толькі каля 30 чалавек. Пасьля гэтай перамогі Полаўцы зрабілі адначасова два напады на славянскія землі: на парэчча ракі

Сойма ў Чарнігаўшчыне і на Пераяслаўль-Чарнігаўскі. Тым часам Ігар, пры дапамозе аднаго полаўца, уцёк з палону і вярнуўся ў свой Ноўгарад.

Аб „Слове“ маецца аграмадная літэратура ва ўсіх славянскіх мовах і побач з гэтым многа рожнаякіх на яго поглядаў. Адны хочуць у ім бачыць народны твор і тэндэнцыйна падтасовуюць не саўсім пэўныя народныя звароткі песьняў ды шукаюць аналёгіі ў адрыўках летапісаў. Другія дабачаюць у ім праяву націянальнага генія, разумеецца-ж—сваей нацыі. Урэшце, стараюцца гэты твор прысвоіць сабе ня толькі Расійцы, але нават Палякі і Чэхі. Падставу да гэтага дае архаічная мова помніка.

Адкінуўшы ўсякія мяркацыі, навеяныя фальшыва-патрыётычнымі пабудкамі, трэба прызнаць, што „Слова аб палку Ігара“, не зьяўляецца творам народным. Гэта ёсьць тыповая песьня князёўскага трубадура ў пахвалу князю. Абычаям тых часаў князі Варагі, што панавалі над славянскімі землямі, трымалі пры сабе трубадураў, якія павінны былі чыны іх апяваць. Гэткі трубадур ішоў разам з князям на вайну, прыглядаўся да ўсяго і сьпісываў пасьля вершам пахвалу свайму князю. У XI—XII ст. на захадзе, як і ў нас, пісьменнасьць была немаль выключна духоўная, і, там і ў нас, адзінай сьвецкай пісьменнасьцю былі песьні, выслаўляючыя чыннасьці рыцараў. Князі-Русы былі патомкамі Норманаў і яны ў сваіх паступках стараліся ва ўсім патвараць заходна-эўропэйскаму рыцарству. А як на захадзе рыцар не бываў без пяўца дык і нашы князі такжа трымалі ў сябе пяўцоў. Сьляды істнаваньня трубадурнай паэзіі знаходзім у старасьвецкіх помніках пісьменнасьці. У Валынскім летапісу пад 1201 г. аўтор праўдападобна мае на ўвазе падобную песьню аб Валадзімеры Манамаху. Даніла Заточнік падае словы з падобнай песьні аб Сьвятаславе, калі кажа: „Сьвятаслаў князь (сын) Ігараў, ідучы на цара з малаю дружынаю мовіў“... Калі у 1251 г. Даніла Раманавіч Галіцкі з братам Васількам вярнуліся з перамогай з ятвяжскага паходу, то: „пѣснь славну пояху има“ і г. д.

Гэта трубадурская паэзія ў славянскай пераробцы дала аснову былінам, якія перайшлі ў народ і сталіся аб'ектам пераробак і дапаўненьняў. Аўтор Слова а палку Ігара, акром сучасных яму князёў, упамінае ў сваей повесьці яшчэ ранейшых: Мсціслава (+ 1033), Яраслава (+ 1054), Сьвятаслава (+ 1076), Рамана (+ 1079), Ўсеслава (+ 1101), Алега (+ 1115), пры гэтым, гаворачы аб гэных ранейшых князёх, у некалькі мяйсцох сваей паэмы ссылаецца на Баяна, ранейшага за яго пяўца.

Гэткім чынам у „Слове аб п. І.“ мы маем зьлітак дзьвёх паэм: старэйшай—канца XI ст., і навейшый—XII ст., аўторам якой зьяўляецца невядомы па імю трубадур. Для нас найбольшую цікавасьць становіць часьць, у якой упамінаюцца крыўскія князі: Усяслаў Полацкі, Ізяслаў сын Васількаў, Брачыслаў і Усевалад, ўнукі полацкага Ўсеслава, а такжа—гарады: Полацк, Менск, Горадня. Гэтыя зьменкі абыймаюць 6 абзацаў, якія тут і падаемо:

1. „Тогда пры Олзѣ, Гориславличи *) сѣяшется и растяшать усобицами; погибашеть жизнь Дажль-Божа внука, въ княжихъ крамолахъ

*) Рагнеду празывалі Горыславай, а яе патомства, полацкіх князёў—Горыславічамі.

вѣци человѣкомь скратишась. Тогда по Руской земли рѣтко ратаевѣ кикахуть; нъ часто врани граяхуть, трупія себѣ дѣляче; а галици свою рѣчь говоряхуть, хотять полетѣти на уедіе".

2. „На немизѣ снопы стелють головами, молотять чепи харалужными, на тоцѣ животъ кладуть, вѣють душу отъ тѣла. На Немизѣ кровави брезѣ не бологомъ бяхуть посѣяни, посѣяни костьми рускихъ сыновъ.

3. Всеславъ князь людемъ судяше, княземъ грады рядяше, а самъ въ ночь влъкомъ рыскаше: изъ Кыева дорыскаше, до куръ, Тьмутороканя; великому Хърсови вълкомь путь прерыскаше. Тому въ Полотьстѣ позвониша заутреннюю рано у святыя Софеи, а онъ въ Кыевѣ звонъ слышаше. Аще и вѣща душа въ друзѣ тѣлѣ, нъ часто бѣды страдаше. Тому вѣщій Боянъ и пьрвое припѣвъку смысленый рече: ни хытру, ни горазду, ни птичю горазду суда божія не минути".

4. „На седьмомъ вѣцѣ Трояни връже Всеслав жребій о дѣвицю себѣ любу".

5. Усеслаў „скочи къ граду Кыеву, и дотчеся стружіемъ злата стола Кіевскаго".

Але цяпер ў часы нашага пяўца, пры Усеслававых унуках:

6. „Двина болотомь течеть онымъ грозным Полочаномъ под кликомь поганых. Единъ же Изяславъ сынъ Васильковъ, позвони своими острыми мечи о шеломы литовьскыя, притрепа славу дѣду своему Вьсеславу, а самъ подъ чьрлеными щиты на кровавѣ травѣ притрепанъ литовьскыми мечи... И рекъ... „Дружину твою княже, пътичи крилы пріодѣша, а звѣри кровь полизаша". Не бысть ту брата Брячислава, ни другого Вьсеволода: единъ же изрони женьчюжьну душю изъ храбра тѣла, чресъ злато ожереліе. Уныли голосы пониче веселіе, трубы трубять городеньскыя. Ярославе и вьси внуци Вьсеславли! уже понизитѣ стягы своя, вонъзише своя мечи вережены; уже бо выскочисте изъ дѣдьней славы. Вы бо своими крамолами начасте наводити поганыя на землю руськую, на жизьнь Вьсеславлю...

Гэтыя шэсьць абзацаў абыймаюць два перыёды крыўскай гісторыі: часы князя Усеслава (XI ст.) і часы яго ўнукаў (XII ст.). Перамены значныя; гэты ўпадак аўтор прыпісуе віне самых-жа полацкіх князёў, што не хацелі яднацца з Русамі, і, бароначы незалежнасьці, бытцам сталіся прычынай няўпынных і зацятых войнаў.

З усіх княжых іменаў XI ст. найбольш увагі ў „Слове" дадзена князю Усеславу Полацкаму, але гэта зьяўляецца перасьпевам слоў ранейшага Баяна, які жыў за часоў тых слаўных князёў і памятаў першыя часы усобіц: „помняшеть бо рѣчь първых временъ усобицѣ". Гэтак сама ўсе мітычныя намёкі „Слова" напэўна адносяцца „къ старымъ словесамъ", прадстаўнікам якіх для пазьнейшага аўтора быў Баян са сваімі замышленьнямі. Новы пявец называе Баяна салаўём старых часаў, які зьвівае славу абапал бягучага часу, ўзлятаючы пад аблокі, пераскаківаючы па мысьленаму дрэву ад старых мітычных часаў да часу бягучага. Абразамі і слоўнікам, а галоўна—мэтафарамі Баяна, пяўца полацкага князя Усеслава,—карыстаецца аўтор новай повесьці, апяваючы няўдалы паход князя Ігара. Але і гэтаму пяўцу князя Ігара, які жыў у

часы Усеслававых ўнукаў, добра ведамы справы на крыўскіх землях, як Полацкіх, так Горадзенскіх і Чарнігаўскіх. І дзеля гэтага саўсім слушна кажа Безсонов („Бѣлорусскія пѣсни". Москва, 1871, б. XIX): „ťварэц Слова аб Палку Ігара, ураджэнец, выхадзец або нават жыхар Беларускага краю". Бо толькі выхадзец або жыхар краю мог так горача апяваць мясцовых герояў, хоцьбы і на былінах старых часаў, і так добра быць пасьвячоным у мясцовыя падзеі і інтэрасы.

Гэткім чынам „Слова аб Палку Ігара", будучы помнікам не народнай, а дружыннай паэзіі, дзякуючы яго паўстаньню на нашай тэрыторыі і апяваньню ў ім падзей з нашай гісторыі, павінна быць залічана да помнікаў крыўскай пісьменнасьці.

МЭДАЛІ—ЗЬМЕЯВІКІ. Увесь сьветагляд Крывічоў да прыняцьця хрысьціянства быў не хрысьціянскі, а паганскі; але гэты сьветагляд быў народны. Хрысьціянскі-ж сьветагляд быў наадварот не народны (калі і былі ў ім рысы нацiянальныя, то прыналежалі яны чужой народнасьці, перш за ўсё—грэка-візантыцкай і тым, каторыя уссалі ў сябе гэтае грэка-візантыцтва). Гэткім чынам, з прыняцьцем хрысьціянства пачаўся ў нас выпрацовывацца новы, хрысьціянскі сьветагляд на падвойнай аснове: на стараветна-народнай і



Мэдаль-зьмеявік XII ст., з Менскага Палесься.

хрысьціянскай. Зрэшта ў першыя часы да хрысьціянства належала толькі горстка гарадзкога жыхарства, шырокія масы толькі за некалькі сот гадоў маглі пранікнуцца хрысьціянствам і то—галоўным чынам зьнешнімі яго формамі, ўліваючы ў гэты зьнешнія формы паганскі зьмест. Хрысьціянскія сьвяты прыймаліся гэтай шырокай масай па аналёгіі з паганскімі сьвятамі, хранолёгічна блізкімі з першымі. На хрысьціянскіх сьвятых пераносіліся рысы паганскіх багоў: гэтак на прарока Ільлю, дзень якога сьвяткуецца 20 ліпня, перанесены былі рысы Пяруна, бога грому; на сьв. Юрья (23 красавіка),—рысы Ярылы; на сьв. Власія—рысы бога Велеса і г. д.

Паганства ў асобе валхвоў, чараўнікоў, варажбітаў доўга змагалася за сваё існаваньне, аб гэтым сьведчаць адрыўкі летапісаў. Але ў паганства было што раз менш кіраўнікоў, і яно павінна было адступаць перад граматным хрысьціянскім духавенствам. Адступаючы, паганства мяшалася з хрысьціянствам. Прапаведнікі-грэкі, а пасьля і духавенства мясцовага паходжаньня на працягу некалькіх першых стагодзьдзяў грамяць „христіан двоевѣрно живущих", асуджаюць тых, хто мае па дзьве жаны; гоняць за тое, што жон бяруць з танцамі, музыкай („плясаніем и гудѣніем") і покляскамі; абураюцца тым, што складаюць жэртвы балотам, калодзязям і бесам (г. зн.—паганскім багом). Але гэтыя пропаведзі былі бязсільны: паганскі сьветагляд быў у цеснай сувязі з жыцьцёвым укладам народных гушчаў.

Мэдалі-зьмеявікі паходзяць з кругабегу часу „двоеверства", калі і хрысьціянства прыймалі і паганскіх багоў не выракаліся. Гэткія „зьмеявікі" найбольш знаходзяць на Палесьсі. На аднэй старане такога „двоевернага" мэдалю бывае зазвычай выбражэньне фігуры (ці фігур) сьвятога (або сьвятых), а на другой старане—мітычнага зьмея і зазвычай надпіс з жаданьнем шчасьця таму, хто яго носіць. Пададзены тут на рысунку бронзавы мэдальзьмеявік, знаходзіцца ў Беларускім музэі імені Івана Луцкевіча, ў Вільні. Знойдзены ён у Менскім Палесьсі і адносіцца да XII ст.



Канцоўка з крыўскіх рукапісаў XV—XVI ст.



Застаўка з рукапіснага Евангельля, знойдзенага ў Мікалаеве (каля Дзісны).

# XIII Стагодзьдзе.

ЖЫЦЬЦЁПІС СЬВ. МЭРКУРЫЯ СМАЛЕНСКАГА. Жыцьцёпіс гэты пісаны ў Смаленску, ў XIII ст., аднак да нашых часаў дайшоў толькі ў пазьнейшых сьпісках. Адзін з такіх пазьнейшых сьпіскаў знаходзіцца ў рукапісе Сынадальнай бібліатэкі № 908; акром гэтага гл.: „Патерикъ Печерскій“ бал. 177; „Мѣсяцесловъ Кіевскій“ і „Четьи Минеи“, октября 14; „Степенная книга“, I, 235. Буслаевъ „Смоленская легенда о св. Меркуріи и Ростовская о Петрѣ царевичѣ Ордынскомъ“ („Древне-русская литература и искуство“ СПБ. 1861), з Буслаева ўзяты і ніжэйпададзены нарыс аб сьв. Мэркурым.

Смаленская легенда аб сьв. Мэркурым належыць да найцікавейшых і найвыдатнейшых твораў стара-крыўскай літэратуры. Гэта легенда злучае ў адно поэтычнае цэлае найстарадаўнейшыя пагудкі народнага эпосу з характэрыстыкай моральнага і рэлігійнага крыўскага жыцьця да XIII ст. Твор гэты прыналежыць як пісанай літэратуры, так і народнай паэзіі і хоць захаваўся на пісьме, але ва ўсей поўнасьці выяўляе сваё першапачатнае чыста народнае паходжаньне.

Смаленская легенда дайшла да нас у некалькіх розных рэдакціях: 1) народнай, якая істотна рожніца большай свабодай фантазіі; 2) лірычнай, у царкоўных кантах і вершах, якія служаць пераходам да кніжнай пераробкі і 3) літэратурнай, якая увайшла ў Макар'еўскія „Четьи-Минеи“ і, ўрэшце, 4) самая кароткая, мабыць народнага паходжаньня, але запісаная ўжо ў пазьнейшую эпоху ў „Книгѣ глаголемой о россійскіх святых“.

Трэба адзначыць, што і народная рэдакція, якая запісана кніжнікам, мае ў сабе літэратурную сказу, і, наадварот, літэратурная рэдакція, якая зложана на грунце вустных пераказаў, мае ў сабе цікаўныя рысы да гісторыі народных пагудак. Мы адрожнюем тут народную рэдакцію ад літэратурнай паводле удзелу, ў тэй і другой, элемэнтаў народных.

Народная рэдакція, па Сынадальнаму „Цвѣтнику“ Жюлёва 1665 г. (№ 908, карта 218 і далейшыя), мае такі зьмест:

„У горадзе Смаленску жыў нехта малады чалавек—Мэркуры; быў ён богабойны і ў загадах Божых павучаўся дзень і ноч, расквітаў прыкладным жыцьцём, пастом і малітвай, і сьвяціў, як гвязда богаяўная, пасярод усяго сьвету. Быў кволы душой і сьлёзны, часта прыходзіў да крыжа госпадавага маліцца за грамаду (мір), завомы Пятроўскага Ста. А ў той час злыдны цар Батый палоніў рускую зямлю і марыў хрысьціянаў, праліваючы бязвінную кроў, як сільную ваду. І прыйшоў той цар з вялікім войскам на богазбаўчы горад Смаленск, і стануў ад яго на 30 попрышч; многа сьвятых цэркваў папаліў, і хрысьціянаў пабіў, і цьвёрда азброіўся на той горад. Людзі-ж былі ў вялікім смутку, бязвыходна прабывалі ў саборнай царкве Прачыстай Богародзіцы і ўмільна галасілі з вялікам плачам і з многімі сьлязамі да Усемагутнага Бога і да Прасьвятой Богамаці і да ўсіх сьвятых, аб захаваньні гораду таго ад усякага зла".

„І была відзежа гараджанам. Недалёка ад гораду за Дняпро-ракой, у Пячэрскім манастыры, праслаўна явілася Прачыстая Богародзіца панамару і сказала: „О, чалавеча Божы! ідзі да таго крыжа, дзе моліцца выбранец мой Мэркуры, і скажы яму: кліча цябе Божая Маці!" Панамар пайшоў; знайшоў яго молючыся каля крыжа, і назваў па імю: „Мэркуры!"—А той адказаў: „Што табе, гаспадзіне мой?"—І сказаў яму панамар: „Ідзі борзда, браце! цябе кліча Божая Маці ў Пячэрскую царкву!" І пашоў богамудры Мэркуры ў сьвятую царкву, і ўбачыў там Прачыстую Богародзіцу на залатым пасадзе з Хрыстом у абоймах сваіх, акружаную анельскім войскам. І паў ён да ног яе з вялікай пакорай і страхам. Божая Маці падняла яго з зямлі і сказала яму: „Мэркуры, выбраньча мой! Пасылаю цябе! ідзі пасьпешна, ўчыні помсту крыві хрысьціянскай; ідзі, упакор злыднага цара Батыя і ўсё войска яго! Пасьля прыдзе да цябе чалавек, прыгожага аблічча: аддай яму ў рукі ўсю зброю сваю, і ён адсячэ табе галаву; ты-ж вазьмі яе ў руку сваю і ідзі ў свой горад; там прымеш сьмерць, і палажана будзе цела тваё ў маей царкве". Мэркуры вельмі ўстужыў аб тым і заплакаўшы мовіў: „О Прачыстая Богародзіца, Маці Хрыста Бога нашага! Як-жа я, грэшны і худы, непатрэбны раб твой, магу быць сільны на гэткі чын! Хіба-ж недастала Табе нябесных сіл, о Валадарыца, перамагчы злыднага цара?" Пасьля ўзяў ён ад яе благаслаўленьне, і ўвесь узброены быў і адпушчаны, і, пакланіўшыся да зямлі, выйшаў з царквы. І знайшоў там прахаробрага каня; сеў на яго і выехаў з гораду. Дасьцігшы палкоў злыднага цара, божай помаччу і Прасьвятой Богародзіцы, пабіваў ён ворагаў, забіраючы палонных хрысьціянаў і адпушчаючы іх у свой горад; і насіўся ён па палкох, як арол лётае па паветры. Злыдны-ж цар, бачучы перамогу над людзьмі сваімі, агорнуты быў страхам і жудасьцю, і хутка ўцёк ад гораду таго без пажытку, з малой дружынай. І ўцёк ён у Угры, і там быў забіты царом Сьцяпанам".

„Тады зьявіўся Мэркурыю прыгожы ваяр. Мэркуры пакланіўся яму і аддаў ўсю сваю зброю; пасьля нахіліў сваю галаву і быў сьцяты. І, благаслаўлены, ўзяўшы галаву сваю ў адну руку, а другой вядучы каня пад уздцы, прышоў у свой горад абезгалоўлены. Людзі-ж, гледзячы на яго, дзівіліся Божаму устраеньню. І так дайшоў ён да Малогінскіх варот. Нейкая дзеўка, выйшоўшы па ваду, убачыла, як сьвяты ідзе без галавы і пачала яго непрыстойна лаяць. Ен-жа ў тых варотах лёг і чэсна аддаў душу сваю Госпаду, і конь яго зьнік з вачэй".

„І прышоў архібіскуп таго гораду з крыжамі і з множствам народу, каб узяць чэснае цела сьвятога. І ня даўся ім сьвяты. Вялікі плач быў тады ў людзёх і прычытаньне, што не схацеў сьвяты падняцца; архібіскуп-жа быў вельмі зьдзіўлены, молючыся аб тым Госпаду. І быў да яго голас, мовячы: „О, слуга Госпаду! не смуціся гэтым! Хто паслаў яго на перамогу, той і пахавае“. І тры дні ляжаў сьвяты не пахаваны. Архібіскуп усю ноч бяз сну прабываў, молючыся Богу, каб выявіў яму гэту тайну. І гледзячы ў аконца сваё, проста да саборнай царквы бачыць ён: ясна, ў вялікай сьветласьці, як у сонечнай зарэ, вышла з царквы Прачыстая Богародзіца з Арханеламі Госпадавымі, з Міхайлам і Гаўрыелям, і, дайшоўшы да таго мейсца, дзе ляжала цела сьвятога, ўзяла яго Прачыстая Богародзіца ў палу сваю, і прынясла ў сваю саборную царкву, і палажыла на яго мейсца, дзе дагэтуль, бачаны ўсімі, творыць цуды ў славу Хрысту Богу нашаму, вохнучы як кіпарыс. Архібіскуп-жа, ўвайшоўшы раніцай у царкву, ўбачыў праслаўнае дзіва: сьвяты ўжо ляжаў на сваім мейсцы, спачываючы. Зышоўся народ, і бачучы тое дзіва, праслаўляў Господа Бога“.

Гэткая ёсьць рэдакція „народная“. Важнейшыя пункты, на якія трэба зьвярнуць у ёй увагу, ёсьць ніжэйпісаныя:

1. Мэркуры выступае тут чыста народным героям. Прынамні, ў гэтай рэдакціі няма і сьледу аб рымскім ці нямецкім яго паходжаньні.

2. Усё акружаньне героя ідэальнае. Конь чакае яго пры выхадзе з царквы, зрэшта конь гэты нязвычайны. Абезгалоўлены Мэркуры прывёў яго з бітвы ў горад, дзе ён цудоўна зьнік, стаўся нябачным. Гэты цудоўны конь прыпамінае нам дахрысьціянскае багомленьне коней, якое мае адгалосак у міце аб Сьлейпнару, каню Одына, аб каню Сьвятавіда заходных славянаў, аб вілаватым ці вешчым каню ў сэрбскім эпосе, аб С і ў ц ы—Б у р ц ы—В е ш ч а й Б у л а н ц ы нашых казак і інш. Як-бы там не было, а толькі цудоўны конь Смаленскай пагудкі паказуе на жывы зьвязак яе з народным эпосам.

3. Паводле гэтай рэдакціі сьвяты герой змагаецца не з татарскім волатам, а з усім Батыявым войскам, і, што асабліва важна,—забівае Мэркурага ня сын волата, ў помсту за забойства бацькі, а нехта „чалавек прыгожага аблічча“, або, як сказана ў другім мейсцы, „прыгожы ваяр“. Мэркуры павінен быў, па загаду Богародзіцы, пакорна аддаць яму сваю зброю і, каб быць сьцятым—пахіліць перад ім галаву. Ясна, што не ад татарына, нават не ад звычайнага чалавека прыключылася яму сьмерць, але ад нейкай істоты прыгожай, ад прыгожага ваяра, якімі выабражаюцца ў старасьвецкай літэратуры анелы. Споўніўшы загад Богамаці, выпаўніўшы сваё назначэньне ў сьвецкім жыцьці, Мэркуры павінен быў у расквіце сваіх годаў пазбыцца жыцьця. Сьмерць павінна была накінуць сваю таемную павалоку на няведамыя, гэтак сама таемныя стасункі героя з сьветам цудоўнага, няземскага. Народнай фантазіі шкада было выставіць харобрага свайго магута ахвярай татарына. Ен заслужываў лепшай долі, і ўжо калі ня суджана было яму жыць, то няхай лепей самахоць і ціха аддасьць ён сваю душу ў рукі няземскай, сьвятой істоты. Зрэшта пакінута было яму жыцьцё да таго часу, пакуль ён ня дойдзе да свайго гораду. Для гісторыі народнай паэзіі, як здаецца, ня трэба

упускаць з-пад увагі, што „прыгожы ваяр“, які сьцяў Мэркурага, ў тэксьце не названы анелам. Знача, гэта зьверхнатуральная істота, можа,—ня што іншае, як слабы адсьвет старэйшага, дагістарычнага міту, адгалосак якога колечы сьветлага бога паганскіх часаў.

4) Мяйсцовыя рысы відаць у тым, што Мэркуры да свайго геройскага выступу „часта хадзіў да крыжа Госпадава маліцца за грамаду („мір“), завомую „Пятроўскага Ста“, і што вярнуўшыся з бітвы, абезгалоўлены „дайшоўшы да варот Малогінскіх“,—быў сустрэчаны ў гэтых варотах дзеўкай, якая ішла па ваду і, ўбачыўшы сьвятога, пачала непрыстойна лаяць яго,—дзіўная і наіўная падробнасьць, відаць чыста народнага і мясцовага паходжаньня.

Урэшце, 5) ўся пагудка, паводле „народнай“ рэдакціі, вызначаецца прастатой, незавіласьцю і кароткасьцю, наперакор завілай і велягорнай штучнай рэдакціі. Зрэшта, як мы ўбачым далей, і гэта апошняя, літэратурная, рэдакція дае нам магчымасьць дагледзіць некатарыя новыя народныя асновы, якія часьцю увайшлі ў яе зьмест. Але, каб ясьнейшым быў нам склад яе, спярша трэба пазнаёміцца з некатарымі рысамі смаленскай легенды-пагудкі з кантаў і хваласьпеваў. Да гэтага паслужыць нам рукапіс Бібл. гр. Уварава № 681, карта 404—420.

Гэтыя пахвалы вельмі істотна рожняцца сваім зьместам ад народнай рэдакціі і ва ўсіх галоўнейшых пунктах выяўляюць гэткае зыходжаньне з рэдакціяй літэратурнай, што прост сьведчаць аб ачавістым уплыве аднаго літэратурнага твору на другі. Мабыць не літэратурная рэдакція увайшла ў аснову пахвал і разьбілася на часьці, а наадварот—аўтор гэтай редакціі карыстаўся пахваламі, прыводзячы ў сыстэму ўсё тое, што было разсыпана ў пахвалах і малітвах з многімі паўтарэньнямі і распашырэньнямі.

У карысьць гэтай дагадкі гаворыць адна характэрыстычная падробнасьць у пахвалах, ужо выкінутая ў літэратурнай рэдакціі пагудкі, як анахронізм ці незразумелае збочаньне. Хоць і гаворыцца ў кантах, што Мэркуры змагаўся з Агаранамі, с Татарамі, напр. на балоне 409: „тут перамог многа войск татарскіх“,—але шмат часьцей ворагамі Мэркурага і Смаленска называюцца тут не Татары, а Печанегі; напр, на адв. 404 б. пахваляецца Мэркуры: „яко злога богаборца цара Батыя набегшы скінуў і волата перамог і злочынных Печанегаў крэпка паразіў“; 405 адв.: „яко зьдзівілася анельскае войска, бачучы твaё крэпкае змаганьне супроць злых Печанегаў“ 412 і адв.;— „калі злы богаборац цар Батый бачыў як волата забіў і многае множства Печанегаў пабітых, і не важыўся гораду аблогу ўчыніці, і ўцёк пасаромлены ад Богародзіцы, дзіўнейшай заступніцы нашай“: 413 і адв.

Гэтае дзіўнае памяшаньне Татараў с Печанегамі адкінута ў літэратурнай рэдакціі пагудкі, якая, зрэшта ва ўсіх іншых падробнасьцях выяўляе самае поўнае зыходжаньне з гістарычнымі мяйсцамі кантаў. З гэтага відаць, што ў легендзе ўжо папраўлена тое, што было супярэчлівым у яе крыніцах.

Ведама, ў многіх здарэньнях ня трэба зьвяртаць сурьёзнай увагі на анахронізмы і памяшаньне гістарычных фактаў у старадаўныхъ помніках піcь-

меннасьці, так сама як і ў народнай паэзіі. Але тут памяць аб Печанегах мае не малаважнае значэньне. Ужо неаднаразовае упамінаньне гэтага найменьня, і пры гэтым у хваласьпевах, адкідае ўсякае дапушчэньне аб прыпадковай памылцы або апісцы перапісчыка. Безумоўна, што так, а не йначы пеялася ў пахвалах Мэркурыю смаленскаму і Прачыстай Богародзіцы, заступніцы горада Смаленска супроць бязбожнага Батыя. Калі-б гэтае памяшаньне Татараў з другім народам ня мела ніякага грунту, то, ведама, што не с Печанегамі, а хутчэй с Полаўцамі трэ было-б чакаць гэтай прыпадковасьці—бязсэнсоўнага памяшаньня. Памяць аб Полаўцах была яшчэ сьвежай, калі ўкладаліся апавяданьні аб Татарах, тады як Печанегі даўно ужо зышлі са сцэны гістарычных падзей. Аткуль-жа маглі ўзяцца ў пахвалах Мэркураму гэткія упорныя, многаразовыя звароты да народу, здавалася-бы даўно ўжо забытага? Нашто змагаецца Мэркуры з волатам? Гісторыя народнай літэратуры дае нам многа зблiжэньняў рожных падзей і эпох, па сходству ідэй ці нават некатарых падробнасьцяў у двох або некалькіх пагудках, аддзеленых адна ад другой стагодзьдзямі.

У кождым здарэньні ў „Печанегах“ смаленскай легенды захаваўся сьлед старэйшай легенды, т о л ь к і н е г і с т а р ы ч н а й, а п о э т ы ч н а й.

Даўныя стасункі с Печанагамі, перадаваныя з вусн у вусны ў народных показках, жывы былі яшчэ тады, калі складалася легенда аб перамозе Мэркурым Батыя. Гэткім чынам у смаленскай легендзе-пагудцы, скрозь пазьнейшыя падзеі даходзіць да нас голас народнай пагудкі з тэй раннай эпохі, да якой прыналежаць многія баечныя апавяданьні летапісца Нэстара аб змаганьні Русі з Печанегамі.

Другая падробнасьць, унесеная ў літэратурную рэдакцію аповесьці, мабыць, такжа належыць да старадаўных эпічных народных пагудак. Гэта—сымвалічнае уасобленьне зямлі, як асобы жывой, з самой Богародзіцай. Як-бы там ня было, толькі поэтычны плач М а ц і-З я м л і і пачынаецца і канчаецца малебным зваротам да Б о г а м а ц і. Гэта мейсца ў пахвалах Мэркурыю заслужывае асаблівай увагі для гісторыі паэзіі ў зьвязку з народнай верай. Вось яно:

> „Маці Цара і Госпада славы, Маці Бога Эмануіла, Маці, якая радзіла ўсяго жывога Стварыцеля, Маці, якая радзіла Збавіцеля і Спаса душ нашых, цябе істую Богародзіцу ўсе роды выслаўляем“.

Зараз за гэтым зваротам ідзе 6-я песьня гэткага зьместу:

> „Калі было злых Ізмаліцянаў вялікае паняволеньне, тады зямля ўсплакалася, як якая дзеталюбівая маці, мы-ж тады ўзрадаваліся і ўзвесяліліся, бачучы Божае міласердзе і Прачыстай Богародзіцы абарону, і мукі ваяра хрыстовага пабожна хвалім“. „Калі было ад няверных прававерным стагнаньне, вялікая маркота і крык да Госпада Бога, тады наша маці зямля жарлом (г. зн. горлам, голасам) застагнала, клічучы: Дзеці мае! дзеці мае! угнявілі Госпада свайго, а майго Стварыцеля і Бога! Мы-ж тады да Госпада Бога і да Прачыстай Богародзіцы пакорна ўсклікнулі, кажучы: заступніца наша Гаспаджа Богародзіца! збаў нас ад барбарскай навалы і злога паняволеньня. Тады зямля бачучы (гэта) заплакала, што ад пазухі яе прававерныя адрываны і пасяканы былі; тагды мы рукі ўзьняўшы са ўздыханьнем сьлёзы пралівалі, молючыся Хрысту Богу і

Прачыстай яго Маці, клічучы і кажучы: Слава Табе Ісусе сыне Божы! Слава Табе, сьвятая Богародзіца, збаў нас ад агаранскага гвалту і горкага тамленьня! Калі-ж нам даравала стократнае і міласэрнае заступніцтва, Гаспаджа і Богародзіца, тады ўсклікнулі да Богародзіцы шчыра молючыся, сьлёзы праліваючы і кажучы: Прасьвятая Гаспаджа і Богародзіца! Ты збавіла род хрысьціянскі ад пякельных мук, і цяпер нас збавіла ад паганскай навалы, і злога і агіднага паняволеньня і пасячэньня! Мы-ж Цябе, Богародзіцу, сьпевамі славім і вялічаем і пакланяемся Прачыстаму Твайму абразу".

Перш, пакуль установім літэратурнае значэньне гэтага мейсца, трэба дзеля яснасьці прыпомніць, што мастацкая форма уасобленьня зямлі, хоць і згаджаецца з народным мітолёгічным выбражэньнем аб Маці Сырой Зямлі, але ў нашу духоўную літэратуру увайшла праз Візантыю і падтрымлівалася старахрысьціянскай літэратурай (Зраўняй „Златоструй" у 135 слове „Плач зямлі і мора").

Поэтычнае уасобленьне зямлі ў вачох нашых пабожных прашчураў ня толькі ня мела ў сабе нічога паганскага, але нават прыпамінала сьвятарныя выбражэньні мастацтва і літэратуры. У гэтым здарэньні, як і ў шмат якіх другіх, народныя, сваяземныя вераньні знайшлі сабе пацьверджаньне ў чужаземнай штучнай літэратуры, здаўна прынесенай да нас у перакладах. Якія-бы не былі погляды пры уасобленьні зямлі ў смаленскай легендзе, мясцовыя, крыўскія, ці візантыцкія,—у кождым здарэньні мясцовае і гістарычнае дапасаваньне іх дае ім чыста народны характар. У данным здарэньні тут разумеецца толькі Зямля Крыўская. Яна жаліцца на навалу татарскую, як на няшчасьце, робленае як бы жыхарамі не зямлі, а нейкай другой, бязбожнай планэты. Гэткае нелёгічнае звужаньне паняцьця аб зямлі, гэткае зацесьненьне паняцьця да вядомага краю,—самы звычайны сьветагляд у эпічнай паэзіі. Праўдзівая зямля—толькі тая, на якой жыве крыўскі народ, гэта—крыўская зямля; ўсё іншае, што акружае гэтае жыльлё праўдзівых людзей, праўдзівых хрысьціянаў—напоўнена варажымі, парклятымі сіламі, нягоднымі збаўленьня і засуджанымі на вечную пагібель.

І вось, уасобленьне ў смаленскай легендзе, з паняцьцем зямлі, злучаецца з выбражэньнем зямлі крыўскай. Яна,—дзеталюбівая маці ўсіх прававерных, зн. крывічоў—бачучы як ад пазухі яе прававерныя вырываюцца і пасякаюцца, застагнала і клікнула: „О, дзеці мае! загнявілі вы Госпада свайго, а майго Стварыцеля і Бога". Але, калі так смуцілася зямля—і прававерныя зьвярталіся з удзячнай малітвай да Богародзіцы і яе справядліўца Мэркурага аб ратаваньні горада Смаленска і ўсей зямлі Крыўскай, то ў гэтым урочыстым лірызме сьпеву, жыва чуецца, як „Маці-Сыра-Зямля", гэта—Маці ўсіх людзей, пакорна перадае сваё заступніцтва Маці Нябеснай.

Плач і тамленьне зямлі ад навалы татарскай шчырасьцю і сьвежасьцю лірызму, прымушае думаць, што гістарычныя асновы смаленскай легенды злажыліся ў эпоху змаганьня з татарамі. Калі народная рэдакція смаленскай легенды пераносіць нас у дагістарычныя часы народнага эпосу, і калі Печанегі, што ўпамінаюцца ў пахвалах, паказуюць на сляды яшчэ старэйшых пагудак,—

то плач Крыўскай зямлі, аб гібелі прававерных, ёсьць адзін з найдаражэйшых помнікаў нашай паэзіі.

Цяпер зьвернемся да другіх падробнасьцяў у пахвале Мэркураму. Усе, пахвалы, як вышэй заўважана, увайшлі ў літэратурную рэдакцію легенды выключаючы дзьве, аб якіх мова будзе ніжэй.

Народная рэдакція нічога ня ведае аб паходжаньні магута, ці прынамні не гаворучы аб гэтым—лічыць Мэркурага Крывічом. Але ў пахвалах ён называецца ўжо Рымлянінам: „Рым пакінуўшы, да нас прыйшоў ты; багацьце рымскае пакінуў і прыняў багацьце на нябёсах і цяпер з анелемі пасяліўся"... „Рымскае княжэньне і славу марную за нішто палічыўшы, пакінуў княжэньне, і прыняў царства нябеснае і цяпер жывеш з асобамі анельскімі"... „Рымскіх бацькоў сваіх пагардзіў, адзін зажадаўшы за веру Хрыстову кроў сваю пралІці і за прававерных, веручых у Госпада, і дзеля гэтага весялішся ў сёлах нябесных"... „Рымлянін родам будучы, але верай праўдзівай аслонены, а не палуверьем хворы; хітрага ваяра застыдзіў, волата з сынам пабіў, і вянечнік Хрыстоў явіўся і да славы радаснай далучыўся: дзеля гэтага сьвятарную яго памяць сьвяткуем цяпер".

У пахвалах гаворыцца аб узросьце героя: „малады целам, сьвяты душою, верай пабожны, па добрачэсьлівасьці паборнік, за прававерніцтва мучанік".

Падробнасьці самой легенды перадаюцца гэткім чынам:

> „Пачнем датыкаці духоўнай бясёды, мукі ўспомнім справядліўца і мучаніка Хрыстовага Мэркурага, калі агідны і богапраціўны цар Батый напаў на горад наш з многім множствам барбараў, хочучы горад наш спустошыць, а нас загубіць; але Богам і Прасьвятой яго Мацяю і мукамі справядліўца, ваяра Хрыстовага, уратаваны быў горад і людзі. З прасьвяды Сьвятой Багародзіцы, прыйшоў сьвяты ў Багародзіцкую царкву і знайшоў сьвячу гарашчую перад самой іконай Гаспаджы Багародзіцы; ад яе вышаў голас панамару, і паўшы сьвяты перад абразом цудоўным, пачаў маліцца: „Гаспаджа Багародзіца! будзь памочніцай на супраціўных гэтых. І такжа голас быў ад іконы Прасьвятой Багародзіцы і была відзежа сьвятому, мейсца бязбожных знаходжаньня, і паслала перамагчы іх сілай Хрыстовай. Ад цудоўнай іконы Прачыстай Багародзіцы быў голас мовячый: слуга мой Мэркуры! ідзі злачыннага Батыя і ізмаіліцкіх людзей агразі; нявольных звольні дарам Хрыстовым; дом мой і горад і людзей бязбеднымі ўчыні. Ад прачыстага і цудоўнага абраза Прасьвятой Багародзіцы быў голас прадобраму ваяру Хрыстоваму: Слуга мой Мэркуры! ідзі і забі сільнага волата, злачыннага цара Батыя і паганых Агаранаў пражані; Божай прасьвядай людзі і горад ад іх уратуюцца. Прачыстая Гаспаджа і Багародзіца! руплівая наша заступніца! крэпкая дзяржава, непераможны ваявода гораду нашага, маючы ў сваім горадзе гэтага ваяра і справядліўца свайго Мэркурага, і так сьвятога пасылала агразіць і перамагчы злаверных і прагнаць ад абліччa нашага"... „Калі прайшоў сьвяты гарадзкія вароты і сьцены безперашкодна (ў арыгінале: „бещука", без „ущука") і дайшоў злоіменнага цара Батыя, ўжахнуўся і немаччу абложанага сільнага волата перамог, а іншых ізмаіліцкіх людзей мячу аддаў, і астаўшыя кінуліся на ўцекі; і вярнуўся сьвяты да сьветлага вянца радуючыся" ...„Прышоўшы сьвяты на месца, дзе

сказала сьвятая Богародзіца, і тут перамог многа войск татарскіх, і астаўшыяся барбары разьярыліся сэрцамі і разгарэліся марнадумнымі душамі на богахоўны горад Смаленск. І бачылі жанку правялікую і прасьветлую, сонцападобную, з множствам войск нябесных, і спужаўшыся, скора ўцяклі ад нас“.

Аб забіцьці сьвятога ў адным мейсцы сказана глуха:

„Калі злыя Агаране адсеклі галаву сьвятому Мэркурыю, і ўзяў яе сам сьвяты і прынёс у горад, перад усімі людзьмі гаварыла і пяяла галава, як адбывалася перамога і якое ад Богародзіцы заступніцтва і сьвятому ад яе дапамога“.

Але ў другім мейсцы больш акрэсьлена:

„Скончаўся сьвяты ад волата; Мэркурыю мячам усечана галава“.

З пададзеных выпісак відаць, што песьні гэты былі ўложены ў Смаленску, які дзеля гэтага і называецца заўсёды: наш горад. Што датыча да часу, калі складаліся гэтыя пахвалы ў іх даканчальным выглядзе, то трэба аднясьці іх да першай палавіны XVI ст. У гэтым-жа часе была ўложана і літэратурная рэдакція смаленскай легенды, якая увайшла ў Макар'еўскія „Четьи Минеи.“ Аб гэтым сьведчаць наступныя мейсцы літэратурнай рэдакціі:“... у сходнай старане было вялікае радаваньне усей расійскай зямлі самадержцу гасудару нашаму цару вялікаму князю“.—„І цяпер сьвяты выпрасі цару і гасудару нашаму вялікаму князю здароўе і на супастатаў перамогу“.

Што да зьместу, дык літэратурная рэдакція рожніцца ад пахвальных вершаў у трох пунктах:

1) прапушчана вестка аб Печанегах;

2) прапушчана апавяданьне аб уцяканьні Батыя ў Угры;

3) дададзена аб забойстве Мэркурага сынам паваленага ім волата.

Зрэшта, апошні пункт, які не ўвайшоў ні ў народную рэдакцію, ні ў хваласьпевы, здаецца, ня цьвёрда быў яшчэ устаноўлены, калі смаленская легенда была ўнесена ў Макарьеўскую Чэцьюо-Мінэю; дзеля гэтага аб забойцы Мэркурага ў ёй сказана глуха: „варварын лют или сын того исполина“. Але пасьля гэта неакрэсьленнасьць была заўважана і папраўлена; па сьпіску XVII ст. разьдзяляючы злуч „или“ выкінуты, і забойства прыпісана „лютому варвару, сыну исполина“.

Разгледзіўшы галоўныя матывы смаленскай легенды аб Мэркурым, ў выніку спробуем даць вывады.

1) У аснове смаленскай легенды захаваўся найдаўнейшы народны міт аб маладым веснавым сонцу, якое ў постаці ярага грамавіка пабівае агіднага волата—духа цемры і холаду. Калі-ж пад уплывам новай хрысьціянскай веры даўныя багі пачалі заменяцца ў людзей, то мясцовы міт прыбраў рысы націянальнага героя, і яго дзеяньні былі зьвязаны з даўнымі, але яшчэ памятнымі народу змаганьнямі з Полаўцамі. Як ведама, Смаленская зямля ня была паярэмлена Татарамі,—і гэтае апошняе здарэньне само-сабой было народам прыпісана сьвятому Мэркураму. Згэтуль атрымалася памяшаньне ў хваласьпевах Полаўцаў і Татараў. Дамешка ў гэту гісторыю Ізмаіліцян і Агаран па-

казуе на тое, што сьпевы і нават т. з. народная легенда, прайшлі праз рукі кніжнікаў і былі перанесены духавенствам на грунт хрысьціянскі. Літэратурная рэдакція, ўнесеная ў Чэцьі-Мінэі, апрацавана была пасьля заваяваньня Смаленска Масквой, знача—пасьля утраты Смаленскам свае незалежнасьці. Націянальны міт заваяванай зямлі, заваёўнікі зрабілі спробу анэктаваць, пераносячы яго цалком на грунт змаганьня паярэмлянай Русі з Татарамі. Гэткую, меней-болей, эволюцію прайшоў смаленскі міт (аб Ярым Пяруну, пабіваючым Кашчу зімы і халадоў) у сваім гістарычным паходзе, ад часоў глыбокай паганшчыны да хрысьціянства, і, ўрэшце,—да часаў утраты Смаленскам свае незалежнасьці.

2) Смаленская легенда аб Мэркурым носіць глыбока націянальныя рысы: гэта—герой выключна Крыўскай зямлі, які дбае выключна аб сваім горадзе і сваім народзе прававерным, ў стасунку да якога ўсе акружаючыя яго зьяўляюцца няверныімі, барбарскімі. Сьвяты Мэркуры, паводле легенды, зьяўляецца няўсыпным старожам свае зямлі. На яго гробе смаленцы пераховывалі яго зброю і копье, якія служылі націянальнымі рэгаліямі, бо іх надзявалі на вянчаных крыўскіх князёў ня толькі Смаленскіх, але і Полацкіх, дзеля якой мэты ў важнейшых крыўскіх цэнтрах у мясцовых сьвятынях пераховываліся, як націянальная рэліквіі, часьці зброі сьв. Мэркурага. *) Вера ў тое, што націянальны Крыўскі герой уставаў з гробу, ўзбраіваўся ў сваю зброю, садзіўся на вешчага каня і выступаў у кождай вайсковай патрэбе краю, падсунула мысль Крывічом выабражаць сьв. Мэркурага на дзяржаўных пячатках і дзяржаўных сьцягах. І, запраўды, на ўсіх княжых пячацях часоў дзяржаўняй самаістасьці крыўскіх зямель, мы бачым два выабражэньні: Богародзіцу з аднэй стараны і сьв. Мэркурага на белым кані з другой стараны.

Што датыча імя героя—Мэркуры,—то яно праўдападобна падменена ў хрысьціянскія часы, такжа, як у зах. славянаў, дзе замест паганскага Сьвятавіда, атрымаўся сьвяты Віт. Аснова *мр* у імені Ільі Мурамца і Мэркурага дае падставу думаць, што абодвы гэты імёны маскуюць сабой з падобнай-жа асновай паганскае імя, ці эпітэт бога Грамавіка. Імя Мурамца—Ільля дае просты на гэта паказ, бо ўсе атрыбуты Пяруна, як ведама, народ пад уплывам духавенства перанёс на сьв. Ільлю. У Кіяўскім Пячэрскім манастыры між іншымі грабніцамі сьвятых і слаўных людзей, як ведама, істнавала і грабніца „блажэннага“ Мурамскага ваяра Ільлі. Раннае заваяваньне Кіява варагамі прычынілася да пэратварэньня мітычнай постаці Украінскага героя Ільлі ў княжага слугу, і, наадварот, сэпэратыстычны (а пазьней, па доўгім змаганьні, цалком незалежны) Смаленск з мітычнай постаці мясцовага магута вытварыў ідэальную постаць націянальнага героя, а з часам, згодна з духам часу,—націянальнага сьвятога.

Што датыча сьцяцьця Мэркурага сьветлай нябеснай постацьцю, то абясьненьне гэтага эпізоду знаходзім у быліннай аповесьці аб тым, як перавяліся магуты на Русі. Пры пераходзе ад старaславянскай мітолёгіі да хрысьціянскай, старыя багі павінны былі замерці, бо мейсца іх заступалі новыя,

*) У Полацку пераховываўся паяс сьв. Мэркурага.

хрысьціянскія сьвятыя. І гэты пераход ад аднэй да другой эпохі славянская быліна прадставіла ў той спосаб, што не зямная сіла, якую яны-ж самі выклікалі на бой перамагла старых магутаў. Супроць сямёх славянскіх магутаў зьявілася двое „сілы нетутэйшай" і што магуты перасякуць іх папалам то становіцца іх удвая болей, і ўсе жывы. Урэшце атрымалася з дваіх, сіла незлічоная:

Спужаліся магуты харобрыя
Пабеглі ў камянныя горы, ў цёмныя пячэры...
Як дабяжыць магут да гары,—так і скамянее;
Як дабяжыць другі,—так і скамянее;
Як дабяжыць трэцьці,—так і скамянее...

З ліку старых магутаў не скамянеў адзіна сьв. Мэркуры, дзякуючы заступніцтву Богародзіцы і апякаваўшамуся гэтым мітам духавенству. Хоць і прыняў ён сьмерць нараўне з іншымі старымі магутамі з рук „сілы нетутэйшай", але прыняў яе, як прававерны хрысьціянін, за хрысьціянаў і быў самой Богародзіцай перанесены ў царкву і паложаны ў грабніцу.

Да цыклю легенд аб сьв. Мэркурым цесна прымыкае другая смаленская легенда з XI ст.: „Аб дзевах смаленскіх, яко ігры тварылі" (гл. балону 20).

З усяго вышэйсказанага відаць, што смаленская легенда, як нацыянальна-літэратурны помнік, ня толькі ня ўступае вялікім нацыянальным эпічным творам заходнай Эўропы, але глыбокай зьлітнасьцю сваей з крыўскім народам, шмат якія з іх перавышае.

## ЖЫЦЬЦЁПІС АЎРААМІЯ СМАЛЕНСКАГА, ПІСАНЫ Ў СМАЛЕНСКУ ВУЧНЯМ ЯГО ЕФРЭМАМ, НЕЗАДОЎГА ПАСЬЛЯ СЬМЕРЦІ АЎРААМІЯ (+ 1221 г.)

Жыцьцёпіс Аўраамія Смаленскага гэта—простае і праўдзівае апавяданьне аб пабожным і высокаадукаваным мніху, здольным і красамоўным прапаведніку, пісьменніку і іконапісцу, які многа выцярпеў прасьледаваньняў ад цёмнага духавенства, каторае не разумела высокакультурных імкненьняў Аўраамія і заздросьціла яго папулярнасьці ў народзе.

Асабліва цікава тое, што просты народ, мяшчане, баяры і сам князь былі на старане Аўраамія, ў той час, як духавенства яго прасьледавала, вінавацячы, што ён гэрэтык, чарнакніжнік і фальшывы прарок: „ён увесь горад навярнуў да сябе", і „уже наши дѣти вся обратилъ есть". Закідалі Аўраамію, што ён чытае нейкія „Глубинныя книгы", праўдападобна апокрыфічныя.

Ефрэм апавядае аб Аўраамію, што ён быў умелым пісцом кніг, што многа чытаў, між іншым—Сійскі патэрыкон і Златую Чэпь Яна Златавустага.

Заканчывае Ефрэм жыцьцёпіс пахвалой Аўраамію, ў якой гучаць ноткі гарачага патрыатызму да свайго роднага гораду Смаленска:

„Нынѣ преподобнаго и блаженнаго отца Авраамія успенія память празднуемъ и радующеся ликоствуемъ. Радуйся градѣ твердъ, набдимъ и хранимъ десницею Вседержителя. Радуйся, Пречистая Дѣ-

во, Мати Божія, иже град Смоленскъ всегда свѣтло радуется о тебѣ, хвалитсе тобою, избавляемъ отъ всякыя бѣды. Радуйся градѣ Смоленскъ отъ всѣхъ находящихъ золъ избавляемъ молитвами Пресвятыа Богородица и всѣхъ святыхъ сил"...

Жыцьцёпіс Аўраамія надрукаваны ў „Прологу" і „Чет. Мин." пад датай 21 жніўня, а такжа—ў „Истор. Росс. Іерарх.", III, б. 65; „Истор. Русск. церкви" еп. Макарія. Т. III, бал. 47; у Буслаева, „Древне-руск. народ. лит. и искуст." СПБ. 1861.

## УГОДЧАЯ ГРАМАТА ПОЛАЦКА З НЕМЦАМІ 1200 ГОДУ.

Гэту грамату ў ліку загінуўшых падае І. Срезневскій („Славяно-русская палеографія" СПБ. 1884, б. 168).

Усходныя пабярэжжы Балтыцкага моря здавён-даўна былі вядомы Норманам. Сагі перапоўнены апавяданьнямі аб таргоўлі з Гардарыкам (Усх. Славяншчынай) і Гольмгардам (Ноўгарадам). Старая готляндзкая сага дае пэўнае сьведчаньне, што адважныя готляндзкія маракі езьдзілі ў Візантыю па Дзьвіне. „Гуто-сага" апавядае, што „Гутляндзію" адкрыў Тьельвар (Thielwar); у сына яго, Кафті, былі тры сыны, з якіх размножыўся народ на Готляндзе, так што зямля не магла пракарміць усіх. Яны кінулі берці: ісьці з зямлі кождаму трэцьцяму чалавеку. Адправіліся на Авечы востраў (Far-oy). Але і тут не маглі пракармíцца, а дзеля гэтага адправіліся на востраў каля Айстляндзіі (Aistland—Эсція), які называўся Даго (Dagaiti), і там пасяліліся, але і там ім стала цесна. „Тады яны паехалі ўверх па вадзе, якая называецца Дзьвіна (Dyna), і далей праз Рызалянд (Ryzaland—Русь); так далёка ехалі яны, што прыбылі ў Грыкляндзію (Grikland—Грэція); тут прасіліся яны ў грэцкага конунга пасяліцца („Историческій Вѣстникъ", 1875 г.. № 3 і 1885 г. апрѣль).

Другая сага „Krisnisaga" апавядае: „Торвальд, сын Кодрана, і Стэфнер сын Торгільса, былі ў зямлі Ісрузалімскай (Jorsaloheim), пасьля у Константынопалі (Miklagardas), а ўрэшце сьціраваліся праз усходныя краіны па рацэ Дняпру (Nepr) у Кіяў (Koenogards). Каля Полацка (Pallteskiu), Торвальд памер і быў пахаваны на высокай гарэ „Drafne", каля царквы сьв. Іана.

Усходныя славяне, а перадусім Крывічы з найдаўнейшых часаў шырока карысталіся шляхам па Дзьвіне для праезду на Захад. Крывічы езьдзілі па Балтыцкаму пабярэжжу і на востраў Готлянд. Востраў Готлянд „вока Усходнага мора" ляжыць пасярод Балтыцкага мора, паміж Швэдзіяй і Латвійскім узбярэжжам. Заснаваны ў VIII ст. на Готляндзе горад Вісбі, ў якім пасьля было да 200.000 жыхароў, быў асяродкам абшырнай таргоўлі Захаду з Усходам. Сюды пераважна і высылаліся тавары з крыўскіх зямель з гарадоў Ноўгарада, Смаленска, Вітабска і Полацка. Сюды прыбывалі і нямецкія купцы. Урэшце, нямецкія купцы пастанавілі завязаць беспасярэдныя стасункі з народамі, якія жылі па ўсходным узбярэжжы Балтыцкага мора. Выпраўлены імі карабель бурай прыбіла ў Рыжскую затоку. Купцы прайшлі шэсьць міль у глыб краю і пабудавалі на гарэ гарадок для басьпечнасьці таргоўлі. Гэты гарадок быў названы Ікскулям.

Гэткім чынам нямецкія купцы прыпадкова адкрылі усьця Дзьвіны; да таго часу яны зусім не зналі гэтых мейсц, так добра вядомых скандынаўцам. Гэтае здарэньне мела вельмі важныя вынікі.

Прыбыцьцё Немцаў да усьцяў Дзьвіны „Рытмаваная Кроніка" (Reimchronik) адносіць на палавіну XII ст. (раней 1143 году); большасьць гісторыкаў думае, што гэта былі брэмэнскія купцы.

Немцы спярша ня мелі ніякіх заваёўніцкіх мэт, але хутка сталася рэзкая перамена.

Трэба думаць, што нямецкія купцы прыязджалі з таварамі вясной, таргавалі ўсё лета і восеньню вярталіся назад. Разам з купцамі прыбыў неўзабаве сюды:

> „пашаны годны і пасівеўшы ў пабожнасьці муж, бездаганны сьвятар, па імю Мэйнгард, які распаліў слова Божае сярод паганскага народу".

Пропаведзь Мэйнгарда пачалася ў 1186 годзе; да гэтага-ж часу адносяць і пабудаваньне царквы ў Ікскулі (1184—1185).

Мэйнгард умела павёў сваю справу. Перш за ўсё ён пастараўся атрымаць пазваленьне на прапаведываньне хрысьціянства сарод Ліваў, ад полацкага князя Валадзімера, якому Лівы ў тыя часы плацілі дань. Кроніка Гэнрыка Латыша даслоўна так апавядае аб гэтым:

> „Мэйнгард атрымаўшы пазваленьне ад полацкага князя Валадзімера ў якога Лівонцы (Liv), былі ў падданстве і прыняўшы ад яго дары, сьмела прыступіў да Божай справы"...

Пропаведзь Мэйнгарда ўсьціжна шырылася, так што брэмэнскі архібіскуп пасьвяціў яго ў біскупы. Каб утрымаць у паслушнасьці новахрышчоных Лівонцаў, Мэйнгард зьвярнуўся да папежа, які апавесьціў крыжовы паход на Ліваў.

Мэйнгард хутка памер. Наступнік яго, біскуп Бэртгольд, быў забіты ў хуткім часе пасьля прыезду ў Лівонію. Яго наступнікам быў Альбэрт, чалавек шырокага розуму, энэргічны і далёкабачлівы. Бачучы, што бытнасьць біскупаў у Ікскулі, дзеля адлегласьці ад мора—небаспечна, Альбэрт выбраў у 14 вярстах ад мора мейсца, якое Лівы называлі Рыгай, і тут, вясной 1201 году залажыў горад; новы горад быў названы Рыгай.

У 1203 годзе залажыўся вайскова—мнішскі ордэн „Брацьцяў Ваяроў Хрыстовых" (Frater militiae Christi), ведамы пазьней пад назовай Лівонскага ордэну або Крыжакаў; азнакай іх быў чырвоны крыж і меч на белым плашчы. Ужо да 1207 годзе крыжакамі былі заваяваны ўсе лівонскія землі, а ў хуткім часе такжа землі латышскія і эстонскія.

Першую вядомасьць аб таргоўлі рыжскіх Немцаў з Крывічамі знаходзім у тэйжа крыніцы Гэнрыка Латыша. У год заснаваньня Рыгі адзін купец плыў уніз па Дзьвіне, хочучы праплыць паміма Рыгі, але тут быў затрыманы Немцамі і забіты разам з корнікам, пасьля чаго рэшта людзей на вадаплаве павінна была вярнуцца назад. (А. Сапуновъ „Рѣка Западная Двина" Вітабск, 1893 б.б. 264—269).

УМОВА ПОЛАЦКА З РЫГАЙ 1210 Г. Аб гэтай грамаце знаходзім у летапісца Гэнрыка Латыша гэткія падробнасьці:

„У той час царква лівонская была прыгнечана рускімі і літоўскімі плямёнамі, якія імкнуліся яе зьнішчыць; а дзеля гэтага Рыжане пастанавілі паслаць да полацкага князя даведацца ці няможна будзе заключыць угоду на якіх колечы варунках; з гэтай мэтай быў пасланы Рудальфъ Эрых з некалькімі другімі асобамі.“

Але што гэтае пасольства не дасьцігла Полацка (па дарозе яно было ўцягнута ў бітву з Эстамі, каля Вэндэна),—то

„пасланы быў Арнольд, брат войска Хрыстовага (рыцар), да полацкага князя дзеля таго, каб гэты апошні заключыў мір і адкрыў рыжскім купцом вольны шлях у сваю зямлю. Князь прыняў іх ветла, хоць не без тайнай хітрасьці; разам з імі ён паслаў Лудольфа са Смаленска, мужа паважнага і вельмі багатага; яны разам прыйшлі ў Рыгу і выпажылі варункі князя, якія падабаліся рыжанам; тады паміж князям і Рыгай быў заключаны вечны мір, але з тым варункам, што Лівы, або замест іх біскуп, павінны даваць дань князю полацкаму; і ўсе узрадаваліся, тым больш, што цяпер стала магчымым ваяваць з Эстамі і другімі суседнімі плямёнамі.“

У гэтай першай умове крыўскіх гарадоў з Рыгай, паводле ўсякай праўдападобнасьці прыймаў удзел і Вітабск, мяркуючы з яго заўсёднай блізкай сувязі з Полацкам, а такжа і Смаленск; на удзел апошняга паказуе спомнены вышэй купец Лудольф са Смаленска. Праўдападобна ён атрымаў поўнамоччы ад князя Мсціслава Раманавіча, які ў той час быў князям у Смаленску (1197—1212 г.).

УГОДЧАЯ ГРАМАТА КРЫВІЧОЎ З НЕМЦАМІ 1214 Г. Срезневскій („Славяно-руская палеографія“ СПБ. 1884, б. 168) упамінае ў ліку загінуўшых і прыпісуе яе смаленскаму князю Мсціславу Раманавічу. Мсціслаў Раманавіч княжыў З 1197 да 1212 г. у Смаленску; дык заключэньне гэтай граматы ня можа быць прыпісана Мсціславу Раманавічу.

Гэнрык Латыш падае гэткія падробнасьці з падзей, якія маглі прыпадаць на 1212—1214 годы. Полацкі князь праз два гады пасьля заключэньня з Немцамі умовы 1210 году назначыў Рыжскаму біскупу пабачаньне каля Гэрцыка. Князь пачаў горача пераконываць і паграждаць біскупу, каб ён пакінуў пропаведзь і хрышчэньнеЛіваў, яго падданых, якіх ён, князь, волен хрысьціць ці пакінуць саўсім не хрышчонымі: бо—заўважае кронікар—крыўскія князі ня маюць звычаю навяртаць у хрысьціянства, а толькі зьбіраюць з іх дань. На гэта біскуп адказаў, што ён ня можа адмовіцца ад абавязку, узложанага на яго сьв. айцом папежам; Валадзімер разгневаўся,—і ледзь не дайшло да стычкі людзей, якія былі ў почце князя і біскупа. Але пасьля пагадзіліся на гэткіх варунках: полацкі князь адмовіўся ад сваіх вярхоўных правоў на Лівонію, а супроць Літвіноў і другіх паганаў заключыў з біскупам сувязь; што датыча купцоў, то, па даўнаму, Дзьвіна апавешчана вольнай для іх плаваньня.

Але ў 1216 годзе Валадзімер Полацкі ізноў пасварыўся з Рыгай і сабраўшы вялікае войска з Крывічоў і Літвы, хацеў ужо плысьці на аблогу Рыгі, ды ўходзячы ў вадаплаў, неспадзеўна памер (Сапуновъ „Западная Двина“).

Угода ў Герцыку праўдападобна была заключана ня толькі ад Полацка, але і ад Смаленска, гэтым можна вытлумачыць прыпісываньне яе Смаленскаму князю Мсціславу Раманавічу.

УМОВА СМАЛЕНСКА І ПОЛАЦКА З РЫГАЙ 1223 Г. Ведамку аб гэтай умове знаходзім у Гэнрыка Латыша; ўслед за апісаньнем бітвы на рацэ Калцы, ў летапісі сказана:

„князь Смаленскі,Полацкі і другія рускія князі паслалі паслоў у Рыгу просячы аб заключэньні міру, які і быў адбудаваны ва ўсіх артыкулах, як ён істнаваў здаўна."

(А. Сапуновъ „Рѣка Западная Двина. Историко-географическій обзоръ", Вітабск, 1893, б. 271).

СЬПІСКІ СМАЛЕНСКАЙ УМОВЫ З НЕМЦАМІ 1229 ГОДУ, Т. ЗВ. „СМАЛЕНСКАЙ ТАРГОВАЙ ПРАЎДЫ". Біскуп Альбэрт памер у 1229 годзе, 17 студня. У гэтым-жа годзе паміж Смаленскам і Рыгай пачаліся мірныя перагаворы. Смаленскі князь Мсціслаў Давыдавіч паслаў у Рыгу свайго „лепшага мужа Ерамея і разумнага мужа Панцялея" каб заключыць тарговую умову; пасрэдніцтва ў гэтай справе ўзялі на сябе рыцар Раульф з Кассэля і нямецкі купец Тумаш са Смаленска. З Рыгі пасольства паехала на Готлянд дзеля нарады з агульным нямецкім купецтвам, дзе і была ўложана першапачатная рэдакція умовы. Вярнуўшыся ў Рыгу напісалі другую, аканчальную рэдакцію умовы, якая і была пацьверджана.

Захавалася сем экзэмпл. гэтай „Тарговай Праўды", зн.—тарговага статуту. Пасьля папярэдняй навуковай распрацоўкі іх, яны падзелены на дзьве рэдакціі, з якіх адна, мяркуючы з многіх выслоўаў і зваротаў, можа лічыцца перакладам з нямецкага, а другая—з лацінскага іставіка. Пытаньне аб паходжаньні двох іставікоў у лацінскай і нямецкай мове знаходзіць праўдападобнае дапушчэньне, што і нямецкі тэкст быў перакладам з лацінскага. З сямі адзінцоў гэтага дакуманту найбольшай даўнасьцю мовы вырожніваецца сьпісак, які Срезневскі стаўляе першым (з пячацьцю кн. Өеодора) з ліку двох, разгляданых ім.

Першы са сьпіскаў пісаны на вельмі вялікім аркушы пэргаміну ў адну гранку, вельмі шырокую, так што на аднэй балоне ўпісана 79 радоў, а на другой, адваротнай—23 рады, ўсяго—102 рады. Да гэтай граматы прывязаны дзьве пячаці, выбітыя на сярэбраных бляшках. На аднэй пячаці з аднэй стараны выбіта выабражэньне льва, а з другой стараны пяць радоў напісу:

в е л і | к о г о | к н я з | ө е д о | п е ч а т.

На другой пячаці з аднэй стараны словы:

п ч а | п р ь ө;

а з другой:

в л д к | (с) м о л е н | (с) к о.

Другі сьпісак напісаны такжа на вельмі вялікім аркушы пэргаміну ў дзьве гранкі: на першым—70 радоў, на другім—81, а на адвароце—7 радоў. На захаванай аднэй пячаці (на сярэбранай бляшцы) з абодвых старон выбражэньне нейкага чалавека і літар: ЯЭ | ЪК.

Час напісаньня азначаны гэткім чынам.

У першым сьпіску:

> Коли ся грамота псана и(с)шл был от Рожства Гня до сего лѣта *А* лѣ(т) и *С* лѣ(т) и *И* лѣ(т) и *К*.

У другім сьпіску:

> А си грамота писана бы(с) от распятья было *А* лѣ(т) и *С* лѣ(т и *Л* лѣ(т) без лѣта.

Абодвы сьпіскі пісаны адзінай вялічыні даволі буйным нявычурным уставам, першы—больш разьдзелены па літарах, а другі—больш сьцісла.

а б в г д є ж ꙁ н ꙗ ѥ к л м н о ѿ
ꙁ и ꙗ н ѡ
ꙁ ꙗ
п р с т оу ф х ц ч ш ъ ъı ь ѣ ю ѧ
р т оу ц
ч

Літары першага сьпіску Смаленскай граматы 1229 г.

а б в г д є ж ꙁ н ꙗ к л м н о ѡ п
є ж ꙁ к л м н
ж ꙁ
р с т оу ф х ц ч ш щ ъ ъı ь ѣ ю ѧ
р оу ь ѧ

Літары другога сьпіску Смаленскай граматы 1229 г.

У абодвых сьпісках мова народная, крыўская.

Вось пачатак першага сьпіску:

> „Что ся дѣетѣ по вѣремьнем. то отидето по вѣрьмьнемь. приказано боудѣте добрым людѣм. а любо грамотою оутвѣрдять. Како то боудѣте всем вѣдом. или кто посль живыи останеться. того лѣ(т) коли Альбрахт влдка Ризкий оумьрлъ. Уздоумалъ князѣ Смольнескый Мьстислав. Двдвъ снъ. прислал въ Ригоу своего лоучьшего попа (і)еремея. и с нимь оумна моужа Пантелья. из своего горда Смоль-

неска та два была послъмь оу Ризе. из Ригы ехали на Гочкыи берьго.тамо твердити мир.∴оутвердили миръ что былъ не мирно промьжю Смольньска и Ригы. и Готскымь берьгомь"...

Перш за ўсё кідаецца ў вочы ў гэтай грамаце стаўляньне Ѣ і Е адно замест другога: оутвѣрдять, останѣться, всем і інш.

Гэты правопіс дапускаў безразрожлівасьць ва ўжываньні *ь*, *е*, *ѣ*, і *ъ*, *о*.

Мы тут бачым, што: *е* і *ѣ* вельмі часта ўжываюцца адно замест другога: боуд*ѣ*те, в*ѣ*ремьнемь, остан*ѣ*ться, Смол*ѣ*неске—*іе*хали, Риз*е*, берез*ѣ*, Н*е*мчину.

Замест *ь* стаіць *е*: боудѣт*е*, оумрет*е*, поут*е*, Тоумаш*е*, Латин*е*скому, Гот*е*скомь, доконечано.

Замест *ь* стаіць *ѣ*: дѣет*ѣ*, свобод*ѣ*ныи, язык ом*ѣ*, княз*ѣ*.

Замест *е* стаіць *ь*: вѣр*ь*мьн*е*мь, іер*ь*мея, Пантел*ь*я, бер*ь*го, бер*ь*гомь, сер*ь*бра, п*ь*р*ь*прети.

Замест *ѣ* стаіць *ь*: посл*ь*, м*ь*сто, старост*ь*, оу Смольнеск*ь*.

Замест *ъ* стаіць *о*: отидет*о*, берьг*о*, мир*о*, дълг*о*, Ролф*о*, оустоко.

Замест *о* стаіць *ъ*: вѣдомъ, дъ вѣка, дъбрии, голъвоу, нъга, холъпъ, хълопоу, сърамъ, женъю.

Калі можна было зьмешываць на пісьме *ь* з *е*, *ѣ* і *ъ* з *о*, то знача і самыя гукі, імі выабражаныя, зьмешываліся пры вымаўляньні, г. зн.,—што *ь* і *ъ* вымаўляліся як галосныя згукі: *ь*—сходна з *е*, *ѣ*, а *ъ*—з *о*.

Рэзка адрожнены *ь* і *ъ* (*е*, *ѣ* і *о*) але ёсьць ужо здарэньні зьмешываньня, замены аднаго другім у процілегласьць старадаўнаму ўжываньню: отидет*о* замест славянск. отъидет*ь*, Смольнѣск*ь*, замест Смольньскъ.

Тэкжа рэзка адрожнены *е* і *и*, *о* і *ы*, але і тут ёсьць здарэньні зьмешываньня: Іерем*е*я, Пантел*ь*я, оу Роу*се*, соудиям*іе*, люд*ѣ*и, —разам з тым: люд*и*и, дн*и*и, Бож*и*и,—і заўсёды ў прыметніках *ыи*: жив*ыи*, свободѣн*ыи*, котор*ыи*, прав*ыи*.

Зьмешываліся *и* з *ы*: Ризк*и*и, княг*и*ни, Ризѣск*и*ми, хоць, зрэшта, часьцей: Смольнеск*ы*и, Гочк*ы*и, Готск*ы*м, Латинеск*ы*м, всяк*ы*и, Риг*ы*, порук*ы*, пог*ы*неть.

Побач правільнага зьмякчэньня сугалосных: оу Риз*ѣ*, берез*ѣ*, берьз*ѣ*, послус*и*, Волоц*ѣ*, бываюць і неправільныя пераходы: моуж*а*, бириц*а*, Смолѣнеск*е*.

З ліку другіх здарэньняў ужываньня сугалосных трэба адзначыць заўсёднае утрыманьне *лъ* у канчарох дзеясловаў мінулага часу там, дзе гэты гук пазьней занік у крыўскай мове: оумьр*лъ*, нальз*лъ*, потоп*лъ*, перевьз*лъ* і інш. Між іншым, гэта асобнасьць, мабыць, узята з кніжнай мовы.

Разглядаючы мову граматы ў стасунку да скланеньня імён і зьмены дзеясловаў,—бачым, што хоць даўныя формы мовы ў ёй ужо ня ўсе поўнасьцю захаваны, але праяўляюцца ўсё-ж такі ў даволі чысьленым ліку.

Гэтак, ужываньне падвойнага ліку можна было бачыць і ў вышэй пададзеным адрыўку: т*а* дв*а* был*а* посл*ъ*мь оу Ризѣ; Роусиноу не оупирати Латинина однемь послоухомь, аже боудѣтѣ дв*ою* послоухоу, одиного Немчича, а другого Роусина; Латинескому дати от дв*ою* кап*ию* в*ъ*ску вѣс цю коуна Смольнеская;—т*а* дв*а* был*а* исъ Жата;—т*а* дв*а* был*а* из Мюньстьря і інш.

У склонах адзіночнага ліку, акром адзначанага ўжо мякчэньня сугалосных (*г. к. х.*) перад *ѣ* і *и*, можна заўважыць яшчэ родны і вінавальны жаночыя: родны на *е* замест царноўна-славянскага *я*: воль, мемль; вінавальны сходны чгсам з назоўным: дати емоу гривн*а* серебра; таков*а* правд*а* оузяти; дати іемоу от гривны серебра коун*а* Смольнеск*ая* і інш.

У склоне множнага ліку ясна выказуецца рожнасьць мужчынскіх канчаткаў ад жаночых. У мужчынскіх назоўны—не на *ы*, а на *и*, давальны на емъ и омъ (ъмъ); месны—на ѣхъ: послус*и* коупч*и*, дъбр*ии*, вѣремь*немь*, коуп*чемъ*, люд*ьмъ*, Рижан*ѣмъ*, Вълъчан*ѣмъ*, — послоус*ьхъ*; родны на *ъ* і *ь*: дворянъ, купьць; месны—на *ы*: Смолян*ы*, кол*ы*, купц*ы*.

У зьменах:—цяперашняга часу 3-я особа і адзін. і множ. ліку канчаюцца на *ь* (або на *е*, *ѣ* замест *ь*): дѣт*ѣ*, боудѣт*е*, останет*ь*ся, оутвѣрдят*ь*, оубиют*ь*, боудут*ь* і інш.

Неакрэсьленны лад дзеясловаў блізка заўсёды на *и*.

Вось пачатак другога сьпіску:

> „Что ся въ которое вѣремя начнеть дѣяти то оутвьржають грамотою. а быша ся не забыли познаите на память держите нынѣшнии. и по сѣмь веремени боудоучи. къ комоу си грамота придеть. Того лѣта. коли епп(скоп) Альбрахтъ Рижьскыи мьртвъ. князь Мьстиславъ Двдчь послалъ свое моуже. Геремея попа Пантелея сотьского от Смолянъ въ Ригоу. а изъ Ригы на Готьскыи берегъ. оутвьрживати миръ".

Па самаму пачатку гэтай граматы, раўняючы з папярэдняй, можна бачыць рожніцу ў правопісе. Зрэшта, гэта рожніца не так вяліка: тут мы бачым толькі большы ўплыў кніжнага правопісу. Умова была падпісана паміж Смаленскам з аднэй стараны і Рыгай з Гоцкім берагам—з другой. Са Смаленскай стараны пасланы былі поп Ерамей і сотнік Панцялей. Стараліся аб гэтай угодзе Рольф з Кассэля і Тумаш са Смаленска. У канцы граматы яшчэ ўспомнены Регенбот і Тетарт Адам, купцы Гоцкага берагу, Мэмсбэрн і Фрыдрых Думбэ з Любэкі, Гэнрык Гот і Ільдзігеръ з Гжата, Канрад Шхель і Іоганъ Кінт з Мюнстэра, Бэрнар і Фолькер з Груніга, Эрмбрэхт і Альбрэхт з Дортмуда, Гэнрых і Ціжык з Брэмэну, Альбрэхт Слук, Бэрнард Вальтэр і Альбрэхт Рыжскі судзьдзя з Рыгі.

Варункі пастаўлены такія:

— за забойства свабоднага чалавека—10 грывень серабра;—за забойства халопа—1 гр.; за вока, нагу, руку, і г. п.—5 гр.; за зубы—3 гр.; за пабоі з сінякамі або крывёй—$1\frac{1}{2}$ гр.; за удар поўху—$\frac{3}{4}$ гр.; папу і паслу—ўдвоя;

за рану—$1\frac{1}{2}$ гр.; за віну смаленца ў нямецкай зямлі і Немца ў Русі ў дыбу або ў пограб не саджаць; калі зрэшта ня будзе парукі, то акаваць у зялеза можна. Доўжнік абавязаны плаціць свой доўг перш за ўсё чужаземцу. Калі бы князь вялеў канфіскаваць яго маемасьць, то ўсё-ж сьпярша павінен быць заплачаны доўг. Калі хто памрэ не заплаціўшы, хоць-бы і халоп, то плаціць павінен той, хто атрымлівае спадак па ім. Пры судзе павінны быць два сьведкі (послухі): адзін—мясцовы, другі—Немец. Бяз згоды абедзьвех судзячыхся старон ня можа быць паміж мясцовым і немцам суда ні зялезам гарачым, ні паядынкам. Каліж на паядынак выступаюць немцы паміж сабой ў Русі, або рускія ў нямецкай зямлі, то нікому ў гэта не мяшацца.

За зьнявагу жанчыны муж атрымлівае 10 грыв. серабра; за зьняволеньне свабоднай жанчыны: чэснай—5 грывень, не саўсім чэснай—1 гр. сер.; рабы, калі будуць сьведкі—1 гр. сер.

За зьвязаньне без віны—3 гр. сер.

Пры неаплаце доўгу трэба ўзяць дзецкага і цівуна, каб той памог узяць доўг, і калі дзецкі ня кончыць у 8 дзён, то вымагаць парукі ад гараджан; а калі гараджане звольняць даўжніка, то яны і плацяць доўг.

Пры прыходзе лацінскіх гасьцей да валокаў (ад Дзьвіны да Дняпра) цівун павінен пасlаць людзей для перавозу тавару. Калі пры перавозе штоколечы згіне, то плацяць шкоду ўсе валачане.

У горадзе дазваляецца свабодна прадаваць ўсё. Свабодна можна вязьці тавары і на старану, ў другое князьства: Русіну да Любэкі.

Калі хто купіць у госьця тавар, то вяртаць яго назад ужо нельга.

Судзіцца госьць толькі ў Смаленску, а Русін толькі ў Рызе і на Гоцкім беразе.

Нельга прыклікаць ні на немца дзецкага, ні на русіна бірыча, не заявіўшы перш старасьце тых часьцей, з каторых каго колечы вінавацяць.

Госьця нельга прымушаць ісці на вайну.

Са злоўленым злодзеям, свая воля.

Перасуду няма: раз перад судзьдзямі і перад добрымі людзьмі кончана справа, то яна ня можа быць узьнята ў другім горадзе.

Шлях паміж Гоцкім берагам і Смаленскам усім свабодны, бяз мыта.

Лацінскія госьці, прыйшоўшы ў Смаленск, даюць княгіні ў дар постаў часьціны, а валоцкаму цівуну—рукавіцы, каб ён памог перавязьці тавар без затрымкі.



Застаўка з крыўскіх рукапісаў XV—XVI ст.

Важнік атрымлівае за важаньне двох капей воску (кап=4 рыжск. пудоў) адну смаленскую куну (куна) $^1/_{50}$ грыўні); за важаньне грыўні золата— адну нагату ($^1/_{20}$ грыўні) смаленскую; за важаньне сярэбранага начыньня—з грыўні серабра адну нагату, за грыўню серабра грашамі—дзьве векшы (векша $^1/_{24}$ нагаты). За ператопку грыўні серабра—адна куна смаленская.

Калі зламаецца або якколечы лягчэйшай стане ваговая гіра (капь), то спраўджаць з гірамі, з якіх адна ляжыць у царкве сьв. Богародзіцы, а другая ў лацінскай царкве.

Пры перавозе праз валок кідаць жэрабье, каго перш вязьці, але ў кождым здарэньні—перш вязьці немцаў.

Рыжскі урад дае свабоду ўсім чэсным купцом езьдзіць па Дзьвіне і па яе беразе.

Калі вадаплаў разабьецца, то патопшага тавару ніхто не мае права браць, акром ўласьніка і нанятых ім людзей, і гэтым людзям плаціць па ўмове пры сьведках. Гэта-ж рабіць у княстьвах Полацкім, Вітабскім і Смаленскім.

Тэкст умовы:

Князь Мстиславъ Давыдовиць послалъ свои мужи, Еремѣя Попа, Пантелѣя Сотьского, отъ Смольнянъ въ Ригу, а изъ Риги на Готьскый берегъ, утвержívати миръ, а розлюбье на сторону отверечи, которое было межи Нѣмци и Смольняны: а за тотъ миръ страдалъ (стараўся) Рулфъ изъ Кашля (Касселя?) и Тумашъ Михайловичь, абы добросердье межь ихъ было, абы Рускымъ купцемъ въ Ризѣ и на Готьскомъ березѣ, а Нѣмечкымъ купцемъ въ Смоленьской волости любо было, какъ миръ утверженъ, и добросердье абы въ вѣкы стояло, и Князю любо бы и всимъ Смолняномъ и Рижаномъ и всимъ Нѣмчемъ, по Восточному морю ходящимъ, оже такую правду въпсали, которою правдою быти Русину въ Ризѣ и на Готьскомъ березѣ,... абыша тоя правды держали и въ вѣкы.

Богъ того не дай, оже розбой по грѣхомъ приходитьсь межи Нѣмци и Руси, что за что платити, абы миръ не раздрушенъ, абы.. Нѣмцичю любо было. А се починокъ правдѣ:

1. Оже убьють вольнаго человѣка, платити за голову 10 гривенъ серебра.. по 4 гривны кунами или пѣнязи, а за холопа гривна серебра; аже кто холопа ударить, гривна кунъ. Та же правда буди и въ Смоленскѣ, и въ Ризѣ, и на Готьскомъ березѣ.

2. Аще око выбьють или руку отътнуть, или ногу, или иная которая храмота на тѣлѣ явиться, 5 гривенъ серебра, а за зуб 3 гривны серебра. Таже правда буди въ Смоленскѣ.. и на Готьскомъ берегу.

3. А.. кто деревомъ ударить человѣка до крови, полторы гривны серебра; аже ударить по лицю или за волосы иметъ, или батогомъ шибеть, платить безъ четверти гривна серебра; аже послови (паслу) пригодится пакость или Попови, въ всякой обидѣ за два человѣка платити дань.

4. Аще кто друга ранить, а хромоты на тѣлѣ не будеть, полторы гривны серебра платити.

5. Аще Рускый гость или въ Ризѣ, или на Готьскомъ березѣ извинится (будзе вінаваты), никакоже его всадити въ дыбу (калоду), оже будеть порука понь..; не будеть ли порукы понь, то лзѣ вса-

дити въ желѣза. Или нѣмецкый гость извинится.., не лзѣ его вереци въ погребъ; оже не будеть понь порукы, лзѣ его всадити въ желѣза.

6. Оже Нѣмечкый гость дасть свой товаръ въ долгъ въ Смоленьскѣ, а Русинъ будеть долженъ Руси, ино Нѣмцичю напереди взяти. Таже правда буди Русину въ Ризѣ и на Готьскомъ березѣ.

7. Аще Князь взверьжеть (гнеў) на Русина, и повелить его розграбити съ женою и съ дѣтьми, а Русинъ будеть долженъ Нѣмцичю, (то Нѣмцичю) напередъ взяти, а потомъ како Богови любо и Князю. Таже правда буди Русину въ Ригѣ и на Готьскомъ берегу.

8. Или Нѣмечкый гость дасть холопу Княжю или Боярьску, а кто задницю (спадак) его возметь, то у того Нѣмцичю товаръ взяти. Таже правда буди Русину въ Ригѣ и на Готьскомъ березѣ.

9. Русину же не лзѣ.. вести одинаго Русина въ послушьство, ни двою. Таже правда буди Нѣмцемъ въ Смоленскѣ.

10. Русину же не лзѣ имати Нѣмчина на желѣзо (катаваньне гарачым жалезам) такоже и Нѣмцичу Русина; аже возлюбить самъ своею волею, то.. его воля.

11. Русину же не лзѣ позвати Нѣмцича на поле (біцца адзін з другім) въ Смоленскѣ ни Нѣмцичю въ Ригѣ и на Готьскомъ березѣ, или Нѣмечкый гость битися въ Руси межи собою меци или сулицами, Князю то ненадобѣ и никакому Русину, а... правятся сами посвоему суду...

12. А.. иметь Русинъ Нѣмчица у своей жены, ино за соромъ 10 гривенъ серебра: такоже.. Русину въ Ригѣ и на Готьскомъ берегу.

13. Аще который Нѣмцичь учинить насилье надъ вольною женою въ Смоленскѣ, а дотолѣ было не слышати бладнѣ ей, 10 гривенъ серебра за соромъ; таже правда буди Русину въ Ригѣ и на Готьскомъ березѣ..

14. А како услышить Волочкый Тіунъ, еже гость Нѣмечкый пріѣхалъ въ Смолняны на Волокъ, послати ему своего человѣка вборзѣ къ Волочаномъ, ать перевезуть Нѣмечкый гость.. съ товаромъ; а ниткожь иметь имъ пакостити, занеже въ той пакости велика пагуба бываеть Смолняномъ отъ поганыхъ. И Нѣмцемъ метати.. жеребьи, кому пойти.. напередъ. Аще иный гость будеть Рускый, тому пойти позади.

15. А како будеть гость Нѣмечкый въ городѣ, дати имъ Княгини поставъ частины, а Тивуну Волочкому рукавичь перьстатый Готьскый (рукавіцы з пальцамі).

16. А который Волочанинъ вскладываеть товаръ Нѣмечкый или Смоленскый на кола своя чересъ Волокъ везти, а что погынеть того товара,.. всимъ Волочаномъ платити. Таже правда буди Русину.. и на Готьскомъ березѣ.

17. А како будеть Нѣмечкый гость въ Смоленьскѣ городѣ, тако ему продати свой товаръ безо всякія борони (без перашкоды); а какъ будетъ Рускый гость въ Ризѣ и.. на Готьскомъ березѣ, вольножь ему продати... безовсякой борони.

18. Аще который Нѣмчиць хочеть пойти съ своимъ товаромъ въ иный городъ, Князю не боронити, ни Смолняномъ; или который Русинъ всхочеть.. съ Готьского берега въ Нѣмечкую землю въ Любокъ (Любэку), Нѣмцемъ не боронити.. пути того.

19. Аще который Русинъ возметъ товаръ у Нѣмчица, о понесеть товаръ изъ двора, тый товаръ не ворочаеться; или который... то-

варъ купилъ у Русина и понесеть изъ двора, тый товаръ не ворочаеться.

20. Русну же не лзѣ позвати.. на опцій (агульны) судъ, развѣе на Смоленскаго Князя; аже возлюбить Нѣмцичь на опьчій судъ, то его воля. А Нѣмцичю не лзѣ позвати Русина въ Ригѣ или на Готьскомъ березѣ на опчій судъ: всхочеть ли Русинъ на обчій судъ, то его воля.

21. Русину же не лзѣ приставити Дѣчкаго (Дзетскага, Отрока, вайсковага прыстава) къ Нѣмцичю въ Смоленьскѣ, но преже обвсѣтить старѣйшему ихъ: оже старѣйшина его не умолвить, то лзѣ ему... приставити. Такоже и Нѣмчичю въ Ригѣ и на Готьскомъ березѣ, не лзѣ ему приставити Дѣтьского.

22. Оже будеть Русину товаръ имати па Нѣмчичи или въ Ризѣ, или на Готьскомъ березѣ,.. въ которомъ городѣ въ иномъ Нѣмечкомъ: пойти истьцю къ истьчю, и взяти ему тая правда, которая.. въ томъ городѣ; а рубежа имъ не дѣяти; а Нѣмчичю таже правда взяти въ Руси. (слова „рубежъ“ ужыта тут у значэньні захопліваньня сілком).

23. А нѣмчичю платити вѣсцю отъ двою капьѣ (з 24 пудоў) куна Смаленьская.

24. Оже купити Нѣмцичю гривну золота, дати ему ногата вѣсцю, или продасть, не дати ему ни векши.

25. Или который Нѣмцичь купить.. судъ (начыньне) серебряный, дати ему отъ гривнѣ куна вѣсцю, или продасть, не дати ему ни векши.

26. Аще купить Нѣмцичь гривну серебра, дати.. вѣсцю 2 векши, или продасть, не дати ему.

27. Оже Нѣмчинъ дасть серебро платить, дати ему куна Смоленьская.. гривень (з грыўны).

28. Аще вощный пудъ (васковая вага або 12 пудоў) исказиться, лежить капь въ святій Богородици на горѣ, а другая въ Нѣмечкой Богородици: то тымъ пудъ извѣряче, право ѵчинити. Таже правда буди Русину въ Ризѣ и на Готьскомъ березѣ.

29. Нѣмчичю же всякой товаръ вольно купити безъ борони въ Смоленскѣ такоже и Русину вольно купити всякый товаръ безъ борони въ Ризѣ и на Готьскомъ березѣ.

30. Нѣмчичю же не надобѣ ни кое мыто изъ Смоленьска.. до Ригѣ, а изъ Ригы.. до Смоленьска; такоже и Русину не надобѣ мыто съ Готьскаго берега и до Ригѣ, а изъ Риги.. до Смоленьска.

31 Аще Смоленьскый Князь пойдеть на войну, не надобѣ ему (немцу) ѣхати; оже всхоцеть съ Княземъ, то своя ему воля; такоже буди и Русину воля въ Ризѣ и на Готьскомъ березѣ.

32. Аже Русинъ или Нѣмчичь иметь татя у своего товара, въ том его воля, что хочеть учинити.

33. Русину же не дати пересуда (судоўнага мыта) ни въ Ригѣ ни на Готьскомъ березѣ, ни Нѣмчичю же платити пересуда въ Смоленьскѣ.. или у князя, или у Тіуна, или урядили будутъ добріи мужи; болѣ же того не поимати ни въ Ригѣ, ни на Готьском березѣ. Таже правда буди Нѣмечкому гостю въ Смоленьскѣ.

34. А пудъ (вага) дали Нѣмчи Волочаномъ, иже.. имъ товаръ возити... всякому гостю, и коли исказиться, а подругъ (такі-ж) его лежить въ Нѣмечькой божницѣ, а другый ковати извѣривши тими.

35. Епископъ же Рижьскый, Фолкунъ Мастеръ Божіихъ Дворянъ (Рыцараў Хрыстовых), и вси волостели по Рижеской земли дали

Двину волену отъ о устья доверху по водѣ, и по берегу всякому гостю Рыжьскому и Нѣмечькому ходящимъ внизъ и верхъ.

Богъ того не дай, аще кою притца пріиметь, или ладья уразиться.. Руская или Нѣмечькая, вольно ему свой товаръ привезти къ берегу безъ всякой борони. Аще будеть въ пособленіе людій мало будеть а къ тому.. принаймати людій въ помочь: то, что будеть сулилъ:. найма, черезъ то.. болѣ не взяти. Таже правда буди Русину въ Ризѣ и на Готьскомъ березѣ, и Нѣмчичю въ Смоленьской волости и въ Полотьской и въ Витебьской.

А си грамота написана бысть.. при Попѣ Иванѣ и при Мастерѣ Фулкинѣ и при Рижьскихъ мужехъ, и при многыхъ купчехъ Рыжьскаго Царства, еже есть тѣхъ печать на сей грамотѣ. А се.. суть сему послуси (сьведкі) Регемботъ, Тетартъ, Адамъ, горожане на Готьскомъ березѣ; Мемеберъ, Вередрикъ, Домомъ изъ Люпка (Любэкі)..; Индрикъ,.. Тонліеръ: таже суть изъ Южата (Данцыга?)—Кондратъ кривый, Еганъ Кинотъ: ти.. суть изъ Мунстера (Мюнстэра)—Берникъ и Фолкирь, тиже суть изъ Глугли (Грэнінгена?)—Яремъ,.. Брахтъ: тиже суть изъ Дротмины (Дортмунда),—Индрикъ, Чижикъ: тижи изъ Дрямь (Брэмэна?)—Альбряхъ Слукъ, Берняръ Велетерь, Алеберъ судья Рижскій: тоже суть Рижане. Аще который Русинъ или Нѣмчиць противитися всхочеть сей правдѣ, да тотъ противенъ Богу и сей правдѣ.

Усе сем іставікоў пераховываліся ў Рыжскім гарадзкім архіве. Грамата была друкавана многа разоў: „Собр. Гос. грам. и договор.", т. II, № 1; „Русско-Ливонскіе акты" (і дадатак № 1); „Витеб. Старина" Сапунова. I, б. 15; Літаграфаваным спосабам выдана ў Сахарова „Образцы древней писменности", табл. XI і XII (другая рэдакцыя). Пададзены тут перадрук узяты з „Витеб. Стар." Сапунова.

УГОДЧАЯ ГРАМАТА СМАЛЕНСКА З РЫГАЙ, ПАСЛЯ 1230 ГОДУ. Напісана на доўгім кавалку пэргаміну, ўсяго 80 радоў, гранка шырынёй больш пяці вяршкоў, пісана цесна, але даволі прыгожым уставам, немаль такога-ж памеру, як і вышэй разгледжаныя граматы. Пераховывалася ў Рыжскім архіве.

Пры грамаце прывешана пячаць з дзьвёх сярэбраных бляшак: на аднэй —аблічча з абазначаньнем імя, але так нявыразна, што нельга адчытаць ніводнай літары; на другой—такжа выбражэньне сьвятога ў княжай вопратцы і з бакоў яго літары:

оагі | гаві
о р

Можна падумать, што гэта скарочанае імя князя, які пацьвярджаў грамату, але, як ведама, ніводзін Смаленскі князь ня меў падобнага імя. У самой грамаце для абазначаньня часу напісаньня яе ёсьць толькі ніжэйпісанае:

„а како будѣть Немьчьскый гъсть Смоленьскѣ. а почнеть ся кто отъ них просити. въ иноую землю. то како то было при моемь отци при Мьстиславѣ. при Романовици и при моемь братѣ при Мьстиславѣ. Онѣмъ ся прашати а мнѣ е по думѣ поущати".

Мсціслаў Раманавіч быў Смаленскім князям да 1214 г. Пад другім Мсціславам, названым тут, нельга нікога разумець, акром Мсціслава Давыдавіча, ад імені якога заключана была умова 1229 году і каторы памер у 1230 г. Выходзячы з гэтага апошняга, трэба думаць, што грамата пісана пасьля 1230 году, але калі і ад імені якога князя,—трудна сказаць. Хто заступаў мейсца Мсціслава Давыдавіча ў Смаленску безпасярэдна пасьля яго—няведама. У 1232 годзе быў Смаленскім князям Сьвятаслаў Мсціслававіч, сын Мсціслава Раманавіча. Пад 1235 г. упамінаецца Смаленскі князь Ізяслаў, паводле пазьнейшых летапісцаў—сын Рамана Мсціслававіча, а такжа пляменік Мсціслава Давыдавіча. Пад 1239 годам бачым у Смаленску яшчэ ўнука Раманавага, Усевалода Мсціслававіча; пад 1240—яшчэ аднаго ўнука Раманавага, Расціслава Мсціслававіча. Усё гэта пляменікі вышэй успамянутых Мсціславаў. А князь, успомнены ў грамаце, быў братам Мсціслава Давыдавіча, называў-жа сябе сынам Мсціслава Раманавіча мабыць па праву гэтага апошняга, як заступіўшага мейсца бацькі ў родзе, а можа—па духовай роднасьці. Мсціслаў Раманавіч дзейнічае ўжо ў 1178 годзе, выдае дачку замуж у 1195 і памірае ў 1223 годзе, маючы злішнім 60 гадоў. Мсціслаў Давыдавіч быў, як здаецца, значна маладзейшым і мог лічыцца братам князя, які спамінаецца ў грамаце.

Зьмест гэтай граматы даволі сходзен з папярэднімі, але ёсьць і важныя рожніцы. Вось зьмест граматы.

Пачатку бытцам няма. Першыя словы:

> „а ряд мой съ Немьци таков. аже боудоуть мои Смолняне въ Ризѣ. вольное търгованье им въ Ризѣ"...

блізка тое-ж што ў артыкулах III, XXIII, XXXVII граматы 1229 году, толькі караццей і без упамінаньня згоды немцаў, з дадаткам пры гэтым варунку: „а мѣста на корабли вольная како Немѣчичю тако и смоляниноу".

Далей ідуць такія варункі.

Пасьля забойства „мужа" або выдаць забойцаў (разбойникы), або плаціць 10 грывень; за забойства пасла або папа пры тых-жа варункахъ—ўдвая.

За вока, нагу, руку або другую „хромоту"—5 грывень сер., а за зуб—3 грыўні.

За удар дрэвам да крыві ці па абліччы—3 грыўні (паводле умовы 1229 г. —1½ грыўні).

За удар мячом або нажом без „хромоты"—3 грыўні (у грамаце 1229 г.— 1½ гр.).

Не садзіць рускага госьця ў дыбу, а калі няма парукі,—пасадзіць у зялезы. Аб праве нямецкіх гасьцей нічога няма.

У здарэньні даваньня тавару напавер і немцам і русінам, перш за ўсё плоціцца доўг русіном немцу, а немцам русіну.

Калі немец, даўжнік смаленца, правініцца перад сваімі і павінен быць пакараны (на маетнасьці), то сьпярша павінен быць выплачаны доўг смаленцу. Аб гэткім-жа праве немцаў не сказана нічога.

Па сьмерці даўжніка—немца, смаленец атрымлівае належнасьць ад спадкаберцаў. Аб гэтым-жа праве немцаў не сказана нічога.

Умова аб сьведках, што яны павінны быць заўсёды з немцаў і смаленцаў, такая-ж, як і ў грамаце 1229 году, але выражана інакш.

Таксама аб судзе зялезам і аб судзе паядынкам.

За нявіннае зьвязаньне і пасаджаньне ў зялеза—тры грыўні сер.

Аб абавязках дзецкага—тое-ж, што і ў умове 1229 г., толькі з большымі падробнасьцямі.

Аб свабодным безплатным праездзе паміж Смаленскам і Рыгай і Гоцкім берагам—тое-ж. І тут-жа аб валоках: „а на волоце како то есть пошло“.

Аб незвароце купленага тавару.

Аб судзе смаленца з немцамі ў Смаленску і ў Рызе —тое-ж; тут-жа абазначана, што гэткі суд ёсьць даканчальны, без перасуда.

Далей за абрыў барады ў госьця—3 гр. сер., а у баярына або кунаемца (зьбірача падаткаў)—5 грывень (ў умове 1229 г. гэтага няма).

Аб пераходзе нямецкіх гасьцей са Смаленска далей „мнѣ е по доумѣ поущати“ (паводле умовы 1229 г. безумоўная свабода).

За забойства княжага гарадзкога цівуна—20 грывень, як і пасла; ў умове 1229 г. гэтага няма.

Аб зьняважаньні жанок—тое-ж, толькі з пазваленьнем забіць зьняважніка; за зьняволеньне вольнай чэснай жанкі —10 грывень сер., а не—5, як ў умове 1229 г., за зьняволеньне рабы—1 грыўня.

За гэтым ідзе закончаньне:

„То же есьмь съ вами рядь свои докончал про свое моуже. и про свое смолняны. аже въедеть брат мой которыи въ Смолньск. а оучинится вам свада съ ихъ моужьми. вамъ ся вѣдати съ ними самѣмъ. или гость ис которое земле приедеть. в мои Смолньск. а боудеть вы съ нимь свада. а вѣдаитеся съ ними сами“.

Грамата выдана Срезневским у „Древн. пам. р. п. и языка“... бб. 223—225. „Вит. Стар.“ Сапунова: бб: 1, 19, „Русск. Ливовск. акты“ (ў дадатках № 2).

Паводле грамат заключаных з немцамі крыўскімі гарадамі Смаленскам Вітабскам і Полацкам,—са стараны гэтых апошніх выступае жыхарства пад найменьнем „Русь“, „роуски“, „роусин“. Якой-жа катэгорыі гэта найменьне: дзяржаўнае, племянное, ці адначасова злучае абодвы паняцьці разам? От-жа гэтыя самыя граматы паказуюць

Пачатак граматы князя Ізяслава Вітабскага і Полацкага (гл. пад 1265 г.).

нам, што найменьне „Русь“, укладаўшымі гэныя граматы дэлегатамі, ўжыта было ў саўсім іншым значэньні.

Для абазначаньня нямецкай стараны ў граматах ужываецца не адно, а два найменьньні „немци“ і „латинеськии“. Першае найменьне ў нашы часы разумеецца як назоў германскай нацii i ўжываецца цяпер толькі ў гэтым значэньні. Даўней-жа тэрмін „немец“ меў значэньне падвойнае: 1) як, наагул, чалавек другой, чужой, незразумелай мовы, з якім нельга было згаварыцца і 2), як спэцыяльная назова для людзей лацінскага (каталіцкага) абрадку. Словы „немецьки“ і „латинеськи“ ў нашых тарговых умовах стаўляюцца як аднaзначныя, прыкл.: „оу немецкои божницы“, „у латинеськои церкви.“ І гэта саўсім згодна з гісторыяй. У гэткім значэньні словы „немец“, „нямецкая вера“ ўжываліся ў нас да XIV ст. бо немаль адзінымі прадстаўнікамі рыма-каталіцкага абрадку на крыўскіх (беларускіх) землях былі ў тыя часы прыхадзіўшыя з захаду купцы з нямецкіх гарадоў.

Слова „латинеськи“ само сабой ясна,—яно азначае лацінскую веру.

Тарговыя умовы і граматы названых вышэй гарадоў даюць перавагу слову „латинеськи“ над словам „немецки“.

З гэтага адзіна праўдны вывад, што прадстаўніцтва Ганзэйскіх гарадоў, пры заключаньні умоў з Крыўскімі гарадамі, выступала пад адзінай, злучаючай іх усіх, веравызнаўчай азнакай. У данным здарэньні са стараны Рыгі выступаюць прадстаўнікі не нямецкага „языка“, а лацінскага абрадку аб якіх дзе-недзе зазначана „немцы“.

Калі адна старана выступае, як прадстаўляючая людзей азначанага абрадку, то, паводле законаў лёгікі, і другая старана павінна была ўжыць назоў, які адпавядаў-бы па зьместу першаму, г. зн.—выступіць пад назовам аб'еднуючай рэлігіі. Толькі ў гэткім значэньні тэрміны „латинеськи“ і „русин“, стаячыя побач, будуць натуральны і зразумелы. Калі-ж дапусьціць, што адна старана называе сябе рэлігійнай азнакай, а другая процістаўляе ёй свой этнографічны назоў, то гэткая рожнаякая тэрміналёгія будзе абсурднай у так важным дакуманце.

І гэта тэрміналёгія саўсім згодна з тагочаснымі паняцьцямі. У вачох старадаўнай інтэлігенцыі, як заходна-эўропэйскай, так і нашай, рэлігійныя азнакі мелі шмат большае значэньне, чым якія іншыя. Кождая старана, шукала ў элемэнтах, даступных тагочаснаму разуменьню, ў праціўнай старане азнак агульных; гэтыя азнакі былі знойдзены ў пануючых у тэй і другой старане абрадах. Для Крыўскіх дэлегатаў, якія пісалі умову, ўся праціўная старана была, ясна, веры „нямецкай“, або што адно і тое-ж „лацинскай“. Немцы-ж і ў Смаленскай, і ў Вітабскай, і ў Полацкай валасьцёх сустрачалі адзін агульны „рускі“ абрадак.

На гэтай аснове тэрміны „латиньски“, і тэрмін „руски“, былі прызнаны адназначнымі па зьместу, бо першы і другі падкрэсьляюць азнакі рэлігійныя умаўляючыхся старон.

Гэткім чынам тарговыя умовы XIII—XV ст. з Рыгай даюць нам яшчэ адзін лішні доказ, што тэрмін „Русь“ ужываўся і разумеўся ў нас, не як этно-

графічная, а як дзяржаўная (ў тых гарадох дзе панавалі Рурыкавічы) і веравызнаўчая азнака.

## „НАПИСАНІЯ АѲАНАСІЯ МНИХА КЪ ПАНКОВИ О ДРЕВѢ ДОБРУ И ЗЛУ И О НАУЗѢХЪ И О СТРѢЛѢ ГРОМНЕЙ“.

Рукапіс на пэргаміне, уставам; быў калісь у бібліатэцы Хрэбтовічаў; пісаны ў 6749 (1241) годзе „рукою многогрѣшного дьяка Никиты з Любъчи“; знаходзіўся ў 1890-х годах у Корсакаў у Дзісеншчыне.

**УМОВА СМАЛЕНСКА З РЫГАЙ, КАЛЯ 1250—1260 гг.** Калі не лічыць нязначных адкланеньняў, то гэта умова зьяўляецца толькі падробнай копіяй умовы 1229 году. Перадрукавана ў „Русско-Ливонскихъ Актахъ“. (Дадатак № 2, балона 448).

## ГРАМАТА КНЯЗЯ ГЕРДЗЕНЯ ВІТАБСКАГА І ПОЛАЦКАГА, 22 СЬНЕЖНЯ 1264 ГОДУ.

> Князь Герденъ кланяеться всемь тѣмь, кто видить сию грамоту. Тие люди, што ныне живи суть, а темь, кто напосле приидуть, тѣмь вѣдомо буди, какъ миръ есмы творили промежи местеря и с ратьманы Рижьскыми и с Полочаны и Видьбляны. Тако како грамота написана, тако имъ надо всею землею отступити, што есть Лотыгольская земля, какъ не въступатися на тую землю, што князь Константинъ далъ местерю съ своею братьею, съ своею грамотою и съ печатью, како боле того на ту землю не поискывати. Верху того про ту пакость, што ся в розмирьи створило, какъ имъ отъ обою сторону отступити, што Руськая земля словеть Полочькая; отъ тое земли местерю и братьи его отступити с всею правдою. Верху того Немечькому гостю въ Полочьскую волно ехати и торговати, купити и продати, такоже Полочаномъ и Видиблянину волно гостити в Ригу и на Готьскы берегъ. А где будеть кто кому виноватъ, в томь городе правити, где тотъ человѣкъ живетъ, инде судъ ему не искати; в которои волости человѣкъ извиниться, ту ему правда дати, или вина его. А старому миру стояти князя Герденя, князь тыихъ, и кто по немъ будеть: што поклепани на рѣзне и што словеть Лотыгольская земля, отъ того ся отступили с всею правдою; местерь такоже братья его отступили, што словеть Полочьская земля со всею правдою. Сию грамоту тогды написана в Ризе, коли Богъ былъ 1000 лѣтъ и 200 и 60 лѣтъ и 4 лѣ по Рожен Божии за три дни.

Перадрукавана Нап'ерскім ў „Грамотах“, Сапуновым—у „Витеб. Старинѣ“. т. І, б. 21.

Гэта ёсьць першая умова, заключаная Полацкам з Рыгай, аддзельна ад Смаленска; цікава яна яшчэ і тым, што князь Гердзень гэтай граматай уступае правы Полацка на Латыгольскую зямлю крыжакам.

У летапісах маецца ведамка (П. С. Р. Л., т. VII), што сын Гердзеня быў біскупам у Тверы: „сын Ерденевъ Семен былъ владыкою в Тѳеры, которій на митрополита на Петра волненіе учинылъ“. Спомнены мітрапаліт Пётр быў першым Кіяўскім мітрапалітам, які жыў у Маскве. Высьвячаны Пётр на міт-

рапаліта патрыархам Атаназым у 1308 г., памер у 1326 годзе. Біскуп Лука пісаў, як выражаецца летапіс, „лжывыя словеса на мітрапаліта Пятра“ і быў праціўны высьвячэньню яго ў мітрапаліты.

Ўзаемастасункі Крывічоў і Літвіноў сягаюць глыбока ў прадгістарычную мінуўшчыму. Паводле сьведчаньня Адама Брэмэнскага, Крывічы, перад прыняцьцем хрысьціянства, езьдзілі ў Курляндзію і Самогіцію на пакланеньне тамтэйшым сьвятыням, а знача, мелі супольных багоў. Карамзін кажа: „наймяньне Крывічы дае права думаць, што крыўскае племя таксама як і літоўскае прызнавала першасьвятара Крывэ—галавой свае веры.“

Магчыма, што пад Люцічамі Канстантына Пурпурароднага, якіх ён памяшчае на захад ад Крывічоў, трэба разумець Літву: „Крывічы, Люцічы і др.,—кажа Канстантын,—плоцячы дань Русам, зімой вырабляюць чоўны для прадажы, спускаюць іх у бліжэйшыя вазёры і рэкі і вясной са сваіх рэк прыходзяць да Дняпра, адкуль у Кіяў, дзе выцягнуўшы чоўны на бераг для агляду, прадаюць кіяўскім Русам“ („Monumenta Poloniae Historica“ Выд. Bielowsk. T. I. Lwów 1864 б. 16; Довнаръ-Запольскій „Исторія Кривичской и Дреговичской земель“. Кіяў, 1891, б. 64).

Расійскі гісторык Беляевъ („Очеркъ Исторіи Сѣверо-Западнаго края Росіи“ Вільня 1867, б. 15) кажа: ... „гісторыя застае Палачанаў і Літвіноў цесна зьвязанымі адны з аднымі“. Гэты гісторык думае, што маці вядомага Полацкага князя Ўсеслава († 1101) была літвінка, бо: „Ў самым характары Ўсеслава многа такога, што намякае калі не на літоўскае яго паходжаньне па матцы, то на выхаваньне ў літоўскіх абычаях... ў яго характары праглядаюць рысы другога (ня рускага) спосабу жыцьця“ (бал. 20).

Па сьмерці Усеслава, сын яго Глеб, князь Менскі (1118) вядзе доўгае і упорнае змаганьне з Алегам Сьвятаславічам Чарнігаўскім за Оршу і Копысь і з Валадзімерам Манамахам Кіяўскім за Слуцак, Пінск і Тураў пры помачы Літвіноў.

Крыжовым паходам ўсяго роду князёў-Русаў у 1127 г. крыўскія землі былі заваяваны і часьць князёў узята ў няволю і выслана ў Царград, але рэшта крыўскіх князёў уцякла ў Літву і пры помачы Літвы непакоіла Мсціславага сына Ізяслава, які заняў Полацак. „Мсціслаў атрымаўшы пэўныя ведамкі ад сына, што сіла палачан скрываецца ў Літоўскай зямле і што не заваяваўшы яе, нельга валадзець Полацкам, ў 1132 годзе выступіў у паход са сваімі сынамі і Чарнігаўскімі князямі ў літоўскую зямлю... Але паход няўдаўся. Рускіх князёў Літвіны і Крывічы крэпка пабілі“ (Беляевъ б. 30).

У 1159 годзе адзін з Менскіх князёў, Валадар Глебавіч, брат Менскага князя Расьціслава Глебавіча, „хадзіў па лясох паднімаць Літву“ супроць кіяўскіх Русаў, на помоч Менску. Крывічы разам з Літвінамі ваююць супроць князёў Кіяўска-Чарнігаўскіх (Русаў) ў 1166 годзе (П. С. Р. Л. II, 306; Карамз. II, 182, пр. 138), ў 1167 годзе (Іпат. л. 6673), ў 1169 годзе (Карамзін, II, 723), ў 1180 і 1181 годзе Narbut III, 300), ў 1198 г. (Карамзін III, 63).

Ціснутыя з поўначы, ўсходу і поўдня дынастыяй Русаў, крыўскія князі адыходзілі на захад у Літву; абасновываліся тут, радніліся з літоўскімі князямі і наадварот літоўскія князі радніліся з крыўскімі.

Дзеля таго, што галоўная апазыцiя Русам знаходзiлася ў Лiтоўскай зямле, то крыўскiя князi i землi пачынаюць выступаць з другой палавiны XII стагодзьдзя ў рускiх летапiсцаў пад iмем Лiтвы. Гэтак пад 1239 годам чытаем у летапiсе:

> „Яраслаў Ўсеваладавiч Суздальскi хадзiў к Смаленску на Лiтву, i Лiтву перамог i князя iх захапiў, i пасадзiў у Смаленск князя Усевалода Мсцiславiча“.

Гэты-ж „Лiтоўскi“ князь, аб якiм кажа летапiс, быў ня хто iншы, як Сьвятаслаў Мсцiславiч, унук Рамана Расьцiславiча Смаленскага, якi сеў у Смаленску пры помачы Палачанаў.

Гэткае мяшаньне летапiсцамi Лiтвiноў i Крывiчоў (Смаленскiх i Полацкiх) паказуе, што крыўскiя землi становяцца для iх лiтоўскiмi, хоць гэтыя апошнiя ня толькi не зьмянiлi сваiх жыхароў, але нават i дынастыi. З гэтага вынiкае, што калi называлi „лiтоўскiм“ князям Сьвятаслава Мсцiславiча, якi па крывi быў той самы Рурыкавiч, як i нападаўшы на яго Суздальскi князь, то з далёка большым правам называлi „Лiтвiнамi“ тых крыўскiх князёў, якiя былi блiжэй да Лiтвы, а з яшчэ большым правам тых, якiя аселi ў Лiтве, а нярэдка радзiлiся i ўзгадавалiся там.

Каля палавiны XIII ст. сталiся вялiкiя падзеi, якiя трохсотлетняе змаганьне Крывiчоў з Русамi разьвязала ў карысьць Крывiчоў i Лiтвы. Татарская навала ў 1240 г. зруйнавала землi Ростава-Суздальскiя, Чарнiгаўскiя i Кiяўскiя. Руiна, ўчыненая татарамi, была так вялiкая, што Данiла Галiцкi ня мог падыйсьцi да Берасьца „смрада ради избiенныхъ“ (Полн. собр. р. л. II, 179).

Супроць татарскай навалы выступiў Мiндоўг з крыўскiмi i лiтоўскiмi князямi i пастрымаў яе, задаўшы татарам страшэнную паражку пад Койданавам (каля Менска). Уцякаючы ад татараў, жыхарства шукала апекi Мiндоўга, гарады i сёлы вiталi яго як збаўцу i паддавалiся д а б р а в о л ь н а (Stryikowski Histor. form. Europ. выданьне 1846 г. ч. I, б. 235).

Асаблiва цесную сувязь Лiтвы i Палачанаў, адмячаюць летапiсы. Гэтак, як вышэй адмечана, ў 1232 годзе Лiтва i Палачане, па сьмерцi Мсцiслава Давыдавiча Смаленскага, пасадзiлi ў Смаленску Сьвятаслава Мсцiславiча; ў 1258 годзе Лiтва i Палачане хадзiлi пад Смаленск i Таржок; у 1262 годзе Лiтва i Палачане хадзiлi на помач Ноўгародцам супроць Лiвонскiх Немцаў.

Злiцьцё Полацкай Крыўскай княжай дынастыi з дынастыямi Лiтоўскiх князёў было так цеснае, што трудна цяпер згадаць дзе ў iх канчалася крыўскасьць i пачыналася лiтоўскасьць.

Цэлы доўгi рад летапiсаў (Сьпiсак Летапiсаў Пагодзiнскага сабраньня № 1404; сьпiсак Акадэмii Навук № 34. 4. 32; сьпiсак СПБ. Публ. Бiблiатэкi XVI ст. № 1572; сьпiсак Археолёгiчнай СПБ. Камiс. № 40; сьп. Румянцаўскага Музэю № 348 i другi сьп. СПБ. Акад. Навук № 17. 15. 19; Васкрэсенскi летапiс: П. С. Р. Л. т. VII, б. 253—256; другi сьпiсак Румянц. Музэю № 349; другi сьпiсак СПБ. Публ. Бiбл. № F. IV, б. 264; Том XVII П. С. Р. Л. Западно-Русскiя Лѣтописи) гавораць аб тым, што дынастыя Лiтоўскiх князёў

ёсьць галіной роду крыўскіх, Полацкіх князёў. Прыкладам сьпісак вышэй пастаўлены першым (Пагодзінскага сабраньня № 1404) кажа аб гэтым так:

„У великого князя Володимера Святославича другой сынъ Ізязлавъ, у Ізяслава сынъ Брячиславъ, у Брячислава сынъ Всеславъ, у Всеслава сынъ Борисъ, у Бориса сынъ Рагволодъ, у Рагволода сынъ Ростиславъ, у Ростислава сынъ Давилъ (Давид?), у Давила сын Видъ, его-же люди Волъкомъ звали; у Вида сынъ Троенъ, у Троена сынъ Виденъ, у Витеня сынъ Гедиминъ.“

Ваcкрэсенскі летапіс і многія другія сьпіскі памятаюць і некатарыя іншыя падробнасьці, прыкладам, што пасьля крыжовага паходу Рурыкавічаў на Крыўскіх князёў (у 1127 годзе) і высылкі палоненых у Царград:

... Вільняне взяша собѣ іс Царяграда княза Полотцкого Ростислава Рогволодовича детей: Давіла князя да брата его Мовколда князя.

Гэты летапісныя зьменкі ясна пацьвярджаюць спомненую вышэй цесную сувязь Крыўскай і Літоўскай дынастый, але разабрацца ў іх радаводах пакуль што нікому неўдалося. Перашкаджае гэтаму страшэннае пераблутаньне летапісцамі імён князёў, якія зазвычай мелі па два імені: абычаёва-паганскае і хрысьціянскае, а такжа пераблутаньне хронолёгіі і тэрмінолёгіі гістарычнай. Часта адны і тыя-ж асобы выступаюць у летапісах пад рожнымі імёнамі і пад рожнай гістарычнай тэрміналёгіяй.

Толькі ад Міндаўга „Літоўска-Рускага (Крыўскага)“ князя, пачынаецца пэўная гісторыя літоўскай дынастыі, прызнанай і доўгі час панаваўшай у Крыўскіх землях. Дынастыя гэта сабрала пад сваё панаваньне ўсе крыўскія землі, аб'яднала іх, бараніла і давяла да палітычнага росквіту ў XIV і XV ст. Мэндаговічы і Гедымінавічы сваімі трудамі і крывёй палажылі вялікія заслугі і цешацца слушнай пашанай, як у гістарычным нашым мінулым, так і ў сучаснасьці, без ўзгляду на тое, якая ў іх жылах цякла кроў—наша крыўская, ці братняя нам літоўская.

Ад XIII стагодзьдзя і да другой палавіны XIV ст. наша гісторыя працякала пад панаваньнем „Літоўскай“ дынастыі, а ад XIV да канца XVIII ст. пад імем Літвы. Ідэя адзінай для ўсходнага Славянства „рускай“ веры,—носьбітам якой была заўсёды ўлада мітрапалітаў,—навязывала нам другі тэрмін „Русь“. Гэты другі тэрмін спачатку абыймае ў нас усіх, хто вызнае „рускую“ веру, падлягае ўладзе Кіяўскага мітрапаліта. Ў сярэдзіне XIX ст. Расійская імпэрыя навязуе нам з асымілятарскімі мэтамі імя „Беларусь“.

І, дзеля гэтага, калі-б мы былі староннікамі дынастычнай тэрміналёгіі, саўсім слушна было-бы нам і сягоньня называцца „Літвой“, „літвінамі“, прынамні маючы далёка больш гістарычных падстаў чым на імя „Русь“. Аднак, не выракаючыся сваіх гістарычных імён, мы вяртаем цяпер ізноў да першапачатковага нашага імя „Крывічы“, бо гэта ёсьць не дынастычнае, не веравызнаўчае, а народнае імя, нікім нам не накінутае і якое ніўкога не было і ня ёсьць у залежнасьці.

Грамата Рыжскага архібіскупа в. кн. Федару Расьціславічу Смаленскаму 1281—1297 г.

## ГРАМАТА ПОЛАЦКАГА КНЯЗЯ ІЗЯСЛАВА ДА КРЫЖАКАЎ І РЫЖАНАЎ, КАЛЯ 1265 ГОДУ.

„Слово Изяслава, князя Полочького, къ епископу и къ местерю и къ всемь вельневьцемъ и ратьманомъ и всемъ горожаномь. Полотескъ, Видьбескъ одно есть, а воли есми Божии, и въ Молшелгове, а Изяславъ со мною одно. На семь къ мне целовати крестъ въ правду, любовь имѣти и миръ: какъ было при первыхъ князьяхъ Полочьскых, Полочаномъ, Видьбляномъ волное торгованье въ Ризе на Готьскомъ березе и в Любьце, а рубежа не дѣяти.

А кому с кымъ тяжа, судъ дати безъ перевода, а суженого не посуживати, а где кому годно, ту тяжеться; поручникы и должъникы

и холопы выдати. А што ся въ рать дѣяло и въ рубежехъ, про то вамъ не мьщати, ни намъ вамъ мещати. Чего ся есме отступили въ Ризе, к тому вамъ не приискываты ни людеи, ни земли, ни воды, ни борти. На семь же целуите ко мнѣ крестъ по любьви в правду без всякого извѣта."

Перадрукавана ў „Граматах" Нап'ерскага і ў „Вит. Стар." Сапунова Т. I, б. 21.

ГРАМАТА ІЗЯСЛАВА КНЯЗЯ ВІТАБСКАГА, КАЛЯ 1265 Г. У гэтай грамаце Вітабскі князь заяўляе, што хоча мець з немцамі мір і любоў, як было пры першых князёх Полацкіх і вымаўляе права вольнай таргоўлі Вітаблянам у Рызе і на Гоцкім беразе.

ГАРАДЗЕЦКАЕ ЕВАНГЕЛЬЛЕ 1270 Г. Пераховуецца ў Румянцаўскім музэі ў Маскве. Тоўпіць у сабе 167 лістоў у 2 гранкі вялікай чацьверкі. На першай балоне, пасьля ліста з выбражэньнем Іоана Богаслова, пад застаўкай, напісана мініяй:

„ІЕВАНЬгеліе опрась съ Б(г)мь починаемъ Г(д)и блг(с)лви отче."

У правопісе відаць асобнасьць Вітабшчыны—мяшаньне *ц* і *ч*.

На адвароце 165 ліста ёсьць запіс:

В ЛѢ(Т) S. Ш О. Н. КОНЧАНЫ БЫ
ША КНИГЫ СИЯ М(С)ЦА МА
РТА ВЪ **КГ** НА ПАМЯ(Т) СТГО
МЧНКА НИКОНА ТОМЬ ЖЕ
ДНИ БЫ(С) ЗНАМЕНІЕ ВЪ СЪ
ЛНЬЦИ. ПИСАХЪ ЖЕ КНИГЫ
СИЯ АЗЪ ГЮРГИ С(Ы)НЪ ПОПО
ВЪ ГЛ(АГО)ЛЕМОГО ЛОТЫША. СЪ ГО
РОДИЩА СТЯЖАНИЕМЬ
СИМОНА ЧЬРНЬЦА О(Т) СТГО
ГЕОРГИЯ СОБѢ НА СПСЕНИ
Е И ВСѢМЪ КР(С)ТИЯНОМЪ
НА ОУТѢХОУ.

У 6778=1270 г. папраўдзе было сонечнае зацьменьне 23 сакавіка. Яно адзначана ў летапісах пад 6779 г. з падробнасьцямі: ў тыдзень Вялікага посту сярод раніцы (як выходзіць паводле аблічэньня,—каля палавіны 9-й гадзіны раніцы).

Гэта першая вядомая кніга, пісаная Латышом.

Срезневскій „Славяно-Русск. палеографія", СПБ. 1884.

КАРНАЯ ГРАМАТА КНЯЗЯ ВАЛАДЗІМЕРА ВАЛЫНСКАГА БЕРАСЬЦЕЙСКАЙ ЗЯМЛІ, 1289 Г.

„Се азъ князь Мстиславъ, сын королевъ, внук Романовъ уставляю ловчіе на Берествяны во вѣкъ за ихъ крамолу, съ ста по двѣ

ЕЖЕ ОТ ІѲА. СТГО ЕѲУАН
въ стоую и велнкоую не. па. еоуе на литур. г. а
Искони бѣ слово, и слово бѣ къ богу, и бгъ
бѣ слово. се бѣ искони къ богу. вься тѣ
мь быша, и без него ни чьто же бы, еже
бы. въ томь животъ бѣ, и животъ бѣ свѣтъ
чл҃комъ. и свѣтъ во тьмѣ свѣтится, и ть
ма его не объять. бысть члкъ посланъ ѿ
бга, имя ему іѡа. съ прииде въ свн
дѣтельство, да свидѣтельствуеть
ѡ свѣтѣ, да вси вѣру имуть ему.
не бѣ тъ свѣтъ, нъ да свидѣтельству
еть ѡ свѣтѣ. бѣ свѣтъ истинный,
иже просвѣщаеть всякого члка гря
доуща въ миръ. въ мирѣ бѣ, и миръ
тѣмь бы. и миръ его не позна. въ
своя прииде. и свои его не прияша. ели
ко же их прияти его, дасть имъ власть
чадомъ бжиимъ быти вѣрующимъ
въ имя его. иже не ѿ крови, ни ѿ по
хоти плотьскые, ни отъ похоти
моужьскые, нъ ѿ бга родиша ся. и сло
во плоть бы и вселися в ны. и видѣхомъ
славу его славу яко единороднаго

лукне меду, по двѣ овцы, по пятнадесятъ десятковъ льну а по сту хлѣба, а по пяти цебровъ овса, а по пяти цебровъ жита, и по 20 куровъ; а по тольку съ всякаго ста; а на горожанѣхъ 4 гривны куръ, а кто мое слово порушитъ, а станетъ съмною предъ Богомъ."

П. Бобровскій „Гродненская губернія" ч. II, балона 818.

## ГРАМАТА РЫЖСКАГА АРХІБІСКУПА ВЯЛІКАМУ КНЯЗЮ ФЕДАРУ РАСЬЦІСЛАВІЧУ СМАЛЕНСКАМУ, 1281—1297 Г.

„Благословение отъ митрофолита Ризького ко своему милому сынови, князю великому Феодору, и къ его дѣтемъ, и ко владычѣ, и къ намѣстьнику и ко всѣмъ бояромъ. То буди тобе ведомо, про тую жялобу, что Витьбляне жялобилися на Рижяны, чимь то хотели оправитися противу Гѣлмика, и ихъ слово таково. Хотели ся темь словомъ оправити и рекли такъ пред княземъ Бряньскымъ: выехали 50-ть мужь изъ Риги и оубили человека, и оузяли 10-ть бѣрковъсковъ воскоу. И ныне я митрофолитъ тако молвю, какъ то Витьбляне неправдою жялобилися па Рижяны, и ныне то есть мнѣ ведомо, аже Рижяне суть в томь невиновати; и ныне я тому дивлюся, аже твои намѣстьникъ слушаеть всякого чоловека слова. А та правда есть промежи васъ и насъ: кдѣ ся тяжя почнеть, ту концяти. И ныне я молюся вамъ, какъ то мозите стояти оу тои правдѣ и оу крестномь целовании. Аже иметь жялобитися васъ кто на Рижяны, или Гѣлмико или кто ныи, и вышлите к намъ а мы правдоу дамы по Божьи правдѣ."

Выдана Нап'ерскім у „Грамотах" і ў „Русско-Ливон. актах", бб. 17—18, а также ў Витеб. Стар." Сапунова, т. I, б. 22.

ГРАМАТА СМАЛЕНСКАГА КНЯЗЯ ѲЕДАРА РАСЬЦІСЛАВІЧА Ў РЫГУ 1284 Г. (Рыжск. гар. архіў). Друкавана ў „Собр. гос. гр. и дог." (II, № 3), „Др. памят. р. п. и языка" Срезневск. (238), у Сахарова, табл. IV.

ГРАМАТА СМАЛЕНСКАГА КНЯЗЯ ѲЕДАРА РАСЬЦІСЛАВІЧА АБ ЗВАНЕ 1284 Г. (Рыжск. гарадз. архіў). Надрукавана ў „Грамотах" Нап'ерскага і „Русско-Ливон. актах", № 37.

ПОЛАЦКАЕ ЕВАНГЕЛЬЛЕ XIII СТ. Прыналежала Троіцкаму манастыру ў Полацку. У пачатках XIX ст., ў часе касаваньня уніі, разам з іншымі кнігамі і рукапісамі забрана ў Петраград, цяпер пераховуецца ў Публічнай бібліятэцы (Пагодзінскага сабр. № 12). Пісана ў цэлы аркуш уставам у 2 гранкі.

КРОНІКА АМАРТОЛА. Пэргамінны рукапіс XIII ст. (Бібліатэка Маскоўскай Дух. Акадэміі, № 100). На адвароце 17 балонкі рукапісу, пасьля агалоўку і прадмовы, знаходзіцца выбражэньне Спаса са стаячымі абапал мужчынам і жанчыной. Над мужчынам подпіс „Михаилъ", а над жанчыной— „Оксиньня". На апошняй балонцы рукапісу ёсьць прыпіска для каго і дзе гэты рукапіс пісаны, але цяпер прыпіска замазана. У мове кронікі маюцца крыўскія асобнасьці.

ПСАЛТЫР 1296 Г., пісаў Захары „на Волоцѣ. У мове гэтага псалтыра, пісанага па-славянску, сустрачаюцца тыпова крыўскія асобнасьці. Захары пісаў яго „оуже прі старости бывъшоу" (Срезневскій, бал. 50—51).

Псалтыр знаходзіцца цяпер у Маск. Сынадальнай бібл., № 13.

Грамата Смаленскага князя Александра Глебавіча, 1297 г.

ГРАМАТА СМАЛЕНСКАГА КНЯЗЯ АЛЕКСАНДРА ГЛЕБАВІЧА, КАНЦА XIII СТ. У гэтай грамаце Смаленскі князь „хоча з Немцамі такой жа любві ў якой былі яго бацька і дзядзька, Глеб і Фёдар Расьціславічы і абяцае ім чысты шлях да Смаленска. Сваю грамату ён пасылае на імя толькі рыжскага рата, саўсім не спамінаючы аб біскупе і магістры ордэну; гэты-ж князь поўнасьцю пацьвердзіў умову 1229 году.

ПАЦЬВЕРДЖАНЬНЕ ГРАМАТЫ 1229 Г. СМАЛЕНСКАГА КНЯЗЯ АЛЕКСАНДРА ГЛЕБАВІЧА, ПАСЬЛЯ 1297—1298 Г. Смаленская грамата 1229 году перапісана на вялікім доўгім аркушу пэргаміну, а над ёй зверху аркуша прыпісана гэтае пацьверджаньне ў трох радкох. Грамата пісана тоўстым шырокім уставам, пацьверджаньне—стасункова дробным.

Вось гэтае пацьверджаньне:

„Се азъ князь смоленскии. олександр. докончал есмь с немьци по давнему докончанью. како то докончали отци наши дѣди наши на тѣх же грамотахъ целовалъ есмь крестъ. а се моя печать".

Грамата была ў Рыжск. гарадз. архіве. Выдана ў „Грамотахъ" Нап'ерскага і „Русско-Ливонских актах", бал. 23.

Князь Александр Глебавіч Смаленскі памер у 1277 годзе. гл. Нікон. лет. пад 6786 г. і ў Карамзіна т. IV, увага 171.

ПОЛАЦКАЯ ГРАМАТА КАНЦА XIII СТ. Пераховывалася ў рыжскім архіве; напісана на кавалку пэргаміну даўжынёй $3\frac{1}{2}$ і шырынёй ўверсе $2\frac{1}{2}$, а ўнізе менш 2-х вяршкоў, усяго пісьма 32 радкі, з якіх 22 на аднэй старане, а 10 на другой, блізка такім самым уставам як вітабская грамата. Грамата пісана ад Якава біскупа Полацкага ў Рыгу з просьбай прыслаць збожжа ў Полацак. У грамаце ўпамінаецца князь Вітэнь, які жыў у канцы XIII і ў пачатках XIV ст.

Пры грамаце пячаць: з аднэй стараны абраз Знаменьня, з другой надпіс „Яковъ епп Полотьски".

Зьмест граматы: (Сапуновъ: Витеб. Стар. Т. I).

„Поклонъ и благословлѣнье отъ Якова, епискупа Полотьского, бровстови, намѣстьнику пискуплю, и дѣтемъ моимъ ратманомъ. Былъ есмь не дома, во отьца своего митрополита, а нынѣ есмь на своемь мѣстѣ оу Святоѣ Соѳьѣ. А нынѣ есмь оувѣдалъ, любовь ваша правая съ сыномъ моимь, с Витенемь; также, дѣти, была любовь ваша первая с Полочаны, съ дѣтми моими, шт вамъ было надобѣ, то было ваше. А нынѣ што дѣтемъ моимъ надобѣ, того имъ не бороните; а нынѣ абы сте пустили жито оу Полотеско. А язъ кланяюся и благословляю, і Бога молю за васъ дѣти своѣ.

Аже будеть Полочанинъ чимь виноватъ Рижанину, я за тѣмь не стою своими дѣтми, исправу дамь. Аже будеть Рижанинъ чимь виноватъ Полочанину, вы даите имъ исправу також. А язъ вамъ кланяюся дѣтемъ своимъ, и благословляю и Бога молю".

ГРАМАТА РЫЖСКІХ КУПЦОЎ ВІТАБСКАМУ КНЯЗЮ МІХАЙЛЕ КАНСТАНТЫНАВІЧУ, КАЛЯ 1300 Г. Пераховывалася ў рыжскім архіве, напісана на аркушы пэргаміну шырынёй больш 10 вяршкоў, даўжынёй больш аршына; зьмяшчаецца ў 85 радкох, даужынёй па 8 вяршкоў. Пачынаецца валікай рысаванай літарай. Час напісаньня граматы прыблізна ўстанаўляецца па імёнах асоб, спамінаных у ёй. Грамата пісана ад ратманаў рыжскіх Вітабскаму князю Міхайлу, бацька каторага, як абазначана ў грамаце, называўся Канстантынам. У канцы XIII ст. Канстантын быў Полацкім князям, дык саўсім натуральна, што сын яго быў князям Вітабскім.

Грамата гэта—жалабная князю на рожныя уціскі, якіх дазнавалі немцы ад самога князя і ад яго урадоўцаў. Пры вылічаньні крыўд (сямі) паказываюцца і варункі папярэдняй умовы, ведама, пісанай, але да нас не дайшоўшай. Паводле гэтай граматы, ў папярэдняй грамаце было:

„Миръ доконцан на старый миръ и на томъ кр(с)тъ челован. како то намъ вашеи братьи правда дати. а обиды не створити ни малу ни велику. тако было и вамъ. по кр(с)тному челованию. обиды не створити. ни малу ни велику. нашеи братии. правда дати. товара силою не грабити члвка не мучити безъ вины... Миръ доконцан межи земле. аже другъ друга убиеть до смрти. а имуть того члка кто розбои оучинилъ. тому дати вина. по его дѣлу. а товар его свободѣнъ своему племени“.

Грамата пісана ня буйнымъ шырокім і тоўстым уставам.

Цікава ўжываньне *ц* замест *ч* і наадворот: ч е р н ь ч и, ч е л о в а н и ю, д о к о н ц а н;

*ш* замест *с*: „лишии“ зам. лисии“;

ужываньне *о* замест *е* пасьля сіпячых: жо, княжо, шол, пришод, чомь, хочомъ.

*оу* замест *въ*: оу борзе, оу рать. оу клеть, оузял.

Надрукавана ў С р е з н е в с к а г о „Др. пам. рус. пис. и яз.“, б.б. 240—241 і ў „Славяно-Русск. палеограф.“, б. б. 229—230; С а п у н о в ъ, „Вит. Стар.“ Т. I, б. 22.

Тэкст граматы:

Поклонъ отъ ратмановъ Ризкихъ и отъ всехъ горожянъ ко князю. Витебьскому Михаилу. И ныне пришли предъ насъ наши горожяне, и то намъ поведали со великою жалубою, котории были зимусь с тобою у Витебьце, както еси товаръ у нихъ от-ялъ силою и неправдою То было и первое: былъ у тебе одинъ дѣтина, нашь горожянинъ, а иногды не бывалъ у васъ, тогды рать была Литовская подъ городомь, онъ же хотелъ у рать ити, дѣвкы купити и взялъ мець со собою, по нашеи пошлине. Тогды, идя путемъ, заблудилъ к монастыреви, и выскочивше 3 черньчи, жо четвертыи человѣкъ иныи съ ними, ту его емъшо били и рвали, и мець вызетяли силою у него. И потомъ, княжо, ты на другыи день емъ его, оковалъ еси и дѣржялъ его еси до того же дне, а товара еси от-ялъ на 3 берковськы воску. Княжо, то еси неправду дѣялъ. Забылъ еси, княжо, своего крестнаго челования, занеже самъ ведаешь, княжо, како не тако есть миръ доконцанъ. Миръ доконцанъ на старыи миръ, и на томъ крестъ челованъ, както намъ вашеи братьи правда дати, а обиды не створити, ни малу ни велику; тако было и вамъ по крестному челованию· обиды не створити, ни малу ни велику, нашеи братии правда дати, товара силою не грабити, человѣка не мучити безъ вины. Княжо, слышышь самъ отъ своие братье, както мы вашее братие не обидѣли, ни грабили товара силою безъ правды, както ты, княжо дѣешь. А се тобе поведываемъ другую обиду: за грѣхы пригодило ся такъ, както се дѣла дружина, у пиру пиюче, другъ друга заразилъ до смерти; и както тыи бои удѣялъ ся, тогды онъ, убоявъ ся живота, утеклъ к тобе, княжо. Немчи жо, то уведавше, ажо к тобе утеклъ розбоиникъ, и пришли предъ княжо Немчи и молися тобе: выдаи нам розбоиника. И ты, имъ выдавъ розбоиника, потомь, княжо, шолъ еси у розбоиникову клеть, товаръ еси розбоиниковъ взялъ; и иныхъ людии товаръ былъ тутоть, и то поималъ еси, княжо. Тоть еси неправду дѣялъ. Ты самъ ведаешь, както не тако есть миръ доконцанъ межи земле. Аже другъ друга убиеть до смерти, а имуть того человѣка

кто розбои учинилъ, тому дати вина, по его дѣлу; а товаръ его свободѣнъ своему племении. И ныне мы молим ся тобе, абы тыи товаръ отдалъ его племении. А се тобе 3-юю обиду поведываемъ, про тую дѣтину, что товаръ его былъ со розбоиниковымъ товаромъ у клети, както поехалъ изъ Витебьска у Смольнескъ, попустилъ жо у розбоиникове клети волкы жо овчины на 5 серебра. Онъ же у Смоленьще услышавъ, аже ты его товаръ со розбоиниковымъ товаръмъ узялъ, и онъ уборзѣ на конь въсѣдъ, поехалъ у Витьбескъ, и молилъ ся тобе, княжо, абы ты его товаръ отдалъ, что еси взялъ съ розбоиниковымъ товаромъ изъ клети, то ты ему не далъ. То еси, княжо, неправду дѣялъ. И ныне, княжо, мы ся тобе молимъ, както тыи товаръ отдаи, что еси взялъ безъвиньное вины се́. Еще, княжо, мы тобе поведываемъ 4-ю обиду, у чомь то еси неправду дѣялъ, както ныне новую правду ставишь, както есме не чювали отъ отчовъ, ни отъ дѣдовъ, ни отъ прадѣдовъ нашихъ. Аже ты велишь кликати сквозѣ торгъ: гость со гостемь не торгуи! Княжо, у томь еси неправду дѣялъ. Княжо, аже еси тако у своемь сердчи, тоть то еси неправою думою думалъ. Будуть тобе, княжо, лишии людье тую думу подъдали, тоть не у честь тобе дали тую думу; то есть тобе, княжо, достоино, аже бы тые люди казнилъ, както бышь инии людие бояли ся, кто лихую думу подъдаваеть. Княжо, нашь горожанинъ Фредрикъ продалъ человѣку мехъ соли, и онъ услышалъ, ажо ты не велелъ гостеви со гостемь торговати, и обестилъ ся тобе, княжо, и ты ему велелъ продати, и онъ шелъ с темь человѣкомъ, соли весить, както еще соли не весили. Твои дворяне стояли ту у дворе: у Фредрика ключь взяли силою клетьныи, и пошли прочь. Потомь твои дѣтьскыи Плосъ, пришодъ, реклъ Фредрику: поиди ко князю. И онъ пошолъ к тобе, по твоему слову. И както пришолъ к мостови, реклъ Плосъ: поиде семо, здѣ князь, не ведя его к тобе, княжо, то к собе в ыстобъку, и ту порты с него снемъ за шию оковалъ, и рукы и ногы, и мучилъ его такъ, както буди Богу жяль. И потомь ты дѣтьскые свое пославъ на его подворие, и велелъ еси товаръ его розграбити, на 4 капы воску. И ныне мы ся тобе молимъ, абы ты тыи товаръ отдалъ княжо. И самъ ведаешь, ажо неправдою еси свое крестное челование забылъ. И се ныне 5-ю обиду поведываемъ, както Немчи послали свое коне изъ Смоленьска у Витебескъ, то ты, княжо, тые коне обизрелъ, и улюбилъ еси одиного коня, тои конь былъ Герлаховъ, тоть ты его хотелъ безъ измены. Тии людье рекли: княжо, мы коня не дамы, ни продамы его, не смеемъ: конь Герлаковъ. И ты, княжо, давалъ еси на кони 10 изроевъ, и они не взяли. Тоть ты реклъ, княжо: даите вы мне конь, я васъ провожю изъ Смоленьска и сквозѣ Касплю, а учаны хочю проводити с коньми и до Полотьска. Тоть дали тобе конь, по твоему слову, княжо, далъ жо еси приставъ, своего человѣка Прокопию, и приехалъ Прокопии къ Смоленьску тои первое, и дали ему скорлата портъ жо чаторъ. Прокопьево слово такъ: у которыи день вы будѣте готови, я с вами готовъ буду. Въ тыи жо день, по его слову, приготовили ся есме были, и рекли есме Прокопии: се мы готови, поедимъ! Прокопиево такъ: не могу я изъ свѣта во тму ехати. Прокопии, на конь свои уседъ, поехалъ у Виьтбескъ, а нашю братью попустилъ. Княжо, тимь словомь не дослужилъ ся еси того коня. Аже бы ты у своемь слове стоялъ, а нашю братию проводилъ бы, мы быхомъ не поминали того коня. И нынче мы ся тобе молимъ, както отдаи Герлаху конь, а любо 10 изроевъ, что

еси самъпервое давалъ на кони. Или того не даси, ни коня ни серебра, Герлах хочеть своего коня искати, како мога. А се еще 6-(ю) обиду поведываемъ, про Ильбранята, что твои братъ торговалъ с нимь на 30 изроевъ: 17 изроевъ заплатилъ, а три надьсять изроевъ не заплатилъ. И ныне, княжо, мы ся тобе молимъ: отдаи Ильбранту товаръ, своего брата душе постерега. И ныне 7-ю обиду певедываемъ, както было нашеи братии поехати изъ Витобеска у Смоленескъ, тогды Литва изъимали ихъ на пути, у твоемь городѣ, княжо, вязяли ихъ, и мучили, и товаръ отимали в нихъ. А и твоеи волости ся то дѣяло. Товара взяли ту на 70-ть гривенъ серебра корного, и на 3 серебра. Княжо, тобе было тое обиды постеречи. Аже бы ся то дѣяло при отчи твоемь Костянтине, тая бы обида николи же была нашеи братьи, какъ ся тогды удѣяло. И ныне, княжо, мы ся тобе молимъ, както темъ людемъ отплати ты товаръ, которымъ то дѣяло ся у твоеи волости и у твоемь городѣ. И ныне, княжо, пришолъ предъ насъ шахматъ жо Фредрикъ, и то намъ поведалъ се жялобою, както еси торговалъ с нима и не заплатилъ. Княжо, то было тобе достоино, у кого купишь, тому заплати, то они бышь на тя не жяловали. И ныне 8-ю обиду поведываемъ, про весы, както слышимъ отъ своие братие, аже ты кнежо лишнее емлешь, както есме не чювали ни изъ отчины, ни отъ дѣдовъ, ни отъ прадѣдовъ. И ныне мы ся вамъ молимъ всемъ сердчемь, княжо, както есть миръ доконцанъ и крестъ championanъ на старыи миръ, тако и ныне, княжо, отложи лишнее и всяку неправду: ать стоить старыи миръ твердо, како доконцано. И ныне, княжо, то буди тобе ведомо: аже не отложишь лишнего дѣла и всякое неправды, мы хочомъ Богу жяловати ся, и темъ, кто правду любить, а кривду ненавидить. Мы свое обиды не положимъ, а боле не можемъ терпети.

Тарговыя стасункі крыўскіх зямель з немцамі пацьвярджаюцца умова мі якія захаваліся да нашых часаў; копія старэйшай умовы паходзіць з пачатку XIII ст. (1229 г.). Гэту старэйшую умову „докончал з немци“ Смаленскі князь Александр, „как то докончали отцы нашы, деди нашы“, а знача яна зьяўляецца пацьверджаньнем і, мабыць, папаўненьнем умоў ранейшых, заключаных бацькамі і дзядамі абедзьвех старонъ. Дзеля гэтага можна сьцьвярджаючa сказаць, што першыя пісаныя умовы паміж крыўскімі землямі і нямецкімі тарговымі гарадамі былі заключаны не пазьней пачаткаў XII ст. Нажаль, гэныя першыя умовы не дахаваліся ні ў арыгіналах, ні ў копіях. Мяркуючы з ходу гістарычных падзей, трэба дапусьціць, што да 1201 году, (дата заснаваньня Рыгі) г. зн.—да ўмацаваньнеся немцаў у усьцяхъ Дзьвіны, беларускія гарады і землі мелі бязпасярэдныя стасункі з Готляндам, а пазьней—з сувязьзю тарговых нямецкіх гарадоў Ганзай, на чале якой стаяў горад Любэк. Латыскі летапісец (Гэнрык Латыш) апавядае, што вясной 1186 году манах Мэйнгард прыплыў на купецкім караблі ў Дзьвіну і, заручыўшыся пазваленьнем ад Полацкага князя Валадзімера, пачаў тут, паміж паганскіх плямён Ліваў і др. прапаведываць хрысьціянства. Летапіс даслоўна апавядае аб гэтым так: „Мэйнгард, атрымаўшы дазваленьне ад Полацкага князя Валадзімера, ў каторага Лівонцы (Liv) былі ў падданстве, і прыняўшы ад яго дары, сьмела прыступіў да Божай справы і пабудаваў царкву ў Ікссолё“ (35 вёрст ад усьця Дзьвіны, на правымъ беразе). У Іксколе-ж была ўжо па-

будавана факторыя нямецкіх купцоў*). Гэта 35 вёрстная адлегласьць нямецкай купецкай факторыі ад усьцяў Дзьвіны пазваляе думаць, што ў самых усьцях Дзьвіны былі іншыя гаспадары, без пазваленьня якіх немцы не маглі нават прыступіць да прапаведываньня хрысьціянства між туземцамі. І, запраўды, чароднай задачай немцаў было заваяваньне гэтага выходнага таргова пункту, якое наступіла ў 1201 годзе, калі ў усьцях Дзьвіны зьявілася нямецкае войска на чале з біскупам Альбартамъ Буксгеўданам, які засновывае ў 1201 годзе ў гэтых усьцах горад Рыгу і, з дазваленьня Папежа, ўстанаўляе ў Лівоніі манашаскі рыцарскі ордэнъ крыжакаў „дзеля змаганьня з тамтэйшымі паганамі“. Умацаваўшыся ў Рызе і адваяваўшы ад Полацкага князства Лівонскія землі, рыжская купецкая факторыя імкнулася ўзяць на сябе манаполь тарговых стасункаў з крыўскімі землямі. Урэшце-рэшт дайшло да таго, што ў 1478 годзе Рыга проста заявіла Дэвэнтару і другім нямецкім прыморскім гарадом, што ніхто ня можа таргаваць у Полацку, акром Рыгі і прыслухаючых ёй зямель. Вось чаму ўсе захаваныя тарговыя умовы крыўскіх зямель з немцамі роблены былі выключана з Рыгай.

З крыўскіх гарадоў у заключаньні умоў прыймаюць удзел Смаленск, Полацак і Вітабск. Адны з гэтых умоў распашыраюцца ў роўнай меры на ўсе тры землі, ў другіх здарэньнях Смаленск іх заключае асобна ад Вітабска і Полацка. (У часе, калі гэты два апошнія гарады ўвайшлі ў склад фэдэратыўнага В. Кн. Літоўскага).

Найбольш важная умова, 1229**) году, заключаная „с немцами“ Смаленскім князем Александрам, распашыраецца на Вітабск і Полацак: „тая Правда латинескомоу взяти оу Роускои земли оу волости князя Смоленскаго и оу Полоцьскаго князя волости и оу Витбьскаго князя волости“. У гэтай умове установлены ўсе пункты, якімі павінен рэгулявацца тавараабмен паміж абедзьвемі старанамі, —Немцамі і Крывічамі. Пазьнейшыя умовы, выкліканыя закалотамі паміж абедзьвемі старанамі, не даюць нічога новага: зазвычай паўтараецца кожды раз, што шлях павінен быць „чист“, „без рубежа“, і госьці павінны карыстацца апекай, „как братья“. Вынятку з гэтага боку не становіць нават падробная умова 1250-60 г. г., якая хоць і мае многа пастанаўленьняў, але, калі не лічыць нязначных адкланеньняў, зьяўляецца толькі копіяй умовы 1229 г., значна,—зьмяняюцца варункі толькі ў умове 1406 г. і ў дапаўненьні да яе 1498 г., якія азначаюць новы зварот у гісторыі таргоўлі паміж Рыгай і Полацкам.

Гэткім чынам нашае заданьне звужаецца да разгляду умовы 1229 г. з аднатоўкай тых нямногіх адкланеньняў, якія пазьней мелі месца, і да разгляду умоў 1406 і 1498 г. г.

Ва ўсіх параграфах умовы 1229 г., якія трактуюць аб караньні рожных праступкаў—убіўства, пакалечаньне, за раны і біцьцё, чужаложніцтва, гвалт над свабоднай жанчыной ці рабой, самапраўства (парагр. 1—7, 17—20)—устанаўляецца грашовая кара. Забараняецца прымушаць госьця, ў выпадку яго западозраньня, да вырашаньня спрэчкі жалезам („вести ко железу горя-

*) Батюшковъ „Бѣлоруссія и Литва“, бал. 53.

**) Умова ва ўсіх сямі рэдакціях маецца ў „Русско-Ливонских Актах“ Першая рэдакція маецца у „Владимирскаго-Буданова. Хрестоматія I“ (нумэрація стацьцей па Буданову).

чемоу“), або паядынкам („на поле битися“). У гэтым здарэньні маецца адступленьне ад поглядаў, панаваўшых у Русаў Ноўгародзкіх і Кіяўскіх, права якіх („Русская Правда“) устанаўляла пробу жалезам пры западозраньні ў крадзежы. Паядынкі, гэта быў нямецкі звычай, прыняты іхнім правам.

Пры істнаваньні некалькіх крэдытароў першым павінен быць аплачаны доўг госьця, які даў тавар на павер крывічу (пар. 10—„аже Латинин дасть роусиноу товар свой оу долго оу Смоленск, заплатити немчиноу пьрвыие, хотя бы иномоу комоу виноват был русиноу“).

У прыпадку конфіскацыі князем маемасьці даўжніка („поток“), сьпярша аплачываецца з яго дастаткаў доўг немцу (пар. 11 —„аже разгневаиеться князе на своего члвека, а будете виноват немчицю роусин, а отимьет князе все, женоу и дети оу холопство, первое платити емоу латинину, а потомь князю какъ либо с своимь члвекомь“). Гэтак сама, ў здарэньні сьмерці даўжніка, наступнік павінен перш за ўсё вярнуць доўг госьцю (пар. 12 — „аже латинин дасть княжю холопу в заием или иномоу добромоу члвкоу, оумрете не заплатив, а кто иемльть его остатьк, томоу платити немчиноу“).

Па поваду спаганяньня доўгу ў умове 1229 г. (як і ў смаленскай умове 1250 г., пар. 6) гаворыцца, што немца ня можна замыкаць у турму. Калі мясцовы купец не заплаціць „Латинескоу“, то апошні зьвяртаецца да цівуна, які даручае „детьскомоу“ спагнаць доўг за тавар. Калі-ж у прадоўжаньні 8 дзён ня будзе заплачаны доўг, то „дати иемоу на сьбе порука“. Але паручыцеля можа ня быць, тады, праўдападобна, наступае прадугледжаная пар. 4-м выдача з галавой крэдытару, або заключэньне даўжніка ў аковы. „Не мьтати его оу погреб, аже не боудите пороуки, то оу жельза оусадить“. Гэткім чынам закаваньне ў аковы лічыцца больш лёгкай карай чым укіданьне ў цямніцу, пры чым, мяркуючы з другіх данных, маецца на мэце памяшчэньне яго ў крэдытара, бо даўжнік аддаваўся апошняму. У 1436 годзе ўпамінаецца аб такім здарэньні, калі Крывіч (Рус) трымаў немца ў сябе пад арэштам за даўгі. Але мясцовыя жыхары могуць сілай ня даць немцу закаваць крывіча (руса); ў гэтым здарэньні яны самі адпавядаюць за доўг (пар. 22—„аже смольняне не дадоуть иемоу воль, смольняномь платити самым, долгь платити“).

У Смаленску мы знаходзім нямецкую факторыю—гасьцінны двор і ольдэрмана, а такжа царкву: ў умове 1229 г. упамінаецца аб вагах, якія знаходзяцца ў „немецькои божници“, у пар. 41—аб вагах, якія пераховываюцца „оу латинескои црква“; у пар 29-м гаворыцца аб трэцейскім судзе ольдэрмана, „роусиноу не ставити на латинескаго детьскаго, не явивше старость латинескомоу; аже не слушаиет старосты, тоть можеть на него детьского приставити“. У гэтым пастанаўленьні ня толькі выражана істнаваньне арганізаванай факторыі, але і істотнае права, прызнаванае ёй.

Ня менш важнае права ў гэтым кірунку нададзена нямецкай купецкай грамадзе па пар. 16-му: „аже латинескии гость биеться мьжю собою оу роуской земли любо мьчем, а любо деревомь, князю то не надобе, мжи собою соудити“. Гэта паказвае на істнаваньне ў немцаў уласнага суда ў здарэньнях закалотаў між імі, што значыць, што немцы тут мелі ўласнае самападкаваньне ўнутры сваей факторыі.

Ў умове 1229 г. упамінаецца аб перапраўцы прывожаных тавараў праз валок, які злучае Дзьвіну з Дняпрам, дзеля чаго смаленскі цівун абавязан пасылаць ім людзей неадкладна („а не оудержати иему“), іначы яны могуць мець страты („аже оудержить, оу томься можете оучити пагоуба“), калі-ж згіне даручаны валачанам тавар, то яны ўсе разам адпавядаюць за яго (пар. 23—24). Пры гэтым мы даведываемся, што тым-жа шляхам езьдзілі і жыхары Смаленска, якія, відочна, вярталіся з Рыгі; на прававолоках „мьтати жеребеи, кого напьред вести ко Смольньскоу“ (пар. 42). Але гэта датыча толькі немцаў і смаленцаў: і тым і другім даецца перавага перад іншымі купцамі са славянскіх зямель („аже боудоуть людиие из ыноие земль, тых посьль вести“). Відаць, тарговы рух на Смаленск быў вялікі: ён жа ляжаў на пярокрыжы двох вялікіх тарговых дарог—па Волхаву—Дняпру ў Грэцію і на Дзвіне—Волзе на Ўсход.

Вольны шлях па Дзьвіне абасьпячаецца як біскупам Рыжскім, так і магістрам крыжацкім („масьтр Божх дворян“) і ўсім князём прылягаючых да яе зямель па ўсяму яе цячэньню, па вадзе і па берагох („от верхоу и до низоу в море, и по воде и по берегоу всемоу“—пар. 43). Берагавое права не прызнаецца: тавар з затонуўшага вадаплава прыналежыць уласьніку, які можа яго выцягаць з вады, а калі яму трэба, то і наймаць да гэтай работы людзей („оу кого ся избиеть оучан, а любо челн... товар иего свобонь на воде и на березе без пакости всякому; товар иж то потопл, брати оу мьсто своиею дружиною из воды на берего; аже надобе иемоу больше помоги, тоть наймоуи при послоусех“).

Не глядзя, аднак, на ўсе забасьпечаньня свабоднага шляху па Дзьвіне, дарога гэта была далёка не басьпечнай, бо з аднэй стараны Полацак затрымліваў купцоў, якія ехалі ў Вітабск і Смаленск, хочучы, каб яны затрымліваліся ў яго сьценах і тут прадавалі тавары мясцовым купцом („штапельнае права“), а з другой стараны крыжакі перашкаджалі праходу вадаплаваў, затрымліваючы карабельшчыкаў у Дюнамюндэ (Усьць-Дзьвінску), разбойнікі рабілі напады на валоках, дзеля чаго умова вымагае неадкладнай перапраўкі тавараў у гэтым мейсцы.

Правознага мыта ні немцы па дарозе ў Смаленск, ні смаленцы, якія адпраўляюцца ў нямецкія гарады, не павінны плаціць. Гэтакі агульны прынцып. Але ці выпаўняўся ён? Далейшыя пастановы прымушаюць не давераць гэтаму. Агульнае правіла аб свабодзе ад гэтых падаткаў маецца ў разглядаңай умове 1229 г. („всякомоу латинескомоу члвекоу свободен пут е из гочкого берега до Смольнеска без мыта; тая правда иесть Роуси из Смольнеска до Гочкого берега“—пар. 34). Яно паўтараецца і ў умове Смаленска 1250 г. (пар. 16). Але ў апошнім сказана толькі, што ад Смаленска да Рыгі „чистыи путь“, „а не надобе им ни вощець ни мыто“, і дададзена: „а на Волоце како то есть пошло“. Апошняе, мабыць, азначае, што на Валоцы аплачываецца вядомы збор у звыклай меры, а ня толькі плата за перапраўку тавараў. У умове 1229 г. (пар. 35) гэтаму адпавядае павіннасьць гасьцей даць цівуну на валоцы рукавіцы („готскіе рукавицы перстатые“—па другой рэдакціі), „ажбы

товар перевезл без держания". Акром гэтага, па прыезьдзе ў горад купцы павінны даць княгіні кавалак сукна („дати имь княгине постав частины"). Гэткія чынам істнуе як аплата пры ўезьдзе ў горад, так і пераездныя зборы на перавалоках.

Да таргоўлі ў цесным сэнсе гэтага слова адносяцца пастановы аб вагах і важнічных аплатах, пры гэтым галоўным чынам гаворыцца аб важаньні золата і серабра, якія большай часьцю ў тыя часы і важыліся. Пазьней, каля 1330 г. была, зрэшта, заключана асобная умова датычна ваг і важнічых аплат, дзе ўжо гаворыцца і аб таварах—воску, волаве, медзі, хмелю; аб важніку дададзена „отступи прочь; а рукою не принимай". Далей знаходзім пастановы аб тым, што прададзены тавар ня можа быць вернуты назад („не взяти товара наоупять"—пар 27, у умове 1250 г.—пар. 17), хоць пазьней крывічы, якія таргавалі ў Рызе, жаліліся на тое, што рыжане не выпаўняюць гэтае пастановы. Асабліва важны пастановы аб свабоднай куплі і прадажы тавараў (пар. 25 і 30) і аб праве немцаў езьдзіць па—за межы Смаленска, а крывічоў (русаў)—за межы Рыгі (пар. 26), і аб абавязковасьці для немцаў судзіца ў Смаленску; а для крывічоў (русаў)—у Рызе і на Готляндзе (пар. 28).

Апошнія два параграфы маюць на мэце таргоўлю немцаў і па-за межамі Смаленска; першы параграф пазваляе яе, другі проектуе, але устанаўляе, што Крывіч (Рус) ня можа „звати латинеского на иного князя суд", акром смаленскага, хіба што немец сам на гэта прыстане. Зрэшта, магчыма, што тут мова толькі аб мяйсцовасьцях, якія распаложаны ў межах смаленскай зямлі. Наадварот, пар. 26 гаворыць аб паездках за граніцы смаленскай зямлі: „аже латинскии усхочеть иехати из Смольнеска своимь товаромь в ину стороноу, про-то иего князю не держати ни иномоу ни комоу же". Тут абасьпячаецца немцам свабодны праезд у другія княжствы; наадварот, пар. 20 умовы 1250 г. значна іх абмежуе, робячы паездкі залежнымі ад пазваленьня смаленскага князя: „а како боудеть немечьскый гость Смоленьске, а почнеться кто от них просити выноую землю, то... о нем ся прошати а мне сподоуме (па намысьле) поущати"...

Адначасна пар. 26, умовы 1229 г. пазваляе і крывічом „иехати из Гочкого берега до Травны", г. зн. да Любэкі. У рыжскай даўгавой кнізе 1327 г. запраўды сустрачаем здарэньне прадажы воску, з аплатай за яго ў Любэцы (Hildenbrand. Das Rigische Schuldbuch 1827. № 1511). Не глядзя на гэта можна недавераць значнасьці актыўнай замежнай таргоўлі купцоў Смаленскіх, як Полацкіх так і Вітабскіх, на якіх—як мы паказвалі вышэй—такжа распашыраецца умова 1229 г. Хоць уся названая умова пабудавана на аснове ўзаемнасьці і ў кождым параграфе, пасьля права дадзенага „латинескоу" ў крыўскіх землях, ідзе права ў карысьць крывіча („роусина") у „Рызе и Гочском березе", аднача з шэрагу разгледжаных намі параграфаў умовы, можна мяркаваць, што папраўдзе маюцца на ўвазе больш немцы ў крыўскіх землях чым крывічы ў Рызе і Готляндзе.

Гэтак, прыкладам, кары за забойства, пакалечаньне, раны, згвалчаньне, чужаложніцтва, устаноўлены ў грыўнях серабра, г. зн.,—ў крыўскай валюце,

чужаземная-ж саўсім не паказана. А яшчэ істотней той варунак, што сустрачаюцца такія пастановы, якія могуць быць практыкаваны толькі ў крыўскіх землях, але ня ў лівонскіх гарадох ці на Готляндзе,—як кара за забойства халопа ці за згвалчаньне рабыні, бо ў другіх старонах халопаў у гэты часы ўжо блізка што ня было, або як папярэдняя аплата чужаземнага крэдытара, у здарэньні конфіскації маемасьці даўжніка князям і абяртаньне яго ў халопы—мелі месца толькі на ўсходзе, але, хіба, не на захадзе. Гэтак сама і параграфы, якія гавораць аб перавозцы тавараў праз валокі і аб адказнасьці валачанаў (хоць з прычыны гэтай адказнасьці, дзеля поўнай узаемнасьці гаворыцца і аб Крывічох (Русах) у Рызе і на Готляндзе), такжа і аб падатках, браных ціўуном, ня могуць мець датычнасьці да таргоўлі крывічоў:— пры пераезьдзе ў Рыгу і на Готлянд ніякай валокі няма, пазамежамі Беларусі. Параграф аб аплаце збору ў карысьць княгіні і другія два аб перахове ваг, наагнул, датычуць толькі Смаленска і нават адпаведнага дадатку аб Рызе і Готляндзе тут ужо няма. Няма гэтай узаемнасьці і датычна аплат за важаньне тавараў: мова ідзе толькі аб Смаленску; а з прычыны спозыску доўгу падробна гаворыцца аб ціўуне, аб дзецкім, аб павіннасьці смаленцаў плаціць, калі яны не дадуць немцам расправіцца з крыўскім (рускім) даўжніком. Толькі ў заключэньні, пасьля падробнага апісаньня ўсяго гэтага працэсу, дададзены невялікі сказ: „тая правда оузяти роусиноу оу Ризе и на Гочком березе", але не гаворыца да каго і ў якім парадку „рускі" крэдытар павінен там зьвяртацца.

З гэтага можна вывесьці дапушчэньне, што на першым пляне была таргоўля немцаў у „рускіх" землях, тады, як торговая дзейнасьць крывічоў у лівонскіх гарадох і на Готландзе мела менш значэньня. Па пытаньню аб пездках „рускіх" купцоў па-за межы Рыгі нам ведама, што Рыга пазьней, прынамні пад канец XIV ст., рабіла гэтаму ўсякія перашкоды. Яна не хацела прапускаць ні „русаў" у Балтыцкае мора, ні прыезджых немцаў з вэндзкіх або вэстфальскіх гарадоў уверх па Дзьвіне ў крыўскія землі. Наагул, калі ў умовых Смаленска з немцамі 1229 і 1250 г.г. спамінаецца побач з Рыгай аб Гоцкім беразе, то ў XIV стагодзьдзі няма ўжо мовы ні аб Любэцы, ні аб Готляндзе: „рускія" купцы езьдзяць толькі ў Рыгу (Götz, бал. 340).

Што датыча другога спамянутага вышэй пытаньня аб свабоднай таргоўлі чужаземцаў, то хоць гэтаму пытаньню адведзены два параграфы (адзін аб свабодзе прадажы тавараў, другі аб свабодзе закупкі), але яснасьці датычна шырокасьці нададзеных правоў не атрымліваецца. „Аже латинескии придеть к городоу, свободно нему продавати, а противоу того не молвити никомоуже" (пар. 25), латинескомоу есть волно оу Смоленьске который товаръ хочьть купити, без пакости" (пар. 30). Падобныя-ж агуляныя сказы „волное торгованьнье", „волю ехати" мы знаходзім ня раз і пазьней.

Асабліва спрэчным зьяўляецца пытаньне аб тым, ці пазвалялася таргаваць госьцю з госьцям. На аснове пратэстаў Рыгі Вітабскаму князю Міхайлу Кастантынавічу ў канцы XIII ст. можна мяркаваць, што гэта таргоўля дазволена. У гэтай заяве Рыгі маецца пратэст і супроць неправільнасьцяў, што

да пабіраньня важнічных аплат, устаноўленых умовай 1229 г. („аже ты княже, лишнее емлеш“), і спуроць гвалтаў над нямецкімі купцамі, ў каторых „товар отнял сілою і неправдою“, каторых „вязали і мучили“, і супроць таго, што князь, як і яго брат, купілі ў немцаў тавары, але не заплацілі за іх. Разам з гэтым рыжане пратэстуюць супроць таго, што князь, паводле рады людзей, каторых трэба было-бы пакараць, а ня слухаць, пазбавіў іх магчымасьці таргаваць з другімі гасьцямі, і калі адзін рыжанін, па наймю Фрэдрык, хацеў прадаць соль другому госьцю, то яго закавалі, а яго тавар князь загадаў разграбіць. „Еси неправду деял — заяўляюць рыжане—как то ныне новую правду ставишь, как то есме не чювали от отчов ни от дедов ни от прадедов наших. Аже ты велишь кликати скрозе торг; гость со госстемь не торгуи. Княжо, у том еси неправду деял. Княжо, ажо еси тако у своем сердчи, тоть то еси неправою думою думал. Будуть тобе, княжо, лишие людье тую думу пододали, тоть не у честь тобе дали тую думу; то есть тобе, княжо, достойно, аже бы тыи люди казнил, как то быш инни людие боялися, кто лихую думу пододаваеть“. Пасьля апавядаецца ўся гісторыя з Фрэдрыкам, каторы „шол с темь человеком соли весить“ и якога княжы дзецкі Плос павёў, бытцам да князя, а папраўдзе „порты с него снем за шию оковал и рукы и ногы и мучил его так, как то буди Богу жяль“. Князь-жа „детьские свое послав на его подворие и велел товар его розграбити“. „И нине мы ся тебе молим—канчаюць пісьмо рыжане—абы ты тыи товар отдал княжо. И сам ведаеш ажо неправдою еси свое крестное целование забыл“ („Русско-Ливонск. акты“, № XLIX).

Пад канец XIV ст. і палачане, ў свой чарод, жаляцца на тое, што ў Рызе пазбаўляюць іх магчымасьці таргаваць з „заморскими“ немцамі. Рыга гэтаму пярэчыць: „і гэтыя немцы прыймалі удзел пры заключаньні умовы і карыстаюцца нададзенымі ў іх свабодамі“. Гэты закалот знаходзіўся ў зьвязку з паездкамі купцоў у другія мясцовасьці: Рыжане вымагалі даць ім магчымасьць ехаць з Полацка далей у Вітабск і Смаленск. Полацак гатоў быў пазволіць гэта пад варункам, што Рыга ў свой чарод дасьць ім магчымасьць езьдзіць на Гоцкі бераг, на што Рыга не згаджалася („Р.-Л. акты“, № CXXVII).

Відаць, Полацак і Рыга стараліся ўтварыць сабе штапельнае права, пры каторым усе прывожаныя да іх тавары павінны былі прадавацца ў сьценах гораду, а не вывазіцца далей, і пры гэтым павінны былі збывацца мясцовым купцам, але не чужаземным, ці з другога гораду. Забарона таргаваць з другімі гасьцямі была такжа выражэньнем таго-ж штапельнага права.

Дзеля гэтага ў мірнай умове, заключанай усьлед за гэтым паміж князям Вітаўтам і Рыгай у 1399 г. у Полацку („Р.-Л. акты“, № CXXII), гэтае пытаньне аб штапельным праве было пакінута аткрытым, бо відаць, староны не маглі прыйсьці да згоды. Яно было паднята ізноў, пры ўмове паміж Рыгай і Полацкам у 1406 годзе. Перад гэтай умовай было нарушэньне ў 1403 г. міра Вітаўтам, каторы, як ён гэта зрабіў і за некалькі гадоў да таго, патрэбаваў ад рыжскіх купцоў, каб яны пакінулі Полацак у прадоўжаньні чатырох тыдняў, у адваротным здарэньні яны будуць сілай выгнаны з гораду,

або закаваны ў аковы. Але і выехаць ён ня даў свабодна, а затрымаў іх датуль, пакуль магістр лівонскіх крыжакаў не пакрыў палачанам страт, нарobленых у 1403 годзе.

З перагавораў, якія вяліся пры заключаньні умовы 1306 году, з прапановаў, робленых абедзьвімі старонамі, мы можам бачыць, як істотна разыходзіліся іх пажаданьні і погляды. Умова, ўтвораная на аснове пастановы Вітаўта, зьяўляецца толькі часовым кампрамісам, пасьля якога ішоў шэраг угод; аканчальна спорныя пытаньні былі выясьнены толькі граматай князя Александра 1498 г., якой нададзена было Полацку штапельнае права і азначаны варункі таргоўлі рыжанаў і другіх гасьцей у Полацку.

У прывілеі князя Александра, рыжанам і іншым госьцям, забаронена, пад пагрозай канфіскацыі тавараў, езьдзіць у Вітабск ці Смаленск; яны могуць бываць там толькі дзеля спозыску даўгоў, але не дзеля таргоўлі. Гэтыя паездкі вызываліся тым, што купцы з Вітабска і Смаленска, як і перш, езьдзілі ў Рыгу. Па-за межы Рыгі ні яны, ні палачане, ведама, ня езьдзілі. У кождым здарэньні Полацак стаўся аканечным пунктам нямецкага торгу і асяродкам тавараабмену ў Крыўскіх землях.

Але Полацак гэтым не абмежуецца: торг госьця з госьцям наагул павінен быць спынены і ня толькі па-за межамі горада Полацка ці ў другіх мясцовасьцях, куды-бы немцы маглы езьдзіць, але і ў сьценах самога Полацка. І тут тавары павінны былі ісьці праз рукі мясцовых жыхароў, бо іначы мог-бы атрымацца абход пастановы, згодна якой нельга ехаць міма Полацка, абмінаючы яго жыхароў. Госьці прыязджалі-бы сюды, фармальна выпаўняючы гэтае вымаганьне, але на практыцы нарушаючы яго. Яны таргавалі-бы паміж сабой у самым горадзе, так, што ў выніку абыходзілі-бы гарадзкіх купцоў.

Як мы бачылі, і Вітабск і Рыга ўжо рана пачалі забараняць тóрг госьця з госьцям, што кожды раз выклікала абураньне праціўнай стараны. За іх прыкладам пашоў Полацак. У сваіх прапановах 1405 году Полацак заяўляе: „а торговати немецкому купцю с гостем Литовьское земли доброволно, а с новгородци немецькому купцю торговати, а промежи има ходити нашему полочанину: занеже нас новьгородци не пустят у немечькии двор торговати без своего новгородца; а с Москвичи торговати вашим немьцем; также нашему полочанину межи има ходити, торговати: занеже на нас москвичи тамьгу емлют“. З літвінамі немцы, знача, могуць таргаваць безпасярэдна, з ноўгародцамі-ж і маскалямі, толькі пры пасярэдніцтве палачанаў. Апошнія, паводле тлумачаньня Нікітскага, былі маклерамі, без якіх ніводная купляпрадажа госьця з госьцям не магла быць зробленай: „между има“—паводле фігуральнага выражэньня помніка—„хадзіў палачанін“.

Урэшце, з абедзьвех старон выяўлялася жаданьне абмежыць дзейнасьць прыезджых купцоў агульніцкімі закупамі, не дапушчаючы розьнічных—звычайнае ў тыя часы абмежаньне гасьцей,—і ў прапанове, выходзячай ад Полацка, гаворыцца: „а малое вам торговли не купити у Полотсце порозничи; а корьчмы вам у нас у Полотсце не держати“. І, ў асобнасьці, з прычыны

двох важнейшых аб'ектаў крыўска-нямецкага торгу, воску і кажухоў, дададзена: „купити вам немцам у нас у Полотсце немецькому купцю пол берковска воску, пол тысячы белкы“. Супроць гэтага „ратьмане Ризкии“ суляць пазволіць немцам „у Полочьку торговати и с гостемь и с полочаны все сполу, то будь мало или велико во всякои торговли какы ли ни был товар“. У свой чарод і яны даюць такое-ж абяцаньне: „тако же мы хочем полочаном у Ризе чинити“.

Але гэтага яны не дабіліся. Прынцып узаемнасьці вытрыманы. Пастановай Вітаўта таргаваньне ў раздроб не пазволена госьцям ні ў Рызе, ні ў Полацку, ў дадатку аб гэтых пытаньнях павінны быць выданы асобныя пастановы. Прывілей 1468 г. гэты прынцып аканчальна замацаваў: у Полацку ўстанаўляюцца тры двохтыднёвыя кірмашы, ў прадоўжаньні якіх госьцям толькі й пазволена прадажа ў раздробніцу. Гэта звыклае выключэньне, робленае ў сярэднія вякі. Кірмашовая таргоўля знаходзілася на асобных варунках. Дзеля ажыўленьня кірмашу, каб прыцягнуць больш купцоў, што давала значны зыск князю ў форме тарговых пабораў, не рабіліся звыклыя абмежаньні: госьці карысталіся правам прытулку, ніякія рэпрэсаліі не дапушчаліся, спозыскі, зробленых да кірмашу даўгоў, не маглі мець месца, таргаваць пазвалялася ўсім і кождаму, хоць якімі таварамі і хоць у якім ліку.

Але па-за кірмашамі прывілей 1498 г. пазваляе рыжанам таргаваць у Полацку толькі агулам, пад пагрозай канфіскацыі тавараў. Прадаваць можна: сукно—толькі цэлымі штукамі, соль—мяшкамі, мушкатовы квет і мушкатовыя арэхі, галгант, цытварны карэнь, гвоздзікі, шафран і іншыя цэныя пернасьці—фунтамі, сякеры, нажы і г. п. тузінамі, фігі і разынкі—кошыкамі, віно, піва і іншыя прывозныя напіткі—бочкамі, жалеза, волава, медзь, цыну, і мосяж—цэнтнарамі. Гэтак сама закупляць тавары пазволена толькі агулам: воск па 20 фунтаў, кажухі саболіі, кунічыі, янотавыя—па 40 штук, вавёркі, гарнастаі, тхоры, ныркі—па 250 штук, паташ і дзёгаць—цэлымі тоннамі.

Урэшце, ў судовых справах угода 1406 г. робіць круты паварот у тым сэнсе, што суд адбываецца ня ў тым месцы, дзе зроблены праступак, ці усчаты суд, а на бацькаўшчыне праступніка ці даўжніка. У умове 1229 г. мы чытаем яшчэ: „ити истьцю к истьцю и взяти емоу та правда, которая то в том городе“, і гэтак сама ў мірнай умове з 90-х гадоў XIII ст. гаворыцца: „а где будеть кто кому виноват, в томь городе правити, где тот человек живет; инде суда ему не искати, въ которои волости человек извинится (правініцца), ту ему правда дати“.

Наадварот, у грамаце 1330 году, датыкаючай ваг, высказаны ўжо іншы прынцып: „аже привезеть нечистый товар, а не люб будеть, поехати ему назад со своимь товаромь, а свой князь тамо казнить его“. Гэта частковая пастанова, тасаваная тут толькі ў здарэньні фальшаваньня тавараў, у 1406 г. атрымлівае агульны характар. „Ратмане Ризькии“ просяць „полочаном стеречи немечских купцев, как своя братя... без всякоя хитрости“ і заяўляюць, што з свайго боку „тако же мы хочем полочаном у Ризе чинити“. А да гэтага яны дадаюць: „аще которы немчин извиниться у Полочьсце, того

немьчина отослати у Ригу, ратмане его судять по своей правде", і гэта-ж самае трэба зрабіць з палачанінам. Гэта паўтараецца і ў прапанове Полацка. „А извиниться нашь полочанин у Ризе, ино его немьцем у Ризе не казнити, отпустити, его у верх, ино его там свои полочане казнят". Гэта-ж самае тасуецца да рыжанаў. Урэшце, гэты пункт погляду падзяляе магістр лівонскіх крыжакаў. Німа дзіва, што пры гэткіх варунках, гэта падтрыманая ўсімі аснова увайшла ў пастанову Вітаўта 1406 г. „А полочяном блюсти рижянина у Полоцьку как себе, а рижаном блюсти полочянина у Ризе, себе обороняти. Аже полочанин што проступить у Ризе, ино им того до Полоцька послати, ино его там полочане осудять по своему праву".

Калі ў прыведзеных вышэй пастановах, што да варункаў торгу, Полацак атрымаў перамогу, дабіўшыся штапельнага права і гэтым крэпка абмежыў правы гасьцей, то тут, уцелаішчан (ў своеаблічнай форме) прынцып свомны германскаму сярэднявекаваму праву, згодна якому кожды павінен судзіцца і заграніцай паводле асноў таго права, якое істнуе ў яго на бацькаўшчыне: ён як-бы носіць гэтае права з сабой. Зрэшта, трэба дадаць, што гэты прынцып яшчэ ў большай ступені ёсьць азнакай романскага права.

ЛЕТАПІС ПРУСАЎ. У гісторыі Прусіі гэты летапіс вядомы пад назовам летапісу Ярослава (гл. Wiszniewski „Hist. literat. Polskiej" T. II, 108—120). Паводле Vogts'a („Geschichte Preuss" Königsberg, 1827) летапіс гэты быў пісаны славянскімі літарамі і трапіў да крыжакаў ад Ярослава біскупа Плоцкага. Магчыма, што назова „Плоцк" зьявілася вынікам спамылкі, бо ў лацінскім напісаньні пад „Plotsko" „Poltsko" фігуруе і Плоцк і Полацак. Хутчэй за ўсё ня з Плоцка, дзе ня зналі і ня ўжывалі славянскіх літар, а з Полацка паходзіў Прускі летапіс. Дзеля таго, што арыгінал гэтага летапісу не захаваўся, то некатарыя навейшыя нямецкія гісторыкі даюць пад сумнеў ці наагул істнавала такая кроніка. Аднак, бяручы пад увагу безстаронныя данныя, трэба прызнаць поўную магчымасьць істнаваньня ў Прусаў кронікі, пісанай славянскімі літарамі і мовай.

Пачатны летапіс упамінае Прусаў толькі мімаходам у ліку народаў, засяляючых Захад. І гэта саўсім зразумела, бо Прусы ня стыкаліся з Палянамі. Затое сьлядоў стычнасьці Прусаў з Крывічамі сустрачаем нямала з топографічных і гістарычных данных. Гэтак, маемо цэлы рад назоў мясцовасьцяў з „прускімі" найменьнямі: Вялікія Прусы на поўдзень ад Візны, па дарозе з Беластока ў Ломжу, Прусачкі каля Камянца Літоўскага, Прускі на захад ад Кобрына і г. д.

Маюцца ўрэшце ведамкі, што яшчэ ў X стагодзьдзі славянскія землі стыкаліся з прускімі. Дзітмар (VI, 58) кажа, што сьв. Бруно прапаведываў хрысьціянства ў Прусіі, на граніцы з Русьсю. Як назовы мясцовасьцяў, так і сьведчаньне Дзітмара паказуюць, што або сялібы Прусаў пашыраліся шмат далей на ўсход ад тых мейсц, дзе іх застае гісторыя, або што ў пазьнейшыя часы ішла пруская каланізацыя ў славянскія землі. Пацьверджаньне гэтага апошняга мы знаходзім у летапісе, пад 1275 г.: „пріидоша Пруси къ

Тройденови изъ своей земли неволею передъ Нѣмци; онъ же прія ѣ къ собѣ и посади часть я въ Городнѣ, а часть ихь посади Въслонимѣ (Іпат. сп. Пачат. Лет.). У 1277 годзе перасялілася цэлае племя Бортаў (Іпат. сп., пад 1277 г.). У тым-жа сьпіску летапісу, пад 1281 годам знаходзім ведамку аб Прускім князю, які служыў у дружыне князя Валадзімера Валынскага. Назова аднэй з вуліц Вялікага (Крыўскага) Ноўгараду—„Пруская вуліца", а такжа ў Крэве „Пруская вуліца", паказуе на сяленьне Прусаў у Крыўскім Ноўгарадзе і Крэве. Сучасьнікам Аўраамія Смаленскага быў Лука Прусін, як відаць з жыцьцёпісу Аўраамія,—адзіны з паміж манахаў цаніцель культурных пачынаньняў Аўраамія, а знача,—сам чалавек культурны. З умоў князя Мсціслава Давыдавіча з Рыгай і Гоцкім берагам 1229 г. вынікае, што як Смаленцы часта езьдзілі па Балтыцкаму пабярэжжу, так і, наадварот, многа людзей з пабярэжжа Балтыку жыло ў Смаленску, а знача, тым больш—у Вітабску і Полацку, як гарадох бліжэйшых да мора.

Акром старадаўных слядоў істнаваньня стасункаў між Крывічамі і Прусамі, маюцца і навейшыя, даволі вымоўныя данныя. Гэтак 24. V. 1925 г. ў ковенскай расійскай газэце „Эхо" была памешчана зьменка, што прафэсар Гэруліс выкрыў (у Лейпцыгу) вялікі лік дакумантаў XVI ст. Знойдзеныя дакуманты адносяцца да гісторыі культуры ў Малой Літве (Клайпэдскім краю), якая сумежыць з Прусіяй. Вось-жа з тых дакумантаў відаць, што паміж тагочаснымі дзеячамі Малой Літвы было распашырана знаньне славянскай граматнасьці, што і адбілася на найдаўнейшых помніках літоўска-прускай пісьменнасьці (Мажвідзіс і др.), мова якіх перапоўнена славянізмамі.

Прыняўшы пад увагу вышэйпрыведзеныя довады, саўсім натуральнай будзе думка, што Летапіс Прусаў, пісаны славянскімі літарамі і мовай, не зьяўляецца мітам і што старапрускія гісторыкі, якія на яго зсылаюцца, заслужываюць веры.



Канцоўка з крыўскіх рукапісаў XIV—XV ст.



Пачатныя літары Аршанскага Евангельля XIV ст.

# XIV стагодзьдзе.

АРШАНСКАЕ ЕВАНГЕЛЬЛЕ XIV СТ. Забрана з Оршы ў XIX ст. і перададзена ў Царкоўна-Археолёгічны музэй пры Кіяўскай Дух. Акадэміі. Евангельле мае фармат $6 \times 4^1/_2$ вярш.; пісана на пэргаміне уставам у 2 гранкі па 28 радкоў у гранцы. У рукапісе зьвяртаюць увагу 2 мастацкія застаўкі і фантастычныя завіткі літар, зложаныя з малюнкаў рожных зьвяроў, птахаў і зьмеяў, а ў двох мяйсцох літары зложаны з малюнкаў людзкіх фігур. У кнізе маюцца маляваныя па золаце воднымі фарбамі два евангелісты: Мацей і Лука. Аршанскае Евангельле зьяўляецца клясычным помнікам стылізацыі крыўскіх рукапісаў у XIII-XIV ст. ст.

ЕВАНГЕЛЬЛЕ 1317 Г. На крыўскае паходжаньне яго паказуе між іншым лацінскі спосаб парадку лічэбнікаў. Перапісана было гэта евангельле нейкаму Пантэлейману Мартыновічу.

Знаходзіцца ў бібліатэцы СПБ. Акад. Наук, № 2. (Карскі „Бѣлоруссы" Т. I.).

УГОДЧАЯ ГРАМАТА ГЕДЫМІНА З НЕМЦАМІ 1323 Г., у лац. і нямецк. перакладах. (Срезневскій, „Славяно-русская палеографія", б. 226 г.).

Грамата пісана нямецкім гарадом: Любэку, Ростоку, Штральзунду, Грынсвальду, Штэціну і Готлянду. У гэтай грамаце Гедымін дае вышназваным гарадом права торгу па ўсіх прыслухаючых яму землях без аплаты мыта, а такжа запрашае сяліцца ў гарадох літоўскіх і крыўскіх рожных рэмесьнікаў, абяцаючы ім дзесяцігадовую польгу ад аплаты ўсіх падаткаў і выпаўненьня




сıає ѡ мата



ѥгь. блюдѣтє нє
родитє єдиного ма
лъıхъ сихъ глю бо ва
мъ ıако англі ихъ на
нбсѣхъ въ инноу видѧ
ть лицє ѡца моєго
нбнаго. придє бо снъ
члвчьскъıи възиска
тъ и спасти погъıбъ
шаго. что сѧ вамъ
мьнить аще боудєть
нѣкоємоу лькоу р
овьць и заблоудить
єдина ѿ нихъ нє оста
вить ли дєвати дєсатъ
и дєвати на горахъ и
шьдъ ищєтъ заблоужь
шаго. и аще обрѧщєть
ю аминь глю вамъ ıа
ко радоуєтьсѧ паче о
нєи. нєжє о д ти

дєсѧтъ и ѡ ти мѣ за
блоужьшихъ. такь нѣ
волıа прѣдъ оцмь мои
мь нбнъıмь да погъı
бнєть єдинъ ѿ маль
малъıхъ аще съгрѣши
ть братъ твои къ тобѣ
иди обличи и мєжю
тобою и тѣмь єдинѣмь
аще тєбє послоушаєть
приобрѧщє єси брата
своєго аще ли тєбє нє
послоушаєть поими
съ собою єдиного или
дъва да въ оустѣхъ дъ
ю или трии свѣдѣтє
ль станєть вьсакъ глъ
аще ли жє нє послоушаєть
ихъ повѣжь црькви аще
жє и црькви нє послоушаєть
наєть. да боудєть
ıако ıазъıчьникъ и
мъıтарь аминь ами
нь глю вамъ єлико а
ще съвѧжєтє на зємли
боудєть съвѧзано на
нбсѣхъ и єлико аще
разрѣшитє на зємли,

Аршанскае рукапіснае Евангельле XIV ст.

павіннасьцяў і пазваляючы ім карыстацца ўсімі прывілеямі Рыжскіх грамадзян, якія такжа мелі ад яго грамату (Бѣляевъ, „Очеркъ Исторіи Сѣверо-Зап. Края“ Вільня, 1867, б. 83).

УМОВА РЫГІ З ПОЛАЦКАМ, КАЛЯ 1330 Г. Пераховывалася ў Рыжскім архіве. Пісана на вялікім, шырокім кавалку пэргаміну буйным тоўстым уставам асобнага характару.

Пры грамаце дзьве пячаці; на аднэй надпіс „печать епспа григорья“, на другой „печать княжа глебова“.

Біскуп полацкі Грыгоры упамінаецца пад 6839(=1331) г. ў Ноўгародзкім летапісе; Князь Глеб Рагвалодавіч—брат сьв. Параскевы (Кроніка Быхоўца; Stebelski, „Zywot ss. panien Eufrozyny i Parasceyii“ Вільня, 1781).У I-м Ноўгародзкім летапісе пад 6841 г. сказана (зраўняй Васкрэс. лет. пад 6839 г.):

„Нарымонт названы ў хрышчэньні Глеб, прыбыў у Ноўгарад у кастрычніку 1333 году, сын в. кн. Літоўскага Гедыміна“.

Ноўгародцы далі яму Ладагу і Арэхаў на вотчыну, але ён скора вярнуўся ў Літву і атрымаў ад бацькі Пінск, між тым, як Полацак, мабыць, дастаўся Альгерду Гедымінавічу. Некатарыя гісторыкі думаюць, што спомнены ў грамаце Глеб, ёсць гэты другі князь Глеб—Гедымінавіч, а не Рогвалодавіч.

Зьместь граматы:

Тако хочемъ мы горожане смештеремь. переже како вѣсити воскъ на скалвахъ. а вамъ чинити такожь нъ тяжелѣи нашего полупуда. тотъ товаръ которыи вѣсити на скалвах. а язык пускати на товаръ. аколи товаръ на стану станеть отступи прочь. а рукою не приимай. а вѣсцѣви крстъ цѣловати какъ іему право вѣсити. какии ни товаръ будеть. а немцѣмъ дати вѣсчего отъ бѣрковьска заоушня. отъ воску. отъ мѣди.



Зьнімкі пячацяў з умовы Рыгі з Полацкам 1330 г.

отъ олова. а соль вѣсити оу пудный рѣмѣнь. отъ бѣрковьска оузяти іему долгая. отъ рубля дати іему долгая а вризѣ рускому купцѣви отъ вѣса дати іему от бѣрковьска полъ окря. отъ воску. отъ мѣди. отъ олова. отъ хмѣлю. а соль вѣсити пуднымь рѣмѣнемь. отъ бѣрковьска дати іему отъ вѣса любѣцьскый отъ гривны серебра любѣцьскый. а вѣсити чистый воскъ безъ подъсады безъ смолы. безъ сала. какъ верхъ тако исподъ. ажо привѣзеть нечистый товаръ. а нелюбъ будеть. поіехати іему назадъ со своимь товаромь. а свой князь тамо казнить іего. аже найдуть оу немѣць нечистый товаръ оу руской земли. поити іему назадъ стоваромь оу ригу. тамъ іего свой князь судить.·.·

УМОВА ГЕДЫМІНА І ЯГО СЫНОЎ ГЛЕБА (НАРЫМОНТА) І АЛЬГЕРДА З РЫГАЙ 1338 ГОДУ. Сыны Гедыміна княжылі ў гэтым часе ў Полацку і Вітабску, і умова заключана ў тарговых справах гэтых гарадоў (А. Сапуновъ, „Рѣка Зап. Двина“ Витабск, 1893, б. 275).

ГРАМАТА КН. КЕЙСТУТА І ЛЮБАРТА ТОРУНСКАМУ МЯШЧАНСТВУ ПАСЬЛЯ 1341 Г. Пераховуецца ў Каралевіцкім (Кенігсбэрскім) архіве. Пісана на невялікім шматку пэргаміну ў 8 радоў. Дае права свабоднага шляху з Торуня ў „Лучьск“ праз Дрогічын і Мельнік.

Аб часе граматы гаворуць імёны князёў: Кейстут кн. Віленскі і Любарт кн. Валынскі, наступнікі Гедыміна, не маглі даць гэтай граматы раней сьмерці Гедыміна—1341 г.

Грамата дае адну са старэйшых спроб крыўскай стылізацыі скорапісі.

УГОДЧАЯ ГРАМАТА ЛІТОЎСКА-РУСКІХ КНЯЗЁЎ З ПОЛЬСКІМ КАРАЛЁМ КАЗІМІРАМ І МАЗАВЕЦКІМІ КНЯЗЯМІ 1347 Г. „Галоўны Архіў Царства Польскага“, № 673. Выд. у „Актахъ Зап. Россіи“, І, № 1, ў „Сборникѣ др. русскихъ памятниковъ“ А. Смирнова, бал. 58, і праф. Е. Карскім у ст.: „Два древнѣйшихъ русскихъ документа Главнаго архива Царства Польскаго въ Варшавѣ“ (Древности. Труды Археограф. Ком. Имп. Моск. Арх. Общ. Т. І, вып. 3, 1889 г.).

Гедымін ажаніў сына свайго Любарта з дачкой апошняга Валынскага князя Бушай, з роду Галіцкіх князёў. А дачку сваю (невядомую па імю) аддаў замуж (ў 1331 г.) за Болеслава Тройданавіча, пляменіка Галіцкага князя Юр'я II. Па сьмерці Льва Юр'евіча, цесьця Любарта, валынскія землі перайшлі ў спадку да Юр'я II Галіцкага, які быў пляменікам нябожчыка Льва-Юрьевіча. Любарт Гедымінавіч, як зяць Льва—Юрьевіча, атрымаў з гэтага спадку толькі адзін Луцк.

У 1335 годзе памер і Юры II; ён быў апошнім з роду галіцкіх князёў па мужской лініі. Спадкаемцамі Юр'я II асталіся а) Болеслаў Тройданавіч і б) Буша—зродная сястра Юр'я, жонка Любарта Гедымінавіча. І яны падзялілі паміж сабой спадак: Галічыну атрымаў Болеслаў Тройданавіч, а Валынь з галоўным горадам Валадзімерам дасталася Любарту Гедымінавічу.

Болеслава атруцілі галіцкія баяры, за яго распуснае жыцьцё. Па сьмерці Болеслава не асталося безпасярэдніх спадкаемцаў. Бліжэйшае права на галіцкую спадчыну мелі:

а) Любарт Гедымінавіч, як жанаты з Бушай, зроднай цёткай памершага Болеслава;

б) ўсе браты Любарта, бо сястра іх была за Болеславам Тройданавічам;

в) Вэнгерскі кароль, Карль-Робарт: гэты лічыўся спадкамцам Галіціі таму, што сто гадоў назад два яго продкі—Андрэй (быўшы вэнгерскі кароль) і сын Андрэя Каламан—нейкі час сядзелі на галіцкім пасадзе;

г) Польскі кароль Казімер III Вялікі: Казімер лічыўся спадкаемцам Галічыны таму, што Болеслаў Тройданавіч быў сынам Мазавецкага князя, які прыходзіўся яму трызродным братам і знаходзіўся ў васальнай залежнасьці ад Польшчы.

Першы, на сьмерці Болеслава Тройданавіча, кінуўся на Галіцію Казімер Вялікі; захапіў Львоў і скарбец галіцкіх князёў. Захапіўшы Галіцію, Казімер на другі год кінуўся на Валынь, да якой большае права меў Любарт. З гэтага распачалася вайна. Сьпярша Любарту ў вайне не шчасьціла, але пасьля перавага перайшла на яго старану. Разьбіты некалькі разоў, Казімер павінен быў распачаць перагаворы з Гедымінавічамі. Вынікам было замірэньне на два гады, г. зн.,—з 1347 да 1349 г. На моцы гэтай умовы пры польскім каралі асталася часова Галічына (адна Львоўская зямля), а удзелы Луцкі, Бэлзскі, Холмскі, Берасьцейскі і Крэмянец асталіся ў руках літоўскіх князёў.

Зьмест граматы:

Вѣдаи то каждъй члвкъ. кто на тъй листъ посмотритъ. оже я князь еоунутий, и кистутий, и любартъ, юрьий наримонътовичь, юрьий корьятовичь. чинимъі мир твердъіи. ис королемъ казимиромъ польскъімъ. и сомовитомъ и его братомь казимиромъ мазовъскъім, и съ его землъми, краковьскою и судомирьскою, сирязьскою, куявьскою, лучичъскою, добръіньскою, плотьскою, мазовъскою, люблиньскою, сетѣховьскою, и со львовьскою. а за велкого князя олькѣрта и за корьята и за патрикия, и за ихъ съінъі. мъі нслюбуем, тотъ миръ держати вѣлми твердо, безо всякоѣ хитрости, не заимати намъ королевъі землѣ, ни его людий што его слухають. королеви держати львовьскую землю исполна, а намъ держати володимѣрьскую, луцкую, белзьскую, холмьскую, берестиинскую, исполна жь. а миръ отъ покрова бцѣ до иваня дне до купалъ, а отъ иваня дне за. 2. лѣтъ, а городовъ оу руской земли новъіхъ не ставити, ни сожьженого не рубити, доколя миръ стоить, за 2. лѣтъ. а кремянець держати юрью наримонътовичю отъ князий литовьскъіхъ, и отъ короля за 2. лѣтъ. а города не рубити. а коли мир станеть, юрью князю города лишитися. аже пойдеть оугорьскъіи король на литву, польскому королеви помагати, аже поидеть на русь што литвъі слушаетъ, королеви не помогати. а поидеть ли царь на ляхи, а любо князи темний, княземъ литовьсцъімъ помагати. аже поидуть на русь што короля слушаеть, литовьскимъ княземъ не помагати. а про любартово ятъство, хочемъ его поставити на судѣ передъ паньі оугорьскими, по сошествьй стго дха за 2. недли, литовьскимъ княземъ стати оу холмѣ. а королеви оу



Акладка Лаўрышаўскага Евангельля з выабражэньнем Лаўрыша-Войшалка, Міндаўгава сына.

сточьцѣ, кде смолвять тутъ будетъ судъ, тягатися ис королемь. будеть ли ялъ его король по кривдѣ, любартъ будеть правъ, й я князь кистютий буду правъ передъ въгорьскимь королемь, будеть ли король правъ, намъ своего брата любарта дати оугорьскому королеви оу ятъство. а коли будеть по миру, кто не оусхочеть далѣй миру держати, тотъ отповѣсть, а по—отповѣдѣньи стояти миру за мѣсяць. аже поидуть та(та)рове на львовьскую землю, тогда руси на львовьцъ не помагати аже поидуть та(та)рове на ляхъі, тогда руси неволя поити й съ татары. а оу томъ перемирьи кто кому криво оучинить, надобѣ ся оупоминати старѣйшему, и оучинити тому исправу, оучинить которъіи добръіи члвкъ кривду, любо воеводу, а любо панъ, оучинити исправу и съ нимь аже самъ не можеть заплотити тотъ истиньнъій. што же оуложать его оу вину, хочеть ли самъ король заплатити за нь, а его дѣдичьство собѣ оузяти. не оусхочеть ли король самъ заплатити, дасть тому то (дѣ)дичьство, кто его потяжеть. а за избѣга можемъ его добъіти и въідати. аже его не можемъ добъіти, можемь его иска(ти) съ обою сторону. аже побѣгнеть русинъ а любо руска, во львовъ, или холопъ чии, или роба, въідать его. а што у тои грамотѣ писано, тую жъ правду литовьскъімъ княземъ держати. а на то есмъі дали своѣ печати.

ЛАЎРЫШАЎСКАЕ ЕВАНГЕЛЬЛЕ XIV СТ. Пераховуецца ў бібліятэцы князёў Чартарыйскіх у Кракаве. Пісана на пэргаміне. У кнізе маецца 18 мін'ятур і заставак, рысаваных воднымі фарбамі, а такжа маецца 13 ўкладных запісаў; найстарэйшы спаміж іх адносіцца да 1429 году. У мове сустрачаюцца крыўскія асобнасьці: цьвёрдае *р* і ўжываньне *у* замест *о* (баграница, прамо, дундеже, ученикум).

На акладцы, гэтага шацоўнага помніка, маецца ў сярэбранай рамцы выбітае на серабрэ выабражэньне сьвятога з дзідай і шчытом. Паводле традыцыі гэта ёсьць выабражэньне Міндаўгава сына Лаўрыша-Войшалка, якому прыпісуюць заснаваньне Лаўрышаўскага манастыра, дзе ён закончыў богабойным мніхам сваё жыцьцё, а па сьмерці быў далучаны да ліку сьвятых.

Падробнае апісаньне гэтага Евангельля даў І. Свенціцкі („Палеографическо-грамматическое описаніе пергаментнаго Лавришевскаго Евангелія, начала XIV ст." Изд. отд. Руск. яз. и слов. Импер. Акад. Наукъ, 1913 г., XVII, кн. І, бб. 220-228).

Лаўрышаўскі манастыр знаходзіўся на беразе Нёмана, недалёка ад Навагорадка, ў тым мейсцы, дзе і цяпер стаіць вёска Лаўрышава. Аб заснаваньні гэтага манастыра Лаўрышом-Войшалкам, сынам Міндаўга, ў летапісе, пад 1262 г. (С. П. С. Р. Л. II, б. 201), так сказана:

„Войшелкъ прииде опять въ Новогородок и учини собѣ монастырь на рѣцѣ на Нѣмане, межи Литвою и Новым Городкомъ, и ту живяше".

Лаўрышаўскі манастыр, знаходзячыся паблізку ад Навагорадка, ў якім існавала з канца XIII ст. мітрапалітальная катэдра, быў адным з слаўнейшых манастыроў у краю. Між мніхамі гэтага манастыра сустрачаем выдатных асоб

з княжага роду. Гэтак пад 1278 годам мы знаходзім у летапісах (П. С. Р. Л. II, б. 345).

„Сынъ Тройденовъ Римонтъ, уже въ чернечествѣ сый, живый въ монастырѣ Лавришевскомъ, имя ему чернечское Елисей“.

Хрысьціянства ўсходнага абрадку вельмі рана пранікла ў Крыўскі Навагорадак*), расьце яно тут і крэпне пры невядомых нам варунках. У другой палавіне XIII ст. яно на гэтульки змоцнілася, што вымагае сабе асобнага духоўнага кіравецтва. Візантыцкі імпэратар Андронік Старшы ў 1291 годзе зацьвярджае Новагорадзкую аўтокефальную мітраполію, празначаючы ёй 82 пасад у патрыаршай радзе. Дагэтуль невядома, чым можна тлумачыць стасункова высокае мейсца маладой Новагорадзкай мітраполіі ў герархіі грэцкай царквы—82-е мейсца на 110 біскупскіх крэсел.

Новагорадзкая мітраполія на адзінадцаць гадоў старэйшая за Галіцкую, якая заснавана ў 1303 годзе і была другой пасьля Кіяўскай на ўсходна-Славянскіх землях. Гэткім чынам, Новагорадзкая мітраполія істнавала ужо да Гэдыміна.

Імя аднаго з першых Новагорадзкіх мітрапалітаў было Тэафіль. З дыплёматара Візантыцкіх імпэратараў відаць, што ў красавіку 1329 году, мітрапаліт Товтвіль (Tovtvilus) прыймаў учасьце у Канстантынопальскім сынодзе (Acta patriarch. Constantinopoli, I., бал. 147). Акром гэтага, Новагорадзкія мітрапаліты упамінаюцца, як учасьнікі Канстантынопальскіх сынодаў у 1317 г. (жнівень), і 1327 г. (студзень), але безыменна („Latopisiec Litwy i kronika Ruska“) выд. Даніловіча, бб. 72 і 143).

Устаноўленьне ў Новагорадку аўтокефальнай мітраполіі было справай, вымагаючай упорнага змаганьня з цэнтралізмам кіяўскіх мітрапалітаў, якія ўвесь час напіралі на Канстантынопальскі патрыархат, дамагаючыся скасаваньня гэтай мітраполіі, але Новагорадак, упорна вёў змаганьне за сваю незалежнасьць і даволі памысна. У ліпні 1361 году, патрыаршай граматай акрэсьляюцца граніцы Новагорадзкай мітраполіі, ў склад яе ўходзяць біскупіі: Новагорадзкая, Тураўская і Полацкая: акром Смаленска,—немаль усе крыўскія землі. Пасьля-ж заняцьця Кіява, Новагорадзкія мітрапаліты стараюцца ўлучыць або ўзалежніць ад сябе і Кіяў.

Палітыка Альгерда была зьвернута на Ўсход і імкнулася да утварэньня з Крыўскіх, Украінскіх і Літоўскіх зямель крэпкай дзяржавы ад Балтыцкага да Чорнага мора. Мудрай палітыкай ён пашыраў сваю ўладу на Вітабск, Полацак, Смаленск, Вільню, Новагорадак і Кіяў. Але ён разумеў, што гэта вялікая дзяржава можа ўтрымацца толькі тады, калі жыхары яе будуць зьліты ў адно цэлае рэлігіяй.

Да гэтага спасобіўся Альгерд і, як здаецца, спасобіў да таго ўсе свае землі. Але перш ён хацеў мець у межах свае дзяржавы кіравецтва праваслаўнай царквой. З гэтай мэтай пачаў дабівацца ў Канстантынопальскага патрыархату, каб брат яго жонкі (Марыі Яраслаўны, кн. Вітабскай), князь Ра-

*) Крыжацкі хронікар Дусбург (Dusburg cap., 315) пад 1314 г. піша: „Брат Гэнрык Маршалак... прыйшоў у зямлю Крывіція (Crivitae) і места яе, званае Новагорадак (Novagardia) здабыў“.

ман, мітрапаліт Новагорадзкі, быў высьвячаны і на мітрапаліта, „ўсей Русі", з аддачай пад яго зьверхнасьць мітраполіі Новагорадзкай, Галіцкай і Кіяўскай, а такжа біскупіі Маскоўскай.

Гэтага апошняга баялася Масква і са свае стараны рабіла захады перад патрыярхам, каб яе кандыдат, Аляксей, быў высьвячаны на мітрапаліта Кіяўскага і „ўсей Русі", з мейсцам прабываньня ў Валадзімеры-Суздальскім.

У 1354 годзе Канстантынопальскі патрыярхат, атрымаўшы ад абодвых кандыдатаў багатыя дары, абодвых-жа, і Маскоўскага—Аляксея, і Новагорадзкага—Рамана, немаль адначасова, высьвяціў на Кіяўскіх мітрапалітаў і „ўсей Русі".

З гэтага моманту пачынаецца доўгае і упорнае змаганьне за ўплывы над праваслаўнай царквой паміж Літвой і Масковіяй. Як вынік гэтага змаганьня, утвараецца яшчэ адна новая мітраполія—Валадзімера-Маскоўская. І Масква і Новагорадак імкнуцца завалодзець тытулам Кіяўскага мітрапаліта. Масква з гэтай мэтай пачародна ўсіх першых сваіх мітрапалітаў кананізуе і ставіць на аўтары, акружае іх аўрэолям сьвятасьці, а аб Літве шырыць вестки, што гэта край паганскі, дзе забіваюць і прасьледуюць хрысьціянаў (гл. ніжэй: „Мученіе святыхъ Новоявленыхъ мученікъ родом Літвы Іоанна, Антонія і Еустаѳія"). Адна і другая старана добра разумее, што каля пытаньня аб цэнтры царкоўнага кіравецтва важацца лёсы пад кім об'яднаецца ўсходная Славяншчына —пад нашчадкамі Гедыміна, ці Івана Каліты. Масковія была паярэмлена татарамі, Літва была вольнай. Усе шансы былі на старане Гедымінавічаў.

Ход гісторыі быў павернуты саўсім ў іншы бок сынам Альгерда, В. Кн. Літоўскім Ягайлам, які перайшоў у каталіцтва і злучыў Літву з Польшчай. Ягайлавічы сталіся пропагатарамі рымскіх уплываў, а Масква атрымала нечаканы сукцэс: у яе рукі перайшло кіравецтва „рускай верай" і, —што з гэтага вынікае,—народнасьцю. Вял. Кн. Маскоўскі становіцца адзіным праваслаўным манархам на славянскім усходзе.

Вельмі загадковае і дагэтуль яшчэ выстарчаюча ня высьветленае пытаньне аб „паганстве"







Пачатныя літары Мсціжскага Евангельля XIV ст.

літоўскіх князёў. З аднэй стараны, цьвёрда ўстанавілася апінія, што да Ягайлы Літва была краем паганскім, што пануючай верай было паганства, з другой стараны, гістарычныя данныя паказуюць наадварот, што большасьць ведамых гісторыі літоўскіх князёў вызнавалі хрысьціянства ўсходнага абрадку.

*Гэтак з князёў Навагорадзкіх, паводле гістарычных данных былі хрысьціянамі:*

1. Гінвіл Мінгайлавіч, у хрышчэньні Юры; паводле польскіх гісторыкаў быў Полацкім князям (1125+1199)., (Kojałowicz. „Hist. Litwy" P. I, б. 69; Stebelski. „Zywot S.S. Eufroz. i Parasc." бал. 147. Narbut. „D. N. L.', III. б. 307—316).

2. Барыс Гінвілавіч, (1146+1206). (Як вышэй: Kojalovič, Narbut, Stebelski).

3. Васіль-Рогвалод Барысавіч (1164+1223). (Тыя-ж аўторы).

4. Глеб Рогвалодавіч. (Тыя-ж аўторы).

5. Міндоўг Рынгольдавіч (1203+1263). У Густынскім летапісе сказана: „Пріять вѣру христіанскую отъ востока". („Полн. Собр. Р. Л. Т. II, б. 341).

6. Доўмунд або Монвід ці Арвід сын Эрдзівіла Ігуміса, паводле Стрыйкоўскага Смаленскі князь (Stryjkowski. „Kronika", 1845, ч. I, б. 286).

7. Вікунд, сын Эрдзівіла Ігуміса, князь Вітайскі (Witejski), (Stryjkowski. „Kronika", 1845, б. 286).

8) Тоўтвіл, у хрысьціянстве Тэафіль (Θеофил), сын Эрдзівіла Ігуміса; быў князям Полацкім, забіты 1264 г. (Stryjkowski. „Kronika", б. 286).

9) Войшел або Вольштінік Міндаўговіч (1223 + 1267) (Latop. Litwy i kron. Rus. б. 148).

*З князёў Завілейскіх былі хрысьціянамі:*

1. Доўмунт Гермундавіч у хрышчэньні Цімафей, які быў пасьля Пскоўскім князям(1227+1299). („Latopis. Litwy i kron. Rus." Даніловіча, бб. 149, 150; „П. С. Р. Л.", т. II, б. 345).

2. Нарымунд-Сірпуці Ромундовіч (+1284). („Obraz Litwy" Ярошэвіча, Т. II, б. 2; Карамзинъ. „Истор. гос. Росс.", т. IV, б. 377).

3. Гольша-Лесій Ромундовіч (там-жа).

4. Гедрус-Свількель Ромундовіч (там-жа).

5. Рымунд Тройданавіч, у хрышчэньні Лаўрын або Лаўр, які ўступіў пасад Вітэнасу (радзіўся 1281 г.). Stebelski. „Żywot S.S. Eufroz. i Parasc.", б. 173; Narbut. „Dzieje Narodu Litewsk.", IV, б. 297; „П. Собр. Р. Л." Т. II, б. 345). У Густынскім Летапісе ён званы Елісеем, які жыў у Лаўрышаўскім манастыры, але са Стэбэльскага відаць, што Елісей—іншая асоба.

6. Міндоўг-Альгімунтавіч, ў хрышчэньні Іан, быў Кіяўскім намесьнікам („Latopis. Litwy i kron. Ruska", б. 227).

7. Нелюб сын Міндаўга-Іана, ў хрышчэньні Александар (+1406). („Latopis. Litwy i kron. Ruska").

*Пасьля злучэньня князьстваў Завілейскага і Новагорадзкага былі хрысьціянамі:*

1. Воін сын Вітэнаса, ў хрышчэньні Васілі, кн. Полацкі (1269-1350). (Narbut „Dzieje Nar. Lit." T. IV, бал. 485).

2. Нарымунт Гедымінавіч, у хрышчэньні Глеб, князь Пінскі (1277 +1348). (Naruszewicz. „Hist. Nar. Polsk." выд. 2-е, T. 9, бал. XI; Narbut. „Dzieje Nar. Lit.", T. V., б. 30, увага 1; Стрыйкоўскі называе яго ў хрышчэньн. Васілём: Stryjkowski „Kronika", 1845, ч. II, б. 74).

3. Альгерд Гедымінавіч в. кн. Літоўскі і Вітабскі (радзіўся 1296+1377), у хрышчэньні Александар у мністве Аляксей (Stryjkowski „Kronika", 1845, ч. II, б. 14; Карамзинъ „Истор. госуд. Росс., T. IV, прыпіска 267 і T. V, бал. 51 і прыпіска 50).

4. Любарт Гедымінавіч, у хрышчэньні Фёдар (радзіўся 1386 г.), князь Луцкі (Карамзинъ „Ист. Гос. Росс.", T. IV, б. 193; Stryjkowski, „Kronika", 1845, ч. II, б.б. 41 і 74).

5. Корыят Гедымінавіч, ў хрышчэньні Міхайла, 1301+каля 1357. (Naruszewicz, „Histor. Narod. Pol.", выд. 2, T. 9, б. XIII).

6. Яўнута, Янута Гедымінавіч, ў хрышчэньні Іан (радзіўся 1306), вялікі князь Літоўскі, пазьней князь Заслаўскі (каля Менску). (Stryjkowski „Kronika", 1845, ч. II, бал. 3).

7. Александар Нарымунтавіч (Глебавіч). (Latopis. Litwy i kron. Ruska", б. 163).

8. Андрэй-Вінгальт Альгердавіч, Полацкі князь (Stryjkowski, „Kronika", 1845, ч. II, б. 57 і 76; „Latopisec Litwy i kron. Ruska", б. 165 і 167; Długosz, „Hist. Pol", б. 61; Stebelski, „Chronologia" б. 12, прыпіска 6; Naruszewicz, „Hist. nar. Pol.", выд. 2, T. 9, б. XVII).

9. Дзьмітры Альгердавіч, князь Трубчэўскі (Stryjkowski, „Kronika", 1845, ч. II, б. 58).

10. Корыгайла Альгердавіч, у хрышчэньні Канстантын, а пасьля прыняцьця каталіцтва—Казімер, князь Чарнігаўскі і Чартарыйскі, забіты 1390 г. (Stebelski, „Chronologia" б. 8; Stryjkowski, „Kronika" 1845, ч. II, б. 57. Narbut, „Dzieje Nar. Lit.", T. V. б. 145).

11. Валадзімер Альгердавіч, князь Кіяўскі, а пазьней Капыльскі, радзіўся 1316 г. (Naruszewicz, „Hist. Nar. Polsk.", выд. 2. т. 10, б. 217 і прыпіска 2; Stryjkowski, „Kronika", 1845, ч. II бб. 57 і 74).

12. Корыбут Альгердавіч, у хрышчэньні Дзьмітры—1358+1399. (Długosz, „Hist Pol." б. 125; Stryjkowski „Kronika", 1845, ч. II, бб. 58 і 74; Stebelski, „Chronologia", бал. 8).

13. Скіргайла Альгердавіч, у хрышчэньні Іан, пасьля прыняцьця каталіцтва,—Казімер, кн. Троцкі, пазьней—вялікі князь Літоўскі, урэшце,— Кіяўскі намесьнік. („Latopis. Litwy i Kron. Ruska" б. 47; Długosz, „Hist. Pol" б. 60 і 142; Stryjkowski, „Kronika", 1845, ч. II, б. 58; Stebelski, „Chronologia", бб. 8 і 15).

14. Ягайла, у хрышчэньні Якуб (мы думаем, па аналёгіі з народнай вымовай: Іоанн—„Югайла“, Іоанна—„Югася, што хроснае імя яго было Іоан), пасьля прыняцьця каталіцтва—Уладыслаў, князь Вітабскі, пазьней—вялікі князь Літоўскі і ўрэшце,—кароль Польскі—1350+1434. (Długosz, „Hist. Pol.“, б. 60; Stryjkowski, „Kronika“, 1845, ч. II, б. 58; Narbut, „Dzieje Nar. Litewsk.“, t. V, б. 239; Kraszewski, „Histor. Litwy“).

15. Луквён (Лигвеній) Сымон Альгердавіч, князь Мсціслаўскі („Latop. Litwy i kron. Ruska“, б. 205; Stryjkowski, „Kronika“, ч. II, 1845 г., бб. 57 і 74).

16. Сьвідрыгайла Альгердавіч, у хрышчэньні Леў, пасьля прыняцьця каталіцтва—Болеслаў. (Naruszewicz, „Hist. Nar. Polsk.“, выд. 2, Т. 9, бал. XIX; Stebelski, „Chronologia“, б. 8; Narbut, „Dzieje Nar. Litew.“, T. V, б. 239; Stryjkowski, „Kronika“, ч. II, б. 58).

17. Зодзевіт Альгердавіч, у хрышчэньні Іоан. (Stryjkowski, „Kronika“, ч. II, б. 57).

18. Міхайла-Васілі Альгердавіч, пасьля прыняцьця хрысьціянства—Александр-Вігунд, князь Керноўскі, атручаны 1392.

19. Вітаўт або Вітальд Кестутавіч, ў хрышчэньні Александр, пасьля прыняцьця каталіцтва ў Крыжакаў—Віганд, у палякаў — Александр (1344-1430).

З гэтага сьпіску вынікае, што ў кождым здарэньні Літоўская дынастыя не вызнавала паганскай веры. Адзіна праўдзівым будзе тлумачэньне гэтага зьявішча такое, якое летапісец Гэнрык Латыш высказаў аб Полацкіх князёх: „яны ня маюць звычаю навяртаць у хрысьціянства“, што магло быць вынікам шырокай рэлігійнай толеранцыі. Вярхі грамадзянства вызнавалі вышэйшую форму рэлігіі—хрысьціянства, а нізы, і, хто хацеў, вызнавалі паганскую веру і абраднасьць. Як ведама, яшчэ ў XV ст. каталікі лічылі ўсходна-славянскіх праваслаўных „паганамі“, можа гэта і небезпадстаўна ў значэньні двоевернасьці ў абычаях і абраднасьці нашага першапачатнага хрысьціянства.

## НАДАНЬНЕ ЮРЬЯ БАЛКОВІЧА ЛАЎРЫШАЎСКАМУ МАНАСТЫРУ ЗАГАДАМ КНЯЗЯ МІХАЙЛЫ ГЕДЫМІНАВІЧА, КАЛЯ 1350 Г.

Ўпісана ў Евангельле, якое належала Чартарыскім, цяпер—„Имп. Публ. библ.“. (Востоковъ, „Описаніе рукоп. Румянц. музея“, 124).

## КУПЧАЯ І МЕННАЯ ГРАМАТЫ АЛЕХНЫ РАМАШКОВІЧА, І ПАЦЬВЕРДЖАНЬНЕ НА ІХ ВЯЛ. КН. АЛЬГЕРДА, КАЛЯ 1350 Г.

(Востоковъ, „Описаніе рукоп. Рум. муз.“, 117).

## УМОВА СМАЛЕНСКАГА КНЯЗЯ ІВАНА АЛЕКСАНДРАВІЧА З РЫГАЙ (1330-1359 Г.).

Маскоўскі Архіў Мін. Замеж. Спраў. „Собр. гос. гр. и дог.“ (II, № 8). Сахаровъ, т. V. Пісана на лісьце паперы, буйным уставам і мае 21 рад пісьма. Гэта умова зьяўляецца апошняй умовай Смаленска з Рыгай. У умове князь піша:

„докончалъ есмь по тому докончанью, како то братъ мой старѣйший Кгедиминъ и его дѣти Глѣбъ (Нарымонт) и Алкердъ докончали".

Смаленск да IX ст. быў галоўным горадам племя Крывічоў. Пасьля таго, як Варагі абасновіліся ў крыўскім Ноўгарадзе, ў хуткім часе сучасьнік Рурыка Алег падбіў і Смаленск. З гэтага часу князяваў тут род варажскіх князёў Рурыкавічаў і Смаленск пераходзіў з рук у рукі да XII стагодзьдзя. У 1127 годзе Смаленск вызваліўся з—пад улады дынастыі кіяўскіх князёў. Першым незалежным князям быў у Смаленску Расціслаў Мсціславіч (1127-1159). З гэтага часу дынастыя Расціславічаў стала княжые ў Смаленску, які ўходзіць у круг інтэрасаў крыўскіх зямель, што раз больш адыходзячы ад кругу інтэрасаў украінскіх і маскальскіх зямель. З канца XIII і да пачатку XV ст. Смаленск змагаецца за сваю незалежнасьць. Нажаль, аб гэтым героічным кругабегу часу захавалася мала вестак. Тлумачыцца гэта тым, што смаленскія летапісы пагінулі ў часе войн і пажараў, а ўсходна-рускія летапісцы не займаліся ўжо Смаленскам, як ня ўходзячым у круг іх інтэрасаў. Калі заходна-крыўскія землі пачалі адбудовываць сваю даўнюю незалежнасьць пад імем Літвы, Смаленск раней-пазьней павінен быў увайсьці ў склад Літоўска-Крыўскай дзяржавы.

І, вось, пры Александры Глебавічы, як ўжо пачала крэпнуць Масква, якая перш прыслухала Смаленску, то яна стала адрываць да сябе смаленскія гарады. Прыкладам, калі Маскоўскі князь Юры Данілавіч (+1325) адабраў Мажайск, то Смаленск зьбліжаецца да Літвы. Ужо з умовы Гедыміна з Рыгай (1338 г.), даведываемося, што Смаленскі князь Іван Александравіч, сын Александра Глебавіча, лічыцца „малодшым братам" Гедыміна.

Пры Альгердзе, сыне Гедыміна, зьбліжэньне Смаленскай зямлі з рэштай крыўскіх зямель, а'бяднаных у вял. кн. Літоўскае так змоцнілася, што смаленскія князі ўступаюць у склад Літвы, як фэдэральная часьць яе. Вялікі кн. Альгерд становіцца крэпкім абаронцам Смаленскай незалежнасьці ад прэтэнсій Масквы: гэтак пры Сімеоне Гордым (1341+1353) Альгерд хадзіў на Маскву, каб вярнуць Смаленску Мажайск, але гэта чамусь не ўдалося; ў 1352 годзе Маскоўскі князь Сімеон выступіў з грамадным войскам супроць Смаленскага князя Івана Александравіча, за якога заступіўся Альгерд і паход кончыўся перагаворамі сьпярша на рацэ Протве, а пасьля—Угры. Бачучы, што сілай ня здужае заваладаць Смаленскам, Масква пачала праз сваіх староннікаў падгатаўляць у Смаленску паўстаньне, якое выбухла ў 1358 годзе, але няўдачна.

У 1359 годзе Смаленскі князь Іван Александравіч памёр; сын яго Сьвятаслаў Іванавіч урочыстай прысягай змацаваў сваё добравольнае аб'яднаньне з вялікім княжствам Літоўска-Рускім (Крыўскім).

За Смаленск, паміж Альгердам і Масквой, былі частыя закалоты, але Масква ў XIII ст. ня была яшчэ паважнай сілай. Ўзаемастасункі тагочаснай Масквы і в. кн. Літоўска-Рускага (Крыўскага) даволі добра характэрызуе апавяданьне аб адным з паходаў Альгерда на Маскву пры Маскоўскім князю

Дзьмітры Іванавічы (1361—1389), якое захавалася ў „Кроніках в. кн. Літоўскага, Рускага і Жомойтскага“. Друкуем паводле сьпіску Еврeінаўскага і Быхаўца ў злучанай рэдакціі):

[И въ тыи часы кнзь] [1*]) великиі Олкирдъ Кгидимонтович Литовскиі [и Руский] исправляючи урядно гсдрство свое не мало время гсдрствовал в великом княжствѣ Литовском [и] был в [до]кончанию и в доброи приѣзни с великим кнзем Димитриемъ Ивановичем Московским. Тои же кнзь великиі Димитреи Ивановичь, без всякие вины оставил докончалую приѣзнь прислал к великому кнзю Олкгирду посла своег[о] с ызвѣтом и прислал к нему огонь да саблю (даючи ему вѣдати што [2]) буду в земли твоеи по красной вѣсне и по тихому лѣту. И князь великиі Олкгирд вынял из огнива губку а [3]) кремень и запаливъ губку далъ послу и рекъ [так]: даи то гсдрю своему і скажи ему што у нас в Литвѣ огонь е. Же онъ извѣчает мнѣ хотячи в моеи землѣ быти по красной вѣсне і по тихому лѣту, а [я дасть Бог] у него буду на велик день и поцелую его красным яицом, [через щит] сулицою, а з Бжиею помощию къ городу [его] Москвѣ копие свое прислоню [Бо] не то воин [4]), што [часу подобного валчит, але то валечник, коли непогода валки тогды над непрыятелем своим неприязни доводит] [5]). И отпустивши посла и собрал воиско свое Литовское и Руское и пошел из Витепска просто [ку Москвѣ] и на самыі велик днь рано кнзь великиі с князи и з боляры [от заутрени] шол из црквн, а кнзь великиі Олкгирдъ со всѣми [силами] своими [роспустивши хоругви свої] показался под Москвою на Поклоной горѣ. Кнзь великиі Димитреи Ивановичь Московски [впаде в страх велик и ужасеся видячи великого кнзя Олкгирда з великою силою его, иж пришол на него так моцне а силне] подле слова своего. [6]) И не мог (учы)ему ни единаг опору вчинити, послал к нему [просячи и великии дары ему обецаючы] дабы его из вотчины его с Москвы не выгнал и гнѣвъ свои отпустил и взял





Пачатныя літары з крыўскіх друкаў XIII—XIV ст.

[*1]) Усюды ўзятае ў квадратныя скобкі дапоўнена са сьпіску Быхаўца. [2]) У сьп. Евреінаўскім: „извѣщая ему ведай то“. [3]) У Евр. сьп.: „да“. [4]) У Сьп. Быхаўца: „валечнік“. [5]) У Евр. сьп. „что времени подобного воюет, но то вони когда не во время воины над неприятелемъ своим неприездни доводит“. [6]) У Евр. сьп. іншая рэдакція: „што Олкгирдъ подле слова своего стоит силно и силно пришел“. [7]) У сьп. Быхаўца: „змову“. [8]) У Евр. сьп.: „потомъ“ [9]) У Евр. сьп.: „аще“. [10]) У Евр. сьп. „хочет“. [11]) У сьп.: Быхаўца: „прислонити“ [12]) У Евр. сьп. усюды: „что“. [13]) У Евр. сьп.: „і со многимъ добытком неисповѣдимымъ і со многимъ полономъ извоевав“... [14]) У Евр. сьп.: „да“.

бы у него что хотел. И кнзь великиі Олкгирдь [сожалися и] любовь свою над ним учинил [из Москвы его не добывал и] мир с ним взял. И потом смолву [7]) учинивши и сам кнзь великиі Димитреи Иванович к нему выѣхал і с нимъ видялся и дары многие [безчисленно золота серебра и дорогим жемчугом и собольми и инным дорогим, и дивным звѣрем мохнатым князя] великого кнзя Олкгирда даровал и шкоду што он в землю [его] идучи принял то ему заступилъ і затым [8]) кнзь Олкгирдь рекъвеликому кнзю: (ачкольвек) [9]) есми с тобою и помирилися, но мнѣ ся іноче не годить [10]) а ни достоит толкѣ хочю под городом твоим Москвою копие свое приклонити, [11]) а ту славу учинити што великиі кнзь Литовскиі и Рускиі и Жемойтцкиі Олкгирдь копие свое под Москвою приклонил. И всѣдши сам на конь и копие свое вземши в руки и приѣхав к(о) городу и копие свое к городу приклонилъ и ѣдучи назад и рѣкъ такъ великим голосом: княже великиі Московскиі памятуи то, што [12]) копие Литовское стояло под Москвою. И потом кнзь великиі Олкгирдь со всѣми воиски своими с великою честию і со многимъ [полоном и невымовным добытком звоевавши [13]] и городы многие побравши и границу учинил по Можаескъ а [14]) по Коломну и много людеи поплeнил [и зо всими людьми своими в цѣлости во свояси отыде].

## ГРАМАТА КНЯЗЯ АЛЬГЕРДА КАНСТАНТЫНОПАЛЬСКАМУ ПАТРЫЯРХУ 1371 Г. (Срезневскій, „Славяно-русская палеографія“).

У пачатку 1371 г. Альгерд прасіў Канстантынопальскага патрыарха назначыць асобнага мітрапаліта для Літоўскай праваслаўнай царквы, бо Маскоўскі мітрапаліт Аляксей:

> „благаслаўляе масквіцян на праліцьцё крыві... хто прысягаў мне і ўцёк у Маскву, з таго мітрапаліт зьнімае прысягу“.

## „М(У)Ч(Е)НІЕ СТЫХ НОВОЯВЛЕНЫ(Х) МЧНКЬ РОДО(М) ЛИТВЫ ІОАННА, АНТОНІЯ І ЕУСТАѲІА. ЛИТОВСКАЯ(Ж) ИМЕНА КРУГЛЕЦЬ, КОУМЕЦЬ, НЕЖИЛО“.

Захавалася ў Пралогу 1512 году (Вілен. публ. бібліатэкі), напісаным і апраўленым у Любчы. Жыцьцёпісы мучанікаў былі сьпісаны праўдападобна ў Маскве перад канонізацыяй, каля 1355 году. Астанкі гэтых мучанікаў, як кажа пр. Карскі („Белорусы“ Т. III), былі для канонізацыі перавезены ў 1374 годзе ў Канстантынопаль і там канонізаваны патрыархам Філафеям, паводле-ж жыцьцёпісу,—пахаваны ў Вільні ў царкве сьв. Мікалая. Першапачатковы рукапіс загінуў. Для канонізацыі мусіў быць пераклад жыцьцёпісаў і на грэцкую мову ды такжа не захаваўся; захавалася нейкім чынам сэрбская рэдакція з XV ст.

Зьмест гэтай легенды такі. Манах, па імені Нэстар, навярнуў у хрысьціянства двох віленскіх Альгердавых дваранаў, родных братоў Кумца і Нежыло. Гэты браты, прыняўшы хрысьціянства, перасталі прытрымліваццa паганскіх абычаяў і, пэўне, трымалі сябе вызываюча ў стасунку да паганскай абраднасьці і духавенства. Альгерд загадаў пасадзіць іх у вязьніцу. Кумец і Нежыло (у хрышчэньні Іоан і Антоні), будучы ў вязьніцы абярнулі яе ў мейсца пропаведзі, чым выклікалі замяшаньне ў горадзе. У выніку захадаў

паганскай партыі Кумец і Нежыло былі павешаны за горадам у дубовым гаю, дзе цяпер стаіць Сьв.-Троецкі манастыр. Хрысьціяне зьнялі целы павешаных за хрысьціянства, а, знача, мучанікаў і пахавалі іх у царкве сьв. Мікалая. Гэта было каля 1346—7 году. Праз некалькі месяцаў пацярпеў на тым-жа мейсцы сваяк Кумца і Нежылы, лоўчы Куклей (іншыя называюць—Міклей), па прозьвішчу Круглец, які быў прыняўшы хрысьціянства пад імем Астапа (Еустаѳія). Сумнае здарэньне Масква пасьпяшыла выкарыстаць для сваіх палітычных мэт перад Канстантынопальскім патрыархам. Маскоўскі мітрапаліт Аляксей у 1355 годзе прызнаў іх сьвятымі. У выніку вышла, што ў в. кн. Літоўскім пагане мучаць хрысьціянаў. Гэты аргумант ў тыя часы быў вельмі важны, бо і Масква і Вільня вялі змаганьне за патранат над усходнім праваслаўем. Маскве важна было утрымаць патрыарха ў пераконаньню, што літвіны—„агнепаклоннікі", пагане, не глядзя на тое, што і сам Альгерд быў хрысьціянінам і яго пасад быў акружаны хрысьціянамі таго-ж усходнага абрадку. Гэта нетасоўнасьць гістарычных данных з жыцьёпісам мучанікаў прымусіла навейшых праваслаўных гісторыкаў высунуць гіпотэзу, што Кумец, Нежыло і Круглец былі замучаны не пры Альгердзе, а пры Гедыміне (гл. „Истор. оч. православія, католич. и уніи въ Бѣлорус. и Литвѣ", Вільня, 1899, б. 17 ссылка). Ад 1347 і да 1826 году ніякіх пэўных данных аб рэліквіях гэтых сьвятых няма.

Рэліквіі былі знойдзены ў 1826 годзе ў сьв.-Духаўскай манастырскай царкве, тагочасным архімандрытам і выстаўлены на пакланеньне з урочыстымі цэладнеўнымі набажэнствамі манахаў. Але гэта чамусьці ненадабалася Віленскаму генерал-губэрнатару Рымскаму-Корсакову, і па яго загаду ў царкву прыйшоў паліцмайстар і патрэбаваў каб рэліквіі былі паложаны ізноў у склеп. Архімандрыт пажаліўся на гэта Менскаму архібіскупу Анатолію, якому прыслухаў тады Віленскі сьвятадухаўскі манастыр. Архіб. Анатолі патрэбаваў ад архімандрыта тлумачэньня, па чым ён пазнаў, што гэта ёсць рэліквіі тых самых сьвятых. Архімандрыт даў патрэбчае тлумачэньне, якое пайшло ў Сьвятарнейшы Сынод. Сынод назначыў Менскага архібіскупа Анатолія і біскупа Нежынскага і Чарнігаўскага Лаўрына упэўніцца на мейсцы, ў Вільні, аб праўдзівасьці рэліквій. Названыя біскупы, агледзіўшы, прызналі рэліквіі праўдзівымі. З вывадам біскупаў згодзіўся і Сынод. („Живописная Россія под рэдакціей Семенова" СПБ. 1882, бб. 134—144). Гэткім чынам імёны пабітых за „рускую веру" яшчэ раз былі выкарыстываны, але ўжо пры другіх ўзаемастасунках Масквы і Вільні.

ВИЛЕНСКАЕ ЕВАНГЕЛЬЛЕ XIII-XIV СТ. Гэтае Евангельле ў пачатках XIX ст. бачыў у Прачысьценскай царкве гісторык Нарбут, які знайшоў у ім цікавы для гісторыі запіс:

„Великіи литовскій князь Андрей Гедыминовичъ, въ святой схимѣ Алексій, усопши на память Палтона и Романа".

Нам здаецца, што аднак запіс ня быў акуратна расчытаны Нарбутам, бо імя Альгерд ёсць вываднае ад „Александр", а не ад „Андрэй".

ПОЛАЦКАЕ ЕВАНГЕЛЬЛЕ XIV СТ. Прыналежала полацк. Прадцечанскаму манастыру, цяпер у Петраградзкай Публ. бібліатэцы („Кат. библ. Толст.“, II, № 3). Пісана уставам.

ВІТАБСКАЕ ЕВАНГЕЛЬЛЕ XIV СТ. Прыналежала полацкаму Прадцечанскаму манастыру. Ў пачатках XIX ст. забрана ў Петраградзкую Публічную бібліатэку. (Аддзел I, № 2).

ГРАМАТА КНЯГІНІ ЮЛЬЯНІІ, ЖАНЫ В. КН. АЛЬГЕРДА, КАЛЯ 1377 ГОДУ. Грамата ўпісана ў Евангельле XIV ст., якое пераховуецца ў Петр. Публ. бібліатэцы („Кат. библ. гр. Толст.“ II, № 3). Грамату гэту даем тут у адбітцы. Кн. Юльянія, другая жана в. кн. Альгерда, жыла пасьля яго сьмерці ў Вітабску (+1377), як дажывотная валадарка Вітабскага княэьства. У часе бытнасьці ў Вітабску Юльянія заснавала пры царкве Сьв. Духа, пабудаванай яшчэ Альгердам, жаночы Духаўскі манастыр, дзе пастрыглася ў манахіні, прыняўшы імя Марыя.

Княгіня Ульянія якабы пахавана ў Вільні ў Прачысьценскім саборы. У 1810 годзе, пры перабудоўцы гэтага сабору на анатомічны тэатр, была знойдзена сярэбраная нагробная дашка, на якой было імя „Ульянія“, дашку ўзяў тагочасны рэктар віленскага унівэрсытэту Малеўскі, і яна, як непажаданы помнік мясцовай (ня—польскай) гісторыі, недзе зьнікла. („Сборн. пост. по мин. нар. просв.“, Т. I., бал. 456). Ў „Собр. Др. грам. и акт.“, Вільня, 1843 г. сказана „была выкапана бляшаная дашка з рускім надпісам імені княгіні Ульяны“.

ТРОЦКАЕ ЕВАНГЕЛЬЛЕ XIV СТ. Пісанае ў чацьвёрку, ў адну гранку, уставам. Выдана літаграфаванымі табліцамі.

ГРАМАТА В. КН. ВІТАЎТА ТРОЦКАМУ БОГАРОДЗІЦКАМУ МАНАСТЫРУ, 1384 Г.

„Мы велики князь Витовт нареченный во святомъ крщени Александеръ, дали мы на просьбу и на жоданье княгини нашое великое Ульяны, къ монастыру нашому троцкому рожеству светое пречистое, озера троцкого луку аж до великое дороги, гдеж и камень на горе казали есмо передъ собою положити, а други камень за озеромъ противъ того каменя казали есмо положити, близко рогу, што на горе положонъ, маеть игуменъ по тую границу тую луку держати и вживати и его потомки на вечные часы а втот монастыръ и в тую луку, не мають се вступовати, ни митрополитъ, ани владыка, ани воевода троцки ани ихъ наместники“.

(„Собр. Др. грам. и акт.“, ч. II, № 55).

ГРАМАТА ПОЛАЦКАГА КН. АНДРЭЯ КРЫЖАЦКАМУ ОРДЭНУ, 1385 Г.; захавалася ў летапісе. (Срезневскій „Славяно-русск. палеографія“, б. 226).

Па сьмерці Альгерда (+1377 г.) асталося 12 яго сыноў і сем дачок.

Сѧ кнгина ѡльги кролеваꙗ
оульꙗнина. оуставила
есми брат на цркви бжии
пртои бцѣ пустынии пианъ
щину наго пополу пигрои
оу возерищи наоухани соѡле
ксѣ ѡщины. а хтоимѣто е
закладати або ѡ цркви бѣ
ѡдали ба и мьсти есмꙋ бгъ
и пртаꙗ еѧ матрь в сии вѣ
и во боудщи амин:~

Ўкладная грамата княгіні Ульяніі, жаны Альгерда.

З першай жанідзьбы з Мар'яй Яраславаўнай, князёўнай Вітабскай, Альгерд меў 6 сыноў: Валадзімера князя Кіяўскага, Іана Задзевіта князя Падольскага, Сымона-Луквёна (Лыгвенія) кн. Мсціслаўскага і намесьніка Ноўгародзкага, Андрэя-Вінгальта кн. Полацкага, Канстантына-Карыгайлу кн. Чарнігаўскага, пятага—Чартарыйскага і шостага—Борыса-Буттава.

З другой жанідзьбы з Юльяніяй, князёўнай Тверскай, такжа меў 6 сыноў, у іх ліку Ягайлу (пазьней па хрышчэньні ў каталіцтва—Уладыслава, караля Польскага), які быў Вітабскім князям. Альгерд, пад уплывам княгіні Юльяніі, уміраючы назначыў Ягайлу сваім наступнікам на Віленскі вялікакняззяўскі пасад. Гэта ўразіла другіх, старшых сыноў Альгерда, а найболей —найстаршага сына з першай жанідзьбы, князя Андрэя Полацкага, які ня толькі не прызнаў Ягайлы вялікім князям, але адкрыта паўстаў супроць яго, лічучы сябе праўным наступнікам вялікакнязяўскага пасаду. Дзеля гэтага, першым актам Ягайлы па заняцьці вялікакнязяўскага пасаду была вайна з Полацкім князям Андрэям. Падтрыманы дзядзькам сваім Кейстутам, Ягайла разьбіў Андрэя, які пасьля гэтага ўцёк у Пскоў. У Полацку-ж Ягайла і Кейстут пасадзілі князям Кейстутавага сына Андрэя Гарбатага.

Пскоўцы абралі Андрэя Альгердавіча на Пскоўскага князя, але не хацелі ваяваць з Ягайлам і Кейстутам за адзысканьне Андрэю Полацкага княства. Тады Андрэй кінуў Пскоў і падаўся ў Маскву да в. кн. Дзьмітра, які пры першай весьці аб сьмерці Альгерда стаў ваяваць крыўскія землі (Карамз., IV, б.199 Narbut, V, б. 77). Князь Маскоўскі з радасьцю прыняў Андрэя і абяцаў яму сваю помач войскам. У сьнежні 1369 году Андрэй з маскоўскім войскам падышоў да Трубчаўска (Северская зямля), дзе тады быў князям брат Андрэя, Дзьмітры Корыбут Альгердавіч, які Андрэя і быўшага разам з ім Маскоўскага князя Дзьмітра, сустрэў з хлебам і сольлю. Гэта яшчэ больш усьцешыла Маскоўскага князя, бо ўжо другі сын Альгерда перайшоў на яго старану, і ён шчодра нагрaдзіў за гэта Дзьмітра-Корыбута, даўшы яму ў удзел княства Пераяслаўска-Залескае, а Андрэю даў занятыя імі Трубчэўск і Ноўгарад-Северскі. Гэткім чынам уступленьне на пасад Ягайлы адразу значна ўзмоцніла Маскву, а княства Літоўска-Рускае (Крыўскае) утраціла значную часьць Северскай зямлі.

Хітры, але недалёкі Ягайла, сеўшы на вялікакнязяўскі пасад, задумаў атабраць землі ад дзядзькі свайго Кейстута і з гэтай мэтай у 1380 годзе зрабіў сэкрэтную умову з крыжакамі, вечна цікуючымі на літоўскія землі. І, як вынік гэтай умовы, аддаў Полацак брату свайму Скіргайлу.

Полацкае веча, якое прыймала князёў толькі па дабравольнай угодзе, бачучы ў гэтым назначэньні князя нарушэньне сваіх правоў, прыняло Ягайлавага брата дужа ветла, як госьця, але калі той заявіў свае прэтэнсіі на Полацкі пасад, то палачане найперш узялі з яго прысягу, што ён ніколі больш не пакажацца ў Полацку, а пасьля, прывязаўшы на хрыбет вадавознай кабылы, з насьмешкамі вывезьлі з гораду (Narbut, V, б. 238).

Разгневаны гэтым Ягайла паслаў у 1382 г. пад Полацак войска, да якога далучыліся і крыжакі пад камандай Конрада Родэнштэйна. Полацак вытры-

маў шаснадцацітыднёвую аблогу і, урэшце, калі крыжакі адыйшлі, Ягайлава войска было разьбіта палачанамі. За год-два пасьля гэтага Ягайла усё-ж такі сагнаў Андрэя з Полацка і палачанаў срога пакараў. Пазбаўлены удзелу, Андрэй сьпярша шукаў помачы супроць Ягайлы ў Маскве, пасьля зьвярнуўся да крыжакаў, якія з раскрытымі абоймамі прыймалі ўсіх ворагаў суседніх сабе дзяржаў. У грамаце сваёй, пісанай на імя Магістра Лівонскіх Крыжакаў, Андрэй называе яго бацькам і мілым прыяцелем і адказывае ордэну тое, чаго сам ня меў,—Полацкае княства, з варункам, што калі крыжакі, атабраўшы Полацак у Ягайлы, перададуць яму на ленных правох, то ён і наступнікі яго абавязаны будуць служыць крыжакам, як даннікі. Немцы ня грэбавалі і гэткімі дарамі.

І вось, у 1386 годзе, калі Ягайла сьвяткаваў у Кракаве сваё вясельле с польскай каралеўнай Ядвігай,—лівонскі магістр Цольнэр, з двумя арміямі, а Андрэй с трэцяй, уварваліся ў Полацкае княства. Адначасна Смаленскі князь Сьвятаслаў Іванавіч выступіў ад Смаленска. Андрэй і крыжакі падбурывалі ўсе крыўскія землі да паўстаньня супроць Ягайлы, за адступніцтва яго ад веры бацькоў, але ня мелі ў народзе ні веры, ні послыху. Крыжакі, ня здолеўшы нічога дасягнуць (адзін горад Лукомль здужаў утрымаць на сабе напор крыжакаў), адступілі, захапіўшы больш 3000 палону і награбіўшы рожнага дабра.

У гэтым-жа годзе Смаленскі князь Сьвятаслаў Іванавіч, пляменік яго князь Іван Васілевіч і сыны Смаленскага князя Юры і Глеб, рушылі ад Смаленска на Вітабск і Оршу. Але гэты горад зачыніўся перад ім, дакараючы яму здраду. Злучаныя войскі дапускаліся надзвычайных тыранстваў: палілі безбаронных людзей сотнямі ў драўляных будынках, душылі пад паднятымі сьценамі, садзілі на кол дзяцей і жанок. Летапісцы з агідай апісуюць зьверства гэтай вайны. Урэшце, на берагох ракі Вехры войска Сьвятаслава было разьбіта. У бітве палёг Сьвятаслаў, пляменік яго Іван Васілевіч, а сыны Юры і Глеб узяты ў няволю.

ГРАМАТА ВЯЛ. КН. АЛЕКСАНДРА-ВІТАЎТА КЭСТУТАВІЧА ВАСІЛЮ КАРАЧОЎСКАМУ 1386 Г. Пісана ў Полацку. Выд. у „Актахъ Зап. Россіи, І № 6.“ Пераховуецца ў Львове ў бібліатэцы Оссолінскіх.

Ўкладны запіс Сымона Еськовіча.

ЎКЛАДНАЯ ГРАМАТА ВЯЛ. КН. ДЗІМІТРА-КАРЫБУТА АЛЬГЕРДАВІЧА ЛАЎРЫШАЎСКАМУ МАНАСТЫРУ 1386 Г., „Акты Зап. Россіи“, I, № 7.

УГОДЧАЯ ГРАМАТА СМАЛЕНСКАГА КНЯЗЯ ЮРЫЯ СЬВЯТАСЛАВІЧА І ДР. З КАРАЛЕМ ЎЛАДЫСЛАВАМ (ЯГАЙЛАМ) І СА СКІРГАЙЛАМ 1386 Г. Выдана ў „Актахъ Южн. и Зап. Россіи“, II, бал. 102—103; „Рус. истор. биб.“, II, 7 і ў „Archiwum Sanguszków“ I, 3-4.

ГРАМАТА УЛАДЫСЛАВА, КАРАЛЯ ПОЛЬСКАГА І ЛІТОЎСКАГА, 1387 Г. Пераховуецца ў дзяржаўным архіве ў Петраградзе. Пісана на вялікім аркушы пэргаміну з захіленым для пячаці нізам, 33 доўгіх рады пісьма. Характар полуустаўны, вельмі прыгожы і старэнны. Год абазначан: *а.* т. п. з. Грамата важна і па мове (Пр. Карскі „Бѣлоруссы“, Т. I. Вільня, 1905).

У 1387 годзе Ягайла выдаў дзьве граматы: а) ў Лідзе ён выдаў грамату аб зьнішчаньні паганства ў Літве: б) 22 лютага ў Вільні выдаў грамату, ў якой ён кажа, што даў прысягу: ўсіх прыродных літвіноў (у дзяржаўным значэньні) абодвага цела, ўсякага стану, годнасьці і ўраду, якія жывуць у землях літоўскіх і рускіх, да якой-бы яны веры не належалі, упрасіць, угаварыць, прызваць, а нават прымусіць да прыняцьця каталіцтва і да паслушнасьці рымскаму касьцёлу. Далей, хочучы адкланіць усе перашкоды, якія-бы маглі шкоджіць павялічэньню каталіцтва, срога загадуе, каб ніхто з Літвіноў, абодвага цела, з Рускімі (праваслаўнымі), такжа абодвага цела, не жаніўся, пакуль ня прыйме каталіцтва. Калі-б супроць гэтага загаду хто колечы ажаніўся, то ў гэткім здарэньні, ці то муж ці жана, павінны йсьці ў веры за каталіком або каталічкай, да чаго павінны быць прымушаны нават карамі на целе.

УМОВА ПАНКІ, СЛУГІ КАРАЛЕЎСКАГА, З КНЯЗЯМ СКІРГАЙЛАМ АД 1387 Г. Музэй Чартарыскіх, № 292.

ПРЫВІЛЕЙ КН. ВІТАЎТА ЖЫДАМ, 1388 Г.; унесены ў грамату 1507 г.

Пасьля збураньня сталіцы Жыдоўскага царства Ерузаліму, рымляны вывелі першабытнае насяленьне Палестыны, жыдоў, і раскідалі іх па ўсім сьвеце. Пазбаўленыя ня толькі свае дзяржаўнасьці і незалежнасьці, але апынуўшыся ў варунках ссыльных, паміж чужых народаў, жыды, аплаківаючы сваю бацькаўшчыну і волю, сьпярша тварылі невялікія выселкі, раскіданыя па Эўропе бяз усякага парадку і сувязі. Ім пазвалялася жыць у асобных кварталах і вуліцах гарадоў, замкнутых у сабе, бо акружала іх кругом хрысьціянскае насяленьне, варажае і палітычна і рэлігійна: палітычна,—бо глядзелі на іх, як на элемэнт бунтарскі і варажы, рэлігійна,—бо лічылі іх забойцамі

Хрыста і мсцілі за гэта далёкім пакаленьням эмігрантаў за тыя падзеі, якія мелі калісь мейсца на іх далёкай бацькаўшчыне.

Асабліва цяжкае палажэньне жыдоў было ў Эўропе ў сярэднія вякі. Найменшая прычына, найменшы зьбег варункаў, ці проста злосная, або нават сабекарысьлівая напасьць—кідалі на жыдоў гарадзкую чэрнь, якая нападала на жыдоўскія кварталы, грабячы і забіваючы.

Жыды—выгнанцы, пазбаўленыя права валадаць нярухомай ўласнасьцю, адсунутыя ад грамадзкага жыцьця, адзінай крыніцай да свайго істнаваньня мелі таргоўлю. Цяжкае жыцьцё навучыла іх адмаўляць сабе ў найменшых збытках, абыходзіцца абы чым і абы як і прывучыла да ашчаднасьці. Адзіным збаўленьнем іх ад прасьледаваньняў і нападак і адзінай крыніцай да жыцьця былі грошы. Ашчаднасьць і таргоўля награмаджалі ў руках жыдоў грошы, і гэта апошняе было такжа прычынай няпраўд і няшчасьцяў.

І ў той час, калі ў Эўропе жыды жылі на палажэньні адкінутых і прасьледаваных, в. кн. Вітаўт выдаў жыдом прывілей, якім ён ня толькі зраўняў жыдоў у правох з рэштай жыхарства, але яшчэ даў ім некатарыя асаблівыя прывілеі на займеньнеся рэмёсламі і таргоўляй.

Свабоднае палажэньне жыдоў у Літве было прычынай вялікай жыдоўскай эміграціі ў Літву, асабліва з нямецкіх краёў, у часы—ад Вітаўта да Жыгімонта—Аўгуста.

Па атрыманьні свабод у Літве, жыды-перасяленцы чуліся ў абавязку прыняць у набажэнстве мову сваей новай бацькаўшчыны. Дзеля гэтага і была перакладзена ў XV ст. Біблія з падзеламі яе на чытаньні ў сынагогах. Дагэтуль яшчэ ня высьветлены прычыны, чаму крыўская мова ў пазьнейшыя часы выйшла з сынагогальнага ўжытку. У кождым здарэньні Біблія XV ст. Віленскай публічнай бібліатэкі зьяўляецца вынікам геніяльнай дзейнасьці в. кн. Вітаўта і яго палітыкі ў стасунку да прасьледаванага ў тыя часы ў Эўропе жыдоўскага народу.

## ГРАМАТА КНЯЗЯ ДЗІМІТРА-КАРЫБУТА АЛЬГЕРДАВІЧА НА ВЕРНАСЬЦЬ КАРАЛЮ ЎЛАДЫСЛАВУ (ЯГАЙЛЕ) 1388 Г.

Пісана ў Кракаве. Архіў Чартарыскіх і Archiwum Sanguszków, I. 10.

## ГРАМАТА КН. ДЗІМІТРА АЛЬГЕРДАВІЧА НА ВЕРНАСЬЦЬ ПОЛЬСКАМУ КАРАЛЮ ЎЛАДЫСЛАВУ (ЯГАЙЛЕ) 1388 Г.

Пісана ў Маладэчне. Арыгінал у бібл. Красін. у Варшаве. Выдана ў Галавацкага ў „Науков. Сборн." 1866, I, 36; „Вил. Вѣстн." 1886 г., № 45; „Собр. актовъ" Круповича і ў „Свѣд. и зам." Срезневскаго, LIII, б. 213.

## ПРЫСЯЖНАЯ ГРАМАТА КН. СЫМОНА ЛУКВЁНА АЛЬГЕРДАВІЧА НА ВЕРНАСЬЦЬ КАРАЛЮ ЎЛАДЫСЛАВУ (ЯГАЙЛЕ) 1389 Г.

Пісана ў Судоміры. СПБ. Пуб. бібл. Выдана ў „Акт. Зап. Росс.", I, № 10.

ГРАМАТА ВЯЛ. КН. ВІТАЎТА КНЯЗЮ АНДРЭЮ ВАСІЛЛУ З ПРЫЧЫНЫ СПРЭЧКІ ЯГО З СЬВІДРЫГАЙЛАМ 1390 Г. „Временникъ“, III, 5-6.

ПАРУЧНЫ ЗАПІС КНЯЗЮ СЬВІДРЫГАЙЛУ КНЯЗЁЎ І ПАНОЎ ЗА ГРЫДКА КАНСТАНТЫНАВІЧА, КАЛЯ 1392 Г. Арыгінал у „Літоўскай мэтрыцы“ (Срезневскій). Маскоўскі Архіў Мін. Юст. „Акты Южн. и Зап. Россіи“, I, № 2.

ЗАПІС СЛУЦКАГА КНЯЗЯ АЛЕКСАНДРА СЛУЦКАЙ ЦАРКВЕ СЬВ. МІХАЙЛЫ, 1392 Г. Упамінаецца ў опісі Несьвіжскага архіву. (Срезневскій, „Славяно-русская палеографія“).

ПАРУЧНЫ ЗАПІС РАЗАНСКАГА КНЯЗЯ АЛЕГА ІВАНАВІЧА ПОЛЬСКАМУ КАРАЛЮ ЎЛАДЫСЛАВУ (ЯГАЙЛЕ) 1393 Г. Пісана ў Пераяслаўле, але крыўскай мовай. (Архіў Чарторыскіх. „Акты Южн. и Запад. Росіи“, II, № 67; „Archiwum Sanguszków“, I, 16).

ГРАМАТА МСЦІСЛАЎСКАГА КНЯЗЯ ЛУКВЁНА АЛЬГЕРДАВІЧА КАСЬЦЮШЦЫ ВАЛЮЖЫНІЧУ, 1393 Г. („Акты, изд. Виленской Археограф. Ком.“, XIII; „Записки Сѣв.-Зап. Отд. Имп. Рус. Геогр. О-ва“, кн. 3, 1912 г.).

Тэкст граматы („Акты Вил. Арх. Ком.“, т. XIII, б. 1):

> Божою милостью я князь Луквеній Мстиславскій. Пожаловали есьмо боярына нашого дворного Костюшку Валюжнича, далисьми ему за его вѣрное раденіе кгрунтъ, названный Валюжинскій, подъ мѣстомъ Мстиславлемъ лежачій, со всими пожитками, съ которыхъ кгрунтовъ нынѣ и напотомъ будучіе потомкове жадное пошлины нам князю и державцомъ нашимъ давати не маютъ опрочъ службы военныя, которыя посполу и зъ другими боярьми нашыми мстиславскими повинны будутъ отправовать. А будетъ на него якая отъ кого жалоба, а ино его намъ судити, а не нашимъ урадникомъ и десятникомъ городскимъ. А то есьмо дали ему самому и щаткомъ его навѣки вѣчно и непорушно. Данъ въ Мстиславлю, сентября первого, въ лѣто шостое тысечи семьсотого, индикта третьяго.

Па сьмерці Смаленскага князя Іоана Александравіча, князь Альгерд у 1359 годзе пасадзіў у Мсціслаўлі свайго намесьніка, а ў 1377 годзе Альгердъ аддаў Мсціслаў свайму трэцьцяму сыну з Марыі Вітабскай, Луквёну (Лукашу)-Сымону. З гэтага часу пачынаецца гісторыя Мсціслаўля, як асобнага князьства, васальна падлягаючага вялікім князём Літоўскім. У склад Мсціслаўскага князьства, акром цяперашняй Мсціслаўшчыны, ўходзіла часьць Чэрыкаўскага і большая часьць Чаўскага паветаў з гарадамі Радомлям і Раснай.

Князь Луквён-Сымон Альгердавіч стаўся заснаўцом роду Мсціслаўскіх князёў, якія ігралі вызначную ролю ў абароне крыўскіх зямель ад нападаў

Масквы ў XV і XVI ст. Патомкі кн. Луквёна называлі сябе Луквенавічамі (Лукгвеніевичи, Лугвеніевичи, а нават—Лингвеневичи).

Князь Луквён княжыў у Мсціслаўлі да 1431 году (46 гадоў) і памёр, маючы восемдзесят гадоў. Ад 1389 да 1407 году князь Луквён быў намесьнікам у Вялікім Ноўгарадзе. Будучы на вясельлі Ягайлы ў Кракаве ў 1386 годзе, Луквён, адзіны з паміж братоў Ягайлы, не пераменіў веры. Ен і да канца жыцьця трымаўся ўсходнага абрадку, будуючы цэркві і манастыры. У 1380 годзе ён заснаваў каля Мсціслаўля Пустынскі Успенскі манастыр, які ў свой час славіўся перапісчыкамі кніг. Вельмі магчыма, што вядомае „Аршанскае Евангельле“ зьяўляецца помнікам, які сьведчыць аб красопісным умецтве мніхаў гэтага манастыра.

Сын Луквёна, Юры, ўславіўся сваім мужствам ў Грунвальдзкай бітве. У гэтай бітве, злучанымі сіламі Крывічоў (Беларусаў), Літвіноў, Палякаў, Чэхаў і др. зломлена была нямецкая сіла і спынена імкненьне немцаў на ўсход. У станоўчы момант гэтай бітвы, калі польскія войскі кінуліся ўцякаць і ў абозе злучаных процінямецкіх сіл пачаўся перапалох, толькі першы, другі і трэцьці Смаленскіе і Мсціслаўскі палкі, пад камандай маладога князя Юр'я Луквёнавіча, не паддаліся агульнаму перапалоху і, стойка вытрымаўшы на сабэ страшэны напор немцаў, далі магчымасьць вял. князю Вітаўту сабраць уцякаючых і ўшыхаваць іх. Тады толькі шчасьце перашло на старану злучаных сіл, і немцы былі ўшчэнт разьбіты.

ПРЫВІЛЕЙ КН. СЬВІДРЫГАЙЛЫ ПОЛАЦКАЙ ЗЯМЛІ, ДА 1394 Г. упамінаецца ў грамаце Жыгімонта 1571 г. (Срезневскій „Славяно-русская палеографія“).

ГРАМАТА ВЯЛ. КН. ЎЛАДЫСЛАВА (ЯГАЙЛЫ), 1394. ПІСАНА Ў КРАКАВЕ. Архіў Чартарыскіх. Archiwum Sanguszków“, I, 17.

СМАЛЕНСКІ ПСАЛТЫР 1395 ГОДУ. Пісаны і аздоблены рысункамі рукі Лукі Смаленца. Рукапіс знаходзіцца ў „Россійскомъ Историческомъ Музеѣ“.





Пачатныя літары з крыўскіх рукапісаў XIV—XV ст.

Гэты рукапіс, які ня мае роўнага сабе па аздобнасьці выкананьня, распадаецца на дзьве часьці: на Псалтыр і Часасловец. Першая часьць пісана прыгожым, сьціслым, просталінейным, буйным уставам ў адну гранку, а другая палавіна—дробным уставам ў дзьве гранкі, чарнілямі каштанаватага колеру. Характар пісьма пэўны, мастацкі. Асабліва вялікую сьмеласьць і рожнаякасьць тасуе пісец, калі ён крэсьліць тайнопіс, якой у кнізе даволі многа і якая дагэтуль яшчэ не прачытана.

Псалтыр аздоблены 3 міньятурамі, 22 застаўкамі і больш 150 аздобнымі колернымі і часьцю залочанымі пачатнымі літарамі: імі пачынаецца кожды псальм і кожды верш.

„Як вытвар рук смаленца, разгляданы Псалтыр служыць наўзвочным довадам таго, як высока стаяла ў старым Смаленску ў XIV ст. умецтва кнігапісаньня і маляваньня, а такжа іконапіснае мастацтва" (К. Г. Богуславскій „Замѣчательный памятникъ древней Смоленской письменности XIV вѣка и имѣющійся въ немъ рисунокъ символико-политическаго содержания". „Древности". Труды Имп. Моск. Арх. Общ. Т. 21. Вып. I, М. 1906, бб. 77—88+ Табл. XII—XX).

Міньятуры нашага помніка вызначаюцца надзвычайнай мастацкасьцю рысунка і закончанасьцю композыціі. Гэта самае можна сказаць і аб застаўках і агалоўных літарах. Асаблівае багацьце фантазыі, нязвыклую тэхніку і характэрнае злучэньне фігур выказаў аўтор у маляваньні паасобных людзей і груп.

Мужчынскія фігуры на аднэй з міньятур выбражаны ў сьвітах з гузікамі, чырвоных ботах і шлыкох на галовах, прыклякнутыя з паднятымі малебна ўверх рукамі. У аднэй з пачатных літар (літара *Б*) зьвісаючыя ступні ног паслужылі матэр'ялам да прыгожай арнамэнтыкі. Літара *Н* ўложана з дзьвёх фігур, намаляваных на сіняй асноведзі яе бакавых ліній. Адна з гэтых фігур стаіць на каленях, правая рука паднята да чала, а левая выцягнута і трымае другую фігуру—рыбу, якая стаіць на хвасьце і гэткім чынам левая рука служыць папярэчніцай для літары. Сымволізм, уложаны аўторам ў гэты рысунак, астаецца загадкай. Такжа загадкова кампазыцыя літары *В*. Тут выбражана фігура жанкі, якая раскошна разселася на складным услончыку з паложанай на яго падушкай. У паднятых руках жанчына трымае рог; ногі яе ўсунуты ў кальцо з нейкай незразумелай рэччу, якую Богуслаўскі лічыць замком. Абастоўка, якая акружая жанчыну, збыткоўная.

Асабліва цікавы рысункі сабак, хвасты якіх пераходзяць у завіткі аканту або пёраў. Цікава кампазыцыя льва, стылізацыя якога, паводле С. О. Долгова, прыпамінае ўсходныя арнаманты эпохі Сасанідаў. У адзін з рысункаў літары *Б* ўстаўлена цэлая лавецкая сцэна.

На адвароце 72 балоны памешчана сымволіка-палітычны рысунак, значэньне якога зьяўляецца таксама загадковым. На балоне нарысаваны 4 дзіватворы з надпісамі: Рымскі цар, Македонскі цар, Вавілонскі цар і антыхрыст, а пасярэдзіне, паміж імі,—фігурка нейкага малога зьвярка, здаецца,—зайца. Богуслаўскі тлумачыць гэты рысунак у тым сэнсе, што тут выбражана цяж-

шане можаше ли се
и ѿверзыи очи слѣ
пцу створити да и сеи
не оумреть. ісъ же па
кы прещаѧ в себѣ при
де ко гробу бѣ же пе
щера и камень лежа
ше на неи. и гла вьзь
мѣте камень ѿ гро
ба и гла ѥму сестра
оумершаго марфа
ги оуже смердить че
твероднев бо ѥ
сть и гла ѥи ісъ не
рѣх ли ти ꙗко аще
вѣруѥши оузриши
славу бию. вьзѧша же
камень ѿ гроба иде

мрътвыи обвѧзанъ рукама
и ногама оукрувьмъ
и лице ѥго оубрусомъ
обвѧзано. гла имъ ісъ
раздрѣшите и не дѣ
ите ѥго. мнози же ѿ
июдѣи пришедше ко
марфѣ и марьи и ви
девше ѥже створи ісъ
и вѣроваша в него ⁘
В нед. цвѣтную на заоутрнии
пре. исъ оучеть младен
с ти ги нашь ꙗкоую
днеим ⁘ та всѧкодѣ
е час. ѿ матфѣꙗ
вно. егда приближисѧ
ісъ въ ієрлмъ
приде вовифании



Адрывак з Полацкага рукапіснага Евангельля XIV ст.

кое палажэньне Смаленскага князьства, паміж акружаючымі яго больш сільнымі суседзямі, якія кожды момант гатовы яго разарваць.

Вышэйпададзенае апісаньне некатарых толькі рысункаў нашага помніка паказуе, якое аграмаднае значэньне ён мае для гісторыі нашай культуры. („Книга въ России I.“ Русская книга отъ начала пісьменности до 1800 г. Москва, 1924, бб. 44—47; І. Пічэта, „Гісторыя Беларусі“, ч. І., Масква, 1924, б. 72).

ГРАМАТА ПОЛАЦКАГА КНЯЗЯ ЯРАСЛАВА ІЗЯСЛАВІЧА ПОЛАЦКАМУ БАРЫСАГЛЕБСКАМУ МАНАСТЫРУ, 1396 Г. Арыгінал граматы пераховываўся ў архіве Барысаглебскага манастыра. Пісана на пэргаміне уставам: пры ёй захавалася васковая пячаць. Одпіс гэтай граматы, зроблены ад рукі ў палавіне XIX ст., пераховуецца ў Румянцаўскім музэі ў Маскве.

Барысаглебскі манастыр у Полацку заложаны князям Барысам Ўсеслававічам, які памёр у 1128 г.

Аб Полацкім князю Яраславе ў летапісах няма ніякіх зьменак. Гісторыкі дагадуюцца, што можа пры Гедымінавічах жылі тут яшчэ мясцовыя князі, або што гэта ёсьць славянскае імя каторага—колечы Гедымінавіча, якія мелі звычай насіць па некалькі імён, дзеля чаго тыя-ж самыя асобы ў летапісах сустрачаюцца пад рожнымі імёнамі. Рускія летапісцы любілі ў сваіх летапісах называць іх славянскімі імёнамі, а літоўскія—наадварот. Князь Яраслаў праўдападобна ў апошніх названы літоўскім імем. („Витебск. Стар.“, бал. 598). Перадрукавана грамата ў Срезневскаго „Древне-руск. пам. яз.“[2], 282.

ПСАЛТЫР 1397 Г. ВІЛЕНСКАЙ МІКАЛАЕЎСКАЙ ЦАРКВЫ. (Кипріановичъ, „Истор. Очеркъ православія, католичества и уніи въ Бѣлорус. и Литвѣ“. Вільня, 1899, б. 22).

ПОЛАЦКАЕ ЕВАНГЕЛЬЛЕ XIV СТ. Пераховуецца ў СПБ. Публічнай бібліатэцы F. I. 17. (Соболевскій „Палеографіческія снимки XII—XVII ст. СПБ. 1901 г.).

АБМЕЖАНЬНЕ СПРЭЧНЫХ ЗЯМЕЛЬ ЛАЎРЫШАЎСКАГА МАНАСТЫРА ПА ЗАГАДУ ВІТАЎТА, 1398 Г. („Акты изд. Вил. Арх. Ком., XI.“) Хоць гэта ёсьць копія, але пры ёй у выданьні зроблена гэткая увага: „гэты дакумант, выключаючы знакі прыпынку, дзеля яго старадаўнасьці надрукаваны з поўным захаваньнем правопісу, як ён запісаны ў актавых кнігах“.

> По приказанью великого князя Литовъского Витовъта, се язъ панъ Петраш Монътикгирдовичъ, наместникъ Новгородскій, розъежчалъ есми земълю монастырскую Лавърищовъскую, со князя великого людьми и съ поляны. Жаловалъ се аръхиманъдритъ Лавришовский Мисайло, што черезъ монасътыръ князя великого люди дорогу положили по дрова и по лыка и по вязье, и жоны ихъ и дѣти ихъ у сънитъку туда ходятъ, а о той дорозе монасътыру великая кривъ-

да и татьба деять се. Ино мы того посмотревъши и зъ бояры дали есьмо дорогу князя великого людемъ и поляномъ одъ Олексеева хресъта направо на Лосвино, туда имъ ѣздити и ходити по дрова и въ лыка и по вязье и по снитъку. А другую дорогу положили есьмо мимо Сѣнъно. А шъто монасътырское здавъна, тое бы аръхимандритъ заведалъ, а къ монастыру бы тягъло. А шъто монастыръская пашня, поля и чашъчо и поросъли и ограничили есьмо монастырскую земълю по реку Боловячу, Липу лопату и по дорогу мимо Сенъну, а по задную Стругу по Русеч, а по дорогу, што отъ Гневичъ лежитъ у Самойловичъ островъ,—у тое бы все монастыръское князя великого людемъ не надобе усътупатисе. А лѣсъ вольный, какъ монастыру, такъже и князя великого людемъ; а поляномъ, князя великого людемъ у лѣсъ уѣхавши дровъ насечь, вязья и лыкъ надрать, иного ничого не надобе пакостити. А сумежцомъ, какъ ихъ право, по сътарому ведати имъ свое уходы смотрети. А шъто хмелища князя великого за Боловячою, у тое се архимандриту не въступовати; а шъто монастырская хмелища здавна, въ тое князя великого людемъ не надобе уступати се. А у хмелищахъ у князя великого и у монастырскихъ большей имъ сѣножатей не копать а хъмелищъ не терать. А то есмо урадили имъ на обе стороны, какъ имъ было любо, князя великого людемъ и монастыру. А которые съ тыхъ сесе нашъ сезъдъ порушатъ, тые дадутъ князю великому десять рублевъ, а намъ зъ бояры три рубли. А при томъ были панъ Федосей и Яковъ Войниловичи, Ивашъко Глебовичъ, братъ его Яцъко, а Ходько Беликовичъ, а Панъфилъ Соколинскій, Ходоръ братъ его, Иванъ Пышъко, дьякъ князя великого Аленко, и инъшихъ людей много при томъ было. Писанъ у Лавришове, лѣта Божого шесть тысячей девятьсотъ шостого, инъдикта второго, Июня петнадцатаго.

ДЗЬВЕ ЗАПІСІ НА ЗЕМЛІ ЛАРЫШАЎСКАМУ МАНАСТЫРУ, XIV СТАГ. („Акты южн. и зап. Россіи“, II, № 64).

ГРАМАТА ПОЛАЦКАГА КНЯЗЯ АНДРЭЯ АЛЬГЕРДАВІЧА ПОЛАЦКАМУ ТРОІЦКАМУ МАНАСТЫРУ, РАНЕЙ 1399 Г. Грамата гэта ўпісана ў полацкае Эвангельле XII-XIII ст., якое пераховуецца ў Румянцаўскім Музэі (па каталёгу Востокова № 103). Гл. „Акты Западн. Россіи“, т. I., № 13; „Вѣстн. Ю. Зап. и Зап. Росс.“, 1862 г.; „Витеб. Стар.“, т. V, ч. I-я, бал. 11. і ў Саболевскаго „Смол.-полоц. договор., 16" Р. Ф. В. XV). Полацкі вял. кн. Андрэй, сын Альгерда і Марыі княгіні Вітабскай, першай жаны Альгерда,—забіты ў бітве з татарамі пры р. Воркслe ў 1399 г.

Калі заложаны Троіцкі манастыр невядома.

ГРАМАТА ВЯЛ. КН. ВІТАЎТА НА ІМЯ РЫЖСКАГА БУРГОМІСТРА НІКТІБОРГА 1399 Г. Рыжскі гарадзкі Архіў. Выдана ў „Собр. гос. гр. и дог.“, II, № 14; „Рус.-лив. акты“ (№ 122, бб. 94-95), „Сахаровъ, т. XV, № 18“.

ПРЫВІЛЕЙ КН. СЫМОНА-ЛУКВЁНА (ЛЫГВЕНІЯ) АНУФРАЎСКАМУ МАНАСТЫРУ, 1399 Г.; унесены ў грамату 1443 г. (Срезневскій, „Славяно-русская палеографія“).

## ПОВЕСЬЦЬ АБ БІТВЕ КН. ВІТЎАТА З ЦАРОМ ТАМІР КУТЛУЕМ, 1399 Г. (Срезн. „Славян.-Русск. палеографія“).

Зьмест повесьці (Паводле сьпіску графа Рачынскага):

„Того-ж лѣта князь великии Витовт пошлеть Промчислава и кнзя Глѣба Светославовича на Тимиртиклуя, а сам князь великии Витовт со всим воиском за ним(и) пойдеть, а цар Тактомыш со всимъ людом поидеть Витовту на помоч: Литва, Нѣмци и Ляхове и Татарове, и с ним было кнзей пятдесятъ, и была сила ратных вельми великая, и пошли на цара Тимиртиклуя Татарского, и похвалилися на Орду. Витовтъ реклъ: подемо пустошечи землю Татарскую и забиимо цара Тымиръткиклуя, и осадим царя Токтомыша на царстве его, а Тактамыш мене посадить на всеи земли Рускои. И мовившы то и поишли на Татар воевати, а в томъ часе поспѣеть Тимиртиклуи цар з многими силами Татарскими [с кнзи и съ уланы ордынскими] [1]) и стрѣтилися с кнземъ Витовтом на поли на рецэ на Ворклѣ и была имъ битва великая лѣт 6907 (1399), мсца августа дванадцатого дня. И долго вельми билися, и побили Татарове Витовтово воиско, и кнзь великии Витовт побежит у малои дружине. И цар Тимиртиклуи поидет под Киев, и стоял подъ Киевом тры дни и Кияне дали за себе окуп тры тисечы рублев Литовскихъ, и Тимиртиклуй Татарскую орду роспустилъ по великому кнзству Литовскому воевати, [воевали Татарове] [2]) олижъ до Великаг Луцка, и много лиха учинили великой земли Литовскои, и опять пошли у свою землю. А которыхъ побито кнзеи Литовских имена: кнзь Андрѣи Олькгирдович Полоцкии, а брат ег кнзь Дъмитреи Браньскии, кнзь Иван Дъмитреевичъ, кнзь Андреи пасынокъ его, кнзь Іванъ Борысовичъ Киевскии, кнзь Глѣбъ Светославович Смоленскии, кнзь Глѣбъ Корятовичъ, а брат его кнзь Семен, кнзь Михаило Подъберезскии, а брат его кнзь Дъмитреи, кнзь Өедор Патрыкѣевич Бѣльскии, а пан Спытко Краковскии“.

Грамата в. кн. Вітаўта віленскім канонікам 1399 г.

## ПРЫВІЛЕЙНАЯ ГРАМАТА ВЯЛ. КН. ЛІТОЎСКАГА ВІТАЎТА ВІЛЕНСКІМ КАНОНІКАМ, 1399 Г. У Петраградзе ў Рымска-Кат. духоўнай акад. У „Вѣстникѣ Европы“ 1828 г., № 22. Зьмешчаны зьнімак, узяты

[1]) Ўстаўка з Румянцаўскага сьпіску.
[2]) Ўстаўка з Румянцаўскага сьпіску.

ў Лелевэля: „Dodatek do pisma Daniłowicza o katalogu biblioteki Tołstowa. O „Dyplomatyce Ruskiej". Выдана ў „Актах Зап. Россіи", I, № 15.

ГРАМАТА ВЯЛ. КН. ЛІТОЎСКАГА ВІТАЎТА АБ РАЗЬДЗЕЛЕ ВОЗЕРА ІСЭТА, 1399 Г. Архіў Віленскай Капітулы „Акты Зап. Россіи" I, № 16. Сахараў, т. XV.

ПОЛАЦКАЕ ЕВАНГЕЛЬЛЕ XIII—XIV СТ. Прыналежала полацкаму Прадцечанскаму манастыру, адкуль было забрана ў пачатках XIX ст. Цяпер знаходзіцца ў Петр. Публ. бібліатэцы (Аддзел I, № 17). Пісана на цэлы ліст на добрым гладкім пэргаміне, уставам, у 2 гранкі. Застаўкі і пачатныя літары размаляваны мініяй.Названьні месяцаў у Евангельлі:

> руинь (верасень), просинецъ (студзень), снѣжинъ (люты), сухыи (сакавік), березозолъ (красавік), травень (май), изокъ (чэрвень), чэрвень (ліпень), заревъ (жнівень).

У гэтым Евангельлі многа слоў і сказаў народных; гэтак, замест славянскага: „крины сельныя", тут—чвѣтца польскаго, бещаден—ў значэньні „безпатомны", посага і іншыя даволі чысьленыя азнакі крыўскай мовы.

Тут-жа наданьне вял. кн. Полацкага Ануфрыя.

се азъ кн҃зь великіи анофреи положилъ есмь исине
ичане оу нашемъ монастыр и оу стого іоа прт и
на острове · а придалъ есмь ист҃ мꙋ іоа на сомницѣ зе
млю з бортью борть повеликꙋю дорогꙋ по соменъ
цо озеро · на оуклене реце землю з бортью · на вите
бьскомъ рубежи землю з бортью на на уена
реце землю з бортью · на лисенеи зъ ноусти авъ
црквѣ стго іоа и на нашь монастырь и вселанкъ
люди стго іоа не вступатисѧ никомꙋ · а влацѣ
сѣ игꙋмена іоаского не нашего монастыря остро
въского купници и брати а никакихъ пошлин
лѧского будеть кака ѡбида нашемꙋ монасты
рю и по досмотрѧ и боронить намъ самимъ а по
народꙋ нашемꙋ · а старци и люди которы и живꙋт на
стого іоа земли и судити и радити игꙋменꙋ іоаскомꙋ
самомꙋ братею а иномꙋ никомꙋ не въстꙋ
патисѧ а владꙋцѣ не въстꙋпатисѧ в нашь мона
стырь

Грамата в. кн. Полацкага Ануфрэя.

ГРАМАТА ПОЛАЦКАГА ВЯЛІКАГА КН. АНУФРАГА ПОЛАЦКАМУ ПРАДЦЕЧАНСКАМУ МАНАСТЫРУ, КАЛЯ 1399 Г. Грамата гэта ўпісана ў пэргамінкае Евангельле XIII—XIV ст., якое пераховуецца ў Петрагр. Публ. бібліят., аддзел I, № 17. Надрукавана ў „Актахъ Зап. Россіи", I, № 14. Пісана прыгожым уставам з мастацкімі застаўкамі і пачатковымі стылёвымі літарамі (гл. „Витеб. Стар." Т. V., ч. I., б. 11—14).

Прадцечанскі манастыр быў на востраве пасярод Дзьвіны; заложаны гэты манастыр кн. Ануфрыям, як гэта відаць з яго граматы, а також з опісу царкоўных і манастырскіх зямель, якія знаходзіліся ў воеводзтве полацкім і былі аддадзены С. Баторым полацкай езуіцкай калегіі. Опіс зроблены Скумінам Тышкевічам ў 1580 годзе. Цяпер гэтага манастыра няма (гл. „Витеб. Стар." Т. V, ч. I-я, бал. 11).

Аб Полацкім князю „Онуфріі" летапісцам нічога няведама.

ЎКЛАДНАЯ ІВАНА НІКАНАВІЧА XIV СТ. Еванг. XIII—XIV стаг. СПБ. Публ. біб. „Собр. Погодина" № 12, л. 128 б. Выдана А. І. Сабалеўскім, „Р. Ф. В." XV, 14.

ЎКЛАДНАЯ АНДРЭЯ ДАНІЛЬЕВІЧА XIV СТАГ. ЕВАНГ. XIII—XIV СТАГ. У СПБ. Публ. біб. „Собр. Погод." № 12, л. 35 об. Выдана А. І. Сабалеўскім Р. Ф. В., XV, 14.

МСЬЦІЖСКАЕ ЕВАНГЕЛЬЛЕ XIV СТАГ.; знаходзілася ў Вілен. Публ. бібл., № 2.

У канцы чытаем: „зъ Менска Василей Микитичъ Лахъ, бурмистръ мѣста Менского, до Мстижи до Юрья светого отдалъ до храма Божьяго".

Пісана на гладжаным пэргаміне уставам XIV ст. ў дзьве гранкі па 24 радкі ў кождай. Усяго ў Евангельлі 358 балонак. Рукапіс добра захаваны. Асаблівай увагі годны застаўкі і пачатковыя літары, рысаваныя з вялікім мастацтвам, выабражаючыя ў дзіўных і рознаякіх формах птахаў, зьвераў, зьмеяў і інш. Судзячы па стылю заставак і літар, гэтае Евангельле магчыма ранейшага часу.

ПСАЛТЫР XIV СТАГ. на пэргаміне, знаходзіцца ў СПБ. Публ. бібл. (F. 1. 2).

У канцы рукапісу ёсць прыпіска, што кнігу гэту дала Ульяна, ў міністве Елена, ў царкву арх. Міхайлы на памінак:

> ... „сию книгоу дала раба бжиа ульяна нареченая во иноческом житьи Елена цркви чюд стго архангела михаила на поминохъ господину своему князю великому Глебу Смоленоскому и мнѣ инокини Еленѣ і нашимъ дѣтем".

З гэтай прыпіскі можна бачыць, што рукапіс быў дараваны ў нейкую царкву сьв. Міхайлы, ад Смаленскай княгіні Ульяны, жонкі Смаленскага кн. Глеба.

У мове рукапісу відаць крыўскія асобнасьці.

„БЕСѢДА ГРИГОРІЯ ПАПЫ РИМСКОГО“ XIV СТ. Рукапіс Супрасльскага манастыра, (Кипріяновичъ. „Истор. очеркъ православія, катол. и уніи въ Бѣлоруссіи и Литвѣ“, Вільня, 1899, б. 22).

АДРЫВАК ПІНСКАГА ЕВАНГЕЛЬЛЯ XIV СТ. Кипріановичъ. „Истор. очеркъ православія, катол. и уніи въ Бѣлоруссіи и Литвѣ“, Вільня, 1899, б. 22).

ТРОЦКІ ЗБОРНІК XIV СТ. З ЧЫТАНЬНЯМІ АПОСТАЛА І ТРОПАРАМІ СЬВЯТЫМ НА 12 МЕСЯЦАЎ. (Кипріяновичъ „Истор. очеркъ православія, католичества и уніи въ Бѣлоруссіи и Литвѣ“ Вільня, 1899, б. 22).

ОКТОІХ XIV СТ. МЕНСКАЙ КАЦЯРЫНІНСКАЙ ЦАРКВЫ. (Кипріановичъ „Истор. очеркъ правосл., католич. и уніи въ Бѣлоруссіи и Литвѣ“, Вільня, 1899, б. 22).

ПОЛЕМІЧНЫ ЗБОРНІК СУПРОЦЬ ЛАЦІННІКАЎ XIV СТ. Рукапіс Петр. Публ. бібл. (Толст. Аддзел III, № 65).

У Масковіі пісалі паленіку супроць лацыннікаў па наслыху, не стыкаючыся з імі; ў нас, пасьля хрышчэньняся Ягайлы і відочнага шырэньнеся каталіцтва, пісалі трактаты ва ўласнай абароне. Да гэткіх належыць названы зборнік, які быў уложаны: „на обличеніе и на посрамленіе ляховомъ и латынамъ“.

ТВОРЫ МІТРАПАЛІТА КІПРЫЯНА (+1406.) Мітрапаліт Кіпрыян быў выключна рэлігійным пісьменнікам, пісаў многа, але з яго твораў дахавалася мала. З таго, што дахавалася, ведама:

1. „Посланіе къ игуменомъ и попомъ и діакономъ, и ко мнихомъ, и ко всѣмъ православнымъ христіаномъ“. („Полн. собр. русск. лѣт.“, IV, 99). Пасланьне знаходзіцца ў рукапісе Сынодальн. бібл. № 228. (Шевыревъ. „Истор. Русск. слов.“, лекція XIII, увага 10).

2. „Посланіе къ игумену Афанасію“. („Акт. Истор.“ I, балон. 481. Макарій. „Ист. Рус. церкви“. Т. V, бал. 185).

3. Есьць яшчэ надрукаваны чатыры пасланьні мітр. Кіпрыяна („Правосл. Собесѣдн.“, 1861 г. II, 75—106). а) „Да ігумена Сергія“, ў якім Кіпрыян паведамляе аб сваей падарожы з Кіява ў Маскву на мітраполію б) „Пасланьне да ігумена Федара“, ў якім апісуе крыўды і непрыемнасьці робленыя яму па дарозе ў Маскву па загаду вял. князя Маскоўскага Дзьмітра Іванавіча, паказуе на непраўнасьць прэтэнсій ахрімандрыта Міцяя на Маскоўскую мітраполію, тлумачыць сваю нявіннасьць перад вял. князям і сваю дзейнасьць у Літве. б) У трэцім і чацьвертым—павядамляе аб сваёй падарожы ў Канстантынопаль. Першы і два апошнія лісты вельмі кароткі і малаважны, але другі вельмі цэнны для гісторыі.

„Ня скрыю ад вас—піша Кіпрыян названым вышэй ігуменам—і ад усяго хрысьціянскага роду, што рабілі са мной, чаго не рабілася над ніводным сьвяціцелям, як станула руская зямля. Я прызваленьнем Божым, і выбарамі вялікага і сьвятога сабору і, благаслаўленьнем ўсесьветнага патрыарха, пастаўлены мітрапалітам на ўсю рускую зямлю, як ведама ўсім. І цяпер паехаў быў са ўсей чыстасардэчнасьцю да вялікага князя. Але ён разаслаў паслоў, каб не прапусьціць мяне, зрабіў заставы, сабраў войска, паставіў над ім ваяводаў і наказаў ім, якое зло зрабіць са мной і навет аддаць мяне безміласэрна сьмерці. Я, заховуючы князя ад бязчэсьця і клапоцячыся больш аб душы яго, прайшоў іншым шляхам, спадзяючыся на сваю любоў да яго і яго княгіні і яго дзяцей; але ён прыставіў да мяне мучыцеля, праклятага Мікіпара, і якога зла не ўчыніў нада мной? Ганьбы, зьдзекі, насьмешкі, грабежніцтва, голад! Мяне ноччу вязьніў нагага і галоднага, і ад тэй сьцюдзёнай начы дагэтуль мучуся. . Калі сьвецкія баяцца князя таму, што у іх жоны і дзеці, набыткі і багацтвы, якіх яны ня хочуць пазбавіцца...; то вы, што адракліся сьвету і жывеце дзеля аднаго Бога, як вы, бачучы такую злосьць, змоўчылі? Калі вы хочаце дабра для душы вялікага князя і ўсей вотчыны яго, чаму вы маўчалі?“... „Я ехаў да яго благаславіць яго, і княгіню яго, і дзяцей яго, і баяраў яго, і ўсю вотчыну яго, і жыць з ім ў сваёй мітраполіі, як жылі мае браты з яго бацькам і дзедам, вялікімі князямі, а яшчэ хацеў дарыць яго чэснымі дарамі. Вініць мяне ў тым, што я перш быў у Літве: але што злога зрабіў я, будучы там? Калі я быў у Літве, то многіх хрысьціянаў свабадзіў з горкага палону, многіе з ненавідзячых Бога пазналі праз нас праўдзівага Бога і прыйшлі да правай веры праз сьв. хрышчэньне. Будаваў я сьв. цэркві, угрунтаваў хрысьціянства, прылучыў да рускай цэркві мейсцы царкоўныя, якія за даўнасьцю лет былі запусьцеўшыя. Новагарадак літоўскі даўно адпаў, а я прывярнуў яго, і аднавіў дзесяціну мітраполіі і сёлы“.

4. „Житіе св. Петра, митрополита кіевского“. Надрукавана ў „Степенной книгѣ“ I, 410. У гэтым творы, які аўтор абапер на тым, што чуў са слоў, ён ня толькі выабражае ўсё жыцьцё сьвятога ад нарадзін да яго сьмерці, але пералічае некатарыя цуды па яго сьмерці ў тым ліку і цуда, якое сам дазнаў.

5. „Прощальная грамата“. Гэта ўласьціва ёсьць тэстамант мітрапаліта, які напісаў ён за чатыры дні да сьмерці. У ім памесьціў ён вызнаньне веры і прашчаньне са сьветам. Грамата гэта была прачытана над яго гробам. Летапісцы аб ёй адзываюцца з вялікай пахвалай. Надрукавана ў „Полн. Собр. Р. Лѣт.“, V, 254; „Никон. Лѣт.“, V, 3; „Акты отн. къ город. быту Росс.“, I, 543.

У летапісе Татішчава (IV, 424) прыпісываюцца Кіпрыяну яшчэ некатарыя другія навучныя працы:

„книги своею рукою писаше, яко въ наставленіе душевное, преписа соборы, бывшія въ Руси, многія житія святыхъ русскихъ и степени великихъ князей русскихъ; иная-ж въ наставленіе плотское, яко правды и суды, и лѣтопись русскую, отъ начала земли русскія вся по ряду, и многи книги къ тому собравъ, повелѣлъ архимандриту Игнатію спасскому докончати, яже и соблюдохъ“.

Аб мітрапаліце Кіпрыяне ведама што, ён быў ураджэнцам Літвы (гл. „Полн. прав. богосл. энциклоп. словарь“, VIII, 1276), жыў доўга на Афоне і быў урадоўцам у Канстантынопальскага патрыярха, які асабіста яму даручыў разабраць на мейсцы спрэчку вял. кн. Альгерда з Маскоўскім мітрапалітам Аляксеям. У тыя часы існавала аўтокефальная Літоўская мітраполія (Навагарадзкая) і Альгерд, падбіўшы Кіяў, стараўся перад патрыярхам, каб Навагарадзкі мітрапаліт Раман (Вітабскі князь, брат жонкі Альгерда) меў адначасова тытул мітрапаліта Кіяўскага і ўсей Русі. Маскоўскі-ж князь гэтага самага тытулу стараўся для свайго кандыдата—Маскоўскага мітрапаліта Аляксея. Умелай палітыкай Кіпрыян памог Альгерду адсунуць Аляксея і дабіцца перад патрыярхам назначэньня Рамана. Па сьмерці Аляксея, мітрапаліта Маскоўскага, патрыярх назначыў Кіпрыяна быць мітрапалітам Кіяўскім і ўсей Русі. Баючыся, што Кіпрыян, як ураджэнец Літвы, будзе больш спрыяць апошняй, Маскоўскі вял. кн. Дзьмітры Іванавіч не прызнаў яго. Паміма гэтага, Кіпрыян паехаў у Маскву, дзе, са згоды в. кн. называў сябе тады мітрапалітам архімандрыт Міцяй. Выгнаны з Масковіі, Кіпрыян паехаў у Канстантынопаль, шукаючы патрыяршага суда. Праціўнікі зрабілі тое-ж самае: пабывалі ў патрыярха, падкупілі ўплывовых асоб і дабіліся, што замест памершага Міцяя патрыярх назначыў мітрапалітам ўсей Русі Пімена. Але Маскоўскі князь пасадзіў за штосьці Пімена ў манастыр і запрасіў урэшце Кіпрыяна, які ўрочыста 23-V-1381 г. уехаў у Маскву. Пасьля гэтага Кіпрыян быў другі раз выгнаны князям з Масквы і толькі ў 1389 годзе аканчальна асеў у Маскве, дзе прабыў да сьмерці (1406 г.).

Кіпрыян належаў да надзвычайна ўмелых палітыкаў; маючы сваю мітраполію, як мітрапаліт Кіяўскі і ўсей Русі, часьцю ў Масковіі, часьцю ў Літве ўмеў ладзіць і з Літоўскім і з Маскоўскім князям, а галоўнае,—дзякуючы яму, трывала ўзглядная згода між гэтымі князямі. Вітаўт і Ягайла адносіліся з вялікай пашанай да Кіпрыяна і ў важнейшых выпадках засягалі яго рады. Вял. кн. Маскоўскі, Васілі Дзьмітравіч, выказываў такжа вялікую пашану мітр. Кіпрыяну.

Кіпрыян славіўся, як знавец літэратуры і пісьменнік, „всякого цѣломудрія і разума божественного преисполненъ и вельми книженъ“. Ен быў знаўцом царкоўных канонаў, а так-жа стройнасьці царкоўнай службы. Акром арыгінальных казаньняў, навук і розных грамат, перакладаў шмат з грэцкага. Пісаў пераважна царкоўна-славянскай мовай. Памёр у Маскве, пахаваны ў Успенскім Саборы. У 1472 годзе быў канонізаваны і ўлучаны ў почат сьвятых.

---



Застаўка з Мікалаеўскага Евангельля (каля Дзісны).

# XV стагодзьдзе.

Умысловае жыцьцё крыўскага народу ад X да XV ст. будавалася на супярэчнасьцях і памяшаньні самых рожнаякіх паняцьцяў. Спрычыніліся да гэтага награмаджаньня супярэчнасьцяў і памяшаньня паняцьцяў, вялікія пераВароты ў палітычным і рэлігійным жыцьці. Чужая, варажская ўлада руйнавала старадаўны уклад грамадзкага і палітычнага жыцьця, ламала незалежныя усходна-славянскія дзяржавы, пабудаваныя на племянных, магчыма да-хрысьціянскіх рэлігійных, асобнасьцях і экономічных асновах, зьліваючы ўсіх ў адну арганізацыю, пад адным чужым імем, нішчучы палітычныя і грамадзкія вярхі. Хрысьціянства давяршыла гэты пераварот, выварачываючы ўверх дном стары сьветагляд Усходнага славянства і памагаючы варажскай ўладзе да аб'яднаньня разьбітага палітычна Усходнага славянства. Як сьвецкая, так і духоўная ўлада не хацелі лічыцца ні з мясцовымі гістарычнымі і палітычнымі традыціямі, ні з паасобнымі культурамі, ані з жывой мовай падуладных ім народаў. Для княжай улады мясцовыя народныя традыціі былі бунтарствам; для царквы—мясцовая культура і багі былі антытэзай хрысьціянства. Сьвецкая ўлада і царква йшлі рука ў руку пад штандарам „рускай“ ўлады, „рускай“ веры, нясучы новую ўладу, новую веру, новае імя, новыя вярхі грамадзянству падбітых плямён.

У самым заранью гісторыі Крывічы трацяць найперш сваю асобную крыўскую дынастыю, бо ўжо патомства з Рагнеды-Крывічанкі і Валадзімера-Варага, не магло мець і ня мела аўрэолі нацыянальнай дынастыі. Змагаючыся з Варажскімі навалами за незалежнасьць Крыўскага народу, полацкія князі ня

маюць цьвёрда устаноўленай назовы для азначаньня сябе: яны раз выступаюць пад імем „крывічы“, то ізноў пад імем „русы“. Як валадары крыўскіх зямель, яны—крывічы, як патомкі Валадзімера—русы. Творыцца, дзякуючы гэтай неакрэсьленнасьці, бязвыхадны круг супярэчнасьцяў націянальна-дынастычнага характару.

Яшчэ большыя супярэчнасьці выклікае рэлігійны пераварот. Толькі хрысьціянін уважаецца чалавекам, але гэтае хрысьціянства неразьдзельна зьвязана з рускай дынастыяй, „рускай“ верай, „рускай“ граматнасьцю. Націянальная назова ізноў такі пакрываецца чужой назовай з рэлігійнай і культурнай стараны. Ізноў—бязвыходны круг супярэчнасьцяў.

Шукаючы выхаду з гэтых супярэчнасьцяў, адны знаходзілі яго, эмігруючы ў суседнія землі, дзе яшчэ старыя багі не лічыліся „бесамі“ і дзе не магла дасягнуць караючая рука ні хрысьціянскага духавенства, ні варажскай ці паваражанай улады. Другія, улёгшыя новаму парадку, ўдараліся ў містыцызм і аскетызм. З гэтага ізноў такі вынікалі яшчэ новыя супярэчнасьці, новае дзяленьне народнай істоты, раздваеньне націянальнага „я“.

Крыўскія эміграты, не ўпускаючы галоўнай мэты—абароны ад чужакоў, самі становяцца новай галіной роднага пня, вытвараюць з бегам часу новае ўгрупаваньне, новае „я“, каторае к XIII ст. вырынае ў гісторыі пад найменьнем „Літва“ і творыць яшчэ адно наслаеньне на Крыўскім народзе, уносіць яшчэ адзін безвыходны круг супярэчнасьцяў.

Крывія, Русь, Літва—патройны вузел, трохпаверхі лабірынт, у якім блудзіла і дагэтуль блудзіць нашае націянальнае „я“, наша зборная душа.

У меру таго, як пачынае гаснуць і заміраць прастары вечавы уклад грамадзкага жыцьця, адыходзіць ўдаль, але не замірае, імя „Крывія“, „Крывічы“. У сафэры культурна-рэлігійнага нашага жыцьця ўмацовуецца імя „Русь“, а ў сфэры дзяржаўнага—„Літва“. „Русь-Літва“ і недзе ў мінуўшчыне, а такжа глыбока ў народнай сьвядомасьці жыве і пакутуе, чакаючы дня свайго уваскрэшаньня, напоў містычнае імя „Крывія“, якому празначана ў жыцьці народу замкнуць круг гісторыі, быць ачышчаючым агнём, магічным дарожным знакам, гаючай і жывучай вадой Адраджэньня Народу.

Другая часьць крыўскага народу, падпарадкаваўшыся новай уладзе, новай веры, прыняўшы новае імя,—патонула ў аскетызме і мыстыцызме, якім яго карміла перакладная візантыцкая пісьменнасьць. Шыраная манахамі праз манастыры літэратура давала патрасаючыя прыклады аскетычных спасілаў у пустынях Сірыі, Егіпту і ў сьценах грэцкіх пустэльных манастыроў. Гісторыя аб Варлааме і Іоасафе-царэвічу ўся абапертая на ідэалізацыі пустэльніцтва і, перапоўненая містыкай, цешылася гэткай популярнасьцю, што нават адбілася на народнай паэзіі. Жыцьцёпісы сьвятых, сабраныя ў Пралогі і Патэрыконы, ў штодзенным чытаньні завучаліся напамяць і незаўважна ўходзілі ў пераконаньні і погляды нашых граматных прапрашчураў, адбіваючыся на псыхіцы, практычным іх жыцьці і пастунаньнях. Мніштва і пустэльніцтва лічацца вышэйшай праявай на зямлі запраўднага хрысьціянства. Згэтуль, пачынаючы ад X ст., множацца манастыры, ў манастырскія сьцены ідуць багатыя

і бедныя. Як у пісьменнасьці і жыцьці, так і ў іконапісным мастацтве пераважаюць тэмы аскетычныя.

Школай для нашага аскетызму служыў Усход, куды, для агляданьня манастыроў і сьвятыняў, многія адбывалі падарожы. Ужо ў XII стагодзьдзі падарожніцтва на Ўсход прыбрала гэткія аграмадныя памеры, што ўстрывожыла вярхі грамадзянства, і саборам было пастаноўлена, пад страхам кары адлучэньня, забараніць верным гэтыя паломніцтвы. Асяродкамі, якія прыцягалі нашых падарожнікаў, былі: Канстантынопаль з яго безканечным множствам манастыроў і рэліквій, Афон-гара з яе пустэльнямі і Ерузалім. Падарожа ў гэныя краіны была трудная і небасьпечная, бо на падарожнікаў нярэдка нападалі разбойнікі і магамэтане; ад якіх прыходзілася цярпець уціскі. Але вера перамагала ўсё і адлегласьць і труднасьці.

Уся увага нашых падарожнікаў была зьвернута на рэлігійныя помнікі, і паломнікі вельмі падробна ў сваіх запісах перадаюць ўражаньні аб мяйсцох, асьвячоных рэлігійнымі падзеямі, запісуюць легенды аб іх і стараюцца, каб ніводнага з гэтых мейсц не прамінуць. Ігумен Даніла па дарозе з Канстантынопаля ў Ерузалім толькі мімаходам гаворыць аб астравох, дзе дабываюць віно, фрукты, серку (Хіос, Пілёс); Эфэс яму цікавы таму толькі, што там знаходзіцца гроб Іана Богаслова; Кіпр важны,—бо там незлічонае множства сьвятых, а на гарэ, дзе стаіць кіпарысавы крыж, бываюць знакі і дзівы; тут родзіцца ладан-цімьян. Але асабліва падробна апавядае ён аб Ерузаліме і яго аколіцах. Там ён абыйшоў „усю зямлю“ да Тывэрыядзкага мора і да гары Тавар (Фавор), да Назарэту, Хэўрону і Іордану.

Пашана да ўсходу, як да рэлігійнага цэнтру, калыбкі хрысьціянства, была вялікая. Нашы падарожнікі нясьлі туды свае малітвы і ахвяры, а князі і магуты закуплялі там модлы за свае душы. Наш Даніла-Паломнік моліцца каля Хрыстовага гробу за Крыўскіх (Полацкіх і Менскіх) князёў, за ўвесь „рускі“ княжы род і за ўсю „рускую“ зямлю. Сьв. Еўфрасіня Полацкая ставіць на Гробе Хрыстовым залатую кадзільніцу і прывозіць з Грэціі рэліквіі і ікону Маці Божай у крыўскую зямлю.

Але людзі палітыкі, або, як іх заве повесьць аб Варлааме і Іоасафе, „мужы крови и лести“ рана пачынаюць разумець, што царкоўная залежнасьць Усходнага славянства ад Канстантынопаля зьвязуе яго свабоду. Паасобныя-ж Усходна-славянскія правінціі імкнуцца вызваліцца ад духоўнай улады—адзінага на ўсю „Русь“ кіяўскага мітрапаліта—шляхам тварэньня новых мітраполій і архібіскупій. Пасьля няўдатнай спробы высьвячэньня Кліма Смаляціча саборам рускіх біскупаў у XII ст., з мэтай вырваць з рук грэкаў гэтае высокае ў царкоўнай герархіі становішча, а можа і з думкай саўсім аддзяліцца ад грэцкай зьверхнасьці ў царкоўных справах,—пачынаюцца спробы тварэньня паасобных мітраполій. І, вось, пад канец XIII стагодзьдзя ў пасунутым далёка на захад Новагорадку паяўляецца другая з чароду на Ўсходнай Славяншчыне мітраполія, якая была па сваёй істоце Крыўская ці паводле навейшай у тыя часы тэрміналёгіі,—Літоўска-Крыўская. З гэтага часу, імя Літвы-Крывіі атрымала пасьвяту і аўрэолю рэлігійнага асяродку, праўда,

малодшага, але свабоднага ад татарскай навалы, і гэты новы асяродак становіцца прыцягаючай сілай, якая ў першы чарод зьбірае каля сабе ўсе крыўскія землі, а, ўрэшце, абыймае і калыбку Ўсходнага хрысьціянства—Кіяў. Новагарадзка-Віленска-Кіяўская царкоўная ўлада стараецца аб кіраваньне ўсім Усходным славянствам і падбівае на гэта сьвецкую ўладу. Але паволжская—Ростава-Суздальска-Маскоўская Русь—засланяецца патужнай апекай сваіх заваёўнікаў татараў і выступае на змаганьне супроць Літвы-Крывіі за царкоўнае кіравецтва. „Людзі крыві і лесьці" як у адным, так і ў другім абозе разумеюць, што ў чыіх руках будзе вера, ў тых руках рана-позна апынецца і ўлада над усім Усходным славянствам. Усе шансы былі па старане Літвы-Крывіі, аднак калясо гісторыі ізноў павярнулася ў другі бок, і амбітныя надзеі нашых прапрашчураў разьбіліся: в. кн. Літоўска-Крыўскі і Рускі Ягайла прыняў лацінскі абрадак. Ростава-Суздальска-Маскоўская Русь выйграла: яна асталася адзінай праваслаўнай дзяржавай на Усходзе, носьбіткай і шчытом благачэсьця супроць насуваючагася „рымского полуверия".

Так закончыўся першы кругабег гісторыі хрысьціянства ў крыўскіх землях, награмаджаючы новы бязвыхадны круг, праўдзівы лабірынт, супярэчнасьцяў.

Апынуўшыся ў межах злучанай дзяржавы, Крывічы і Палякі павінны былі няўнікнёна ўплываць адны на адных. У момант зблiжэньня крыўскіх зямель з Польшчай першыя прыходзілі з ачавістым духовым дабыткам у постаці значнага засабу духоўнай пісьменнасьці, выробленай мовы, калі не народнай, то блізкай да мовы народу і ў кождым здарэньні, пры нават слабым высілку, зразумелай яму, а такжа—з адміністратыўна-дзяржаўнай пісьменнасьцю. Гэта адбылося ў той час, калі Польшча яшчэ і нядумала аб сваім вызваленьні з пут мёртвай сярэднявечнай лаціны. Двор Ягайлы з ужыванай пры ім у канцэлярыях і ў дыплёматыцы крыўскай мовай і пісьменнасьцю спрычыніўся з аднаго боку да адраджэньня польскай мовы, з другога боку —да паўстаньня першых помнікаў польскай пісьменнасьці.

Уплыву „рускай" (крыўскай і украінскай) мовы на польскую не адкідаюць лепшыя польскія моваведы і гісторыкі. Прыкладам, вядомы пісьменнік і гісторык польскі Крашэўскі кажа: „Ważną epokę w dziejach języka (польскага) stanowi złączenie Litwy i Rusi z Polską za Władysława Jagiełły. Z tym prawie czasem w języku ludu ustaje trwający od X w. wpływ bezpośredni Niemców i Czechów, a nastaje Ruski.—Stosunki na wschód otwierają się, dwór mówi po Rusku, język ten staje się pośrednikiem między Litwą a Polską... Jego (Александра) panowanie i stosunki z Rusią przytrzymały czas jakiś język w formach więcej Słowianskich, mieszając go często z dialektem pobratymczaj, a mniej zdenaturalizowanej kulturą zachodnią, Rusi. Pobyt dworu i panów w Litwie także się do tego przykłada". („Nowe studja literackie", Варшава, 1843).

Першыя пераклады духоўных кніг на польскую мову былі роблены калі не вылучна са славянскіх арыгіналаў, крыўскай ці украінскай рэдакцыі, то пад сільным іх уплывам. Гэтак, адзін з найстарэйшых помнікаў польскай пісьменнасьці, т. зв. Флёрыянцкі псалтыр (канца XV або пачаткаў XVI ст.), мае ў сабе сільныя рускія, а нават, судзячы паводле некатарых слоў, крыўскія ўплывы. У псалтыры сустрачаюцца гэткія ня польскія словы:

cyecyerza=цяцера, czyerkwa=царква, swiecza=сьвяча і мн. другіх, як: szyzn=жызнь, zaszecz=зажеч.

У Бібліі каралевы Зофіі (1422—1461): czaszka=чашка, korczak=карчак, posadka=пасад, postawiec=паставец, robionek=рабёнак, rubel=рубель, wienniki=веннікі, zaponka, lekarstwo, ług, pasieka, pawłoka.

Малітвеннік Вацлава (першай палавіны XV ст.).: dziewka, tuk, sleza і др.

Казаньні (першай палавіны XV ст.), выданыя Дзялынскім у Пазнані ў 1857 годзе („Zabytek dawnej mowy Polskiej"): czystota, sczyt, zaszczycac=зашчычаць, kazń, krasny, smierny, smiertny, otiec, zapad, nasilnie, stajali (sic), licemiernik, wieliko, do sich miest, sego=сяго, ostrow, swadziebny, kriwda, pred, grech, krest, divny, siego roku, siego dnia і г. пад. („Przegląd najdawniejszych pomnikòw języka Polskiego. Sporządził K. Małkowski", Варшава, 1872, бб. 95—98). Але найважнейшым паказьнікам у гэтым помніку зьяўляецца для нас правапіс, у якім *r* і *t* часта ня маюць пераходнага польскага мякчэньня ў *rz* і ў *ć*. Гэтак, мы чытаем у рукапісе: presto, presz, pryscza (прыйсьця), pryde, otiec, otca, otcu і г. д. Гэта сьведчыць, што перапісчык ня быў палякам, калі мог уносіць ў польскую мову т. зв. „рускія" асобнасьці; ачавіста, польская мова была яму чужой, ён добра знаў старaславянскую мову, а правопіс паказуе на мову ўжываную ў актах в. кн. Літоўскага.

Аднак, не глядзя на культурную перавагу крывічоў над палякамі ў большай выпрацаваннасьці мовы і даволі значным засабе рэлігійнай пісьменнасьці,—перавага ў канечным вывадзе павінна была накланніца ў польскую старану. Бо злучэньне Літвы-Крывіі з Польшай сталася ў часе, калі ўжо была відочнай перавага лацінскай культуры над дагасаючай грэцкай, а тым больш над яе пабочнай галіной славянска-царкоўнай культурай, якая, зрэшта, упорна старалася трымаць збоку народную крыўскую мову. Усё-ж да XVI стагодзьдзя ўплывы заходна-эўропэйскія, а асабліва польскія—нязначныя, але з канца XIV стагодзьдзя пачынаюць, будзь што будзь, пракрадацца ў нашае жыцьцё.

Дарогу да прыняцьця новай культуры прыспасобіла ў нас адарваньнеся вярхоў грамадзянства ад яго нізоў, якое (адарваньне) выпрацавалася, дзякуючы скаламучаным крыніцам разьвіцьця ў нас гэтай напоў-крыўскай, напоў-рускай, напоў-літоўскай дзяржаўнай улады і падпарадкаваных ёй вярхоў. Ні то Крывічы, ні то Русь, ні то Літва лёгка прыймалі новую веру, а разам з ёй, паводле тагочаснага разуменьня,—і народнасьць. „Мужы крыві і лесьці" ня былі зьвязаны з народам ні крывёй, ні агульным імем, ні, урэшце, верай. Палітычнае зблізкэньне з Польшчай гэта—ўжо трэцьці кругабег у гісторыі нашых пануючых кляс, трэці круг безканечных супярэчнасьцяў, а разам з імі—безканечных мук і ахвяр нашага народу на шляху да яго вызваленьня, да зьвязаньня абодвых канцоў кругу гісторыі, адшуканьня самых сябе ў Адраджэньні.

ГРАМАТА МОНТЫГІРДА, НАМЕСЬНІКА ПОЛАЦКАГА, КАЛЯ 1400 Г. Рыжскі гарадз. Архіў. „Русско-ливон. акты" (№ 134, бал. 104). (Карскій, „Бѣлоруссы", Т. І.)

ПРЫСЯЖНАЯ ГРАМАТА КНЯЗЁЎ ЗАСЛАЎСКІХ ПОЛЬСКАМУ КАРАЛЮ ЎЛАДЫСЛАВУ (ЯГАЙЛЕ), 1401. „Акты Зап. Россіи“, I, № 19. Карскій, „Бѣлоруссы“, т. I.

ПРЫСЯЖНАЯ ГРАМАТА ЮР'Я ДАВЫДАВІЧА ПОЛЬСКАМУ КАРАЛЮ ЎЛАДЫСЛАВУ (ЯГАЙЛЕ), 1401. „Акты Зап. Россіи“, I, № 20. Карскій, „Бѣлоруссы“, т. I.

ГРАМАТА ПАЛАЧАНАЎ, ПІСАНАЯ Ў РЫГУ, 1404 Г. „Собраніе гос. гр. и дог.“ II, № 16; „Русско-лив. акты“, № 152, бб. 118—119. Карскій, „Бѣлоруссы“, т. I.

ТАРГОВАЯ УМОВА РЫГІ З ПОЛАЦКАМ, 1405 Г. „Русско-лив. акты“, № 153, бал. 119 Карскій, „Бѣлоруссы“, т. I.

УМОВА ПАЛАЧАН З РЫЖСКІМ МАГІСТРАМ, 1405 Г. „Русско-лив. акты“, № 154, бал. 120. Карскій, „Бѣлоруссы“, т. I.

АДСТУПНЫ ЗАПІС ГРЫДЬКІ ДРУЖЫЛОВІЧА БІСКУПУ ПОЛАЦКАМУ НА ЗЕМЛІ ДА ЦЭРКВІ ПРАСЬВЯТОЙ БОГАРОДЗІЦЫ, 1406 Г. „Археогр. Сборник“, I, № 1. „Витеб. Старина“, I, 26. Карскій, „Бѣлоруссы“, т. I

ГРАМАТА В. КН. ВІТАЎТА ІЛЫ ВЯЧКОВІЧУ, У ВІЛЬНІ, 20 ТРАЎНЯ 1407 Г.

„Милостью божю мы, княз великий Витовт.

Чинимъ знаменито и даемъ ведати симъ нашимъ листомъ кождому доброму, нинешнимъ и потомъ будучимъ, хто нань узрыть или чтучи въслышить, кому его будеть потребно. Видев есмо знаменитую службу намъ верную, николи не омешканую нашого верного пана Ильи Вячковича, и мы порадили зъ нашого верною радою, со князми и паны, даемъ и дали есмо предреченому пану Ильи Вячкевичу за его верную службу село (въ) Влодимерскомъ повете Порицко и другое Порицко, Гриковичи, Трубки, а въ Луцкомъ повете Ворочининъ, Трыстен, Стыден. Дали есмо тая села со всими доходы и приходы, з данми, з мыты, ничого на себе не выменяя с пашнями, зъ сеножатьми, з лѣсы з луги, з дубровами, из бортными землями, з ловы и з ловищи, и з бобровыми гоны, съ осеры (sic), з реками и с криницами, с потоки, ставы и со всими пожитки и податьми, што к тымъ селомъ слушало и тягло, и таможъ, што может собе примышлити и розширити, на новомъ корени посадити. И дали есмо тая села пану Ильи Вячкевичу вечно и непорушно, ему, и его жоне, и его дѣтемъ, и близкимъ и счедкомъ; вольно во всехъ именяхъ кому отдати, и продати, заменити, и по души отдати пан Илья, и его близкиѣ, по нем будучие. А ещо зъ нашой ласки для его вернои службы отпустили есмо воловщину и ямъ вечно пану Ильи и его близкимъ. А въ тыхъ именяхъ следу не гонити: кому шкода,—за своимъ пойди,



Грунвальдзкая бітва, рыс. з „Кронікі Польскай" Марціна Бельскага, 1597 году.

а пана Ильинымъ людемъ следу небрати. А и роспустокъ владыцы не давати. А хто соль везеть—отъ воза грошъ мыта, а коли оминеть, гроша (не) дав, еда (едучи) через его землю—двадцать грошей промыты отъ воза. А притомъ были светки, рада наша: воевода виленскій пан Дидикголдъ, панъ Остикъ, панъ Бутримъ, панъ Кгезкгалъ. Псан у Вильни, въ лѣто 6915, маи 20 ден. А для твердости вышей писаныхъ речей къ сему листу приложили печать нашу.

Гл. „Чтенія въ Имп. Общ. Исторіи и древ. россійскихъ при Московскомъ Университетѣ". 1899 годъ, кн. IV (191), бал. 2.

УМОВА ПОЛАЦКА З РЫГАЙ 1407 Г. „Акты, собр. Акад. Наукъ", № 16; „Русско-лив. акты", № 164, бал. 129-131. Карскій, „Бѣлоруссы", т. I.

АДРЫВАК ТАРГОВАЙ УМОВЫ ПОЛАЦКА З РЫГАЙ, КАЛЯ 1407 Г.—„Русско-лив. акты", № 165, бал. 131-132. Карскій, „Бѣлоруссы", т. I.

ГРАМАТА КН. ІВАНА СЫМАНОВІЧА, ПОЛАЦКАГА НАМЕСЬНІКА, ДА МАГІСТРАТУ М. РЫГІ, 1409 Г. „Русско-лив. акты", № 172, бал. 137—138. Карскій, „Бѣлоруссы", т. I.

ПОВЕСЬЦЬ АБ ГРУНВАЛЬДЗКАЙ БІТВЕ (1410 Г.). Паводле Літоўскага летапісу, сьпісак Быхаўца.

„W leto od poczatka swieta szest tysiacznoie dewiatsotnoie dwatcat perwoie, a od Bożyiaho narożenia tysiacz czetyrysta dwanatcatoie („Powinno bydź 1413, ale on liczy podług dawnei lat rachuby, kiedy rok u Rusi zaczynał się we wrżeśniu". Увага Нарбута), poczałasia wojka korolu Polskomu Władysławu Jagoylu, a bratu ieho welikomu kniaziu Litowskomu Witoltu z Nemcy Pruskimi, y sobrali meży soboiu woyska welikii z obu storon, Korol Jagoyło so wsimi mocami Koruny Polskoie, a kniaż weliki Witolt so wsimi siłami Litowskimi y Ruskimi, y z mnohimi Tatary Ordyńskimi; a mistr Pruski także z mocami swoimi, y so wseiu Reszoiu Nemeckoiu, y koli wżo wsi woy ka z obu storon byli pohotowie, tohdy Korol Jagoylo, y Kniaż weliki Witolt tiahnuli, ku bitwi wse lesnymi, a złymi dorohami, a pola rownoho a szyrokoho ne mohli mity, hdebysia mili ku bitwe zastanowity, nižli tolko tyli pola rownyja, a welikije pod mestom Nemeckim, pod Dubrownym, y baczyli to Nemcy iż Lachowe y Litwa, z tak welikimi woyski, ne mohli nihde inde wytiahnuty, tolko na tyia pola, y dla toho kopali jamy y prykrywali zemleiu, iżby w nich koni y ludy padali, y koli wżo korol Jagoyło, y kniaż weliki Witolt z woysky swoimi peretehnuli onyje lesy, y pryszli na tyie Dubrowenskiie pola. Tohdy hetman był naywyższy wo woysku Jagoyłowom pan Spytok Spytkowicz a w Witoltowi woysku starszy hetman był kniaż Ivan Żedewid, brat Jagoyłow y Witoltow, a dworny hetman pan Jan Gasztolt, y kak poczali onyie wyszey pisanyie hetmanowe ludy szychowaty, a o tych iamach niczoho ne wedali, szto na nich Nemcy pokopali, a tak szykuiuczy woysko naywyższyie hetmanowe, kniaż Iwan Żedywid, a pan Sokol w iamy powpadali, y nohi sobe połamali, y welmi obrazilisia, iz czohoż y pomerli, y netolko odny hetmanowe, ale y mnohim ludem ot tych iam szkoda welikaja sia stała, y widiaczy to korol Jagoylo y kniaż weliki Witolt, iż hetmanowe ich naywyższyie, w pryhodu popali, y na tych meyscach zasia dwóch hetmanow korol obrał, y poruczył pana Spytka, a pana Jana Gasztolta, na Sokołowo mestce, a Witolt ustanowił Jana Gasztolta. Obrali, y kazali woysko szychowaty i hufy ku bitwe stanowity, a onych iam zdradliwych warowaty. A zatym tyie hetmanowe woysko zszychowawszy potiahnuli ku bitwe, a Nemcy także widiaczy to, poczalisia s nimi potykaty, y poczałasia bitwa z porania, meży Nemcy i woyski Litowskimi, y mnohoie mnożestwo z obu storon, woyska Litowskoho i Nemeckoho pało. Potom widiaczy kniaż weliki Witolt, szto woyska ieho silno mnoho pobito, a Lachowe im żadnoie pomoczy, wczyniti ne chotiat. Y kniaż weliki Witolt prybeh do brata swoieho korola Jagoyła, a on mszy słuchaiet, a on rek tak: ty mszy słuchaiesz, a kniazi y panowe bratia moi mało ne wsi pobity leżat, a twci ludy żadnoie pomoczy im wczynity ne chotiat, y on iemu powedył, mily brate żadnym obyczaiem inaczey wczyniti ne mohu, tolko muszu dosłuchaty mszu, y kazal hufu swoiemu komornomu na ratunok potiahnuty, kotory że huf woysku Litowskomu, pomocz prytiahnuwszy, y poszoł z woyski Litowskimi, y Nemec na hołowu porazil, y samoho Mistra, y wsich kuntorow jeho do smerty pobili, y bezczyślennoie mnożestwo Nemcow poymali i pobili, a innyie woyska Lackije niczoho im ne pomahali, tolko na to smotreli; a zatym wsich ich poraziwszy, y mnohiie horody y zemli ich pobrawszy, a ostatok na konec wypleniwszy y wypaliwszy, y pustu zemlu wczyniwszy, i z welikoiu czestiu y z newymo-

wnym zwytiażstwom, y na weś swiet znamenituiu sławu osiahnuwszy, zasia do swoich zeml dojechali, y połowicu choruhwey Nemeckich, y borody, Mistrowu y wsich kuntorow jeho zmertwych obodrawszy y połowicu wziali do Polskij a połowicu do Litwy, hdeż tyie borody y choruhwi ich w zamku Krakowskom, w cerkwi swiatoho Stanisława, a w Wilni także u swiatoho Stanisława za weszony sut.

ГРАМАТА ПАЛАЧАНАЎ БЕЗ ДАТЫ, АЛЕ МАБЫЦЬ 1414 Г. —„Собран. гос. грам. и дог.“, II, № 16. Сахаровъ, т. XVII, № 21. Карскій, „Бѣлоруссы“, т. I.

„+Отъ бояръ Полоцкыхъ, и отъ мѣстичовъ, и отъ всего посполства, нашимъ мілымъ пріятелемъ и сусѣдомъ, посаднікомъ Ризкымъ и ратманомъ. Што пішете до насъ о своихъ купцѣхъ, што забавлены были в насъ ваши купци, ино про то былъ въздерьжалъ вашихъ купцевъ панъ Ондреи, воевода Полоцкыи, нашъ осподинъ. Што наши у Невгині (=Дынабург) были забавлены и посоромочены, и коні отоиманы, а наши же кони, ино про то былъ панъ Ондреи, воевода Полоцкыи, вашихъ въздержалъ, доколѣ грамота исходить до Невгинска(го) кунтыря. А как грамота прішла отъ Невгинскаго, и ваши купци поехали добри здраво, куды хто хочетъ. А што пішете до насъ, жалуяся на насъ, што вашихъ купцевъ не пустімъ мы ни до Витебьска и до Смоленьска, а ведь же, панове, вѣдаете вы и мы, што мѣжи насъ и вас есть старые записи, штоже нашимъ мімо Рігу чистъ путь, и водою и землею, а вашимъ мімо Полтескъ чистъ путь, и водою и землею, кудѣ хто хочетъ; ино, коли насъ пустите, по старымъ записемъ, водою и землею, мімо Рігу, ино вашимъ чистъ путь мімо Полтескъ, и водою и землею, кудѣ хто хочетъ. Ажь вы намъ поставляетѣ одінъ Юрьевъ противъ всѣе нашее дорогы, а ведь вамъ и намъ свѣдомо, што не писанъ Юрьевъ у старихъ записехъ; и вы намъ отлазитѣ однымъ Юрьевомъ противу всѣе нашее дорогы. А што пішете до насъ про давные должникы, ино ведь вѣдаетѣ сами, што истьцю истьца знати; а нашъ осподинъ, панъ Ондреи, воеводы Полоцкыи, нашимъ купцемъ даетъ дѣцкыхъ, а велитъ правити. А што намъ пішетѣ, што ся намъ крівды чінятъ у вашеи земли, а либо у бискуповѣ, а либо у которомъ городку, ино сами и вѣдаетѣ, што намъ ни с кымъ записеи нетъ, лише васъ; ино того дѣля вамъ пишемъ, штобы естѣ говорили князю мѣштѣру и князю бискупу, штобы нашимъ не было шкоты на дорозѣ. А што повѣдаете намъ, што нашъ осподарь, вѣлікыи король, жаловалъ васъ по старымъ записемъ, иноведаете же, пановѣ, сами, што мы и (зъ) старыхъ записѣи не выступаемъ ничого; ино, хочетѣ ль насъ пустити мимо Ригу по старымъ записемъ, водою и землею, и вы намъ отпишите (съ) симъ человѣкомъ, хто вамъ сию грамоту дасть. А черезъ то будте здорово.

А сія грамота отъ бояръ Полоцкыхъ и отъ Полочанъ“.

Арыгінал, пісаны на паперы, пераховуецца ў архіве Рыжскага Магістрата. „Русско-Ливонские акты“, № CCLXXIX.

ТВОРЫ МІТРАПАЛІТА ГРЫГОРА ЦАМБЛАКА. Усіх твораў Грыгора Цамблака ведама да 25. Гэта—блізка выключна казаньні. Восем з іх—на сьвяты Сьвятых, і шэсьць—на дні нядзельныя і на асобныя здарэньні. Да казаньняў трэба далучыць тры гістарычных сказаньні аб сьвятых, поле-

мічны трактат супроць лацыннікаў і богаслужэбны верш на Ўсьпеньне Пр. Багародзіцы.

1. „На недѣлю Ваій або вербницю“. Бібліатэка Ноўгародзкага Саф. Сабору, рукапіс № 524, пад агалоўкам: „Григорія, архіепископа Россійского, слово на недѣлю цвѣтную“, пры гэтым у скобках прыпісана—„Цамвлака“.

2. „На часѣхъ въ святый великій четвертокъ — слово Григорія, мниха и пресвитера обители Пантократовы, на преданіе Господа Бога и Спаса нашего І. Христа, и о Іюдѣ, и на иже опрѣснокы приносящихъ таинствомь, и о сребролюбіи“. У тым-жа рукапісе Саф. Ноўг. Сабору, балона 208. У зборніку Талстоўскай бібліатэкі, аддз. І, № 256.

3. „Бесѣд. о предательствѣ Іуды, о пасхѣ, о пріобщеніи Таинъ и о забвеніи обидъ говор. въ святый и великій четвертокъ“. Надрукавана па—расійску ў „Христ. Чтеніи“, 1824, XIV, 3-29.

4. „Слово на преображеніе Господа и Бога и Спаса нашего Іисуса Христа“. Бібліатэка Толстога, аддз. II, № 205.

5. „Слово на воздвиженіе честного креста“. Макар. Четьи-Мин. на верасень пад 14 датай. Рукапіс у Рум. муз., № 437.

6. „Слово на всечестное рождество Пресв. Владычицы нашея Богородицы“. Макар. Четьи Мин. на верасень пад 8 датай.

7. „Слово на вознесеніе Господа“. Бібл. Толстога, аддз. І, № 106. Рум. музэй, рукапіс № 437.

8. „Слово на успеніе Божія Матери“. Бібл. Толст., рукапіс № II, 205.

9. „Похвально слово св. пророку Илiѣ“. Рукапіс Публічн. бібл., аддз. І, in F., № 242. Там-жа, аддз. І, in F. № 261. Бібл. Толст., аддз. І, № 806. Румянц. муз., № 437.

10. „Слово на рождество предтечи и крестителя Іоанна“. Румянц. муз., № 437. Бібл. Толст. аддз. II, № 205.

11. „Слово похвально св. и верховнымъ апостоломъ Петру и Павлу“. Румянц. муз., № 437.

12. „Слово похвально великомученику Георгію“. Зборнік Ноўгародзкай біб., № 528. Макараўскія Четьи-Мин. на чэрвень.

13. „Слово похвально св. и славному великомученику и мироточцу Димитрію“. Макар. Четьи-Мин. на кастрычнік пад 26 датай.

14. „Похвально слово св. великомученикамъ четыренадесятымъ“. Ноўгародзк. Сафійская бібл., № 525.

15. „Слово о пяти днехъ“. Рукапіс Сынод. бібліатэкі, № 384.

16. „Слово въ субботу сыропустную, похвала преподобнымъ и богоноснымъ отцемъ, иже въ постѣ просіявшимъ“. Бібліатэка Толст., аддзел II, № 402.

17. „Слово о иноческомъ житіи“.

18. „Слово о усопшихъ“.

19. „Слово въ похвалу терновскому патріарху Евѳимію“.

20. „Слово надгробное Кипріану, митрополиту рускому“. Апошнія чатыры словы разабраны разам з іншымі ў „Истор. Русск. Церкви“ Архіеп. Макарія, кн. II, СПБ., 1866 г.

21. „Сказаніе о перенесеніи св. мощей преп. Параскевіи въ Сербскую землю“.

22. „Повѣствованіе о сербскомъ царѣ Стефанѣ“.

23. „Страданіе св. великомученика Іоанна Новаго Сочавскаго“.

24. „Богослужебный стихъ на Успеніе Пр. Богородицы“.

25. Полемічны трактат супроць ужываньня лаціннікамі прэснага хлеба да таемстваў.

Грыгоры Цамблак належыць да ліку найвыдатнейшых царкоўных пісьменнікаў у славянскіх землях. Гэта быў чалавек высока асьвечаны; ён грунтоўна знаў сьв. Пісьмо і творы старадаўных вучыцеляў царквы, стыль якіх стараўся адрадзіць у сваіх творах і сказаньнях. Больш за ўсё Грыгоры стараўся прыпадобіцца найвялікшаму з хрысьціянскіх стылістаў—Яну Златавустаму, нярэдка карыстаўся мысьлямі Васіля Вялікага, сьв. Эпіфана, сьв. Андрэя Крыцкага, сьв. Яна Дамаскіна і інш., перапрацовуючы зрэшта гэтыя запазычкі так, што пад яго пяром яны набылі самаістыі адменны характар. Талент Грыгора Цамблака быў пераважна талентам прамоўцы. Імкненьне да красамоўнасьці, параўнаньняў, антытэзаў, мэтафараў і фігурнасьці сустрачаецца ў яго часта і густа. Часам гэты красамоўчы стыль прыбірае характар штучнасьці, надутасьці і сьцюдзёнасьці, але нярэдка бывае сагрэты цёплым пачуцьцём і пранікнуты сільнай думкай і натхненьнем. У словах Грыгора Цамблака, як і ў словах старэтных вучыцялёў царквы, заўсёды заховуецца натуральны парадак мысьляў. Большая частка казаньняў Цамблака пасьвячана тэмам сьв. Пісьма, але ў некатарых творах сваіх ён адазваўся на сучасныя і блізкія яму па часе здарэньні. Гэтак, у адным з казаньняў ён выступае супроць гэрэзіі Акіндзіна, якая была ў той час захапіўшы Грэцію. У другой—супроць абычаю каталікоў чыніць таемствы на аплатках. Трэцюю напісаў у пахвалу дзядзьцы свайму Кіпрыяну, мітрапаліту; чацьвёртую—ў пахвалу свайму кіраўніку і апякуну Аўхіму (Евфимію), Тэрноўскаму патрыарху. Ўсе тры гістарычныя творы Грыгора апавядаюць аб новазьяўленых справядліўцах бацькаўшчыны яго–Сэрбіі.


Мітрапаліт Грыгоры Цамблак раздае хлябы.

Пануючы кірунак у яго казаньнях—догматычны і гістарычны. Маральных навук слухачом сваім, за выняткам двох-трох казаньняў, немаль не дае.

Казаньні Грыгора даволі абшырны. Мова яго немаль заўсёды—царкоўна-славянская, акром некатарых сказаў і слоў крыўскіх ды некалькіх слоў грэцкіх. Прынамні, такімі знаходзім яго казаньні ў рукапісах, перапісаных у Масковіі. Некатарыя з яго казаньняў, (а можа і ўсе) былі пісаны чыстай літаратурнай стара-крыўскай мовай. Мы ведаем, з другіх прыкладаў, што ў Масковіі і В. Ноўгарадзе, перапісуючы стара-крыўскія творы, перамянялі мову; магчыма, што і тут сталася такая-ж замена мовы ў гэных сьпісках. З рукапісу XVI стагодзьдзя, падаемо адрывак казаньня Грыгора Цамблака „На Прэображэніе Господово“.

> „Небу подобно устроися днеси Ѳаворская гора, славы деля Спаса Господа нашого, который ныне зъявилъ есть на ней. Бозкости своее красу зъявилъ ест на ней, што и Пѣснопевец далекии, пѣснь пѣючи мовилъ: гора Божья, гора усыренная, гора тучная, гора, юже благоволи Богъ жити въ ней. Бовем на тую вшелъ Владыка крестную выявити тайну. На тоей бовем воскресенія светлость показалъ. На тоей хвалу святыхъ ознаймовалъ. На тоей ведомо вчинилъ яко живыми и мертвыми владаетъ. На тоей заздрость Жидовскую выкрылъ и яко небо имъ противно естъ научилъ“.

Грыгоры Цамблак паходзіў з сэрбскай сямы, якая была асеўшы ў вял. кн. Літоўскім. Пайшоўшы ў духоўны стан, для навук і шырэйшай веды, выехаў у Сэрбію і там быў ігуменам манастыра сьв. Панкрата. Каля 1410 году ізноў вярнуўся ў Літву і тут ў 1416 годзе саборам мяйсцовых біскупаў (полацкага, чарнігаўскага, луцкага, валадзімерскага, холмскага, тураўскага і смаленскага) быў выбраны аўтокефальным мітрапалітам Навагорадзка-Літоўскім. Нававыбранага аўтокефальнага мітрапаліта благаславіў баўгарскі патрыарх, але Канстантынопальскі патрыарх, ад якога аддзялялася Навагорадзкая мітраполія, Цамблака не прызнаў. Мітраполітальнай сталіцай, акром Навагорадка, была назначана в. кн. Вітаўтам Вільня. У Вільні для мітрапалічай катэдры была прызначана Прачысьценская царква, пабудаваная яшчэ Альгердам.

Нававыбраны мітрапаліт намаўляў Вітаўта кінуць прынятае ім, разам з Ягайлам, каталіцтва і перайсьці ў праваслаўе. Захавалася ў пісьменнасьці цікавая размова Цамблака з Вітаўтам. Цамблак бытцам зьвярнуўся раз да Вітаўта з гэткім пытаньнем:

> „Чаму ты, княжа, трымаешся веры лацінскай, а не праваслаўнай грэцкай“?

Вітаўт на гэта адказаў яму:

> —„Калі ты хочаш ня толькі мяне, але і ўсіх людзей мае зямлі бачыць у грэцкай веры, то йдзі ў Рым на пяропры з папежам і яго мудрацамі. Калі пераможаш, то ўсе мы прымем грэцкі закон, а ў адваротным здарэньні я ўсіх падданых абярну ў лацінскую веру“.

Словам, ад напору немцаў Літва мусіла ратавацца прыняцьцем каталіцкага абрадку. Гэткі погляд быў запраўды ў многіх тагочасных дзеячоў, якія адзіны ратунак для дзяржавы бачылі ў прыняцьці каталіцтва, якое павінна было забасьпечыць ад нападаў немцаў. Што гэты погляд быў памылковы—паказалі пазьнейшыя падзеі.

У хуткім часе, пасьля выбару ў мітрапаліты, Вітаўт настаяў, каб Цамблак паехаў на сабор у Канстанцу (Швайцарыя). Будучы цьвёрдым праваслаўным дагматыстам, Цамблак не спачуваў аб'яднаньню ўсходнай царквы з заходн‿й пад старшэнствам папежа, аб чым была гутарка на гэтым саборы. Дзеля гэтага ён, як добры палітык, пастараўся прыбыць на сабор ўжо пад самы канец яго. З Канстанцы Цамблак паехаў у Рым з місіяй ад Вітаўта, каб настроіць папежа прыхільна да Літвы. У лютым 1418 году папеж Марцін урочыста прыняў крыўска-літоўскае праваслаўнае пасольства, і ў катэдры сьв. Пятра была ўрочыста адпраўлена славянская літургія. Ці была ў Рыме мова аб уніі,—нет ведама. У хуткім часе, пасьля павароту з Рыму, Цамблак памёр (у 1419 г.).

ГРАМАТА ІГУМЕНА ПЕРАСОПНІЦКАГА МАНАСТЫРА, ПІСАНАЯ У СЛУЦКУ 1417 Г. Несьвіжскі архіў князёў Радзівілаў. Карскій, „Бѣлоруссы“, т. І.

СУДОВЫ ЛІСТ В. КН. ВІТАЎТА ЯКУБОВАЙ СТАНКЕВІЧОВАЙ 1420 ГОДУ. Пераховываўся ў сабраньні Заштаўта ў Вільні ў копіі, ўнесенай у дакумант 1540 году.

„Мы велики(й) князь Витовт(ъ). Жаловала нам боя(р)ка наша пу(н)ская Якубовая Ста(н)кевича Дорота, на боя(р) би(р)къшта(н)скі(х): Матѣя Аловца Я(н)ковичо(в) отом: и(ж) они држа(т) име(н)е бли(з)кость ее(й) на(й)мя Миколая Ятвидовича, которы(й) Микола(й) отецъ ее(й) рожоны(й). Тыи бояре виркъшта(н)скии мовили: тую землю де(р)жимъ за слу(ш)ною причиною кн(я)зь Мотфе(й) Микитини(ч) тую зе(м)лю намъ да(л) наосо(б)ную слу(ж)бу боя(р)скую. Яко(ж) тыи бояре ви(р)къшта(н)скии Матѣи Ало(в)цъ Я(н)кови(чи) указали намъ листъ кн(я)зя Мо(т)фее(в), вкоторо(м) листе описуе(т) иж о(н)тую землю Миколая Ятвидовича да(л) имъ на особную слу(ж)б(у) бая(р)скую [sic]. Пото(м) мы пытали оны(х) бояръ ви(р)къшта(н)ски(х) закого оная Дорота до(ч)ка Микола(я) Ятвидовича заму(ж) пошла? Тыи бояре ви(р)къшта(н)ски(и) поведи(ли), правда естъ: то(т) Микола(й) а(ч)колве дети ме(л)—тые дѣти вси змерли о(д)на она зостала. Мы тыхъ боя(р) виркшъта(н)ски(х) пытали: закаго (sic) тая Доро(та) до(ч)ка Миколаева пошла заму(ж) чи за тягло(г)о члвка, чи за баярина (sic)? Тыи бояре виркшта(н)ски(и) Матѣй Аловцу(й) то(и) Дароте Якубова(й) (sic) Ста(н)кевича несмели ничого мови(ти), а врадникъ нашъ пу(н)ски(и) Ердѣй Швабъ намъ то повѣди(л): и(ж) то(т) Яку(б) Ста(н)кеви(ч) служи(т) службою боярскою коне(м), а(ч)ко(л)ве нача(с) быва стре(л)цомъ. Зрозумели есмо: естли бы оная Дорота пошла за тяглого члвка тогды немогла бы при(и)ти куо(т)чизне, гды(ж) есть за бояриномъ которого служба есть яко и зви(р)кшта(н)цо(в) то землю о(т)ца ее(й) Миколае(в)щину ее(й) имужу ее Якубу Ста(н)кевичу Есмо присудили и на то есмо ее(й) и ему сес н(а)шъ листъ дали з нашою печа(т)ю. П(и)са(н) у Пуня(х) на ле(т) Бо(ж)его наро(ж) А. У. К. (1420), мца апре(л) К. С. (26) д(н)е. Индикта.........“

ВАРТСКІ СТАТУТ 1420 Г. Выданы па сьпіску з ноўгародзкага Сафійскага рукапісу ў „Актахъ Зап. Россіи“, т. І, № 1.

Да Ягайлы ўсе статуты польскія, як каронныя так і мазавецкія былі,

пісаны ў лацінскай мове, якую, зрэшта, рэдка хто разумеў. Зблiжэньне Літвы і Польшчы выклікала сярод палякаў жаданьне мець статуты ў зразумелай мове. Дзеля таго, што пісьменнасьці польскай не было, то пераклады з лацінскага робяць на мову крыўскую, мову, якая была ў дзяржаўным ужытку у в. кн. Літоўскім. Гэты пераклад Вартскага статуту, як слушна лічыць чэскі вучоны Ірэчак („Svod zakonuv slovanskych" 1880, p. IX, 69), зроблены быў не для Літвы, а для Кароны.

Прыклады мовы:

„Головныи паны земль нашихъ на великыхъ соймѣхъ... сѣдаютъ отъ насъ на судѣхъ, предъ которымижъ то паны жалобы великыи дѣдичныи бывали жаловани, а ихъ сказаніе бывало правдиво, какъ бы предъ нашею обличьностью то ся дѣяло"...

„...Мы уставляемъ, которыи члонкы имѣють судить старосты: напервѣй судить о усилство женское, другое о розбои на доброволь-нои дорозѣ, третее о пожогу, четвертое о кгвалты домовыи; а въ иньшихъ жалобѣхъ не имають судить".

СТАТУТ В. КН. ЯГАЙЛЫ 1423 ГОДУ. У некатарых часьцях надрукаваны ў „Актахъ Зап. Россіи" I., № 27.

Гэты статут па свайму характару мала чым рожніцца ад Вісьліцкага статуту (гл. ніжэй, пад 1438 годам). Дахаваўся ён у вельмі няпоўных сьпісках. Двадцать першых артыкулаў датычаць сямейнага і спадковага права і зьяўляюцца дапаўненьнем а часьцю пацьверджаньнем права, выданага кар. польскім Казімірам III. Стыль і мова немаль тая самая, што і ў Казіміраўскім, або Вісьліцкім статуце 1347 г.

Арыгінал знаходзіўся ў рукапісным зборніку, які пераховываўся да 1827 году ў Супрасльскім манастыры. З гэтага зборніка Даніловіч выдаў „Latopisiec Litwy" (у Вільні, 1827 г.).

Апрацаваны статут стараньнем „Ванька Кирдеевича зъ Квасилова", каштэляна холмскага.

„Ванько Кирдеевичъ, панъ земли холмской дворенинъ а рицерь удатныи, изъ рады пана короля Володислава"... „...о то былъ сталъ абы тыто книги правъ польскихъ изъ латины были въ часку ричь и въ тыхто сторонахъ на дальней земли рускіи выложены; онъ о тыи то книги праведныи статочне стоялъ, абы ему могли изъ чески изъ латины выложены быть, не бо латины чести невмевше, але литеру руску добре чтяше".

З прадмовы відаць, што быў ня толькі лацінскі арыгінал, але і чэскі пераклад гэтага статуту, зроблены для пана Кірдеевіча, перад перакладам яго на крыўскую мову. Карыстаючыся лацінскім і чэскім тэкстамі, перакладчык лічыў патрэбным сказаць некалькі слоў аб Чэхах:

„... далеко суть отъ себе тыи то земли, Чехи а Русь... суть Чехове люди на западе слонца, на горахъ, а люди довцепны; мало отъ руского языка оттаргнены... а Русь есть люди близки ричи свы языка ческа подъ усходемъ слонцемъ".

Пробка мовы:

„Кды жака забиють, такежъ кде и ксенза алибо жака посвецоного, былъ бы раненъ а не забитъ, тоготь мяста костелъ алибо церковь правемъ суть положоны во посвятныхъ обходехъ, а прото въ немъ служба божия неима быти о бозе так длуго, ажъ тенъ злосникъ ксензю бискупу поданъ будетъ; а естлижбы тенъ злосникъ не могъ улапанъ быти, тогда тить седлаци имаю присячь, ижъ его влапити не могли, ани таки причины давали, абы втеклъ; тогда бискуп има костелъ разгрешить зася ку службе божии"...

Мова прыведзенага статуту перапоўнена полёнізмамі і нават чэхізмамі. Магчыма, што гэта рабілася ўмысна, бо як вышэйпрыведзены Вартскі, так і гэты, Вісьліцкі статут, празначаўся не для Літвы, а для Кароны, дык можа перакладчык стараўся такім спосабам зрабіць яго больш зразумелым для чытачоў-палякаў.

ГРАМАТА В. КН. ВІТАЎТА КНЯГІНІ АННЕ 1428 Г. Пісана „в новегородце" Monumenta ducum in Ostrog. Archiwum Sanguszków, I, 29. Карскій, „Бѣлоруссы", т. I.

Княгіня Анна—жана в. кн. Вітаўта, дачка Смаленскага князя Сьвятаслава.

СЛОВА ІСААКА СІРЫНА 1428 Г. Пісана гэта кніга на паперы, ў Смаленску, „рукою раба Бжіа Тімофѣя", а „волею и хотѣніемъ великого князя Александра, зовомого Витовътъ". Рукапіс знаходзіцца ў Петраградзкай Публ. бібліатэцы, F. I, 476. Соболевскій, „Палеограф. снимки XII-XVIII ст." СПБ. 1901.

У канцы кнігі прыпісаны цікавы панэгірык в. кн. Вітаўту.

„... преписана бысть книга сия на вторую книгоу, при великом князи Александрѣ, зовома Витовтъ. Тогда бо емоу многа лѣтъ соущи держащоу великое княженье Литовское, и Роуськое и иная великая княженья, спроста рещи вся Роуськая земля. Тогда бяхоу крѣпко слоужахоу емоу велицiи князи: великии князь Моськовски, великии князь Тѳѣрьски, велики князь Рязаньски, великии Новъгородъ, великии Пьсковъ и спроста рещи весь Роуськии язык. Честь и дары подавахоу емоу и,такоже слоужахоу емоу въсточные великии цри Татарьскии, тако же и Немецькии, великии князи слоужахоу емоу, со всѣми грады своими и съ землями, тѣ же Немецькии князи по Немецькомоу языкоу зовоми мисторове. Еще же и иніи велиции князи слоужать емоу: гсдрь Молдавьскои земли, тако же и Бесарабьскои земли, тѣ же велицiи князи, гсдри Молдовськои земли по Власкомоу языкоу зовоми воеводы. Тако же и Чеськое корольство слоужаше емоу. Тѣ же велицiи князи всѣхъ земль тѣх и языковъ, еже писахомъ здѣсе въ книзе сей, великоу честь и дары подавахоу славномоу господарю, великомоу князю Александроу, зовомоу Витовтоу, тако же и велики дары и дани приношахоу емоу, не токмо на всяко лѣто но и по вся дни. А отъ тѣхъ великихъ земль которомоу осподарю повелеваше к собѣ быти, они безъ всякого ослушания прихожахоу к немоу с своихъ земль есть пакъ хочеть поити на котороую землю, на нихъ самъ бываше коли гнѣвенъ, или пакъ сильныхъ своихъ воеводъ гдѣ послати

хощеть. И ис которои земли, которымъ гсдремъ веляше къ собѣ быти, ино тѣхъ великихъ земль гсдри безъ всякого ослушания приходять со всѣми своими силами на помочь и на его службоу. Есть ли паки тѣхъ великих земль которомоу гсдрю, нѣ за коую ноужю немощно было прити, и онъ вся своя рати и силы посылаше к немоу на помочь и на службоу. Тогда бо бяше славныи гсдрь велики князь Александрь, зовомыи Витовтъ в велицѣй чти и славѣ пребываше, такоже и отечьство его, Литовьская земля в велицѣи чти предстояше и всякимъ обильемъ исполняшеся, тако и народна бяше много".

УГОДЧАЯ ГРАМАТА РАЗАНСКАГА КНЯЗЯ ІВАНА ФЕДАРАВІЧА З В. КН. ВІТАЎТАМ 1430 Г.—„Акты, соб. Акад. Наук", № 25.

УГОДЧАЯ ГРАМАТА ПРОНСКАГА КНЯЗЯ ІВАНА ВАЛАДЗІМІРАВІЧА З В. КН. ВІТАЎТАМ 1430 Г.—„Акты, собр. Академией Наук", № 26.

ВІСЬЛІЦКІ СТАТУТ XV СТ. Рукапіс пераховуецца ў Румянцаўскім музэі ў Маскве; перадрукаваны ў I томе „Актовъ относящ. къ Истор. Зап. Россіи" СПБ. 1846, пад № 2. Гэты статут выданы быў польскім каралём Казімірам III, ў 1347 годзе лацінскай мовай. З лацінскага арыгіналу пераклад на крыўскую мову зроблены, думаюць, у пачатках XV ст., не пазьней 1423 году.

У прадмове да статуту між іншым гаворыцца:

„... мы Казимиръ король польскии, с паны Рады коруны Польское, уложили есмо тыи права. Ач подлугъ часовъ розныхъ обычаи и учинки чоловѣчи измѣнны... А про то ж мы Казимиръ Божіею милостью король польскии, изъ воли Божией и зъ рады пановъ нашихъ узнали есмо, ижъ подлугъ часовъ старыхъ въ земли нашей жалобы на судѣхъ не бывали сужены единостайно, але подлугъ розума головного и подлугъ пріятельства, а въ томъ жалобы не бывали искончаны: про то жъ богу ко хвалѣ и его пречистой матери, а къ ужитку нашимъ подданымъ, штобъ учинить конецъ жалобамъ, выдаваемы и уставляемы права, которые жъ вси у нашей земли мають судить и подъ виною держать".

Гэты статут абавязываў усіх тым, што:

„Коли жъ вси уставленые законъ и право чинять порядок всимъ рѣчемъ, то хочемъ, што бы тые права, што есми уставили на великомъ сойме у Вислицы приманы были".

Артыкулы статуту разьмешчаны без выразнай сыстэмы. Пры гэтым іншыя з іх вылажаны ў форме прыкладаў:

„Миколаи жаловалъ на Матѣя, ижъ ему, яко приятелю коня позычилъ здорового на дорогу, а коли же ему зася вернулъ, и тотъ конь хромалъ; а реклъ тотъ Матѣй, ижъ ховалъ его, як же и своего властного, а не вѣдалъ тоѣ ему хромоты. Тогды мы сказуемъ: Матѣеви того коня 2 недѣли ховать, а будетъ здоровъ за тыи 2 недѣли, ино добро, а не будетъ здоровъ имѣеть ся пріятельски розправить" (арт. 65).

быти · ино тѣх великих земль гдри,
безъ всакого ѡслоушанньꙗ. приходатьсѧ
ис своими силами на помочь и на его
слоужбоу · естьли паки тѣх великих
земль которомоу гдрю. нѣвзакоую ноу
жю не мощно было прити, иѡн гъ всасво
ꙗрати и силы посылаше к немоу на помо
чьи на слоужбоу. Тогда бо бяше славный
гдрь велики князь александръ, зоиомы
ни витовтъ. и в велицѣ чти и славѣ
прѣбываше. такоже и ѿ тевьсти воего
литовьскаꙗ земла в велицѣ чти прѣ
стоꙗше. и всакимъ обильемъ исполна
шеса. такоже и народ набаше много ·
в лѣ ҂ѕ҃ ц҃л҃ѕ҃ · мца августа, д҃і. списа
на бы книга сиꙗ, въ бгохранимомъ гра
дѣ смоленьскоу · повелѣнием смире
наго еппа, киръ герасима. прежебывь
шаго владимерьскаго волыньскыꙗ зе
мли · родомже москвитина, тіпова
сына. а коливанова вноука . потомже
бжиею блгтию. и великаго князѧ але
ксандра. зоиома витовта. волею и хо
тѣнием. и блгсвнием прчнаго а
рхиеппа. фотиꙗ митрополита. киевь
скаго и всеꙗ роуси · тотъже смиреныи
еппъ, киръ герасимъ владимерьскии
прѣведенъ бы со владимерьского епи

Балона „Слова Исаака Сирына“ пісанага „волею и хотѣнием“ в. кн. Вітаўта у Смаленску, у 1428 г.

„Идикъ жаловалъ на Фалка, ижъ его подцковалъ собакою своею, а собака его укусила, а сь того менилъ ся хромъ. Фалко заперлъ, ижъ бы его подцковалъ, а Идикъ не могъ на него досвѣтчить. Тогды мы присужаемъ: отприсячь Фалкови самому". (арт. 74).

„Мартинъ жаловалъ на Микулу: коли оралъ свое поле, тогды упустилъ мошьню, а въ ней 3 скотцы. Микула сѣючы тое поле, изнашелъ тую мошню съ тыми грошьми. Мартинъ упоминалъ, абы ему вернулъ, а онъ того ся прелъ. Мы сказуемъ: Миколѣ самому отприсячь, ижъ не видѣлъ тыхъ грошей, ани мошни" (арт. 107).

„Идикъ жаловалъ на пастуха, ижъ далъ ему овцю во статокъ его пасьвити, а опять овцы не имѣлъ зася отъ пастуха; а пастухъ рек, ижъ тую овцю пригонилъ до села. Мы сказуемъ: пастухови присячь, ижъ тую овцю пригонилъ до села" (арт. 76).

Зазвычай за кожды праступак вызначалася кара гатоўкай, і калі аб ей не гаворыцца ў вышэй прыведзеных прыкладах, то гэта тлумачыцца жаданьнем ухіліцца ад паўтарэньняў, бо справа ясна з папярэдніх артыкулаў, прыкл.:

„Бартолтъ жаловалъ на Ондрѣя, ижъ его ранилъ, а Ондрѣй вызналъ и реклъ: у игрѣ ся брало. Мы слышавши Ондрѣево признаньне, а знаючи ижъ въ игрѣ не маѣть быти жадная рана сказуемъ: заплатити рану (арт. 102).

Вялічыня платы азначана ў артыкуле 100:

„Простому шляхтичу 10 гривенъ, учиненому шляхтичу 15 гривенъ, знаменитому шляхтичу 60 гривенъ, кмету или солтысу 3 гр."

У гэтым статуце адносна мала артыкулаў агульна-дзяржаўнага значэньня, як, прыкладам, артыкулаў наступнага зьместу:

„А коли жъ подъ однымъ паномъ людъ одно имѣеть быть, а одного права поживать, абы не были яко Морены и Дивъ, потребно есть, абы однакы судъ былъ... Коли одинъ государь всихъ есть, тогды одна монета имѣеть быти..., которая монета имѣеть быти вѣчна, добрая и годяча, абы была любоприимна всѣмъ людемъ".

Вельмі цікава, што ў гэтым праўным творы ўпамінаюцца імёны мітычных славянскіх істотаў—Марэны і Дзіва, як агульна вядомыя ўсім і зразумелыя. Мабыць, вера ў іх была яшчэ моцная ў XIV ст. ня толькі сярод простых людзей, але і сярод тагочаснай інтэлігенціі.

Характэрна разуменьне права на лес:

„Тежъ уставляемъ: хто съ кимъ имѣетъ границу при лѣсѣ, а войдеть чересъ границу у чюжій лѣсъ, а тотъ его застанетъ..., маеть у него узяти за первое застатое сокиру, а въ другое застанетъ ино метель (ням. mantel), а любо сукно, а въ третие застанетъ, маеть взяти любо вола, а любо коня, а то безъ вины; а возметъ два вола или коня, тогды имѣетъ одного собѣ держати, а другого пустить маетъ на поруку и маетъ знамение учинить на деревѣ, гдѣ тотъ узялъ закладъ. Коли жъ хто украдеть дубъ или два въ чюжомъ гаю, маеть платити 6 скотц за кождыи дубъ, а будетъ три вердунки маеть дати тому, чий гай".

Ня менш цікаўны пастановы аб бортніцтве:

„А хто кому дерево зрубитъ со пчолами, имѣетъ заплатить гривну тому, чіи пчолы, а другую судови гривну; а хто бортное дерево зрубить безъ пчолъ, то полгривны заплатить, а судови другую полгривны.

„Петр Яна на судъ приведе, а реклъ ему тои Янъ бчолы покралъ и до своего дому принеслъ, а того хотѣлъ на него досвѣтчити. Янъ (заперлся того) и реклъ: своее властное бчолы медъ несъ до своего дому. И судья пыталъ Петра не однова: мог ли бы досвѣтчить на него, хто бы видѣлъ? Тогды Петръ отповѣдалъ, ижъ не имѣетъ кимъ досвѣтчить. Тогды маетъ Янъ (отприсягнуць), ижъ свой медъ несъ до дому". (арт. 34).

Кармленьне сьвіньней жалудам[1] мела важнае значэньне, а таму і кары за пашу ў дубовых гаёх срогія:

„Сказуемъ тежъ: хто коли свиній своихъ у чюжій гай на жолудъ угонить, а тотъ застанеть, чій лѣсъ, имѣетъ одного вепра съ правомъ забить: а застанеть ли въ другое, имѣетъ двухъ забить; въ третее застанетъ ли, тогды маеть въ обору нашу угонить, а съ нами наполъ подѣлить; а гдѣ коли тыи вепры забьетъ, имѣетъ тогды знамя на древѣ учинить. А коли супоръ, а либо сутяжеи речетъ: ижъ вепры побиты, гдѣ тое знамя есть? тогды тотъ (пакажа) што тамъ побиты".

Аднэй з характэрных слабасьцяў таго веку было „кастарства", г. зн. гульня ў косьці:

„Уставляем права: коли нѣкоторый сынъ держитъ отца здорового и матерь здорову, а найграетъ на себе нѣкоторую собину пѣнезей, тогды отецъ и матка не повинны за него платити тыхъ пѣнезей. А такожъ о жидѣхъ, ижъ позычають такимъ дѣтемъ, при отцѣ и матери, то позычаніе и згинуло".

Сын, які жыве з братамі на бацькавіне:

...„коли на косткахъ стратитъ, проиграетъ, то имѣтъ быти личено на его дѣльницы. А игръ тыхъ позычаемъ для часу скоротанья" (арт. 99).

Бывалі надужыцьці гульнёй і гулякі—ашуканцы:

„Которыи частокротъ находятъ на пьяны люди, ведутъ ся къ игрѣ, а берутъ пѣнезю на заклады, а любо нѣгдѣ на оччину, а проигравши, приходятъ во убожество; а такии (заслужываюць) нашего осуженія подлугъ заслуги. Прото приказуемъ: абы землянинъ нашъ не игралъ зъ жаднымъ такимъ чужоземцемъ, а любо костыремъ, ани на жадным заклады, ани на поруки, вынявши готовы пѣнези".

Брыдкую лаянку права карала вельмі срога—нараўне з забойствам:

„Коли шляхтичъ шляхтичу лаетъ до матери, ачъ того не отзоветъ, а любо не доконаетъ, што говорылъ, имѣеть платить за соромоту, какъ за голову, 60 копъ грошей". (арт. 85).

Зраўняй: праф. Янчук „Нарысы па гісторыі Беларускае літэратуры", Менск, 1923.

## ГРАМАТА В. КН. ЖЫГІМОНТА ВІЛЕНСКІМ МЯШЧАНАМ 1432 Г. 23-IX.—„Собр. др. грам. и актовъ", 1843, I, № 2.

„Мы великии князь Жикгимонтъ даемъ вѣдомо всякому сею нашою грамотою пожаловали есмо. виленскихъ мѣстичовъ. ляховъ и руси што имъ мыта не давати. по всей нашои земли какъ издавна не давали а отпустили есмо имъ вся мыта вѣчно А протож штобы есте на всихъ виленских мѣстичох мыта не имали ани которихъ пошлинъ торговыхъ в луцку въ киеве и по подольской земли оу смоленску и оу берестьи в новѣгородку оу мѣнску в ковне и по иным пак мытомъ по рекамъ и по мостом по ставомъ гдѣ инколи будуть мыта"...

## ГРАМАТА В. КН. ЖЫГІМОНТА ГОР. ВІЛЬНІ НА МАЙБОРСКАЕ ПРАВА, 1432 Г. ВЕРАСЬНЯ 27.—„Собр. др. грам. и актовъ", 1843 г., I, № 4.

„Во имя стое тройцы амин. К вѣчной памети рѣчии. Высокая княжата рада оуставила штобы безрадствоm и неуставностью межи речеи штося имуть дѣяти потомъ пакостибы не было, оуставили нато твердости, грамота и сведоки, выкладаючи знамье ижбы то было вѣчно. Протожъ мы Жикгимонтъ божіею млстью великии кнзь литовскии, жомоитскии, рускии и иныхъ, вызнаваемъ тою грамотою всѣмъ которым надобно есть, нинешним людем и которыи потом будуть, которыи сю грамоту нашю оузрять или оуслышать чтучи, иже мы хотяче и жадаюче штобы нашому мѣсту вилъни, всим тым што оу нем живуть бытье лѣпшее оучинити тым оурядом, ижбы за нашего часу счастливого правованья, нашими дрьми и помноженьемъ и помочою и твердостью ижбыся люди множили и ширили справедливостью, тому то нашому мѣсту вилъни и всимъ мѣстичомъ што в немъ суть, нынешнимъ и тымъ хто по том будет, право немецкое, што словет матьборское изнову даемъ и даруемъ и записуемъ на нинешние и на вечные часы всимъ мѣстичом виленским нашое вѣры римское и руским, што суть руское вѣры и всему посполству мѣста виленского во всих своих оурядех того права немецкого в члонкох, роздѣлох розумех держати ихъ потомуж, как мѣсто краковское тое истое право немецкое матьборское держати отдаляючи отъ иныхъ правъ, што суть польская, литовская, руская и отдаляючи вси обычаи, которы ижбы тому праву на пакость были, оттыхъ и иныхъ правъ и обычаевъ выймаемъ и ослобожаемъ, тое мѣсто виленское отовсего права и насилья всихъ воевод и судеи земли нашое литовское и отовсих иных оурядников наших. А передними перед воеводами и судьями, а любо передкоторыми из них не надобе имъ никоторых речей ни великих, ни малых: татьбы, роскрывавленья, нападок, мордованья, зажог а члонковъ охоромленья и всѣх какихъ коли иных неподобных проступокъ: о всякая дѣла ненадобе ихъ зазывати передних, ани имъ перед ними отвѣты давати, ани которых винъ ненадобе имъ платити, но о вся дѣла росправлятися имъ передсвоимъ воитом которыи того часу будет, колиж войта хто позовет пердъ нас нашою грамотою съ нашою печатью, тогды неиначеи, но ихъ жо правом немецким и маеть отповедити каждому, хто ему вину дасть. Но оу тых то оурядех головных первописанных войтови судити и отсудити, казнити, мстити, на кола бити, стинати, даемъ исполна оусю моць какъ оу том праве оу немецком матборском во всих своихъ члонкох, розумех, роздѣлехъ по ихъ оуставленью и оуряду держати. А также даемъ изнову первѣй реченому мѣсту на-

„КАК СЯ МША ЧТЕТЬ РИМСКИМ ОБЫЧАЕМЪ МА(Т)ЦЕ БЖІЕЙ“. Рукапіс Маскоўскай Сынод. бібл., № 558. Твор гэты належыць да каталіцкай пісьменнасьці ў крыўскай мове. Гэта ёсьць імша ў чэсьць Маці Божай з тлумачэньнем, што мае гаварыць сьвятар і прыслужнік да імшы. У канцы дададзена:

„то(л)ко тые слова писаны, што капла(н) гласом говорить на мши, што в таемници говори(т) того не(т).

ЛАЦІНСКІЯ МАЛІТВЫ. „Pater noster,“ і „Ave Maria“ па лацінску, але кірылаўскімі літарамі і ў перакладзе вэрсэтамі, а такжа „Сымвол веры“. У зборніку Маск. Сынодальнай бібліатэкі № 558. Карскій, „Бѣлоруссы“, т. I.

„О ПЛАЧИ МАТКИ О СЫНУ“. Рукапіс XV стаг. ў зборніку Маск. Сынодальнай бібліатэкі, № 367. Гэта ёсьць вельмі папулярны „плач Богародзіцы“ каталіцкай рэдакціі.

„О ОУСТАНИ КРИСТУСОВѢ ИЗ МРТВЫХЪ“. Рукапіс XV ст. ў зборніку Маскоўскай Сынодальнай бібліатэкі, № 367, б. 407. Падобна папярэднім рукапісам і гэты апошні апрацованы быў для ўжытку каталіком.

„ПОСЛАНЬЯ ТИВЕРЕЮ ЦѢСАРЮ“. Рукапіс XV ст. ў зборніку Маскоўскай Сынодальнай бібліатэкі, № 367. Па зьместу належыць да апокрыфічнай пісьменнасьці папулярнай на Захадзе сярод каталікоў.

„МУЧЕНІЯ СВ. ГЕОРГІЯ“. Рукапіс XV ст., знаходзіцца пры „Чэцьі-Мінэі“, 1489 г. Твор гэты належыць да апокрыфічнай літэратуры. Карскій, „Бѣлоруссы“, т. III.

„СЛОВО НА УСПЕНІЕ ПРЕСВ. БОГОРОДИЦЫ“. Рукапіс XV ст. пры „Чэцьі-Мінэі“, 1489 году. Твор гэты належыць да апокрыфічнай літэратуры. Карскій, „Бѣлоруссы“, т. III.

„СИМЕОНА НОВАГО ТВОРЕНІЯ“. Рукапіс XV ст., знаходзіўся ў Віленскай Публ. бібл., № 72. Паводле правопісу—крыўскага паходжаньня. Карскій, „Бѣлоруссы“, т. I.

„КИРИЛЛА ІЕРУСАЛИМСКАГО ОГЛАСИТЕЛЬНЫЯ И ТАИНОВОДСТВЕННЫЯ ПОУЧЕНІЯ“. Рукапіс XV ст., Віленскай Публ. бібл., № 70. Карскій, „Бѣлоруссы“, т. I.

ПАТЭРЫКІ АЗБУЧНЫ І ІЕРУЗАЛІМСКІ. Рукапіс XV ст., Віленскай Пуб. бібл., № 85. Карскій, „Бѣлоруссы“, т. I.

Патэрыкамі называюцца зборнікі жыцьцёпісаў сьвятых. У іх апавядаецца аб высілках, паложаных хрысьціянскімі сьвятымі, аб цудах, выказаных

або дазнаных імі, а такжа аб іх відзежах, пабачаньня якіх яны заслужылі, і, ўрэшце,—проста цікавыя легенды і апавяданьні. Патэрыкі чыталіся зазвычай у царквох пасьля богаслужэньня і ў манастырох за сталом.

„ПОВЧЕНІЕ НА РОЖДЕСТВО ХРИСТОВО И СКАЗАНІЕ О БОГОРОДИЦѢ". Рукапіс XV стаг., сабраньня гр. Уварава, № 309.—Карскій, „Бѣлоруссы", т. І.

„СОБРАНІЕ СЛОВЪ ПОУЧИТЕЛЬНЫХЪ". Рукапіс XV стаг., у Румянцаўскім музэю, № 406.—Карскій, „Бѣлоруссы", т. І.

АЛЕКСАНДРЫЯ. „СКАЗАНЬЕ КОЛИ ПРИШО(Л) АЛЕКСА(Н)ДРЪ НА ИНДИИСКА(ГО) Ц(А)РЯ ПОРА И ПОРАЗИЛЪ ЕГО". Гэта ёсьць слаўнае ў даўныя часы сярод нашага баярства „сказанье" сьвецкага характару. З численных сьпіскаў Александрыі адзначым пяць.

I. Рукапіс канца XV ст. (Публ. бібл. Q. XVII. № 257). Мова гэтага адрыўку Александрыі чыстая, з некатарымі царкоўна-славянізмамі.

II. Рукапіс бібліатэкі Красінскіх у Варшаве, № 408, XVI ст. завірае ў сабе толькі канец Александрыі. Мова сьпіску ўжо царк.-слав. з крыўскімі асобнасьцямі ў словаскладзе і правопісі.

III. Поўны тэкст крыўскай Александрыі маецца ў скорапісным зборніку XVII ст. (Публ. бібл. F. XVII, № 5), ў якім знаходзіцца і „Троя". Мова гэтага зборніка прыгожая і даволі чыстая. Украінізмы толькі на белягох, больш позным характарам.

IV. Александрыя XVII ст. ў рукапісе М. Публ. бібл., № 2405. Рэдакцыя гэтага рукапісу надзвычайна зыходзіцца з тэй, якая ў рукапісе Публ. бібл. (F. XVII, № 5).



Людзі-зьвяры (з рысункаў да Александрыі).

V. Александрыя XVII ст. Рум. музэя № 1562, сабраньне Беляева. Мова крыўская, блізкая слоўнікам і складняй да нашых дакумантаў XV—XIV ст. Перапісываў гэты экзэмпляр Александры „Василій Гаврилови(ч) Менжинскі(и) попови(ч) мозырскій, дякъ, року 1697“.

Пробкі мовы (Карскій, „Бѣлор.“ III, 71—72):

Сказанье коли пришо(л) алексан(д)ръ на индииска(го) ц(а)ря пора и поразилъ его.

Рукапіс пачынаецца так:

„Поръ же индииски ц(а)ръ по многи(м) земля(м) цр(с)тва своего листы розосла(л). и войско свое собравъ и переписати веле(л), и было и(х) тысяча тысячь и 40 тысячь чьлвекъ. и были на бои оучоны ходити. тог(д)ы же видевше макидояне и иныи языци алекса(н)дрова воиска порову вельми велику воискоу и оубоялися велми. и мыслили алекса(н)дра ц(а)ря выдати индиискому ц(а)рю пороу. а говоряче сами в собѣ живо(т) свои спросивше в макидиныю втече(м). а иныи которыи были мыслили побѣчи въ свою землю каждыи. то слышавши птоломѣй ваевода родоу и(х). алекса(н)дру сказа(л). алекса(н)дръ же то слышавъ воиску свою къ собѣ призвавъ и к ни(м) говори(л). о мои милыи велемоцныи мои макидоняне. и все(х) языкъ силнеишіи и велики витязи. и(ж) весь свѣ(т) оземше и велики(х) битвъ зыскавше. а н(ы)нѣ чи от не хоробры(х) и непотребны(х) оубоялися есте индиянь. не так же они на(с) изьедя(т) как ся ва(м) мысли(т) быти. а коли(ж) оуже ва(м) омерзл есми вы сами оувидите мя. а коли(ж) ся ва(м) (видит) поръ болши мене а што ми мае(т) уочинити са(м) я на бои к немоу иду“.

Вынятак з рукапісу Публ. бібл. N Q. XVII, № 257, у другіх сьпісках мейсца гэтае мае другія редакціі.

„Похожденїе Александра Македонского“ (па рукапісу Публ. бібл. F. XVII, № 5).

Египтяне мудрии розумѣючи мѣру земли, розность вод мо(р)скихъ, и ряд небескии знаючи, то есть бѣгъ звѣздны(и), и те(ж) руша(н)е округу небе(с)ного котории тежъ на ве(с) свѣтъ выдали ве(л)ми широко узна(н)е наукъ че(р)нокни(ж)ски(х). ижъ повѣдаю(т) о царю ихъ же бы(л) добре разумѣючи(й) в науцѣ звѣздно(и) и въ практыцѣ цвичоны(и). (О)дного часу дня нѣкоторого, коли ему повѣдано, ижъ хусъ царъ пе(р)ски(и) з моцною рукою неприяте(л)скою проти(в) ему притягну(л); онъ для того не поруша(л) рице(р)ства своего, а ни готовалъ силъ свои(х): але потаемне вшолъ до особнои ковнаты полаты своеи а взявши мѣдницу мосязовую напо(л)неную воды до(ж)човои, а де(р)жачи въ руцѣ посо(х) мосязовы: там пре(з) че(р)нокни(ж)скии чары диаволо(в) взыва(л), а розумѣлъ то добре пре(з) че(р)нокни(ж)ство во оно(и) мѣдници яко шикованыи люди проти(в) ему моцно приходили. Было те(ж) рице(р)ство царя анектонава уставичне на сторожи границъ пе(р)скихъ“...

Убачыўшы з чараў сваіх, што войска яго будзе разьбіта, цар Анэктанэб, для непазнакі, астрыгся і агаліўся ды перамяніўшы вопратку уцёк з Егіпту ў Македонію.

„В то(й) час филипъ царъ македо(н)ски(и) на во(и)ну выехалъ: А анектана(ш) вшо(л) на полату ца(р)скую, абы там царицу али(м)пияду огледал, а еи цудност(ь) видѣлъ. коли та(м) входи(л) яко скоро ю узрѣлъ, на ты(х) мѣстъ его се(р)дце еи, цу(д)но(ст)ю было зранено, а ку ей мл(с)ти се все розпалило: стягнувши руку свою поздорови(л) ю мовечи: будь поздоровлена царевая македо(н)ская: не смѣлъ еи речи пани. на то ему о(т)повѣдала али(м)пияда. здоро(в) будь научителю: приступи ближе(и) а ся(дь)".



Бітва з песагалоўцамі (з рысункаў да Александрыі).

Далей ідзе мова аб зачацьці Александра ад Анактанэба, увайшоўшага ў постаці бога Аммона да Алімпіяды, аб яго нараджэньні, аб каню Буцэфалу, аб першых чынах Александра, аб сьмерці Філіпа, аб паходах Александра ў Егіпет, Сірыю, Палестыну і Пэрсію, аб паняволеньні Пэрсіі і паездцы ў Грэцію і Македонію, аб здрадным забойстве Дарыя і пакараньні яго забойцаў, аб запанаваньні Александра ў Пэрсыі і жанідзьбе з Роксанай, дачкой Дарыя. Дагэтуль апавяданьне ідзе хоць і з рожнымі баечнымі падробніцамі, але агульна згодна з гісторыяй. Пасьля гэтага начынаецца апавяданьне аб паходзе яго ў Індзію і аб вайне з Порам. Тут ужо гістарычнага блізка нічога няма: адны дзівы. Ён сустрачае цудоўных зьвераў і нязвычайных людзей з сабачымі галовамі, птушынымі нагамі і кодабам, нават з вачамі і губай на грудзёх.

„Оттоля Александе(р) со вси(м) войско(м) свои(м) по(и)де на праву сторону востока, и так наиде въ то(и) зе(м)ли много людей нѣмы(х) звѣрообразны(х) рот и очи в персе(х) маю(т), косматы як сви(н)е очи свитя(т)ся якъ звѣзды..., от того мѣста недалеко Александе(р) пере(и)шо(л) и наиде(т) дивныи жоны страшныи долгие косматые, очи


Бітва з „дзіўнымі жонамі" (з рысункаў да Александрыі).

в них, як кошечіи блискаю(т) як его(нь) а на войско Александрово грозно позираю(т)".

Сустрачае ён волатаў і карштаёў (пігмэяў); тутжа ёсьць гаворучыя дрэвы, мядзяныя замкі, агнядыхаючыя зьмеі і ўсюды—нязвычайнае багацьце. Быў ён і ў зямлі ў якой

„... всегда ест темность и слнце въ неи не свѣтить для горъ великих".

Александар падніма ецца нават на грыфах, каб агледзіць неба, спускаецца і ў глыбежу морскую. Сустрачае ён нячыстыя народы, Гога і Магога, і запірае іх ў горы. Гутарыць са справядлівымі голымі філёзофамі брахманамі, вядзе ліставаньне з амазонкамі і г. п. Пасьля ўсіх сваіх паходаў Александар вяртаецца ў сваю сталіцу Вавілон. Але тут наступае і сьмерць яго ад атруты, дадзенай паплечнікамі. Александрыя канчаецца так:

„(К)Оли Алекса(н)деръ уме(р)лъ княжата по(д)несли тѣло его и прибрали е(го) в шаты ца(р)ский, а вложивши корону золотую на голову его, положили его в возе цеса(р)ском, которого кнежата сами собѣ везли от вавилонѣи до алекса(н)дрѣи и ревно плакали. Пото(м) учинили погре(б) знамениты(и), а поховали тѣло его въ гробѣ высоко(м) а мисте(р)не справлено(м) и велми коштовно(м)."

Урэшце даецца прыпіска аб аўторы:

„... авторъ тоеи повѣсти алекса(н)дровы имене(м) ариа(н), ученикъ бы(л) епиктита философа, за часо(в) нерона цесаря ри(м)ского. котори подобно тако(ж) переклада(л) з повѣсте(й) зъ иншихъ абовѣм уже было по лѣта(х) многих".

Гэтакім чынам повесьць аб Александры Македонскім, ў аснове якой ляжаць запіскі вучня Арыстотэлевага, Калістэна, распрацаваныя сьпярша ў Александрыі (у Егіпце), а пасьля ў Эўропе, атрымала массу наслаеньняў, у якіх да Александра былі дачэплены баечныя матывы, і ўрэшце дасьцігла славянскіх народаў, у гэтым ліку —Крывічоў.

У нашых рэдакціях Александрыі крэпка падкрэсьляецца рыцарскасьць. Відаць, у нашага баярства, якое лічыла сябе рыцарамі, была патрэбнасьць гэткай літэратуры, аб чым сьведчаць чысьленныя сьпіскі Александрыі, дахаваныя аж да нашых часаў.



Гог і Магог (з рысункаў да Александр ыі).

„ПОВѢСТЬ О ТРОѢ". Рукапіс пачатку XVII ст. Пераховуецца ў Петрагр. Публ. бібл. F. XVII, № 5. Другі сьпісак падобнай рэдакціі знаходзіцца ў рукапісе XVII ст. М. Публ. бібл., № 2405, л. 491. Карскій, „Бѣлоруссы", т. III.

Пробка мовы:

„За часо(в) коли царствова(л) двдъ сынъ иесео(в) в земли жидо(в)ско(й) был въ елине(х) царъ помо(р)ски(й) имене(м) придетъ. котори(й) одного часу для лове(н)я звѣру заплы(в) до нѣкоторой велми оздобной и веселой выспы. в которо(й) з одной стороны прилежи(т) море великое; а з другой скома(н)дра река; з третей стороны пелешино море або озеро великое: з четвертой стороны притягну(л) лугъ названы(й) додома: а з пятой стороны долина и лѣсъ приточилъ где велми есть садового и ро(з)маитого дерева уподоба(л) собе царъ оны островъ и положе(н)е зара(з) на имя свое мѣсто заложи(л) которое муровалъ аж до смерти свое(й). Приказа(л) теж и сыну своему умираючи абы не перестава(л) оного мѣста будовати".

Повесьць гэта была ў нас ведама ў XV ст., што можна вывесьці са зьменкі Скарына: „Более и справедливее в нихъ знайдеш нежели во александрии или во троий", кажа гаворачы аб кнігах Макавеяў.

Апавяданьне канчаецца словамі:

> „А так манела(й) царъ Гре(ц)ки вороти(л) ся до Грецѣи з славою а звитежство(м) велики(м). Стоя(л) по(д) троею 10 лѣтъ и 7 м(с)це(в). И такъ конецъ ста(л) ся тро(й)скому па(н)ству. А ахиллѣ(й) онъ бы(л) сынъ царя каяты а индѣ повѣдаю(т) ѳирилета. Омиръ авторъ тои тро(й)скои повѣсти“.

Хоць у пададзенай прыпісцы аўторам „тройскои повѣсти“ названы Гомэр, але, як паказалі досьледы гэтага твору, гісторыя яе даволі завілая. Да нас арыгінал гэтай повесьці зайшоў праз сэрбаў і словенцаў.

ЛЁГІКА. Рукапіс XV ст. Пераховуецца ў Маск. Сынод. бібл., № 943 і ў рукапісе Кіява-Міхайлаўскага манастыра, № 493. Карскій, „Бѣлоруссы“, т. III. Рукапіс мае агаловак: „Рѣчи Моисея Египтянина“. Аб сабе аўтор кажа:

> „Пытал мя пан единъ премудрый рѣчникъ арапскій о мудрости словесной, нарицаемая логика, абых ему разсказалъ слово странныхъ иже прислухаютъ въ лоицѣ премудрымъ людем, языком коротким, не преволокая, о всѣхъ словесѣхъ странныхъ, нижли збудитъ сердце учениково до премудростей седми и до великихъ книгъ лоичныхъ, иже они суть судно всѣмъ тѣмъ мудростемъ седмимъ“.

Ужо прадмова малазразумела, а яшчэ менш зразумелы тэкст самой лёгікі; гэта залежала ад таго, што прышлося для абстрактых паняцьцяў увясьці многа новатворных слоў, як прыкладам: *самость, душевенство, мушенство, всячество, гдѣчество, чтовство, одержитель* (субъект), *одерженный* (абъект), *роженая* (вывад) і інш.

Аўторам арыгіналу гэтай лёгікі быў Майсей Майманід, які жыў у XII ст. Яго кніга некалькі разоў друкавалася па-жыдоўску і па-лацінску. Наша перапрацоўка зроблена з жыдоўскай мовы ў канцы XV ст., як відаць з надпісу на Кіява-Міхайлаўскім зборніку 1483 г. пісара Васка.

КРОНІКА МАЛАЛЫ. Гістарычны зборнік XV стаг. Архіў Міністэрства заграгічных спраў у Маскве.

Кроніка антыохійца Іоанна Малалы (VI ст.) выкладае ўсесьветную гісторыю ад стварэньня сьвету да 563 году. Сярод апавяданьняў аб гістарычных падзеях трапляюцца повесьці напоўгістарычнага, напоўбэлетрыстычнага зьместу, а такжа апокрыфы. З твораў бэлетрыстычнага характару памешчана славэтная Александрыя; а з апокрыфічных—„Слово Аѳанасія Александрійскаго о Мелхиседекѣ“ і „Завѣты двѣнадцати патріархов“.

РАДЗІВІЛАЎСКІ ЛЕТАПІС. Названы гэты летапіс Радзівілаўскім па імю бышага яе валадара; яна называецца, па мейсцу ранейшага яе пераховy і Кенігсбэргскай. Цяпер прыналежыць Расійск. Акадэміі Навук. Пісана ў другой палавіне XV ст. і багата прыаздоблена рысункамі; сьпісана, праўдападобна, з ілюстраванага-ж арыгіналу. Сам гэты летапіс і яго арыгінал узьніклі, праўдападобна, ў Смаленшчыне. Паводле зьместу разпадаецца на дзьве часьці: 1) Повесць временных лет, якая канчаецца запісам ігумена Сыльвэстра. 2) Суздальскі летапіс ад 1111 да 1206 году. Гэтыя абедзьве яго часьці

немаль тожсамны з першымі дзьвема часьцямі Маскоўска-Акадэмічнага летапісу і вельмі блізкі з першымі дзьвема часьцямі Лаўрэнціеўскага. Радзівілаўскі летапіс ведамы па фототыпічнаму выданьню (Общества Любит. Др. писм. СПБ., 1902), а также па адрыўках з яго, пададзеных у выданьнях Лаўрэнціеўскага летапісу (А. А. Шахматовъ, „Повѣсть временныхъ лѣтъ", т. I, LII)·



Грамата В. Кн. Александра.

ЛЕТАПІСЫ ВЯЛІКАГА КНЯЗЬСТВА ЛІТОЎСКАГА. Усяго ведама колькі дзесяткаў сьпіскаў гэтых летапісаў; галоўнейшыя з іх перадрукаваны ў XVII томе „Полного Собранія Русскихъ лѣтописей". У гэтае выданьне увайшлі такія сьпіскі:

1. Сьпісак Супрасльскі, або Одынцэвіча, які забраны ў пачатку XIX ст. з Супрасльскага манастыра, а цяпер пераховуецца ў Петраградзкай Археолёгічнай Камісіі. Апісаньне зборніка і рээстр маючыхся ў ім артыкулаў маецца ў стацьці А. Шахматова „О Супрасльскомъ спискѣ Западно-русской лѣтописи" (Лѣтопись занятій Археографической Коммиссіи, т. XIII). Рукапіс быў напісаны ў кастрычніку 7028 (1519) году. Літоўскі летапіс займае ў ей першыя 106 лістоў і складаецца з двох часьцей: першая мае агаловак „Избрание лѣтописанія ізложено въкратце", памяшча-

еццa на першых 85 лістох; другая „Лѣтописецъ великыхъ князей Литовъскыхъ“ —на 85—106 лістох. Першая чаьсць—гэта выбарка з агульна-рускіх летапісных зборнікаў, але зьмяшчае і артыкулы літоўска-крыўскага паходжаньня; канчаецца 1446 годам. Другая часьць—гэта адрывак з арыгінальнай літоўска-крыўскай кронікі, які пачынаецца вылічаньнем сыноў Гедыміна і канчаецца аповесьцю аб пагоджаньні Ягайлы з Вітаўтам. Напісаны быў гэты сьпісак нейкім Грыгорам Іванавічам для князя Сымона Іванавіча Одынцэвіча.

Гэты сьпісак быў двойчы друкаваны ў лацінскай транскрыпціі, граф. Даніловічам, сьпярша ў „Dziennik'u Wilenski'm“ (1823—1824 г.г.), а пасьля асобнымі адбіткамі с тэй-жа часопісі, пад агалоўкам „Latopisiec Litwy i Kronika Ruska“ (Вільня, 1827).

2. Слуцкі, або Увараўскі сьпісак. Як паказуюць прыпіські датыкаючыя роду слуцкіх князёў, гэты сьпісак знаходзіўся сьпярша ў Слуцку, зкуль праз І. П. Сахарова трапіў у бібліатэку графа Уварова. Зборнік абыймае 107 лістоў, з каторых на 106 лістох памяшчаецца летапіс, які пісаны ў XV ст. Слуцкі летапіс складаецца з тых-жа двох часьцей, як і Супрасьльскі сьпісак, але ў адваротным парадку. Першая часьць Слуцкага сьпіску начынаецца з „Лѣтописца великихъ князей Литовскихъ“; другая дае „Лѣтописецъ о великомъ князи Московскомъ“.

Гэты сьпісак быў надрукаваны (першая часьць) А. Н. Поповым, пад агалоўкам „Лѣтопись великихъ князей Литовскихъ“. („Ученыя записки II Отд. Имп. Акад. Наукъ“, 1854, кн. I отд. III). Другая часьць была надрукавана архімандрытам Леанідам ў „Систематическомъ описаніи славяно-россійскихъ рукописей собранія гр. Уварова“, пад № 1381 (153).

3. Жыровіцкі, або Нікіфараўскі сьпісак. Гэты сьпісак паводле традыціі вывезены з Жыровіцкага манастыра і ад Н. П. Нікіфорова ў 1902 г. перайшоў на ўласнасць Акадэміі Навук (шыфра: 45. 11. 16). Большая часьць рукапісу пісана ў XV ст., у маючымся экзэмпляры нестае пачатковых і канцавых лістоў. Жыровіцкі сьпісак вельмі падобны да Супрасьльскаго сьпіску, канчаецца 1435 годам. Перадрукаваны быў С. А. Белокуровым („Русскія лѣтописи“, Масква, 1897 г., 19—72 б.б.)

4. Акадэмічны сьпісак. Зьмяшчаецца ў зборніку Акадэміі Навук (шыфра: 45. 11, 1.); пісаным ў XVI ст. Гэты сьпісак немаль зусім зыходзіцца з вышэйпрыведзеным Жыровіцкім або Нікіфараўскім сьпіскам; канцавыя лісты абарваны.

5. Віленскі сьпісак. Знаходзіцца ў зборніку, які быў у Віленскай Публічнай бібліатэцы. Надрукаваны ў XVI томе „Полного Собранія Русскихъ Лѣтописей“ пад назовай „Лѣтопись Авраамки“. Пісаны зборнік не пазьней канца XV ст. Апісаньне гл. вышэй пад 1492 годам.

6. Румянцаўскі сьпісак. Знаходзіцца ў зборніку Румянцаўскага і Маскоўскага Публічнага музэяў пад № 435. Рукапіс пісаны ў канцы XVII ст. Літоўскі летапіс займае ў зборніку лісты 19—99. Складаецца з чатырох часьцей, злучаных адным агульным агалоўкам: „Зъ кроиники великаго княжства Литовского и Жомоитского“. Першая часьць, пачынаючыся з Нараджэньня

Хрыста канчаецца славамі: „и до сихъ часовъ Подолье за Ляхи зашло и теперъ держатъ“ (л.л. 12—76). Другая часьць пачынаецца з апавяданьня аб паходзе Вітаўта супроць Темиркутлуя, канчаецца ведамасьцю аб прымірэньні Казіміра Ягайлавіча з в. кн. Маскоўскім. Трэцяя часьць вылажана паштогодна, пачынаючы з 7013 (1505) году і абыймае падзеі 7014, 7015, і 7022 г.г. Чацьвертая часьць канчаецца славамі: „Вѣра закону Римского уставлена въ Литвѣ“, мае кароткія летапісныя ведамкі 1331—1567 г. Канчаецца летапіс апавяданьнем аб паходзе кн. Валадзімера Андрэевича супроць Крымскага хана. Надрукаваны гэты сьпісак Вахевічам („Западнорусская лѣтопись по списку Румянцевского музея“, Адэса, 1903 г. асобная адбітка з XXIV т. „Записокъ Имп. Отд. Общ. ист. и др.“).

7. Сьпісак графоў Красінскіх. Знаходзіцца ў зборніку бібліатэкі графоў Красінскіх у Варшаве, № 408. Рукапіс пісаны у XVI ст., летапіс займае ў зборніку л.л. 64—90. Складаецца з двох часьцей: першая (на л.л. 64—72) зыходзіцца з першай часьцю Румянцаўскага сьпіску, але не дапісана і канчаецца параўнаньнем Тройдэня з Антыохам, Ірадам і Нэронам, пасьля чаго ў рукапісе пакінута пустое мейсца. Другая часьць летапісу (л.л. 73—84) мае агаловак: „Зъ кроиники о великихъ князехъ Литовъскыхъ“ і зыходзіцца з другой часьцю сьпіскаў Супрасльскага і Акадэмічнага, а такжа з першай часьцю Увараўскага сьпіску, а паводле стылю зыходзіцца с першай часьцю Румянцаўскага сьпіску. Гэты сьпісак быў перадрукаваны ў аграніченым ліку экзэмпляраў А. Ѳ. Бычковым, пад агалоўкам: „Литовская лѣтопись по списку, находящемуся въ библіотекѣ графа Красинского“ (СПБ. 1893, 41 бал.)

8. Сьпісак Археолёгічнага Таварыства. Маецца ў дэфэктным зборным рукапісе, які прыналежыць „Русск. Археолог. Общ.“ у Пецярбурзе, № 43. Летапіс у гэтым зборніку займае лісты 43—73 і пісаны характарам XVI ст. Тэкст гэтага сьпіска без пачатку і канца, з пропускам у сярэдзіне, зыходзіцца з тэкстам Румянцаўскага сьпіску.

9. Патрыаршы, або Баркулабаўскі*) сьпісак. Маецца ў зборніку Маскоўскай Сынодальнай (Патрыаршай) бібліатэкі № 790. Пісаны характарам крыўскага (беларускага) пісьма канца XVII ст. У гэтым зборніку, пасьля памешчаных на першых 25 лістох артыкулаў катэхічнага характару, на 26—36 лістох упісаны:

„Лѣтописецъ о Руских великихъ князехъ“, вельмі блізкі да тэксту Увараўскага і Супрасльскага сьпіскаў.

На лістох 36—42 маецца: „Сказаніе Саѳона Резанца исписана Рускимъ княземъ похвала“.

На лістох 43—65 памешчана: „Кроиника о великихъ князехъ Литовскихъ“.

На листох 65—67 рад летапісных запісак.

На лістох 67—83 рад артыкулаў не маючых стычнасьці з летапісамі.

На лістох 83—103 адрывак Літоўска-крыўскага летапісу.

*) Баркулабава—мястэчка ў Магілеўшчыне, дзе рукапіс быў напісаны.

На лістох 103—112 рад ведамак аб Маскоўшчыне, без паказаньня годаў.

На лістох 112—135 памешчаны „Лѣтописец вѣры закония жития поганьства и побоженства князей великихъ Рускихъ“, які зьмяшчае скарочанае апавяданьне аб падзеях ад пачатку Русі да Маскоўскага ўзяцьця ад Тахтамыша.

На лістох 115—176 адрыўкі літоўска-крыўскіх летапісаў датыкаючыя падзей 1445 году (паходу в. кн. Казіміра на Маскву), прыезду каралевы Боны ў Літву (1528); далей аддача замуж Ядвігі і сьмерць Жыгімонта, аб Берасьцейскім саборы 1545 г. і канчаецца рэестрам гармат, здабытых пры ўзяцьці Смаленска каралём Уладыславам.

На лістох 176—178, пісаных іншым характарам, памешчана „Зерцало царствъ, градовъ и странъ, которые знаменіямъ двунадесятымъ небеснымъ въ зодіакѣ будущимъ подданы суть“.

10. Сьпісак Рачынскага. Памяшчаецца ў зборніку графа Рачынскага ў Пазнані, пад № 94. Зборнік пісаны ў канцы XVI ст., каля 1580 г., летапіс займае лісты 225—291. Гэты сьпісак зьмяшчае шмат ведамак якіх у другіх сьпісках няма; канчаецца апавяданьнем аб жанідзьбе Жыгімонта-Аўгуста і сьмерці Жыгімонта старога.

11. Еврэінаўскі сьпісак. Маецца ў зборніку які прыналежыць Маскоўскаму Галоўнаму Архіву Міністэрства Загранічных Спраў, № 76 (101), куды паступіў ён ад П. Еврэінава ў 1814 годзе. На лістох 441—534 памешчана ў гэтым зборніку, пісаным ў канцы XVII ст.: „Книга великого княжества Литовского и Жеицкого“. Да 1454 году сьпісак гэты сходны са сьпіскамі Румянцаўскім і Рачынскага, а другая часьць найбольш сходна са сьпіскам Рачынскага, але іншай, паўнейшай рэдакцыі.

12. Альшэўскі сьпісак. Маецца ў польскім зборніку, які належыць бібліятэцы Хамінскага ў дварэ Альшэва, Сьвянцянскага павету. Зборнік гэты пісаны ў 1550 годзе. Сьпісак нашага летапісу займае ў зборніку 263—334 балоны. Тэкст першай часьці (да 1446 году) ў агульных рысах зыходзіцца з тэкстам першай часьці Румянцаўскага сьпіску, а такжа са сьпіскамі Рачынскага і Еврэінаўскага. Тэкст другой часьці Альшэўскага сьпіску зыходзіцца з чацьвертай часьцю Румянцаўскага сьпіску і з чацьвертым адрыўкам Патрыяршага сьпіску, але абрываецца на недаканчанай аповесьці 1535 году, дзеля утраты апошніх лістоў. Сьпісак гэты надрукаваны асобнай кніжкай Пташыцкім, пад агалоўкам: „Kodeks Olszewski Chomińskich. Wielkiego Księstwa Litewskiego i Żmódzkiego kronika“. (Вільня, 1907 г.)

13. Сьпісак Быхаўца. Гэты сьпісак цяпер затрачаны. Ведамы па выданьню Нарбута „Pomniki do dziejow litewskich“ (Вільня, 1846). Нарбут апісуе яго ў прадмове, кажучы, што ён адносіцца да другой палавіны XVI або пачатку XVII ст. Сьпісак Быхаўца пісаны крыўскай мовай польскімі літарамі; ў часьці да 6961 году дае тэкст ведамых нам літоўска-крыўскіх летапісаў з многімі і абшырнымі ўстаўкамі з другіх крыніц, між іншым з летапісу сходнага з Іпацієўскім. Гэты сьпісак у многіх мяйсцох зыходзіцца паводле выкладу са старэйшымі сьпіскамі—Супрасльскім, Увараўскім, Акадэ-

мічным, Віленскім. Часьць ад 6961 году і да канца сьпіску, які абрываецца дзеля утраты апошніх лістоў на 7015 годзе, немаль не мае сабе падобных у пазьнейшых сьпісках нашых летапісаў. Сходны са сьпіскам Быхаўца летапіс быў у Стрыйкоўскага, кроніка якога служыць цэннай дапамогай да адбудаваньня папсаваных і прапушчаных мейсц у сьпіску Быхаўца.

14. Сьпісак Дуброўскага. Гэткую назову носіць сьпісак СПБ. Публічн. бібліатэкі XVI ст. (шыфра: F. IV. 238), які выяўляе сабой асобную адмену 4-га Ноўгародзкага летапісу, прадоўжанага да 1539 году. Зьмяшчае тры адрыўкі, маючыя безпасярэдную датычнасьць да літоўска-крыўскіх летапісаў. Першы адрывак знаходзім у самым летапісе пад 1341, 1350 і 1377 гадамі, дзе чытаем аб літоўскіх князёх, аб Альгердзе і Ульяніі, аб сьмерці Альгерда і наступіўшых пасьля гэтага ў в. кн. Літоўскім падзеях. Другі адрывак зыходны с першым, але вылажаны ў форме зьвязнага апавяданьня, агалоўлены: „Родословіе великихъ князей, Литовскаго княжества начало“. Трэцьці адрывак агалоўлены: „Литовскому роду починокъ“, памешчаны ў канцы зборніка. Першы і другі адрыўкі не маюць аналёгічных сабе ў сьпісках нашых летапісаў; трэцьці адрывак—выпіска з „Лѣтописця великихъ князей Литовскихъ“. (Супр., Увараўск., Красінск. і др.).

15. Ростаўскі сьпісак. Гэтак называецца зборнік Маск. Галоўн. Арх. Мін. Загран. спраў, пачатку XVIII ст., № 20/25, які выяўляе сабой тую асобную адмену 4-га Ноўгародзкага летапісу, які маецца ў сьп. Дуброўскага. У канцы зборніка на лістох 882—885 маецца „Родословіе великихъ князей, Литовскаго княжества начало“, а на лістох 875—882 „Литовскому роду починокъ“.

16. Літоўская мэтрыка, III том, т. зв. „Libri legationum“ (перахоўвуецца ў Маск. Гал. Арх. Мін. Загр. спраў), месьціць лацінскі пераклад літоўска-крыўскага летапісу, пад агалоўкам „Origio regis Jagyel et Wytnoldi ducum Lithuanie“. Тэкст гэтага артыкулу адпавядае „Лѣтописцу великихъ князей Литовскихъ“ і пры гэтым бліжэй за ўсё да рэдакціі сьпіску графоў Красінскіх, хоць мае ўстаўкі рожныя ад апошняга і ад другіх летапісаў.

17. Рукапіс Петр. Публічнай Бібліатэкі (F. I. 476), у якой памешчана пасьля „Слова Исаака Сирина“ пахвала Вітаўту (гл. вышэй, пад 1428 г.).

18. Рукапіс Петр. Публічнай Бібліатэкі, Пагодзінскага сабраньня № 1404а, XVI ст., на лістох 692—700 месьціць стацьцю „Родство великихъ князей Литовскихъ“. Тэкст гэтага артыкулу зьяўляецца пераробкай тэксту „Литовскому роду починокъ“ (сьпіскі Дубровінскі і Ростаўскі), пры гэтым пачатак мае на мэце зьвязаць род Гедыміна з родам Валадзімера Сьвятаславіча пры помачы атожсамленьня Віда з Воўкам, што зьяўляецца ўстаўкай выкліканай артыкулам „Начало государей Литовскихъ“ (зраўняй ніжэй Румянцаўскі сьпісак № 348).

19. Рукапіс Акадэміі Навук № 34. 4. 32, XVII ст. Тут памешчана „Родство великихъ князей Литовскихъ“, саўсім зыходны з Пагодзінскім рукапісам № 1404а.

20. Родаводная кніга Румянцаўскага музэю № 348, XVI ст., зьмяшчае на лістох 14—22 „Начало государей Литовскихъ.“

21. Родаводная кніга Акадэміі Навук № 17. 15. 19, XVI ст., ў ей памешчаны артыкул, адпавядаючы павыжшаму Румянцаўскаму сьпіску № 348.

22. Зборн. Петр. Публічнай Бібліатэкі № 1572, XVI ст., зьмяшчае на лістох 121—125 „Родство великихъ князей Литовскихъ", які артыкул зыходзіцца з Дубровінскім сьпіскам.

23. Родаводная кніга Румянцаўскага музэю № 349, XVI ст., зьмяшчае на лістох 54—72 „Предословие о великихъ князехъ Литовскихъ откуду они пошли".

24. Родаводная кніга Петр. Архэографічнай Камісіі, XVIII ст., № 40. Тут на лістох 119—120 зьмешчана „Родословіе великихъ князей Литовскихъ"; а на лісьце 121 „Родословецъ великихъ князеи Литовскихъ, выписано въ Казани изъ монастырские Преображенские книги, а первому не согласуетъ"; на листох 123—124 „Сказаніе о великомъ князе Витофте".

25. Родаводная кніга Петр. Публіч. Бібліатэкі XVII ст. F. IV. 264.

26. Копэнгагенскі зборнік XVII ст., зьмяшчае „Литовскому роду починокъ" і „Начало государей Литовскихъ".

Усе гэты летапісы падзяляюцца на дзьве рэдакціі: кароткую і распашыраную. Да тыпу сьпіскаў кароткай рэдакціі належаць: Віленскі, Увараўскі, Нікіфараўскі, Супрасльскі, Акадэмічны, Красінскіх, (Кройники) і Патрыяршы або Баркулабаўскі сьпісак. Да тыпу распашыранай рэдакціі залічаюцца сьпіскі: Рачынскіх, Красінскіх (Лѣтописец), Евреінаўскі, Румянцаўскі, 2 і 4 адрыўкі Патрыяршага (Баркулабаўскага) і нек. іншыя. Найпаўнейшую рэдакцію дае сьпісак Быхаўца.

Сьпіскі кароткай рэдакціі пачынаюцца з апавяданьня аб сынох Гедыміна:

> „Оу великого князя Кге(ды)міна Лито(в)ского 7 сынов было. старши(й) Монтиви(л). пото(м) Нарамонтъ. пото(м) Олкгир(д). пото(м) Евноутіи. пото(м) Кестоутіи. пото(м) Коріатъ семыи Любортъ (Віленскі сьпісак).

Далей пералічаюцца гарады, якія каму дасталіся. Пры гэтым паведамляецца, што

> „Олкгирд королев о(те)цъ, а великого кн(я)зя Вито(в)та о(те)цъ Кестутій были у великои м(и)л(ос)ти и в ласце".

Яны скінулі з віленскага пасаду в. кн. Яўнуту і апавесьцілі вялікім князям Ольгірда. З многіх сваіх сыноў Ольгірд асабліва любіў Ягайлу, а Кестут Вітаўта

> „и нарекли при своихъ животе(х) што им быти на свои(х) мѣстѣ(х). на великы(х) княженья(х)".

Памер Ольгірд і вялікім князям стаў Ягайла. Кестутаднасіўся да яго прыхільна. Але сталіся падзеі, якія выклікалі змаганьне Ягайлы з Кестутам і яго сынам Вітаўтам, у выніку чаго сталася забойства Кестута і уцечка Ві-

таўта ў нямецкую зямлю. Далей апавядаецца аб хрышчэньні Ягайлы паводле абрадку „старого Рима“ і як ён паехаў у Кракаў

„въ ля(д)скую землю. тамо ся кр(с)тилъ. и бра(т)я его и м(н)ози бояре Лито(в)ское земли. и поня(л) за себе кроле(в)ноу Ядвигу (и) (к)орунова(н) того короле(в)ства короуною“.

Пасьля апавядаецца аб паўстаньні Полацкага князя Андрэя, аб падвакротным паўстаньні Смаленскага князя Сьвятаслава, і зьдзеках, твораных ім на праціўніках:

„хр(с)тианы не ч(е)ловечьскы мучиша... избирахоу бо и(х) и запирахоу. у свои(х) избахъ. и зажигахоу. а другыи великыи хра(м)ы очипы по(д)нимахоу. и х(рс)тіане по(д) стѣну главами кладахоу и зажигахоу. а иныи жоны и дѣти на колье тыкахоу“. (Віленскі сьпісак.)

Пасьля ізноў апавядаецца аб Вітаўце: аб яго змаганьні са Скіргайлам, адданьні дачкі Зофіі за Маскоўскага князя Васіля Дзьмітравіча, атрыманьні віленскага пасаду і аб паходах на Корыбута, Сьвідрыгайлу і Валадзімера Альгердавіча („Олельковіча“; Олелько — Александр). Пасьля ўстаўкі аб сьмерці Скіргайлы ў Кіяве, апавядаецца аб паходах Вітаўта на Смаленск. Затым ідуць апавяданьні аб новым паходзе Вітаўта на Смаленск, аб бітве з татарамі на рацэ Воркслe, аб міры са Смаленскам. Расказуецца аб праваслаўным саборы ў Новагарадку і выбары на мітрапаліта Новагарадзкага і „ўсей Русі“ Грыгора Цамблака. У некатарых сьпісках (прыкл. бібл. Красінскіх) памешчана апавяданьне аб Падольскай зямлі—як яна дасталася Літве і як ей валадалі да сьмерці Вітаўта. Аб зьезьдзе пануючых асоб на каранацыю Вітаўта ў Луцк і канчаецца повесьць пахвалай Вітаўту. Пасьля ідзе апавяданьне аб змаганьні Сьвідрыгайлы і Жыгімонта, аб бунце ў Смаленску і зазвычай канчаецца, кароткая рэдакцыя летапісу, дробнымі паштогоднымі запісамі.

Гэткім чынам кароткая рэдакцыя летапісу абыймае падзеі 1380—1446 г.г. Дзеля таго, што ў летапісе кароткай рэдакцыі Альгерд называецца бацькам караля, то паяўленьне гэтага летапісу многія адносяць на час, калі Ягайла стаўся ўжо каралём, г. зн. на 1386—1392 год.

Рэдакцыя гэта зложана з асобных апавяданьняў, рожных аўтараў, якія былі ачавідцамі перадаваных падзей. Гэта відаць з жывасьці апавяданьняў і тых драбніц, якія яны перадаюць, прыкл.: толькі блізкая асоба магла так апісаць уцекі Вітаўта з вязьніцы:

„Вито(в)гъ седѣ(л) оу Креве. оу комнатѣ за твердою сторожою. а жо(н)цѣ двѣ хо(ди)ли покладыва(тъ) кн(я)зя оу комнотоу. положивъ да вонъ идоу(т). а сторожи около. то пакъ великая княгині слыша(в). от людеи име(т) ли великы(и) кня(зь) Вито(в)гъ должеи сѣдѣти. аль па(к) также изгадають над нимь. какъ и на(д) о(т)цемь его. и пригадала ему так. ка(к) жонкы приидуть поклада(ть). ино ему одное жонькы порты. ускла(д)ши да выити вонъ изъ дроугою жонькою. а тои жонце остати у нее. оу которое по(р)техъ вышолъ. а такъ его наоучить. ї онъ такъ вдѣлаеть. да и споустился з города. и оутекъ з города въ Нѣмци и оу Прусы“. (Увараўскі сьпісак).

Хто злучыў усе гэты апавяданьні і злажыў кароткую рэдакцію—нет ведама. Цэнтральная асоба ў гэтай рэдакціі—Вітаўт, яму пасьвячана тут найбольш увагі і с такімі падробнасьцямі, якія маглі быць ведамы і цікавы толькі для яго і яго прыбліжаных.

Украінскі гісторык праф. М. Грушевський думае, што бацькаўшчынай, дзе запачаткаваны былі Літоўска-крыўскія летапісы, быў Смаленск. На гэта бытцам паказуюць ня толькі смаленскія запіскі, але і мяйсцовае смаленскае забарвленьне летапіснага апавяданьня і смаленская крыніца Пахвалы князю Вітаўту („Історія України—Руси", VI ч. II, бб. 356—362). М. Грушевський зьвярнуў такжа увагу на сьляды рытмічнасьці ў пахвале Вітаўту:

Мова кароткай рэдакціі занячышчана царкоўна-славянізмамі, што ў значнай меры можа служыць довадам на тое, што аўторства гэтай рэдакціі летапісу выйшла з рук духоўнай асобы, дзесь каля палавіны XV ст., бо сьвецкія граматы і акты тых часаў пісаны мовай значна бліжэйшай да народнай.

Абшырная, або распашыраная рэдакція значна рожніцца ад кароткай рэдакціі мовай, якая мяйсцамі саўсім прыбліжаецца да народнай, гэта паказуе, што распашыраная рэдакція гэтых летапісаў паўстала ў кругах сьвецкіх, добра навытараных у афіціяльнай пісьменнасьці вял. кн. Літоўскага. Відаць, скарыстаўшыся старэйшай кароткай редакціяй, кажа праф. Карскі, укладчыкі сабралі рожныя пагудкі, якія хадзілі сярод народу, асабліва паміж знатнымі фаміліямі і родамі, дапоўнілі гэта ўсё ведамкамі з другіх летапісаў (прыкл. Валынскай) і гэткім чынам паўстала пазьнейшая распашыраная рэдакція. Хоць ізноў такі ня выключана адваротная магчымасьць, што пасобныя літоўска-крыўскія гістарычныя пагудкі і запісі з Літоўска-крыўскіх крыніц трапілі ў Валынскую і другія рускія летапісі і што наша рэдакція паўстала саўсім незалежна ні ад рускіх летапісаў, ні ад кароткай рэдакціі.

Гэта рэдакція пачынаецца ад нараджэньня Хрыста:

„Сталося есть воплоще(н)е с(ы)на б(о)жьего от с(вя)тго д(у)ха зъ бл(агос)ловеное д(е)вици пр(е)ч(ис)тое м(а)рїи от поча(т)ку сотворенїа всего свѣта. лѣта пя(т)тыся(ч)ного пя(т)сотного два(д)цать шостого. оно(го) ча(с)у па(н)ство ри(м)ское. было пре(д) цесаре(м) августо(м). котори(й) иже не то(л)ко одному риму. але и всемоу свѣту панова(л)". (Крас. 227).

Пасьля вылічаюцца рымскія імпэратары да Нэрана, які быў:

„панъ окрутныи а невъставичный власную ма(т)коу свою. и докторя своего навышьшого своею рукою заби(л) бе(з) каждое причины. о смерть приправилъ".

Дзеля гэткага яго характару:

„не был нихто певенъ ани бе(з)пече(н) не толко имени. албо скарбовъ але и здоро(въ)я своего".

Падданыя кідалі сваю маетнасьць і уцякалі ў чужыя краі. Уцёк і адзін рымскі князь па імені Палемон, які быў Нэрану сваяком. Захапіўшы жану і пяцьсот знатных рымлянаў з семьямі іх і многімі людзьмі, яны паехалі на караблёх на захад, шукаючы мейсца для пасяленьня. З імі былі чатыры роды

шляхты: Китаўрасы, Калюмны, Рожи, Урги. Доўга яны плылі і ўрэшце дайшлі усьяў дзе рэка Нёман уліваецца ў „в море окиянъ“. Па гэтай рацэ падняліся да мейсца, дзе ўплывае ў яе Дубіса і тут пасяліліся і размножыліся. Гэты прыходні пабудавалі гарады. Па сьмерці галоўных князёў Кернус пашырыў сваю ўладу да Дзьвіны.

> „А в тот ча(с) где Керноу(с) панова(л) на Завілейской сторонѣ лю(ди) тыи его што за Вел(е)ю посели. игрывали на труба(х) дубасны(х). и прозва(л) то(т) Керноу(с) берегъ по вълоску. гдѣ ся лю(ди) его множать литоусъ а труба што на ни(х) играють тоуба. и далъ имя ты(м) люде(м) свои(м) по латыне... литоу(с)туба. то пакъ простые лю(ди) не вмели звати по латыне и почали звати Литва“...

Паходжаньне Літвы ад Рымлян большасьць сучасных гісторыкаў залічае да выдуманых казак, хоць ад XV і блізка да XIX ст. гэтага погляду трымаліся немаль усе польскія і літоўска-крыўскія вучоныя, якія хацелі блізасьцю да Рымлян вывыжшыць сваю націянальнасьць і даць магчымасьць літоўскай шляхце перавысіць польскую шляхту старадаўнасьцю сваіх родаў і гэрбаў. Першыя сьляды гэтай традыціі сустрачаем ужо ў летапісца Пятра Дусбурга (перад 1326 годам), які назову пpускай мясцовасьці Ромовэ, выводзіць ад Рыму (Romowe trahens nomen suum a Roma). Першы з гісторыкаў, каторы выказаў ясна погляд аб паходжаньні літвіноў ад рымлянаў, быў Кракаўскі біскуп Ян Длугаш (1415+1480), які будучы выхаваўцам дзяцей в. кн. і караля Казіміра ня раз бавіў у Вільні і быў азнаёмлены з мясцовай гісторыяй і гістарычнымі пагудкамі. Длугаш у сваей „Гісторыі Польшчы“ кажа, што Літвіны—гэта калёнія рымскіх выходцаў, якія прыбылі да берагоў Балтыцкага мора ў часе міжсобных войн Юлія Цэзара з Помпэям. На пацьверджаньне гэтай думкі ён дае два довады: а) падобнасьць веры літвіноў з верай паганскага Рыму; б) тожсамасьць назовы сьвятога месца ў Літвіноў „Ромовэ“ з назовай „Рым“.

Новачасная гісторыя, адкідаючы гэральдычную палеміку, саму істоту легенды лічыць праўдзівай у тым сэнсе, што ў Літву праз Нёман трапляли Скандынаўскія выхадцы, якія, праўдападобна, першыя заснавалі тут дзяржаўнасьць, і, магчыма, як усе заваёўнікі, далі сваю прыходную княжую дынастыю ды вярхі грамадзянства. Палемон-жа і яго паездка з Італіі на берагі Нёмана безумоўна прыдуманы, каб паказаць, што літоўская шляхта ня горш польскай. Асабліва ясна гэта выказана ў сьпіску Быхаўца, дзе паном літоўскім у вусны ўложаны гэткі сказ:

> „Lachowie ne byla szlachta, ale byli ludy prostyi, ani meli herbow swoich, y welikimi dary toho dochodyli w Czechow..., ale my szlachta staraja Rymskaja, kotoryi predki naszy, z tymi herby swoimi zaszli do tych państw“...

Гэткі погляд пацьвердзіў бытцам і сам рымскі цэсар. Такі стасунак да палякаў пачаў асабліва ярка выказывацца, калі апошнія сталі імкнуцца ўзалежніць Літву. Літоўска-крыўскае грамадзянства ўсімі сіламі старалася абараніць сваю незалежнасьць—і зброяй, і словам; згэтуль і цэнтральная асоба

ў летапісах Вітаўт, яркі выразіцель незалежніцкіх імкненьняў; згэтуль і той патрыотызм, які прасякае нашы летапісы.

Пасьля перасяленьня Палемона апавядаецца аб першых князёх літоўскіх да Нарымонта, аб Нарымонтавых сваякох і сыне яго Рыманце-Васілю „прозьвішо(м) Лавры(ш)", які заснаваў манастыр каля Навагорадка, аб змаганьні яго з Доўмунтам, аб князю Вітэне і аб Гедыміне. Урэшце падаецца легенда аб заснаваньні Вільні. Будучы на ловах над ракой „Вилнею", Гедымін забіў на Туравай гарэ тура і заначаваў тут. У ночы бачыў сон:

> „... што(ж) на горе, которую зывали Крывая а тепер Лысая стои(т) волкъ желѣзны(й) велики(й) а в не(м) ревуть як бы сто вилько(в)".

Прахапіўшыся Гедымін расказаў сон свой Ліздэйцы, свайму варажбіту, апошні зрабіў вывад, што на гэтым мейсцы стане вялікі горад, слава якога будзе далёка чуваць. Гедымін залажыў тут горад і перанёс сюды сваю сталіцу.

Апошнія запісі ў летапісах гэтай рэдакціі канчаюцца 1548 годам, што дало повад многім гісторыкам час паўстаньня гэтай рэдакціі адносіць на пачатак, або на першую палавіну XVI ст.

Аднак, высказаная дагадка можа быць прынята умоўна, ў тым значэньні, што паасобныя адрыўкі гэтай рэдакціі існавалі ўжо ў значна старэйшых сьпісках, сягаючых глыбока ў XIV ст.

Што датыча літэратурнай стараны літоўскіх летапісцаў, то яны маюць свой самаісты стыль, саўсім рожны ад Украінскіх і Вялікарускіх летапісаў. Нашы летапісцы складаюцца з асобных, саўсім закончаных і добра апрацаваных повесьцяў, часам саўсім без усякіх дат. Мова летапісаў прыгожая, сочная, а аддзельнымі словамі і сказамі прыбліжаецца да жывой гутаркі.

Літоўскія летапісцы шырыліся ня толькі ў в. кн. Літоўскім, г. зн. у Літве і Крывіі (Беларусі), але імі карысталіся вялікарускія і польскія гісторыкі. Длугош, Бельскі і асабліва Стрыйкоўскі бяруць з іх массу ведамак і нават аддзельных уставак. Хоць апошнімі часамі дасьледаваньне Літоўскіх летапісаў значна пасунулася наперад, але яшчэ дагэтуль няма пэраўнаўчай іх рэдакціі, не саўсім выясьнены крыніцы паасобных апавяданьняў і найменш выясьнены родаводы літоўскіх князёў.

Значнейшыя працы па дасьледаваньню нашых летапісаў адносяцца да XIX ст., з іх найбольш цэнныя:

И. Тихомировъ, „О составѣ западно-русскихъ, такъ называемыхъ литовскихъ лѣтописей" (Журн. Мин. Нар. Пр. 1901, март и май).

St. Smolka, „Najdawniejsze pomniki dziejopisarstwa Rusko-litewskiego" (Кракаў, 1889).

A. Prochaska, „Latopis Litewski Rozbiór krytyczny" (Львоў, 1899).

Staroniewicz, „O latopisach i kronikach ruskich XV i XVI wieku, a zwlaszcza o latopisie-„Welikoho kniażstwa Litowskoho i Żomojtskoho" (Кракаў, 1882).



В. кн. Ягайла, паводле старога партрэту (Беларускі музэй ім. І. Луцкевіча ў Вільні).

М. Грушевський, „Історія України-Руси“ VI ч. II.

I. Jakubowski, „Studya nad stosunkami narodowościowemi na Litwie przed Unią Lubelską“. У гэтай працы п. Якубоўскі спыняецца над легендай аб рымскім паходжаньні літоўскай шляхты і лічыць легенду штучным вытворам XV ст., якая была выклікана жаданьнем знайсьці Літве гэрбы і продкаў, не уступаючых годнасьцю Палякам.

# ЛѢТОПИСЕЦЪ ВЕЛИКОГО КНЗСТВА ЛИТОВЪСКОГ. И ЖОМОИТЪСКОГО.

*(Паводле сьпіску графа Рачынскага, перадрук з XVII т. „Полн. Собр. Русск. лѣтописей“. СПБ. 1907).*

Сталося естъ воплощене сына Божого от Духа святого з благословенное девицы чистое Марѣи от початку сотвореня свѣта лѣта пяттисечного пятьсотного двадцать шостого. Одного часу панство Рымское было под цэсаром Августом, которыи же не толко одному Рыму, ино и всему свѣту пановал, яко ж вышэй писано, иж часу цэсарства Августова сынъ Божыи воплотился, а часу Тивирѣя, цэсара второго по Августе на кресте волную муку прынял для збавеня и откупенья роду человѣческого, за которого ж Тивирѣе вси рѣчи и пророчэства пополнившы, по встани з мертвых вступилъ на небо и сѣлъ на правицы в Бога отца, отколе ж дня судного мает прыити судити жывых и мертвых и отдати кождому водле заслуги его.

По смерти Тивирѣя цэсара был цэсарэмъ Гаиосъ, а по Гаиосе—Клавдѣи, а по Клавдѣи царствовалъ сынъ его Нерон, которыи же Нерон былъ панъ окрутныи а невъставичныи, иж властную матку свою и доктора своего навышшого Сэнэку бэз кождое прычыны ку смерти прыправил и колко раз казалъ место Рымское запаливать, а ни для чого иншого, толко для того, иж бы ся тому дивовал а потѣху мѣлъ; а княжатомъ и паном Рымскимъ, шляхте и всему посполству крывды и втиски великие чынилъ, для чого ж всякии подданыи его для великого окрутенства и невставичности его не был нихто пэвэн а ни бэзпечонъ не толко имѣнеи албо скарбовъ, але и здоровя своего, а так многие, опускаючы имѣнья и скарбы свое, втекалися до розмаитых земель (ў рукап. „земль“), наслядуючы справедливого упокою.

Где жъ одно княжа Рымское именем Палемонъ, которыи же цару Нерону был кревныи, забрался зъ жоною, и з дѣтми своими, и с поддаными, и скарбы своими, с которым жо княжатем пят сот шляхты, также зъ жонамі и з дѣтмі и з многими силами, и взявши зъ собою одного астронома, которыи ся знал по звѣздах, и пошли у кораблех моремъ по заходу солнъца, хотечи собѣ знаити на земли мѣстце слушное, гдѣ бы ся мели поселити а мешкати с покоем. А с тыми шляхты чотыры рожаи навышшые имены именем: с Китаврус—Довспрунъкгъ, а с Колюмновъ—Прешпор, а з Руси—Ульянус, а з Рожъ Екъторъ. А такъ оные люди не малыи часъ по мору ходили, и прышли Межиземского мора, и дошли до реки до Шума, и тою рекою Шумою в море окиян, и морем окияномъ дошли до реки устья, где Немон

упадываеть у море окиян, и потом пошли рекою Немном у верхъ олиж у море Малое, которое называется море Немновое, а для тое прычыны тое море Немъновое называется, ижъ в тое море Немонъ упадываеть дванадцатма устьи, а кождое зоветься особным именем, межы которыми ж устьи одно зовется Кгилья. И пошли тым устьем у веръхъ и дошли цэлого Немна, гдѣ вже он сам увесь ув одномъ мѣстцу течеть, и верхъ Немна дошли до реки Дубисы, яко ж вшедъшы в тую реку Дубису и нашли над нею горы высокие и *на оных горахъ* (курсыў дададзены па Румянц. сьпіску) ровнины великие и дубровы роскошные и розмаитых объѳитостей наполнено у звѣрех розного рожаю, то естъ, напервеи туров, зубрев, лосеи, оленеи, сарнъ, рысей, куниц, лисиц, бѣлокъ, горностаев и иных розмаитых рожаевъ, и тэж у рекахъ великую оѳитость рыбъ непосполитых, ижъ не толко тые рыбы, которые ся в тых реках плодять, але множство рыб розмаитых а дивных прыходят з мора за тою прычыною, иж недалеко устье Немновое, гдѣ Немонъ у море впадываеть. Над которыми ж реками—над Дубісою, и над Немномъ, и над Юрою—там ся поселили и почали розможыватися и оное мешкане ихъ над тыми реками вельми ся имъ подобало. И назвали тую Землю Жомоить.

О княжати Палемоне и о трех сынох его.

Княз Палемон вродилъ трехъ сынов: старшыи Боркъ, а другии Кунасъ, а третии Спэра (ў Рум. сьп. „Истра"). Старшыи же сын Боркъ вчынил городъ на рецэ Юре. И зложоно имя того княжати посполъ з рекою: имя рецэ Юра, а княжати—Боркъ, и назвал тот замок Юръборкъ. А середнии сынъ Кунасъ прышол на устье реки Невяжы, гдѣ она впадываеть у Немонъ, и тут учынилъ городъ и назвалъ его именем своим Куносов город. А третии сын Спэра пошолъ далеи у пущу ко всходу слонца и, перешедъшы реку Невяжу и реку Святую и третюю реку Шырвинту, знашолъ озеро луками и розмаитымъ деревомъ украшено, где ж злюбившы и над тымъ озером поселилъся. И тое озеро именемъ своим назвал Спэра, и пановалъ многие лѣта, и былъ вельми ласкавъ подданым своим. И потом умер бэс плоду. И подданые его, милуючы его, и подле Рымского обычаю вчынили собѣ балъвана и назвали его Спэра на память его.

И потомъ оные люди, мешкаючы около него, и почали ему оѳеры чынити и за Бога его мѣти, и потом, коли тот балванъ сказилъся, и они тое озеро и мѣстцо хвалили и мѣли за Бога. И по немъ межы собою господара не мели и мешкали без пана.

По малых же часех умреть брат его, который мешкалъ на Юрборъку, не маючы детеи. И братъ его Куносъ озмет и тую часть, брата своего Борка и город Юръборкъ, и в тои части его будет пановати. И оное княже Кунос мѣлъ двух сынов: одного Кернуса, а другого Кгинбунта. И пануючы ему в земли Жомоитскои почалъся множыти и розшырати и выходити на реку Велю в землю Завельскую. И перешодъшы реку Святую вышеи, и нашолъ мѣсто вельми хороше. И сподобалося ему тое мѣстцо вельмі, тогды он там поселилъ сына своего Кернуса. И назвалося тое местцо по Кернусе—Керново.

А потом Кунус умре. И по немъ почнеть сынъ его Кернусъ пановати на всеи земли Завельскои по границу Латыгольскую и по Завельскии Брасълавль олиж по реку Двину. А брат его Кгинбунт на Юрборъку и на Кунусове и на всеи земли Жомоитскои. А в тот час, гдѣ Кернусъ пановал на Завельскои стороне люди его, тые, што за Велею осѣли, игривали на трубах дубасныхъ. И прозвал тот Керънус берегъ своим языкомъ властным по латыни литус, где ся люди его множат, а трубы, што на них играют,—туба. И далъ имя тымъ людем своимъ языком по латине, зложывшы берег с трубою,—литусба. И простые люди не вмели звати по латине и почали звати Литвою. И от того часу почали звати панство Литовское и множытися от Жомоити. И князь великии Кернусъ пановалъ на Литве, а княз Кгинбунтъ на Жомоити. И не малыи час пановали и жыли межы сьбою вов покои. И князь Кернусъ не мѣлъ сыновъ, толко одну дочку именем Пояту. И будучы он у старости своеи и не хотечы панства своего от дочки своее отдалити, и прынял до неи и зятем своим его вчынилъ собѣ с Китавруса именемъ своимъ Кируса сына Довпрункгова з Дявильтова. И сам умер, а по немъ начне княжыти на земли Литовскои тотъ зять его с Китаврус Кгирус А Кгинъбунтъ пануючы на Жомоити и умер, а сына своего Монтвила зоставить на князьстве Жомоитскомъ. И Монтвилъ много лѣтъ княжыл на Жомоити и мѣлъ двух сынов: одного Немоноса, а другого Скиръмонта. А въ иншых тых жэ называ: Викентва а Ердвила.

И часу панованья Монтвилова повстал цар Батыи и пошол на Рускую землю. И всю Рускую землю звоевалъ и князеи Руских постиналъ, а иншыхъ у полонъ повелъ и столецъ всее Руское земли город Киевъ зъжогъ и пуст учынилъ. А князь великии Киевскии Дмитръ, боечыся великое силы и моцы его, збѣгъ с Киева до города Чернигова и потомъ довѣдалъся, што город Киев сожжонъ, и вся земля Руская спустошона. И слышал, иж мужыки мешъкають безъ господара, а зовутся Другчане. И онъ собравшыся з людми своими и пошолъ ко Друцку, и землю Друцкую посѣлъ, и городъ Друческъ зарубилъ, и назвалъся великимъ князем Друцким. И в тотъ часъ доведался великии князь Монтвилъ Жомоитскии, иж Руская земля спустошона и князи Руские розогнаны. И онъ давшы воиско сыну своему Еръдивилу и послалъ з ним пановъ своихъ радъныхъ, напервеи с Колюмновъ Трумъпя, а другого з Уръсинов именемъ Эикъшыса, а третего з Рож именемъ Кгровжыса. И зашли за реку Велю, и потом перешли реку Немон, и нашли в чотырох миляхъ от реки Немна гору Красну. И сподобалося имъ, и вчынили на неи город, и назвали его Новгородок. И вчынил собѣ кияз великии в нем столец и назвался великим княземъ Новгородским. И пошедшы з Новагородка и зарубил город Городно, и потом пошол до Берестья и нашол Берестѣи, и Дрогичын, и Мельник от Батыя спустошоны и покажены. И он тые городы зарубил и почал на их княжыти. А потом умер кияз великии Монтвил Жомоитскии.

По немъ сѣлъ на великом княженьи Жомоитском Викент, а другии вышереченыи сын его Ердивилъ почнеть мешкати и пановати на Новегородцы и на тых вышеи реченых городех. И подавалъ паном своимъ, которые з

писмо на другое сведетельствуетъ и воедино ся згожаютъ, чорнымъ исправлены роздельне узриши. Совершися въ дому почтиваго мужа Якуба Бабича, наистаршего Бурмистра славнаго и великаго мѣста Виленского“.

Пасьля „мѣсяцеслова“ прыложаны устаў, на пяцідзесятніцу і на нядзелі ўсяго году Апосталаў і Евангелій чытаных у царквох, які займае 48 лістоў; на апошняй балоне сказана:

„Докончанъ есть сборникъ всемъ презъ цалыи годъ днемъ и святомъ, зачала Епистоламъ, Евангеліемъ собраны во едино мѣсто, доктором Франциском Скориною изъ града Полоцка“.

Выпіска з Апостала, раздзел 24. (Сопиковъ „Опыт. С. Р. Б.“ ч., I, бб. 16-18).

„О жалобѣ юже чинятъ Іоудеи напавла предъ Феликсомъ въкесаріи. павелъ отповедевъ имъ, идокесарася одозвалъ...

„Попятиже днехъ, сниде архиереи Ананія состарци и снекоимъ тертиломъ мовцею, ониже возвестиша владареви о павлѣ. Призвануже бывшу ему, началъ жаловати тертилъ глаголя. Понеже во многомъ упокои живемы тобою, имногыеся речи направуютъ языку нашему промышленіемъ твоимъ, везде и всуду, приемлемы то совсякимъ благодареніемъ, вседержавныи Феликасе. но данепаче тружаю тебе, молю послухати насъ вократце своею кротостію“.

ПОСЛАННІЯ :~



еконаня є сиа книга зовемая апостол, еже замыкае всобе наиперьвеи деяния апостльская • Потомъ посланнеи светыхъ апостолъ, соборныхъ седмъ :~ Таже епистолъ светого павла ді :~ Лѣта понарожении нашего спасителя Ісуса Христа сына божиа • тысещнаго, пятьсотнаго, Идвадесеть пятого • Мѣсеца марта :~ Придержании наяснейшего господаря Жикгымонта Казимировича, Короля полского • И великого князя Литовьскаго, И рускаго, И жомоитьскаго И иныхъ • Во славном мѣсте виленском выложена, и вытиснена • Працею и великою пилностию • Доктора франциска скорины сполоцка :~ Богу вотроици едному • И пречтои матери его марии, совсеми светыми кочьти • И людем посполитымъ кдоброму наученню :~

Апошняя балона Апостала, друкаванага ў Вільні ў 1525 г.

Падобна як у гэтай выпісцы, так і ва ўсім Апостале надпісаньне зьместу ліста, друкавана стара-крыўскай мовай, а сам тэкст Апостала па славянску з некатарымі толькі папраўкамі слоў славянскіх мала або і саўсім незразумелых чытачом.

„МАЛАЯ ПОДОРОЖНАЯ КНИЖИЦА“. Друк Ф. Скарыны ў Вільні 1525 г. У гэтай кніжыцы Скарына зьмесьціў Псалтыр, Часословец, Акаѳисты, Шестодневец, Кароткія сьвятцы і Пасхалію. Псалтыр з „Подорожнай книжицы“ быў адціснуты і асобнай кніжкай. У гэтым, так сама як і ў папярэдніх выданьнях, пасьля кождага аддзелу маюцца прыпіскі аб тым, што даную кнігу ці часьць яе перакладаў і друкаваў Ф. Скарына, прыкладам:

„Доконан естъ акаѳістъ чесному кресту гсдьню, працею и пилностию доктора франциска скорины сполоцка града“.

Безумоўна, найвялікшай постацьцю гісторыі нашай пісьменнасьці зьяўляецца Доктар Францішак (Францішк) Скарына; першы чалавек з вучоным тытулам доктара на ўсходзе.

Родам ён быў „з слаўнага места Полацка“, са старой калыбкі крыўскай культуры, дзе яшчэ ў XII стагодзьдзі пісаліся і перапісываліся кнігі, а пазьней істнавалі, „лаціна-грэцка-рускія“ школы, і, ўрэшце, ад 1580 году Акадэмія.

Скарына называе сябе ў сваіх кнігах, „русіном“, „рускім“: „нароженый въ рускомъ языку“ (ў прадмове да кніг Даніэля), сваю дзейнасьць пасьвячае „своей братии Руси“, сваю Біблію называе: „Бивлія руска выложена докторомъ Францискомъ Скориною... богу ко чти и людем посполитым к доброму научению“. Гэта усё пакаузе, што Скарына абычаем таго часу, не аддзяляў народнасьці ад веравызнаньня. Для ўсіх яго сучасьнікаў „руская вера“ была адначасна „руским языком“ і процістаўлялася шыранай у тыя часы Ягельлёнамі „нямецкай“, або „ляцкай“ веры і штораз больш наплываўшаму ў край „ляцкому языку“.

Францішак Скарына дае ў рукі народу „працею і стараньем“ сваім, Біблію на мове таго народу, з якога сам выйшаў: „иже мя милостивы Бог съ того языка на свет пустил“ (ў прадмове да Псалтыра).

Нажаль гэтага эпохіяльнага мужа не спрамагліся ацаніць яго сучасьнікі. Духавенства сьлепа трымалася „сьвятой“ царкоўнай славяншчыны і з падозрывасьцю глядзела на вялікага значэньня нацыянальную дзейнасьць Скарыны, ня менш варожа адносілася да скарынаўскіх пачынаньняў і лацінскае духавенства. Словам праца Скарыны не была сустрэчана прыхільна між сваімі.

З дайшоўшых да нашых часаў актаў можна бачыць, што сямья Скарынаў прыналежала да заможных Полацкіх мяшчан-купцоў. Радзіўся Скарына каля 1485 году і быў хрышчоны імем Юрья (Георгій). Пачатковую асьвету атрымаў ён дома, пад бацькаўскім вокам і паводле старасьвецкіх традыцый свайго народу. Вучыўся мабыць на Псалтыру, які паводле яго слоў: „детем малым початок всякое доброе науки“.

Кончыўшы школы ў сваім родным крывічанскім Полацку, здольны хлапец рваўся да вышэйшых навук. Бацька яго, Лукаш, паслаў яго ў кракаўскі унівэрсытэт. Тагочасны Кракаў меў значную крыўскую калёнію, бо пасля жанідзьбы Ягайлы с польскай каралеўнай Ядвігай, найчасьцей Вялікі Князь Літоўска-Рускі (Крыўскі) быў адначасна і каралёмъ Польскім, а знача, мусіў пражываць і ў Кракаве, а пражываючы там, меў сталую канцэлярыю для

спраў В. Кн. Літоўскага з выдатнейшых літоўскіх і крыўскіх дзеячоў. У самым Кракаве была ў тыя часы „руская" царква.

У 1504 годзе, заплаціўшы 2 грошы ўступнога, запісаўся Скарына студэнтам на філёзофскі факультэт. У унівэрсытэцкія кнігі запісалі Юрья Лукашавіча Скарыну на лацінскі лад: Franciscus Luce de Polecko, прыданым яму імем Франціш, а ня Юры. Сярод тагочасных кракаўскіх прафэсараў быў выдатны вучоны Ян Глоговчык (1507), які раней (1490—1492) быў вучыцелям у князя Івана Гашталда ў Вільні. Аб гэтым Глоговчыку гісторык Сымон Старавольскі перадае, што ён пераклаў Біблію на „рускую" мову, гэта знача, —на мову, якой гаварылі і пісалі ў В. Кн. Літоўскім. Мабыць гэты Глоговчык выклікаў у Скарыны любоў да кнігі і наклаліў яго да працы над перакладам Бібліі на агульна зразумелую мову.

У 1506 годзе Скарына атрымаў на філёзофскім факультэце кракаўскага Унівэрсытэту вучоную ступеню бакаляра. Але, акром філёзофіі, Скарыну цікавілі багаслоўе і мэдыцына. Мэдычнага факультэту ў Кракаве ня было, і Скарына павінен быў шукаць гэтай веды ў другіх унівэрсытэтах на заходзе Эўропы. Шэсьць гадоў ён недзе вучыўся, але дзе, дагэтуль невядома. Есьць пашлякі, што быў на Пражскім унівэрсытэце, што бываў у нямецкіх гарадох. За гэтыя шесьць гадоў ён здабывае сабе яшчэ адну вучоную ступеню доктара.

У лістападзе 1512 году прыбыў Скарына ў Італію, ў горад Падую, які славіўся на ўвесь сьвет у тыя часы сваім мэдычным факультэтам. Прыбыўшы ў Падую Скарына стануў перад віцэ-прыорам доктарам Тадэушам Мусаті, які ацаніў здольнасьці Скарыны і заапекаваўся ім. У гэтым часе Скарына быў у вялікім недастатку, бо бацька яго, Лукаш, памер, і малады вучоны ня меў чым заплаціць нават за доктарскі экзамен. Памог яму ў трудным палажэньні доктар Мусаті.

Таго-ж 1512 году, 5 лістапада, на 5-ю гадзіну па палудні, склікаў выцэ-прыор Др. Мусаті паседжаньне мэдычнага факультэту ў касьцеле Сьв. Урбана. На паседжаньні Мусаті спавесьціў, што з дужа далёкіх краёў прыбыў у Падую нязвычайна вучоны, але бедны маладзён, які ўжо мае ступеню

Молитва по акафістѣ :~
Збавителю нашъ гдии Ісе Хрте вняту
та на кресте вислащя, для превеликое ми
лости юже имѣлъ еси к роду человеческому
главу имаши наклонену, хотячи всех на
молитвы выслухати. Серце имаши отво
рено, хотячи ласку свою всемъ дати. Ру
це имаши розтагнены, хотя всехъ к собѣ
пригорнути. Нозе имаши пригвожжены хо
тячи всегда съгрешными быти, нынѣ молю
тися пре горкое ради смерти твоея, и честия
годля креста твоего, услыши и приими
молитвы моя, и подавми ласку свою, и
пригорни мя к собѣ, и буди при мне въ часъ
страшное и горкое смерти моея аминь :~

Доконанъ естъ акафістъ чесному
кресту гдню, працею и пилностию докто
ра франциска скорины с полоцка гдя ~

Апошняя балона з „Малой падарожнай кніжыцы" Ф. Скарыны, друкаванай у Вільні, ў 1525 г.

доктара навук (eximus artium doctor Franciscus gn. Domini Lucae Scorina de Polocko Ruthenus) і просіць пазволіць яму экзаменавацца бязплатна (de gratia speciali ad amore Dei). Пасьля прамовы прыора на паседжаньне быў паклікаены сам Скарына, і ён сам асабіста горача прасіў прафэсароў пазволіць яму бязплатна (amore Dei) трымаць экзамены на доктара мэдыцыны. Паседжаньне вырашыла справу ў карысьць Скарыны.

У суботу, 6 лістапада, ў тым-жа касьцелі пачаліся ўступныя экзамены Скарыны перад 14 прафэсарамі мэдычнага факултэту. Гэтыя экзамены вытрымаў Скарына сьветна і аднагалосна быў дапушчаны да доктарскіх экзаменаў. 9-га лістапада, ў аўторак, сабралася ўся мэдычная калегія падуанскага унівэрсытэту ў біскупскі палац, у ліку 24 асоб, і, пад прадседацельствам вікарнага біскупа П. Забарэльлі, пачаліся выспыты Скарыны. Усе прафэсары задавалі яму пытаньні, ўсім Скарына адпавядаў надзвычай разумна і сьветла бараніў свае думкі. Ўрэшце Скарына аднагалосна быў прызнаны годным ступені доктара мэдыцыны і гэту годнасьць атрымаў з рук прафэсара Бартламея Борызоні. З гэтага часу Скарына да свайго подпісу зазвычай дадае: „в наукахъ вызволеныхъ и в лекарствахъ докторъ“, або: „в лекарскихъ наукахъ докторъ“.

Дабыўшы вышэйшыя навуковыя ступені, Ф. Скарына вярнуўся на бацькаўшчыну; тут ён пазнаёміўся з тагочаснымі краёвымі грамадзкімі дзеячамі і братчыкамі, пабываў у Вільні, тагочаснай сталіцы В. Кн. Літоўскага, пераняўся мясцовымі злыбедамі і пастанавіў пасьвяціць сябе прасьветнай працы. У той час у нас вельмі адчуваўся недахват поўнай Бібліі, так патрэбнай для царкоўнага і дамовага чытаньня. Тое, што было перакладзена, не станавіла поўнасьці і траплялася ў злых паперакручаных сьпісках і то найчасьцей у чужой, малазразумелай баўгарскай, царкоўнай мове. І Скарына задумаў перакласьці ўсю Біблію і выдрукаваць яе. Гэта на тыя часы быў вельмі сьмелы крок, бо славянскія народы толькі што яшчэ знаёміліся з друкарскай справай.

Дзеля таго, што ў родным яго Полацку ня было спрыяйных варункаў, а ў Кракаве, дзе ён атрымаў вышэйшую асьвету, друкаваньне славянскіх кніг, распачатае Фіолям у 1491 годзе, было спынена дзякуючы цемнаце і фанатызму тамтэйшага духавенства, то Скарына, сабраўшы патрэбныя старыя рукапісы, паехаў у Прагу („старое место Пражское“). Прага маніла да сябе Скарыну таму, што там, у тыя часы, была поўная рэлігійная свабода, і ён спадзяваўся, што яго ня сустрэне доля Фіоля.

Асеўшы ў Празе, Скарына сарганізаваў друкарню і ўзасобіў яе літарамі, зробленымі паводле рысунку тых старых рукапісаў, якія вывез з роднага краю. Скарынаўскія літары адтвараюць лепшыя пробкі стара-крыўскага—Полацка—Смаленска—Тураўскага—кірылаўскага пісьма, выстылізаванага ў цэнтрах крыўскай асьветы. Прыгатаваўшы ўсё патрэбнае да друкарні, Скарына ў 1516—17 г.г. прыступіў да друкаваньня сваіх кніг, пад агульным агалоўкам: „Бивлія руска выложена докторомъ Францискомъ Скориною из славнаго града Полоцька богу ко чти и людемъ посполитымъ к доброму научению“.



Пачатныя літары з друкаў Ф. Скарыны.

У гэтай вялікай справе дапамагалі Скарыне матэр'яльна Полацкія і Віленскія мяшчане і грамадзкія дзеячы, як віленскія бурмістры Багдан Аньковіч і Якуб Бабіч.

Кнігі друкаваў Скарына некатарыя на царкоўна-славянскай мове (Псалтыр, Апостал), а іншыя на тагочаснай нашай літэратурнай мове. Псалтыр і Апостал былі вельмі пашыраны, дык Скарына агранічыўся толькі рэдакцыйнай папраўкай тэксту і дадаткам тлумачэньняў у крыўскай мове, а также памешчаньнем на белягох кнігі слоў, незразумелых для чытачоў. Другія кнігі Бібліі, менш пашыраныя і вядомыя толькі ў адрыўках, ён дапоўніў і прарэдагаваў, а некатарыя кнігі пераклаў нанова, карыстаючыся старымі рукапісамі, лацінскім тэкстам і тэкстам чэскай Бібліі, якая была надрукавана ў 1506 годзе.

Прычыны, чаму ён падняўся адпавядальнай і труднай працы, даць пераклад сьвятога пісьма ў роднай мове, Ф. Скарына тлумачыць патрыотычнымі мяркаваньнямі:

„найболѣе съ тое причины, иже мя милостивы Богъ съ того языка на свѣтъ пустилъ“.

А также мяркаваньнямі грамадзкімі, бо:

„Не толико сами собѣ нарождвомся на свѣтъ, но болѣе ко службѣ Божіей и посполитого доброго“.

Сваю любоў да народу „посполитого“ і да роднага краю, так абасновуе:

Понеже отъ прироженія звѣри, ходящіе въ пустыни, знають ямы своя; птици летающіе по воздуху, ведають гнѣзда своя, рыбы, плывающіе по морю и по рѣках, чують вири своя, пчелы и тым подобная боронять ульевъ своихъ,—такожъ и люди игдѣ зродилися и ускормлены суть по Бозѣ, къ тому мѣсту великую ласку имають“.

Погляд Скарыны на значэньне кніг сьвятога пісьма ня толькі рэлігійны. Ен шукае ў іх ня толькі Боскай, але і жыцьцёвай мудрасьці. Гэтак у прадмове да кнігі „Премудрости Ісуса сына Сирахова„ Скарына кажа:

„Елико кратъ в неи будеши чести, по каждомъ чтении нового нѣчто научишся, чего-жесь предъ тымъ не умѣлъ. Вся бо Соломонова и Аристотелева, божественная и житейская мудрость въ сеи книзѣ краткими словы замкнена есть. Прото жъ и я для похвалы Божіей и для посполитого доброго и размноженія мудрости, умѣния, опатрености, разуму и науки приложилъ есмъ працу выложити книгу сию на руский языкъ“.

Сьвятыя кнігі, як тлумачыць Скарына:

> „... пожитечны суть всякому человѣку, мудрому и безумному, богатому и вбогому, младому и старому, наболѣи тымъ они же хотятъ имѣти добрые обычае и познати мудрость и науку“...

Трэба толькі патрапіць знайсьці гэтую мудрасьць і навуку, тым больш што яна часта бывае захавана ў прыповесьцях („притчахъ“), якія:

> „...иными словы всегда иную мудрость и науку знаменують, а иначеи ся разумѣють, нежели молвлены бывають, и болши во собе сокрытыхъ таинъ замыкають, нежели ся словами пишуть. Естъ бо въ сихъ причтахъ сокрита мудрость, якобы моцъ во драгомъ камени, и яко злато въ земли, и ядро въ орѣху. Кто ю знаидеть сеи знайде(т) и достанеть благословенія отъ Господа. И приидетъ къ нему все доброе пospолу съ нею“...

Кажучы аб навуцы Скарына разрожнівае навуку боскую і навукі сьвецкія, якія ён у свой чарод дзеліць на практычныя і адарваныя (абстрактныя). Да ліку першых ён залічае прыродазнаўства, важнасьць якога даводзіць сьв. пісьмомъ. Скарына адзначае, што кніга прыповесьцяў Саламонавых, зьмяшчае:

> „размолвение о прироженіи древъ и былинъ, звѣреи, птиць, гадовъ и рыбъ“.

Кіруючыся гэткім поглядам ён карыстае с кождага здарэньня каб у сваіх тлумачэньнях даць памагчымасьці больш гэткіх тлумачэньняў з гісторыі, географіі і інш. Гэтак, успамінаючы аб Ханаане і Іудэі, Скарына дае географічнае апісаньне Абяцанае зямлі. Кнігу Юдыт ён пачынае кароткім нарысам аб царствах стараветнага ўсходу: Асырыйскім, Мідыйскім і Пэрсідзкім.

Адарваныя навукі называе Скарына „вызволенымі“, якіх налічае сем, і ўсе яны бяруць свой пачатак у Бібліі:

> „Ту наученіе седьми наукъ вызволеныхъ достаточное“.

Першая з вызваленых навук

> „граматика или поруски говорячи грамота“;

для навукі яе павінен служыць Псалтыр.

Да навукі

> „лоики, она же учить з доводомъ разознати правду отъ кривды, чти книгу Іова, или посланія Апостола Павла“.

Кніга Іова асабліва карысна і:

> „всякому человѣку потребна чести, понеже естъ зерцало житія нашего, лекарство душевное, потѣха всѣмъ смутнымъ, наболѣи тымъ, они же суть въ бѣдахъ и въ немоцахъ положены. Протожъ я, Францишекъ Скорининъ сынъ з Полоцка, въ лекарскихъ наукахъ докторъ, знаючи сее, иже естъ наивышшая мудрость размышленіе смерти, и познаніе самого себе, и вспоминаніе на пріидущіе речи, казалъ есми тиснути книгу сію“.

Далей:

> „Аще ли же помыслиши умѣти риторику, еже есть красномовность, чти книги Соломонавы. А то суть три науки словесные“—(г. зн. граматыка, лёгіка, рыторыка).

Хто хоча навучыцца „музыки, то естъ пѣвници“, прыгодна ўся Біблія:

„премножество стиховъ и пѣснеи светыхъ по всеи книзѣ сеи знаидеши“,

а асабліва ў Псалтыры і Песьні-песьняў.

„Любо ли ти естъ умѣти аритметику, ежо вократцѣ а неомылне личить учить, четвертыи книги Моисеевы часто чти“,

бо яны зьмяшчаюць лік пакаленьняў юдэйскіх“.

„Пак ли же имаши предъ очима науку геометрію, еже по руски сказуется землемѣріе, чти книги Ісуса Наувина“,

дзе гаворыцпа аб падзеле Абяцанай зямлі паміж юдэйскімі пакаленьнямі.

„Естъ ли астрономіи, или звѣздочети,—наидешъ на початку книги сее (Бібліи) о сотвореніи солнца и мѣсеца, и звѣздъ; наидешъ во Ісусѣ Наувинѣ, яко стояло солнце на единомъ мѣстѣ за цѣлыи день. Знаидешъ во книгахъ Царствъ, иже солнце поступило неколико ступневъ. Знаидешъ во светомъ Евангеліи о новостворенои звѣздѣ часу нароженія нашего Спасителя Ісуса Христа.

Але пры гэтым Скарына зазначае:

„Болѣе воистину чудитися превеликой Божіеи моци мусишъ, нижли учитися“,

і канчае гэту частку словамі:

„А то суть седмъ наукъ вызволеныхъ“.

Паняцьце аб сямі вызволеных навуках бадай што Скарына першы занёс у крыўскія землі. Некатарыя з гэтых навук, асабліва першыя тры, сталіся ў наступным стагодзьдзі астоямі школьнай схолястычнай асьветы і азнакай адукаванасьці. Але акром вызволеных навук, Біблія, здаецца Скарыне карыснай і для тых, хто жадае азнаёміцца з:

„законами и правы, ими же люде на земли справоватися имають“.—„Ту справа всякого собранія людского и всякого града, еже вѣрою, соединеніемъ ласки и згодою посполитое доброе помножено бываеть“.

Урэшце Біблію можна разглядаць як крыніцу гістарычных навук:

„Аще ли же коханіе имаши вѣдати о военныхъ а о богатырскихъ дѣлехъ, чти книги Судеи или книги Махавеевъ; болѣе и справедливѣе въ нихъ знаидешъ нежели во Александріи или во Трои. Пакъ ли же вократцѣ свѣдати хощеши много тысещеи лѣтъ лѣтописецъ, чти книги Паралипоменона“.

Гэты гістарычна-літэратурныя увагі ў вуснах нашага кніжніка вельмі цікавы, бо дзякуючы ім выяўляюцца тагочасныя літэратурныя традыцыі і уплывы. Успамін яго аб былінах і сярэднявечных Заходна-эўропэйскіх рыцарскіх аповесьцях сьведчыць, што яны былі агульна вядомы ў нас у скарынаўскія часы (Павыжшыя выпіскі ўзяты с праф. Янчука „Нарысы па гісторыі бел. літ.“, Менск, 1922).

Між 1520 і 1525 годам Ф. Скарына з невядомых прычын пераносіць сваю друкарню ў Вільню, а такжа свае друкі і рукапісы.

Польскія гісторыкі К. Мацеевіч і Вішнеўскі („Historija literatury polskiej“ M. Wiszniewskiego, т. VIII, б. 478) кажуць, што калі вязьлі скарынаўскую Біблію с Прагі ў Вільню, то многа экзэмпляраў яе прапала па дарозе. Прапажа гэта сталася гэткім парадкам: Скарына вяртаючыся ў 1525 годзе с Прагі

пабываў у Вітэнбэрзе, дзе тады выступаў Лютар супроць папежа. Каталікі з гэтай прычыны абвінавацілі Скарыну што ён мае стасункі з Лютарам. Скарыну арэштавалі пад імем „Францішa с Польшчы“ і засудзілі на спаленьне. Скарына здолеў апраўдацца і вярнуўся ў Вільню, але заарэштаваныя інквізыціяй кнігі былі сканфіскаваны і праўдападобна спалены.

У Вільні наладжывае сваю друкарню Скарына ў доме віленскага бурмістра Якуба Бабіча. Дом гэты, паводле мяйсцовай традыціі, знаходзіўся недалёка ад ратуша, каля „Інбараў“, але ў каторым з істнуючых тут дагэтуль старасьвецкіх дамоў памяшчалася друкарня Скарыны, напэўна невядома. У Вільні, каля 1529 году, Скарына ажаніўся з Магарэтай (Маргарытай) ўдавой па Юр'ю Адзьверніку, які быў віленскім дамаўласьнікам. Жонка прынясла ў пасаге Скарыне ўласны дом у Вільні, аб якім таксама няведама, дзе ён быў.

У Вільні, каля 1525 году, выдае ён „Апостол“ і каля таго-ж часу“ Малую подорожную книжицу“. Але скарынаўская друкарня ў Вільні не працуе так энергічна, як у Празе: пасьля выпуску гэтых двох кніжак, невядома яшчэ дагэтуль, ці было што ў яго друкарні тут надрукавана. Магчыма, што па надрукаваньні Бібліі, Скарына заняўся падгатоўкай новых рукапісаў да сваей друкарні, і гэтым тлумачыцца перарыў у яго працы. Але, вось, у 1530 годзе вялікі пажар зьнішчыў дзьве трэцьція часьці Вільні, і ў гэтым пажары была зьнішчана скарынаўская друкарня, а, магчыма,—разам надрукаваныя і не распрададзеныя яшчэ кнігі і прыгатаваныя да друку рукапісы.

Год сьмерці Скарыны невядомы, але яшчэ ў 1535 годзе ён жыў.

Сьв. пісаньне ён друкаваў, па магчымасьці, на зразумелай для народу мове. Ен не адважаецца яшчэ перайсьці на чыста народную гутарку, ў мове яго яшчэ многа баўгарызмаў у слоўніцтве і ў формах, але усё-ж такі ў аснову паложана народная крыўская (беларуская) мова з тымі асобнасьцямі, якія характэрызуюць старакрыўскую літэратурную мову. Часьцю гэта быў консэрватызм самога Скарыны, а часьцю прымушалі яго да гэтага аб'ектыўныя варункі: народная мова тады яшчэ ня была вывучана. Скарына і так зрабіў больш, чым можна было: ён унёс у сваю Біблію многа чыста народных слоў. Падходзячы, на сколькі пазваляў тагочасны стан моваведаньня, да народнай мовы, ён і так перарос сваё грамадзянства на цэлае стагодзьдзе.

Біблія Скарыны была другой друкаванай Бібліяй (пасьля чэскай) ў славянскіх мовах і на дзесяткі гадоў папярэдзіла пераклад Бібліі на маскоўскую і польскую мову.

Выданьні Скарыны вызначаюцца яшчэ мастацкай стараной. Новыя аддзелы яго кніг і агалоўкі аздоблены рысункамі і асобнымі прыгожымі літарамі ў рамках ды застаўкамі. Кнігі маюць дрэварыты, якія, акром прыданьня аздобнасьці кнігам, кіруюцца яшчэ мэтаю, паводле слоў самога Скарыны: „абы люди посполитыя, чтучи могли лепей разумети“. Аб рысунках Скарыны, расійскі бібліограф Стасаў кажа: „ў Апостале загалоўныя літары, гэрб Скарыны і манаграма з літарай Т выкананы так дасканальна, з гэткім дзіўным смакам, што перавышаюць ўсё вырытае ў падобным выглядзе ў Бібліі“. А гэты Апостал друкаваўся ўжо ў Вільні. Пад крыптонімам Т скрываецца адзін са спатужнікаў Скарыны, хтокольвечы з крыўскіх тагочасных мастакоў.

Друкарская праца Ф. Скарыны мела аграмадны ўплыў на развіцьцё друкарства ня толькі ў нас, але ў Масковіі і Украіне, а ласьне праз тое, што Скарына пакінуў пасьля сябе добра навытараных у друкарстве сваіх вучняў.

Каля 1560-х гадоў, не без супрацоўніцтва скарынаўскіх вучняў, пры бліжэйшым удзеле братоў Кавечынскіх, Крышкоўскага і Сымона Буднага паўстае друкарня ў Несьвіжы, якая ўжо ў 1562 годзе выдае катэхізіс.

У Несьвіжы ў гэтым самым часе былі прыгатаваны літары для першай друкарні ў Маскве, яшчэ перад выданьнямі Івана Федарава. Сьлед гэтай друкарні захаваўся ў адным так званым анонімным Евангельлі, надрукаваным у Маскве каля 1560—62 году, літары якога аднастайны с Несьвіжскімі, сустрачанымі ў выданьнях Сымона Буднага („Книга въ России“, Масква, 1924, ч. I, б. 66—68). Дужа праўдападобна, што памянёнае анонімнае Евангельле, як і пазьнейшы Псалтыр 1564 году, друкаваў „адзін з майстроў Ф. Скарыны, які прыйшоў у Маскву з Вільні“ („Истор. Славян. литерат.“ Пыпін і Спасовіч). Праўда Апостал надрукаваны ўжо іншымі літарамі, якія патвараюць рукапісны полуустаў, але гэта зразумела, калі прыняць пад увагу, што літары першай друкарні „былі знішчаны дзеля забабоннасьці“. Дый і новы шрыфт не памог нашаму піонэру друкарства ў Маскве: і другая друкарня была разгромлена, а друкары ратаваліся уцечкай у крыўскія землі.

Што анонімнае Евангельле было друкавана скарынаўскімі літарамі ў Маскве, упэўняе нас Васіль Цяпінскі, які друкаваў сваё Евангельле ў 1570 годзе, ў прадмове да апошняга ён ссылаецца на „Евангельле Московское недавно друкованое“. Аб залежнасьці маскоўскага друкарства ад нашага сьведчаць сучасьнікі Флетчэр і Поссэвін („Книга въ России“, ч. I, б. 68—69). Зьвязь гэту сукосна сьведчыць также і тожсамасьць паперы ў Маскоўскіх і нашых друках.

Петр Мсціславец і Іван Фёдараў уцёкшы з Масквы, ўжо ў 1568 годзе, паявіліся ў Заблудаве, дзе коштам гэтмана Грыгорага Хадкевіча надрукавалі Евангельле. Каля 1570 году Петр Мсціславец выехаў у Вільню, а яго вучань Іван Фёдараў пераехаў аж у Львоў.

У Вільні, каля 1575 г., Петр Мсціславец друкуе некалькі богаслужэбных кніг, для якіх быў вырэзаны спэціяльны шрыфт, каторы служыў прыкладам для пазьнейшых маскоўскіх друкарань.

Каля 1570 году Васіль Цяпінскі друкуе сваё Евангельле літарамі па стылізацыі падобнымі да несьвіжскіх, якія ў свой чарод адтваралі літары скарынаўскай друкарні.

У 1580 годзе Іван Фёдараў, коштам князя Астрожскага, друкуе ў Астрагу кнігі, між іншым Біблію. Як львоўскія выданьні Івана Фёдарава, так і Віленскія Пятра Мсціслаўца маюць у сабе шмат чаго перанятага з друкаў Скарыны. Асабліва Астрожская Біблія перапоўнена ініцыяламі і застаўкамі запазычанымі з выданьняў Скарыны, а також мае літары з віленскіх друкарань (агаловак тытуловай балоны). Другое выданьне Астрожскай Біблії, якое было выпушчана ў 1581 годзе (12 жніўня), мае яшчэ больш віленскага шрыфту.

Адначасна з Астрожскай друкарняй была ў Вільні адкрыта ў 1580 годзе друкарня Мамонічаў, у друках якой відаць сільныя скарынаўскія ўплывы.

Яшчэ большыя скарынаўскія ўплывы відаць на друках выданых у Еўю (каля Вільні). Евейская друкарня пачала працаваць у 1611 годзе.

У самым пачатку XVII ст. была адкрыта друкарня ў Дерманскім манастыры (Валыншчына). Шрыфт прыгатаваны нарочна для гэтай друкарні, але пад уплывам Астрожскай Бібліі і Евангельля Цяпінскага.

Другая валынская друкарня ў Угорцах, пачынае працаваць, магчыма, з 1611 году. Шрыфт і застаўкі выказуюць скарынаўскі ўплыў.

У Галічыне ў дварэ Страціна, каля 1604 году, адкрыў друкарню Балабан; на застаўках і рысунках відаць уплыў віленскіх і львоўскіх друкарань.

У 1617 годзе паяўляецца друкарня ў Кіяве; мяркуючы паводле літар і рысункаў сюды была перанесена друкарня Балабанаў са Страціна.

У 1628 годзе, працуе ў Кіяве магілеўскі мяшчанін Сьпірыдон Собаль. У 1630 годзе пераязджае ён са сваей друкарняй у Кутэйнскі манастыр, а ў 1635 годзе засновывае новую друкарню ў Буйневіцкім манастыры (абодвы манастыры каля Магілева). Кутэйнская друкарня ў 1655 годзе, ў часе акупаціі Масковіяй краю, была разам з манахамі вывезена ў Іверскі Манастыр (каля Ноўгарада), дзе выдана было кутэйнскімі манахамі некалькі кніг, гэткім чынам скарынаўскія ўплывы сягнулі праз Магілеў аж у зямлю Вялікага Ноўгараду.

С павыжшага агляду мы бачым, што ўплыў Ф. Скарыны абыймаў ўсю усходную славяншчыну. Пад уплывам Скарыны і яго друкаў засновуецца друкарня сьпярша ў Несьвіжы, згэтуль перадаецца ў Маскву, але не прынятае, дзякуючы цемнаце, друкарства з Масквы вяртаецца назад у Крыўскія землі і абасновуецца яно ў Заблудаве. З Заблудава ідзе на Львоў і Астрог, Дэрмань, Угорцы, Страціна, Кіяў. На пару гадоў пазьней Заблудоўскай працуе друкарня Цяпінскага, а адначасна з Львоўскай працуе Віленская друкарня Мсціслаўца, пазьней Мамонічаў, урэшце Евейская, Кутэйнская, Буйневіцкая, Магілеўская і др.

Акром таго друкаваныя выданьні Скарыны перапісываліся. Захавалася некалькі рукапісаў, якія маглі быць перапісаны з друкаў Скарыны; ў некатарых з іх захаваліся і кнігі Бібліі, якія былі надрукаваны Скарынам, але затраціліся. Адны с такіх рукапісаў даслоўна перадаюць скарынаўскія друкі, з утрыманьнем прадмоў і імя Скарыны, а другія сьпіскі маюць зьменены правопіс а такжа заменена імя яго другім, прыкладам у Галіцкім (Яраслаўскім) сьпіску 1568 году чытаем прыпіску: „протожь я василій жугаев снь зь ярославля. В лѣкарскых наоуках докторь... казал есми списати книгоу стго іова рускым языком. б(г)у къ чти и людем посполитым къ наоученію“. Замест скарынаўскага правопісма тут модны тагочасны баўгарскі. З рукапісаў скарынаўскага перакладу з лішнімі (раўняючы з дахаваўшыміся друкаванымі экзэмплярамі) кнігамі трэба адзначыць біблійныя кнігі 1575 г. Львоўскага Сьвята-Ануфрэеўскага Манастыра (паходзяць з Зенкава—Падольшчына). Прадоўжаньнем гэтага апошняга рукапісу, зьяўляецца рукапіс Лукі Тарнопальскага 1596 г. Калі разглядзіць лішнія кнігі гэтых рукапісаў са стараны мовы,

то яны акажуцца сходнымі с тымі, якія запраўды вышлі с пад пяра Скарыны. Згэтуль натуральны вывад, што яны, відаць, былі перакладзены Скарынай, які або іх ня сусьціг надрукаваць, або надрукаваў ды яны загінулі (Карскій, „Бѣлоруссы“, т. III).

Скарына ў кнігах біблійных памесьціў 42 рысункі рытыя на дрэве. Некатарыя з гэтых рысункаў маюць на сабе вязаны подпіс у які стала ўходзіць літара Т (ў Апостале). Пад партрэтам Скарыны вязь выразна мае тры літары: Т. М. З., гэта ёсьць подпіс мастака-рысаўніка які аздабляў скарынаўскія друкі рысункамі. Гэты мастак-рысаўнік, скарынаўскі сучасьнік, дагэтуль невядомы. Адно пэўна што ён, як і Скарына, быў „русін“, на гэта паказуе пераезд яго, разам са Скарынай, с Прагі ў Вільню і яго монаграма зложаная са славянскіх літар. Маецца также дапушчэньне, што, часьць рысункаў было зроблена самім Скарынам, прынамні тыя з іх, на якіх красуе гэрб Скарыны—сонца і месяц.

БІБЛІЯ XVI СТ., Віленскай Публ. бібліатэкі (№ 47). Дахавалася толькі частка рукапісу: кнігі прарокаў. У прадмове да прароцтва Ісаі маецца гэткая дапіска:

„Предсловие Исаіна пр(о)рчества с ческои Библіи написано“.

Ня выключана што гэта ёсьць пераклад с чэскай Бібліі 1506 г., а можа нават беспасярэдны одпіс с перакладаў Скарыны. (Карскій, „Бѣлоруссы“, т. III, б. 29).

БІБЛІЯ XVI СТ., бібліатэкі Красінскіх у Варшаве. Захаваўся толькі адрывак рукапісу, які завірае кнігу Товіт. Праф. Карскі кажа аб гэтым перакладзе Бібліі: „Трудна рашыць, хто зрабіў гэты пераклад: ён вельмі напамінае спосабы Скарыны ў тых здарэньнях, калі ў яго пад рукамі не было ц.-славянскага перакладу вядомай кнігі.

Мова тэксту гэтай бібліі (Карскій, „Бѣлоруссы“, т. III, б. 30):

...Пригодилося единого дне. иже товиѳъ погребалъ тѣла мртвы(х) и оутроудился велми. а прише(д) к домоу по(д)ле стены верже себе опочиноути. и оусноулъ. а в то(м) оуснути. лаина сии рѣ(ч) калъ ластовица горку ему зъ гнѣзда въ очи оупустила. такъже пакы оуснул. и оубо то покушенїе на него бгъ препоустилъ про то што бы боудущи(м) данъ былъ прикла(д) его тръпеливости. яко и с(в)того иова. оубо егда(ж) с(в)тыи иовъ отъ своего детинства бга ся бояше. а приказание его полняше“...

ІКОНЫ СЬВ. САФІІ ПРАМУДРАСЬЦІ БОЖАЙ належаць да сымволістычных ікон; яны пісаліся на сказ Прыповясьцяў Саламонавых: „прамудрасьць стварыла сабе дом і ўмацавала сямі стаўпамі“—(„премудрость созда себѣ храмъ и утверди столповъ седмь“). Пад імем дому разумеецца царква Хрыстова, ўмацаваная на стаўпох—на сямі ўсясьветных саборах. Іконы Сафіі ў кіяўскім, наўгародзкім і др. саборах выабражаюць з'адночаньне царквы нябеснай і зямной, праз уцелаішчаньне прамудрасьці Сьв. Тройцы (упос-

таса). Пададзены тут абразок зьяўляецца копіяй іконы Сьв. Сафіі полацкай, акром подпісу ўнізе „попъ“ і нечытэльных знакаў, якія чытаў Лелевэль „попъ ананій“. Гэта ікона саўсім аднолькава са старой іконай „Св. Сафіі полацкай“ якую я бачыў ў Спаскім манастрыры ў сьвятара Чэрэпніна ў Полацку, акром, ведама, верхняга наўкольнага надпісу, дзе гаворыцца для каго была роблена паданая тут копія.

Унізе ад Хрыста ідзе група хрысьціян, да іх падходзяць пагане, с права с працягнутымі рукамі, да чаш вечнага жыцьця. Злева, ўнізе, сядзяць паганскія сьвятары с пустой лагой і нейкімі маскамі.

Надпісы на іконе; зьверху:

„Софеи премудрость Б(о)жіа вроблена повеленемъ бл(а)говерне кнзя Өедора ивановіча ярославча“. (Турава-Пінскага ┼1535).

Соломон: „Премудрость созда собѣ храм и утверди столпъсем“.

Патрыарх: „Рабъ іис ...а подателиа жівотоу веч“...

Наўкол Хрыста: „Заклая своя жертовная черепа поча... совеи вино уготова“.

Ўкруг Маці Божай: „Иже от века утаенное и ангеламъ неведомое ма... и... не... с...мво“.

Пад сямі анеламі ўверсе. *Рад першы:* „переві. сты д(у)хъ. рекоше с(ы)не. *Другі рад:* созда богъ. завістюя. яко б(о)гъ есть“.

ЕВАНГЕЛЬЛЕ 1520 ГОДУ. Перах. у Віленскай Публ. бібл., № 35. Крыўскае (беларускае) паходжаньне яго відаць ужо з допісу:

„В лѣ(то) (7028).... написана бы(с) кніга сіа. нарицаемаа ева(нге)ліе, тетро. при велик(ом) короле Жикгимонтѣ, і при еп(ско)пѣ Іони вл(а-ды)цѣ тоуро(в)ско(м) и пинско(м) и при кн(я)зѣ Фе(д)ори Ивановичи Ярославичя. повелѣние(м) хр(и)столюбива(го) моужа раба б(о)жіа Семиона Батыевичя Рака... А писалъ дья(к) мно(го)грѣшныи ра(б) б(о)-жіи Савастіанъ Авраамови(ч) и(же) в Нобли“ (Пінскага павету).

ЗБОРНІК XVI СТАГ. Да XIX стаг. належаў Супрасльскаму манастыру. Гэта быў рукапіс у адну чацьвёртую аркуша, пісаны на грубой васкаванай паперы (бамбіцыне) чыстым і ясным характарам пісьма XVI стаг. Яго перапісваў 1520 г. сын сьвятара Грыгорый Івановіч па загаду князя Сімеона Іванавіча Одынцевіча, як аб тым сьведчыць ўласнаручны подпіс у канцы рукапісу. Даніловіч з гэтага зборніка, ў лацінскай транскрыпцыі, выдаў у 1823 годзе „Latopisies Litwy i kronika Ruska“.

ФОРМА ПРЫСЯГІ ВЯЛ. КНЯЗЮ ЛІТОЎСКАМУ, КАРАЛЕВІЧУ ЖЫГІМОНТУ-АЎГУСТУ на Віленскім сойме ў 1552 г. Сьнежня 4 дня.—„Акты, относящ. къ истор. Зап. Рос.“, т. II, СПБ., 1848 г. Увага № 90.

„Обираемъ собѣ и беремъ господаремъ на вѣчные часы господаря своего прироженого сына, е. м. королевича Жикгимонта, на великое князьство Литовское, и маемъ е. м. вѣрнѣ и справедливѣ служити, мы сами и дѣти наши, а мимо е. м. королевича Жикгимонта иного господаря не маемъ собѣ искати, а ни обирати... А мы, воеводове и старосты и гододержцы, тые замки маемъ къ рукамъ е. м. королевича Жикгимонта держати, и мимо е. м. иному никому не поступовати“...

## ФОРМА ПРЫСЯГІ, ЯКУЮ ДАВАЛІ ПІСАРЫ ГАСПАДАРСКІЯ АБЫЙМАЮЧЫ СВОЙ УРАД. Сярод актаў 1522 году.

Гл. „Чтенія въ Имп. Общ. исторіи и древн. Россійскихъ при Московскомъ Университетѣ"—Кн. IV (191). Масква, 1899 г., бал. 147.

„Прысяга писарская.

Я (имя рек)... прысягаю милому Богу и панне Марыи и всимъ светымъ, ижъ маю быти верный господару его милости и вси рады его, которые бы колвекъ мне были допущоны, або обявены, тые маю таемые заховати, а жадному чоловеку ихъ не маю объявляти, ани тежъ жадныхъ листовъ не маю писати безъ розсказанья господарского, або канцлерского, а иныхъ жадныхъ розсказанье не маю писати. А естли быхъ што слышалъ шкодливого господарского, або Речы Посполитое, тогды маю объявляти господару его милости, або паномъ раде. Естли быхъ то сполнилъ, такъ мне Боже поможы и панна Марыя и вси светые; а если быхъ того не сполнилъ, Боже мя побий на душы и на теле".



Ікона сьв. Сафіі прамудрасьці Божай, пісаная для Пінскага князя Федара Іванавіча Яраславіча, каля 1519 г.

## РАХУНАК КАРАЛЯ ЖЫГІМОНТА С ПАНАМ ЯНУШАМ КАСЬЦЕВІЧАМ. У Вільні, 18 Лістападу 1522 году. Гл. „Чтенія въ Импер. Общ. исторіи и древн. Россійскихъ при Московскомъ Унив.", кн. IV (191) Масква, 1899 г. бал. 184.

„Жыкгимонтъ.

Явно чынимъ симъ нашимъ листомъ. Тыми разы давалъ намъ личбу с поголовщызныхъ нашихъ пенязей воевода подляшский маршалокъ нашъ державца ожский и перелойский и радунский панъ Янушъ Станиславовичъ Костевича приходу и росходу, которые черезъ его руки шли, и што еще назвышъ тыхъ нашыхъ пенязей онъ своихъ власныхъ пенязей на нашо жодане выдалъ на потребы нашые и земские. Мы, з нимъ рахунок вчинивши, и застали ему винни тисячу копъ и деветь сотъ копъ и дватцать и шесть копъ и деветь грошей, и маемъ в той суме его уистити, отколь тая сума маеть ему заплачона быти. И на то есьмо ему дали сесь нашъ листъ с нашою печатью. Писанъ у Вильни, под лет. бож. нарож. 1 пятьсотъ 22, месяца ноябр. 18 день, индыктъ 11.

Въ томъ листе рука королевская".

## ЗАПІС АБ РАБУНКАХ І ПРЫМУСАХ КОБРЫНСКІМ ПАДДАНЫМ АД ІХ ДЗЯРЖАЎЦЫ ВЭНСЛАВА КАСЬЦЕВІЧА.

Сярод актаў 1524 году. „Чтенія въ Имп. Общ. истор. и древн. Рос. при Моск. университ." кн. IV (191), Масква, 1899, б. 195.

„Листъ до мар. держав. Кобрынского пана Венслава Костевича. Жаловали люди путныи и волостныи Кобринские Андрей Мишновичъ, а Моисей Марковичъ, а Пашко Кобаковичъ, а Пацъ Леньковичъ и съ потужники своими, штожъ имъ новины уводить и кажеть имъ къ своимъ дворомъ на роботу ходити, а они не робливали; а которыи люди передъ тымъ на роботу и к сторожи до замку хоживали, и онъ ихъ вызволилъ, и на то место кажеть имъ робити. А иншии многии кривды чинить: который з нихъ серебщыны замешкаеть отдати, ино за вини жоны и дети у неволю до своих дворовъ береть и неколькось кротъ копъ десять грошей на нихъ безъ винъ вины береть, и стацею, которую были наготовали на послы московскии и на жолнеры, ино штося остало, онъ таки побралъ. Ино какъ пошли были къ королю жаловати, онъ, присылаючи слугъ, не однокротъ казалъ порозбивати, и поранити, и пенези побрати. И в тотъ часъ шли з ними люди волости Марковское, в тыхъ людей отняли 2 копы грошей и кожухъ, и самыхъ поранили. И послали дворанина Мурина: и которыхъ посажалъ, тыхъ казали мочно попушчати, и грабежы абы поотдавалъ передъ дворанином, а ему приказуючы подъ держаньемъ: естлибы тыхъ грабежовъ не хотелъ поотдавати, ино кажуть дворанину у Кобрынь ся увезати и держати до тыхъ часовъ, поки тыи грабежи тымъ людемъ поотдаеть и во всемъ се справить. И казали тыи грабежи дворанину пописати, а Марковцомъ ажбы казалъ две копе и кожухъ отдати передъ тымъ же дворанином.— Копоть".

## ЛІСТ КАРАЛЯ ЖЫГІМОНТА СТАРОГА СТАРЦАМ І ЎСІМ МУЖАМ МАГІЛЕЎСКАЙ ВОЛАСЬЦІ.

У Петрыкаве, 6 Лютага 1525 года.

Гл. „Чтенія въ Имп. Общ. исторіи и древн. Россійскихъ при Московскомъ Унив.", кн. IV (191), Масква, 1899 г., бал. 198.

„Старцомъ и всѣмъ мужомъ волости нашое Могилевское. Што есте передъ тымъ здавна даивали тивуншчины осмдесятъ копъ грошей широкихъ тому, кому семо на васъ выдавали, про то приказуемъ вамъ, ажъ бы есте тую тивуншчину всю сполна давали до скарбу нашого посполу з данью грошовою. А хотя быхмо кому листы с канцелярии выдавать казали на тую тивуншчину, и вы бы вжо чересъ то никому на таковые листы тое тивуншчины не давали; пакли ж бы есте чересъ то кому тую тивуншчину дали, хотя на листъ нашъ, тогды вжо мы кажемъ на васъ другую тивуншчину посполъ з данью нашою правити. О томъ бы есте ведали и тотъ листъ нашъ в себе ховали. Писанъ у Петрикове, подъ лето 1525, месеца февраля 6 день, индиктъ 13.— Горностай писаръ".

## ПАСОЛЬСТВА РАДЫ В. КН. ЛІТОЎСКАГА ДА КАРАЛЯ ЖЫГІМОНТА.

1526 г. раней месяца Чэрвеня. — „Акты, относящіеся къ

истор. Зап. Рос.", т. II, СПБ., 1848 г. Пасольства, між іншым, дапамінаецца Вітаўтавай кароны, захопленай палякамі:

..."А про то, кгдыжъ его милость отецъ святый папежъ зычитъ тоѣ чти тому, который есть того негоденъ: лѣпѣй бы его милость мѣлъ зычити того сыну вашое милости, пану нашому, великому князю Литовскому, за важныи и знаменитыи учинки вашое милости и предковъ вашое милости, великихъ князей Литовскихъ, которыи тую землю къ вѣрѣ хрестіяньской направили, и вставичнѣ ся напротивку непріятелемъ вѣры святоѣ застановляли. Якожъ за славнѣ памяти дѣда вашое милости короля Владыслава, а за стараня вашое милости великого князя Витовта, маючи бачность отецъ святый папежъ и цесаръ хрестіяньскій на знаменитость вчинковъ великого князя Витовта, а на сталость и моцность его противку поганства, а къ тому маючы бачность на зацность панства того вашое милости великого князьства Литовского, послали были отецъ святый папежъ и цесаръ коруну великому князю Витовту, до того тамъ панства вашое милости отчизного великого князьства Литовского; а въ томъ великій князь Витовтъ съ сего свѣта зшолъ, коруны тоѣ не дождавши, которая жъ вжо была на дорозѣ, и загамовали ее панове Поляцы, и до тыхъ часовъ ее выдати не хотятъ, и не зычатъ тоѣ чти паньству вашое милости отчизному. Чому жъ панове ихъ милость рады великого князьства Литовского, слуги вашое милости, велико ся дивують, ижъ братья ихъ панове Поляцы ихъ хрестьяномъ, а братьи своей, того не хотѣли зычить, а теперь не заброняють того тымъ отщепенцомъ, Москвѣ; не хотѣли ихъ милость радить въ томъ вашой милости, абы тотъ посолъ папежскій не былъ пропущонъ такъ латве, съ таковымъ поселствомъ до Москвы, алижъ бы ваша милость рачили о томъ добрѣ розважити и порозумѣти зъ радами вашое милости великого князьства Литовского. Але, подобно, ихъ милость панове рады коруны Польскоѣ зычуть того вмысленѣ тому отщепеньцу, мимо паньство вашое милости отчизное, для того, абы тое паньство вашое милости было въ пониженью, а жебы втѣлено имъ къ корунѣ, о штожъ ся они давно працують, хотячи дѣдитство вашое милости привлащити ту, къ князьству коруны Польскоѣ. Въ чомъ же казали вашу милость покорнѣ просити ихъ милость братья наша, слуги вашое милости прироженыи, абы ваша милость не рачили того паномъ Польскимъ надъ ними зычити, жебы ихъ милость, слуги прироженыи вашое милости, мѣли быти подданы къ корунѣ Польской. А звлаща, рачилъ бы ваша милость того боронити, для потомковъ вашое милости: бо завжды лѣпѣй а пожиточнѣй будетъ потомкомъ вашое милости, коли тое паньство вашое милости отчизное будетъ подъ особнымъ тытуломъ и правомъ отъ коруны Польскоѣ; якожъ ся и тыхъ часовъ придало до сына вашое милости, ижъ ихъ милость панове рада великого князьства Литовского зъ доброволеньствомъ и охотнѣ его милость, сына вашое милости, собѣ за пана обрали и присѣгали его милости, чогожъ панове Поляцы, снать, и до тыхъ часовъ вчинити не хотятъ. А кгды бы князьство великое Литовское было привлащоно къ корунѣ, тогды бы ся такій початокъ щастливого поднесенья сына вашое милости ещо былъ не сталъ. А про то ихъ милость, рада а слуги вашое милости, братья наша, вашу милость покорнѣ просятъ, абы ваша милость рачили ся ласкаво вложить и радамъ вашое милости коруны Польскоѣ приказать, абы они тую

коруну, которая послана къ великому князьству Литовскому, вернули къ князю великому его милости, сыну вашое милости, абы его милость при щастливомъ панованьи вашое милости былъ корунованъ: бо, милостивый королю, кгды будетъ тое паньство вашое милости отчизное, великое князьство Литовское, мѣло коруну, тогды не може быти привлащоно къ корунѣ Польской; бо коруна въ коруну втѣлена быть не може. А такъ вжо бы панове Поляцы не мѣли тоѣ жадости, абы тое паньство вашое милости отчизное было унижено и привлащоно къ нимъ, але ровное братство и пріязнь стала бы зъ одного напротивъ кождому непріятелеви. А естли жъ бы панове ихъ милость рады коруны Польскоѣ не хотѣли коруны тоѣ сынови вашое милости къ великому князьству Литовскому вернути: тогды ихъ милость рады великого князьства Литовского, слуги вашое милости, просятъ вашое милости, абы ваша милость рачили до отца святого папежа и до цесара послати, жедаючи о коруну сынови своему на великое князьство Литовское; а што на то будетъ потреба наложити, рады ихъ милость съ доброю волею то на ся хотятъ подняти и накладу на то не лютовати"...

„УСТАВА ДВОРОВЪ НАШИХЪ У ВЕЛИКОМЪ КНЯЗЬСТВѢ ЛИТОВСКОМЪ, ТАКО ВЪ ВИЛЕНЬСКОМЪ, ЯКО И ТРОЦКОМЪ ПОВѢТѢХЪ, ЯКО СЯ ДЕРЖАВЦЫ И ВРЯДНИКИ СПРАВОВАТИ МАЮТЬ". У пачатку 1529 году.—„Акты, относ. къ исторіи Зап. Рос.", т. II, СПБ., 1848 г.

„1. Напередъ державцы дворовъ нашихъ, въ кождомъ дворѣ особно, довѣдавшися, колько бочокъ жыта есть потреба ко насѣнью пришлого году, только того часу маютъ отложити копъ жыта на сторону въ гумнѣхъ дворовъ нашихъ; а тое жыто роздаваючи на весну людемъ въ отсыпъ, у-въ осени за кождую копу бочку дворную жыта брати, а тымъ жытомъ засѣвати, а кождого году жыто въ отсопъ давати.

2. Тежъ гумна дворовъ нашихъ всихъ тымъ способомъ маютъ быти захованы: Скоро по жнивѣхъ, абы десятины костелныи, гдѣ суть повинни, суполна были отдаваны; потомъ жыто на насѣнье году пришлого, которое маетъ быти въ отсопъ давано, на сторону отложити, такъ много копъ въ личьбѣ, яко пашня году пришлого на насѣнье жыта потребуетъ. Потомъ челяди неволной мѣсячина маетъ быти въ копахъ на сторону отложена, а другая отмолочена, которую мѣсячину тымъ способомъ уставляемъ: абы челяди неволной, которыи маютъ прироби а бонды свои, по полторы копы жыта на рокъ давано, водлѣ стародавного обычая; а тымъ нашимъ неволникомъ, которыи обыходу и домовъ своихъ не маютъ, тымъ мѣсячина давати чотыри разы до году, по бочцѣ жыта, то есть, берла, водлѣ обычая давного, а тое берло маетъ быти у-въ осень, по жнивѣхъ, на сторону отмолочено. Потомъ, того жыта што зостанетъ копъ, отправивши тыи рѣчи вышейписаныи, двѣ части на насъ и къ пожитку нашому заставуемъ, а третяя часть жыта державцамъ нашимъ, къ ихъ живности и пожитку.

3. Тежъ, што ужнутъ ярынъ, яко: овса, пшеницы, ячменю, гречыхи, гороху, ярыцы и иншихъ, того скоро по жнивѣхъ, маютъ дер-

жавцы наши намъ, на насѣньне и тѣжъ къ пожитку, три части на сторону отложити, а собѣ четвертую часть къ живности и пожитку маютъ брати.

4. Тежъ жыта наши, которыи въ гумнѣхъ дворовъ нашихъ зостанутъ, тыи маютъ быти, на весну, подданымъ нашимъ, або хто будетъ потребовати, копами на пѣнязи роздаваны, на боргъ, за слушнымъ рукоемствомъ заплаты; которыи пѣнязи тыи должники платити будуть повинни на святый Мартинъ, и тыи пѣнязи за тыи жыта державцы наши будуть повинни до скарбу нашого отдавати.

5. Такъ же то уставуемъ, абы державцы наши и ихъ врядники, при роздаванью жыта нашого, такъ отсопного, яко тежъ кгды на пѣнязи будуть давати жыто, жадныхъ великихъ поклоновъ отъ подданыхъ нашихъ не брали, одно по полгрошу, або по курицы.

6. Тежъ рѣчи вси огородные державцы всихъ дворовъ нашихъ, въ небытности нашой, маютъ суполно уживати и къ своему пожитку оборочати; а на прiѣханье наше до великого князьства Литовского, будуть повинни до кухни рѣчей огородныхъ достатокъ намъ давати, водлѣ шацунку и уставы кождого двора особно.

7. Так же, абы льну кождый державца таковый достатокъ сѣялъ, якобы отъ кождоѣ жонки, которая мѣсячину беретъ, далъ поставъ полотна на кождый годъ; а естли бы который державца нашъ въ томъ пилности не чинилъ, а льну къ роботѣ челяди не выдалъ, тогды отъ кождоѣ жонки повиненъ будетъ дати пятьдесятъ грошей, або поставъ полотна, пятъдесятъ локоть.

8. Такъ же, абы были бочки въ одну мѣру уроблены, а подъ цехомъ нашимъ, и желѣзною обручью збиты, которыми жъ зъ гумна и зъ свирна на кождый розходъ и на насѣнья абы было збожье мѣрено, и тыми жъ бочками отсопъ житный къ насѣнью маетъ быти отбиранъ.

9. Тежъ жыта наши данныи и овсы, то есть, дякла, державцы наши абы суполно до городничого отдавали, а съ подданыхъ нашихъ то ма быти о светомъ Симонѣ Iюдѣ выбирано; которое жыто и овесъ городничiи наши, въ кождомъ повѣтѣ, кождого году маютъ водлѣ торгу продавати, а пѣнязи до скарбу нашого отдавати.

10. Такъ же, што при дяклахъ суть данныи куры и яица, то доставуемъ на кухни наши; а въ небытности нашой, маютъ подданыи наши за то пѣнязьми платити, то есть, за десять яецъ и за курицу одинъ грошъ, а то маютъ державцы наши до скарбу нашого отдавати.

11. Тежъ за сѣна дяколныи подданыи наши кождого году будуть повинни пѣнязьми платити, то есть, за возъ сѣна по три грошы, а тыи пѣнязи маютъ быти до скарбу нашого отдаваны; а пѣнязи подякольныи, пентиничьныи и дровныи, то маеть на врядъ замковый, по старому, городничему отдавано быти.

12. Тежъ мезлевы, которыи на насъ съ подданыхъ нашихъ на кождый годъ приходятъ, то бы державцы наши пѣнязьми отбирали, то есть, за яловицу тридцать грошей, за вепра двадцать грошей, за барана чотыри гроши, за куре а за десять яецъ одинъ грошъ, а тыи пѣнязи маютъ быть отдаваны до скарбу нашого.

13. Такъ жо вси подданыи наши, которыи суть повинни службу уставичьнѣ служити, то есть, люди тяглыи, тыхъ зоставляемъ для роботъ нашихъ дворовъ, яко пашни и подводъ, по старому обычаю;

маютъ служити черезъ годъ, почавши отъ весны, коли на ярыну починають орати, ажъ до святого Симона Іюды; а отъ святого Симона, черезъ зиму, державцы дворовъ нашихъ зоставивши людей на дворныи потребы (тыхъ, на што ся которыи двору потребують), остатокъ людей тяглыхъ къ пожитку нашому осадити, то есть, або на бочцѣ пшеницы, або вепра будетъ повиненъ подданый нашъ кождый осадного двора нашого къ пожитку нашому дати; а то, въ небытности нашой, державцы продавши, повинни будуть пѣнязи до скарбу нашого отдавати.

14. Къ тому, боярове наши и осочники, которыи зъ стародавна повинни войну служити и сѣна косити, также тежъ рыболовы, бортники, ковали и иншыи подданыи дворовъ нашихъ, которыи тяглоѣ службы не служатъ, тыи будуть повинни дванадцать денъ въ году на толоку до дворовъ нашихъ служити, то есть: три дня на паренину орати, три дня на жыто, а три дня серпомъ жыто жати, а три дни ярыны, а сѣно косити по старому; которыи отъ иншихъ послугъ мають быти вольны, а на кождый годъ до скарбу нашого, на день святого Мартина, будуть повинни осадного платити по копѣ грошей; а втакже съ тыхъ же людей, яко, осочниковъ, рыболововъ, ковалевъ, на дворную потребу по кольку служобъ зоставити.

15. Такъ жо земли пустовскіи повинни будуть державцы дворовъ нашихъ, къ пожитку нашому, наймовати на пѣнязи, або на меды, а то все до скарбу нашого отдавати.

16. Тежъ, въ которыхъ—кольвекъ дворѣхъ нашихъ суть озера, на которыхъ зимѣ неводы ходятъ, тыи рыбы маютъ быти продаваны за пѣнязи: двѣ части къ пожитку нашому, державца повиненъ пѣнязи до скарбу нашого отдати, а третюю часть собѣ маетъ взяти.

17. Тежъ, при которомъ-кольвекъ дворѣ нашомъ суть пожитки съ куповъ въ лѣсѣ, то есть, смолы, ванчосъ, клепки, попелъ, тое суполно на насъ зоставуемъ.

18. Такожъ абы кождый державца дворы наши будовалъ, оправовалъ, огородилъ, ставы и млыны, гдѣ могутъ быти, абы были роблены, а овшельки у-въ осень, коли нашихъ работъ нѣтъ.

19. Такъжо абы жадный державца подданыхъ и людей дворовъ нашихъ къ работамъ або будованью дворовъ своихъ отчизныхъ не брали, а ни въ жадныи подводы въ рѣчахъ своихъ, а овшемъ што ся ткнетъ какоѣ купли воженья, то есть, соли, жыта, сѣна, овса и иныхъ рѣчей.

20. Къ тому, жадный державца абы зъ винъ зарукъ, або тежъ переметовъ великихъ не бралъ, а ни тежъ слугъ своихъ, въ таковыхъ винахъ, въ домы подданыхъ нашихъ не всылали, а ни лежьневъ клали, але абы то было черезъ писары нашы писовано, къ пожитку нашому; а кождая вина, которая есть большая надъ пятдесятъ грошей, то до скарбу нашого маетъ быти, а державцамъ до пятидесятъ грошей.

21. Тежъ, кгды подданый нашъ возметъ державцу на спорщизну якую, на судъ, о землю або о сѣножать, тогды подданый нашъ, который виненъ зостанетъ, маетъ заплатити яловицу, або полкопы грошей; а врядникъ державцынъ выѣдетъ, тогды десять грошей; а коли поднамѣстьничокъ або тивунъ выѣдетъ, тогды пять грошей.

јест; прото мы гэтыј сьвет заняхајма, а тамтој
сьвет вякуістыј старајмася—так да маткі мовіў—
то нам ляпей будзе". Тады яны абоје пашлі на Лібнан

94 a гару і там пану Бога паклон чынілі, дзень у дзень посьнікалі,
а ў вечар адпосьнікаліся траўным карэнем. Аднаго дня
Іса прарок јаго міласьць для адпосьнікаванја па
карэньје траўноје пашоў, а матка јаго Марјама, у міхрабе седзячы,
намаз *) кланялася, а ў тым часе Азраіл **) прышоў,
сялам ***) даў. Марјама
і страху јаго ад розуму адышла. Калі прышла да памяці,
мовіла: „Хто ты јест? ад срогасьці тваjеј шлункі маје
трасуцца, розум адходзіць". Азраіл мові: „Ја јест".
****) Ракла Марјама: „Ці навя-
жаць мяне прышоў, чы тож душу мају браць прышоў?" Азраіл
мовіў: „Прышоў ја душу тваіу браць." Марјама мовіла:
„Прашу цябе адну гадзіну мне счакај, няхај
мој мілыј сын прыјдзе Іса, ја твар јаго абачу
і дастамэнт учыню." Азраіл рэк: „Ја (јест... пасол)
Божыј, прыказане трымају . . . . а . . . . . . .
учыніць немагу, мне П(ан Бог). . . . . . . . .
і нагој ступіць . . . . . . . . . . (Марјама)

94 b ракла: „Ја волі Божај јест удзячна". Потым Азраіл у јаје
душу узяў і пашоў. Потым Іса прарок посьле јатцыю *****)
прышоў, матку абачыў: на міхрабе ляжыць. Іса разумеў, што
у паклоне ляжыць „няхај адну гадзіну стрывају" і сам
не адпосьнікаваўся: „няхај матка ачхнецца за адно ад-
посьнікајемся". Карэнје палажыў, намаз пець пачаў. Потым ночы
часьць мінула, Богу паклон чыніў, да маткі прыступіўшы,
легкім голасам клікаў, мовіў: „І матка, усе людзе посьнікавалыја
адпосьнікаліся". Потым јашчэ ночы часьць мінула, Іса
рэк: „І матка, што табе стала, неадпосьнікајеся(!)?" Матка на то
нічога не адкажа. Іса мовіў: „Матка маја, намаз кланяўшыся,
умарылася, няхај јашчэ адну гадзіну паляжыць,
ја за јаје Богу пакланюся." Пачаў кланяцца, јашчэ цярпеў,
(ужо кал)я поўначы стала, знову да маткі
(прыступіўшы, клікаў голасам) бядунлівым: „І матка, што
(табе стала, што жа)днага слова неад-
(кажаш?" Іса быў у вялікім) горы. Калі дзень стаў,

*) Малітва, слова перскае. **) Імя ангела сьмерці. ***) Сялам даці—прывітаці, сказаці „as-salamun alaikum" (=скупакой табе!). Сялам—слова арабскае. ****) Прапушчаны арабскі сказ; яго даслоўны пераклад „Сказала Марыя: „Ці прышоў даведацца, ці ухапіці?" Наступны крыўскі сказ є вольным перакладам гэтага арабскага. *****) Вячорная малітва, араб.

95 a да маткі прышоў, твар у твар ударыў і рэк: „assalamun 'alaika *),
і матка,
ноч перајшла, знову посьнікаць час, устань раньні паклон
кланяціся“. Так мовіў, а таго дня сем раз нябескіја
ангелы плакалі голасам вялікім, таго дня на зямлі усе рэчы
рушыліся, зьвярата польныја усе радамі, радамі стаўшы,
плакалі, птаства на паветры усе грумадамі стојачы,
плакалі, мовілі: „Божа наш, пазволь нам, мы Іса прароку
азнајмім сьмерць маткі јаго“. Ад Пана Бога азнајамене(!)
прышло: „Зямля і месяц, і слонца, горы, мора, птаства зьвяры
і ангелы, што ся стала вам, для чаго вы плачаце?“ Ад-
каз: „Для Іса прарока плачам“. Азнајмене ад Пана
Бога прышло: „І Іса, ја твој Бог, ведају і јест
ласкучынюшчыј, над усіх вас ја міласерднеішыј!“
Іса прарок голас учуў і Іса . а . . у . . . . а . а . . . .
сеньје няхај дасьць јо(ј) . . . у . . . . . . .
із гэтага сьвета зыш(ла) . . . . . . . . . . .
плакаць пачаў ш . . . . . . . . . . . (што буду)

---

95 b чыніць, гдзе пајду, сь кім буду забаўляціся, сь кім свој смутак
падзялю, каму свају тајамніцу скажу“. Вельмі плакаў. Ад Пана
Бога згары азнајмене прышло, штоб Ісе прароку гара
науку падала. Ракла гара: „І Іса, для чаго так плачаш,
немарасьцісься, табе јест Пан Бог памачніком. Потым Іса із
гары ізышоў да аднаго сяла с палачам (!) бядунлівым
валікім голасам рэк: „ssalamun alaikum **), і людзе тут мешкајучыја!“
А людзі таго сяла усе малыја і вялікіја, мужчыны і жанкі проці
јаго вышлі, пыталі: „хто ты јест, голас твој чујучы, нутры
нашы усьвяціліся, дамы нашы усе сьветласьцяју (!) напаўніліся
твајау павяльбёнују асобу відзім.“ Іса рэк: „Ја
Іса сын Марјамін јест, ведајце, што матка маја,
на гарэ Лібнан адна будучы, з гэтага сьвета зышла, прашу
. . . . . . . мне свајеј помачы схаваньја
. . . . . . . . тыја людзі мовілі
. . . . . . . . . тој гарэ ад калькі
. . . . . . . . . . хто тым узыјдзе

---

96 a . . можа за јаго атрутају. Іса прарок із вялікај
немарасьцяј ад їх пашоў на тују гару, там-жа двух мла-
дзенцаў (!) відзеў харошых твараў. Іса мовіў: „Вы хто
јест?“ Адзін рэк: „Ја Джабраіл“, а другіј рэк: „Ја Мікаіл ***) јест,
мы прынесьлі із рају саван і ўсялякіја патрэбы, з волі Божај

*) Супакој табе! Гэтак мусульмане вітаюць адзін аднаго. **) Супакој вам! ***) Ангел Міхал, араб.

панны рајськіја мајуць мыць, а нам расказ Божыј, абы мы
дол капалі". Рајськіја панны абмылі, Джабраіл, Мікаіл дол
выкапалі, ангелы джыназа намаз *) пелі і схавалі. Потым Іса
пророкъ Пана Бога прасіў, мовіў: „Божа мој, ты мяне відзіш
і слова мајо чујеш, табе нямаш нічога скрытага; Божа
мој, маткі ја свајеј часу јаје сьмерці і па сьмерці нявідзеў
твару јаје, а цяпер прашу цябе, Божа мој, кажы мне матку
мају указаць, штоб за (!) мної мовіла". Расказане Божае
такоје прышло: „Ідзі да маткі свајеј!" Іса прарок прышоў
і ў галавах магілы маткі свајеј сеў і рэк так:
**) „Табе няхај ласка Божа будзе, і мэтка маја"
А ў тым з гробу голас прышоў: „У ачах мајіх сьветласьць,

---

96 b і нутра мајаго плод, чаму (!) ты мяне адвярнуў ад рајськіх мајстатаў і садоў і сюды мяне прывярнуў?" Прыбавіў Іса
прарок, мовіў: „І матка маја, мејсца таго чым-жа дајшла ку Пану
Богу?" Марјама ракла: „Ја, будучы на сьвеце, мяшкајучы у добрых
учынках,
у рајі мејсца сабе набыла". Потым Іса прарок: „І матка
маја, душнују горкасьць ці мела, јак табе паводзілася, што
над табој дзеелася?" Марјама мовіла: „Перад Панам Богам праўдзіве
мовю (!), што горкасьць душы мајој браньја у горле
јест, Азраілова труднасьць перэда мнојy јест строгасьць і страх јаго у нутры мајом јест". Ракла: „І сыну мој
Іса, астанься здароў, а ја ужо адыйду, а дня суднага абачымся на Арафат полю". То вымавіўшы, умоўкла.
Потым Іса прарок із гары зышоў і па сьвеце хадзіў,
а потым Пан Бог јаго на неба узяў і да суднага дня будзе на
небе. А перад судным днём даджджал ***) праклятыј паўстане
на мусульман, увесь сьвет ізвајује, то на тој час
Пан Бог јаго ізь неба зашле мусульманам на помач проці даджджала.

---

97 a Іса прарок јаго міласьць, з неба зышоўшы, даджджала праклятога забјець і веру мусульманськују запрэць, і разшырыца
вера мусульманськаја, і знову сорак год маје жыць на
сьвеце. Потым із гэтага сьвета зыјдзе.

---

135a ****) Гісторыја. Мэкка мовіць:
„Ја шчасьліваја у Пана Бога јест, у мне Махаммэд прарок радзіўся".
Потым места Мэдына мовіць: „Ај места Мэкка нехваліся, ја јест

---

*) Пахавальную малітву, араб. **) На мейсцы, што тут пакінена пустым, у арыгінале арабскі сказ, які гучыць дослоўна гэтак: „Супакој табе і матка!" Вольным перакладам яго ё далейшы беларускі сказ. ***) Антыхрырст, араб. ****) На накіненым тут пустым месцы ў арыгінале стаіць араб. слова „хікајат", што значыць „апавяданьне". Аўтор „Аль-Кітабу" пераклаў яго словам „гысторыја".

у Пана Бога лепшаj*а* (!) шчасьліўшаjа за цябе, у мяне Махаммэд прарок
ляжыць і да суднага дня у мяне ляжаць будзе". Потым неба мовіць:
„Jа jест у Пана Бога лепш*а*jе (!) за зямлю
маjстат Божыj на мне стаjіць і дзяржыць,
на зямлю із мяне ідуць усялякіjа пажыткі, з Божага расказаня
зь мяне на зямлю падаjуць і жыўляjуць і ўсялякіj плод
зь неба на землю ідзе." Потым зямля мовіць: „Аj неба нехваліся
праўда jест на табе
і маjстат Божыj на табе стаjіць, і дождж на зямлю мне
із неба ідзе і мяне ажыўляjе і плод даjе, але тым неба нехва-
ліся, Пан Бог нас судзіць, але jа jест у Пана Бога лепшаjа
за цябе неба, у мяне Махаммэд прарок, мілосьнік Божыj, ляжыць і су-
дныj дзень суд Божыj на мне і сам Пан Бог зь неба на зямлю
зыjдзе і ўсіх судзіць будзе, раj і пекла на зямлі ста(jаць)

135b будзе і Пану Богу паслугу чыніць будуць, спасёныjа да раjу поjдуць
а грэшныjа да пекла. Пан Бог мові—праўда.

Калі Пан Бог розум стварыў.

У кітабе *) Кузуда піша. Калі Пан Бог
розум стварыў моцjу сваjеjу з вялікага хараства, з дара-
гіх рэчаj раjськіх Калі ўжо розум вырас, ангелы на тоj
час былі, Пан Бог казаў усім ангелам прыjці. Устаў, Пану
Богу паклон чыніў у зямлю рэк: „Пане Божа, стварэне тваjо,
падлеглы табе Богу кланяецца, ты Пан Бог адзіныj усягомагушчыj
і годзен ад усёга стварэня кланяньjя хвалы табе. Пан Бог
рэк: „Розум устань!"—устаў розум; „сядзь!"—сеў розум; ляж!—лёг.
Jашчэ Пан Бог розуму размавітыjа казаў чыніць, розум
усё чыніў ахвотна Пан Бог рэк: „Розуме, jа Бог на одзіноства
сваjо праўдзіве табе абяцуjу, катораму чалавеку цябе, розуме,
дам, над тым чалавекам jа Бог зьмілаваньньjе сваjо Божаjе учыню—
Розум Пану Богу паклон учыніў і хвалу даў Пану Богу—бо
розумам і мяне Бога адзінага людзі маjуць знаць і навуку
розумам учыцца і знаць маjуць бо бяз розуму наука у чалавека

136a jак у вязьніцы jест". Махаммэд прарок мовіў: „Розум jест на тры
часьці разлучанныj. У каторага чалавека тыjа тры часьці на-
поўнены будуць, у таго чалавека розум поўныj jест.
Напрод Пана Бога знаць, у адзіноства jаго верыць
бязсумлеву, то jест іман **) пець. Другоjе, Пану Богу
павіны (!) паслугі аддаваць і харошыjа учынкі; што Пану Богу
міла, то чыні, то jест: на дзень пяць намазаў ***) кланяцца і на рок
дзесяціну даць і курбан ****) рэзаць. Трэцяjе (!), у чыстасьці

*) кнізе, араб. **) Вера, тут у значэньні рэлігійнае малітвы, песьні; араб. ***) Малітваў.
****) Ахвяра, жэртва са статчыны.

з гусулам *) за пажыткі Пану Богу хвалу даваць а ў хваробе
і ў прыгодах удзячне і цярпліве быць. То споўнij
розум. Розум няjест у чалавека душа, ані шлунак,
ані сустаў нijакij jест. Межы душы і межы суставаў
у чалавека розум; у Пана Бога jест *усь*цiваjа (!) і харошаjа
рэч розум. Хтобы пытаў: „Пан Бог ці (!) можа такуjу моц-
вялікасьць учыніць, jак сам jест?“ Адказаць на то трэба
з вялікім страхам з наукі і зь (!) вялікім розумам, можаш
так адказаць: „Мог бы Пан Бог такуjу моц учыніць

136b jако сам, але няхоча сабе роўнага ніколі мець, бо і вырак Божыj
і цітул jест, так Пан Бог пішаць, іж jест jа Бог адзіныj, нікому
няjест роўныj ані да мяне няjест роўныj, прато сабе роўнага
нехачу мець на векі вякоў“. У Каране так піша: Пан Бог рэк: „Jа Бог
з ласкі і з волі маjеj боскаj даjу радасьці людзем, многа
пажыткаў добрых і многа даjу радосных пацех раскошных,
даjу многа людзем; з волі і прапушчэня маjго жаласьцяj
вялікіх і прыгод, шкод, упадкаў,—то ўсё з волі маjоj
Божаj станавіцца, jак jа Бог хачу, так маjе быць. Прато
вырак моj Божыj jест: каму jа што дам: пажыткі, радасьці,
пацехі і за тоjе хто бы мне Богу хвалы і падзякі нячыніць, а
каторым
людзем Пан Бог жалі і прыгоды, смуткі дам і прапушчу з волі маjоj
Божаj, чалавек бы цярплівасьць ня меў, тыjа людзі абоjе няхаj
сабе іншага Бога ішчуць, jа ад іх адракаjуся. Jашчэ
піша у Каране, патвяржаjучы: „Чалавеча кожныj, ведаj пеўне што
сь цябе волас адзін нязыjдзе бяз волі маjоj Божаj, такжа
із дзерава (!) ліст неспадзе бяз волі і бяз ведамасьці маjоj Божаj,

137a то ўсё за воляj і за ведамасьцяj маjеj Божаj, jак тож
душа із чалавека за воляj маjоj Божаj выjдзе, бяз волі маjоj
Божаj нігдзе сьмерці нет. Гдзе воля маjа і суд каму прыjдзе, нігдзе
няскрыjесса і неўцячэ пеўна. Пан Бог рэк: „Усялякij грэх, калі
чалавек учыніць, вялікаjа атрута jаму самому тоj грэх; на помач
і лякарства тых грахоў—каjата і пакута, бо чалавек гдзе грэхъ учыніць,
потым абачыць зараз гэты грэх, пакаjецца, жалуjе таму учынку
ліхому, што чыніў, Пан Бог з ласкі сваjеj адпусьціць. Jашчэ
Пан Бог рэк учынкі добрыjа спасёныjа чыніць „каторыjа удзячныjа
мне Пану Богу, тыjа чыні“, увесь грэх зыjдзе у чалавека з ласкі Божаj.
Хто-бы меў веру мусульманскуjу, да-
знаўшы, прыняць сабе за учня **), трэба у граху сваjім чыню-
шчым каjацiся, іман ***) знову перапець, мусульманінам застаць.

*) З умываньем, араб. **) З тае прычыны, што ў рукапісе **о** і **у** абазначаюцца адным знакам,—няма ведама, як тут трэба чытаць: „за учня“ (=за вучня) ці „за очне“ (=за вочне). ***) Вера, тут ужыта ў значэньні рэлігійнае малітвы, песьні.

Потым надта трэба ад няверласьці высьцерагацца, ад слова
нявернага, каб кафірынам *) нястаў. Хто-бы у жартах слова няверна-
је вымавіў, то у пісьму піша: да таго часу, што чыніў учынкі
добрыја, пабожныја, хоць-бы колькадзесят год, то на тоје слова

---

137b усе учынкі добрыја унівэч абернуцца і жана јаму харам **) јест.
Так трэба жалаваць, плакаць, таму грэху кајацца, і зноў іман
пець із жаноју шлюб браць. А калі-б таго нямеў чыніць, то
із кафірынам ровен јест, а меў-бы умерці, навекі у пекле застане,
хоць-бы да Кабају ***) хадзіў с таго спасеньја нямаш, страціў,
знову хадзіць трэба. Хоць-бы і жонка так вымавіла, то учынкі
траціць на мужчыну, трэба іман пець, мусульманкај застаць,
із мужам шлюб браць, таму грэху кајацца, мовіць: „Стварыцелю
Божа, да цябе адзінага Бога уцякају ад тых паганых учынкаў,
ад няверных слоў“. Гэту малітву трэба пець рана і ўвечар; іншага
лякарства нямаш . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . Пан Бог таго чалавека ад няверных слоў усьцеражэ.
Няверных слоў многа, няможам вылічыць, толька каротка ня-
пісал (!) усіх няверных слоў, а пісалі, чалавек на якіја глянуўшы,
штоб ад другіх высьцерагаўся. Најперша то азнајмују
вам: хто-б меў Богу адзінаму што кольвек прыраўнаваць,

---

138a асобу јакују, або ајца, або матку, або сына, або јакіј
шлунак меў прыраўнаваць або мовіў „Бога жлаў“, або мовіў
„у Бога за дзьвярыма быў або нябыў“, або мовіў „Бог јесьць“, або
сьпіць, або јакаја рэч есць, такіј нягожыј меў-бы праставаць
чаго Богу нягодна мець; ніхто няможа ведаць ў јакој постаці
јест. А другоје хто-бы меў Божага фарзу ****) с прыказу адно
зганіць. А трэцеје, хто-бы прароку аднаму задаць няпраўду.
Чацьвертаје, хто-бы меў із ангелеј аднаго улехца важыць.
Пятаје, хто-бы меў із учоных *****) людзеј аднаго бяз прычыны улехца
мець. Шостаје, науку Божују улехца мець. Сёмаје,
учоных людзеј пастанавене із наукі, катораја рэч јест
халал ******) јесьць, піць, хто-бы меў сабе за харам *******) або за
завапу мець.
Осьмаје, хто-бы меў на харамныја пажыткі або напітак харамныј
харамам назваць або лякарствам, або няверна̂је слова
вімавіць, а другіј меў-бы таму сьмяјацца, такіх пастунках

---

*) Кафірын—няверніk, паганін, той, хто ня верыць у адзіноства Божае. Гэтак мусульмане завуць і хрысьціянаў. **) Забаронена, араб. ***) Кабай, Кааба—мусульманская сьвятыня ў Мэцы, месьце радзінаў Махамэда. ****) Фарз—закон Божы, араб. *****) „Аўтор Аль-Кітабу“ рэдка ўжывае слова „учоны“, звычайна—„наўчоныј“, дык мусіць „учоныј“ пад уплывам польскага „uczony“. ******) Дазволенае, араб. *******) Забароненае, забаронены, араб.

кафірамі застануць. Афатвају піша: хто-бы меў тајемныја
рэчы угадаваць, казаць, чаго јаму Бог нядаў ведаць, каза(ць):

---

138ь дождж будзе або пагода, або урожай, або неуражај, або
падарожныј тагды прыједзе, або няпрыједзе, або фаль глядзіць,
неўгадаје, або угадаје, јак-бы Богу раўнаваўся; хто-бы меў
такіја рэчы казаць, а другіја мелі-б таму верыць, абадва кафірамі
застануць. Веданьне јо ў Бога, ніхто няведаје тајемнага, адно Бог. Толькі прароццкаје
прычыны повесьць каторага або праз сон праўдзівыј таја рэч,
а у Пана Бога расказанем дана ведаць, гожа верыць. І таго нямоў
„Бог у адном мејсцу“ або „у Бога мејсца нямаш“. Гдзе Стварыцеля
упрасіў, то најдзеш, јак у Каране піша: . . . . . . .
. . . . . . . . *) Пан Бог јест јак на небе,
так на земі, ведаја тајамніцы вашы і ведаје усе справы вашы, што
справујеце. Хто б меў каго Азраілам **) назваць або душа-
јемцам, то кафірынам јест. Хто бы меў с прароцкіх суннатаў ***) пера-
јначыць, справу зганіць.
Хто-бы меў харамнага напітку або јадзеня а мовіў у імя Бога ****)
аж адјеўшы „Хвала Богу“, ****) даць хвалу Богу, кафірынам нястанеш.
(Алеј) сьвятыј мовіў: „дванацаць грахоў галаўных јест: першаје

*(Канца няма).*

ЕВАНГЕЛЬЛЕ XVI СТ. Рукапіс у 4-ку, пісаны царкоўна-баўгарскай мовай с крыўскімі (беларускімі) асобнасьцямі ў тэксьце. Паходзіць з Мелішэўскай царквы, Берасьцейскага павету. Пераховуецца ў Беларускім музэі ім. І. Луцкевіча ў Вільні.

„СЛОВО ИЕРЕМИИ ПРЕЗВИТОРА ЯКО ХРИСТОСЪ ПЛУГОМЪ ОРАЛЪ“. Рукапіс XVI ст.; знаходзіўся ў 1897 годзе ў бібліатэцы Шырынаў у Старым Дварэ, каля Гэрманавіч, Дзісенскага павету. Зьмест „Слова“ апокрыфічны. Характар пісьма вельмі падобны да літар „Статуту“ 1588 г. Мова такая-ж як у „Літоўскіх Летапісцах“ і дакумантах. У нізе першай балоны подпіс: „Өеодор Корсак рукою власною“ і паметка славянскай нумэрацiяй „12“, якія паметкі маюцца на кождым сшытку (тетради); на 16-м сшчытку „Слово“ абрываецца падзертым лістом у версе, на абрыўках якога, чырвонай фарбай агаловак: „Книги Еноха“...

„СПИСАНЬЕ ЧУДОМЪ ИКОНЫ ПРЕСВЯТЫЯ БОГОРОДИЦЫ ИЖЕ ВЪ СТАРОСЕЛЬСКОЕ ОБИТЕЛИ“. Рукапіс першай палавіны XVI ст. ў ліст. У кнізе 462 лісты. Знойдзены быў у Гэрманавічах ў часе пажару

---

*) На пакіненым тут пустым месцы ў арыгінале арабскі сказ, даслоўна гэтакі: А ен Бог е на нябесах а на зямлі, ведае вашыя таемныя і яўныя і ведае, што заслугуеце? Вольным перакладам гэтага араб. е далейшае крыўскае (радок 10—11, 138 ь). **) Азраіл—ангел сьмерці; як бачым далей, аўтор „Аль-Кітабу“ перакладае яго крыўскім словам „душаемца“. ***) Суннат—загад Махамэдаў. араб. ****) У арыгінале на мейсцы гэтых двох сказаў стаяць адпаведныя ім арабскія.

надгробнай шырыноўскай капліцы, між выкінутымі з яе кнігамі; пераховываўся ў ксяндза І. Мачульскага ў Гэрманавічах.

Кніга цікава для мяйсцовай гісторыі. Перад сьпісаньнем цудаў, на 38 лістох, маецца вельмі цёплае апісаньне аб заснаўцы манастыра, які праўдападобна быў і аўторам амаўлянага абраза. У апісаньні гаворыцца аб заснаўцы, што ён быў знатнага нямецкага роду і „хитр бѣ вельми иконному писанию". З гэтага-ж апісаньня відаць, што цяперашняе мястэчка Гэрманавічы калісь мела назову „Старае сяло". Калі быў зьнесены Старасельскі манастыр невядома, але дрэўляная царкоўка стаяла на беразе р. Дзісенкі яшчэ ў канцы XVIII ст., пазьней, паводле традыцыі, каля 1830-х г., яна была разабрана. У 1890-х гадох было яшчэ з левай стараны ад перавозу, на левым прытным беразе Дзісенкі, не разаранае „царковішча". Праўдападобна з гэтай крыніцы, са збуранай царквы, ў шырыноўскай палацовай бібліатэцы (ў Старым Дварэ) было больш дзесятка кірылаўскіх кніг і рукапісаў, якія я бачыў у 1907 годзе.

На адваротнай балоне агалоўнага ліста „Сказаньняў" памешчана добрай работы міньятюра, выбражаючая цудоўную ікону Маці Божай. Маці Божа сядзіць на пасадзе, абапал пасаду, роўным радам арханелы ў зброі; дзіця Хрыстос стаіць трымаючыся левай рукой за руку Маці, а правай благаслаўляе. У нізе, ў левым вугле іконы сядзіць на камені мужчына, скланіўшы галаву на руку; ў правым—жанчына ў багатай шаце, са шнурком пэрал на шыі. Каля ступеняў пасаду ляжыць крывавячае сэрца, ў канцы крывавых пацёкаў ад сэрца вырастае сем хваравітых ліліяк.

„СКАЗАНЬЕ О ВЕЛИКОДНИ". Сшыток пісаны крыўскім скарапісмам, датаваны 1538 годам, ў чацьверку, 16 лістоў. Знаходзіўся ў Старадворскай Шырыноўскай бібліатэцы, каля Гэрманавіч, Дзісенскага павету.

У „Сказаньні апавядаецца, што калі Хрыстос уваскрос, то а шостай гадзіне ўзышло сонца і стаяла на ўсходзе на адным мейсцы тры дні, пасьля стаяла тры дні на поўдні і ўрэшце два дні на захадзе; на восьмы дзень яно зайшло. Згэтуль пайшла назова сьвята ўваскрэсеньня Хрыстова „Вялікдзень", якое залецаецца сьвяткаваць цэлы тыдзень да Праводнай Нядзелі, каторая лічыцца восьмым днём „Вялікадня".

„ПОВЕСТЬ О ВИТЯЗЯХ С КНИГЪ СЭРБЪСКИХ, А ЗВЛАЩА О СЛАВНОМЪ РИЦЭРИ ТРИСЧАН(Е), О АНЦАЛОТЕ И О БОВЕ И ИНШИХЪ МНОГИХ ВИТЕЗЕХЪ ДОБРЫ(ХЪ)". Рукапіс XVI ст. бібліатэкі Рачынскіх у Пазнані; повесьць займае ў зборніку 1—127 балон. С кніг сэрбскіх перакладзены толькі дзьве повесьці: аб Трыстане і аб Бове; Анцалот і іншыя рыцары толькі другарадныя героі гэтых повесьцяў. (Карскій, „Бѣлоруссы", т. III. бб. 77—80).

Зьмест повесьці аб Трыстане ўзяты з вельмі пашыранай у Эўропе сярэднявекавай пагудкі аб каханьні Трыстана і Ізольды (Іжота нашай повесьці). Пасьля некалькіх уступных артыкулаў, у якіх апавядаецца аб яго паходжаньні і радні, аўтор пачынае апавядаць „чудные дѣла и доброе витэзъство и цудные рѣчи" гэтага рыцара. Трыстан выступае на турнірах, перамагае сустрэча-



ѾЛꙊКЫ СТОЕ ЕѴГЛІЕ

Понеже оубо мнози начаша чи
нити повѣсть · ѡ извѣстова
ныи в наⷭ вещеⷯ · ꙗкоже преда
ша намъ, иже испрьва самови
дци и слоугы бывше словеси,
изволисѧ и мнѣ послѣдовавшоу
выше всѣ испытно, порѧдоу пи
сати тебѣ дръжавныи Ѳеѡфіле,
На роⷤ чтнⷭа пртча и кртлѧ Іѡа на лит.

Застаўка з Евангельля XVI ст. Беларускі музэй у Вільні.

ных ў дарозе рыцараў, ні перад якой небасьпекай неўлякаецца, перамагае рожных крыўднікаў—каралёў, нішчыць жорсткія законы і звычаі, астаецца верны дадзенаму слову, ніколі не здраджае сваей дамы, якая вызначаецца нязвычайнай прыгожасьцю. Калі павіннасьць прымушае яго перадаць дзядзьцы каханую ім даму, ён безсьпярэчліва перадае яе. Вось гэтае мейсца, разам як і пробка мовы:

„И коли прыехали, Трыщан даровал Ижоту королю Марку и рече: королю, маеш ми за нее дяковати што есми тобе ее другии разъ мечом добыл. Кроль Марко дяковалъ ему, говорячы: Мой милый сестрэнче Трыщане, ты много доброго вчинил, а я твой и все твое, што я маю, будь на твою волю. Трыщан поклекнулъ на колени и вздал фалу господу богу и потом дяковалъ королю Марку велми покорне. И тут была вся Корноваля вмѣсте, и не был ни старъ ни молодъ, хто бы не игралъ а не танцовалъ и не веселилъ. И так были ради, як бы им самъ бог прышол, иж были так веселы, лепей нижъ тогды, коли имъ перво Ижоту принесъ изъ Орлендэи“.

У загалоўку адмечана, што гэты пераклад ці пераробка ўзяты „з книгъ сэрбъскихъ“, але дагэтуль сэрбскага арыгіналу ніхто не знайшоў. У свой чарод сэрбскі тэкст мог быць пераpоблены з італьянскага. На гэткае паходжаньне повесьці паказуе і мова, ў якой траплюцца сэрбізмы і выслоўы, якія маглі зайсьці з італьянскага. Сэрбізмы: град, глас, злато, глава, рече, юнак, оток побач з-остров („к чорному острову отоку“). Італьянізмы: літра, прынчып, морнар і інш.

„ИСТОРЫЯ О КНЯЖАТИ КГВИДОНЕ“, ўласьціва повесьць гэта ёсьць аб Бове, бацька якога быў Гвідон. З апавяданьня аб Гвідоне і пачынаецца повесьць. Рукапіс XVI ст. бібліятэкі Рачынскіх у Пазнані. (Карскій, „Бѣлорусы“, т. III).

„Яко писмо говорит: Добрыи мужу, бог ти будь на помоч и вховай тя от смерти и отъ злое прыгоды! Хочу вам поведати добрую повесть о Кгвидоне Антонскомъ княжати и его сыне, о великом и славномъ рыцэру Бове. Тотъ Кгвидонъ храбрыи конник был, але одну реч зле вчынилъ, иж в час жоны не поялъ, але коли вже старъ былъ, тогды понял жону з великого племени, и она его не мела ни за один пѣнез“.

Не любіўшы старога мужа „меретрысъ“ (італьян. meltris) Бландоя, праз слугу „Рычардо“, запрашае каханца свайго Додона напасьць на горад Антону (Antonia) і заваладзець ім. Гвідон подступам высланы з гораду; яго сустрачае Додон и забівае. Недалетні сын Гвідона, Бово, са сваім дзядзькам Сімбальдо хаваюцца. Усё-ж такі Бову злавілі і маці пастанаўляе атруціць яго. Але замысл яе ня ўдаўся і Бова ізноў уцякае. На беразе мора ён упрашае карабельнікаў узяць яго на карабель: тыя згаджаюцца і пристануўшы ў Армэніі, прадаюць яго каралю Арманілу. Апошні паслаў Бову ў стайню служыць. Усім кінулася ў вочы прыгожасьць Бовы, і „племеніда Дружненна“ закахалася ў ім. У гэтым часе да гораду падступае войска Маркобруна, Бова ўслаўляецца ў бітве. Прыйшлі з-за мора Сарацыны з харобрым Лукапэ-



Евангеліст Лука, міньятюра з Евангельля XVI ст. Беларускі Музэй у Вільні.

рам. Арманіл і Маркобрун узяты ў палон. Дружненна апаясывае Бову мячом кладанцом, дае добрага каня „зброю“ і ён пабівае Лукапэра і звальняе з няволі паланёных. Арманіл хоча аддаць Дружненну Бове за жонку. Але яго подступам адсылаюць з лістом да Султана, бацькі Лукапэра ў Задонію, каб той забіў яго. Дзякуючы дачцэ султана Малгарыі, ён унікае сьмерці. Карабельнікі давозяць яго да гораду, дзе царстваваў Маркабрун, які ў яго нябытнасьць ажаніўся з Дружненнай. Пераапрануўшыся ў шату пільгрыма, Бова пранік да Дружненны і ўспіўшы Маркабруна, уцёк з ею. Ў дагон за імі быў пасланы Пулкан, які:

> „Маеть образъ чоловечыи и руки и перси шыроки, до поеса чоловѣкъ, ано нижеи як пес, от пса и от жоны рожон есть, а николи на коня не вседал, завжды пѣш хожывал, и нѣт на свете коня, от которого бы он не втекъ“.

Пулкан ня мог асіліць Бову і стаў нават верным яго слугой. Пакінуўшы Пулкана пілнаваць Дружненну і народжаных ею двох сыноў, Бова адправіўся выконываць новыя чыны. У гэтым часе львы разьдзерлі Пулкана і Дружненна пайшла шукаць мужа, Бову. Тымчасам Бова дабыў горад Антону, пакараў Дадона; матку сваю здрадніцу пастанавіў спаліць „або коньмі волочыти“. Але ў гэтым часе зьявіўся пасол ад каралевы Малгарыі с просьбай ратаваць іхні горад ад аблягаўшага угорскага караля. Бацька яе памер і яна згодна прыняць хрысьціянства і быць жонкай Бовы. Бова перамагае угорскага караля і зьбіраецца жаніцца з Малгарай, бо аб Дружненне не было ніякіх вестак; думалі што і яе разьдзерлі львы. Тымчасам прышла Дружненна.

> „И розмешавши одно зѣлье и намазалася им и стала чорна, як уголь, и взела гусьли..., вчинившися скоморошницою, и шла по свету и по городехъ играла у гусли, а сынове скакали, а тым было семъ годъ“.

У гэткай постаці яна прыбыла на вясельле да мужа. Пазналіся. Малгарыя выйшла замуж за другога рыцара, а Бова астаўся з Дружненнай і сваімі сынамі. „А так ся докончыло писанье о Бове“.

Хоць ў агалоўку сказана што повесьць гэта ўзята „з сэрбъскіх книгъ“ аднак сэрбскі арыгінал дагэтуль не знайдзены. Затое на італьянскай мове маецца вэніціянскі тэкст повесьці аб Бове ў рукапісе Лаўрэянскай бібліатэкі.

Праз крыўскую літэратуру повесьць аб Бове перайшла ў Масковію і сталася аднэй з найбольш папулярных повесьцяў.

ГРАМАТА ЖЫГІМОНТА АЎГУСТА 1551 Г. НА ПАБУДАВАНЬНЕ Ў ВІЛЬНІ ШКЛЯННАЙ ГУТЫ.—„Собр. древн. грам. и актовъ“, Вільня, 1843, № 48.

> „... дозволили и дали дворенину Нашому Мартину Палецкому на земли нашей при мѣстѣ Виленскомъ за рекою Вельею межи псарнею нашою и плитницою Воеводы Виленского небожчика Пана Яна Юрьевича Глебовича, збудовати гуту скляную, накладомъ своимъ властнымъ ку его пожитку с которое он в каждый год по чотыреста скленицъ давати намъ ся подвезалъ“.



Нагробны камень Васіля Тышковіча, Віленскі унівэрсытэцкі музэй.

Акром гэтага памянёнаму Палецкаму даецца манаполь на таргоўлю ўся кім прывозным шклом у Вільні:

„... а скло оболонное и иншую дробную розную привозную склянную роботу (маетъ) слушне а побожне продавати безъ обтяжливости людское“....

„КНИГА О ТАОУДАЛЕ РЫЦЕРИ“. Захавалася ў рукапісе XVI ст. якая знаходзіцца ў Варшаве (№ 408). На рукапісе маецца гэткі агаловак: „Починаеться книга о таоундале рыцери“. (Карскій, „Бѣлоруссы“, т. III. 80-83).

Азначаны літэратурны твор адносіцца да „Відзежаў“, вельмі пашыраных ў Зах. Эўропе ў сярэднявеччы. Гэта алмена пісьменства зарадзілася ў Ірляндзіі, але пасьля прайшла па ўсей Эўропе і ў XV—XVI ст. дасьцігла славянаў.

Пасьля азначаньня часу і мейсца чыннасьці „книга“ дае характэрыстыку дзеючай асобы:

„С того мѣста был есть един моу(ж) родомъ, емоу(ж) имя было таоудалъ, родоу словоутного але дѣлъ велми недобрыхъ, по тѣлоу витяжн(ы)й а велми смѣлый, а о спасенїи своеа д(у)ша мало або ничого не смотряше. то емоу прелишь бяше противно, а штобъ хто емоу хотѣлъ мало о спасенїи д(у)ши повѣдати. до церкви таке(ж) неходяше а нищихъ ненавидяше пре(д) собою, але игрецемъ а пистцо(м) а гоу(д)цомъ выдалъ есть что мѣлъ“...

Паміж рыцараў меў ён аднаго любімага таварыша, каторы прыехаў да яго, і тры дні яны балявалі. Але тут Тундал абмер і быў у гэткім стане ад серады да суботы, калі да яго ізноў вярнулася душа. Пасьля апавядаецца аб тым, што бачыла душа: страшныя мукі грэшнікаў і рожныя дзівы, прыкл., нязвычайнай вялічыні патвору (нагадуе баечную перамену Бабы-Югі ў грамадную сьвіньню):

„Оуста розинула велми велика иже ся так здаше, бы могла пожрети девя(ть) тысящь одиньцов (моуж)... Та потвора имѣяше оу своихъ оустахъ два обри (праходы) и единъ глау(вн) на гору а другыи доловъ и стояхоу яко два столпы“.

Бачыла душа страшных зьмеяў, якія ў хвастох мелі па многа жыгалаў і г. д. Бачыла душа Тундала і іншыя абразы: гожы дом, аздоблены золатам, серабром і дарагімі каменьнямі; ў доме залаты пасад, на якім сядзеў кароль, катораму многа прынасілі дараў; бачыла яна славу сьвятых і вядомых біскупаў і мучанікаў.

Праўдападобна гэта ёсьць крыўская (беларуская) перапрацоўка з лацінскай мовы чалавекам добра знаючым славянскія мовы.

„СКАЗАНИЕ О СИВИЛЛЕ ПРОРОЧИЦИ“. Повесьць гэта знаходзіцца ў рукапісе бібліатэкі Красінскіх у Варшаве, № 408.

Повесьць пачынаецца з характэрыстыкі Сыбільлі.

„Того ча(с)у за моудраго ц(а)ря саломона. бѣяше пр(о)рочица свѣздарька имене(м) сивильча, а та бѣяше велми моудра. иже въ звѣз(д)ахъ многыхъ вещи в будущи(х) реча(х) и провидѣла. пре(ж)

многы(х) тысящь лѣ(т). что ся в земля(х) стати маеть, та еи моу(д)-рость е(и) от б(о)га дана. и знаема бѣяше".

Апісаўшы яе зьверхны выгляд, аўтор повесьці апавядае аб падарожы Сыбільлі да Саламона з мэтай пераканацца аб яго мудрасьці і пышнасьці двара. Пасьля дотыку да адамавага дрэва, якое ляжала на падворку ў Саламона, спагаілася яе гусіная нага. Прароцтва яе аб Хрысьце і распашырэньню хрысьціянства; аб скančэньні сьвету „по четырьнадесяти(х) сте(х) лете(х) по х(ристо)ве нароженіи", што папярэдзяць рожныя ўтрапеньні і навалнасьці паміж людзей. Прыватныя прапаведні аб пануючых асобах. Знакі на небе пры скančэньні сьвету:

„и все конець во(з)мет. и едини праве(д)ніи. не погиноу(т). тіи съ господе(м) б(о)го(м) в ра(до)сти боуду(ть)".

Такім чынам у гэтай повесьці знаходзім перапрацоўку некалькіх біблійных і апокрыфічных пагудак: аб царыцы Саўскай, аб дрэве крыжовым, аб скančэньні сьвету і аб знаках прыходу Антыхрыста. Сюды далучаны яшчэ прароцтвы Сібільляў.

Мова повесьці занячышчана царкоўна-славянізмамі і крыху полёнізмамі.

## КРУГАКОЛЬНАЯ КАРАЛЕЎСКАЯ ГРАМАТА 1548 Г. АБ ЗАБАРОНЕ ЖАНКОМ ЎСТУПАЦЬ Ў СУЖЫВЕЦТВА З ЖЫДАМІ, ТУРКАМІ І ТАТАРАМІ.

Надрукавана ў Грыгаровіча „Бѣлоруск. арх. древн. грам." ч. II, бб. 147—148. „Акты, отн. къ истор. Зап. Рос.", т. III, бб. 20—21.

Жикгимонтъ Августъ, Божьею милостью король Польскій, великій князь Литовскій, Рускій, Прускій, Жомоитскій, Мазовецкій и иныхъ, княземъ, паномъ, и воеводамъ, старостамъ, державцамъ, намѣстникомъ, тивуномъ, кнегинямъ, панямъ вдовамъ, бояромъ и дворяномъ нашимъ, воитомъ, бурмистромъ, радцамъ и всимъ мѣщаномъ, и подданымъ нашимъ, и тежъ князьскимъ и панскимъ духовныхъ и свѣтскихъ. Присылалъ до насъ князь Павелъ, бискупъ Виленскій, повѣдаючи о томъ, ижъ дей по мѣстѣхъ и дворѣхъ нашихъ и имѣньяхъ вашихъ, промежи васъ подданыхъ нашихъ, многія невѣсты мужовъ своихъ опускаючи своее воли вживають, и не въ законѣ мѣшкають, и, будучи хрестьянки, зъ Жиды, съ Турки, съ Татары живутъ, чужоложства и иншіи збытки чинятъ; которыи дѣй дѣти ихъ они зъ собою беручи у вѣру свою хрестятъ; которых дей передъ тымъ завжды, за таковыи ихъ выступы и вчинки, черезъ служебника его милости было имано и до казни и каранья его давано. Къ тому дей многіи съ подданыхъ нашихъ мѣщанъ Виленскихъ, то есть, ремесленики, золотари, слѣсари, ковали, и тежъ крамники, кравцы и шевцы, закону Рымского, крамы свои роскладають и продають, а иншіи ремесленики въ дни святыи робять, недѣли и никоторого свята въ почстивости не мають; которыхъ дей передъ тымъ также за то было имано и до казни его милости давано: и такъ абыхмо и теперь росказали таковыхъ карати.—Про то, которыи бы были люди роспустныи и своевольныи, и таковыи злыи вчинки и своеволенства пополняють, а водлугъ закону хрестьянского вѣры Римскоѣ мѣшкати и заховыватися не хочуть, мы росказали и дали моцъ тому

служебнику его милости князя бискупа Виленьского, который отъ него уставленъ на то будетъ, таковыхъ выступныхъ, хто бы хотѣлъ то чинити, або чинитъ, гдѣ—колвекъ знашедши моцно имати, и до казни и каранья его милости, гдѣ того обычай есть, давати; такъ тежъ и тыхъ своевольныхъ людей, закону Рымского, которыи дней святыхъ и святъ въ учтивости мѣти не хочутъ, за таковыи своеволенства ихъ, такъ же, поимавши, до казни его милости давати, абы они потомъ того ся важить не смѣли, и недѣли и иншіе дни святыи у—въ учтивости мѣли, и тыхъ своеволенствъ ся повстягали. И вы бы о томъ вѣдали, и тому служебнику князя бискупа его милости Виленьского, который то отъ него въ порученьи своемъ мѣти будетъ, противны въ томъ не были, и еще бы есте на таковыхъ помочь ему давали, конечно, абы то инакъ не было. Писанъ въ Петрковѣ, подъ лѣто Божьего нароженья 1548, мѣсяца Декабря въ 7 день, индикта 7.

„ПСАЛТЫРЬ ИЛИ ПѢСНИ ДУХОВНЫЯ, твореніе пророка и Царя Давида и другихъ богодуховныхъ мужей". Пераклад з грэцкага, выданы:

„доктором въ лекарскихъ наукахъ Францискомъ Скориною с Полоцка" ў 8-ку.

Друкаваны ў Вільні ў 1551 годзе. Ведамку аб гэтам Псалтыры падае Гофман („De typographiss" б. 44), запазычыўшы яе с кнігі Bergii de statu ecclesiae et religionis Moscovit. Holmiae 1704. (Wiszniewski: „Histor. Polsk. lit", т, VIII. б. 474). Ундольскі дадае да гэтай выпіскі: „трэба рашыць, ці ня ёсьць то віленскае выданьне Псалтыра 1525 году с памылкова выстаўленым годам друку і абазначаньнем другога фармату". Мы аднак думаем, што гэты Псалтыр мог быць друкаваны Скарынам, якому ў 1551 годзе было ня больш 60—65 гадоў. Да гэтага трэба дадаць, заслуговуючае веры сьветчаньне віленскага археолёга Заштаўта аб тым, што істнавала Скарынаўскае Евангельле, друкаванае ў 1540-х гадох, якое ён бачыў між кніг, звожаных у Вільню з уніяцкіх царквей у 1860-х гадох.

УСТАВЫ, ДАДЗЕНЫЯ ЛІТВЕ І АБВОДАМ ЖМУДЗКАМУ, ПОЛАЦКАМУ, ВІТАБСКАМУ І МСЬЦІСЛАЎСКАМУ НА ЧАЦЬВЁРТЫМ ВІЛЕНСКІМ СОЙМЕ. 1559 Г.—„Акты, отн. къ истор. Зап. Рос.", т. II.

IV.—Прозьбы повѣту Витебского.

1. Прозьба. Што есте просили его королевской милости: которые князи и панове и державцы имѣнья свои въ повѣтѣ Витебскомъ маютъ, абы службу, яко военную, такъ и лежанья въ замку, коли потреба будетъ, съ тыхъ имѣній своихъ служили, имѣньями своими головнѣйшими не вымовляючыся.

Отказъ. Его королевская милость на то рачилъ росказати вамъ повѣдити, иж хто-кольве имѣнье свое въ повѣтѣ Витебскомъ маетъ, будь зъ особъ духовныхъ или свѣтскихъ, завжды часу потребы, отъ пана воеводы ознайменоѣ, маетъ самъ особою своею при замку бы-

Грамата Жыгімонта-Аугуста; тып крыўскай скорапісі XVI ст.

ти; а кгды самъ отъѣдетъ, ино врядника, чоловѣка доброго и годного, зоставляти маетъ, который часу потребы, за росказаньемъ пана воеводинымъ, при замку мѣшкати будетъ, и зъ собою такъ много людей мѣти, яко къ войнѣ; а часу войны, подлѣ статуту маютъ ся заховати.

2. Прозьба. Просите тежъ его королевской милости, ижбы въ нижнемъ и верхнемъ замку вѣжи оправити, также и замокъ верхнiй весь абы былъ оправленъ, и стрѣльбою, дѣлами и гаковницами, порохами и пушкарями заспособленъ, и шпихлеры бъ поробити и живностью тотъ замокъ заспособити его милость росказалъ.

Отказъ. Его королевская милость роскажетъ то все водлѣ потребы осмотрѣти, яко панъ воевода справу его милости того даетъ и потребу окажетъ.

3. Прозьба. Што тежъ есте его королевской милости просили, ижбы его милость тую серебщизну, которая на два годы по пяти грошей розложена, вамъ отпустити рачилъ, и впередъ николи на васъ, яко на людехъ украинныхъ, серебщизны не брати казати рачилъ.

Отказъ. На то королевская милость рачилъ росказати вамъ повѣдити, ижъ серебщизну не господарю его милости, але на потребу земскую даете, и того податку, на потребу рѣчи посполитоѣ ухваленого, яко его милость до скарбу своего господарского привлащати не звыкъ, такъ тежъ и отпускати неможетъ.

4. Прозьба. А што били есте господарю его милости чоломъ, абы зъ людей вашихъ серебщизну брати потомужъ яко и въ Полоцкомъ повѣтѣ: который чоловѣкъ одною клячою у сохѣ робитъ, абы платилъ яко отъ полсохи водлѣ давноѣ звыклости.

Отказъ. Господарь его милость на то призволяти рачитъ: вѣдьже который чоловѣкъ двѣма клячами у сохѣ робити будетъ, таковый абы серебшизну отъ суполноѣ сохи платилъ.

5. Прозьба. Докладаете тежъ то его королевской милости на прозьбѣ своей, ижъ кгды панъ воевода Витебскій, за росказаньемъ его милости господарьскимъ, або за потребою своею, съ тамошнего замку зъѣдетъ; тогды, хотя потреба не есть и часъ спокойный, вамъ съ почтами своими при замку лежати кажетъ: въ чомъ трудность собѣ немалую быти мѣнуючи, просите, абы то впередъ вамъ чинено не было.

Отказъ. Господарь его милость рачилъ росказати на то вамъ повѣдити ижъ князю воеводѣ Витебскому вже то отъ его королевской милости росказано: кгды потреба не вказуетъ, ижъбы вамъ съ почтами вашими при замку лежати не казалъ; а вы бы тежъ за писаньемъ пана воеводинымъ, кгды бы его милость потребу розумѣючи, къ замку ѣхати вамъ казалъ, въ томъ не сплошалися.

6. Прозьба. Притомъ просите господаря его милости, жебы для борзѣйшоѣ справедливости, судей и писаря присяжного вамъ дати, и наметное и вижовое и дѣцкованое водлѣ привильевъ и вольностей вашихъ брати росказати рачилъ.

Отказъ. Его милость господарь на тую прозьбу вашу рачилъ росказати вамъ повѣдити, ижъ тотъ артыкулъ о судьяхъ и вижахъ рачитъ его милость откладати до статуту нового, кгдыжъ недолгій часъ и рокъ на выданье статуту ознаймити вже его милость рачилъ; а до того часу маете судитися по первому, и дѣцкованое по тому, яко у прывильяхъ вашихъ описано, брано быти маетъ; а кгды статутъ новый будетъ всимъ землямъ выданъ, на онъ часъ вже будете ся справовати по тому яко ся въ статутѣ постановитъ.

7. Прозьба. Надъ то просили есте господаря его милости, ижбы вы службу военную служили и почты зъ имѣній своихъ выправовали потому, яко и Полочане выправують, кладучи похожихъ людей двухъ дымовъ за одного отчизнаго чоловѣка, то есть, съ двадцати чоловѣкъ похожихъ одного коня ставити.

Отказъ. Господарь его милость рачитъ росказати вамъ на то повѣдити, ижъ его милость водлѣ давного обычаю зостановляти рачитъ тую рѣчь на тотъ часъ.

ЕВАНГЕЛЬЛЕ (1560?), без азначаньня году і мейсца друку. Літары гэтага анонімнага Евангельля тыя-ж самыя, што ў кнігах Несьвіжскай друкарні. Дагадываюцца, што літары былі прыгатаваны ў Несьвіжы ці Вільні для Масквы і што там ужо было надрукавана вышэй згаданае Евангельле („Книга въ Россіи", ч. І, Масква, 1924 г., бб. 66 67). Дагадка гэта абаперта на прадмове В. Цяпінскага да перакладу яго Евангельля, дзе ён ссылаецца на „Евангеліе Московское недавно друкованое", каторым Цяпінскі карыстаўся для свайго перакладу. Нам здаецца, што слова „московское" тут не абавязкова мае значыць друкаванае ў Маскве, яно паказуе на языкова-рэлігійную прыналежнасьць Евангельля Маскве, так сама як гаворыцца—лацінскае, баўгарскае, польскае,—гэтак і тут сказана—„московское", зн. па зьместу і мове прыналежачае Маскве, але гэта яшчэ не значыць, што яно друкавана ў Маскве. Апошняе пацьвярджае і папера ўжытая на гэту кнігу, каторая часьцю мае водныя знакі нямецкіх паперань 1530-х гадоў і французскіх паперань 1540—1560-х гадоў; адну і другую паперу ўжывалі акурат нашы віленская і несьвіжская

друкарні. Дзеля гэтага аматулянае Евангельле мы залічаем да друкаў Несьвіжскай друкарні, апіраючыся на такіх моцных данных, як тожсамасьць літар і паперы. Падобна як першыя друкі для крыўскіх зямель выконываліся ў Кракаве і Празе, так і першыя друкі для Масквы, да заснаваньня ў Масковіі сваіх уласных друкараняў, выконываліся ў крыўскіх землях.

ГРАМАТА КАРАЛЯ ЖЫГІМОНТА АЎГУСТА СЬЦЯПАНУ ЗБРАЖСКАМУ, ВОЯВОДЗЕ ВІТАБСКАМУ, каб ён ня перашкаджаў Вітабскім мяшчанам арганізаваць брацтвы, 1561 г. траўня 6.—„Акты, относ. къ истор. Зап. Росс.", т. II.

> (...) „Пріѣздилъ до насъ войтъ Витебскій Степанъ Лускина, самъ отъ себе и ото всихъ мѣщанъ Витебскихъ, о томъ, што твоя милость у канониковъ Виленскихъ корчму плебаніи Витебскоѣ арандовалъ, то так дей твоя милость, для тоѣ корчмы, братствъ ихъ, которыхъ они съ давныѣ часовъ спокойне на себе вживали, мѣти имъ не допускаешь и того забороняешь, ку кривдѣ и шкодѣ ихъ" (...)

„РЕЕСТРЪ РОЗДАВАНЬЯ ПЕНЕЗЕЙ". Рукапіс 1862 году. Бібл. Варшаўскага Унівэрсыт. Карскій, „Очеркъ сл.-кир. палеографіи", бб. 444 і 487.

АРЫЯНСКІ РЭЛІГІЙНЫ СЬПЕЎНІК (ДА 50 ПЕСЕНЬ). Песьні пераважна перакладзеныя з мовы нямецкай на стара-крыўскую. („Чтенія Московск. Общ. ист. и древн." 1846, № 1.; Aleksander Jabłonowsky „Akademija Kijowsko-Moh lanska" 1899—1900).

АРЫЯНСКІ КАТЭХІЗМ. Пад гэткай назовай, надпісаный характарам першай палавіны XIX ст., пераховываліся 4 друкаваныяліcткі ў бібліатэцы Эмануэля Булгака, каля Быхава. Літары друку тыя-ж што і катэхізму Буднага. Па зьместу выглядае гэта хутчэй на сатыру чым на катэхізм, прыкладам, на першай балоне:

> Пытанье. Яко маеть жити чоловѣкъ.
>
> Отвѣтъ. Жыи яко хочешь. А вжды тр(а)пишь въ пекло тоть не самъ одинъ а зъ великимъ гуфомъ и будетъ тебѣ весѣло.

И далей—ліст 2-гі:

> Пытанье. Што то естъ мша.
>
> Отвѣтъ. Мша естъ то омерзлы Богу обрядокъ въ которомъ попы другии раз Ісуса Крста крижують.
>
> Пытанье. Што то естъ папежъ.
>
> Отвѣтъ. Папежъ естъ то антыхристъ бѣлы; чорны бо вѣмъ пѣкло а сеи на встыдъ нашъ церьковь справуетъ.

Ці гэты катэхізм быў калі поўнасьцю надрукаваны—нет ведама. У вядомых мне бібліографаў ён не адмечаны. Вышэйпададзеныя выпісы зроблены беларускім архэолёгам Іванам Луцкевічам. Вельмі пажадана было-бы адшуканьне і перадрукаваньне зьместу ўсіх чатырох ліcткоў гэтага цікавага катэхізму, што на вялікі жаль дагэтуль ня зроблена.

„ПСАЛОМНИЦА“, друк. (паводле шрыфту) ў Вільні, 1596 г., у 8-ку, 231 ліст (Ундольскій).

„ЧАСОВНИКЪ“, друк. ў Вільні, 1596 г., у 12-ку, 104 лісты. (Ундольскій).

Псалтыры, часасловы і інш. богаслужэбныя царкоўныя кнігі, друкаваныя ў Вільні ў канцы XVI ст. маюць зазвычай мову царкоўна-баўгарскую, крыўская мова бывае толькі ў прадмовах і пасьляслоўях, але гэты друкі цікавы вельмі з друкарскай стараны: яны даводзяць сваімі застаўкамі і пачатнымі аздобнымі літарамі, што крыўскія друкарскія традыцыі йшлі ад друкарні Фіоля і Скарыны і далей разьвіваліся згодна мясцоваму смаку і традыцыям.

„ОПИСАНЬЕ И ОБОРОНА СЪБОРОУ РОУСКОГО БЕРЕСТЕЙСКОГО. Въ року 1596, месеца октебра“. Друкавана ў Вільні „року Божого нароженья 1597“. Аб гэтай кнізе ў „Апокрисисѣ“ Хрыстафора Філалета сказана, што яна напісана уніятам і што яе спалілі езуіты (Вішнеўскі, VIII, бал. 293). Сахаров (Обозр. № 95) кажа наадварот, што яна ўзята с польскай кнігі „Ektesis“, надрукаванай у Кракаве па польску ў 1597 г. Возьняк (Ист. Укр. Літ.) падае вэрсыю, што арыгінал напісаны па польску Пятром Скаргай, а пераклад Іп. Поцея, тое-ж самае пацьвярджае і праф. Карскі (Бѣл. т. III, ч. II. 193).

Перад „Описаньем“ надрукавана „Предмова Скаргі“, ў якой ён кажа:

> „Взгленулъ тежъ и на насъ Господь Богъ, въ полъночъныхъ и озяблыхъ сихъ краяхъ мешкаючыхъ, и розеръванье тое, которые злые люди межи костеломъ Кгрецъкимъ и Латинъскимъ зъ великою душъ людъскихъ згубою былі учынили, до едности привести рачылъ. Што се стало року прошлого тысеча 596, въ Берестью, на сыноде Рускомъ, пристойне собраномъ одъ его милости отца митрополита зъ инъшыми епископы своими. Которая речъ ижъ есть вечное памети годна, прыстояло, абы для ведомости посполитое въ друкъ подана была. Наперъвей ижъ естъ речъ кройникъ и всихъ гисторый годна, бо не такъ съ промыслу людъского, якъ зъ рамене и зъ вшехмоцности Божей станула,—о што се продъкове нашы не разъ кусили а до скутъку прывести не могли.“

Пасьля апавядаецца аб самым саборы, як ён адбываўся: хто быў на ім з духоўных і сьвецкіх асоб, урэшце прамовы і пастановы. Пасьля выкладу як адбылася унія, даецца абарона яе ўсестаронна з богаслоўска-тэорэтычнай, гістарычнай і практычнай стараны.

„АПОКРISIS АЛБО ОТПОВѢДЬ. На книжкы о съборѣ берестейскомъ. именемъ людій, старожитной релѣи греческой. Через Христофора Филялета врихлѣ дана“ (Не пазьней 1597 г. у Вільні, Ундольскій). Кніга ў 4-ку, 222 лісты.

Філялет, гэта псэўдонім, які знача „праўдалюбец“. Думаюць, што Апокрызіс напісаны па прозьбе кн. Канстантына Астрожскага Крыштафам Брон-

скім. Кніжка пасьвячана Яну Замойскаму, канцлеру і гэтману каронnаму. З „Предмовы до чителника“ даведываемося, што гэта праца пісана:

„Для забѣженья омылному розумѣнью и у нинѣшнего, а тым больше у пришлыхъ вѣковъ, тутъ же тыжъ для затканья устъ противникомъ, которыи для молчанья на потвори оказію до триумфу берутъ, и для перестроги а лѣкарства своимъ“.

Аўтор ня хоча даваць „жадныхъ уразливыхъ титуловъ“ тым што пісалі аб Берасьцейскім сынодзе, а будзе толькі „сынодовымъ дѣеписцем“. Свае довады будзе апіраць на сьв. Пісаньні, на гісторыі царквы і пры гэтым будзе даваць найбольш довадаў с пісьменнікаў каталіцкіх, бо ён піша супроць каталікоў, таксама як Скарга даваў найбольш довадаў з грэцкіх пісьменнікаў.

Каб справядліва ацаніць нашу спрэчку, кажа аўтор, трэба перачытаць ўсю яго кнігу, а не асобныя адрыўкі.

Урэшце ён даводзіць, што Берасьцейская унія, гэта вынік здрады некалькіх асоб, якія выкарысталі сваё высокае палажэньне ў чыста асабістых мэтах. Што засядаўшы ў асобным будынку, праваслаўны сабор быў запраўдным голасам усей праваслаўнай царквы. Што ўсе довады Скаргі аб зьверхнасьці папежа зьяўляецца плодам езуіцкай софістыкі і г. д.

Цікавы погляд аўтора на права („Памятники полемической литер. въ Зап. Руси“, кн. II, 1882 г., балона 1069):

„Право о которомъ ся тотъ роздѣлъ пишетъ, есть двоякое: одно—неписаное, которого звычаемъ зовемо, другое—писаное, которое зась на двое роздѣлитися може. Бо едно въ статутѣхъ и конституціяхъ, всѣмъ посполитыхъ, замкнено есть; другое въ листѣхъ а въ привилеяхъ, которое ся съ той мѣры, же не сугь въ статутъ вписаны, приватными назватися могутъ. О правѣ неписаномъ або звычаю много мовити не потреба и показованя, же его митрополитъ и зъ владыками взрушилъ: всѣ то люди вѣдаютъ и прызнаваютъ, а подобно и сами тыи взрушителѣ съ тое не мають въ собѣ смѣлости и невстыдливости, абы того прѣти мѣли. Право писаное—кгдыбы ся достатечне перакладати мѣло, пришло бы незличоную речь привилеовъ и листовъ тутъ вписати, которыми частокроть, а особливе при фундованью якихъ церквій и при издаванью до нихъ добръ черезъ княжата Рускіи, а потомъ черезъ королѣ Полскіи справы княжатъ потвержаючи, —волность и трвалость релѣи Греческой знамените есть утвержена. Тежъ же бы то назбыть барзо тотъ шкриптъ продолжити, а назбытъ великей книжки учинити мусѣло,—не хочется тыхъ листовъ всѣхъ и привилеовъ вписованьемъ чителникови уприкряти“.

Між іншым аўтор перасьцерагае ад раздораў аргумантамі палітычнага характару (там-жа, бал. 1800—1802):

„Жалосная речъ—терпѣти утискъ отъ вышшого, жалоснѣйшая—отъ ровного, найжалоснѣйшая—отъ подлѣйшого. Терпливость, часто ображаная, въ попудливость звыкла ся премѣняти. Недуфанье о доступенью справедливости презъ звыклые средки, недуфанье о помочи, выгледанье за некараньемъ и негамованьемъ утисненыхъ—што разъ то болшого утрапенья до незвыклого утисненымъ одыймованья звыкло бывати причиною утрапенымъ.

Ужалтеся, для Бога, над отчизною сполною! Уважте кондицію ее инакшую нижъ иншихъ королевствъ, въ которыхъ огонь внутрней войны и до того часу не есть угашеный. Тамъ мѣста, тамъ замки, тамъ тверди оборонные густо седятъ; зачимъ недивъ, же долго ся собѣ опирали и опираютъ. У насъ гдѣ бы ся той поломень (которого, Боже, уховай!) появилъ, прудко бы вси того широкого панства мазанки попепелѣли! Тамъ Турокъ—одлеглый, о Татарахъ—ледво слыхати! А мы ихъ тутъ тужъ при боку маемъ; и хотя въ згодѣ мешкаючы, отъ нихъ въ небеспеченствѣ уставичномъ; а ктому и зъ иншихъ сторонъ покоемъ, пріязнію и примирьемъ—не до конца убезпечени естесмо".

„СПРАВА ОТЦА НИКИФОРА, великого притосинкгела патріаршого трону Константинопольского, которая ся точила на соймѣ вальномъ Варшавскомъ, въ року 1597, Марта 11 дня, съ ихъ милостями паны канцлерами корунnымъ и Литовскимъ, и съ великимъ логофетомъ земли Волоскоѣ, за поводомъ духовныхъ Римскихъ, а найболѣй апостатовъ Рускихъ".

Напродъ, задали ему то, же бы мѣлъ быти шпекгомъ цесаря Турецкого, якобы будучи тутъ въ панствахъ нашихъ, листы посылалъ черезъ якогось Волошина до Турка; и хотячи его за такого удать, колько недѣль старалися, якъ бы его приватнѣ, передъ однымъ маршалкомъ судить могли: але того боронилъ его милость яснѣосвѣцоный княжа, панъ воевода Кіевскій съ другими сенаторами, и домовилися того, же тая справа не покутнѣ, але предъ королемъ и всимъ сенатомъ отправована была. А тогды первшого дня, предъ королемъ и всимъ сенатомъ инстикгаторъ короля его милости жалобу на него положилъ, мовячи, же той есть шпекгъ и до Турецкого цесаря листы пишетъ и черезъ слуги княжескіе высылаетъ, хотячи тымъ нѣяко королю его милости шкалевать, и показуючи копію листовъ; по Польску написаны и читаны были, а орыкгиналовъ самыхъ Грецкихъ листовъ не пробовано. Которые копѣи чотырехъ листовъ, яко они читали, то въ собѣ маютъ:

„Я Пафнутей калугеръ пишу до сестры своее, ознаимуючи, же есьмо тутъ пріѣхали до Полски, межи драпежные волки, то есть, межи псы Ляхи, которые примушаютъ нашихъ хрестіянъ на свою папезскую вѣру, и бьются межи собою; же ихъ около двадцати тысечей полегло (а то розумѣлъ, же о вѣру была зъ Наливайскомъ битва): про тожъ ѣду теперешнего часу до Москвы, и оттамъ туль воротившися, маю волю ѣхать до Святоѣ Горы, и тамъ хочу живота своего докончить". А другое писанье въ тые жъ слова тотъ же чернецъ писалъ до матки своей, и третее также до попа, а четвертое до чернца одного писалъ, просячи ихъ о долгъ, абы ся не гнѣвали, и обѣцуючи имъ платить, кгды ся зъ Москвы вернетъ. Есть тежъ и то на одной терминѣ приписано: „Але нашъ цесарь, Богъ дай былъ здоровъ, если бы хотѣлъ на Польску, теперь бы мѣлъ часъ".

Тамъ же пытано и Волошина Яна: „отъ кого бы тые листы мѣлъ, кто ему ихъ далъ, и кто его до Турокъ послалъ?" повѣдилъ: „што ся тычетъ стороны посельства, кто мя послалъ, теды-мъ ѣхалъ частью для того абы-мъся довѣдалъ, у Волоской земли што ся дѣетъ зъ моею маетностью, которую покинулъ зъ жоною моею, для неласки

шаньне *е* і *ѣ* (о с(вя)те(м) д(у)се, о с(вя)тей Тр(ои)ци, о правей вѣрѣ, бал. 83; о правей вѣре л. 21 б); *в* замест *у* (вчинены); *е* замест *а* (я)—„въ кратце зло-(же)но на паме(ть)".

„ХОЖЕНІЕ ДАНИЛА ИГУМЕНА ВЪ С(ВЯ)ТЫИ ГРА(Д) ІЕР(УСА)Л(І)МЪ". На 91 бал. „Зборніка XVI стаг". Бібл. гр. Красінскіх у Варшаве, № 408.

ЕВАНГЕЛЬЛЕ УЧЫЦЕЛЬНАЕ XVI СТАГ. Перах. у Кіяўскай Дух. Акад. з рукапісаў Мялецкага ман. № 113. У канцы кнігі прыпіска:

> „Написана бы(сть) книга сіа повеленіемъ бл(а)говѣрна(го) и христолюбиваго князя Юрья Семеновича Слоуцкого, а писалъ дьякъ Оустинъ Яцковиць Чечерянинъ".

АПОСТАЛ ТАЛКОВЫ XVI СТАГ. Перахов. у Віленскай Публ. бібл. № 21. На адвароце апошняй 534 балоны маецца запіс такога зьместу:

> „в року (1595) стало отступленіе отъ патріархи и прилучилося папежу Руси немало".

Тутака-ж ёсьць малітва пісца рукапісу, якая канчаецца словамі: „Рабъ І(ісу)с Х(рысто)вь инокъ Ануфрие".

МІНЭІ ЧЭЦЬ І XVI СТАГ. Вілен. Публ. бібл., № 79. Найбольш характэрныя рысы крыўскай мовы маюцца на б. 194 у слове „о с(вя)томъ Іоаннѣ Б(о)гословѣ, како слово(м) навчи ч(е)л(ове)ка написати иконы".

ПРОЛОГ, МЕСЯЦЫ ВЕРАСЕНЬ-ЛЮТЫ, XVI СТАГ. Перах. у Віленскай Публ. бібл., № 94.

ЗБОРНІК ЖЫЦЬЦЁПІСАЎ СЬВЯТЫХ, XVI СТАГ. Вілен. Публ. бібл. № 105. На 472 бал. ёсьць дапіска, з якой відаць, што канец рукапісу пісаны рукой Іозафата Кунцэвіча.

ЖЫЦЬЦЁПІС АЛЯКСЕЯ ЧАЛАВЕКА БОЖАГА. Памешчаны на 63 балоне зборніка XVI стаг., які перахов. у Маскоўскай Сынодальнай бібл. Жыцьцёпіс мае агаловак:

> „М(еся)ца ма(р)та (17) д(е)нь житіе и жи(з)нь ч(е)л(ове)ка б(о)жіа Олексіа".

Пачынаецца ён такімі словамі:

> „Бѣ ч(е)л(о)в(ѣ)къ бл(а)говѣренъ оу римсте граде именѣмъ єоуфиміанъ".

Рэдакція крыху іншая, чым у Петраградзкім зборніку № 391.

ЗБОРНІК КАНЦА XVI СТ., рукапіс Румянцаўскага музэю № CCCLXXII. Гэта запісная кніжка нейкага сьвятара з рожнымі выпіскамі. З жыцьцёпісаў сьвятых пароблены гістарычныя запісы, пазьней аб гэрэзіях с кніг сьв. Дарафея і Ефрэма Сірына. У канцы:

SINTAГMATION или о святых седми сакраментах то е(ст) о тайнах списаніе блжнаго митрополи(т) филаделфиискаго Кир Гавріила".

Гэты „Сінтагматіон" пачынаецца словамі:

„первы(м) а власны(м) добры(м) и(ж) е(ст) бгу яко великій василій мови(т) созданя своего члка для невымовное своеи доброти".

ПОВЕСЬЦЬ АБ ТРОХ КАРАЛЁХ. Памешчана на 99—165 бал. „Зборніка XVI стаг." Маскоўская Сынод. бібл. Яна мае гэткі агаловак: „Слово о житии и о хо(жде)ніи тре(х) короле(в) персидскы(х)". Характар пісьма падобны да Петраградзкага зборніка. Повесьць падзелена на 46 разьдзелаў, знача—іх менш, чым у Петрагр. зборніку, але больш, чым у Сынодальным зборніку № 367, дзе повесьць абрываецца на 32 разьдзеле.

ІСААКА СІРЫНА І ДОРОФЕЯ АВВЫ навукі з рожнымі прыдаткамі, Вілен. Публ. бібл., № 63. Рукапіс XVI стаг., пісаны мовай ц.-баўгарскай с крыўскімі асобнасьцямі.

КНІГА СІМЕОНА МЕТАФРАСТА XVI СТАГ. Маскоўская Сынод. бібл. № 219, з запісам:

„сія кніга... монастыра общежительного кутеинского и буйницкого".

Акром жыцьцёпісаў і слоў з Метафраста ў зборніку памешчаны навукі і бяседы на рожныя сьвяты Іоанна Златаустага і Андрэя Крытскага.

ЛЕСТВІЦА ІОАННА ЛЕСТВІЧНІКА І ТВАРЭНЬНІ АВВЫ ДОРОФЕЯ, КАНЦА XVI СТАГ. Маскоўская Публ. бібл. і Рум. муз. № 253.

ЛЕСТВІЦА ІОАННА ЛЕСТВІЧНІКА XVI СТАГ. Перах. у Кіяўскай Духоўнай Акадэміі. Запіс: „Андреа з Витебска".

„СЛОВО ПО(ХВА)ЛНОЕ ВЕЛИКОМУ И ПРЕЧЮДНОМУ АРХ(АН)Г(Е)ЛУ МИХАЇЛУ". Рукапіс у зборніку XVI ст. Сынодальнай бібліатэкі б. Чудов. № 62/264.

„СЛОВА Г(О)С(ПОД)А СПА(СА) НАШЕГО НАКАЗАНІЕ ВСЕМУ ПРАВОСЛАВНОМУ ХРИСТИЯНСТВУ". Рукапіс Сынодальнай бібліатэкі, ў зборніку XVI ст. б. Чудов. № 62/264.

„СЛОВО О ПОСЛЕДНЕ(М) ВРЕМЕНИ". На 230 балонцы „Зборніка XVI стаг." бібл. гр. Красінскіх у Варшаве, № 408.

„ПРОРЕЧЕНИЯ С(ВЯ)ТЫ(Х) ПР(О)Р(О)КЪ О Х(РЫСТ)Ѣ І(ІСУ)СѢ". На 177 бал. „Зборніка XVI стаг." бібл. гр. Красінскіх у Варшаве, № 408.

„ПОЧИНАЕТСЯ РЕ(Ч) О ТРЕ(Х) СТАВЕХЪ". На 159 бал. „Зборніка XVI стаг." Бібл. гр. Красінскіх у Варшаве, № 408.

ЗБОРНІК XVI СТ. БЯСЕД АЙЦОЎ ЦАРКВЫ. Мова ў зборніку ц.-баўгарская с крыўскімі асобнасьцямі.

ЗБОРНІК СЛОЎ І НАВУК ЮАННА ЗЛАТАВУСТАГА і іншых айцоў царквы, XVI стаг. Віленская Публ. бібл. № 257. Азнакі мовы: понедело(к), начнѣмы, послушаймо, повченіе і г. д.

СЬВ. ВАСІЛІЯ ВЯЛІКАГА АБ ПОСТНІЦТЕ. РУКАПІС XVI СТ. Перах. у Віленскай Публ. бібл., № 53. Пісаны мовай ц.-баўгарскай с крыўскімі асобнасьцямі ў правопісме.

АДРЫВАК С ТВОРАЎ ГРЫГОРА СЫНАІТА XVI СТАГ. Перах. у Віленскай Публ. бібл., № 60.

„ЧУ(Д) С(В)ТГО ЕГОРЬГИЯ О ЗМИЇ". Рукапіс XVI ст. (Чудовск. сб. № 62/264; Карскій, „Бѣл." III, 47). Належыць да апокрыфічнай літэратуры.

„ПОЧАТОКЪ ВОПРОСОМЪ О СМЫСЛУ РАЗУМА". Рукапіс XVI ст. Маск. Сынод. бібл. № 937. Тыпова богамільскі апокрыф. Гэта зборнік пытаньняў і адповедзяў, паміж іншым і космогонічнага характару. Напр.: Ад чаго ёсьць створаны анелы? Анелы ёсьць створаны ад агня, а ад сьвятла, а ад Духа Божага. Ад чаго сонца ёсьць створана? Ад цялеснай рызы Госпадавай. Ад чаго месяц ёсьць створаны? Ад духа і аера пасаду Божага. Неба стварыў словам, а зямлю стварыў памышленьнем адным, неба зьмерыў пядзію, мора разьліў горсьцію, а зямлю падножкам ног сваіх, а з мора кроў і ваду. У гэтым сэнсе і іншыя пытаньні.

„СТРАДАНІЕ Ї ПО(Д)ВИЗИ С(ВЯ)ТГО АП(СТ)ЛА Ї ЕѴ(Г)ЛИСТА МА(Т)ѲѢЯ". Рукапіс XVI ст. (Чудовск. сб. № 62/264; Карскій, „Бѣл." III, 47), балонак у рукапісе 320. Належыць да апокрыфічнай літэратуры шыранай у нас богамільцамі.

„СТРАДАНІЕ... С(ВЯ)ТГО ѲИЛИПА". Рукапіс XVI ст. (Чудовск. сб. № 62/264; Карскій, „Бѣлоруссы", III 47). Належыць да апокрыфічнай літэратуры.

„ПО(Х)ВАЛА СЛА(В)НОМУ П(РО)РОКУ ЇЛЬИ ОГНЕН(АГ)О ВОСХОЖ(Д)ЕНЇЯ". Рукапіс у зборніку XVI ст. Сынодальнай бібліатэкі б. Чудов. № 62/264.

„ПОСЛАНІЕ НАПИСАНО(Е) ОТЪ АВГАРЯ Ц(А)РЯ К Г(СПД)У НАШЕМУ І(СУ)С Х(РСТ)У". Рукапіс XVI ст. Маск. Сынод. бібл. № 558; належыць да апокрыфічнай богумільскай літэратуры.

„СЛОВО О ДРЕВѢ КРЕСТНОМЪ". Рукапіс XVI ст., пераховуецца ў Маск. Духоўн. Акадэміі № 185/566. Належыць да апокрыфічнай літэратуры шыранай богамільцамі. Гл. „Памятники отреченной литературы", Тихонравова, т. І і II.

ЧЫН СПОВЕДЗІ, XVI СТАГ. Перах. у Віленскай Публ. бібл. Азнакі крыўскай мовы сустрачаюцца ўсюды, а з ліста 31 пачынаецца „исповѣдь повседневная каждому человѣку православному належная"— на чыстай крыўскай мове.

ЧАСАСЛОЎ З ДАДАТКАМІ, XVI СТАГ. Перахов. у Віленскай Публ. бібл., № 223. Склад мовы і правапісма крыўскія: „пресвятей Богородици, уборздѣ причастіе, аще кто преставиться на воскресеніе Господне, на великъ день", і інш.

ТРЭБНІК. Пісаны рожнымі характарамі пісьма XVI і XVII стаг. Віленская Публ. бібл. № 207.

ІРМОЛОГ XVI СТАГ. Перах. у Львоўскім Сьвята-Ануфріяўскім манастыры. Пісаны крыўскаю скарапісьсю, с крукавымі нотамі.

„ВСѢ(М) ПРАВОСЛА(В)НЫ(М) ХР(И)СТІАНО(М)Ъ исповѣданіе по вся дни маю(ть) в(ъ)си мови(ть) за иєрео(м) служителе(м) ц(е)ркви божіє мо(ц)но"—стацьця на 5 балонцы „Зборніка XVI стаг." Маскоўскай Сынод. бібл. Тутака-ж просіцца аб дараваньні сьмяротных грахоў, папоўненых пяцьцю човамі:

„слышаніє(м)ъ, виденіє(м)ъ, и мовеніє(м)ъ недобры(м), осезаніє(м)ъ, обоняніє(м)ъ, и въ несодѣланныхъ милосе(р)дны(хъ) добродетелехъ, которыми опра(в)даю(т)ся вси бл(а)гове(р)ныя лю(ди) во д(е)нь су(д)ный".

„ПОУЧЕНІЕ ВСЕ(М) ПРАВОСЛА(В)НЫ(М) ХР(И)СТІАНО(М) Д(У)ШЕПОЛЕЗНО И СТРА(Х)У ПОЛЪНО"—стацьця на 6 балонцы „Зборніка XVI стаг." Маскоўскай Сынод. бібл. „Поученіе" стараецца адвярнуць праваслаўных ад пераходу ў унію:

„Правосла(в)ныя хр(ис)тіане п(а)н(о)ве и п(а)ни и вси богобоязливыя мужи и жены закону грече(с)каго... проси(м) и напоминае(м) слово(м) бо(ж)и(м) же бы(с)те не скланяли(сь) на латы(н)ская зловещаніа. и и(х) неполе(з)ное ученіе".

„СКАЗАНІЯ ПОЛЕЗНАА О ЛАТИНОХЪ, КОГДА ОТЛУЧИШИСЯ ОТЪ ГРЕКЪ И СВ. БОЖІЯ ЦЕРКВЕ". Рукапіс XVI ст. Вілен. Публ. бібл. № 269 па Дабр. Твор гэты складаецца з 10 разьдзелаў.

ТРАКТАТ СУПРОЦЬ ЛАЦІННІКАЎ, канец XVI ст. Гэты трактат вядомы толькі з ліста кн. Курбскага, пісанага да Астрожскага.

Калі Астрожскі атрымаў ад Пятра Скаргі кнігу „O jeđności", то зьвярнуўся да пісьменніка арыянца Матавілы, чалавека вельмі хітрага, каб той напісаў адповедзь. На гэта абурыўся кн. Курбскі: „хто чуў с правеку ці дзе пісана ў кроніках аб тым каб ваўкарэза ў стада авец на пажыву клікалі? Гэта знача каб прававерны хрысьціянін ад арыянца хрыстаненавіснага цешыўся эпістолямі, або прыймаў ад яго пісаньні, на помач Хрыста Бога". („Сочин. кн. Курбского" СПБ. 1914, 461—465).

„ЗАЧАПКА МУДРАГО ЛАТЫННИКА ЗЪ ГЛУПЫМЪ РУСИНОМЪ ВЪ ДИСПУТАЦІЮ, ИЛИ ПРОСТО РЕКШИ ВЪ ГАДАНІЕ ИЛИ БЕСѢДУ". 90-е годы XVI ст. Аўтор гэтай расправы мніх Хрыстафор.

„РОЗМЫШЛЯНІЯ НА НЕДѢЛИ ЦѢЛОГО РОКУ И НА СВЯТА". Рукапіс Віл. Публ. бібл. ў Добр. № 255.

ПОЛЕМІЧНЫ ТРАКТАТ СУПРОЦЬ РОЖНАВЕРЦАЎ, КАНЦА XVI СТ. („Архивъ Ю.-Зап. Рос.", ч. I, т. VIII.) Захаваўся ў двох кнігах, часьцю друкаваных, часьцю рукапісных. Магчыма, што абедзьве кнігі становяць цэлае ў двох часьцях. Адзіны экзэмпляр гэтага навукова і сыстэматычна апрацаванага трактату захаваўся ў бібліатэцы Кіяўскай Духоўнай Акадэміі. Агалоўнай балоны кніга ня мае.

Першая часьць складаецца з 12 разьдзелаў:

„О образѣхъ; И образоборцомъ на противныя ихъ слова отказъ; Которого часу отъ самыхъ христіанъ образоборство повстало; Образоборцомъ на некоторые ихъ простыя слова отказъ; О престѣ, для чого знаменаемъ лице свое крестообразно рукою; О хожденіи съ кресты; О хвалѣ и чести святыхъ угодниковъ; О молитвѣ святыхъ; О постѣ; О сповѣди; О пречистомъ тѣлѣ и крови Христовой; О отшедшихъ свѣта сего, ижъ о нихъ память чинити".

У другой часьці 10 разьдзелаў:

„О Пресвятой Тройцы; О превѣчнемъ божественнемъ рожствѣ І. Христа; Доводы о правдивомъ божествѣ и человѣченстве Христовѣмъ; Доводы о божествѣ Духа Святого; О исхожденіи св. Духа; Отказъ на аргументы противныхъ о божествѣ Христовѣ; О понуреніи новокрщенскомъ; Отказъ аріаномъ на слова ихъ противные Пречистѣй Богородицы".

Невядома хто быў аўтор гэтай кнігі.

ПСАЛТЫР XVI СТ. Рукапіс Румянцаўскага музэю CCCXXXV, ў 4-ку, 205 лістоў.

Для прыкладу мовы выпішам 150 псальм:

„Благословеныи му(ж) о(н)же не о(т)шо(л) впора(д)у неуч(с)тивы(х) ани сталъ на дарозе (!) грешных а ни сто(л)цу губите(л)ско(м) неседе(л). але взаконе г(с)ни воля его е(с). въ то(м) же законе буде(т)

ся вчилъ днь и но(ч) и буде(т) яко дерево саженое ведле во(д) текущи(х) которое(ж) дасть ово(ц) свои ча(с)у своего а листъ его не впаде(т) и все штоко(л)ве и вчини буде(т) ему поспева(л) не та(к) же вже грешные не та(к). але яко поро(х) которо(г) по(д)носи(т) ветръ отъ земли. для то(г) и не повстану(т) оупора(д)у справе(д)ливы(х). бо ведае(т) г(с)дь дорогу справе(д)ливы(х). дорога злосниковъ загине".

„ПРОТИВ ПОВЕСТИ НИНЕШНИХЪ БЕЗБОЖНЫХЪ ЕРЕТИКОВЪ, што поведают не молитися ангеломъ, ни апостоломъ, ни пречистой Богородици и ни которому светому, а ни всемъ светым; а ни закона хрестянского не исповѣдаютъ, ни апостольского учения и всех святых святителеи и преподобных отец, и уставы законных отлагаютъ".

Зборнік канца XVI ст. які прыналежыць Ф. Тэрноўскаму (перадрукаваны ў „Архивъ Ю. З. Р." ч. I, т. VIII, бб. 3—44). Рукапіс гэты быў раней у Супрасльскім манастыры, бо ў ім, між іншымі, знаходзіцца ліст С. Кімбара, ігумена гэтага манастыра. Акром таго, па зьместу, зьяўляецца дапаўненьнем да іншых сьпісаньняў, паўстаўшых у гэтым манастыры супроць лютараў. Гэта праўдападобна адповедзь на кнігу Буднага „О оправданіи грѣшного чоловѣка предъ Богомъ".

---


Застаўка з супрасьльскіх друкаў XVII ст.

# XVII стагодзьдзе.

XVII стагодзьдзе ў гісторыі нашай пісьменнасьці, як і ў гісторыі дзяржаўнасьці—гэта нахіл да ўпадку, рэакція ў грамадзянстве пасьля уздойму XVI ст. Люблінская дзяржаўная унія 1569 году, сьмяротна разіла дзяржаўны арганізм в. кн. Літоўскага, а рэлігійная унія 1596 году давяршыла ранейшы разьдзел у грамадзянстве, якое, высілкамі рэлігійнай рэакціі, было кінута на цэлых два стагодзьдзі на шлях занепаду.

Разбуджанае, ў другой палавіне XVI ст. гуманітарна-рэформацкім рухам, нашае грамадзянства пабачыла сябе адстаўшым ад заходна-эўропэйскага поступу і хапілася за умысловую працу, а ўрэшце, за аткрываньне школ для асьветы шырэйшых масс. Гэтае разбуджанае грамадзянства, саўсім натуральна, старалася сьпярша утрымацца на асновах уласнай крыўскай культуры, але падасьпеўшае змаганьне за праваслаўе зьбіла яго с правільнага шляху на блуднікі, з якіх наш народ дагэтуль ня можа яшчэ выйсьці на простую дарогу.

Сталася гэта вось якім чынам. Усходнае славянства, разам с хрысьціянствам, прыняло ц.-баўгарскую пісьменнасьць. Гэта адзіная пісьменнасьць для ўсяго славянства ўсходнага абраду, спачатку, пакуль заходна эўропэйскія народы былі скаваны мёртвай лацінай, давала перавагу ўсходнаму славянству над славянствам заходным. Але калі гуманістычны рух вызваліў заходнае славянства с пут мёртвай лаціны, вызволеныя заходна-славянскія, германскія і другія мовы зьвярнуліся да жывых крыніц народнай мовы, з якіх чэрпалі патужныя сілы для свайго адраджэньня. У гэты самы час у нас сталася наадварот. Пад націскам рэформаціі і каталіцтва ўсходны славянскі абрад не спрамогся парваць з мёртвай ц.-славянскай граматнасьцю, каб кожды з усходна-славянскіх народаў мог пачаць разьвіваць сваю ўласную мову. Наадварот, павадыры праваслаўнага ўсходнага славянства пастанавілі за ўсякую цану утрымаць гэту штучную і шкодную еднасьць для усіх славянскіх плямён, ад Адрыятыку да Ноўгарада, якая мела выражацца ў адзінай кніжнай мове, а


Застаўка з супрасьльскіх друкаў XVII ст.

ўжо ў канцы XVI і ў пачатках XVII ст. праявілася жаданьне прыблізіць нават жывыя мовы пасобных усходна-славянскіх плямён да „любезнѣйшого“, „сутелнѣйшого языка словенского“.

Мысьль гэта выплыла з саўсім фальшывых асноў, што бытцам, калісь, ўсе славянскія плямёны мелі адну супольную мову, якая захавалася не сапсаванай у літургічных і рэлігійных кнігах. Асобныя дыялекты славянскіх плямён былі вытлумачаны як агрубеньне і адзічэньне гэтай кніжнай мовы ў вуснах простага народу. І вось, заходна-эўропэйскі гуманізм у нас пайшоў пад клічам павароту граматнасьці і мовы народных масс да ц.-славяншчыны. Знайшліся абаронцы, моцныя пратэктары і гарачыя пропагатары гэтай ідэі, якую падтрымліваў у дадатку канстантынопальскі патрыархат і маскоўскі царызм.

У чысьленых, закладных, ў канцы XVI ст., грэка-лаціна-рускіх брацкіх школах, пастаноўлена было праводзіць на практыцы перавучываньне маладзежы. З гэтай мэтай „спудеям“ забаронена было гаварыць між сабой мовай „простай“, пазвалялася гаварыць толькі „па славянску і па грэцку“ (Голубевъ, „Истор. Кіевск. Академіи“ т. I, б. 198), а ў межах рэчыпаспалітай яшчэ і па польску. Мова народная служыла ў школах, толькі як памочнае знадабьбе да навучаньня чужых моў, а галоўна мовы славянскай. Каб-жа адразіць вучняў ад мовы народнай, у школах як праваслаўных так і езуіцкіх, пісаліся вучыцелямі рыторыкі школьныя драмы, ў якіх выводзілі дурнога, забабоннага і сьмешнага селяніна, каторы гаварыў „простай“ мовай рожную нісянеціцу. Гэткім чынам жывая крыўская мова ў вачох, сьпярша студэнтаў, а пасьля ўзрослых грамадзян, ужо ў пачатках другой палавіны XVII ст. сталася з мовы „простай“ мовай „мужыцкай“. „Спудзеі“ брацкіх школ, праўда, навучаліся мёртвай і дзікай кніжнай тарабаршчыны, каторая акром школы нідзе ў практычным жыцьці ня мела дапасаваньня. Сумесныя-ж соймы, зьезды і паходы с палякамі давалі поле да шырокага карыстаньня шляхце мовай польскай, якая з сьвігавічнай скорасьцю пашыраецца сярод грамадзянства. Дзеля гэтага саўсім няслушна прыпісуюць віну спольшчаньня нашай шляхты адзіна езуітам і уніятам ды пропагандзе каталіцтва. Духавенства праваслаўнае і брацкія праваслаўныя школы палажылі нічуць ня менш сваіх высілкаў у гэтым кірунку.

І гэта саўсім зразумела, калі прыняць пад увагу, што паняцьце нацыі ў тыя часы заступалася дзяржаўнай і рэлігійнай прыналежнасьцю. Стоючы цьвёрда за ўсходны абрад дзеячы гэтага абозу, адпіраючы нападкі каталікоў,


Застаўка з супрасльскіх друкаў XVII ст.

пісаныя польскай мовай, самі пачынаюць пісаць і друкаваць сьпярша палемічныя, а пазьней нават і літургічныя кнігі. Ад праваслаўных не адставалі уніяты. Дзеля гэтага рэлігійная палеміка, калі яшчэ пісалася і друкавалася ў першай палове XVII ст. паралельна с польскім тэкстам у асобных выданьнях, то ў другой палавіне XVII ст. ужо і праваслаўныя і уніяты ў палеміцы пераходзяць выключна на польскую мову.

Славэтная паправа кніг, якая нарабіла гэтулькі замяшаньня ў Масковіі, так сама адбывалася і ў нас. Фікары Сьвятагорац, мніх віленскага Сьвятадухаўскага манастыра, ўжо ў канцы XVI ст. заклікаў:

> „Книги церковныя вcѣ и уставы словенскимъ языкомъ друкуйте; сказую бо вамъ тайну великую,яко діяволъ толикую ненависть имаетъ на словенскій язык, же ледво живъ отъ гнѣву... А то для того діаволъ на словенскій языкъ борбу тую маетъ, занеже есть плоднѣйшій одъ всихъ языковъ и Богу любезнѣйшій... Тако да знайте, якъ словенскій языкъ предъ Богомъ честнѣйшій есть и отъ еллинского и латинского-же се не байкі суть“...

Гледзячы на сьвет с келейнага ваконца Сьвятагорац і яго паплечнікі, Лявон Карповіч і Мелеці Сматрыцкі, заступалі народную мову ў пісьменнасьці штучным конглёмэратам, між іншымі мяркаваньнямі, са значнай дозай наіўнай веры ў тое, што гэтым яны запраўды дасоляць чорту і дагодзяць Богу. А ў выніку мова нашай пісьменнасьці, якая ў XVI ст. была дайшоўшы немаль поўнага зьліжэньня з народнай, пад уплывам новых кірункаў думкі, пачынае прыбіраць што раз больш славянізмаў у арыгінальных творах, пісаных „дзеля лепшага выразуменьня люду паспалітага“, а ў кнігах „папраўленых“ і па некалькі разоў выдаваных перабражацца да непазнаньня. Для прыкладу возьмем кнігу „О сакраментах“ напісаную ў 1637 годзе Сыльвэстрам Косавым, біскупам Мсьціслаўскім, якая друкавалася кожды раз с папраўкамі: ў Кутэйне ў 1637 годзе, (першы раз), у Крэмянцы ў 1638-г., другі раз у Кутэйне ў 1653 годзе, ў Кіяве ў 1653, 1657 і 1668 і ў Чарнегаве ў 1716 г.

| Тэкст Кутэйнскага выданьня 1637 г. | Тэкст Чарнегаўскага выданьня 1716 г. |
| --- | --- |
| *Вопр.* Которая ест форма того сакраменту, албо ли которыя слова совершаютъ тую тайну? | *Вопр.* Кая форма, или совершеніе тоя тайны? |


Застаўка з супрасьльскіх друкаў XVII ст.

*Отв.* Суть тые слова Христовы над хлѣбомъ: „пріимитѣ и ядитѣ, се есть тѣло мое". А над виномъ: „Пійте отъ нея вси, си есть кровъ моя". Тыхъ абовемъ словъ самъ Спаситель нашъ зажылъ, гды на тайной вечери своей хлѣбъ и вино въ правдиво тѣло и въправдивую кровъ перемѣнилъ. Понѣважъ теды тайна тая есть великая, повиненъ такъ священникъ, яко и свѣцкій кождый...

*Отв.* Совершается тайна сія по словесѣхъ Христовыхъ силою Духа св. реченными: „и сотвори хлѣбъ убо сей честное тѣло Христа твоего, а еже въ чаши сей, честную кровь Христа твоего, преложивъ я Духомъ твоимъ святымъ". По глаголѣхъ бо сихъ пресуществованіе абіе бываетъ, и премѣняетъ хлѣбъ въ истинное тѣло Христово, а вино въ истинную кровь Христову. Остают точію віды, яже вiдятся...

Ужо ў мове арыгіналу 1637 году відаць уплыў польшчыны і царкоўнаславяншчыны, а ў папраўленай са стараны мовы і тэксту выданьні 1716 г. бачым ужо мову „ачышчаную" і саўсім нічым не падобную на народную. Гэтак, пачынаючы з другой палавіны XVII ст., акром вельмі рэдкіх здарэньняў, былі „папраўлены" ўсе крыўскія царкоўныя кнігі. Старакрыўская пісьменнасьць захавалася толькі ў ранейшага часу рукапісах і старадруках.

„ОТЪ ПРОТА СВЯТЫЯ ГОРЫ АѲОНСКІЯ И ВСЕГО СОБОРА ИХЪ ЯНУШУ КОРОЛЮ УГОРСКОМУ посланіе второе и отвѣтъ ко вопрошенію его противу ученій Люѳторова учителя ихъ". У зборніку пачатку XVII ст. Кіява-Міхайлаўскага манастыра № 1656.

Угорскі кароль Януш (з Заполя), бачучы закалоты сярод духоўных, выкліканыя паяўленьнем лютэранства, зьвернуўся, праз свайго канцлера „Лацька", ў 1534 годзе да прота Афонскай гары, каб той парадзіў як устанавіць згоду сярод духоўных „егда дастъ Богъ, да ся уединимо, да будетъ едина вѣра, едино стадо и единъ пастырь Христосъ" Лацка просіць даць адповедзі аб чысцы, аб мытарствах, аб пастох, споведзі, літургіі, чэсьці сьвятых і Маці Божай, жанідзьбе духавенства.

Прот Гаўрыэль гаворачы аб блудах лютэран закрануў і разыходжаньні с каталіцтвам і каротка даў адповедзь на ўсе пастаўленыя яму пытаньні, акром жанідзьбы духавенства, бо і праваслаўныя духоўнікі былі жанаты. Прот Гаўрыэль галоўна апіраецца на пісаньнях сьв. айцоў і паданьнях, чаго не



Застаўка з супрасльскіх друкаў XVII ст.

прызнавалі лютэране. Гэта ёсьць першая спроба зьбіваць учэньне лютэранаў са стараны праваслаўных і хоць не вызначаецца лёгічнасьцю разьвіцьця мысьлі, але сваей кароткасьцю і яснасьцю мела ўплыў на ўсе пазьнейшыя полемічныя творы супроць лютэранаў.

„ЕВАНГЕЛІЕ НАПРЕСТОЛЬНОЕ, стараніем и накладомъ е. м. п. Лукаша Мамонича и пана Козмы Мамонича бурмистра виленского. Выдрукована бысть сія книга в месте столечном Виленском в лѣто отъ созданія міру 7108, а от воплощенія гда Бга и спса нашего Іс. Ха 1600 мца июля 16 дня“.

Евангельле гэтае называецца ў бібліографаў „юсавым“, таму што ўжыта ўсюды літара „юс“ замест *у*. Друкавана ў ліст 9+393 лісты. Мова ў тэксьце царкоўна-баўгарская. Каратаеў пад гэтым самым годам падае (292—293) „Четвероевангеліе“ друкаванае ў Вільні.

„ЧАСОСЛОВЕЦЪ“, друк. ў Мамонічаў, ў Вільні, 1601 г., ў 4-ку.

„МОЛИТВЫ ПОВСЕДНЕВНЫЯ“, друк. ў Вільні, 1602 г., ў 8-ку, 20 лістоў+72+144+168 і 25 лістоў.

„О ОБРАЗѢХЪ, о крестѣ, о хвалѣ Божіей і о хвалѣ и молитвѣ Святыхъ и о иныхъ артукулахъ вѣры, единое правдивое церкве Хрістовы“, друк. ў Вільні, 1602, у 12-ку, каля 100 лістоў, 200 баlонак. (Ундольскій). Полемічны твор са стараны праваслаўных супроць рэформатаў. Захаваўся гэты твор часьцю друкаваным, часьцю ў рукапісным адзінцы Кіяўск. Дух. Акадэміі.

Гэта адна з найгрунтаўнейшых прац, якія былі пісаны супроць навазерцаў са стараны праваслаўных. Перадрукавана ў „Архивъ Ю. З. Р“. ч. І. т. VIII, бб. 59—123.

Зьмест гэтай кнігі гл. на б. 495, пад агалоўкам „Полемічны трактат супроць рожнаверцаў, канца XVI ст.“ Аб друкаваньні гэтага твору ў Вільні ў 1602 годзе, як вышэйадзначана, пачэрпнута ведамка з Ундольскага.

„ВОПРОСЫ И ОТВѢТЫ ПРАВОСЛАВНОМУ ЗЪ ПАПЕЖНИКОМЪ“. Рукапіс Маск. Сынод. бібліатэкі № 271. У форме дыалёгу даецца адпор каталіком: пытаньні задае каталік, адпавядае праваслаўны. Гутарка ідзе галоўным чынам аб дагматычных разыходжаньнях.

(Гл. „Памятники полемической литературы въ Зап. Руси“ кн. II, СПБ. 1882 г., бал. 25).

„*Папежникъ:* Если, ведлугъ твоей повѣсти, костелъ Римскій не естъ продкуючимъ всѣмъ костеломъ по всемъ христіянствѣ, а бискупъ Римскій не естъ повшехнымъ пастыромъ всѣхъ овецъ Христовыхъ,—поготову, ваши патрyархове и церковъ Восточная, которыхъ перемогли брони пекелные, абовѣмъ ихъ осягнула безбожная тиранская рука, гдѣ имъ жадныхъ наукъ, ани ряженя и справованя, ведле потребы, овцами Христовыми, ани розшireня хвалы Божее Турчинъ не допущаетъ.

*Православный:* На тую квестію ачбы ся не годило тобѣ жадное отповѣди дати, поневажъ въ суды Божіе вдаешся, и зъ другое стороны и плётками наробляешъ, а вшакже, абысь не розумѣлъ собѣ за выграную мѣти ты, который ведле свѣта того звыкъ наболше уважати, старіе приклады минаючи, спыталъ бымъ тя: кгды оно презъ триста лѣтъ по Вознесеніи Господнемъ, гдѣ еще всѣ цесари, короли, княжата погане были, кгды оно въ Римѣ преслѣдовано было чи былъ, чи не былъ правдивый костелъ або церковъ на свѣтѣ? И много на свѣтѣ такихъ и тому подобныхъ маемо прикладовъ, которыхъ, уходячы продолженя, опущаю оные, тылко Господни слова припоминаю: „хто хочетъ ити за мною, нехай несетъ кресть свои и наслѣдуетъ мене“. „Нѣсть слуга болшій надъ пана своего“. „Если мене преслѣдовали, и васъ будутъ преслѣдовати“, помыкати и нарекати, и смутитеся будете, а свѣтъ ся будетъ веселити, але будте доброго сердца, абовѣмъ „я звитяжилъ свѣтъ“. И апостолъ: „валка наша не съ тѣломъ, ани съ кровію, але зъ духовными войски князя темности“. Хочай же и церкви Греческіе Всходніе и пастырове ихъ подъ зверхностію безбожника суть, але вѣрою одинъ Христосъ царствуетъ, которого моцъ въ немощехъ нашихъ выполняется. Прото не оныхъ, гдѣ зъ ласки Божае и вѣра, набоженство, и сукцессія апостолская, и любовъ необлудная, и церковныя правила вцале зааръжаные и отъ вшелякихъ геретицствъ незмазаные, але оныхъ, которымъ на тыхъ помененыхъ речахъ збываетъ, а на то мѣсто иншые неслыханые у оное першое церкви новотныи уставы суть впроважоны, посполу и зъ замкненемъ тое речи мовлю: („всякій, который чинитъ грѣхъ, неволникъ естъ грѣхови“; и зась: „не вѣдаете ли, яко емуже представляете себе рабы въ послушаніе, рабы есте, егоже послушаете) брони пекелные перемогли“.

„СОБРАНЬЕ КОРОТКИХЪ А УЗЛОВАТЫХЪ ПОВѢСТЕЙ, КОТОРЫЯ СЯ ПО КГРЕЦКУ ЗОВУТЪ АПОѲЕГМАТА“. Паводле Вішнеўскага (Hist. Polsk. Lit., т. VIII) рукапісны экзэмпляр гэтых повесьцяў быў у бібліятэцы Талстога ў Маскве; павыжшы агаловак узяты з запісак менскага архэолёга Татура. Татураўскі рукапіс быў датаваны 1603 годам, складаўся с чатырох часьцей. У першай часьці зьмешчаны „вузлаватыя“ повесьці, г. зн. анэгдоты і прыповесьці рожных філёзафаў і аб філёзафах, у другой—цароў, каралёў і князёў, у трэцяй—лакедамонцаў, у чацьвертай—повесьці і чыны растаропных жанок. Аўторам повесьцяў быў Бэньяш Будны. Кніга гэта была надрукавана ў польскай мове ў 1614 годзе, ў Любчы (каля Навагорадка), друкаром Пятром Кмітам с пасьвятай Адаму Хрэбтовічу.



Віленскі брацкі Сьвятатроецкі манастыр, пры якім істнавала ад канца XVI ст. друкарня.

Гэты-ж Бэньяш Будны пераклаў на польскую мову кнігі Цыцэрона аб старасьці і прыязьні. Подобна як у польскай мове Сымона Буднага, так і ў Бэньяша Буднага многа крыўскіх слоў і зваротаў.

„ОКТАИКЪ, сирѣчь осьмогласникъ“.., Друкаваны сьвятаром Даміянам у Дэрманскім манастыры ў 1604 годзе, ў ліст, 13+160+146 і 7 лістоў. У двох мовах: ў крыўскай і ц.-славянскай. Паводле акрэсьленьня Сахарова: „на литовско-русскомъ и словянскомъ языкахъ“.

АПОЛЁГІЯ ФЛЁРЭНТЫЙСКАГА САБОРУ. Друкавана ў Вільні 1604 г., ў 4-ку (Ундольскій „Хрон. Указ“. бал. 24, № 156).

„ОБОРОНА СОБОРУ ФЛОРЕНТІЙСКАГО осмого, противъ фальшивому недавно отъ противниковъ згоды выданому“... Друкавана ў Вільні ў 1605 годзе, ў 4-ку. Кніга гэта напісана рэктарам віленскай

мітрапалічай уніяцкай калегіі Пятром Федаровічам. Пераклад на польскую мову даканаў віленскі Сьвятатроецкі архімандрыт Геласі Русоўскі і надрукаваў у Вільні ў 1603 г. ў 4-ку, пад агалоўкам:

„Obrona s. Synodu Florenckiego powszechnego dla prawowiernej Rusi napisana przez Piotra Fiedorowicza w Wilnie, Collegium ruskiego I. M. X. Metropolity Kijowskiego rektora, a przez Gelasiusza Rusowskiego, archimandritą Wileńskiego na polski język przełożona".

Федароўскі у гэтай кнізе адпавядае на гісторыю тагож сабору, напісаную Клерыкам Астрожскім і даводзіць, што берасьцейская унія ёсьць простым аднаўленьнем уніі ранейшай, флёрэнтыйскай. Гэткім чынам ўладыкі, каторыя прыймалі унію, не адступнікі а абаронцы старасьветчыны. У дадатку, ўсе прывілеі, якія атрымлівала духавенства ўсходнага абраду ад каралёў, ад часу флёрэнтыйскай уніі, даставала пад варункам, што будзе ў еднасьці з рымскай царквой. Далей даводзіць аўтор, што усходны і заходны абрадак не так крэпка паміж сабой рожняцца, як протэстантызм рожніцца і ад каталіцтва і ад праваслаўя.

У „Абароне" Федаровіча першы раз былі сабраны ўсе летапісныя ведамкі аб стасунках Русі з Рымам, пачынаючы ад князя Валадзімера. І ў гэтай часьці дадзены вывад, што Флёрэнтыйская унія саўсім лёгічна выплывала з гісторыі ўсходна-славянскай царквы, якая ў істоце ніколі з Рымам не парывала.

УЧЫЦЕЛЬНАЕ ЕВАНГЕЛЬЛЕ 1604 Г. Рукапіс Кіява-Міхайлаўскага Манастыра (Карскій, „Бѣлоруссы", т. І, б. 393).

„ПОСЕЛЬСТВО ДО ПАПЕЖА РЫМЪСКОГО СИКСТА IV отъ духовенства и отъ княжатъ и пановъ рускихъ зъ Вильни року 1476 мѣсеца марта 14 дня черезъ пословъ въ томъже листе нижеименованныхъ", Вільня, 1605 году. Гісторыя пасольства такая: На просьбу в. кн. Літоўскага Казіміра ў 1458 годзе папеж прыслаў для Літвы мітрапаліта уніята Грыгора Баўгарына. Па сьмерці Грыгора крыўскія біскупы стала пачалі сабе абіраць мітрапаліта, які тытулаваўся „мітрапаліт Кіяўскі і ўсей Русі" (у адрожненьне ад маскоўскіх мітрапалітаў, якія тытулаваліся „мітрапаліт Маскоўскі і ўсей Русі"). Гэтак наступнікам мітрапаліта Грыгорага Баўгарына быў абраны Місаіл, з роду князёў Петруцкіх, і, с просьбай пацьвердзіць гэты выбар, вясной 1473 году пасланы быў ліст да папежа. Мінула тры гады і папеж не даў ніякай адповедзі на высланы саборам ліст. Тады, ў марцы 1476 году, быў апрацаваны другі ліст і высланы разам с пасольствам. Лісты гэты даюць пробку познага візантыйскага красамоўства, якое вызначалася многамоўствам і мнозствам комплімэнтаў.

Аўторы ў гэтым лісьце зазначаюць, што ў істоце няма рожніцы ў веры паміж грэкамі і рымлянамі ды „російскими словенами", а тымчасам яны даведаліся, што ўсходна-славянскую царкву выстаўляюць перад папежам як паганскую. Аўторы прыраўніваюць абвінаватчыкаў да бязводных хмар, якія развяваюць ветры, да бязплодных дрэў, сьпененых хваль і інш. Падаўшы,

ў другой часьці, ведамкі аб сабе і вызнаньне сваей веры, аўторы падаюць свой погляд на папежа, як на найсьвяцейшага пастыра і старшыну ўсіх патрыярхаў, і больш таго, яны ў каталіцкі спосаб тлумачаць догматы, але пры гэтым зазначаюць, што кождая старана павінна мець непарушным звычай і парадак сваей царквы. Урэшце просяць каб папеж выслаў двох добраразумных мужоў, якія-бы добра ведалі права і абычаі абодвых царквей і якія-бы шчыра прытрымліваліся пастаноў флёрэнтыйскага сабору: з іх аднаго вызнаўца ўсходнага, а другога заходнаго абраду. Закончаны ліст просьбай аб благаслаўленьне і адповедзь.

Адшукаў гэты ліст і падаў віленскаму магістрату да пацьверджаньня і ўпісаньня ў актовыя кнігі Іпаці Поцей.

Тагочасныя праваслаўныя пісьменнікі прагалосілі гэты ліст падробленым, але навейшая гістарычная крытыка прызнае яго праўдзівым.

Мне асабіста давялося, здарэньнем, бачыць у. п. Солтана ў Вільні (ў 1916 годзе) пяць пэргамінных грамат, выданых на імя яго продка, які езьдзіў у гэтым пасольстве ў 1476 годзе ў Рым. Одпісы грамат п. Солтан меў зложыць у віленскім „Towarzystwie Przyjaciół Nauk“ дзе ўжо раней чытаў ён даклад аб гэтых граматах.

„ЛИСТЪ МЕЛЕТІЯ ПАТРІАРХИ АЛЕКСАНДРІЙСКОГО до велебного еп. Ипатія Потѣя... о отступленьи его, з напоминанемъ отцевскимъ до него писаный. В манастыри дерманскомъ выдроукованый, в лѣто от рожества Христова 1605“. Сахаров адносіць гэту кнігу да „Літоўска-русскіх“ друкаў (Сказ. Русск. Нар., т. II, бал. IX-X), бо кніга напісана старакрыўскай мовай.

Разгледзіўшы важнейшыя асобнасьці праваслаўнай навукі, патрыярх у чулых выражэньнях заклікае Іп. Поцея кінуць Унію.

„СЛУЖЕБНИКЪ, или божественныя литургіи... „въ друкарнѣ Леона Мамонича“. Вільня, 1607 г. ў 4-ку 112+464 лісты. Передрук са служэбніка віленскага выданьня 1583 г.

„ЛЕКАРСТВО НА ОСПАЛЫЙ УМЫСЛЪ ЧЕЛОВѢЧІЙ, а особливе на затвердѣлыя людскія, заведеныя свѣтомъ, альбо якими грѣхами, до Өеодора Мниха, а въ особѣ его до кождого чловѣка, кто въ якомъ кольвекъ есть грѣху, съ приложеніемъ при концѣ тестамента Васплія Царя Греческого сыну своему Льву Философу; переложено съ Греческого Даміаномъ Пресвитеромъ“. Друкавана ў Астразе 1607 г., ў 4-ку, на царкоўна-баўгарскай і крыўскай мовах.

Глава III о чести священническія.

Цѣло имѣй мудрованіе православнымъ догматомъ, и почитай ма-

О учтивости духовныхъ.

Здоровый розумъ мѣй о православной наукѣ. Имѣй въ почтивости назбытъ матку твою церьковь,

тере твою церковь, иже о святомъ Дусѣ тя воздои, и съ Христомъ о Бозѣ мною на главу твою вѣнецъ возложи. Аще бо плотскія твоя родителя долженъ еси стыдѣтися и почитати, множае паче еже о дусѣ Божіи тя родившихъ предпочитати, они бо временный животъ чадомъ дарують, сіи же вѣчный животъ по рождении ради ходатайствують.

Почти убо церковь почтенъ будеши отъ нея, и священникъ стыдися, яко отца духовныя, и ходатая намъ къ Богу. Честь бо священническая на Бога восходитъ. Яко же бо тебе ради твоя слуги почитати праведно, тако и ради Бога Іерея его почитати праведно, и якоже яже на нихъ честь на Бога преходитъ, тако и еже на нихъ безчестіе, множае паче Бога прогнѣваетъ".

которая Духомъ Святымъ тебѣ персями своими выховала, и съ Христомъ водлугъ Бога презъ мене корону на голову твою вложила. бо если тѣлесные твои повиненесь шановати и чтити, далеко большей тыхъ, которые тя въ Духу Божіомъ породили над то чтити. Бо тамтые дочасный животъ дѣтемъ дають, а овіи вѣчный животъ отроженьемъ дарують.

Чти теды церковь абысь былъ почтенъ отъ церкви, а священниковъ мѣй въ поважанью, яко отцовъ духовныхъ и причинцовъ нашихъ до Бога, абовѣмъ честь котораяся священникомъ дѣетъ, на Богася стягаетъ. Бо якъ для тебе слугъ твоихъ чтити слушная есть, такъ для Бога священниковъ его мѣти во почтивости, справедливая есть: бо якъ учтивость ихъ на Бога переходитъ, такъ и зельживость ихъ назбытъ Бога на гнѣвъ побужаетъ".

Перадрукавана гэта кніга славянскай мовай у Маскве, ў 1686 годзе, пад агалоўкам: „Тестаменть, сирѣчь Завѣтъ во Христѣ благоговѣйного и славного монарха, Василія Царя Греческого"... Трэцяе выданьне выйшла ў Кіяве ў 1680 годзе.

„СКАЗАНІЕ ВКРАТЦѢ О ЕРЕСЕХЪ ТРИДЕСЯТИ И ЧЕТЫРЕХЪ... Леонтія, іеродіакона Печерского монастыря Кіевскаго". Рукапіс Петр. Публ. бібл. Q. I. № 243, пісаны ў 1608 г. Перадрукавана ў „Акты Южн. и Зап. Россіи", II, 271-287. Гэта ёсьць твор Леонція Карповіча, пазьнейшага архімандрыта віленскага Сьвятадухаўскага манастыра (+1620 г.) У рукапісе украінізмаў няма, але затое шмат ц.-баўгарызмаў. Жыцьцёпіс Л. Карповіча гл. ніжэй (пад 1615 г. „Казаньне двое").

„ГАРЪМОНІЯ, альбо, согласіе вѣры Сакраменътовъ, и церемоней святое восточъное церъкви С костеломъ Рымъскимъ"... У вильни. 1608 г., 58 лістоў, у 4-ку. Мітрапаліт Філарэт аўторства гэтай кнігі прыпісуе Іпацію Поцею. (Истор. Русск. Церкви, ч. IV, б. 68). Польскі агаловак такі:

„Harmonia albo concordatia wiary, sacramentow y ceremoniey cerkwi ś. orientalney z kościolem rzymskim".

У крыўскім тэксьце маюцца мейсцы пісаныя па польску. Аўтор гэтай кнігі сам уніят, што відаць с прадмовы:

„Многіе найдуются таковые, чытателю хрестіяньскій, которые, не вѣдаючы кгрунту истности самое, звыкли подъ часъ и добрые речы ганити, яко напрыкладъ, ото згода и единость светая, которую мы прыняли есмо съ паны Рымляны, братьею нашою, знаючысе быти дѣтьми единое матери нашое светое католическое церкви, поневажъ зъ единого насѣня Духа Светого породилися есмо. И даютъ нѣкоторые прычыну, ото тую, ижъ Рымляне, яко въ артыкулахъ вѣры светое, такъ и въ церымоніяхъ церковныхъ далеко суть розни отъ светое Восточное церкви. А наконецъ смѣютъ нѣкоторые и то мовити, ижъ зборы евангелицкіе бліжшие суть вѣрѣ и церымоней церкви Восточное съ церымоніями своими, анижли Рымляне. Што еслиже естъ правда пущаю то уваженью каждого человѣка хрестіанского, который якоежъ кольвекъ баченье маетъ: а ижъ то не суть речы такъ скрытые и вельце трудные которыхъ бы и найпростшый порозумѣти не могъ. Жалемъ таковогo заслѣпѣнья нѣкоторыхъ будучы порушоный, не сегаючы глубокихъ речей, бо бы не малые книги о томъ быти мусѣли, гдѣ быхъ все по достатку мѣлъ выписовати,—ото иле накоротшей быти могло, собралемъ нѣкоторые челнѣйшые артыкулы вѣры, сакраментовъ и церемоней обое церкви, такъ греческое, яко и Рымское, на которыхъ кгрунтъ и самая истность належитъ“.

У кнізе роўнарадна разглядаюцца абрады і таімствы грэцкай і рымскай цэркваў і даводзіцца ачэвістая праўда, што яны блізкі адны другім. Дзеля гэтага няпраўду:

„смеють нѣкоторые и то мовити, иж зборы евангелицкіе ближніе суть вѣрѣ и церымоней церкви Восточное съ церемониями своими, анижли Рымляне“.

Кажучы аб Флёрэнтыцкай уніі ён заўважае:

„... але наша Русь тотъ соборъ светый листрыкійскимъ называютъ, и якуюсь баламутню и небылицу о томъ соборѣ недавно въ друку выдали На то вже достаточный отказъ маютъ, тамъ и руками правды дощупатися могутъ“.

Асабліва дастаецца Зызанію:

„Не всѣмъ же, откуль новый теологъ а старый баламутъ Стефанко Зизанія тое выдралъ, и написалъ въ своихъ книжкахъ, ижъ Христосъ теперъ, сѣдечы на правицы Бога Отца своего, вже не хо-дотайствуетъ о насъ, противъ ясному писму апостольскому и противъ всимъ светымъ богоноснымъ отцемъ церкви Восточное и Латинское. И такъ тою проклетою ересю своею, еще не слыханою, Русь поблазнилъ, же его книжк мъ баламутнымъ лѣпѣй, нижъ евангеліи, вѣрятъ“!

На іншым мейсцы (гл. „Пам. полем. лит. въ Зап. Руси“, СПБ. кн. II, б. 182) раскрывае псэўдонім Зызаняга, называючы яго „Стефанко Куколь“.

Як прынялі праваслаўныя „Гаръмонію“ найлепш схарактэрызавана ў „Перастрозе“:

„тое, што первей въ нашей церкви ганили, згола, всѣ нашы церемонѣи и вѣры вызнанья и сакраменты, тое все южъ хвалятъ, только же быхмо папежа за голову прызнали“.

„ѲESES, СИРЕЧЪ ИЗВѢСТНЫ предъложенія отъ оученій еже о тайнахъ церьковныхъ. На размышленіе къ объщему состезанію данны. Честнымъ отцемъ Іосифомъ Велиминомъ Рутъскимъ, Инокомъ закону св. Василія, въ Монастыру Виленъскомъ Св. Живоначалное Тройцы. Состязаніе же се на обычномъ мѣстѣ ученій будетъ, при монастыри предъреченномъ. Року отъ нароженія Христова 1608, мѣс. Генваря дня 17, часу второго по полудни". Без азначаньня мейсца друку, ў 4-ку, 2 лісты; друкавана безумоўна ў Вільні, ў друкарні Сьв. Троіцкага манастыра, ў 1608 г. Гэты „Theses" друкаваны і на польскай мове готыцкімі літарамі. Адзіныя экзэмпляры абодвых у Віленскай Публ. бібліатэцы.

Гэта ёсьць праграма публічнай дыскусіі аб веры, якія ў тыя часы устраівалі уніяты с праваслаўнымі.

„ТРИПѢСНЕЦЪ (ТРІОДІОНЪ) ЦВѢТОНОСНЫЙ". Друкаваны ў Вільні ў Леона Мамоніча, 1609 году, ў ліст 3+563 лісты. На адвароце агалоўнай балоны памешчаны верш на гэрб Льва Сапегі, канцлера княвства Літоўскага, напісаны мабыць, Лявонам Мамонічам, які падпісаў прадмову. У Сапезе адзначаюцца ўсе цноты наагул і асабліва як у рыцары і дзяржаўным дзеячу.

Тые всѣ в тобѣ цноты видимъ знамените,
Которыми тя панъ Бог надарылъ обфите.
Презацный сенаторе, знат изъ вѣковъ давныхъ
Тые жъ ся найдовали и в предкахъ твыхъ славныхъ...

ТРІОДЬ ПОСТНАЯ, друк., мабыць у Вільні, каля 1609 г., без агал. ліста, ў ліст, 440 лістоў (Ундольскій).

„ѲРИNOS, то есть Ляментъ единой вселенской апостолской восточной церкве зъ объясненьемъ докгматовъ вѣры. Чрезъ Ѳеоѳила Ортолога. в Вилнѣ 1610". Ў 4-ку. Гэтаж кніга таго-ж самага году выйшла ў Вільні і ў польскай мове пад агалоўкам:

> ѲРИNOS, to jest Lament jedynej powszechnej apostolskiej wschodniej cerkwie z objaśnieniem dogmat wiary,—pierwiej z greckiego na Słowieński, a teraz z słowieńskiego na polski pzetłómaczony przez Teofila Orthologa. W Wilnie 1610.

Аўтарам „Трэнасу" быў мніх віленскага Сьвятадухаўскага манастыра Мелецi (ў сьвеце Максім) Смотрыцкі. Выхад гэтай кнігі выклікаў захопленьне ў праваслаўных і раз'яраньне ў радох каталікоў і уніятаў. Аб выхадзе гэтай, узбураючай грамадзянства, кнігі было павядамлена ў вайсковы абоз каралю, які ў той час вёў вайну з Масковіяй і стаяў пад Смаленскам. „Трэнас" Смотрыцкага быў разгляданы сучасьнікамі як падбураючы выступ супроць духоўнай і сьвецкай улады, як зручная палітычная праклямацыя. Кароль Жыгімонт, у траўні 1610 году, выдаў забарону прадаваць і купляць „Трэнас" пад пагрозай кары пяці тысяч чырвоных залатых; віленскаму войту і магістрату за-

гадаў канфіскаваць друкарню Сьвятадухаўскага віленскага манастыра, забраць і спаліць кнігі*), а аўтараў і друкароў пасадзіць ў вязьніцу да далейшага загаду. Пісарам, загадчыкам і карэктарам у Сьвятадухаўскай друкарні быў архімандрыт Лявон Карповіч, і ён, заарэштаваны ў гэтай справе, прасядзіў два гады ў вязьніцы, пакуль справа хадзіла ад установы да установы.

„Трэнас" Сматрыцкага гэта незвычайнага таленту літэратурна-поэтычна-лірычны твор, а адначасова кульмінацийны пункт рэлігійнай полемікі са стараны праваслаўных. У „Трэнасе" сказы парываючай сілы, выбухі разжаленага пачуцьця, голаснай жальбы, горкай наругі і дакору, яркія малюнкі і страшныя пагрозы чарадуюцца с сумнай паэзіяй і патосам. Наагул аўтор „Трэнасу" быў надзвычайнай чуткасьці паэтам і яго проза мясцамі пераходзіць у рытміку, катора прыбліжаецца да лепшых пробак ўсесьветнай пісьменнасьці.



Вельямін Язэп Руцкі, уніяцкі мітрапаліт.

Тэма „Трэнасу"- плач праваслаўнай царквы с прычыны яе бязвыхадна горкага палажэньня ў межах Рэчыпасполітай. Прыкладам, у адным з адрыўкаў, царква плача-галосіць бытцам пакінутая маці, паўтараючы адны і тыя самыя нарэканьні, але ў штораз іншых словах, сказах і рытмах:

„Гора мне беднай, гора нешчасьлівай, ах, з усіх старон і маетнасьцяў аграбленай, гора мне, на сьвецкую ганьбу цела майго с шат абдзертай, гора мне невымоўнымі цяжкасьцямі абцяжанай. Рукі ў аковах, ярмо на шыі, путы на нагах, ланцуг на плечах, меч над

*) Дзякуючы гэтаму захавалася толькі некалькі экзэмпляраў, друкаваных у польскай мове.

галавой абасечны. Вада пад нагамі глыбокая, агонь па старонах няўгасны, зусюль стогны, зусюль страх, адусюль прасьледаваньні. Бяда ў гарадох і вёсках, бяда ў палёх і дубровах, бяда ў горах і бяздоньнях зямельных. Няма мейсца супакойнага і басьпечнага. Дзень у болях і рачах, ноч у стогнах і ўздыханьнях, лета пякучае што самлееш, зіма марозіць да сьмерці. Прымусовую бо нагату цярплю і аж на сьмерць прасьледуюць мяне. Калісь дзіўная і багатая, цяпер агіджаная і бедная; калісь каралева, ўсім сьветам каханая, цяпер усімі пагарджаная і мучаная. Усё, што жыве, ўсе народы, ўсе жыхары зямлі, прыступіце да мяне, паслухайце майго голасу, пазнайце, чым была я даўней, і дзівуйцеся. Пасьмевішчам сьвету я сталася, а калісь для людзей і анелаў была я подзівам".

А найбольш мук прычынілі свае ўласныя дзеці:

„Радзіла я дзяцей і выхавала, а яны адракліся мяне і спрычыніліся да майго упадку. Таму сяджу адна цяпер, як удовая, ў плачы,—калісь валадарка ўсходу і захаду, поўдня і паўночных краін. Дзень і ноч плачу і сьлёзы, як патокі, точацца па абліччы маім, і няма каму пацешыць мяне—ўсе паўцякалі ад мяне, усе пагордзілі мною. Мае сваякі далёка ад мяне, мае прыяцелі сталі ворагамі, мае сыны, пазавідаваўшы вужачаму племю, жыгаюць цела маё заразьлівымі жыгаламі. Слухайце жалобнай повесьці маей, усе народы, прыміце ў вушы свае, ўсе жыхары кругу зямельнага. Сыны і дочкі мае, каторых радзіла і выхавала, пакінулі мяне і пайшлі за тэй, якая не балела імі, каб ўдосыць насыціцца тучнасьцю яе. Сьвятары мае пасьлеплі, пастыры мае панямелі (няхочучы ведаць, што аб душы змаганьне), старцы мае падурнелі, маладзікі адзічэлі, дочкі пайшлі на распусту, і ўсе аднадушна, Бога і праўду яго забыўшы, на душу маю спрысягліся".

Сталася ўсё гэта дзякуючы адступніцтву і нядбаласьці зьверхнікаў:

„О біскупы, біскупы!... Ці ня годзі вам яшчэ тэй неацэненай утраты, якую панашу дзякуючы вашай нядбайнасьці, такую вялікую страту ў золаце і серабрэ, пэрлах і дарагіх каменьнях, ў каторых я пышалася, аздобленая вашым бацькам, колькідзесят лет як найслаўнейшая каралева? Дзе цяпер той неацэнны камянь-карбункул, бліскучы як сьветач, каторы я насіла ў кароне галавы маей між іншымі пэрламі, як сонца між гвёздамі,—дом князёў Астрожскіх, што сьвяціў над усе іншыя блескам сьветласьці старой сваей веры? Дзе іншыя дарагія і також неацэнныя камяні тэй кароны—слаўныя домы рускіх князёў, неацэнныя шафіры, неацененыя дыяманты: князі Слуцкія, Заслаўскія, Збаражскія, Вішневецкія, Сангушкі, Чартарыйскія, Пронскія, Ружынскія, Саламярэцкія, Галоўчынскія, Крошынскія, Масальскія, Горскія, Сакалінскія, Лукомскія, Пузыны і іншыя незлічоныя, каторых доўга было-бы вылічаць паасобку. Дзе і іншыя пры іх мае клейнады? Разумею радавітыя, слаўныя, высокадумныя, сільныя і даўныя домы, па ўсяму сьвету галасныя сваей добраю славаю, магутнасьцю і адвагай народу рускага: Хадкевічы, Глебовічы, Кішкі, Сапегі, Дорогастайскія, Войны, Валовічы, Зэновічы, Пацы, Галецкія, Тышкевічы, Корсакі, Хрэбтовічы, Трызны, Гарнастаі, Бокіі, Мышкі, Гойскія, Сямашкі, Гулевічы, Ярмалінскія, Чалганскія, Каліноўскія, Кірдзяі, Загароўскія, Мялешкі, Богавітыны, Паўловічы, Сасноўскія, Скуміны, Поцеі і інш."

Калі ідзе такое адступніцтва ад усходнай царкы вінавата ў гэтым і духавенства, якое пры помачы золата і серабра уварвалася ў Божы дом; адны с корчам, іншыя з двароў і ваяцтва ды падатковых урадаў, без ніякага прыгатаваньня.

Дзеля гэтага плача царква:

„Гора мне паручанай нядбалым наймітам, гора мне аддадзенай на апеку ненасытных лачнікаў... Блюзьніцелі а не вучыцелі, гасіцялі а не сьвяціцялі, круцялі а не пастыры, архібыдлятнікі а не архібіскупы, вы пераступілі закон волі божай, засьляпілі душы праклятай мамонай сьвету гэтага“.



Мелеці Сматрыцкі, манах Сьвятадухаўскага віленскага манастыра, пазьней праваслаўны Архібіскуп Полацкі.

Далей царква пераконывае тых, якія ў жыцьці ёсьць карчмарамі і купцамі, ў размове невукамі, ў абходжаньні аблуднымі лісіцамі, а ў наступаньні лютымі воўкамі.

Соль кніжкі ў напамінаньні адступіўшых ад усходнай царквы. Царква, як маці прамаўляе да сына:

„Няхай парушыць цябе сыноўскае пачуваньне да тваей маці, няхай праразіць твае сэрца той такі горкі плач, каторы прабіваецца праз самае неба, мае ўдыханьне і галасьба; пацеш мяне, дзеля Бога, прашу цябе, сыне, пацеш у гэтым маім горы, бо я ад самай маей маладасьці не пераставала цябе цешыць. Абатры сьлёзы з вачэй маіх тваім апамятаньнем і паваротам, бо я не давала табе плакаць ў годы твайго дзяцінства. Астань, сыне, пры сваей маці ў старасьці, бо кожды Богам пракляты, што пакідае яе чынам ці словам; ушануй мяне, а будзеш мець благаславеньне ад Навышняга. Не давай прычыны каб праклінала цябе твая маці, бо матчын праклён вывяртае з асноў домы сыноўскія“.

За напісаньне „Трэнасу“ праваслаўныя прост багомілі Сматрыцкага; як сам апавядае—не далі-бы пылінцы ўпасьці на яго. Кнігу яго перапісывалі і аберагалі ды ў тэстамантах адказывалі патомству, як найдаражэйшы скарб, а некатарыя загадывалі класьці яе ім у магілу.

У адповедзь на „Трэнас“, вядомы езуіцкі польскі пісьменнік, Пятро Скарга, рэктар полацкай езуіцкай акадэміі, напісаў кнігу: „Na treny i lament Teofila Orthologa do Rusi greckiego nabożeństwa przestroga“. (Кракаў 1610). Скарга знаходзіў у кнізе Сматрыцкага ухіл да протэстанцтва, спачуваньне ворагам Рэчыпаспалітай, а ласьне Маскве, з якой вялася тады вайна.

Са стараны уніятаў напісаў адповедзь на „Трэнас“ Ільля Марахоўскі, быўшы каралеўскі сэкрэтар, які ўступіў ў ордэн Васільянаў пад імем Якіма. Кніга была надрукавана ў польскай мове пад агалоўкам: „ПАРІГОРІА, albo utulenie uszczypliwego lamentu mniemanej cerkwie Świętej w.chodniej zmyślonego Teofila Orthologa“ (Вільня 1617). Між довадамі богаслоўскага характару ў карысьць уніі і нападак, Марахоўскі апавядае адну вельмі цікавую рэч: праваслаўныя наракалі на уніятаў і вытыкалі ім, што уніяцкія сьвятары ў царквох, у часе службы, чыталі Евангельле і пасьля Евангельля навуку мевалі ў „простай“ мове. Праваслаўныя называлі гэта папежскай выдумкай. Аднак, відаць гэта „простая“ мова зьяўлялася прыцягаючай сілай, бо і праваслаўныя для ужытку ў царквох надрукавалі ў 1616 годзе ў Еўі свае „Евангельле Учительное“. З гэтага відаць, што кніга Марахоўскага была напісана перад 1616 годам.

„Трэнас“ Сматрыцкага разьятрыў і без таго сфанатызаванае падзеямі канца XVI ст., грамадзянства. Ен ударыў у тон езуіцкай пропагандзе, якая старалася ўсе інтэрасы грамадзянства і дзяржавы згрупаваць каля царквы. Замест каталіцкай (рымска-езуіцкай) так сказаць дыктатуры, Сматрыцкі высунуў мысль аб сканцэнтраваньні ўсіх інтэрасаў паравасла́ўнага славянства каля праваслаўнай царквы. У выніку атрымалася істотная рожніца: езуіты, побач з лацінай, пашыралі жывую польскую мову, а праваслаўныя, маючы рожныя жывыя, хоцьбы т. зв. „рускія“ мовы (крыўскую, украінскую, маскальскую) імкнуліся саштукаваць іх у адно, пры помачы царкоўна-баўгарскага клею, або іначай кажучы, жывыя ўсходна-слявянскія мовы заступіць штучнай і брыдкай у сваей штучнасьці тарабаршчынай, якая зарадзілася ў астрожскай школе і с канца першай палавіны XVI ст. пачала пранікаць і ў нашу пісьменнасьць. З другой чверці XVII ст. духавенства заходнага і ўсходнага абрадку наўперагонкі сьпіхала грамадзянства ў цемру рэлігійнага змаганьня, ставячы інтэрасы рэлігійныя вышэй націянальных і дзяржаўных інтэрасаў.

„СУБОТНИКЪ“, г. зн. памяннік, які сьпісываў у 1610 годзе архімандрыт менскі (уніят) Паісі Сахоўскі. Гэты, „Суботнік“ дакончыў толькі сто гадоў спусьця Антон Завадзкі. Ці захаваўся ён нет ведама (ведамка з Hist. lit. Polsk., Wiszniewski, т. VIII).

„КНИГА НОВОГО ЗАВѢТА в нейже напреди псалмы блаженаго двда пророка и царя... (на адвароце): Працею и пильнымъ стараньемъ, Иноковъ Церкви Братское С. Дха, Объщелюбного житія. Въ маетности его млсти (Багдана Агінскага). В Евю. Року 1611".

Акром загалоўку крыўскай мовай напісана прадмова і надпісы над псальмамі.

На адвароце агалоўнага ліста—гэрб кн. Агінскага з „эпикграммай" (16 вершаў). Апісаўшы сілу гэрбоўнага крыжа Агінскіх, аўтор выклікае:

Щасливый домъ Окгинскихъ, который тотъ маетъ
Клейнот с предков поданый, и въ нимъ ся кохаетъ.

Сыны і дочкі гэтага роду ўсе свае цноты, асновуючы на такім фундаманце,

Отчизне милой делнымъ мужствомъ услугуютъ,
Што зыкло безсмертную славу им еднати,
Которая на свѣте поты будет трвати,
Пока мѣсяць и звѣзды свой бѣгъ справовати
И ночные темности будуть просвѣщати.

„ЧАСОСЛОВЪ", друк. у Еўю, 1612 г., in quarto, 3+240+2 лістоў. (Ундольскій).

„ДІОПТРА, АЛЬБО ЗЕРЦАЛО И ВЫРАЖЕНІЕ ЖИВОТА ЛЮДСКАГО НА СЕМЪ СВѢТѢ". Друкавана ў Еўю, 1612 году; 4-ка, 8 і 182 лісты. Перадрукавана стараабрадцамі ў Клінцах у 1781 годзе.

„ЗДАНЕ ПРЕМУДРОГО И ВЕЛМОЖНОГО МУЖА И ПАНА ЮАННА ЩАСНОГО ГЕРБОРТА". Паводле віленскага рукапісу XVII ст., надрукавана гэтае „здане" ў зборніку: „Документы объясн. истор. Зап. Рус. Края" (СПБ. 1865, б. 214), акром гэтага надрукавана яно ў „Палінодії" Капысьценскага.

Ян Фэлікс Гэрбурт вучоны і асьвечаны паляк, жыў у маетнасьці сваей Добрамілю ў Зах. Галічыне. Па пераконаньню быў славянафілам, хоць паходзіў, здаецца, з немцаў. Жана яго, Альжбета Заслаўская, лучыла яго с тагочасным кругам інтэрасаў крыўскіх зямель, на якіх разгаралася змаганьне супроць праваслаўных. Гэрбурт, як патрыот рэчыпаспалітай і як славянафіл, ня мог маўчаць, гледзячы на гэтае братабойчае змаганьне, і ён загаварыў. У 1613 годзе, на сойме, Ян Гэрбурт зложыў свой погляд („Здане") аб народзе рускім. Тэкст яго „Здания" быў перапісываны і пашыраны на ўсіх землях, дзе жылі праваслаўныя, ад Карпатаў да Смаленска. Арыгінал пісаны па польску, але ўсьлед быў перакладзены на крыўскую мову:

„Той рану задаетъ въ сердце отчизне нашой, хто кольвек право ее ламаеть, згоду межи народами, з которыхъ ест полская речъ посполитая зложена, розрываеть, тотъ въ сердце отчизну забиваеть. Такая естъ колотня, которую зачали з народомъ руским, братьею и кровью нашею, тая естъ якъ рана сердечная, которая бы найменшая была, смерть приносить. Вѣдаю добре, што ея почавши отъ

зъезду берестейского онымъ дѣеть. Тое вѣдаю добре, як на сеймикахъ надѣю имъ чынятъ, а на сеймахъ зъ ихъ смѣхи строятъ. На сеймикахъ братьею зовуть, а на сеймахъ отщепенцами. Чого они хочутъ по томъ зацъномъ народѣ, якую раду и до которого цѣлю змѣряютъ? того я жаднымъ способомъ разумѣти не могу. Бо естли того хочуть, абы Руси не было въ Руси, то есть речъ не подобная, и такое подобенство есть якобы ся имъ хотѣло жебы тутъ море было коло Самбора, а Бесчадъ коло Гданска. Жаденъ того розумъ, жаденъ гвалтъ перемочи не можетъ, абы Руси не было въ Руси. Штожъ, а коли зась ся кому зобачить, абы Поляковъ не было въ Полщи? ба, безмаль южъ не такъ, бо хотяжъ по полску мовимо, але правъ и звычаевъ запомнели есьмо. Але мовить хто: не хочемо мы Руси отмѣняти на Руси. Ба, и не можете! Але хочете ихъ позыскати до вѣры нашей повшехной римской и до единости ведлугъ собору флорентского привести. Того я не ганю, естли пристойне чинять и водлугъ науки Христовы. Штожъ вжды за пожытокъ маетъ король его милость з такъ великихъ клопотовъ, которыхъ зажылъ з народомъ рускимъ? Тотъ пожитокъ маетъ, же есть нас словянскихъ народовъ розныхъ осмнадцать: тыи всѣ розумѣли, же народъ полский мѣлъ ихъ зъ тяжкого поганского ярма высвободити; тые всѣ на кождую потребу кроля и народу полского горла свои дати были готовы. А теперъ, якъ кривду почато чинити народови рускому, суть намъ головными непрыятелями. Теперъ волятъ померти сами на войне, жоны и дѣти свои попалити, якъ то въ Смоленску учинили, нѣжбы мѣли до згоды якой прыйти зъ нами, кровию своею. А што есть перешкодою до успокоеня Москвы? Едно уражоная вѣра руская. А што помогло до побитя въ Волошехъ Потоцкого? Едно таяжъ нехуть народу руского ку народови нашому".

„АНѲОЛОГІОНЪ, албо цвѣты молитвъ избранныхъ"…. Друк. у Еўю, 1613 г., у 16-ку, 4+208+27 лістоў. Малітвеннік гэты мае ў рожных экзэмплярах не аднакія агалоўныя балоны, відаць пад тым самым годам друкаваўся некалькі разоў.

„КАЗАНЬЕ ДВОЕ. Одно на Преображеніе Гда Бга, и Спса нашего Іс. Ха. Другое на Успеніе Прч(с)тое и преблаго(с)ловенное Вл(д)цы нашое Бцы и пр(с)но Двы Маріи. Которое мѣлъ оцъ Леонтій Карповичь, Архімандритъ Монастыра общежителного, Братского Виленского… в року 1615… Друковано… в Евю". (Агаловак і паніжшы нарыс паводле праф. Карскага „Бѣлоруссы", т. III).

Адкуль быў родам Лявонці Карповіч даведываемся с прамовы М. Сматрыцкага, якую апошні сказаў на пахаваньні Карповіча. У слове на погрэб Карповіча чытаем:

„Аже и ведлугъ свѣта оуроженъ есть зацне и шляхетне, з Родича шляхтича: Пинскій повѣт (которого он в Продкахъ своихъ, и в ихъ теперъ живучихъ Потомкахъ Карповичахъ, обывателемъ былъ значным), знаменитое о немъ свѣдоцтво".

Асьвету атрымаў у Астрожскай школе на Валыні, пасьля быў іеродыяканам Кіява-Пячэрскай лаўры, дзе ўжо ў 1606 годзе выступіў супроць уніі. Ад 1609 году і да сьмерці (1620 г.) Карповіч быў у Вільні, дзе выпаў-

няў урад архімандрыта Сьвятадухаўскага манастыра. Належаў да ярых працiўнікаў уніі, за змаганьне з якой нават пацярпеў, як піша Сматрыцкі *):

> „Гды ему през цѣлыи два роки срокгимъ а окрутным темничным вязенем мордованому, на кождый день для ev(вангель)ской правды бѣдне умирати приходило"... „Былъ насмѣван для вѣры православной, л(ь)жен, безчещен, шарпан, от суду до суду, з турмы до турмы, през цѣлыи два роки якъ злочинца якій поволокан".

Прыймаючы пад увагу яго паходжаньне с палуднёвай часьці крыўскай зямлі і яго даволі доўгую дзейнасьць у Вільні, а такжа тое, што ў яго мове няма яўных украінізмаў, дый надрукаваны творы яго ў Еўі (каля Вільні), Карповіч саўсім няслушна бывае залічаны да украінскай пісьменнасьці.




Евангеліст Марк, дрэварыт віленскай Сьвятадухаўскай друкарні.

Перад казаньнямі ў кнізе памешчана прадмова:

> „Велиможной пней, ей мл(с)ти пней Аннѣ Ходкевичовне, кнегини Корецко(й) и про(ч)я",

якая, патвараючы продкаў сваіх, слаўных рожнымі выдатнымі справамі, аказанымі гаспадарству „и непоколебимою в православной Вѣре статечностью", стараецца аб пашырэньні і памножаньні хвалы Стварыцелю, будуючы цэрквы, манастыры, школы, дастатна і шчодра надзяляючы іх маетнасьцямі, дзеля чаго можа быць названа другой Аленай... Першае слова зложана паводле ўсіх вымаганьняў схолястычнага красамоўства. Паставіўшы на чале свайго казаньня словы царкоўнай песьні: „Прійдѣте взыйдемъ на гору Гдню и въ домъ Бга нашего и оузримъ славу Преображенія его", даткнуўшы акружаньня і варункаў Пераабражаньня Госпадавага, аўтор вядзе гутарку аб перамене душы праўдзівага хрысьціяніна:

*) Карповіча па каралеўскаму загаду арэштавалі за друкаваньне кнігі Сматрыцкага „Өринос".

„О которыхъ трехъ скиніяхъ прав. хр., и я недостойный зъ любовію Вашею за ласкою и помочью Божею, побесѣдовати, а въ той бесѣдѣ троякое преображене, або премѣненье души истиннаго християнина (въ которомъ ся тежъ скутки тыхъ трехъ преднѣйшыхъ богословскихъ цнотъ, вѣры, надежды и любове, отчасти выражати и оказовати буду) уважати умыслъ предъ себе взявши: прошу въпродъ того истиннаго свѣта просвѣщающаго всякого человѣка градущаго въ миръ"...

Выясьняючы мысьль аб параабражаньні душы чалавечай аўтор пашляхам датыкае догматаў праваслаўнай веры і адрожненьняў яе ад каталіцтва і протэстанцтва.

Хочучы ажывіць сваю прамову, прамоўца ўцякаецца да рожных рыторычных фігур, асабліва часта да пытаньняў і размоўнага ладу:

„Не вѣдаешъ Петре и самъ што мовишъ, естесь бо вѣмъ пьянымъ, упоила тебе една тая, которое скоштовалъ, премирное оное славы, и небесное солодкости, капля, але тя твой Панъ до самого несмертелное роскоши жродла взываетъ: которого не доступишъ, если по вкушеню тое теперѣшнее солодкости, яблока крестъного не скоштуешъ"...

Гэткія звароты магчымы і да не жывых рэчаў:

„О мѣсто презацное, о мѣсто преславное, лѣпшій естъ день единъ мешканя твоего, а нижъ тысеча лѣтъ, по томъ непевномъ и бурливомъ мору, жекглованя. О граде великого царя, Іерусалиме небесный, который естесь маткою всѣхъ насъ: о отчизна наша милая и пожаданая; о доме утѣхи".

Другое казаньне—на Усьпеньне—мае на мэце выслаўляньне Богамаці. Прамоўца прызнае сваю слабасьць перад вялікім заданьнем:

„Ачъ колвекъ, вѣмъ то добре, ижъ не только мой тупый розумъ, мѣлкій довътипъ, слабая сила и не оумѣстная вымова, подолати тому, жадною мѣрою, не можетъ; але и вси наймудрѣйшіи философи, и найвымовнѣйшіи красомовцы и вѣтія если бысе о то (силамъ своимъ оуфаючи) покусити хотѣли, яко рыбы безгласны, застати бы мусили; если бо вѣмъ неподобна человѣку множство звѣздъ зличити, высоту небесную змѣрити и глубину морскую изслѣдити: далеко неподобнѣйшая, множство похвалъ, высокость славы, и глубокость невычерпаемыхъ даровъ пречистое и преблагословенное Владычицы нашея Богородицы присно Дѣвы Маріи словы зличити, мыслю огорнути, и розумомъ достигнути".

Але прамоўца адважываецца ўсё-ж такі выхваляць яе і выклікае:

"Щасливи, которые откровеннымъ лицемъ (яко сынове дня и сынове свѣта), на тую славу твою смотратъ; щасливи, которые, зъ обфитости пребогатыхъ добръ твоихъ, нищету свою наполняютъ; щасливи которые въ невымовной сличности и оздобе твоейся кохаютъ"..

Сучасьнікі за яго вымову лічылі Лявона Карповіча падобным Златавусту, як аб гэтым гаворыцца ў прывітаньні Пятру Магіле, пасьля звароту яго ў 1633 годзе с карунацыйных урочыстасьцяў. Захары Капысьценскі кажа аб Карповічу: „мужъ богодухновенный, въ языку греческомъ знамените бѣглый, оборонца благочестія" (Русск. Истор. бібл. IV, 913).


УЧИТЕЛНОЕ·

АЛБО

КАЗАНЯ, НАКОЖДУЮ НЕДЕЛЮ

И СВЯТА УРОЧИСТЫИ,

ПРЕЗЪ

Стго Оца нашего КАЛИСТА, Архиепископа

Костантинопольского, и Вселенского Патриарху, при

деспоте Стефану Покгрицу написаный.

А ТЕПЕРЪ НОВО

З Кгрецкого и Словенского языка на

Руский переложеный.

Працею и старанием Иноков Общежития Монастыря Братского Виленского Сошествия Стго и Животворящего Духа, Выдрукованы.

В ЕВЮ

Року ахѕі.

Крыўскае Евангельле, друкаванае ў Еўі (каля Вільні) ў 1616 годзе.

„МОЛИТВОСЛОВЪ“, друк. ў Вільні, ў друкарні віленскага братства Святога Духа, каля 1615 г.; між іншым зьмяшчае: малітвы Кірылы Тураўскага і яго-ж канон іночэскій; у 12-ку, 8+401+26 лістоў (Ундольскій).

ПОЛЕМІЧНЫЯ ТВОРЫ ІОЗАФАТА КУНЦЭВІЧА. Рукапіс пачатку XVII ст. Петр. Акад. Наук (11. 4. 79) на 33 лістох, пачынаецца так:

„Начало предмовы: Всимъ станом духовным и свецкимъ народу нашого росу(й)ского бл(агода)ти и міра х(с)ва. упрейме зычит Едінъ отъ иеромонаховъ стое и живоначалное тройцы. Манастыря виленьского именем Иоасаѳъ Коу(н)цеви(ч). Въ речах бо(з)скихъ и лю(д)скихъ возлюбле(н)нии мои. то(т) естъ порадокъ до позна(н)я и выбада(н)я ся“...

У гэтым рукапісе Іозафат Кунцевіч вядзе палеміку с Клерыкам Астрожскім. Да твораў яго належыць і другі рукапіс таго-ж сабраньня (11. 4. 80), пад загалоўкам:

„О старшенстве Петра Стго доводы из семи соборов“.

„ЕВАНГЕЛІЕ УЧИТЕЛНОЕ албо казаня на кождую неделю И Святы урочистыи, презъ Стого Отца нашего Калиста, архиепископа Константинополского и Вселенского Патріарху пред двѣма сты лѣ(т) Покгрецку написаныи, а теперъ ново з Кгрецкого и Словенского языка на Рускій переложеный. Працею и стараньемъ Иноковъ Общего житія Монастыря Братского Виленского Сшествія Стго Животворящого Дха. Выдрукованы В Евю. Року 1616“.

Як прычыну перакладу „з греческого и словенскога языка на Рускій“, перакладчык падае тое, што царкоўна-славянская мова для многіх сталася ўжо незразумелай: „преложеньемъ его (Эвангельля) на языкъ нашъ простый рускій, якбы з мертвыхъ вскрешонъ“. (бал. 8). Перакладчыкам гатага Эвангельля быў М. Сматрыцкі, што відаць с канца прадмовы да евангельля:

„з словенского языка працею моею (за ласкою и помо(ч)ю Б(о)жею) на языкъ Рускій переведеное В. Кн. М. приношу Смотрискій“.

Надрукавана Евангельле для ужытку верных грэцкага абраду, коштам Багдана Агінскага і Раіны Валовічанкі.

Прыклад мовы:

„Кды ся І(с)с народилъ в Виѳлеемѣ Жидовскомъ за днiй Ирода короля: ото вѣщкове з всходу пришли до Іер(с)лима мовячи, где есть нарожоный кроль Жидовскій; босмо видѣли звезду его на всходѣ, и пришли есмо поклонитися ему. И услышавши Иродъ кроль, стривожился и весь Іерусалимъ з нимъ. А зобравши всѣхъ Архіс(в)щеннико(в) и книжниковъ лю(д)скихъ пыталъ оу нихъ гдебы ся Х(р)с народити мѣлъ: Они ему рекли в Виѳлеемѣ Жидовскомъ: так бо написано чере(з) Пророка...

„О мытнику и Фарисеи приповѣсть, абы въ тую недѣлю спѣвана и читана была, яко бы нѣкая наука и побудка чрезъ святыхъ отцевъ вынайдена есть, и учинена для тоѣ причины, же бысмо управовали и готовили себе на духовныи працы поста: для того-ж не-

дѣля тая зъ церковной ухвалы провозвѣстною, то есть ознаменуючею недѣлею называется: которая ознаймуетъ и оповѣдаетъ намъ, ижъ върыхлѣ постный покуты часъ приходитъ: абысмо маючи здавна въ душахъ нашихъ, якіе закалы, очистили ихъ, а чулѣ приготовивши себѣ охотнѣ и легко до збавенныхъ працъ поста и повстягливости шли".

Евейскае Евангельле, не глядзя на тое, што было друкавана для лепшага выразуменьня „простым" людзём, карысталася шырокай популярнасьцю ў духоўных і шляхэцкіх кругах. Яго бераглі і пераховывалі ды перапісывалі, сьведчыць аб гэтым значны лік друкаваных і рукапісных экзэмпляраў, якія дайшлі да нашых часаў.

Другое выданьне гэтага Евангельля надрукавана было ў Кіяве ў 1637 годзе „благословеніемъ Кіевского Митрополита Петра Могилы".

„ОТПИСЪ НА ЛИСТЪ УНИТОВЪ ВИЛЕНСКИХЪ, которые усиловали свое лестное отступленіе отъ Восточное Церкве къ Западнему Костелу слушное показати, которымъ къ воли сесь листъ зъ Слуцка стался худшимъ во презвитерахъ Андреемъ". Год 1616, мейсца друку, невядомае. На пачатку кніжкі маецца вершаваная эпіграма:

Униты як ужъ лесть жаломъ воюютъ.
Манѣю моцнятъ, благочестіе псуютъ.
Косою лукавствомъ вытинаютъ квѣты.
Ослою наострены Богу не пѣты.

У гэтай кніжцы разглядаюцца некатарыя дагматычныя і абрадовыя пытаньні, а галоўна асьмеіваюцца уніяцкія дыскусіі, якія яны устраівалі публічна, каб перацягаць да сябе праваслаўных.

„Пишешъ ми же взываемъ на споры страдальцевъ сыновъ церкве моее светое, верне любимое братии, и мовишъ же ся моее псевдолокгии глыбокое боячы не становили. А с кимъ жесь то ты дыспутовалъ, поневажъ нашы тамъ не были, а штож ты тамъ за трыумфъ звыйграное строилъ? Чы не стялъ то ты на тотъ часъ чеха, чы не змѣрилесь то ты былъ локтемъ вѣтру, и чы не с тенѣмъ ся то ты потыкалъ, што есть найшаленшая на томъ свѣтѣ... А до того вѣдали добре, же не на дыспутацыю ихъ взываете, але на посмѣвиско, што ся указало з баламутни вашее въ концу, кгдысте переперли шести. Отожъ есь выгралъ на томъ соборѣ вашом. Когось то переперъ? Своихъ же бехуровъ дурный Лейзеръ... Дыспутуй же о то з Ляментомъ, который вѣрный сынъ церкви Божое его (а не іеретицы) писалъ. З ним то было стерти, а не зъ своими бахурами. Оттуль то мой писаръ вашу унѣю манѣю назвалъ"... „Навернися, сыну мой, молю тя до православія нашего. Кгдыжъ даремно вѣкъ свой жити будешъ, если той путь не знайдешъ которыйсь стратилъ".

Аўтор упамінае Менск і акалічныя мястэчкі, па якіх хадзілі агітатары уніі. Адповедзь пісана Вельяміну Руцкаму (гл. вышэй, пад 1608 г. „Θeses").

Рэлігійныя дыспуты, як спосаб пропаганды увайшлі ў звычай з другой палавіны XVI ст. На гэткіх дыспутах выступалі каталікі, кальвіністы, арыяне, уніяты і праваслаўныя. Дыспуты прыцягалі аграмадныя массы народу, перад

якім вызнаўцы тэй ці іншай веры павінны былі бараніць яе. Само сабой, кождая старана старалася даць як найлепшых дыспутантаў, якія ў зацятай і гарачай вустнай палеміцы сіліліся пабіць сваіх праціўнікаў і апраўдаць свае вераньне.

У езуіцкіх і уніяцкіх школах студэнтаў плянова навучалі уменьня вясьці дыскусіі. З гэтай мэтай прафэсар рыторыкі, пасьля сваей лекціі выклікаў студэнтаў выступаць з закідамі супроць выкладаных, у бягучым тыдню, лекцій. Часам, пад кіравецтвам прафэсара, вялі дыскусіі аб лекціях самі студэнты. Пры тагочасным спосабе выкладу, бяз школьных падручнікаў, гэта давала магчымасьць прафэсару кантраляваць поступы і здольнасьці сваіх вучняў. Падобным спосабам адбываліся і гадавыя выспыты (экзаміны), с тэй толькі рожніцай, што гадавыя дыспуты вяліся не перад адным прафэсарам, але адбываліся яны перад біскупам, ігуменамі і выдатнейшымі дастойнікамі гораду, якія сядзелі за прэзыдыяльным сталом. Па скончаньні-ж курсу навук, на выпускныя экзаміны, выклікаліся зазвычай інаверцы. За некалькі дзён перад такой выпускной дыскусіяй на браме манастыра, дзе памешчалася школа, вывешывалі ярка размаляваную абвестку аб часе і тэме вучонай дыскусіі. Гэткая абвестка часам мела выстаўленыя пункты закідаў і запрашала праціўнікаў адказаць на робленыя ім закіды. Падобны вызаў быў дадзены уніятамі праваслаўным. Праваслаўныя не прыйшлі бараніцца, што ў такіх здарэньнях лічылася паражкай праціўніка. Слуцкі прэзвітар Андрэй у сваім Отпісе апраўдывае праваслаўных, якія не пайшлі на заклік уніятаў дыскутаваць з імі.

„СЛУЖЕБНІКЪ", друк. у Магілёве, 1616 г., ў 4-ку.

„ОБОРОНА ЕДНОСТИ ЦЕРКОВНОЙ" Рукапіс XVII ст. бібліятэкі Стара-Быхаўскага касьцёлу, праўдападобна пераклад с кнігі Лявона Крэўзы Ржэвускага (Вільня 1617 г.):

„Obrona jedności cerkiewnej albo dowody, ktorymi się pokazuje, iż grecka cerkiew z łacinską ma być zjednoczona".

Лявон Крэўза-Ржэвускі сын бедных віленскіх мяшчанаў. Скончыў навукі ў віленскай езуіцкай акадэміі і бавіў некалькі гадоў заграніцай. Як шчыры староннік уніі і вучоны богаслоў быў архімандрытам Сьвятатроецкага манастыра ў Вільні, а ў 1626 годзе назначаны архібіскупам Смаленскім і Чарнегаўскім; памёр у Смаленску ў 1639 годзе. Многія гісторыкі аўторства гэтай кнігі прыпісуюць Іозафату Кунцэвічу, які яе выдаў будучы манахам ад імені свайго архімандрыта.

У „Обороне" упамінае аўтор аб іншай своей кнізе супроць Астрожскага Клерыка, але кніга гэта не дахавалася да нашых часаў.

„СЛУЖЕБНИКЪ... друковано естъ коштомъ и накладом, Ясне вельможъного Пана его млсти Пана Леона Сапеги. Канъцалѣра Великого Князства Литовъского Могилевъского. шерешовъского Старосты Іпрочая. З ласкою Іпривилеемъ е. к. млти. Вдрукарни Леона

Мамонича. Року 1617“. У 4-ку. На адвароце агалоўнай балоны гэрб Льва Сапегі і пасьвячоныя яму вершы:

Смотры як крыны, ездецъ и стрѣла з рукою,
Звезалися, стрела с крестомъ, крестъ теж з лукою.
Тыи суть зобранья цнотъ, Великій Леоне,
Которыми продковъ ушляхтили Кролеве.

Далей выражаецца мысль, што ён гатоў змагацца з гэрэтыкамі і ворагамі айчызны, аўтор яму за гэта зычыць доўгіх гадаў жыцьця.



Книга Служебникъ, в нейже блаженых трех епископовъ лургіе съвершантьсѧ. Іωанна Златоустаго, Василіа Великаго, и Григоріа двоеслова Папы Римъскаго. Преждесщеннаѧ.

друкована естъ коштомъ и накладомъ,
Его милости вельможного Пана
Его милости Пана
Леωна Сапеги. Канцлера Великого Князства
Литовъского, Могилевъского и Ширшовъского
Старосты. Іпротчая.

За ласкою і приношеніемъ ...
В друкарни Леωна Мамонича.
Року ...

Служэбнік, друкаваны ў Вільні ў 1607 г.

„УСТАВЪ БЖЕСТВЕННЫЯ ЛИТУРГІЯ. Ввилни в Друкарни Брацкой. Року 1617“. У 4-ку, 169+1+28 і 471 лістоў. Мае ў тэксьце шмат дрэварытных заставак, выкананых віленскімі рытаўнікамі.

„ЧАСОСЛОВЕЦЪ“, друк. ў Льва Мамоніча ў Вільні, 1617 г., ў 4-ку 169+1 ліст. (Ундольскій).

„КАТЕХИЗИС то естъ наука стародавная хрестиянская отъ светого писма для простыхъ людеи языка руского въ пытаньяхъ и отказехъ собране“. Друкаваны ў Штакгольме („Стіокольнѣ“) ў 1617 годзе. Гэта ёсьць перадрук катэхізму Буднага для праваслаўных, якія, па умове 1617 году, былі далучаны да Швэціі.

„ТРЕБНИКЪ“, надрукаваны ў Вільні ў друкарні Леона Мамоніча ў 1618 г.

Пасьвята:

„пану Леонови Сапезе Канцлерови В. Кн. Литовскаго, великому цнот и наук милосникови и патронови".

У канцы сказана „писан у Вильни". Прыгожы друк і добрай работы застаўкі. Агалоўныя літары вызначаюцца прыгожасьцю і фігурнасьцю, многія з іх тэратолёгічнага стылю, які сустрачаецца ў крыўскіх рукапісах XIII-XIV ст.

Поўны агаловак падае Каратаев (№ 242) с паказам на выхад з брацкай друкарні ў Вільні.

„працею и старанем иноковъ общаго житія Братства Церкви Виленской православія греческого".

Перадрукаваны ў Астразе ў 1606 годзе; ў Маскве: 1623, 1624, 1625, 1634, 1636, 1637, 1639, г. г. і ў Вільні 1644 годзе. Пасьля 1646 году перадруковываўся ўжо трэбнік ня віленскі Мамонічаўскі, а Пятра Магілы с кіяўскага яго выданьня.

ХРОНОГРАФ, два рукапісы пачатку XVII ст. Віл. Публ. бібл. №№ 109 і 110. Абодвы рукапісы мясцовай, крыўскай апрацоўкі, аб чым сьведчаць уступы з літоўскай міталёгіі, прыкл. у рук. № 109 устаўлена апавяданьне „о Совіі" дзе прыповесьцю даказуецца вышшасьць спаляньня трупаў над закапываньнем іх у зямлю. У канцы апавяданьня аб Аргонаўтах дададзена:

„коли хощеши гораздо вѣдати о боранѣ и о золотомъ его рунѣ, коли его Азонъ добылъ и ты собѣ прочти книгы откуль стала Тройская валька, там найдешь".

На 226 балонцы маецца цікавы уступ да характэрыстыкі крыўскіх (беларускіх) абычаеў таго часу:

„ка(к) то и в на(с) ставя(ть) митрополита по своей воли, а не по правилом с(вя)ты(х) о(те)ць, вчера съ псы по полю за заецомъ, а н(ы)нѣ с(вятите)льскаа съвръшаеть, а не тако ка(к) с(вя)тыи Васілій говори(ть). дондеже вся степени с(вя)щенни(с)кія пройдеть, тог(д)а с(вяти)тль бываеть".

Другі Хронограф (№ 110), мае агаловак „Кроника руска". Пасьля ідзе: Повесьць аб Александры Македонскім. Повесьць аб Тройскай вайне. Аб Грэках і Рымлянах і чаму Італія называецца рымскай стараной і жыхары яе лацінямі. Аб Энэі. Урэшце рымская і візантыйская гісторыя. Аб Каролю Вялікім і аб зах. эўропэйскай гісторыі да 1550 году. Аб нямецкіх народах і аб Украіне. Аб Гішпаніі. Аб Татарах. Аб „мазо(н)скихъ" жонах татарскіх. Аб царах Турэцкіх. Аб Валохах. Аб угорскім каралеўстве. Аб чэскім каралеўстве кроніка.

Гэты Хронограф перапісчык сіліўся пісаць па царкоўна-славянску, але перапоўніў яго крыўскімі словамі і зваротамі.

Пробка мовы:

О заложеню риму также о рому и ромулюсе повѣсть...

По выштю енея з трои до влоски(х) краин, яком выше(й) писа(л) трва(л) потоме(к) его в вавило(н)ско(м) кроле(в)ствѣ аж до нумитора около 432 лете(й) от валки троя(н)ское. А яко ры(м) заложо(н) о(т) потомко(в) его скротко назначу.


ѸСТА́ВЪ
Бжественныѧ
ЛИТѸРГІИ
Иже во Ст҃ы оц҃ъ нш҃.
Іоа́на Златоѹ
стаго. Васи́лїа
Вели́каго, и Преже
ѡсщ҃енаѧ Григо́ріѧ
Двоеслова.
ВВИЛНИ.
В Дру́карни Бра́цкой. Ро́кѹ ахзі.

Устаў, друкаваны ў Вільні ў 1617 годзе, з дрэварытамі крыўскіх мастакоў.

„KYNOBION или Изображеніе Ev(г)лского Іноческого общого житія от С(в)тыхъ О(т)цъ во кра(т)цѣ собранно. Працею Іноко(е) общо(го) жи(т): Бра: Церко(в). Ви(л). Пра(в). Гре(ч): На Евю. 1618“.

Тут сабраны адрыўкі твораў рожных аўтораў; пры гэтым адны с крыўскімі асобнасьцямі толькі ў правопісме, а другія на чыстай крыўскай мове.

Прыклад мовы. (Карскі, „Бѣл.“, т. III, 41).

„Наука Василіа Цесара Кгрецкого, до Сна его Лва. О вѣрѣ.

Початок всего живота, фундаментъ моцный мѣй, вѣру в Хр(с)та чистую..

О смерти.

Становъ велмо(ж)ных невстыдается смерть, але вовсѣ еднако впущае(т) все поядаючые свое зубы. А прето са(м) пере(д) неблагаіы(м) ее приходо(м) перенеси скарбъ маетности своее на н(е)бо. Абовѣм жаде(н) с ты(х) которые на свѣте збираю(т) отходячи там з собою не относи(т) Але все зоставивши на зе(м)ли. Наг ты(л)ко суженъ бываетъ о свой живот“.

„ГРАММАТИКИ СЛОВЕНСКИЯ, ПРАВИЛЬНѢЕ СѴНТАГМА, потщаніемъ многогрѣшнаго Мніха Мелетіа Смотриского... въ Евю“. 1618 г., ў 8-ку, 1+247 лістоў, з гэрбам князёў Агінскіх, рэзаным на дрэве.

„ГРАММАТИКИ СЛОВЕНСКИЯ“... М. Сматрыцкага, ў Еўі, друк 1619 году, ў 8-ку, 4+248 лістоў.

„ГРАММАТИКИ СЛОВЕНСКИЯ“, М. Сматрыцкага, друк. у Вільні, 1619 году, ў 8-ку.

Чацьвертае выданьне гэтай граматыкі было адціснута ў Вільні ў 1629 годзе, пятае ў Маскве у 1648 годзе (с прадмовай аб карысьці граматыкі і аб патрэбе уменьня яе пры паправе богаслужэбных кніг), шостае ў Маскве ў 1721 годзе. Па граматыцы Сматрыцкага вучыўся яшчэ Ломаносаў і яго сучасьнікі.

У 1755 годзе была перадрукава граматыка Сматрыцкага ў Рымніцкай друкарні, коштам Паўла Ненадовіча для сэрбаў і яна там лягла ў аснову сэрбскай кніжнай мовы. Служыла сэрбам да часу рэформы Вука Караджыча (канец XVIII ст.) Гэта граматыка адыграла важную ролю ў глаголіцкай пісьменнасьці палудзёвых славянаў. У Баўгараў, у пераробцы Хрістакі Дупчаніна, паслужыла да зблізэньня баўгарскай жывой мовы да мовы царкоўнай. Пад уплывам граматыкі Сматрыцкага паўстала также першая украінская граматыка Івана Могільніцкага.

У часе вучыцельства свайго ў віленскай брацкай грэка-лаціна-рускай школе Мелеці Сматрыцкі апрацаваў школьны падручнік ц.-баўгарскай граматыкі, ў якой выясьніў тэорыю ц.-баўгарскай мовы, вытваранай на ўсходнаславянскім грунце.

Мы ўжо вышэй згадалі, што ў консэрватыўнай часьці нашага грамадзянства, разам з разьвіцьцем школьніцтва і пісьменніцтва, вытварылася цал-

ком памылковая думка, што мова царквы і богаслужэньня, т. зв. ц.-славянская мова, заведзеная ў нас разам с хрысьціянствам, была сьпярша такжа і мовай усяго крыўскага народу. Зраўніваючы мову народную і кніжную прыходзілі да другога памылковага вываду, што мова народная зьяўляецца адзічэўшай, апрасьцеўшай адменай мовы богаслужэбных кніг. Выходзячы с такіх памылковых асноў, саўсім натуральна зьяўлялася жаданьне павароту да нібы-то быўшай калісьці стройнасьці народнай мовы. Гэтае заданьне было ўзложана на чысьленна заснованыя, ў другой палавіне XVI ст., рэлігійныя брацкія школы. З гэтай мэтай вучням забаранялі гаварыць паміж сабой „простай“ мовай і залецалі гаварыць ім мовамі грэцкай, лацінскай, ц.-баўгарскай і польскай. У выш згаданых мовах выкладаліся і ўсе навукі ў школах, якія аткрываліся брацтвамі. У выніку, вучні, замест вярнуцца да даўнай „сугтелности“ ц.-баўгарскай мовы, якая была ўжо мёртвай, навучаліся барбарскага жаргону, пробкі якога перахавалі нам украінскія камэдіі XVIII ст., ў каторых, вучаныя ў гэткіх школах „спудеи“ папісуюцца сваім красамоўствам. Гэты, абаперты на памылковых вывадах рух быў у істоце рэакціяй і рэакціяй падвойна шкоднай; бо з аднэй стараны затамовываў разьвіцьце жывой, народнай мовы, з другой—затамовуючы народную мову і ўводзячы ў курс сваіх навук жывую польскую мову, пашыраў полёнізацію. Бо лацінскую і грэцкую мову грунтоўна навучаліся рэдкія адзінкі, як роўна і нежывой ц.-баўгарскай мовы, а польскую навучаліся пагалоўна ўсе вучні, якія і ў пазьнейшым сваім жыцьці, кіруючыся поглядамі, зашчэпленымі ў іх душу конфэсіянальнай школай, унікаючы мовы „простай“, паслуговываліся крыху лацінай і грэкай, а найбольш жывой польшчынай. Пры такім палажэньні спраў брацкія грэка-лаціна-рускія школы ў справе полёнізаціі нашага грамадзянства адыйгралі не апошнюю ролю.

Што датыча граматыкі Сматрыцкага, то яна, цікуючы мэту вярнуць „простую“ мову да нібы-то колішняй стройнасьці, прынясла неаблічальныя шкоды для крыўскай пісьменнасьці. Пабудаваная на ц.-баўгаршчыне, перат воранай пад уплывам жывых моў: крыўскай, украінскай і маскоўскай, граматыка Сматрыцкага ставіла мэтай вытварэньне адзінага правопісма, адзіных граматычных форм і слоўніцтва для ўсей „русі“, (г. зн. славян праваслаўнай веры) ад Карпат да Архангельска. Напісаная з вялікім талентам і ведай яна пад свой уплыў захапіла ўсё праваслаўнае славянства. Пад уплывам гэтай унівэрсальнай граматыкі жывая крыўская мова пачынае уступаць мейсца ў пісьменнасьці, другой палавіны XVII і XVIII ст., „вучонай“ баўгарска-крыўска-украінска-маскоўскай кніжнай тарабаршчыне. Дата выхаду ў сьвет граматыкі Сматрыцкага гэта паваротны стоўб да упадку на шляху гісторыі нашай пісьменнасьці, адзін з найважнейшых фактараў, якія спрычыніліся да занепаду нашай народнасьці і яе незалежна-дзяржаўнага істнаваньня.

## „О ВѢРѢ ЕДИНОЙ, СВЯТОЙ, СОБОРНОЙ АПОСТОЛЬСКОЙ ЦЕРКВИ 1619?“

Мітрапаліт Еўгені (Словарь 1,21) кажа, што гэта кніга „напісана беларускім інакам Азарам і надрукавана у Магілеве ў 1624 г.“ На кнізе аднак

няма ні году ні мейсца яе выданьня. У 37 раздзеле „Палінодзіі“ Захары Капысьценскі кажа: „чытай о томъ въ книгѣ Азарія л. 246, году 1619 выданую“. Архібіск. Філарэт (Ист. Р. Ц. IV, бал. 95) безпадстаўна кажа, што ў кнізе гэтай друк кіяўскі. Зраўніваючы друкі рожных тагочасных друкарань з друкам гэтай кнігі, трэба згодзіцца з мітр. Еўгенім, што то друк Магілеўскі.

„ЕВАНГЕЛІЕ, албо казанья на недѣли презъ рокъ, и на праздники нарочитыхъ святыхъ угодниковъ Божіихъ, составленое трудолюбіемъ Іеромонаха Кирилла Транквиліона“. Друкавана ў Магілеве ў 1619 годзе, ў ліст.

Прыклад мовы:

„Человѣколюбивый Христосъ Богъ нашъ, хотяй насадити благочестіе и iсмиренномудріе въ человѣцѣхъ, и искоренити отъ ихъ грьдыню тщеславе. Сего ради, подъ именемъ Фарисея и Мытаря назнаменовалъ два чины человѣковъ, праведныхъ и грѣшныхъ: Фарисеи нарицахуся праведными, Мытаревеже грѣшными.

Но мнимыи праведници въ Жидовскомъ родѣ, оныи надутыи мѣхи грьдынею, Фарисее, звыкли были хвалитися своихъ добродѣтелей предъ народомъ, змногого моленія и пощенія, и отъ творенія милостынѣ, и отъ десятинъ: грѣшныхъ же укорати оныи преднейшеи были, яко и сей Фарисей, съ укорызнами осуждаетъ смиренного Мытаря, сам же гордынею и высокого разуменія о себѣ превзятъ“.

Евангельле гэтае было перадрукавана ў 1619 годзе ў Рахманаве; пазьней у перакладзе на славянскую мову ў Маскве ў 1629, 1642, 1652 г.г.; у Вільні ў 1651 годзе; у Унеўскім манастыры ў 1682 годзе; і ізноў у Маскве ў 1687, 1697, 1748 і многа разоў пазьней.

„ВЕРТОГРАД Д(У)ШЕВНЫЙ. Сиречъ, Собраніе и сочиненіе Молитвъ исповѣдателныхъ, и благодарственныхъ, блаженныя памяти, Інокомъ Фікарею С(вя)тогорцемъ. Тисненіемъ же Түпографскимъ нынѣ первіе напечатася в Түпографію Монастыра Общежителнаго Братскаго Віленскаго, при Цркви Сошествія престого и животворящаго Дха. Лѣта от Созданія мира, 7128 (спамылка, трэба 7178), а от воплоти Рожества Га Бга и Спаса ншго Іс. Ха 1620“. У 4-ку, 2+140 лістоў. Кніга асабліва цікава дрэварытамі, якія перадаюць стыль старакрыўскай іконапісі. Прадмову да гэтай кнігі напісаў Лявон Карповіч; на другой балоне чытаем:

„Смиренный Архимандрит Леонтій Карповичъ, къ правовѣрному читателю“.

Прадмова пачынаецца з літары К, на асноведзі якой выбражаны віленскі Сьвятадухаўскі манастыр. Канчаецца прадмова гэтак:

„Книжица сія Бгодухновенная и душеполезная (яже пращею на мысленнаго Голіаѳа, и небесныхъ на земли оутѣхъ и оупражненій орудіем и хранилищем именоватися может) косно и медленно от Типографія нашея произыйде“...




Вертоград душэўны, пісаны Фікарым Сьвятагорцам, друкаваны ў Вільні ў 1620 г.

Фікары Сьвятагорац, галасны палеміст канца XVI і пачатку XVII ст. са стараны праваслаўных, творы якога немаль усе няслушна прыпісуюць яго сучасьніку і аднадумцу Івану з Вішні. Пісаньні Сьвятагорца носяць ярка аскетычны і рэакційны характар. Ен бачыў адзіны спосаб ратунку ў змаганьні з нававерствам і каталіцтвам ў консэрватызме і адкіданьні ўсіх здабыткаў заходна-эўропэйскай культуры. Ўплыў гэтага аскеты адбіўся на Лявоне Карповічу і Мелецім Смятрыцкім, якія сьпіхнулі нашае адраджэньне XVI ст. на шлях павароту да царкоўнай баўгаршчыны. Сьвятагорац пісаў:

> „Книги церковные всѣ и уставы словенскимъ языкомъ друкуйте; сказую бо вамъ тайну великую, яко діаволъ толикую зависть имаетъ на словенскій языкъ, же ледво живъ отъ гнѣву... А то для того діяволъ на словенскій языкъ борбу тую маетъ, занеже есть плоднѣйшій одъ всихъ языковъ и Богу любезнѣйшій... Тако да знайте, як словенскій языкъ предъ Богомъ честнѣйшій есть и отъ еллинскаго и латынскаго—же се не басни суть“.

Гледзячы на сьвет з аскетычнай стараны, Сьвятагорац і яго паплечнікі клапаціліся не аб тое, каб прабудзіць у „рускім“ народзе сьвядомасьць, але толькі каб захаваць яго ў праваслаўнай прававернасьці. Заступалі яны крыўскую мову ў пісьменнасьці і ў школах, пры ўсіх іншых мяркаваньнях, з вялікай дозай наіўнай веры, што запраўды гэта яны робяць на злосьць чорту і каб дагадзіць Богу, для якога бытцам „любезнѣйшій язык“, гэта царкоўнаславянскі.

„Вертоград“ Сьвятагорца друкаваўся па яго сьмерці, відаць, у некалькі гадоў, што можна мяркаваць са слоў Карповіча ў прадмове: „косно и медленно“ была ўрэшце кніга надрукавана.

Да твораў Фікарага Сьвятагорца трэба палічыць:

1. „Извѣщеніе краткое о латинскихъ прелестѣхъ“.

„Извѣщеніе“ складаецца з раду стацеяк, апошняя з якіх „О еретикохъ“.

2. Обличеніе діавола миродержца“.

„ВЫКЛАДЪ НА ОТЧЕ НАШЪ; переложено съ Греческого на Рускій языкъ Архимандритомъ Леонтіемъ Карповичемъ“. Друкавана ў Вільні, ў 1620 г., 4-ка.

„КАЗАНЪЕ На честный Погребъ пречестного и превелебного Мужа Г(с)дна и отца: Г(с)дна отца Леонтія Карповича. Архимандрита Виленского: Презъ Мелетія Смотриского... отправованое: в Вилни. Року... 1620.

Тэма казаньня выражана ў наступных словах:

> „Иншій еднак, Пр(с): Хр(с): тут теперъ намъ естъ жаль и плачъ над жаль и плачъ еv(г)лской оутѣхи и радости: иншій мовлю поневажъ з иншей причины выниклый найдуеться. Жалю плача еv(г)лской оутѣхи и радости причина грѣхъ: а сего теперешнего нашего жалю и плача причина и матерія, представленіе от насъ пречестного мужа, оучителя нашего Г(с)дна и отца“.

Казаньне выражае шчырае пачуцьцё жалю с прычыны сьмерці такога вызначнага чалавека, як Л. Карповіч, каторы многа зрабіў для падтрыманьня праваслаўя ў Вільні і нават пацярпеўшага за веру; праслыўшага сваей добрасьцю і справядлівым жыцьцём.

Гэткая была агульная апінія аб Карповічу: „айцом і сьвятым мужам" называе Карповіча і Апанас Філіповіч у сваім „Дыярыушы" („Русск. Истор. библ.", IV, 89).

ЛЯМЕНТЪ У СВѢТА ОУБОГИХЪ, На жалосное преставленіе Святобливого: а в обои Добродѣтели богатого Мужа, въ Бзѣ Велебного Г(с)дна отца Леонтія Карповича, Архімандріта общїа обители, при Цркви сошествія Стго Дха, Братства црковного Віленского Прав: Греч: в Вілнѣ, в Друкарни Братской. Лѣта 1620". У 4-ку, 27 лістоў або 54 балоны друку.



Сьвятая Тройца, на асноведзі віленскай Сьвятатроецкай царквы; дрэварыт Сьвятатроецкай брацкай друкарні.

„РЕГУЛЫ ІОСАФАТА Архіепіспа Полоцкого списаны для презвитеровъ". (Ў сабраньні архіеп. Паўла Доброхотова Рас. Акад. Наук, ў зборніку „Процессъ канонизаціи Іоасафата Кунцевича"). Рэгулы зьмяшчаюць навукі для парахаў:

„Найпреднейшая ест повинность ведати кождому священникови то все што се тут описаломъ и умети дати справу такъ о семи таинахъ стыхъ яко и о всѣхъ тых околичностяхъ, которые се тут выписали. Священницы мают прикладомъ живота своего побожности людей учити, бо жывот побожны священнически ест казанемъ потужным людем простым, мают се споведати каждыи духовникови своему од Архиепископа назначоному яко найчастей".

Ніжэй, на лісьце 198 сказана:

„Вси презвитеры мают се добре научыти катехизмиков нашых в кратци написаныхъ которые имъ даны будуть от нас и детей своихъ тогож научати мають парафиянъ, з чого на кождомъ соборе будуть пытаные, если ихъ добре умеють"...

Цікава увага аб ужываньні „рускаго" языка (г. зн. народнай крыўскай мовы):

„Кгды тежъ чытают Евангеліе албо якую молитву в голос, або ектеніи, не мают выкладат(ь) словенских словъ по руску, але такъ читати яко написано, учителное зас Евангеліе або житіе стых читаючи людем, могут выкладати".

„КАТЕХИЗМЪ одъ слуги божого Іосафата сочетаный". Дайшоў у пярэпісме с 1700 г. (Карскій, „Бѣлоруссы", т. III, б. 143). Аўтор гэтага катэхізму Іозафат Кунцэвіч. Катэхізм зложаны с пытаньняў і адповядзяў:

Вопрос. Што ест быти хрстиянином.

Отвѣт. Ест быти крещоным во(й)мя отца и Сына и Стого Дха вѣрити и вызнавати закон Исс Хса".

Іозафат Кунцэвіч (1580—1623) радзіўся ў Валадзімеры Валынскім, хрышчоны быў імем Іван. Бацька яго Гаўрыэль належаў да шавецкага цэху. Падвучыўшыся дома крыху граматы малады Кунцэвіч паступіў да аднаго віленскага купца вучыцца купецкага умецтва. Будучы ў Вільні, Кунцэвіч, у Сьвятатроецкай царкве чытаў і пяяў на клірасе і пабожнасьцю зьвярнуў на сябе увагу мітрапаліта Поцея, які, пасьля далучэньня да уніі, прыняў яго ў манастыр. Будучы паслушнікам Кунцэвіч паступіў у віленскую езуіцкую акадэмію. Кончыўшы ў 1604 годзе навукі ў акадэміі Кунцэвіч пастрыгся ў манахі пад імем Іозафата. У 1609 г. Кунцэвіч быў ужо іераманахам і напісаў кнігу па польску пад агалоўкам „Obrona wiary". Будучы пераконаным і фанатычным староннікам царкоўнай еднасьці Кунцэвіч прапаведываў унію на вуліцах, на пляцох, у царквох і прыватных дамох і пры гэтым с такім запалам і пераконаньем, што ў кароткі час прыяднаў да уніі блізка палавіну віленскіх праваслаўных, за што празвалі яго „рускім душахватам". Па нейкім часе дастае ён назначэньне на архімандрыта Жыровіцкага манастыра, а пасьля сьмерці Поцея, наступнік апошняга, Вельямін Руцкі, перадаў яму сваю Сьвятатроецкую архімандрыю ў Вільні. У 1617 годзе Кунцэвіч быў пасьвячоны на ступень біскупа і назначаны сьпярша вікарным біскупам у Полацку, а па сьмерці Гэдэона Брольніцкага, стаўся архібіскупам полацкім.

Стануўшы на чале полацкай архібіскупіі Кунцэвіч выстараўся ў караля, ў 1619 годзе, грамату на ўзалежненьне ад яго ўсіх праваслаўных царквей і манастыроў у Полацку, Вітабску, Магілеве і Оршы з іх кругаколіцамі. Ад падлеглых сьвятароў ён патрэбаваў пераходу ў унію. Апорных пазбаўляў духоўных ступеняў і саджаў у вязьніцы а цэркві запячатываў. Сьпярша яго гвалтоўная дзейнасьць праведзена была ў полацкім ваяводзтве, а ў 1622 годзе ён выехаў у аб'езд сваей архібіскупіі ў другія гара[illegible], каб і там гэтым самым спосабам завясьці унію. Дзякуючы яго прымусов[illegible] спосабу заводжаньня

уніі, паднялася апазыцiя, на якую ён адпавядаў рэпрэсіямі. Палажэньне асабліва завострылася ад 1620 году калі канстантынопальскі патрыярх Тэафан, вяртаючыся ў 1620 годзе з Масквы праз Кіяў, пасьвяціў на біскупскія катэдры, занятыя уніяцкімі біскупамі, праваслаўных біскупаў і між іншым на полацкага праваслаўнага біскупа Мелеція Сматрыцкага (3 марца 1621 г.). Сматрыцкі прыехаў у Вітабск і ўпісаўшы на ратушы пасьвятную патрыяршую грамату, апавесьціў у царкве пазбаўленьне Кунцэвіча духоўнага стану і адлучыў ад царквы. Граматы аб адлучэньні ад царквы Кунцэвіча і пазбаўленьні яго духоўнага стану былі разасланы ва ўсе гарады полацкай архібіскупіі, для публічнага чытаньня. Кароль выдаў грамату каб злавіць Сматрыцкага і аддаць пад суд, але апошні пераязджаючы з мейсца на мейсца хаваўся і кіраваў змаганьнем пры помачы разсыланых ім лістоў.

У 1623 годзе Кунцэвіч паехаў у Вітабск, галоўны цэнтр праваслаўнай прапаганды, і тут пачаў рэпрэсіямі прымушаць жыхароў да прыняцьця уніі. У выніку раз'агітаваныя і раздражненыя праваслаўныя жыхары Вітабска зрабілі змову на жыцьцё Кунцэвіча. Зручнасьць здарылася 12 лістапада ў нядзелю раніцай. Прычынай быў закалот паміж праваслаўнымі і уніяцкімі сьвятарамі, які выліўся ў народны кровапралітны бунт, у вініку якога быў забіты Кунцэвіч ударам бярдыша па галаве. Цела яго с прывязаным камянем было ўкінута ў Дзьвіну. У 1624 годзе папеж Урбан VIII, далучыў Іозафата Кунцэвіча ў лік сьвятых мучанікаў каталіцкай царквы.

ГІСТОРЫЯ БЫТАНСКАГА МАНАСТЫРА. Гісторыю гэтага манастыра сьпісываў пінскі уніяцкі біскуп Сыльвэстар Котлубай у 1620 годзе. Рукапіс не захаваўся; ведамка пачэрпнута з Вішнеўскага („Histor. Pol. lit.", т. VIII).

ДЫЯРЫУШ САМУЭЛЯ МАСКЕВІЧА. Адрывак рукапісу, пісанага крыўскай скарапісьсю, знаходзіцца ў архіве Турава-Пінскай архібіскупіі (сабраньне В. Ластоўскага).

Проба мовы:

„А положенье замку и мѣста Смоленского такое ест: мѣжы замкомъ а мѣстом рѣка Днѣпро оплываеть, зажъ ест на одной сторонѣ замокъ, на другой мѣсто. Ест одна гора замковая сустромна велми ку Днѣпрови, рововъ велми много маючая и глыбокихъ; горъ на ей седмь, črомъ зъ одное до другое переходы были бы утрудливые естли бы не мосты. Мѣсто аж до Днѣпра у ровнѣйшому мѣйстцу осажено нижли замокъ, але у гразкому а болотистому, а протожъ гора удается далей, яко и въ замку. Муръ замковый широкій на тры сажни, а высокій на три копье; бакшт около его такъ у квадрате яко и круглыхъ тридцать осмъ, а бакшта отъ бакшты положена ест на сажни двасто. Округъ муру замкового звыжъ мили въ собѣ маетъ.

Пры шанцахъ, подле муру, мурованая церковъ светого Михайлы Арханьела, на которой за оного тырана (мова аб Іване Грозным) былъ, оповедають, верхъ золоты и въ великое шанобливости, цудами

вславлена была. Церкву тую Царъ Московскій разгнѣвавшися збурити і зъ дѣлъ верхъ збити розказалъ, а также злупити еѣ, якъ по молитвѣ у ей, ему ся битва съ Королемъ Стефаномъ не сталася по мысли".

Род Маскевічаў сяліўся ў Новагарадчыне і Піншчыне; Самуэль Маскевіч быў сваяком Хрэбтовічам і Вішневецкім. У 1605 годзе далучыўся да войска, якое вяло Дзьмітра на Маскоўскае царства. Прабыў у Маскве ўсю гэту кампанію і вярнуўся толькі пасьля угоды, заключанай каралём Уладыславам. Вярнуўшыся с гэтага паходу асеў у засьценку Ятры, ў Новагарадчыне. Тут ён напісаў важныя гістарычныя ўспаміны, якія абыймаюць час ад 1594 да 1621 году. Успаміны Маскевіча напісаны цікава, лёгка і добрай крыўскай мовай. Дайшлі ў некалькіх польскіх і крыўскіх рукапісах, с чаго відаць, што яны хадзілі па руках як літэратурны твор. У польскай мове былі надрукаваны ў пачатках XIX ст.

СЬВЯТОГА ІОАНА ЗЛАТАВУСТАГА БЯСЁДЫ НА ПАСЛАНЬНЕ ДА РЫМЛЯНАЎ. Рукапіс XVII стаг. Віленскай Публ. бібл. № 68. У канцы рукапісу запіс:

„року (1620)... я священноіерей Паисей Сиховскій, епископъ пинскій и туровскій, далъ сію книгу до монастыря Жировицкого"...

„ПАЛИНОДІЯ, або книга обороны каѳолической святой апостолской Всходней церкви и святыхъ патріарховъ, и о Грекохъ и о Россохъ христіанехъ". Рукапіс М. Синод. бібліатэкі; перадрукавана ў „Русск. Истор. Библ.", IV, 313—1200. У свой час гэта быў твор слаўны сваей надзвычайнай вучонасьцю. Аўтор карыстаўся масай падручнікаў на лацінскай, грэцкай, польскай, славянскай і крыўскай мовах. Яго работу можна зраўняць толькі з Апокрызісам. Аўторам гэтага аграмаднага рукапісу вялікай багаслоўска-палемічнай вагі быў Захар Капысьценскі. Мова твору украінскіх асобнасьцяў не мае. Напісана Палінодзія была ў 1621—1622 годзе, паводле Завітневіча („Палинодія" Зах. Копыстенскаго) была надрукавана ў 1627 г.

Капысьценскі паходзіў з небагатай Мсьціслаўскай шляхты, дзесь з аколіц гарадца Копыся. Дзядзька яго Міхайла выбіўся на праваслаўнага Перамышльскага біскупа (ў Галічыне) і пацягнуў за сабой туды сваіх пляменікаў. Захар Капысьценскі, коштам свайго дзядзькі, атрымаў пачатную асьвету ў львоўскіх школах, а пазьней вучыўся ў Астразе, урэшце паступіў у Путнянскі манастыр (Малдавія). Каля 1616 году перабраўся ў Кіяў, дзе працаваў у Богаяўленскім брацтве. Пасьля Ільлі Плецянецкага, наступніка Мікіпара Тура, быў Кіява-Пячэрскім архімандрытам. На апошнім становішчы пражыў усяго паўтара году (памёр каля 1627 г.).

Акром Палінодзіі напісаў Капысьценскі казаньне на погрэб Плецянецкага, свайго папярэдніка на Кіява-Пячэрскай архімандрыі. Яму-ж прыпісуюць аўторства кнігі „О вѣрѣ единой"... якая была надрукавана ў 1602 годзе ў Вільні.

Капысьценскі належаў да глыбокіх і вельмі крытычных аўтораў. Кождае сваё цьверджаньне, кождую думку даводзіць цэлай масай выпісак і цы-

тат. Выклад спакойны, аб'ектыўны, с тонкай аналізай фактаў і думак. Прыкладам, калі Крэўза ў сваей кнізе даў выпіску са зборніка апокрыфічнай пісьменнасьці, то аб гэтым пісаў Капысьценскі так:

„Бываюць і тут і там несаборныя „Саборнікі" каторых у царкве не павінна чытаць; яны падобны да клецяў неахайнага гаспадара, каторы хавае ў іх ня толькі тое, што зьеў-бы і выпіў-бы але і смалу і дзёгаць, і штось з еміны і з атруты, чым-бы мог сябе і памазаць і асмуродзіць, а калiб-ён ці хто іншы быў неасьцярожны і нясьведамы таго, то і атруціць могбы. Есьць у іх поўна баяк с „Чэцьяў", можа і з адступніцкіх легенд, бо легенда па нашаму—чэцья. Поўна у іх баяк і с „Палей" і г. пад. кніг, якія не маюць мейсца ў нашай царкве; іхназьбіралі невукі-гаспадары разам с чыстай царкоўнай пшаніцай, як куколю, які нам цяпер адступнікі замест пшаніцы паказуюць і паручаюць ужываць".




Агалоўная балона букара (лемантара) 1621 г.

„ГРАММАТИКА. Албо сложеніе Писмена, хотящимъся оучити Словеньскаго языка. Младолѣтны(м) Отрочатомъ. В Вилни, Року 1621". Друкавана ў 8-ку, 63+6 лістоў. Гэта ёсьць букар, або як цяпер называюць у нас—лемантар. Выданьне багата аздоблена дрэварытамі. Бадай ці ня першы то будзе ілюстраваны букар, друкаваны на ўсходнай славяншчыне.

„ТРЕБНИКЪ, сирѣчь молитовникъ, имѣяй въ себѣ церковная послѣдованія іереемъ подобающая, отъ св. Апостолъ прежде, потомъ св. и богоносныхъ Отецъ въ различныхъ временехъ преданная, зде первое изображенный нѣкоторыми нужными (о нихже въ

оглавленіи), возвращенный трудолюбіемъ общежителей Богоспасаемой обители Сошествія Св. животвор. Духа, въ Вильнѣ, року 1621 мѣс. декабря дня 20. У 16-ку, 16 і 528 ліст.

У канцы кнігі памешчаны на 80 лістох

„Собранныя и пригодныя проповѣди".

„ПСАЛТИРЬ", друк. ў Вільні, 1621 г., у 8-ку.

„ПОЛЪУСТАВЪ, или требникъ въ пользу всѣмъ православнымъ. Трудолюбіемъ иноковъ св. общежительныя обители сошествія прсв. и животв. Духа, поновленъ въ Вилнѣ року 1622".

Гэта ёсьць першы друкаваны „Полууставъ". У прадмове тлумачыцца назначэньне „Полуустава" і часьцю яго гісторыя:

> „Чимъ естъ и як бы потребнымъ былъ уставъ церковный, чительнику ласкавый, ачъ кольвекъ каждому церковному докучникови (докучникови, мовимо, а не гостеви, ижъ хотячому вѣдати, што въ нимъ естъ, не концемъ палца, але всею душею въ повседневномъ и уставичномъ навѣжаню ей присвоиватися и пріучиватися потреба), для тыхъ еднакъ которыи не часто въ церкве бываютъ, а особливо для подорожныхъ. Не всимъ абовимъ цѣлый уставъ пре(зъ) скупость его зъ друку мѣти, а пре(зъ) великость его зъ собою возити зыйдеться. Найпотребнейшыи церковныи справы зъ него выбравши въ снопокъ книжки малой славной памяти пану Василеви Малюшинскому за поводомъ духовныхъ, а коштомъ святобливой памяти его милости Константина Константиновича княжати Острозскаго собрати и полъуставомъ назвати удалося. Которыхъ ижъ южъ пре(зъ) давность часу въ скарбѣ княжатъ ихъ зезволилося росказати. Которого, яко въ часъ праве потребный, а кождого стану кондыцыи и заволаня человѣкови велце пожитечного отъ потребы въ потребу справленого, требникомъ мірскихъ людей тытулуемъ и всимъ, яко всимъ обще и каждому зъ особно потребный, залѣцаемъ. Потребнымъ абовѣмъ естъ господарови и челядникови дома, ремесникови на вартатѣ, крамареви при крамѣ, купцу и пелгримови во дорозѣ, жолнерови въ тягненю и на войнѣ, жеглярови на водѣ, мнихови въ целли, а священникови дома и въ церкви. И всимъ згола на каждый день и часъ и всюды для розныхъ становъ въ той книзѣ найдуючыхся святыхъ и имъ належачыхъ тропаровъ и кондаковъ; много бовѣмъ зъ жолнеровъ мучениками, а немало зъ купцовъ и мытниковъ святыми стали"...

Пасьля такога зручнага падыходу наступае прапанова купіць кнігу і вясьці сябе па хрысьціянску.

„УСТАВЪ ЦЕРКОВНЫЙ", Вільня, 1622 г., in folio. (Ундольскій).

„ВѢРШѢ НА ЖАЛОСТНЫЙ ПОГРЕБЪ ЗАЦНОГО РЫЦЕРА ПЕТРА КОНАШЕВИЧА, сагаидачного гетмана Войска Его К. Млти запорозского. Зложоный презъ инока Касіана Саковича Ректора

школъ Кіевскихъ, в братствѣ. Мовленые от его спудеовъ на Погребѣ того Цного Рыцера в Кіевѣ, в Недѣлю Проводную. Року Бжого 1622".

Саковіч сын праваслаўнага сьвятара з Галічыны (з аколіц Равы). Радзіўся каля 1580 г. Асьвету атрымаў у Астрожскай школе. Скончыўшы школу быў нейкі час дзяком у уніяцкай царкве ў Перамышлі, скуль перабраўся ў Кіяў і тут пастрыгся ў праваслаўныя манахі. Ад 1620 году да 1624 быў рэктарам кіяўскай школы Богаяўленскага брацтва. Пад канец жыцьця перайшоў у каталіцтва.

На пераходзе ад XVI да XVII ст. Кіяў не адыгрываў ніякай ролі ў культурным жыцьці т. зв. „Русі" (Крывіі і Украіны). Пасьля зьнішчаньня гораду крымскім ханам Мэнглі Гірэям і падзелу здабычы са Сьв. Сафіі с паўночным яго саюзьнікам Масквой, Кіяў сьвяціў „Русі" адзіна толькі сваей старой славай. Культурным жыцьцём усей „Русі" кіравалі Вільня і Львоў, а галоўна Вільня. У Кіяве не пражывалі ні біскупы ні мітрапаліты: сталай сялібай кіяўскіх мітрапалітаў былі Вільня і Навагорадак. Пячэрская Лаўра, якая мела абшырныя землі, была адзіна аб'ектам пажадлівасьці для кандыдатаў на яе архімандрыю; яе архімандрыты, занятыя абаронай ад захвату уніятамі і каталікамі лаўрскіх маетнасьцяў, не клапаціліся нават каб прыстойна утрымаць разваліны сьв. Сафіі. Багатая лаўра ў канцы XVI ст. ня мела ні друкарні, ні школы, ні бібліатэкі, ні нават прытулку для паломнікаў. У той час, калі па ўсіх значнейшых крыўска-літоўскіх гарадох (Берасьці, Пінску, Менску, Полацку, Магілеве, Вітабску, Оршы, Вільні) ішла кіпучая праца ў брацтвах і брацкіх школах, у Кіяве да 1615 году не было яшчэ брацкай арганізацыі. Адраджэньню соннага Кіява быў дадзены пачын з Вільні: на брацкіх нарадах віленскага Сьвятадухаўскага брацтва, дзе пастаноўлена было паставіць архімандрытам Кіява-Пячэрскай лаўры Елісея Плецянецкага, (1599—1624), асьвечанага і глыбока ідэйнага чалавека. Гэты апошні галоўна і прычыніўся да адраджэньня Кіява. На помач Плецянецкаму, ў яго старэньнях аб школе, прыйшоў у помач віленскі архімандрыт, Лявон Карповіч, які намовіў належаўшую да віленскага Сьвятадухаўскага брацтва пабожную старонніцу старога благачэсьця, Гальшку з Гулевічаў Лозко, жану мозырскага маршалка Сьцяпана Лозкі, запісаць абшырны, належаўшы ей у Кіяве (на Падолі) пляц з будынкамі, на школу і прытулак для „пельгрымоў". Адначасна з запісам, але незалежна ад яго, сарганізавана было ў Кіяве, ў тым-жа 1615 годзе, першае Богаяўленскае брацтва, якое ў 1620 г. атрымала ад праязджаўшага з Масквы патрыарха Тэафана стаўропігію, пацьверджаную каралём толькі ў 1629 г. Вэрсіі аб ранейшым істнаваньні брацтва ў Кіяве (ад 1589 г.) памылковы, грунтоўна давёў гэта такі знавец гісторыі Кіява як С. Голубевъ (Истор. Кіевск. акад., т. І, бб. 1—12; 165—166).

Дзякуючы фундацыі Гальшкі Лозко і працы Богаяўленскага брацтва была адкрыта першая ў Кіяве школа, як сказана ў патрыяршай грамаце 1620 г. „еллино-словенского и латино-польского писма". Рэктарам гэтай школы і быў Касьян Саковіч, аўтор вышэйазначаных „Вершаў".

Адраджэньне Кіява цесна зьвязана з другім фактарам ў жыцьці „Русі“ (Крывіі і Украіны). Гэтым другім фактарам было выступленьне на гістарычную арэну казацтва.

Пасьля татарскага пагрому і зруйнаваньня Кіява, жыхарства ня толькі гарадоў, але і правінціі прыдняпроўскай украіны разьбеглася. Край абязлюдзеў і апусьцеў. Кіяўскія стэпы былі заняты качуючымі ў пустых „Дзікіх палёх“ татарамі. У XIV ст. Кіяўшчына і Падольшчына была яшчэ пад уладай падольскіх ханаў, якіх назначала сюды Залатая Арда. У 1362 годзе в. кн. Альгерд выгнаў татараў і далучыў Кіяўскую зямлю да в. кн. Літоўскага. З гэтага часу пачынае кіяўскае падняпроўе памалу засяляцца пераважна выхадцамі с крыўскіх зямель, а галоўна з верхняга Дняпра, і парэччаў Бярэзіны і Прыпяці. Былі гэта беглыя сяляне, якія ўцякалі ад усё крэпшай, ад пачаткаў XVI ст., прыгоннай залежнасьці. Часьць гэтых уцекачоў сялілася на дняпроўскіх астравох і па берагох Дняпра, на поўдзень, за дняпроўскімі парогамі, дзе іх не магла ўжо дасягнуць рука дзяржаўнай адміністрацыі. Галоўным цэнтрам гэтай каланізацыі быў востраў Хорціца, за парогамі, дзеля чаго яны і называліся „Запарожцамі“. Жывучы, т. сказаць у нэўтральным паясе, паміж двумя вайсковымі абозамі, гэты нашы перасяленцы дзень і ноч павінны былі быць на гатове да абароны, згэтуль пагалоўна ўсе яны станавілі свайго роду трэці, праміжлеглы, паміж татарамі і Літвой, вайсковы абоз, зложаны з бяздомнай галыцьбы. У пачатку XVI ст. запарожская галыцьба пачынае сябе называць ужо казакамі, г. зн. назовам, якім празываны былі вайсковыя каланісты, што сяліліся ад густа залюдненага Валыня і менш залюдненага Падольля ў старану „Дзікіх палёў“. Апошнія рэкрутаваліся пераважна з украінскага сялянства і будучы пад апекай дзяржавы, жылі асела і даволі дастатна па сваіх хутарох. Пад канец першай чверці XVI ст. першыя (нашы выхадцы) носяць назову казакаў „галутвеных“, а другія (украінскія сяляне) „дамавітых“. Галутвенікі жылі не асобнымі семьямі, а дружынамі па некалькі дзесяткаў чалавек разам. Пры тым жанкі, пад страхам кары сьмерцю, не дапушчаліся ў гэткія агульныя сялібы, званыя куранямі. Акром адзеньня і аружжа ў курэня ўсё было агульнае. Ўлада прыналежала агульнаму вечу, званаму Радай. Рада выбірала старшага, званага кашавым, або атаманам, які карыстаўся неаграні-чанай уладай. Толькі пасьля зьмены яго другім ён даваў справаздачу Радзе, якая ў здарэньні правіны са стараны атамана, засуджала яго на адсячэньне галавы. Спосабам да жыцьця гэтай голай вольніцы служылі напады на татараў і дзеля гэтага апошняга ўлада в. кн. Літоўскага іх не чапала. У 40-х годах XVI ст. в. кн. Літоўскае назначыла ім старасту Астапа Дашковіча. Першы зьвярнуў увагу на запарожскіх казакаў, як на вайсковую сілу, Сьцяпан Баторы, які, выбранаму казацкай Радай атаману Хведару Багданку, паслаў булаву, пячаць, харугаў з выабражэньнем свайго каралеўскага гэрбу і на пісьме пацьверджаньне выбараў; але пры гэтым загадаў сьпісаць казакаў у рэестры. Сьпісана было 6.000 казакаў, якія зваліся „рэестровымі; ім назначана была пэнсія са скарбу рэчыпасполітай—па кажуху і па чырвонцу ў год, за што ўзложана на іх пагранічная служба. Словам, Баторы стараўся лагод-

нымі спосабамі апанаваць вольнае казацтва, але па яго сьмерці, не так асьцярожна пачала браць іх пад сваю кантролю ўлада рэчыпаспалітай, гэта выклікала вялікае нездаволеньне сярод казакаў, якія прывыклі пачуваць сябе вольнымі ад кантролі якой бы то ні было ўлады.

С казацкага нездаволеньня папрабавалі скарыстаць павадыры праваслаўных у змаганьні супроць уніі. Першым казацкім гэтманам, які павярнуў казацтва на абарону праваслаўя быў Касінскі, які родам быў с крыўскага Палесься. Ен казацкую сілу зьвяртае ўжо супроць рэчыпаспалітай з ярка рэлігійнымі клічамі. Пасланае супроць яго першае войска было разьбіта. Ен узяў Белу-Цэркву, Кіяў і другія гарады. Тады супроць Касінскага выступіў сам гэтман Канстантын Астрожскі, бітва кончылася нічым. Чарадным казацкім гэтманам быў Лабада. Лабада і сучасны яму Налівайка далей вялі справу Касінскага. У 1595 годзе Налівайка Гедрайць, Кміта і др. падыймаюць паўстаньне ў Меншчыне, Магілеўшчыне і Вітабшчыне. Іх соціяльныя і рэлігійныя клічы прыеднуюць ім сялянскія массы, якія, пасьля разьбіцьця Налівайкі, уцякаюць у Запарожжа. У 1606 годзе казакі выбіраюць сабе гэтманам Канашэвіча Сагайдачнага, гэты апошні злучыў нізавых казакаў з дамавітымі пад сваей уладай і атрымаў пацьверджаньне на гэта рэчыпаспалітай. Пад уладай Канашэвіча было ўжо 50.000 збройнага люду. Маючы такую сілу на пагатове і ўсеагульны спогад праваслаўных, якія жылі ў рэчыпаспалітай, Канашэвіч трымаў сябе даволі незалежна ў стасунку да дзяржаўнай улады.

Маюцца ясныя гістарычныя довады, што каля двадцатых гадоў XVII ст. адбываліся нарады паміж прадстаўнікамі віленскага Сьвятадухаўскага брацтва і казакамі—не пазбаўленыя трывог за будучыну,—але якія кончыліся распачлівай пастановай крыўскай стараны, ўверыць казацкаму аружжу абарону герархіі, навукі і брацтваў. (гл. М. Кояловичъ „О разселеніи племенъ Западнаго края Россіи“, Масква, 1863).

З гэтага часу ўсе лепшыя сілы крывічоў праваслаўных высылаюцца на Украіну ў помач казакам і ў Кіяў для арганізаваньня там брацтваў, друкарань,—школ і г. п.; перасылаюцца ад нас туды і вайсковыя сілы. З гэтага часу інтэлектуальнай і моральнай помаччу і ў цеснай сувязі з вісілкамі украінскага народу, пачынае расьці і крэпнуць Кіяў фізычна і культурна. Асабліва ўзрасло значэньне Кіява пасьля 1620 году, калі, праездам з Масквы, іерузалімскі патрыарх Тэафан, высьвяціў шэсьць праваслаўных біскупаў і між імі мітрапаліта Іова Барэцкага. Да гэтага часу на ўсей рэчыпаспалітай быў толькі адзін праваслаўны біскуп у Львове, цяпер-жа утварылася цэлая праваслаўная герархія с кіяўскім мітрапалітам на чале, павагу якога падтрымлівала вайсковая казацкая сіла. Кіяў стаўся сталіцай праваслаўя. Гэты падзеі паднялі энэргію сярод праваслаўных і крэпка зьвязалі праваслаўе с казацтвам, а ўсю „Заходную Русь“ (Крывію і Украіну) с Кіявам. Кіяў становіцца на чале змаганьня „Русі“ за свае правы, якія аднак памылкова утожсамлюе с праваслаўным веравызнаньнем. Да палавіны XVII ст. старакрыўская мова была мовай „рускай“ пісьменнасьці—на абшары ад Смаленска да Львова—ў помніках, пісаных і друкаваных у гэтай „русскай“ мове на Украіне,

украінскія провінціяналізмы да другой паловы XVII ст. не зьмяняюць яшчэ самой мовы, яе характару. Толькі з другой палавіны XVII ст., дзякуючы Кіява-Магілянскай акадэміі, пачынае, на аснове ц. славянскай і старакрыўскай, выступаць у пісаных помніках украінская мова з яе народнымі асобнасьцямі.

„Вѣршѣ" Саковіча пісаны ў Кіяве яшчэ ў пару панаваньня ў украінскай пісьменнасьці старакрыўскай мовы, дзеля гэтага ў іх яшчэ няма украінскіх асобнасьцяў. Вершы гаварылі студэнты кіяўскай школы на погрэбе гэтмана Канашэвіча ў 1622 годзе. Пасьля агалоўнай балоны, на адвароце яе, памешчаны ў кніжцы верш „На гэрбъ Силного войска Ег. Кр. Мл. Запорозского", гэткага зьместу:

Кгды мензства Запорозцовъ Кролеве дознали
Теды за ГЕРБъ такого имъ Рыцера дали.
Который ото готовъ Ойчизнѣ служити,
За вольность ей и свой животъ положити.
И якъ треба землею албо водою:
Вшеляко онъ способный и прудкій до бою.

Пасьля вершу на гэрб запарожскага войска ідзе прадмова аўтора да самога запарожскага войска, якому аўтор жадае перамог над ворагамі і бязсьмертнай славы. Зазначыўшы, што найбольшае дабро на сьвеце—свабода, кажа аўтор:

Мензствомъ еѣ рицери въ войнахъ доступуютъ,
Не грошми, але кровю ся еѣ докупуютъ.
Войско Запорозское вольности набыло
Тым, же вѣрне ойчызнѣ и кролюмъ служило.
Кройники о ихъ мензствѣ старые писали,
Якъ они непріятелей ойчистыхъ бивали
Моромъ, сухомъ, частокроть пѣшо, и тыжъ конно,
Хотяй ся непрыятель ихъ убиралъ збройно.
Племя то естъ зъ насѣня оного Яфета,
Корый зъ Симомъ покрылъ отчіе секрета.
За Олега Росского Монархи, плывали
Въ чолнахъ по мору и на Царград штурмовали.
Ихъ то продки зъ Росскимъ ся монархою крестили
Владимеромъ и въ вѣрѣ той статечне жили.
При которой и они такъ стоятъ статечнѣ
Же за ню умирати готови конечнѣ.
Бывали межи войскомъ тымъ князи и паны
Съ которыхъ выходили добрыѣ гетманы.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Они ойчызнѣ нашой суть обороною,
Отъ Татаръ поганыхъ и Турковъ заслоною.

Уся гэта брашура, ад пачатку да канца, зьяўляецца выслаўляньнем казацкага войска і яго гэтманаў, у асобе памершага Канашэвіча. Палітычна-агітацыйная мэта брашуры ўложана ня толькі ў яе тэкст але і ў рысункі.

„НОВЫЙ ЗАВѢТЪ СЪ ПСАЛТИРЬЮ“. Друк. 1623 г. Сьвятадухаўскай друкарні ў Вільні, ў 8-ку, 12+112+4+451+32 лістоў. У агалоўку зазначана, што кніга нова-перакладзена з грэцкай мовы.

„ПСАЛТЫРЪ Блаженнаго пророка и царя Давида... в Вильни 1623 Г.“ Крыўскай мовай толькі „Предмова“ і „До чителника“. У кнізе 4+194 лісты (Ундольскій).

„СЛУЖЕБНИКЪ“, друк. ў Вільні, 1624 г., ў 8-ку, 4 і 156 лістоў (Ундольскій).

НАКАЗ АД НОВАГОРАДЗКАГА САБОРУ уніяцкіх біскупаў паслом, якія ехалі да праваслаўнага духавенства ў Кіяў для перагавораў аб утварэньні ў в. кн. Літоўскім патрыархіі. 1624 г. студня 20 дня. „Акты, относящ. къ истор. Западн. Россіи“, т. IV., б. 513—514.

1. Оповѣдати або залѣтити имъ отъ насъ митрополиты Кіевского и всея Русіи и отъ ихъ милости отцовъ пяти епископовъ, которые на тотъ часъ до Новагородка собралися были, горячую милость прагненья покою зъ ними, яко зъ сынами и братьею въ единомъ народѣ Російскомъ рожоною, просячи Господа Бога, абы тое што нижей написано есть, черезъ его святую ласку и особливое надхненіе Духа Святого до скутку своего рѣчью самою, а не словы прійти могло.

2. Пытати у нихъ, естли бы щырым сердцемъ, откинувши приваты свои на сторону, прагнули съ нами соедыненія, яко на многихъ мѣстцахъ съ тымъ ся озывали, и въ друкъ подавали, и ушомъ многихъ зацныхъ людей доносили: нехай же знакомъ якимъ певнымъ, позверховнымъ прагненіе тое свое въ притомности вашой освѣтчатъ.

3. Пытати у нихъ, естли скутечнѣ могутъ зъ вами, а потомъ зъ нами зъѣхавшися гдѣ, часу певного, на мѣстце певное, устнѣ о тыхъ рѣчахъ безъ выразной пленипотенцыи отъ братствъ своихъ зноситися; а естли не могутъ, то даремна и праца наша. Однакъ же, естли позволятъ на зъѣздъ самыхъ насъ, альбо на зношенье черезъ медыяторы свѣтцкіе: остеречи ихъ потреба, абы ся о томъ постарали, або якимъ иншимъ способомъ насъ упевнили, же не дармо працовать будемъ. Тежъ и мы учинимъ, естли не поѣдемъ.

4. Зъ нашой стороны часъ зъѣхаться особамъ, которые отъ насъ и отъ нихъ назначоные будутъ, въ томъ року 1624, въ день святого . . . ., а мѣстце зъѣзду . . . . ; а естли они часъ иншый и мѣстце иншое оберутъ, нехай же на письмѣ тое вамъ для певности съ подписомъ рукъ дадутъ.

5. Назначить особы въ личбѣ якой найменьшой, а не большъ трехъ, двухъ духовныхъ, третяго свѣтцкого. Мѣстце тежъ менуемъ . . . . , альбо имъ меновать допущаемъ, которое бы отъ насъ было не отлеглое и на обѣдвѣ стороны способное.

6. Способъ отъ людей многихъ зацныхъ зъ нашее и ихъ стороны поданый тотъ есть, абы былъ новофундованый въ нашихъ краяхъ,

яко и въ Московскихъ, патріярха на добрахъ певныхъ духовныхъ, который бы на добрахъ тыхъ на вси потомные часы пребывалъ, и по благословеніе нигдѣ не посылалъ. Мы зъ стороны нашее тотъ способъ захowавши, за добрый быть розумѣемъ, и за спольною намовою и зготою старатися о томъ хочемъ: только бы зъ ихъ стороны таяжъ щырость сердечная была, и працовать въ томъ святобливомъ дѣлѣ щыро хотѣли.

7. Сказать тежъ то имъ, же мы тое не зъ жадноѣ боязни и построховъ, любо теперешнихъ, любо за часомъ на рѣчь посполитую (чимъ ся они посполитѣ хлюбить звыкли) приходячихъ чинимъ, але зъ повинности пастырской, которую мы повинны къ овечкомъ мѣти.

8. На остатокъ освѣдчити повольность нашу и братолюбіе къ нимъ, и што тое вышейменованое предьсявзятіе наше, уваживши вси околичности, згоднѣ, щырѣ, а не облуднѣ отъ насъ есть намовленое и отъ всихъ принятое: которое коли за помощію Божою до скутку своего прійдетъ, освѣдчить готовы есьмы милость братерскую такъ въ пожиточномъ ихъ яко и въ . . . . . . . . . . . . . . . .

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Іосифъ Велияминъ Рутскій, митрополитъ Кіевскій, Галицкій и всея Русіи. Іоакимъ Мороховскій, епископъ Володимерскій и Берестейскій. Аѳанасій Пакоста, епископъ Холмскій и Белзскій, властною рукою. Іеремія епископъ Луцкій и Острозскій рукою. Антоній Сѣлява, епископъ Полоцкій, Витебскій и Мстиславскій. Григорій Михайловскій, епископъ Туровскій, сослужитель епископіи Пиньской. Именемъ велебного епископа Премышльского и Самборского, на тотъ часъ черезъ листъ притомного, а не обличнѣ, я митрополита подписую рукою властною.

„ТРЕБНИКЪ“, друк. ў Вільні, 1624 г., у 8-ку. (Ундольскій).

„ВѢРА СВ. КАѲОЛИЧЕСКІЯ И АПОСТОЛЬСКІЯ ЦЕРКВЕ“. Твор Іераманаха Азарыя. Друкавана ў Магілеве ў 1625 годзе, ў 4-ку. (Сопиковъ, б. 71).

Іераманах Азары гэта, як некатарыя думаюць (М. Возпякъ „Ист. Укр. лит.),—скрытазоў Захара Капысьценскага.

„ОМИЛІЯ, или бесѣда на годовую память Кіевопечерского Архимандрита Елисея Плетенецкого, говореная въ Кіевскомъ Успенскомъ Соборѣ Архимандритомъ Кіевской Лавры, Захаріемъ Копистенскимъ“. (Сопіков, пад № 787). Друкавана ў Кіяве 1625 г., ў 4-ку, крыўскай мовай, або як Сопіков акрэсляе: „на Бѣлорусскомъ языкѣ“. У ссылцы Сопіков тлумачыць: „Пад найменьнем Беларускай мовы разумеецца гутарка жыўшых у Беларусі і ў Польшчы пабожных Грэчаскага веравызнаньня людзей. Манахі ў тых краёх, якія жылі да канца XVII ст., немаль усе свае Богаслоўскія і павучаючыя творы пісалі гэтай мовай“.

(„Подъ именемъ Бѣлорусского языка разумѣется нарѣчіе жившихъ въ Бѣлоруссіи и въ Польшѣ благочестивыхъ Греческого исповѣданія людей. Монахи въ тѣхъ странахъ жившіе до исхода XVII ст.

почти всѣ свои Богословскія и поучительныя сочиненія писали симъ языкомъ").

„ЧАСОВНИКЪ", друк. у Вільні 1627, жніўня 31 дня, на 192 ліст. у 12-ку.

„ДХОВНЫИ БЕСѢДЫ стого о(т)ца нашего Макарія пустелника егvпе(т)ского, о досконалствѣ хрїстїанъ православныхъ... з Гре(че)ского на Рускїй язы(к) новопреложеный. Працею и старанемъ Іноковъ общежително(го) Монастыра Б. Цркви с(в)тго и животворящаго Дха. в Вилни Року 1627". У 4-ку, 48+386+22 лісты.

Выпіс з бяседы другой (Сопиковъ, б. 24):

„О королевствѣ темностій, то есть о грѣсѣ: же самъ Богъ отъ насъ грѣхъ отдалити, и насъ зъ неволѣ князя злостїй вызволити можетъ.

Королевство темностей меновитѣ онъ князь злосливый, взявши въ неволю чловѣка, такъ его осѣлъ, и въ душу владзою темности як въ якого чловѣка облокся: ведлугъ словъ оныхъ: и учинятъ его кролемъ, и облокутъ его шатами Королевскими, и отъ головы до ногъ Королевское оденье носити будетъ. Такъ душу и всю еи бытность окрылъ князь злосливыи грѣхомъ, и всю змазалъ, всю полономъ до королевства свого завелъ и жадного ей члонка волного не учинилъ, ни мыслей, ни розума, ни тѣла: але оболоклъ еи порпурою темностій. Якъ бовѣмъ въ тѣлѣ не една которая часть албо одинъ которій члонокъ терпитъ, лечъ все огуломъ, терпливости подлежитъ: такъ и вся душа наша намѣтностямъ злости и грѣха, естъ поддана. Облекъ теды всю душу въ преднѣйшій члонокъ и часть члонка превротникъ онъ злостю своею, то есть, грѣхомъ, и такъ тѣло страстемъ и зепсованію естъ поддано. Гды бовѣмъ Апостолъ мовитъ: вызуйтеся зъ старого чловѣка. Здосконалого мовитъ, маючаго очи при очахъ, голову при головѣ, уши при ушахъ, руки при рукахъ, и ноги при ногахъ. Всего бо вѣмъ чловѣка, душу и тѣло злосливецъ онъ ошпетилъ и розорвалъ, и оболокъ чловѣка чловѣкомъ старимъ, покалянымъ, нечистымъ, и неприятелемъ Божіимъ, подданымъ закону Божьему, то есть самому грѣхови, же бы чловѣкъ не глядѣлъ якъ самъ хочетъ, але жебы лукаво смотрилъ, превротне слышалъ, ноги мелъ скоры до злечиненья, руки чинячіи неправость, а сердце мыслячее о злости"...

Кніга гэта была пазьней, у 1634 годзе перадрукавана ў Кіяве, ў 4-ку. А ў XVIII ст. была перакладзена на маскоўскую мову і надрукавана грамадзянкай (Сопиковъ, „Каталогъ книгъ гражданской печати").

„ПСАЛТИРЬ", друк. ў Вільні, Сошеств. друк., 1627 г., in folio, 224 ліст. (Ундольскій).

АПОЛОГІЯ Мелеція Сматрыцкага 1628. Кніга напісаная ў двох мовах—крыўскай і польскай, польскі агаловак яе такі:

Apologja peregrinacjej do krajów wschodnich Meliciusza Smotrickiego R. P. 1623 i 1624 obchodzonej przez fałszywą bracią słownie i na pismie spotwarzonej do przezacnego narodu ruskiego obojego stanu duchownego i świeckiego sporządzona i podana. A. 1628 Aug. die 25 w monasterze Dermaniu (Львоў).

Акром пісаньняў рэлігійна-полемічных Сматрыцкі ў 1621-1623 годзе пільна працаваў над апрацаваньнем катэхізму для праваслаўных. Ен хацеў апрацаваць, падобна сваей граматыцы, такі катэхізм, які-бы аб'яднаў усе разыходжаньні ў разуменьні праваслаўя ў крывічоў, украінцаў і маскалёў. Для гэтай мэты ён пастанавіў найперш выясьніць сабе ўсе абрадовыя разыходжаньні і спрэчныя догматычныя пункты. Дзеля таго-ж, што ў яго часы ішла рэформацыя старога ўсходнаславянскага „благачэсьця", якое ў выніку нясло зрэформаваную царкву, далёкую ад старасьвецкай царквы, якая была ў Масkoўшчыне, і ня менш далёкую ад старога тыпу крыўскай і украінскай царквы. Гэты царкоўна-рэформацкі рух выклікаў у Масковіі падзел на старaабрадцаў і праваслаўных; першыя імкнуліся захаваць старыну ў абраднасьці і догматах, другія, падтрымліваныя царскай уладай, навязывалі згары перабудаванае па новаму праваслаўе. Гэты праваслаўны рэформацкі рух адбываўся і ў нас і гэтак сама ўнёс падзел на „благочестивыхъ" і праваслаўных, але не с такой вастратой, як у Масковіі. Староннікі старога „благачэсьця", падобна маскоўскім стараабрадцам, не прыхільна і падозрыва адносіліся да „паправы" царкоўных кніг і больш былі склонны трымацца „простай" мовы. „Благачэсны" рух ня меў у нас сваіх яркіх прадстаўнікоў і пропагатараў, трымаўся ён на некалькіх консэрватыўна настроеных магнатах, ды на нізшым духавенстве. Пагадзіць гэты спрэчкі і задаўся Сматрыцкі ў сваім катэхізме.

Апрацаваўшы катэхізм, Сматрыцкі разумеў, што ён можа даць пажаданы вынік толькі тады, калі атрымае санкцію найвышэйшай царкоўнай улады. І вось, у пачатку 1624 году выязджае Сматрыцкі на Усход, на Афонскую гару, якая славілася сваімі манастырамі, і да Канстантынопальскага і Ерузалімскага патрыярхаў. Акром пацьверджаньня катэхізму, выяхаць с краю прымушала Сматрыцкага яшчэ абвінавачаньне яго Вельямінам Язэпам Руцкім, што ён, як Полацкі праваслаўны архібіскуп, быў галоўнай прычынай сьмерці Іозафата Кунцэвіча, якога забілі праваслаўныя ў Вітабску. Перад выездам рэформатары старога „благачэсьця" далі даручэньне Сматрыцкаму, ад імені кіяўскага мітрапаліта Іова, выстарацца ў патрыярха агранічэньня ў правох царкоўных брацтв, а галоўна скасаваньня стаўропігій, г. зн. манастыроў, якія, не падлягаючы мясцовай царкоўнай зьверхнасьці, залежалі беспасярэдна ад патрыярха. У старой нашай царкоўнай арганізацііі, кіравалі царкоўнымі справамі сходы духоўных і сьвецкіх, якія абіралі кандыдатаў як на ніжэйшыя, так і на вышэйшыя духоўныя урады і зьяўляліся юрыдычным гаспадаром царквей і манастыроў сваіх кругаколіц. Рэформацкія павевы наадварот хацелі герерхічна-абсолютыстычнага кіравецтва царквой.

Акром гэтых афіціяльных мэт і даручэньняў Сматрыцкі ехаў да Усходных патрыярхаў і на Афон с плянам новагорадзкага сабору, аб утварэньні

на крыўскіх і украінскіх землях асобнага патрыархату: на саборы ў Навагародку, паміж уніяцкімі біскупамі была выяўлена склоннасьць утварыць, дзеля супакоеньня забураньняў, „рускі“ патрыархат незалежны ні ад Рыму, ні ад Канстантынопаля, калі-бы на гэта прысталі праваслаўныя. З гэтай мэтай, у пачатку 1624 г. было выслана пасольства ад сабору да кіяўскага праваслаўнага мітрапаліта і апошні не афіціяльна даручыў Сматрыцкаму скланіць Канстантынопальскага патрыарха, каб той даў на гэта сваю згоду і благаслаўленьне.

Місія Сматрыцкага, асабліва ў гэтай апошняй часьці, саўсім не ўдалася, а ўсходнае праваслаўе зразіла яго.

Аб'ехаўшы Ўсход, як пазьней казаў Сматрыцкі, з мэтай

> „каб даведацца ці тая самая ў нас вера, каторая была і ў бацькоў нашых, якую мы прынялі ад іх па божай волі і асталі ў спадку нашы прадзеды, даведацца, ці мы сягоньня пьем тую самую духоўную ваду, якую пілі нашы прашчуры, заснаўцы і будаўнікі рускай царквы, даведацца, ці яна выплывае з Евангельскіх крыніц, ці прыемна смакам, ці здарова як раней“.

І ён сьцьвердзіў, што катэхізм, напісаны самім канстантынопальскім патрыархам Лукарысам, які Сматрыцкі выпрасіў у патрыарха да прачытаньня, повен протэстанцкіх гэрэзій. Размовы і бліжэйшае знаёмства с праваслаўнымі на Усходзе горка расчаравалі Сматрыцкага: скрозь грубасьць, цемната, упадак веры і маральнасьці, заражэньне гэрэзіямі ня толькі сьвецкіх, але і герархаў.

Падарожа Сматрыцкага ў Палестыну была богамольнага характару. Тут, на чужыне, пачуў ён і зразумеў, што рэлігійны інтэрнаціянал ня выдзьвігне „рускага“ народу з яго упадку, што разьдзел на сэкты губіць народ, і ён, верны свайму памылковаму погляду, што бытцам калісь у мінуўшчыне існаваў адзіны „рускі“ народ, маліўся:

> „каб разьдзелены рускі народ ізноў злучыўся“.

У 1626 годзе вярнуўся Сматрыцкі с Палестыны праз Канстантынопаль у Кіяў. Тут яго чакалі новыя расчараваньні. Ігумен дубенскіх манастыроў, які чуў аб праектах утварэньня патрыархату, Касьян Саковіч, пусьціў вестку, што Сматрыцкі выехаў на Усход з мысьлямі варажымі праваслаўю. І калі Сматрыцкі ўехаў у Кіяў, то, паводле акрэсьленьня Кірыла Лукарыса, „заздросныя і няўдзячныя людзі мала не расьпялі яго“. Тут напалі на яго падбураныя людзі с такой злосьцю, што апынуўся кругом паняволеным. Нездаволеньне яшчэ больш узрасло, калі даведаліся аб тым, што Сматрыцкі прывёз ад Канстантынопальскага патрыарха граматы, якія касавалі стаўропігіяльныя правы манастыроў і брацтваў. На Сматрыцкага падняліся архімандрыты стаўропігіяльных манастыроў і верхаводы брацтваў. Пасыпаліся уроеныя і непраўдзівыя закіды і анонімныя пісаньні на Сматрыцкага і архібіскупа Іова Барэцкага.

Пры гэтых варунках вяртаць у віленскі Сьвятадухаўскі манастыр не ставала ў Сматрыцкага адвагі. Выганяны з манастыроў і царквей, ён ледзь дастаў прыпынак у Міжыгорскім манастыры. Апынуўшыся ў гэткіх варун-

ках Сматрыцкі надумаў выстарацца сабе архімандрыю ў Дэрманскім манастыры. З гэтай мэтай, ў канцы 1626 году, напісаў ліст да валынскага вояводы Януша Заслаўскага. Здарэньнем пры чытаньні ліста быў мітрапаліт Руцкі, які параіў даць Сматрыцкаму Дэрманскі манастыр, але пад варункам, што ён прыйме унію. Сматрыцкі, будучы ў Канстантынопалі пераканаўся, што там ня гэтулькі клапоціліся аб дабры „рускага" (крыўскага і украінскага) народу і чыстасьці яго рэлігійных пераконаньняў, сколькі аб даходзе патрыяршага скарбу з „рускай" провінціі. Падзеі ў Кіяве паказалі яму, што розьнь паглыбляецца і суліць новыя закалоты ў будучыне. Паднятая на змаганьне за веру чэрнь выходзіла ўжо с паслушнасьці царкоўнай герархіі, бачучы ўсё гэта Сматрыцкі згодзіўся, але засьцярогся, каб, да часу атрыманьня адповедзі з Рыму, пераход яго ў унію ня быў разгалошаны, і што пасьля прыняцьця уніі ён захавае пры сабе і на далей тытул полацкага архібіскупа. Акт далучэньня да уніі адбыўся ў ліпні 1627 году.

Прыняўшы унію Сматрыцкі аб'езджаў цэркві і манастыры, намаўляючы да пагоджаньня „Русі з Русьсю", г. зн. праваслаўных з уніятамі. Аб гэтым думалі тады многія, асьвечаныя адзінкі. У жніўні 1627 году адбыўся зьезд цясьнейшага гуртка староннікаў еднасьці. Былі на гэтым зьездзе акром іншых: кіяўскі праваслаўны мітрапаліт Іоў Барэцкі, нованазначаны пячэрскі архімандрыт Пятро Магіла і Касьян Саковіч. На зьездзе Барэцкі і Магіла прасілі ў Сматрыцкага даць свой катэхізм у духоўную цэнзуру, каб хутчэй яго надрукаваць, але Сматрыцкі лічыў патрэбным надрукаваць сьпярша трактат „аб шасьці рожніцах які ёсьць між усходнай і заходнай царквой". На гэта згодзіліся. Са зьместам трактату азнаёміў Сматрыцкі той-жа цясьнейшы кружок на зьездзе ў Гарадцы ў лютым 1628 году. У трактаце Сматрыцкі праводзіў думку, што ўсходная і заходная царквы ва ўсім істотным сходзяцца, а рожняцца між сабой толькі ў абрадах, якія ня могуць перашкаджаць еднасьці, і дзеля гэтага прапанаваў прыняць усім унію. Учасьнікі згодзіліся з ім і мітрапаліт узяўся склікаць сабор усей царквы з учасьцем сьвецкіх дэлегатаў.

Каб прыгатаваць дэлегатаў сабору да прыняцьця уніі Сматрыцкі напісаў Аполёгію сваей падарожы на Усход. У Аполёгіі ён даводзіў, што ўсходная праваслаўная царква вельмі далёка адыйшла ад свайго ідэалу і так заразілася гэрэзіямі, што найлепшым спосабам аздароўленьня яе зьяўляецца унія з Рымам. Апісуючы сваю падарожу Сматрыцкі паказываў на гэрэзіі Зызаняга, Філалета, Ортолога і Клерыка Астрожскага. Найбольш ён затрымаўся над Ортологам (сваім псэўдоніме), каторы: ў Лейпцыгскай і Віртэмбэргскай акадэміях закапцеў дымам лютаранства і гэтым чадам заразіў усю „Русь" цераз свой Өринос.

Напісаўшы Апологію, паслаў копіі яе Барэцкаму і Магіле с просьбай прагледзіць і даць адповедзь. Тым-часам асобныя адрыўкі Апологіі пайшлі па руках, узбурылі праціўнікаў і яны ў жніўні 1628 г. склікалі ў Кіяве сабор. На гэты сабор паехаў Сматрыцкі ў надзеі, што яму удасцца пераканаць праціўнікаў, але прыехаўшы пабачыў, што сабор сабраўся адзіна з мэтай су-

дзіць яго і яго Апологію. Пад націскам праціўнікаў уніі с паміж духавенства, якія прывялі з сабой казакаў, Сматрыцкі адрокся ад сваей Апологіі, а на Касьяна Саковіча, каторы выдрукаваў Апологію ў польскай мове, кінута было саборам праклящьце.

„АКАѲИСТЫ ВСЕСЕДМИЧНЫЕ“, друк., мабыць, у Вільні, каля 1628 г., in quarto, 283 (?) ліст. (Ундольскій).

„АПОЛЛЕІА Апологіи Книжки Діалектомъ Роускимъ написанои, Полскимъ зась ве Львовѣ друкованои, вкоротце и правдиве зсумованая. През Станъ дховный Восточного Православія... и до друку на жадане многихъ Поданая“. 1628.

На кіяўскім саборы, прымушаны пагрозамі казацтва, Сматрыцкі падпісаў саборную грамату ў якой мітрапаліт, архірэі і сам Сматрыцкі запэўнялі, што яны ня думалі перахадзіць ў унію і прысягалі астацца вернымі праваслаўю. Па выездзе Сматрыцкага с Кіява запужаны мітрапаліт Барэцкі выдаў казакам і праваслаўнаму духавенству яшчэ адну грамату, дзе запэўняў, што і сам мітрапаліт, і Сматрыцкі, і іншыя ўладыкі праклялі Апологію, рвалі яе, палілі і таптали нагамі. Гэты дзьве граматы, з апісаньнем сабору, становяць зьмест Аполлеі (зьнішчаньня, або як пераклаў сам Сматрыцкі—„пагібелі“) Апологіі.

ПРОТЭСТАЦІЯ, Мелеція Сматрыцкага супроць кіяўскага Сабору. Гэта Протэстація ў крыўскай мове хадзіла ў рукапісах, а ў польскай мове была надрукавана ў Львове, пад агалоўкам:

> Protestacija przeciwko soborowi w tym roku 1628 w dniu augusta miesiąca w Kijowie w monasteru Pieczerskim obchodzonemu uczyniona przez ukrzywdzonego na nim Meliciusza Smotryckiego, do przezacnego narodu ruskiego.

Сматрыцкі, вырваўшыся с Кіява ў Дэрманскі манастыр, напісаў пратэст супроць кіяўскага сабору, апісаў ход яго, прымус і пагрозы, а такжа анархію, якую характэрызаваў прыказкай „ня чуеш караля ў зямлі“; адкрываў, што Барэцкі і Магіла спрыялі уніі, а Барэцкі, яшчэ ў 1625 годзе, працаваў над паправай календара і пры гэтым гаварываў, што знайшоў лёгкі спосаб пагадзіць абодвы календары. Наагул на сабору, сталася так, „што Зызані, паводле Зызаняга, як цыган па цыганску сьведчыў і судзіў“. Апологіі і яе зьместу адрокся не дабравольна а пад прымусам, пад пагрозай сьмерці, хоць шкадуе, што не памёр слаўна за праўду. Словам—у Протэстаціі адракаўся ўсяго, што гаварыў, пісаў і падпісваў на саборы.

„КАТИХИЗИСЪ си есть Греческое слово, а по Руски именуется крестьянское ученіе перечнемъ, что человѣку подобаетъ преже всего учитися и вѣдати о спасеніи души своей, а печаталъ въ Стокольнѣ (Стакгольме) Мастеръ Петръ Фанъ Селавъ 1628 г.“ У 8-ку, 72 лісты.

„ТРЕБНИКЪ“, Вільня, 1628 г., Сьвятадухаўская друкарня, ў 12-ку, 6+168 (264?)+12 лістоў (Ундольскій).

„КАТИХИЗИСЪ“, друк. Віленскага Троіцкага ман., у Вільні, 1628 г., у 12-ку, 24 лісты. (Ундольскій). Праўдападобна гэта будзе друк уніяцкі, бо ў гэтым часе Сьвятатроецкі манастыр і яго друкарня былі ў руках уніятаў.

„ГРАММАТИКА“, друк. ў Вільні, 1629 г., у 8-ку. Перадрук граматыкі Сматрыцкага.

„ДІАЛОГЪ, албо розмова человѣка хорого, албо умираючого съ духомъ: о добромъ зъистю з того свѣта, людемъ свѣтскимъ, а посполите тымъ, которые мало што доброго за живота робили, а съ памятью умираютъ“.

Выдана ў друкарні „Павла іером.“ на Чорнай Гарэ „року 1629“, ў 4-ку, 36 лістоў.

„ПАРЕNESIS, или увѣщаніе къ Виленской братіи при церкви Св. и Животв рящаго Духа... Сопіков знаў экзэмпляр гэтай загубленай кнігі, друкаванай, як ён акрэсьліў „на бѣлорусскомъ языкѣ“. Гэта-ж кніга, таго-ж году была надрукавана ў Кракаве пад агалоўкам:

> Parenesis abo napomnienie... do przezacnego bractwa wileńskiego s. Ducha, a w osobie jego do wszystkiego tej strony narodu ruskiego, uczynione. Anno 1628.

У Парenesise Сматрыцкі зьвяртаецца с плянамі уніі безпасярэдна, паміма палахлівых і няпэўных ўладык, да крыўскага народу. Прычынай да напісаньня кнігі быў ліст віленскага Сьвятадухаўскага брацтва, пісаны Сматрыцкаму з закідамі, што ён хоча падзяліць на тры часьці „адзіны рускі народ“ гэта быў намёк на нейкі, незнаны нам сягоньня, тагочасны рух, каторы прызнаваў за асобныя націянальныя цэлыя Крывію, Украіну і Масковію. На такі закід Сматрыцкі адпісаў, што ён наадварот стараецца нават раздзеленыя Крывію і Украіну прывясьці да згоды.

Далей, з усей сілай сваей гарачай вымовы, Сматрыцкі пераконывае аб патрэбе уніі з Рымам. Пры гэтым зазначае, што няхай нікога не дзівуе такая перамена ў ім, ня робіць ён гэтага ні с пыхі, ані дзеля дачаснага пажытку, ён, пропагандай уніі, стараецца толькі направіць спамылкі сваей маладасьці. Адпор супроць уніі спрычыніў упадак школ, цемнату, анархію. Пытаў, дзе ў праваслаўных катэхізм, дзе казаньні, жыцьцёпісы сьвятых і інш. Чытаюцца старасьвецкія зборнікі ды Пралогі, якіх ніхто не разумее: ні той хто чытае, ні той хто слухае. Шляхта пакідае ўсходны абрад і надойдзе той час, калі людзей усходнага абраду ня будзе ні ў соймах, ні ў трыбуналах. „Наш рускі народ“, пісаў Сматрыцкі, „ўсё роўна прыступіць да уніі тады, калі не стане ўжо шляхты“. Гразіў праваслаўным, якія мелі стасункі з Масквой

і атрымлівалі адтуль дырэктывы, што Масква не разумее свабоды. Урэшце надрукаваў тут тэкст свайго ліста да патрыарха Лукарыса, дзе паказываў на блізасьць „рускай“ царквы да рымскай і казаў, што гэта павінна прывясьці да ўтварэньня асобнага патрыархату на крыўскіх і украінскіх землях.

Кіраваны запраўднай любоўю да свайго народу і маючы на мэце выключна яго інтэрасы, Сматрыцкі ня толькі ў друку, але і жывым словам дамагаўся асобнага патрыархату для крыўскіх і украінскіх зямель. Думаў, што гэта лёгка правясьці, трэба толькі склікаць сабор і на ім выраўняць разыходжаньні, якія маюцца паміж усходнай і заходнай царквамі. Гэтак пісаў у Апологіі, а у Протэстацыі дамагаўся ад караля каб склікаў такі сабор. Сабор быў урэшце скліканы ў 1629 годзе ў Львове, а перад ім—прыгатаваўчы зьезд у Кіяве, але праваслаўныя адмовіліся прыймаць удзел і ў кіяўскім зьездзе і ў львоўскім саборы.

„АНТИДОТЪ, албо отповедь на ядомъ преполненое Антидотумъ противко Апологіі Мелетія Смотрыцкаго“. Кніга была друкавана старакрыўскай мовай у 1629 годзе, але панішчана; захаваліся толькі польскія экзэмпляры, якія агалоўлены:

> Antidotum przezacnemu narodowi ruskiemu abo warunek przeciw Apologjej, jadem napełnionej, którą wydał Melety Smotrycki, niesłusznie cerkiew ruską przawosławną w niej pomawiając o herezją i schyzmą dla niektórych skrybentów w porywczą przygotowany i podany przez Andrzeja Mużyłowskiego.

Аўтор кнігі Андрэй Мужылоўскі, пратапоп слуцкі, закідаў Сматрыцкаму хібкасьць пераконань, пыху, няшчырасьць, апавядаў аб яго манастырскім і далейшым жыцьці, тлумачыў пераход яго на унію выключна матэр'яльнымі мяркаваньнямі, каб забасьпечыць сабе спакойнае жыцьце ў Дэрманскім манастыры; бараніў Зызаняга і Клерыка Астрожскага, і даровываў Сматрыцкаму яго Філалета, які, як гісторык, але не як багаслоў, мяшаўся не ў свае справы, даровываў яму і Ортолога, які пісаў ад імені ўсей царквы, не маючы не тое упаважненьня.

„EXETHESIS“ Мелецкія Сматрыцкага. Exethesis гэта апошні твор Мелеція Сматрыцкага, ў старакрыўскай мове хадзіў у рукапісах, а ў польскай мове быў друкаваны пад агалоўкам:

> Exethesis abo Expostulacja, to jest rozprawa między Apologią i Antidotem o ostanek błędów, herezji i kłamstw Zyzaniowych, Philaletowych, Orthologowych i Klerykowych uczyniona Meleciuszem Smotryckim... do obojej strony narodu ruskiego. Anno D-ni 1629, Aprilis 3 w monasteru Dermaniu. (Львоў).

Exethesis напісаў Сматрыцкі ў адповедзь Мужылоўскаму на Антідот. Тут аўтор апавядае як ён у Канстантынопалі сустрэў гэрэзіі наўкол патрыарха, востра і лайчыва зьбіваў крок за крокам праціўніка і паказваў на нястачу асьветы ў кіяўскіх вучоных. С праваслаўным духавенствам так блага,

што трудна знайсьці добрага дзяка, яшчэ трудней вучонага сьвятара, а мудрага прапаведніка і не пытай. Упалі школы, зьвёўся царкоўны напеў і скарапіснае пісьмо. Чэрнь узяла верх і папы павінны танцаваць так, як ім заграе чэрнь (намёк на казацтва), або калі не паслухаюць—паказуюць ім абухі. Цемната вялікая сярод праваслаўных ня толькі ў нас, але і на Усходзе: ў Канстантынопалі бываюць мітрапаліты, каторыя ня ўмеюць пісаць. Пры гэтым у царкве анархія: у кождым большым горадзе ёсьць асобная стаўропігія, якая не прызнае царкоўнай зьверхнасьці. Рабіў пры гэтым дакор праваслаўнаму духавенству, што яно, не безынтэрэсоўна, выконуе загады Масквы, кажучы: „Мы мелі багацтвы, а цяпер мае іх Маскоўшчына“. Наракаў, што школы ў упадку, а тыя якія ёсьць „не гараць а дымяцца і дзеці вырастаюць с цялят на валоў“.

Паходжаньне сямьі Сматрыцкіх дагэтуль ня высьветлена. Ведама, што бацька Мелецяга, Гарасім Сматрыцкі, быў сьпярша Камянецкім земскім пісарам, пазьней Рэктарам астрожскай школы. Дзеля таго, што ў украінныя землі, якія належалі да в. кн. Літоўскага, найчасьцей былі пасыланы вышэйшыя урадоўцы с цэнтру, есьць падстава думаць, што бацька Мелеція Сматрыцкага быў адным с такіх урадоўцаў, які выпаўняў дзяржаўную службу на украіне в. кн. Літоўскага. Зьвязак сямьі Сматрыцкіх з мясцовасьцю Смотрыч (на Падольшчыне) паказуе, што яны там мелі земскую маемасьць, што з другой стараны можа даводзіць іх старадаўнай там аселасьці і прыналежнасьці да украінскай народнасьці.

Максім, а ў мнішстве Мелеці Сматрыцкі, радзіўся каля 1578 году, праўдападобна на Падольшчыне, ў Камянцы ці Смотрычы. Першую асьвету атрымаў у Астрожскай школе, а пазьней вучыўся ў Вільні на філёзофскім факультэце, ў езуіцкай акадэміі. Каля 1606 г., як дамовы вучыцель князёў Саламярэцкіх, выехаў з маладым князям заграніцу і разам з ім вучыўся на Вроцлаўскім, Лейпцыгскім і Нюрынбэргскім унівэрсытэтах.

Вярнуўшыся, перад 1608 годам у Вільню, заняўся пэдагогічнай і пісьменніцкай працай. У 1618 годзе, з намовы Лявона Карповіча, з якім яго рэлігійна-грамадзкая дзейнасьць была цесна зьвязана, прыняў мнішскі стан і паступіў у віленскі Сьвятадухаўскі праваслаўны манастыр. У 1620 годзе быў высьвячаны на архібіскупа Полацкага Іерузалімскім патрыархам Тэафанам, а ў 1627 годзе перайшоў у уніяцтва. Памёр 7 студзеня 1634 году, (па стараму календару 27 сьнежня 1633 г.).

Мелеці Сматрыцкі, адзін з найбольш здольных і найбольш вучоных нашых рэлігійных дзеячоў XVII ст. У ім шчасьліва былі злучаны пісьменніцкі талент, прыродны нахіл да паважнай мысьлі і вялікая асьвета, асабліва ў філёзофіі і багаслоўі. Належаў ён да арыгінальных і вельмі глыбокіх мысьліцеляў. Яго пісаньні маюць наскрозь жыцьцёвы характар, стыль іх энэргічны, ясны і прыгожы, з нязвычайна тонкай дыялектыкай.

Магчыма, што паходжаньне яго з Украіны і рэлігійна-грамадзкая дзейнасьць на крыўскіх землях, вытварылі са Сматрыцкага пераконага прыхільніка ідэі еднасьці „рускага“ народу. За моладу Сматрыцкі думаў аб аб'яд-

наньні ўсяго праваслаўнага славянскага ўсходу ў адзін народ злучаны рэлігіяй і мовай. Але пасьля сваей паездкі на Усход праз палуднёва-славянскія землі, і стычнасьць яго з маскалямі на патрыяршым дварэ ў Канстантынопалі, звузілі яго імкненьні: пад канец жыцьця Сматрыцкі гаворыць ужо толькі аб аб'яднаньні ў адзін народ Крывічоў і Украінцаў. Адзіны спосаб да злучэньня, па яго перакананьню „адзінага разарванага народу рускага", бачыў ён у аб'яднаньні рэлігійным, з адзінай ц.-славянскай мовай царквы і граматнасьці, але не праціўен быў ужываньня мясцовых дыялектаў „дзеля лепшага выразуменьня", хоць як рэлігійны дзеяч, сам ён пад канец жыцьця, паслугоўваўся ў сваіх пісаньнях пераважна польскай мовай. Магчыма, што нахіл яго да польскай мовы быў выкліканы упадкам грэка-лаціна-рускіх школ, якія не маглі разьвівацца на грунце сваей ўласнай культуры, адкінуўшы жывую народную мову. Паварот да жывых моў - крыўскай і украінскай—вёў да неўнікнёнай індывідуалізацыі „адзінай русі", а гэта пярэчыла ідэям Сматрыцкага. Ня могучы карыстацца ў сваіх творах мовай ц.-славянскай, як труднай да зразуменьня, і няхочучы ўжываць мовы народнай, як дзелячай, ён ужываў зразумелай граматнаму грамадзянству мовы польскай, якая магла абслужываць роўнай меры крыўскае і украінскае грамадзянства.

„МОЛИТВОСЛОВЪ", друк. Мамонічаў у Вільні, 1630 г., у 12-ку, каля 600 ліст. (Ундольскій).

„ВИРШЕ съ трагедіи Хс Пасхонъ, св. Григорія Богослова, во святый великій пяток, и на день Воскресенія Христова". Друкавана ў Львове ў 1630 годзе, мова старакрыўская, блізкая да народнай. Сопіков мову гэтай кнігі акрэсьляе: „на Бѣлорусскомъ языкѣ" („Опытъ Росс. библіографіи" СПБ. 1813, б. 68).

„ЧАСОСЛОВЪ СО ПСАЛТИРЬЮ", друк. у Вільні, 1631 г., у 12-ку. (Ундольскій).

„ПСАЛТИРЬ", Вільня, 1631г., у 12-ку, 321(?) лістоў, (Ундольскій).

СУПРАСЛЬСКІ ПАМЯННІК. Арыгінал, пісаны на пэргаміне, быў у Супрасьльскім манастыры; копія, зробленая ў 1631 годзе, пераховывалася ў Віл. Публ. бібл. № 69. З балонак гэтага памянніка перасуваюцца перад нашымі вачыма некалькі пакаленьняў Хадкевічаў, Пузынаў, кн. Карэцкіх, Слуцкіх, Сангушкаў, Валовічаў, Вішневецкіх, Сапегаў, Трызнаў, Масальскіх, Чапліцаў, Завадзкіх, Кунцэвічаў і др.

„ПУНКТЫ ДАННЫЕ СВЯЩЕННИКОМЪ отъ преосвященного Исаіи Копинского, митрополиты Кіевского, которые такъ ся въ собѣ маютъ:" (1631 году). „Акты, относящ. къ истор. Западн. Россіи", т. IV, бб. 525, 526.

„Исаія Копинскій, милостію Божіею митрополитъ Кіевскіи, Галицкій и всея Русіи, архіепископъ всего Сивера.

Кондицыя господиномъ братіямъ священникомъ належачая:

1. Кождый священникъ абы духовника своего мѣлъ и споведь бы якъ найчастѣй чинилъ.

2. Отъ церкви до церкви безъ вѣдомости своего благочестивого митрополиты абы жаденъ не переходилъ, ани тежъ у уряду свѣтцкого, подъ запрещеніемъ каноновъ богоносныхъ отецъ, не подкуповался.

3. Абы жаденъ въ справахъ своихъ духовныхъ до свѣтцкого суду не мѣлъ удаватися, надъ правила святыхъ отецъ.

4. Знати тежъ о своемъ благочестивомъ митрополитѣ, а индѣ въ жадные рѣчи безъ вѣдомости оього не удаватися.

5. Въ парафіи единъ другому жаднои перешкоды не чинити, ани тежъ отъ единого связанное и запрещенное другій безъ вѣдомости связавшого прощати и разрѣшати абы не важился.

6. По яде не крещати, паче же въ нощи, кромѣ великія нужды.



Кутэйнскі манастыр, дзе ад пачатку XVII ст. была друкарня.

7. Поночи шлюбу не давати, але заразомъ по службѣ Божой, на тще сердце, не упившися, подъ неблагословенствомъ Божіимъ.

8. Абы испытывали пильно со свѣдительми, кгды приступаютъ до шлюбу: естли же передъ тымъ кому не шлюбовали, альбо естли не у повиноватствѣ поймуются?

9. Которые тежъ мѣшкають безъ шлюбу, абы тыхъ отлучали отъ церкве и оповѣдали людемъ.

10. Въ корчмѣ абы ся жаденъ не найдовалъ, подъ строгою карностью и на насъ митрополита виною.

11. До хворыхъ ити не лѣноватися, дяковъ не посылаючи, и о причастіе святыхъ Таинъ не торговатися.

12. Гдѣ церковъ есть непосвящена, абы всѣ старалися и людемъ тое прекладали, абы пильное старанье о посвященію церкви чинили: бо такіе конечнѣ будутъ печатаны.

13. Въ олтарю антимисъ абы былъ благочестивого митрополита, тежъ келихъ, дискосъ, лыжица, и прочее абы было все порядне що належитъ до службы Божой.

14. Тые, которые караны бываютъ отъ свѣтцкого уряду на горлѣ, абы были споведаны и Таинъ Христовыхъ причащены, и пильно просити уряду, абы того дня не были караны на горлѣ.

15. Тые невѣсты, которые дѣти рожаютъ и зъ свѣта сего сходятъ, тогожъ часу, обмывши, абы были причащены.

16. А которые бываютъ борзо хворые и зъ свѣта сходятъ, а не могутъ мовити и не исповѣдалися, а прагнутъ Таинъ Христовыхъ, жебы не агіязмою, але самымъ тѣломъ и кровію Христовою причащены были, пильная есть того потреба".

МАЛІТВЕННІК, друк. у Спір. Собаля, ў Кутэйне, 1631 г., у 12-ку, 304+40(?) ліст. (Ундольскій).

„ЧАСОВНИКЪ", друк. у Спірыд. Собаля, у Кутэйне, 1632 г., ў 4-ку, 132+32 лісты. Мова Часоўніка ц.-славянская, відочна пашырэньне яго было разьлічана пераважна на Маскву. Ад пачатку друкарства адным с паважных рынкаў збыту, друкаваных у Крывіі кніг, была Масковія. Да другой чверці XVII ст. кнігі с крыўскіх друкарань, пад назовам „літоўскіх", прадаваліся ў Маскве і запаўнялі сабой кніжні пры царквох, манастырох і ў дамох прыватных асоб. Аднак, адношаньне да кніг, пісаных і друкаваных у нас, не было ў Маскве прыхільнае; чыталі іх с цікавасьці, куплялі для богамольнага ўжытку с патрэбы, але заўсёды падазравалі, што ў іх многа гэрэтычнага. Выплывала гэта с таго, што разуменьне праваслаўя ў Маскве было іншае чым у крыўскіх і украінскіх землях: там, у Маскве, панаваў большы консэрватызм, тут—поступ. З гэтых прычын, у 1627 годзе, быў выданы старэньнем Маскоўскага духавенства загад, каб

„впредь никто никакихъ книгъ литовскія печати не покупали".

У пачатку 1630-х гадоў загад гэты значна аслаб, дзеля гэтага нашы друкары ізноў пачалі перасылаць кнігі на продаж у Масковію.

„НОВЫЙ ЗАВѢТЪ", с Псалтыром на перадзе. На белягох кнігі мающца кароткія тлумачэньні зьместу асобных разьдзелаў у крыўскай мове. У 4-ку, друкаваны ў 1632 годзе ў Кутэйнскім манастыры. Кніга мае пасьвяту Стэткевічу і на адвароце агалоўнай балоны верш на гэрб Стэткевічаў, старакрыўскай мовай.

ПАНЭГІРЫК ПЯТРУ МАГІЛЕ 1632 Г. (Карскій, „Бѣлоруссы", т. І.)

„СЛУЖЕБНИКЪ“, друк. ў Вільні, 1634 г., ў 4-ку. (Ундольскій).

„МОЛИТВЫ ПОВСЕДНЕВНЫЯ“, друк. ў Вільні, ў Сьвятадухаўскай друкарні, 1635 г., ў 8-ку, 8+232+28 лістоў. (Ундольскій).

„НОВЫЙ ЗАВѢТЪ“ с Псалтыром, друк. у Еўі, ў 1635 г., у 4-ку. У 1620-х годах евейская друкарня працуе слаба, а ад 1623-га да 1630-х годаў, бадай, і саўсім замірае. Затое ад 1630-х годаў у евейскай друкарні паяўляюцца новыя літары і пабольшуецца лік заставак у стылю скарынаўскіх.

ПСАЛТЫР. Друкаваны ў Буйнічскай друкарні, ў 1635 годзе, коштам Стэткевіча („Книга в России“, Масква, 1924, б. 114).

„КАЗАНЬЕ на сосланье св. Духа“. Рукапіс XVII ст., бібліатэкі Жыровіцкага манастыра. Гэтае-ж казаньне было надрукавана ў Сьвятадухаўскай віленскай друкарні па польску. Аўторам яго быў мніх Сьвятадухаўскага манастыра Самуэль Шыцік Залеўскі.

„БУКВАРЪ ЯЗЫКА СЛАВЕНЬСКА“, Магілеў, 1636 г., у 8-ку, больш 36 л. (Ундольскій).

„ЧАСОСЛОВЪ“, Вільня, 1637 г., ў 8-ку, 2+572 лісты. (Ундольскій).



Балона ц.-слав. „Часалова“ надрукаванага ў Кутэйне, ў друкарні Сьпірыдона Собаля 1632 г.

„ГИСТОРІЯ албо правдивое выписаніе ст. Іоанна Дамаскина, о житіи святых прд: отцъ Варлаама ї Осафа и о наверненю Індіянъ. Старанемъ и коштомъ Іноковъ общежительного монастыра Кутейсского“. 1637 г. Апрацаваў гэту кнігу магілеўскі архімандрыт Варлаам Полаўка. Матэр'яльную падтрымку на выданьне кнігі аказываў кутэйнскі ігумен Іоіль Труцэвіч і другія асобы:

„по(д) часъ оути(с)ненія црквн православной“...

Крыніца гэтай кніжкі паказана на агалоўнай балоне:

„Ново з грецкого и слове(н)ского на Рускій языкъ переложена“.

Пробка мовы:

„Индіа Краина ест Великая и Людная, которая далеко от Егvпту лежитъ и о(т) стороны Егvпетскои, о(т)толь Море заходить, Землею

зась до Перскихъ границъ досѣгаетъ. Тая теды темностю балвохвалскою пре(д) тымъ была огорнена, и барзо грубыми обычаями заражена, и в спросных злостяхъ ся найдовала.... на то(т)же час и с(в)-тѣйшый Ѳома одинъ з двана(д)цати Хр(с)товыхъ Ап(с)ло(в) до Индїи, для проповѣди збаве(н)нои наоуки посланы былъ. за помочью теды Божіею и за потверженемъ науки през послѣдуючїи знаки, погански(х) забобоно(в) темно(ст) оттна(н)на естъ и они от балвохвалскихъ офѣръ и службы будучи вызволени до правои вѣры себе прилучили".

Марнасьць сьвету гэтага і неразумнасьць тых, якія цэняць прыемнасьці дачаснага жыцьця, забываючы на вечнае, аўтор малюе чытачом алегорычнай прыповесьцю гэткага зьместу:

„Тыхъ которые злосливому и окрутному пану служать и которые отъ доброго и ласкавого зъ великого шаленьства отдаливши се, рѣчей дочасныхъ прагнуть и над ними сохнуть и о прышлыхъ намнѣй не мыслять, лечь въ тѣлесныхъ роскошахъ уставичне зоставають, а душамъ своимъ голодомъ гинути и незличоными злобами стиснеными быти допускають, чоловѣкови отъ срокгого единорожца утѣкаючому подобныхъ быти розумѣю, который голосу его и страшного рыканія не могучи стѣрпети, моцне, абы не былъ отъ него пожертый, утѣкалъ: а съ прудкостію бѣгучи, въ великій нѣякій ровъ впалъ и летячи за дерево нѣякое руками ся ухопилъ и оного ся моцно держалъ, на стопню нѣякомъ оперши ся, розумѣючи за тымъ, же вевпокои зосталъ и вшелякого небеспеченства ушелъ. Глянувшы теды обачилъ двѣ мыши, одну бѣлую, а другую чорную, дерева оного, за которое ся ухопилъ, корень уставичне подгрызаючые и праве до конца оное подтинаючые. А за тымъ, позрѣвши въ глубокій ровъ, страшного смока обачылъ на самомъ везрѣнью огнемъ дышачого и срокго на него поглядаючого и страшною пащенкою полкнути пракгнучого. И знову на стопень тотъ, на которомъ ноги ся опѣралъ, взглянувши, обачылъ чотырехъ аспидовъ головами со стѣны выникаючіе: къ горѣ зась позрѣвши мало штось мѣду зъ галузовъ дерева оного каплючого обачылъ. Прото о небеспеченствахъ тыхъ, которыми зъ всихъ сторонъ былъ огорненый и стисненый, понѣхавши мыслити —то есть, якъ его з верху единорожецъ велце срожачыся шукалъ пожрети: на долѣ зась окрутный смокъ полкнути его прагнулъ: и якъ дерево тое, которого ся держалъ, прудко вжо мѣло быти подгрызеное: ноги зась якъ на слизкомъ и не певномъ ступени держалися— тыхъ, мовлю, такъ великихъ небеспеченствъ запомнѣвши, на малой оного меду солодкости коштованю себѣ забавилъ.

Тое подобенство естъ о тыхъ, которые роскошами дочасного жывота ошукиваютъ ся. Однорожецъ кшталтомъ естъ смерти, которая завше рожай людскій преслѣдуеть и поимати кусит ся. Ровъ зась свѣтъ естъ, который вшелякихъ злостѣй и смертелныхъ сѣтей естъ полный. Дерево тое, за которое ся унявши, руками держимо и которое двѣ мыши уставичне подгрызають, кождого чоловѣка жывота естъ часъ, который ся дневными и ночными годинами скорочаеть и уменшаеть и помалу до посѣканія приходить. Чотыры зась аспиды, людского тѣла съ чотырехъ и непевныхъ елементовъ зложене значать, которые кгды ся въ своемъ порадку не заховають, и помѣшають, тѣлесное зложене розвалет ся. До того огнистый онъ и окрутный смокъ, страшное пекелное черево прызначаеть, которое тыхъ приняти прагнеть, которые дочасные роскоши над прышлые добра

прекладають. Меду зась кропля стекаючая, свѣта того утѣху и солодкость значыть, которую онъ прыетѣлей своихъ ошукиваючи тымъ о спасеніи своемъ помышляти, намнѣй не допускаетъ".

Акром гэтай прыповесьці ў тэксьце маюцца і іншыя, ня менш цікавыя прыповесьці, ў якіх выбражаецца марнасьць усяго земскага чалавечага жыцьця. Акром пропаганды пустэльніцтва і жаданьня аўтора даць сваім чытачом павучаючае чытаньне, аўтор нашай перапрацоўкі цікуе яшчэ і палемічную мэту: ён выступае супроць Пятра Скаргі, які: „выдавши польскимъ языкомъ житія святыхъ" напісаў, што ў Дамаскіна сказана, што Дух сьвяты паходзіць і ад Сына (Карскій, „Бѣлоруссы", т. III, б. 47).

У 1681 годзе гэта кніга была перакладзена на маскоўскі дыялект і надрукавана ў Маскве.

„ПОЛУУСТАВЪ", Друкаваны ў Еўі 1637 годзе, ў 12-ку, 8+553 лісты. (Ундольскій).

„ПСАЛТИРЬ", друк. у Спір. Собаля, ў Магілеве, 1637 г., ў 4-ку, 2+167+37 лістоў. (Ундольскій).

„ДІАРІУШЪ албо списокъ дѣевъ правдивыхъ, въ справѣ помноженя и объясненя вѣры православное голошеный". Дыярыуш гэты напісаў Атанас Філіповіч; пачынаецца ад 1637 году і абыймае кароткае апісаньне падарожы яго ў Маскву для збору ахвяр на Купяціцкі манастыр (у Горадзеншчыне) і падае апісаньне яго захадаў у Варшаве перад соймам і каралём супроць „вечна праклятай уніі".



Аглоўная балона „Новага завету" 1623 г. Сьвятадухаўскай друкарні ў Вільні.

Філіповіч паходзіў з горадзеншчыны. Скончыўшы навукі быў урадоўцам у гэтмана Сапегі, а пазьней вучыцелям нейкага (самазванца). Каля 1632 году, пастрыгся ў манахі і паступіў у Купяціцкі манастыр. Згэтуль, у 1640 годзе, быў назначаны ігуменам Берасьцейскага сімеонаў-

скага манастыра. Будучы у Берасьці ён знайшоў пэргамінныя старыя дакуманты с правамі і прывілеямі для праваслаўных і „зъ страшнымъ проклятствомъ на униты“, якія ўпісаў у гродзкія кнігі і апавесьціў у царкве і на рожных мяйсцох. Выказываў жаль, што няма ўжо годных абаронцаў праваслаўя, што стаўпы грамадзянства і царквы „неабачна перакідаюцца да іншае верачкі“. Раз ішоў ён вуліцамі Варшавы і пабачыў, як голая жанка бегла с плачам, ламаючы рукі і выклікаючы: „zginęłam! Wzięto mi z łóżka wezgłowie i kołdrę“. Гэта здалося Філіповічу сымволам акрадзенай праваслаўнай царквы. Ён даў жанчыне чырвоны залаты. І, калі, пасьля гэтага, апавядае, маліўся ён да Багародзіцы, пры словах: „отъ всѣхъ насъ бѣдъ свободи“, пачуў голас ад абраза Прачыстай: „О Афанасе, занасі просьбу цяпер на сойме праз мой абраз, ў крыжу намаляваны, купяцікі, да польскага караля і рэчыпаспалітай, грозячы праўдзівым гневам і страшным божым судом, які нябаўна запраўды прыйдзе, калі яны не адумаюцца; няхай жа перш тую вечна праклятую унію зганяць, бо таго найперш патрэба, а можа быць яшчэ ўсё добра“.

Хоць Філіповіч пісаў свае ўспаміны крыўскай мовай, але словы Маці Божай, відаць, выгалашаны былі па царкоўна-славянску.

Атрымаўшы загад ад М. Божай ён, у 1643 годзе, зьявіўся на варшаўскім сойме с купяцікай іконай; у 1645 годзе пісаў супліку з вязьніцы, дзе зләжыў супроць уніі песьню: „Даруй покой церкви своей, Христѣ Боже“.

За тое, што вырваўшыся саўсім голы з вязьніцы і, выкачаўшыся ў балоце, бегаў вуліцамі Варшавы, бьючы сябе палкай і выклікаючы: „бяда праклятым і няверным!“, кароль Ўладыслаў IV, пазбавіў яго сьвятарства і маетнасьці і выслаў на суд мітрапаліта Пятра Магілы ў Кіяў. У часе польска-казацкай вайны Філіповіч быў ізноў ігуменам у Берасьці. Нехта данёс, што Філіповіч перасылае казакам кулі і порах. Урадоўцы і збройная шляхтаператрасьлі два берасьцейскія манастыры, але не знайшлі нічога. Тады пачалі чапляцца да Філіповіча, што ён праклінаў унію. На гэта сказаў Філіповіч: „Праклята цяперашняя унія ваша, ведайце тое, калі ня вынішчыце яе ў сваей дзяржаве і не дасьце спакою праваслаўнай царкве, то дазнаецца над сабой божага гневу“. За гэта ўкінулі яго ў вязьніцу, а па некалькі днёх надзелі яшчэ на яго аковы; сядзеў ён ад 12 (1) ліпня, а 16 (5) верасьня 1648 г., памёр, ці як іншая вэрсія апавядае—быў разстраляны. Праваслаўная царква ўлучыла яго ў лік сьвятых.

Пад уплывам казацкага руху ў пісаньнях Філіповіча праглядае падкладка гэтага руху, соціяльныя прычыны:

> „Але панове и преложоные згола въ звѣревъ и птаховъ драпежныхъ ся перекинули и подобными стали, а праве южъ и над звѣревъ подданыхъ своихъ и убогихъ людей драпежать и над ними ся збыткуютъ“.

„ДЕДАСКАЛІА: албо наука. которая ся первѣи из устъ Священником подавала о седми сакраментахъ Алболи таинахъ. На синодѣ помѣстномъ в Бгоспасаемомъ Градѣ Могилевѣ. Року Бжего

1637... от превелебного его Млсти: Господина Оца. Силвестра Косова, Епспа Мстиславского, Оршанского и Могилевского... в Тvпографiи Монастыра... Кутеенского"...

Кнiга гэта была ў 1638 годзе другi раз перадрукавана ў Крэмянцы пад агалоўкам: „О Мистерiяхъ или тайнахъ въ посполитости" (пры кнiжцы „Синодъ въ року 1638, въ церкви катедральной Луцкой отправованыи"), i, ўрэшце, трэцяе выданьне вышла iзноў у Кутэйне, ў 1653 годзе. У прадмове Косаў кажа (П. Пекарскiй, „Наука и литература въ Россiи въ царствован. Петра Великого" СПБ. 1862, т. 2, бб. 355, 356):

„... тайны абовѣмъ, албо ли сакраменты, будучи знаками видомыми, суть инструментами и сродками, презъ которые Богъ невидимо ласкою своею души намъ оздобляеть и усправедливяеть, а до спасенiя вѣчного приспособляеть. Гды въ крещенiи даеть отрожденiе духовное, въ мvропомазанiи умоцнене въ вѣрѣ, въ еvхаристiи соединенiе зъ собою и многiе иныя рѣчи, которыя ся зособна въ тои книжицы въ коротце выразили. Покажды погодною тварь, читателю ласкавыи, аптеку души твоеи указуеть. Проси нелѣниво, бо лаконицкимъ поступаемъ торомъ. Прiйми ласкаве, бо ласки Христовои потоки, которые зъ ржодла муки его выплынули, оповѣдаеть. А особливо васъ iереи Христовы, до частого читанья тоеи книжицы упоминаю, по неважъ васъ Богъ шафарами таинъ своихъ учинилъ; ваша повинность есть о седми таинахъ научати; ваша оныхъ перестерегати; ваша и людъ божiи ими освѣчати. Святымъ молитвы мое архiерейскiе ласкавому читателю оферую"...


О Сакраментах
или тайнах
в посполитости.
Вопрос.
Што суть Сакрамента, албо Тайны;
Отвѣт.
Сакрамента, алболи Тайны,
суть видомые знаки, и причины
инструменталные Ласки Бжои: або
вѣ пре оные невидомо на душу нашу.
Ласку свою Всемогучый Бгъ вливает.
Потвержает то Златоустый Стый, тыми
словы мовячи: Гдѣ Бгъ з глубокон
А

Балона „Дедаскалiи" Косава, друкаванай ў Кутэйне ў 1637 годзе.

Пачатак гэткi (Карскi, „Бѣлорусы", т. III):

Вопросъ. Што суть Сакрамента албо Тайны.

Отвѣтъ. Сакрамента, Алболи Тайны суть видомые знаки, и причины инструменталные Ласки Бжои: абовѣ(м) пре(з) оные невидомо на душу нашу, Ласку свою Всемогучыи Бгъ вливае(т). Потвержаетъ то Златоустый Стый, тыми словы мовячи"...

„СЛУЖЕБНИКЪ". Вiльня 1638 г., ў 8-ку (у Сахарава: in quarto), 4+166(?) лiстоў. (Ундольскiй).

ПСАЛТЫР. Еўе, 1638 году, ў 8-ку, 11+256 лістоў. Друкаваны гэты Псалтыр у двох мовах: ц.-славянскай і польскай (готыцкімі літарамі) Выкананы быў для княгіні Друцкай-Сакалінскай.

Славянскі тэкст Псалтыра зьяўляецца перадрукам Фіолеўскага, друкаванага ў Кракаве ў 1491—93 г.

Перадрукі Фіолеўскага Псалтыра былі дакананы ў 1599 г. ў Астразе, ў 1626, 1628, 1635, 1642, 1650, 1652 і 1657 гг. у Маскве, ў 1638 і 1642 у Еўі, ў 1643 у Кіяве. Ад 1658 году ў Масковіі друкуецца ўжо гэты Псалтыр с папраўкамі Нікана.

„СЛУЖЕБНИКЪ", Еўе, 1638 г., ў 8-ку, 2+166+296 і 12 лістоў. (Ундольскій).

„ТЕСТАМЕНТЪ ЦАРА ГРЕЧЕСКОГО ВАСИЛІЯ". Друк Сьпірыдона Собаля ў Магілеве 1638 г., ў 12-ку, 92 лісты. Пераклад з грэцкага. Крыўскі тэкст гэтага выданьня другі раз быў друкаваны ў кнізе „Лѣкарство на оспалый умыслъ чоловѣчій". У 1680 годзе, ў пераклaдзе на ц.-славянскую мову, са стара-крыўскай перадрукавана ў Маскве, ў 8-ку, і тагож, 1680 г. ў Кіяве.

„ДЫШКУРСЪ ЖЫДОВИНА ЗЪ СКОМОРОХОМЪ". Одпіс гэтай цікавай сатыры атрыманы мной ў 1912 годзе, ад вучыцеля полацкага кадэцкага корпусу, аматара старасьвеччыны І. І. Іванова, які перапісаў яго ў Полацку з рукапісу першай палавіны XVII ст.

Зьмест сатыры такі: Вынікла спрэчка паміж жыдамі і хрысьціянамі аб тым, чыя лепшая вера. Пастаноўлена было зрабіць публічны „дышкурс" на які хрысьціяне павінны паслаць свайго прадстаўніка, а жыды свайго. Хто каго перадыспутуе ў тую веру і павінны ўсе перайсьці. Манахі паслалі на гэту дыскусію скамароха, а жыды свайго вучонага:

> „А мелъ же той жидовинъ бороду барздо велику и голову лысу, И стал, он жидовски философъ, здаля и выставилъ одинъ палецъ до скомороха на знакъ же одинъ есть панъ Бог въ небе. Бачечи тое помыслилъ собе скоморошецъ, же жидовинъ, ему, скомороху, хочеть око выбодати, то онъ прудко показалъ два пальцы, думаючы собѣ: што, коли, ты жидовине, поважишсе на мое одно око, то я тобе обое твое очы выколю. И так обадва они зошлися разом. И зробилъ жидовски(й) философ знак же udараеть скомороха поуху, мовечы: Слухай хрысьтиянски философе: В вашой вѣре пишуть: а коли тя хто ударить по поличку, подставъ ему и другии поличокъ. И мовилъ ему скоморохъ: В нашей вере пишут такҗе: яко вамъ чинять люди, тако чынѣте и вы имъ. И ударилъ скоморохъ жидовина поуху. И рече скомороху жидовинъ. Отгадай ты философе загадку: курыца од яйца походить ти пакъ яйцо одъ курыцы. А скоморохъ той знялъ з жыдовина шапъку и ударилъ его долонею по лысине мовячы: отгадай ты философе жыдовскии зъ яковое причины такъ крѣпко треснуло теперъ, отъ руки моея ти пакъ отъ головы твоей. И мовить жидо-



Сярэбраная рэпусаваная аправа да Евангельля, віленскай работы XVII ст. Беларускі музэй у Вільні.

винъ скоморохови: покинемо загадки а лепей поличемо святцы года целого: у кого будеть болей святцевъ въ году, того и вѣра лепшая. Добрѣ, мовилъ скоморохъ, дай напродъ поличемо святыцы въ моей вѣре, а для певности рахунку я буду изъ твоей бороды вырывати за кождое свято по волосу, а ты будеш вырывати у мене волосы рахуючи свое святы. И мовилъ жидовинъ, добре. Слухай же жидовине, мовить скоморох. Въ нашей вѣре хрестиянской початокъ всемъ святам, свято Коляды або Рожство Христово, да у жидовина того волос вырвал. А на други день Рожства Христова свято у нас припадаеть Собору Пресьвятыя Дѣвы Богородицы, да у жидовина того волосъ вырвалъ. А на третей день першого мученика за вѣру хрестиянскую архидиякона Стефана, да у него волосъ вырвалъ. А на четвертый день двехъ тысещ мучениковъ и зловилъ жидовина за бороду обедвома руками и выторгнулъ у него мало не всѣ волосы. А на пятый день побитыхъ отъ Ирода цара въ Бетлегеме 14.000 малолетокъ, и вырвалъ у жидовина послѣдние волосы, якия зостали. Жидовинъ же не утерпелъ стояти и побеглъ прудко од того скомороха. Тако был посоромоченъ онъ философъ жидовский отъ скомороха“.

Гэта сатыра зайшла, праўдападобна, з Баўгары і ад нас была перанесена ў Масковію. Курсавала яна ў Полацку, мабыць, сярод студэнтаў тутэйшай езуіцкай Акадэміі.

„БРАШНО ДУХОВНОЕ, сирѣчь Псалмы, молитвы, пѣнія, благодаренія, и каноны и прочая, отъ многихъ святыхъ книгъ собранныя, зело нужныя и душеполезныя“. Друк у Кутэйне (каля Магілева), ў 1639 годзе; 4-ка, 4, 126, 103, 383 і 55 лістоў.

Другое выданьне гэтай кнігі адціснута манахамі Кутэйнскага манастыра, вывезенымі, разам са сваей друкарняй, у Уверскі манастыр:

„въ монастырѣ общежительномъ Иверскомъ, иже на святѣ озерѣ (при Валдаяхъ) въ строеніи святѣйшаго Никона Патріарха“.

„СЛУЖЕБНИКЪ“, друк. ў Вільні, 1640 г., у 8-ку. (Ундольскій).

„СЛУЖЕБНИКЪ“, друк. ў Вільні, ў друкарні Сьвятадухаўскага манастыра (Wiszniewski, „Hist. L. P.“, т. VIII, б. 410). Ці ня ёсьць гэта тая самая кніга, што паказана ў Сахарава пад 1638 г. № 365, або пад 1640 г. № 393? (Гл. „Хронологическ. указатель“ Ундольскага, балона 60 № 488).

„СЛУЖЕБНИКЪ“, друк. ў Вільні, 1641 г., у 8-ку, (Ундольскій).

„НОВЫЙ ЗАВѢТЪ“ с Псалтыром на пачатку. Вільня, 1641 г., друкарня Сьвятадухаўскага манастыра, ў 8-ку, 4+104+4+450+28 ліст. (Ундольскій).

„НОВЫЙ ЗАВѢТЪ“ с Псалтыром на пачатку. Еўе 1641 г., ў 8-ку, 8+450+28 (Каратаев).

„SIEŃKO NALEWAYKO Poučžycielowi Saskiemu Pouczenie o Hreczysie, Pryjatelskoie posyłaiet“. (Карскій, „Бѣлоруссы“, т. III). Гэты адрывак сатыры, напісаны нейкім каталіком с прычыны прыезду ў Вільню вованазначанага лютэранскага пастара, які ў першым сваім казаньні даў некалькі цытат у грэцкай мове. Уся сатыра мае гэткі агаловак:

„Witanie na Pierwszy Wiazd z Krolewca do Kadłubka Saskiego Wileńskiego Ixa Her N. Lutermachra“.

Надрукавана яна ў 1642 годзе ў Вільне, хоць на агалоўку паказана „w Witembergu“. Крыўскі адрывак гэтай сатыры, вітаньне прыбыўшага пастара, ўкладае ў вусны Сенькі Налевайкі.

Vžož heto po lichu Sasy podureli,
Koli nam tut hreczychu vsieńku odnieli.
Ochci mnie po Hreczesku brusisz wielmi mnoho,
A sztob tobie daw w hubu nietucie nikoho.
Prydet na tia Mohiła szto y horsz vmiejet,
Koli tolki hreczycha nowaja pospiejet.
Skupawšiab ieš w Nieglennej, zabywsieb skohliti,
A z Saska po hreczesku dumno hlaholiti.
Odrekbyš sia Lutra y biesa samoho,
Pobywszy v Cara związan Moskowskoho
Da y v nas Dutka iešč y Zolud wieliki,
Dionyzey, Dorohfiey, vmieiut laliki.
A w Kiiewi tma ludey so wsiemi świateami
Vpierod hutoryli z starymi hrekami:
Da czy dietko tebe daw wsio nam odbieraiesz,
A Niemca wžo zabywszy po hrecku ihraiesz:
Y tak nudno v Troycy na obraz hladeti,
Po hreczesku podpisan, nelza zrozumieti...
Vczasiew ty poczawszy brazgać po hreczesku,
Da koniec poucženia prydaw ieš po czesku.
Naydem na tia sukin rod inszy iazyk w wodie,
Po siekiersku hłahołat budiesz w tom cholodie.
Tiaszko nam y z Lachami, a horsz z Vnitami,
Ižtob Cerkewi nie vzieli dobrymi prawami,
A wy pak nas nudite iak my leretycy,
Albo kak Lachi zowut sami Schizmatycy.
Nie twoim łysy biesie nosom zaczynaiesz
Woynu z nami: a z Lachi za toho poznaiesz,
Y kisiel kułažyn syn *) ach nabrawsia pudu,
A ty reczesz požadawszy hdie ia lutro budu.

Захаваліся два экзэмпляры: адзін у Петр. Публ. бібл., другі ў бібліатэцы Варшаўскага унівэрсытэту.

*) Ігра слоў: бацькам кісеяя зьяўляецца тут страва—кулага.

„ДІОПТРА, альбо зерцало и выраженіе живота людского на семъ свѣтѣ“. Вільня, 1642 г., 4-ку у 8+342+64 лісты. (Ундольскій).

ДІОПТРА, Еўе, 1642 г., у 12-ку, 8+342 лісты (Ундольскій).

„ИРМОЛОГЪ“, Еўе, 1642 г., у 12-ку, 1+166 лістоў. (Ундольскій).

„ПСАЛТИРЬ“, Еўе, 1642 г., у 12-ку, 246 лістоў. Перадрук Фіолеўскага выданьня.

„ПСАЛТИРЬ“, Кутэйнскі манастыр, 1642 г., у 8-ку, 6+238 лістоў. (Ундольскій).

„ТРЕБНИКЪ“. Вільня, 1644 г., у 4-ку. (Ундольскій).

„ЕВАНГЕЛІЕ НАПРЕСТОЛЬНОЕ“, Вільня, 1644 г., у ліст, 8+300 лістоў. (Ундольскій).

„ЕВАНГЕЛІЕ“, Еўе, 1644 г., у ліст, 8+300 лістоў. (Ундольскій).

„ЧАСОСЛОВЪ“, Еўе, 1645 г., у 8-ку. (Ундольскій).

„СЪБРАНІЕ КОРОТКОЙ НАУКИ О АРТИКУЛАХЪ ВѢРЫ ПРАВОСЛАВНОКАѲОЛИЧЕСКОЙ ХРИСТІЯНСКОЙ ведлуг вызнаня и науки церкве ст. восточнои соборной апостолской для цвѣченя и науки всѣмъ въ школахъ ся цвѣчачимъ христіянскимъ православнымъ дѣтемъ. За росказаньемъ и благословенством старших первѣй языкомъ полским, а теперъ діалектомъ рускимъ зъ друку выданое“.

Друк па польску і старакрыўску. Кіяў, 1645 г., у 8-ку.

На кіяўскім саборы 1645 г. было пастаноўлена апрацаваць і выдаць друкам праваслаўны катэхізм; працу гэту даручылі аднаму з вучыцялёў Кіява-Магілянскай акадэміі—Ісаі Казлоўскаму-Трахімовічу. Казлоўскі, даручаную яму працу, выканаў надзвычайна добра, так, што яму надалі за яе тытул „першага рускага доктара багаслоўя“. На чародным кіяўскім саборы, пры учасьці дэлегатаў ад усіх эпархій, быў гэты катэхізм прагледжаны і пераслаты на зацьверджаньне Канстантынопальскаму патрыярху. Патрыярх, у свой чарод, перадаў катэхізм Казлоўскага на абмяркаваньне праваслаўнага сабору ў Яссах, які, спраўдзіўшы яго, паслаў на зацьверджаньне ўсім чатыром патрыархам, якія, ў 1643 годзе, прынялі яго як аснову праваслаўнай веры, для ўсяго праваслаўнага сьвету. У Кіяве, ў 1645 годзе, гэты катэхізм быў выданы ў скарочаньні, мовай старакрыўскай. Па славянску, поўнасьцю, надрукаваны ў Маскве, ў 1649 годзе, і па грэцку—ў Амстэрдаме, ў 1662 годзе.

Ісая Казлоўскі-Трахімовіч паходзіў з Гарадзеншчыны, з аколіц Дзятлава. Вучыўся ў віленскіх школах разам з Сыльвэстрам Косавым. Вышэйшыя навукі праходзіў у Любліне і Замосьці, а также на заграмічных унівэрсытэ-




Відак гораду Магілева ў XVII ст.

тах. Па скончаньні навук быў вучыцелям у Львоўскай брацкай школе, адкуль пераехаў у Кіяў. Ісая Казлоўскі—правая рука Пятра Магілы і адзін з галоўных стаўпоў кіяўскага навуковага кружка, т. зв. „Магілянскага Атэнэума“.

„ПОЛУУСТАВЪ ВЕЛИКІЙ“, Вільня, 1646 г., у ліст, 5+222 лісты. (Ундольскій).

„ПОЛУУСТАВЪ“, Еўе, 1646, друк інакаў Сьвятадухаўскага брацтва, ў ліст, 5+222 лісты. (Ундольскій).

„ШЕСТОДНЕВЪ“ (Актаік), Кутэйна, 1646 г., у 4-ку, 2+290 лістоў. (Ундольскій.)

„ТРЕБНИКЪ“, друк. у Магілеве, 1646 г., у ліст. (Ундольскій).

„ПЕРЛО МНОГОЦѢННОЕ“ Чарнегаў, 1646 г., у 4-ку, 8+172 лісты. Апрацаваў гэту кнігу Кірыла Транквіліон.

З ліку кніг, надрукаваных у Чарнегаве і Новагорадку Северскім, мы памяшчаем толькі тыя, якія былі друкаваны крыўскай мовай. Хоць слушна залічаць у нашу пісьменнасьць усю прадукцію гэтых друкарань, бо, папераеш,

заснаўцамі северскіх друкарань былі крывічы, прыкладам Черегаўскую друкарню угрунтаваў нехта Лукаш з Вільні (гл. „Akademia Kijowo-Mohilanska" Ябланоўскага, Кракаў, 1900, б. 204). У дадатку, каля Чарнегава і Новагорадка Северскага, пасьля Андрусаўскага міру, групаваліся праваслаўныя эмігранты крывічы, якія адгэтуль шырылі свае друкі і ідэі на захад,—на Магілеў, Вітабск, Менск, Вільню і Горадню.

„ПРОЛОГЪ". Рукапіс XVII ст., Румянцаўскай бібліатэкі, па апісаньню Вастокава №CCCXXV; зьмяшчае ўсе 12 месяцаў—ад верасьня да канца жніўня. Акром жыцьцёпісаў сьвятых і апавяданьняў аб сьвятах, памешчаны тут, як і ў ц.-славянскім Пралогу, рожныя павучаючыя апавяданьні, повесьці і прыклады. Між апошнімі памешчаны апавяданьні і з навейшай гісторыі, запазычаныя з заходна-эўропэйскай пісьменнасьці, прыкладам на 556 лісьце, пад днём 22 сакавіка, маецца повесьць:

„О млоде(н)ци которо(й) для неучтивости родичовъ и грѣху вшетечного взлую смр(ть) пришо(л)".

У жыцьцёпісе князя Валадзімера зьмешчаны цікавыя ведамкі аб Варагах:

„Варакгамі на(з)ваны былъ наро(д) водлугъ Стріковского све(д)ки, а то от моря которое москва зове(т) варе(ц)ким морем а то море швецыю олівает и дуна(й) инфлянты. Гідрокрапове (г. зн. гідрографы) то море называю(т) Балтікум море того(ж) кронікаре мнѣманя и та(к) о тым народе, же в па(н)ствѣ санхон(с)кого кня(жа)ти межи влоскою и фра(н)цу(з)коюю зе(м)лею е(ст) зем(л)ица на(з)вана варякга, если(б) тогды с палкгемоном до лс(т)вы с та(м) то(й) зем(л)ицы кнжата и люде пріже(к)глевали до своеи зе(м)ли варакгамі се почалі зва(ть). А потом ро(з)маите инку(р)сые на рускую зе(м)лю чинілі наве(т) за першого разу кнжатъ отъ ніхъ руріка сіналіефа и туворя на панство до себе ру(сь) затягнулі за(сь) нши рускія кройнікі о тых варагахъ выводу досконалшого не выдаю(т)".

„ТРЕФОЛОГІОНЪ", Кутэйна, 1647 г., у 4-ку, 4+390 ліст. (Ундольскій).

„О ДВОРѢ ТУРСКОГО СУЛТАНА". Аўтор гэтага апісаньня двара і абычаёў турэцкага султана—Сымон Старавольскі, сын праваслаўнага шляхціца. Вучыўся ў кракаўскай акадэміі, а пасьля ў Нямеччыне, Галяндзіі, Францыі, Італіі і Гішпаніі як слуга-таварыш маладых князёў Астрожскіх. Па сконьчаньні навук працаваў у канцэляры гэтмана в. кн. Літоўскага Кароля Хадкевіча. Пасьля 1637 году служыў у войску, ўрэшце, будучы каталіком, прыняў духоўны стан і быў канонікам кракаўскім. Памёр у 1656 годзе. Прызнаваў сябе „з роду русіном па націянальнасьці палякам". Пісаў многа па польску, але не чураўся також і роднай мовы „рускай". Езьдзіў у Турцыю да султана паслом ад рэчыпаспалітай і пакінуў цікавае апісаньне турэцкага двара. Агульна апінія утрымлівае, што апісаньне турэцкага двара было напісана па польску, а толькі пазьней пераклад зроблены на старакрыўскую мову, але ня выключана, што адзін і другі тэкст пісаны самім аўторам. Рукапісаў апісаньня турэцкага двара, пісаных кірыліцай, захавалася некалькі, старэйшы з іх датаваны 1649 годам (пасьля 1678, 1685).

Пробка мовы:

„Царове турстіе не перестерегають того, иж бы жоны свое брати мели зъ домовъ шляхетныхъ королевскихъ, яко то чинять иншіе монархове, зажъ выбирають ихъ собѣ зъ помежи полонянокъ, которыи имъ ся подобають, ибо много женъ мевають, не одну. Повторе не бачать на то якого естъ народу либо языка, и якое вѣри албо релеи, толко абы гладка а красна была, а его очомъ ся подобала, бо собѣ за найболшую шчастливость роскошъ телесную почитають, которую имъ плюкгавы пророкъ ихъ Махметъ въ Алькоране своимъ наказуеть, яко же той ихъ пророкъ Махметъ зъ натуры своее склоненъ до всякое нечисти. Протожъ скупують, албо на войнахъ имуть, а у подданыхъ кгвалтомъ берутъ панны што можно найобычайнѣйшіе (яко и теперъ Канею опановавши, паша выбравши паненъ што найкраснѣйшихъ сто, послалъ въ даръ царю, зъ которыхъ одны будуть служебными у султанокъ, а другіе, што ся подобають старой пани, преложоной над дѣвками, будуть ховатися до ложа цесарского)".

„ФУНДАМЕНТЪ МАКСЫМЫ ФОРТЫФИКАТЫЙНОЙ". Рукапіс Петр. Публ. бібліатэкі XVII ст., у 4 ку, 236 лістоў. Апісаны Н. Обручевым („Военный журналъ" 1835 г. № 5).

Фортыфікація не выкладаецца ў рукапісе як сыстэматычная навука, яна зьмяшчае ў сабе мешаніну агульных правіл, датыкаючых, як вайскоўа-інжэнернай творчасьці, так і дзейнасьці войск у полі. Відаць імкненьне аўтора (чы аўтораў) надаць пэўны парадак зьместу і прыдаць вывадам навуковую форму. Відаць шырокае карыстаньне чужаземнымі крыніцамі, што выявілася ў тэрміналёгіі: сустрачаюцца цѣлыя артыкулы перакладзеныя з чужаземных моваў на крыўскую, прыкладам аб профілях.

Пачынаецца „Фортыфікація" выкладам агульных асноваў навукі умацаваньня месц. У гэтым прыпадку паняцьці ў слаўных продкаў нашых былі зусім здаровыя, ім добра ведамы правілы выбару мясцовасьці для крэпасьці і правілы распалажэньня іх, яны ўжо разумелі карысьць даць крэпасьці палажэньне, каб яна магла абараняць са ўсіх старон подступы да яе, але пабудова патрэбнага для гэтага фронту, ім яшчэ невядома.

Далей ідзе вялікі, цалком перакладзены, артыкул аб профілях, які дае лёгка зразумелыя правілы збудаваньня крэпасных сьцен і валаў, пры чым абасноўваецца ўсё не на матэматычных аблічэньнях, а на чыста практычных вывадах.

Паняцьце крэпасьці даецца гэткае: „Фортэція есьть месцо, окруженое долами, рампарами бальярдами, въ которым месцу можно з малым людомъ" абараняцца супроць ворага.

Фортыфікація дзеліцца на дасканальную і недасканальную; да першай належаць правілы будаваньня украпленьняў (фортэцій) на роўнай мясцовасьці, да другой—фортэціі, гэтым вымогам не задавальняючыя. Рукапіс тлумачыць, што недасканальнасьць фортыфікаціі вынікае ці ад фігуры, ці ад ліста (плану) „которое маеть фортыфіковатися". Ад фігуры залежыць недасканальнасьць у тым прыпадку, калі бакі, ці куты, няроўныя, ад ліста-ж калі „няроўнасьць таго месца перашкаджае зрабіць куты ці бакі роўна".

На гэтым і канчаецца падзел фортыфікації на дасканальную і недасканальную.

Далей апісываецца абарона крэпасьці, г. зн. што патрэбна для скутэчнай абароны, як разьмяшчаюцца войскі, і якія робяцца запасы для абароны.

Затым надта здалёк пачынаецца апісаньне аблогі крэпасьці. Апісываецца падгатоўка войска да выступленьня ў паход, аб тым, як яно ідзе ў часе паходу, скрываючы сваё пасуваньне наперад, каб вораг ня мог прыгатавацца да абароны; як войска перамагае перашкоды, спатыканыя ў дарозе. Аб пераходзе праз рэкі гаворыцца: „зробяцца на іх масты з чаўноў, якія возяцца на вазах, каб магла перайсьці армата бяз шкоды“, г. зн. і тады ўжо істнавалі пантоны для накладаньня мастоў. Але вось, ўрэшце, перамогшы ўсе перашкоды, войска зьяўляецца пад фортэцыяй ці горадам і перад ім паўстае пытаньне: як захапіць фортэцію. Для гэтага прапануюць браць адкрытай сілай, калі можна захапіць яе, дзеля нягоднасьці сьцен ці нязгоды ў гарнізоне. Але калі-б захапіць фортэцію адкрытаю сілай неўдалося, тады трэба дабываць яе „per la via a metodica“ г. зн. шляхам правільнай аблогі. У апошнім здарэньні радзіцца сьцясьніць абараняючагася пры дапамозе „forti di kampanieja“, г. зн. палявымі украпленьнямі, не дазваляючымі абложаным выхаду з фортэціі за харчамі і пошырам, каб выклікаць у гарнізоне голад, а праз яго і здачу. Пасьля разглядаецца капаньне „падступных шанцаў“ устройства батарэй для аблогі і дзейнасьць з іх.

Пасьля гэтага аўтор дае рады ўжо абараняючымся, прапануе ім шэраг спосабаў, якія карысна ўжываць проціў ворага і радзіць лістамі, адозвамі і дзейнасьцю агентаў падбурыць мясцовых жыхароў і, стварыўшы з іх войска, напасьці на аблягаючых, чым, па яго разуменьню, можна прымусіць іх зьняць аблогу.

На гэтым канчаецца тое, што належыць толькі да фортыфікації. Далей ідуць думкі аб „бітвах ваенных“, не пазбаўленыя цікавасьці. Пасьля агульных, кароткіх радаў апісана, які павінен быць склад войска і яго ўзброеньне, затым акрэсьляецца самы бой; „бойка ваенная ёсьць множства узброеных гвалты дзеячых і праганяючых, ўзаемна сьціраючыхся“. Бітвы дзеляцца на дробныя і „енэральныя або ўсецэльныя“.

Наступаючыя бітвы бедны правіламі. Затое абаронныя—разабраны дэтальна і лепш.

Канчаецца гэты цікавы рукапіс артыкулам „аб капітуляціях“ дзе апісаны варункі здачы войска.

ЗБОРНІК XVII СТ., Румянцаўскага музэю СССXXIII. (па Вастокаву). Зьмяшчае найбольш казаньні і повесьці с Патэрыкону, ў большасьці на крыўскай мове.

л. 1. „выклад млтвы“: „господи ісусе хрысте боже наш“.

л. 2. „выклад млтвы отче нашъ“.

л. 8. „обясненіе изложенія никейскаго и константинополского сумволу двунадесяти артыкулов вѣры хрстіянское“.

л. 16. „вызнанье вѣры стго аѳанасія архіепспа александріи".

л. 19. „слово генадія патріархи константинополского о вѣрѣ".

л. 148. жыцьцёпісы: сьвятамучаніка Клімапта, Іоанна Колібніка, Паўла Ѳивейскага і др.

ад л. 224 і 272-га казаньні на крыўскай мове.

На 248 лісьце „наука на днь стаг бжественного преображенія гспда нашего іса ха", якое папяраджае Евангельле на гэты дзень у крыўскай мове:

„Оного часу взялъ іс петра иакова и Іоанна брата его и възвелъ ихъ на гору высокую особно и премѣнился пре(д) ними. И просвѣтилося лице его яко слнце шаты же его стали яко свѣтъ: а ото оуказался: Моисей, Ілія, розмовляючи знимъ. тогды петръ рекъ до іса гсди добро намъ те(ж) ту(т) быти: оучинѣмо ту(т) собѣ три прибы(т)ки: тобѣ едину, Моисеовы едину и Іліи едину: а онъ того еще домовляе(т). А ото оболокъ свѣтлый огорнулъ и(х); и стался голосъ зоболока мовя(ч): то есть снъ мой оулюбимый вкоторомъ собѣ добро оулюбилъ того слухайте; слышачи тое оучнцы оупали на облича свои и барзо полякалися: потомъ приступилъ Гдь и доткнулся ихъ и рекъ имъ: востанте, и небойтеся: а они по(д)несши очи свои нѣкого не видѣли, едно самого Іса. А когды зходили з горы, оуказался имъ ісъ мовячи: нѣкому не повѣдайте видѣнія того, и(ж) снъ члвческій из метвы(х) востане(т)".

„ПСАЛТИРЬ", Кутэйнскі манастыр, 1650 г., у 4-ку, 2+262 лісты. (Ундольскій).

„ДІОПТРА, или зерцало живота во мірѣ семъ человѣческого". Кутэйнскі манастыр, 1651 г., у 12-ку, 8+342+64 лісты. (Ундольскій).

„ЕВАНГЕЛІЕ УЧИТЕЛЬНОЕ", Вільня, 1651 г., у ліст. (Ундольскій).

ІНТЭРМЭДЗІЯ 1651 ГОДУ, па рукапісу Пылінскага з Горадні. Пераховуецца гэты рукапіс ў Петр. Публ. бібл. (Польск. Q. XIV. 18). Інтэрмэдзія памешчана як ўступ (accessus) да „Comedia de Iakob et Ioseph Patriarchis". Зьмест яе гэткі:

Accessus:

*Iwan.* Panowie, szto to za dzieło budut tut dzielaci,
Czy swadźbu na mieyscu siom buduć skakaci.
*Aulicus.* Ia wiem, lecz tobie darmo nie powiem Iwanie.
*Iwan.* Proszu ciabie, skaży mnie, miłościwyj Panie.
*Aulicus.* Jeżeli chcesz, żebyś co się tu dziać będzie wiedział,
Potrzeba, na pytanie byś mi odpowiedział.
Naprzód czemu żydowie kozy radzi jedzą,
Bo tajemnice pewnie te ludzi nie wiedzą.
*Iwan.* Baćko tak moy kazywał, ciwun wielmi zaczny
I z nauki chłubokiey [1]), vsim mużom znaczny
Byw ion wielmi czużiemu [2]), wielmi nauczony,
I po wsiom naszym siele naukam ustawiony.

[1]) Тут літарай *ch*, перададзена крыўскае *г*. [2]) у арыгінала гэтае слова не разборчыва.

Vmiew ion hanbiecadlo, panowie, caloje,
 Iak ruskoie, tak też mudreysze lackoie.
Tot' bywało on o tom hetak ludziom każeć,
 Chdy spytaiuć, czamu żyd kazinu wielmi iadaieć.
Koli Boh miłościwy twarzyw świat z niczoho,
 A czołowieka czyniw z chliny mizernoho,
Na wsie inney rzeczy rok chwiat [3]) tworaczy,
 A bies [4]) się przypatrował Hospodu stoiaczy.
Chciel bies sobie vdziałaty podobnoho zchoła,
 Nie znaiucze, szto sowa nie rodzić sokoła,
Chociew mowić Panskoho chwiat naśladuiąc,
 Ale wymowiw: chwik, chwik! aszno wyskakuiąc,
Vyrzał [5]) kazu z rohami y z chwostom wielikim.
 Chocieczy sie prychledzić prymiotom vsiakim,
Vniał kazu za iey chwost; kaza kak szalona,
 A znać iego rohami była postraszona,
Z wielikim pudem na płoty wysokie skoczyła,
 Ale iemu [6]) swoy chwost w rukach zostawiła.
Wiedaiesz ciapier, czom kazy bies chwostow swych chodziu(ć)
 A kozlata czemu od nich takie rodziu(ć).
I dla teho rodzi iesz kazynie żydowie,
 Bo tak nieboszczyk kazaw baćko moy, Panowie.

*Aulicus.* Nie pleć, chłopie, żadne nie może z niszczego
 Vtworzyć nic stworzenie procz Boga samego.
Odpowiedź że na drugie, chłopie, me pytanie,
 Ieżli chcesz wiedzieć na co ludzi to zebranie:
Co iest Bóg i co iest Vniia chwalebna
 I wszystkim odszczepiencom bardzo iest potrzebna.

*Rusticus.* Boris iest świetoho Mikuly brat; y kolip Boh nie byw Bohom, tob śviety Mikuła byw Bohom, a Vniia iest Preczystoi rożonaia siestra. Tak moy Baćko nieboszczyk staroiey wiery kazaw.

*Aulicus.* Nie mów takich słów, chłopie, bo Bóg nieskonczony,
 A święty zaś Mikolay był człowiek stworzony.
Vniia ziednoczenie iest wiary prawdziwey,
 Lecz nie iest siostra Panny nad wszech dobrotliwey.
Na teś rzeczy nie trafił, chłopie, odpowiedzieć:
 Lecz iescze tego chcę ia od ciebie dowiedzieć:
Iako rozumiesz, chłopie, czyja lepsza wiara,
 Powiedź mi, bo inaczey weźmie cię poczwara,
Iak cię kiedym [7]) obłożę kiiem podle ucha,
 Że mi przyidziesz do śmierci do dobrego słucha.

*Rusticus.* Dobra nasza wiera Vnitickaia, da taki praudu mowiaczy lepsza Lackaia, ta y koniackaia [8]) Bo szczo Lach abo Vniat, to Panok, a szczo Vsmatyk, to mużyk ladaszczo, da sztosz taki dobro posięku [9]) szapka. Mużykom dobraia mużyckaia wiera, sobaka zieść y bies soli; staraia wiera nasza—prawda to,—da y czort że nie mołody, da taki biesu schodzi się, modliw sia dowcho Bohu, da y żyd molit' się da taki biesu choditsie[10]).

---

[3]) Лацінск. fiat: [4]) Бнэс—дыфтонг. [5]) Vyrzal—убачыу. [6]) У арыгінале: szewni. [7]) Нечытэльна у рукапісе: „...dym". [8]) Праудападобна „kozackaia". [9]) Па Сеньку. [10]) Годзіцца.

*Aulicus.* Jużeś prawdę powiedział, wiedzieć będziesz zaraz,
co się na tym theatru będzie działo teraz.
Będzie tu komedia o świętym Iakobie
I o iego iedyney Iosephie ozdobie,
Iako od swoich braciey był w Aegypt przedany,
Iako potym w Aegypcie był od nych poznany.
*Rusticus.* A czy budziet' że czort z rohami?
*Aulicus.* Będzie i ten, bo bracia na Iozepha wzbudzić.
Będzie starał, oyca do smutku pobudzić.
*Rusticus.* A tut chto?
*Daemon.* A woś ia bies sysmaticki syn.
*Rusticus.* Idź że, czorcie, do mienie do Biesa.
*Daemon.* Ia ciebie lublu.
*Rusticus.* Da ia ciabe nie lublu.

У рожных старасьвецкіх, пераважна польскіх, зборніках, захавалася шмат усякіх школьных сцэнічных твораў, якія пісаліся вучыцелямі рыторыкі ў езуіцкіх і другіх школах у XVII—XVIII ст. Гэты творы пісаны пераважна на польскай і на лацінскай мовах, але ў некатарых з іх устаўлены аддзельныя сцэны, дзе на сьмех публіцы, выводзіцца крыўскі сялянін, які гаворыць „простай“ мовай. Гэты сцэны для нас цяпер вельмі цэнны; яны сьведчаць аб жывой крыўскай мове і яе асобнасьцях у XVII і XVIII ст. Побач з гэтым даюць яны матэр'ял да асьвятленьня поглядаў, забабонаў і інтэрасаў тагочасных народных масс, а такжа стасунку вышэйшых кляс, іх поглядаў і стасунку да простага народу.

Выведзеныя ў гэтых сцэнічных творах крыўскія сяляне паказаны ў карыкатурнай постаці: яны невымоўна глупы, някемлівы, забабонны, грубы, але не пазбаўлены гумару, хітрасьці і разуменьня культурных варункаў тагочаснага жыцьця, а такжа стасункаў паміж паасобнымі станамі і асобамі тагочаснага грамадзянства.

Што датыча іх мовы, то яна сходна с цяперашняй народнай крыўскай мовай, але ў кніжнай шмат полёнізмаў, а часам сустрачаюцца і украінізмы, што ведама залежала ад веданьня народнай мовы аўторам, які пісаў сцэну.

Усе інтэрмэдзіі і паясьненьні да іх, мы перадруковуем с праф. Карскага, („Бѣлоруссы“, т. III), які сьпісаў іх беспасярэдна з арыгіналаў. У прыведзеным уступе, сялянін Іван (Iwan rusticus) на два першых пытаньні дае задаваляючыя адповедзі. Пачуўшы аб казе, ён апавядае легенду, якую ведаў аб стварэньні казы чортам і пры гэтым увага зьвернута на яе кароткі хвост і часьцю на рогі, якія бытцам сходны с тварцом яе, чортам. На пытаньне аб Богу і уніі Іван адпавядае неўпатрап, але згодна народнаму выбражэньню аб Міколе, як аб найбольш чцімым сьвятым. Пасьля тлумачэньня, дадзенага сторажам (Aulicus), сялянін адпавядае на пытаньне, якая вера лепшая. Добрай аказуецца уніяцкая, а яшчэ лепшая ляцкая—каталіцкая,—адповедзь згодная з вымогамі тых часаў.

У гэтай аповедзі годна увагі, што на раўне з ляцкай, як верай паноў, сялянін заікаецца і аб веры „koniackai“, г. зн. казацкай, якая на яго разу-

меньне стаіць у грамадзкай герархіі вышэй ад ягонай „старой веры". Гэта так сама не разьвітая адповедзь, згодная з вымогамі тых часаў.

„INTERMEDIUM DE SCHYSMATICO ET VNITO CATHOLICO". Рукапіс 1651 году Пылінскага, з Горадні (ліст 18); пераховуецца ў Петр. Публ. бібл. (Польск. Q. XIV. 18).

Інтэрмэдзія напісана прозай. Гавораць аб уніі сторож Іван і праваслаўны сялянін (Schismaticus). Перавага, вядома, на старане уніята, але і праваслаўны адпавядае даволі спрытна.

*Vnitus*. Wielmi tebie lublu, moy miły susiedzie, kak harczyca miod; choczu sztob ieś byw v niebie, hdzie słasno, hdzie choroszo, hdzie mudro, a tak zostań woniatem, bo uoniackaia wiera swietaja, hłubokaia charoszaia.

*Schismaticus*. Szto howorysz, iak kozioł na wodu chledzieczy; ieżeli wasza wiera y wysoka y hłuboka, a chren że ieye dosiachnieć; ieżeli siaia wiera świetaja, to nam hresznym do nieie się nie prystupić.

*Vnitus*. Szto siak wyskiapau sia na wieru światuiu [1]), zaraz tebie pocznu kiiem tesaty y tak sobiu kak horkoie iabłoko, nia pleci kaszelow, Hawryło durniło: wiera nasza dobra, bo Bohu luba, ludziom spasiennaia...

Пасьля гэтага, сторож уніят пужае Івана пякельным агнём, ад якога збаўляе уніяцкая вера. Падносіць запаленую сьвечку і кажа:

*Vnitus*. Oś pokosztuy palcem, czy smaczen ohoń.

*Schismaticus*. Oy, lele! Pro—Boh bolit', do duszy ż bolit', budu woniatem, iesli wonia od piekła boronit?

Перажаргаванае „унія" па „wonia" „woniat", паказуе, што ў гэтае слова аўтор укладаў ушчыплівы зьмест у стасунку да уніі, якую пропагаваў толькі для мужыкоў, каторыя здаўна ў „асьвечаных" станах мелі пагардлівае мяно „смэрды". „Voniat", знача той самы даўнейшы „смэрд", з яго „woniackai", мужыцкай верай. Гэткі быў істотны стасунак каталіцка-езуіцкіх кругоў да уніі і уніятаў. Дзякуючы такому погляду на унію, прышчаплянаму ў езуіцкіх школах шляхэцкай моладзі, гэта апошняя або пераходзіла ў каталіцтва, або ўцякала ў Січ да казакаў змагацца за „старую веру".

„КНИГА ГЛАГОЛЕМАЯ кройникъ сирѣчь собраніе отъ многихъ лѣтописецъ, отъ многа мала, от Бытіи о сотвореніи мира, и от прочихъ книгъ Моисеовыхъ, и от Іисуса Наввина, и от судей Іюдейскихъ, и четырехъ царствъ Ассирійскихъ. Тамже о Александрѣ Великом, о Римскихъ; о Еллинскихъ и о Греческихъ благочестивыхъ и правовѣрных царѣхъ, о Россійских и о Литовскихъ господарствахъ. Также и о Полскихъ панствахъ потроце". Рукапіс XVII ст. Маск. Публ. бібліат. № 2405.

Пасьля агалоўка ідзе тэкст:

---

[1]) Праф. Карскі чытае гэта так: „Szto siak nyska pan sia na wieru śmieiau"; у тэксьце дадзена паводле праф. Брукнара.

„Напервѣй за помочью Божiею о шести дняхъ починаемъ въ который сотворилъ Господь все створенье“.

Далей даецца скарочаная пэрская гісторыя. За гэтым памешчана Александрыя. Гісторыя грэцкага царства і царства Антыохавага. Гісторыя Трої. Рымская гісторыя да Аўгуста.

„Поколѣнье Христа избавителя нашого которой пришолъ для збавеня нас, на свѣтъ сей и зродился отъ Пречистой Дѣвицы“.

Гэтым канчаецца рукапіс.

ХРОНОГРАФ, рукапіс пачатку XVII ст. СПБ. Публ. бібл., б. № 5. Зьмест падобны як у папярэднім хронографе.

ХРОНОГРАФ. СПБ. Публ. бібл. № 158, зьяўляецца даканчаньнем рукапісу тэйжа бібліатэкі. № 5.

„ЕФІМЕРІОS си есть дневникъ Всегдашнихъ Млтвъ... Трудолюбіемъ Іноковъ С. Обители Сошст. Пресвт. Жив. Дха... типоизданный в Вилни Року Гдня 1652“. У 32-ку, 7+326+25 лістоў. На адвароце агалоўнай балоны дрэварыт, які выабражае „Старожитный Клейнот ихъ М. П. П. Трызновъ“ і эпіграма на гэты-ж гэрб.

У агалоўках віленскіх друкаў ужо ад 1630-х годаў пачалі паяўляцца славянскія літары, закругленыя і стылізаваныя на спосаб літар лацінскіх. Гэткі агаловак і ў кнізе „Ефимеріос“. Літары гэты пабачыў Пётр Вялікі упадабаўшы іх, загадаў у 1704 годзе, такія-ж самыя адліць у Амстардаме. Літары гэты названы былі „гражданскімі“.



Агалоўная балона кніжыцы „Ефимеріос“, друкаванай ў Вільні у 1652 г.

„НОВЫЙ ЗАВѢТЪ“ с Псалтыром на пачатку, друк. ў Кутэйне, 1652 г., у 4-ку, 6+126+500 лістоў. (Ундольскій).

„БУКВАРЬ ЯЗЫКА СЛАВЕНСКАГО“, Вільня, 1652 г., у 8-ку. З дрэварытамі ў тэксьце. Гэты букар і граматыка Сматрыцкага ляглі ў аснову школьнай асьветы ў Масковіі.

„ДИДАСКАЛІЯ, альбо наука, которая ся первѣй изъ устъ священникомъ подавала о седми сакраментахъ, или тайнахъ на Синодѣ помѣстномъ во градѣ Могилевѣ, 1637 года, отъ Господина Силвестра Косова, Епископа Оршанского и Могилевского, потомъ Митрополита Кіевского; въ Кутейнскомъ монастырѣ“, друк. 1653 г., у 4-ку, 4+31 ліст.

Сыльвэстар Косаў радзіўся ў Вітабшчыне ў сямьі незаможнай шляхты. Вучыўся сьпярша ў Вітабску, пазьней у Вільні і ў Замосьці. Нейкі час быў вучыцелям у брацкай школе ў Львове, ўрэшце прафэсарам у Кіява-Магілянскай акадэміі, дзе выкладаў рыторыку, а пазьней філёзофію. Ад 1632 да 1634 г. быў Кіява-Пячэрскім архімандрытам. У 1635 г. высьвячаны на біскупа мсьціслаўскага; а ад 1647 кіяўскі мітрапаліт. Разам с Кіява-Пячэрскім архімандрытам Турам апрацаваў і надрукаваў першы раз „Paterykon albo żywoty s.s. Ojcow Pieczerskich“ (ў 1635 г. у Кіяве). Памёр у 1687 годзе.

„О ФАЛЬШОВАНЮ ПИСМЪ СЛОВЕНСКИХЪ Од оборонцовъ и учителей вѣрѣ церкве противныхъ послушенству его милости отца митрополіта и о незгодахъ ихъ въ науце выданой з друков виленского братского, острозского и лвовского“. Рукапіс XVII ст. Рас. Акад. Наук № 11. 4. 79. (Добрахот. № 79).

Пачатак прадмовы:

> „Всимъ станом духовным и свецкимъ народу нашего росийского благодати и міра христова упрейме зычыт Едінъ от иеромонахов стое и живоначалное тройцы. Манастыря виленьского именем. Иоасаѳ Коунцевич. Въ речах бозскихъ и людскихъ возлюбленнии мои. тот естъ порядок до познаня и выбаданя ся“.

З вышэй пададзенага адрыўка прадмовы відаць што твор гэты належыць пяру Іозафата Кунцэвіча. Гэта есьць полемічны твор супроць праваслаўных і знаходзіцца ў звязку з пісаньнямі Клерыка Астрожскага, на якія тут Іозафат Кунцэвіч дае адповедзь.

ЛЕКСИКОНЪ СЛАВЕНОРОССІЙСКІЙ и именъ толкованіе, съ приложеніемъ именъ отъ Еврейскаго, Греческаго, Латинскаго и отъ иныхъ языковъ, приданы же суть имена преложенія на пострижени калугерства, знаки калугеромъ, або инокомъ; згромаженый всечестнымъ отцемъ Памвою Бериндою... въ Кутеинскомъ монастырѣ“ 1653 г., у 4-ку, 4+324 балоны.

Першае выданьне надрукавана было ў Кіяве, ў 1627 г., другое, расшыранае выданьне надрукавана ў Кутэйнскім манастыры.

У аснову слоўніка Бэрынды паложаны слоўнік Лаўрына Зызаняга (выданы ў Вільні, ў 1596 годзе). Як першы так і другі слоўнік тлумачыць незразумелыя словы, якія трапляюцца ў ц.-славянскай мове, на мову „рускую“ г. зн. старакрыўскую, якой пісалі і гаварылі вышэйшыя станы ў землях крыўскіх і украінскіх. У слоўніку Бэрынды дзе-недзе сустрачаюцца і увагі этнографічнага характару, прыкладам:

> „Пѣтелъ: Ческі і рускі, когутъ. Волынскі пѣвень. Литовски —пѣтухъ (бал. 133)“.

Але ў тэксьце і правапісме слоўніка асобнасьцяў украінскай мовы няма. Пад уплывам слоўніка Бэрынды знаходзіцца супрасьльскі „Лексиконъ“ 1722 году і лексікон румунскага мніха Мардарыя, 1649 г.

Слоўнік Бэрынды для досьледаў старакрыўскай мовы выяўляе сабой матэр'ял высокай вартасьці, не утраціў ён значэньня і для досьледаў жывой крыўскай мовы, прыкладам:

Кöрнъ: малого носа, або великого, або кривого.
Корчїй желѣза: коваль.
Косвенный: Оукосный, косый, зызоватый, кривоокїй.
Косненїе: Забавленїе.
Косноязычный: Заикаючїйся.
Котора: Сваръ.
Коха: Муращникъ вкоторомъ муращки живутъ.
Куща: Кучка, будка.
Купель: Сажавка.

Кутэйнскае выданьне было прыгатавана да друку і дапоўнена Іоілям Труцэвічам архімандрытам Кутэйнскага манастыра, які далучыў да слоўніка сваю прадмову:

„Читать, а не разумѣть, глупая рѣчь есть; мовитъ нѣкто отъ мудрыхъ. Аже великославный и во мовѣ широкїй языкъ Славенскїй, любомудрый читателю, любо оквитое маетъ злеценье, не только зъ писмъ богославянскихъ и гимновъ церковныхъ, з Грецкаго нимъ перетлумаченыхъ, але изъ божественное литургїи и иныхъ таемницъ, которыи ся онымъ въ Великой и Малой Россїи, въ Сербїи, Болгарїи, и по инымъ сторонамъ оправуютъ; лечъ же трудность словъ и назвискъ нѣкоторыхъ, а иле отъ оныхъ языковъ съ потребы взятыхъ, до выразумѣня темныхъ, не мало въ собѣ маетъ: зачымъ многїе звлаща, которыи не часто его заживаютъ, для невыразумѣня оныхъ, силы писмъ досконалѣ не поимутъ и частокротъ малый зчитаня относятъ пожитокъ".

Знача слоўнік гэты празначаўся для навукі „великославного и широкаго" ц.-славянскага языка і для лепшага выразуменьня „богославянскихъ" пісм і гімнаў.

Памва (Павал) Бэрында быў родам з Малдавіі і па народнай прыналежнасьці—валох (Житецкїй „Очеркъ звуковой исторїи малорусскаго нарѣчїя", бб. 37—44). Пачатныя навукі, здаецца, як многа іншых яго пабратымаў атрымаў у Львове. Пасьля выехаў у Ерузалім, дзе бавіў некалькі гадоў і паступіў там у манахі. Вярнуўшыся ў Львоў працаваў пры львоўскім біскупе, якім быў у тыя часы Гедэон Балабан. Калі Кіяўская Пячэрская лаўра завяла ў сябе друкарню (перавезеную са Страціна), Бэрынду запрасілі на кіраўніка друкарні. Тут ён знайшоў поле даць выхад свайму нахілу да навуковай працы. Чуючы неадзоўную патрэбу тлумачэньня незразумелай духавенству ц.-баўгаршчыны, пастанавіў апрацаваць слоўнік; бо, паводле яго выслову (ў прадмове да слоўніка), праз неразуменьне ц.-славяншчыны сама:

„россійская церковъ многимъ властным сыномъ своимъ въ огиду приходить".

„ДІОПТРА, или зерцало живота во мірѣ семъ человѣческого". Кутэйна, 1654 г., у 4-ку, 6+196 лістоў. (Ундольскій).

ЛІСТ КОМУНІЯКІ ДА ВОЯВОДЫ СМАЛЕНСКАГА АБУХОВІЧА 1655 ГОДУ. Арыгінал пераховуецца ў Кракаве ў Націянальным Музэі (Z tek Emerika Czapskiego 8, rękopisma I. Varia); одпіс новачасны, з невядомага арыгіналу, быў у Беларускім Музэі імені Івана Луцкевіча ў Вільні. Ніжейпададзены перадрук паводле апошняга одпісу.

„Милостивы пане Обуховичъ, мой ласкавы Пане.

З умыслу посылаю служку нашего, Пана Іоахима Говорку обвешчаючи доброе здоровье Вашмости ти нездоровье въ якимъ тотъ часъ Господ ховати вас рачить послѣ того перепуду Московского. И я так знаю што трудно Вашмости всимъ на животѣ, да не гнѣвайся Господару на мене, што я тытула воеводского не доложилъ, бо написавши Воеводою Смоленьским, то бы я солгалъ; написавшиб безвоеводскимъ то бы Вашмости загнева(л), хоть незашто. Бо мне бачится коли Вашмость Смоленск продали, то и тытулъ отдали. Много людей звещали што и Вашмости люди гроши побрали. Лепей было пане Филипе седети тобѣ у Липѣ. Увалялся Вашмость въ великую славу, як свиня у гразь, горш того: коли хто попаде у новымъ кожусе у густое болото. Отъ намъ за тое што дешова Москва соболи продавала: всю Русь з людми забрала. Мы вбачивши густые соболіе ковнери, познали есмы што худо будуть битися наши жовнери, а што мы бѣдные у кожухахъ семъ летъ Смоленска добывали, то вы мудрейшіе въ соболяхъ за четырнадцать недель отдали. Боюся я велми штоб затое баба кому пупа не рѣзала. За меншую вину, кажуть люди, Пана Остика небощика наполохалъ катъ у Вильни, ажъ мяса его волоклося, што одно карточку писалъ до Москвы неостерожно. А мы і Цара у ногу цаловали и гроши побрали. Але больш намъ так не минется. Пан Госевски не много по латинску умелъ, а зъ меншимъ людомъ и апаратомъ военнымъ и живностю Смоленска додержал. Мудрость велика,—кажуть люди,—як тая свиня: коли много ее хто заживаеть, то и ничого не дбаеть. А коли чоловѣкъ много кусить, то и постогнать мусить и хвосту бывае непокой. Зофія филозофія судила седеть высоко, говорить глыбоко. Куделя, пане, женоцкая рѣчь да штоб пекла горазд оладки. Ест у мене старіе книги у новым куте, завседы я тамъ вычиталъ много женоцкой псоты, яковой зъ ума зводять людей мудрихъ, многыхъ и святыхъ, а штоб як нас грѣшныхъ къ лиху не привели. А коли бы дотуль Вашмость писаромъ былъ, то бы человѣкомъ слылъ и того бы з насъ годи было, за нашое лихое шалберство. Показують люди и тое на Вашмости, яко бы до вымысленя подымного не хто былъ причиною тольки Вашмость, которымъ выкурыли нашыхъ мужыковъ якъ веребъевъ з вениковъ,—безмало з мудрыхъ ораціевъ не буде много ратіевъ, посломъ зоставши много правды не говоритѣ, только берете копы, депутатомъ копы, комисаромъ копы, а тые копы пострыгуть не одного въ хлопы, а не вѣдомо где будеть. У Гданску есть кому тамъ валы сыпати и безъ насъ. Што люди старіе мовили то все правда и гораздъ у памети маю, коли былъ панъ Мелешка каштеляномъ Смоленскимъ, то я, будучи на сойме на той часъ за имъ зъ кордикомъ стоялъ. Его мова въ тые словы была: Панове, кажу вамъ правду: по велми мудрихъ людехъ ничого на семъ свете, за три хвили з болота чынять золото, а зъ золота болото своими шальберскими мовами и разговорами, штоб нас простыхъ ошу-

кать и у блазны постригти, але покуль онъ того докажеть, самъ кепомъ останеть. Надувся въ сенате як петух галагуцки, а правды не пытай все баламутня. З гурбою держить такъ, такъ, такъ, а коли мовишь: тое не такъ,—и пискнути не хочеть. Не боялся короля Жыкгимонта и всихъ сенаторовъ, ани вмелъ болей только часовникъ и псалтыръ перечитати, по многихъ книгахъ зблудился. Теперечны розумъ, якъ коза по лесѣ, а на правду святую ни од кого здорового нѣтъ, одно баламутня, и сами погибнуть и насъ погубять. Кождень Мости Пане уживать будеть. Як цюнецъ мой былъ зъ сынами въ местечку Полонной зъ курми на торгу, чув одъ когось и мнѣ звестно, што ляхи на Вашмости велми позакручивали хвосты, одноб только соймъ дойшолъ, бо ены хочуть Вашмости объ тое турбовати не кепско, дай то Боже штоб тое дармо не минуло. И то ли правда чыли не, показувають на Вашмости якобы Вашмость у дванадесять пехоты зьѣхал на одзыскане Смоленска. Даремно то Вашмости старане: маючи четырнадсотъ пехоты до обороны Смоленска, людей зацных и добрыхъ при живности и гарматѣ, да не хотел боронити, а теперъ только маючи дванадесять пѣхоты греблю у маетности Полонной, сыпати позваляють, а (не) Смоленска назад одзыскивають. Ой, пане, годи вы такъ як слижа у Неман упустить, не завтра тое вже будеть. Люди и тое кажуть доводне во всихъ штурмахъ Вашмости только одного ткача забито и то не велми знаменитаго, хтось поведилъ якобы Вашмости воеводство Краковское Король Его Милость въ награду Смоленска маеть дати, бояться Ляхи вельми штобы Твоя Милость Венгром оных не продалъ. Нешто, пане, ото родомъ дому дееться: дедъ Твоей Милости коли Енераломъ былъ у Мозыри, то слылъ, што за малые гроши неправду продавал. Пан отецъ Вашей Милости судею будучи Мозырскимъ, за моей памети, у кого больш взялъ, того хороше осудилъ. Коли небощикъ зъ того свету уступилъ Мозыране вельми рады были, а колибъ Вашмость досюль за правдою ходилъ, тоб и Бог помагалъ. Додуши то мне дивно што Вашмости триста подводъ подъ одну постѣль Москва дала, тобъ то не постель была так велми тяжкая, хиба кождая перина обернулася въ чирвоные золотые. Сякъ такъ нагородывся Вашмости упудъ московскій. Колиб геткую кучу гною далъ вывезти изъ Смоленска Хмельницкому до Чегрына и тоб не безъ школы было. Пане, у мене той бредни есть не мало, одныхъ перинъ девять, кромъ дробныхъ подушокъ, и то одна кобыла возить, где той бредни потреба. Мел бымъ и болей што до Вашмости писать, зленовався дуже и стать не могу. Да не гнѣвайся Господару, а хтож кого остережеть, коли не милы свой давны другъ.

Данъ с Тулан дня 6 Юнія 1655 году".

Па свайму зьядліваму стылю, па жывой, народнай мове, гэты ліст зьяўляецца надзвычайна цікавым помнікам нашай старой пісьменнасьці. Ен аткрывае нам як рэагавала наша грамадзянства ў тыя часы на здачу Смаленска Маскве. Абуховіча запраўды вінавацілі, што ён за подкуп маскоўскі здаў Смаленск. Прамова Мялешкі і ліст Комунякі, гэта абрыўкі, якія дайшлі да нас, з абшырнай палітычнай пісьменнасьці XVII ст.

БОГАГЛАСЬНІК. Рукапіс 1660 г., пераховываўся ў старасхове полацкага Богаяўленскага манастыра; ў аднэй кнізе зьмяшчаліся ноты, ў другой тэксты вершаваных песень, пісаных старакрыўскай мовай.

У нашым краю царкоўныя песьні, ў народнай мове, вельмі рана ўвайшлі ў звычай; аб зборніках гэткіх рэлігійных песень сустрачаюцца ведамкі з XV ст., ў XVII ст. былі ўжо друкаваныя Богагласьнікі. Расійскае праваслаўнае духавенства чамусьці лічыла Богагласьнікі спэціяльнай азнакай уніяцтва, а дзеля гэтага яра іх прасьледавала і вынішчала. Праф. Карскі кажа, што з вялікага ліку друкаваных Богагласьнікаў не захавалася ніводнага экзэмпляра, а з ацалеўшых, найстарэйшы паходзіць з 1805 г., ды і той на ц.-славянскай мове.

„КАТЕХИЗИСЪ или краткое изученіе Христіанское въ пользу и спасеніе юнакомъ, равно же и старымъ ненаученымъ, въ трехъ бесѣдахъ написанный, и въ богосп. градѣ Могилевѣ Бѣлорусскомъ второе напечатанъ, въ лѣто отъ Р. Х. 1661“, у 8-ку (Ундольскій).

МІНЕЯ МЕСЯЧНАЯ (сакавік) 1667 г. (Віленскай Публічнай бібл. № 160). Напісана ў Супрасьлі інакам Леонтіем. (Карскій, „Бѣлоруссы“, т. I).

„ІРМАЛОГІЙ“ нотны XVII стаг. (Віленскай Публіч. бібл. № 119). Напісаны „року (1662)... у Витебску“. (Карскій, „Бѣлоруссы“, т. I).

ЕВАНГЕЛІЕ ЖУХАВІЦКАЕ 1668 ГОДУ. Рукапіс у ліст, пісанае выразным полууставам, пераховуецца ў Беларускім музэю ім. Івана Луцкевіча ў Вільні. У канцы Евангельля ад Мацея маецца прыпіска чырвонымі літарамі гэткага зьместу:

> „О(т)цы сты и братія прочитаючии тую стую книгу Еv(г)лїе омылъки ра(ч)те пи(л)но прошу направити. где положиле(м) ъ за ь або ь за ъ, так теж ї за й а й за ї й тым подобные омы(л)ки молю попра(в)те, бо не аггльская грѣшная рука писала, вночи бо(л)шей писале(м) нижели вде(н) для недостатку часу, а о мне грѣ(ш)не(м) г(с)ду Богу м(о)лѣся, грѣшны(й) лука пре(з)бите(р) жухови(ц)ки 1668 априль 13 д.“

На тым-жа лісьце ў нізе і на адваротнай балоне—надпіс па польску.

> Począłem tę księgę pisać Marca 5° wprzod na takim papierze iakim mògł mieć, gdyż mię do tego wielka potrzeba ciągnęła ponieważ wtey Cerkwi Żuchowickiey oprócz treodi ćwietney więcey ksiąg żadnych nie bylo, musiałem pisać, Apostol, Szestodniewnik, Trefołoy, y to powiększey części te pomienione księgi pisałem przyłuczywie wnocy, lewą ręką świecąc a prawą pisząc, to iest w lewey ręce trzymając łuczywo, a w prawey pioro, y to wten czas gdym miał na papier z zarobku grosz iaki żebym go miał zaco kupić, dobrodzieia żadnego nie maiąc ktory by mię wtym wspomogl samem mocno starania przykładał swemi rękoma zarabiaiąc, iaki taki ważyłem koszt nate księgi, napisawszy Apostoł, Szestodniewnik, trefoloy, wypisałem i tę księgę Swientą ewangelią, niechże się to wszystko dzieie na cześć i na Chwałę Bogu w troycy S. iedynemu y naswientszey Pannie Maryey, y wszystkim swientym Amen. a ktoby te pomienione księgi ważyłsię iakim kolwiek sposobem oddalić otey Swientey Cerkwi Żuchowickiey y na swoy pożytek obrocić abo według swey

woli do ynszey Cerkwi legować niech będzie anathema, to iest przeklenty na wieki. y zemną masię rosprawić w dzień strasznego sądu Bożego, y stymi który się przyłożyli naoprawę tey swientej ewangeliey których ymiona są napisane wksięgach żywota y tu niżey są wyrażone ku drugich zbudowaniu.

Niegodny lukasz Prezbiter Cerkwie Żuchowickiey ręką swą 1668 Msca aprylа 13 dnia

Помяни Госпди раба Алеся na wiky wikow Amin (далей рад другіх іменьняў і родаў).

„КРОЙНИКА з лѣтописцовъ стародавны(х), з с(вя)таго Нестора Пече(р)ского и иншихъ, также з кройникъ полских о Руси отколь Русь почалася и о первыхъ князехъ Рускихъ и пони(х) далшихъ наступуючыхъ князех, и о ихъ дѣлахъ. Собраная Року от створеня свѣта... а от Ржства Хр(ыс)това 1681 ?.“ Рукапіс Петр. Публічн. бібліатэкі, б. F. IV. № 215.

У гэтым аграмадным зборніку ёсьць і другія апавяданьні, не летапісныя: гісторыя старога закону, жыцьцёпісы сьвятых і інш. Пісаны гэты зборнік пераважна стара-крыўскай літэратурнай мовай, прыкладам:

„Далшихъ кн(я)сей не описуютъ Гисторіи Рускіи, бо русь шаблею а не пером бавячися, и писа(ть) не знаючи по паперу, тол(ь)ко по го(ло)вахъ албо по хрибтахъ и где прилучилося шаблями пишучи, не описали свои(х) старовечны(х) княжат имен“.

Рукапіс гэты перапісаны ў Піншчыне, чым тлумачацца трапляючыяся ў ім украінізмы, побач з добрай крыўскай пісоўняй прыкл.: Батѣя і Батїя (Батыя).

У гэтым рукапісе між іншым ёсьць артыкул: „Отколь Москва оузяла свое назвиско:

„КОРО(Т)КОЕ ОПИСА(Н)Е кроники по(л)ской ведлу(г) вла(с)ности наступова(н)я одного по друго(м) всѣ(х) княжа(т) и кроле(в) народу того. Почавши перве от леха першого Монархи и спра(в)цы по(л)ского. Рукапіс XVII ст. F. IV. № 152. Петр. Публ. бібліатэкі.

У ліку крыніц, з якіх карыстаўся аўтор, паказуе на Гвагніна і Бельскага: „Ма(р)тинъ Бе(л)ски(й), И александе(р) Кгвакгни(н) кроникари по(л)ские пишу(ть), и(ж) на поча(т)ку папова(н)я того Жикгимо(н)та пе(р)шого (б)ы(л) нѣяки(й) шляхти(ц) коро(н)ны(й) на имя якубъ мелишты(н)ски(й)...“

Пробка мовы:

„З того народу валечного словенского, або са(р)мацкого, два назнамени(т)шие мужеве, и великого се(р)дца кн(я)жата ле(х), и чехъ бра(т)я рожены иду(ть), тыи теды з иллирику шукаючи собѣ и(н)шого жития на свѣте, выехали з своими уфы пречъ от востока словенского з земли ка(р)вацкои и на захо(д) сло(н)ца удавшися в стороны неме(ц)кие опановали краины межи реками вислою...“



Супрасьскі манастыр (Гораддзеншчына), у якім ад XVII ст. была крыўская друкарня.

„О ПОСЛѢДОВАНІЮ ІИСУСУ ХРИСТУ“. Пераклад з лацінскай мовы. Вільня, 1681 г., ў 8-ку.

„ПСАЛТИРЬ“, друк. ў Магілеве, 1682 г., ў 4-ку, 239+8 ліст. (Ундольскій).

„СТРАСТИ ХРИСТОВЫ“, друк. ў Супрасьлю, 1689 г., ў 4-ку. (Ундольскій).

ЗБОРНІК ІНТЭРМЭДЗІЙ, другой палавіны XVII ст. (1661—1698). Рукапіс СПБ. Публічнай бібліатэкі (Разнояз. Q. XIV, 10). Гэта ёсьць зборнік рожных школьных сцэнічных твораў на мовах лацінскай і польскай, але маюцца тут адрыўкі інтэрмэдзій у мове крыўскай. Гэтак у сцэнічным творы „Progymnasma“ (б. 159—164), маецца сцэна, (Карскій, „Бѣлоруссы“,

т. III, б. 219), у якой бацька пераконывае сына ісьці ў школу а не сьпяваць „U Szmojły u stodole“:

*Parens*. Podzi, synku, do szkoły.
*Filium*. Darmo mowisz, moy oycze, nie wiele się pito.
*Parens*. A przez cie się y uczora try hroszy prepito.

І далей мова паміж бацькам і сынам аб піцьці гарэлкі.

На б. 345 зьмешчана інтэрмэдзія да сцэны аб грэхачыне Адама і Евы, дзе выводзіцца сялянін:

*Rusticus*. Ochcia mnie, cchci, utomiusia ia, ah ledwa mahu tchnuć, ohoch, hrudzi duch zaimaić і г. д.

С прычыны грэхачыну Еўгі, які наклікаў гэтулькі непрыемнасьцяў, сялянін кажа:

„Och Adam, Adam! czy nie moh że ty chłudzinu abierucz uziawszy uzdouž lewu apierezać, kab druhi raz iabłaka zakazanaha niakuszała; oh, Adam! Adam!“

„СЛУЖЕБНИКЪ“, друк. ў Вільні, 1692 г. ў 12-ку, 259+64 лістоў. (Ундольскій).

„МОЛИТВОСЛОВЪ ТРЕХЪ-АКАѲИСТНЫЙ“, друк. ў Вільні, 1693 г., ў 8-ку, 90 лістоў. (Ундольскій).

„АКАѲИСТЫ И КАНОНЫ“ друк. ў Магілеве, Макс. Вашчанкі, 1693 г., ў 8-ку, 2+226+22 лісты (Ундольскій).

„ПСАЛТИРЬ“ друк. ў Магілеве, 1693 г., ў 4-ку, 239+10 лістоў (Ундольскій).

„ПОЛУУСТАВЪ“, друк. ў Вільні, 1695 г., ў 16-ку, 6+458×? лістоў. (Ундольскій)

„МОЛИТВОСЛОВЕЦЪ“, друк. ў Магілеве ў Максіма Вашчанкі, 1695 г. ў 24-ку, 3+228+45 лістоў. (Ундольскій).

„МИНЕЯ ОБЩАЯ“, друк. ў Супрасьлі, 1695 г., ў ліст (Ундольскій).

„МОЛИТВОСЛОВЪ“, друк. праўдападобна, ў Магілеве, 1695 г., ў 24-ку, 3+517 і больш 42 лістоў (Ундольскій).

„МОЛИТВОСЛОВЪ“, друк. ў Магілеве, ў Макс. Вашчанкі, 1695 г., ў 4-ку, 3+408+45 лістоў. (Ундольскій).

„СЛУЖЕБНИКЪ“, друк. ў Супрасьлі, 1695 г., ў ліст. (Ундольскій).

„ЛУЦИДАРІЙ“. Рукапіс XVII ст. Віл. Публ. бібл. № 107. Адносіцца да забароненых кніг. Рукапіс яшчэ нікім не дасьледаваны.

РЫМСКІЯ ДЗЕЯНЬНІ (Gesta Romanorum). Рукапіс XVII ст., перадрукаваны „Общ. Любителей Древне-русск. писм“. (СПБ. 1877-78) Гэта аграмадны зборнік сярэднявекавых повесьцяў і легенд. У славянскай мове вышэй згаданага перадруку сустрачаюцца такія словы: „облюбеница“, „пан“, „панья“, „цесарь“, „княжа“, „папежъ“, „костелъ“, „пелгримъ“, „година“, „мары“, „взрокъ“, „опутаны“, „коштовный“, „декую“, „зборъ албо рада“, „келихъ албо чаша“, „скаредность албо смородъ“. Што паказуе, на пераклад са старакрыўскай мовы, ў якой усе вышэй прыведзеныя словы ўжываліся. Пераклад мог быць зроблены толькі ў Маскові:

ІНТЭРМЭДЗІЯ: „Daemon et pueri illius, Rusticus, Iudeus“. (Чорт і яго вучні, мужык і жыд). Рукапіс СПБ. Публ. бібл. (Польск. Q. XIV. № 12), зьмяшчае некалькі інтэрмэдзій, з якіх найцікавейшая — вышэй названая ў агалоўку.

Daemon Osmoleyko, як відаць з размовы яго хлапцоў вельмі захварэў і зажадаў знахара. Прыходзіць сялянін-знахар, які так сябе знаёміць (Карскій, „Бѣлоруссы“, т. III, бб. 220-222):

*Rusticus.* Dobryi ia cyrulik, umiu leczyci;
Wiedaiu iak lekarstwa dobraho zažyci.
Ia ieho zlecze zaraz aharodnym zielam,
Wyparu czorta w łazni maładzieńkim chmielam.
A kali nie pamože, tož žyda z maściami
Zazwaci, z roznymi ieho parchumami.

*Daemon.* Ratuy prętko, zmiłuy się. Lekarstwo mi gotuy...

*Rusticus.* Zdychayže borzdo, czorcie, nieboyś, bies nie woźmie
Ciebie, kali maio oko iasnoio nie zasnie.

*Puer 1.* Weźmę ia go za ręce a wyciągnę nogi.

*Puer 2.* A ia wieleszkodzące prycisnę mu rogi.

*Rusticus.* Ach, puls iak to bieć mocno, iak u piekle haryć,
Haraczka tak usieho ieho ciepier smalić,
Izyspadu y zwierchu ahoń wybuchaieć,
Choć czort, a žadnoho baczenia nie maieć
Ahoń piekielny, treba iako baczu sała
Dubowaho, kab maia ruka szmarawała
Ieho kości, pawierniecie na bok siuda lepiey,
Azaley ion paczujeć lekarstwo to smaczniey.
Oy vžo szmarowanie pan diabeł nasz czuie,
Až iskry syplucca, tak dobre szmaruie.
Ot užo haraczka heto može wychodzić,
Nie budzie iemu ahoń hetoy boley szkodzić.

*Daemon.* Ieszcze zle na žołądku y boli mi gardło,
Trzeba by przez ie przepuścić mi sadło.

Хлопчык раіць другія лекарствы.

*Rusticus* Budzie vsio ieszcze aley palunkowy,
Ot nahatawau iemu, ieszcze piercu padaycie
Żmieniu dobruju, a tuta w aley nasypaycie.
Pierayszło iak pa maśle pieraz horło vsie.

Чорт яшчэ жаліцца на боль.

*Rusticus.* Połkni tolko hetey mocnyie pigułki,
Wyareć twaie wsięki z horła skulki.

*Daemon.* lak mi na żołądku dobrze polepszało,
Ale przecie co to na nos moy muchi wpędziło,
Że moy nos kąsaią.

*Rusticus.* Ot heto zielo toio,
Szto wystraszyć iz nosa vsio tabie lichoio.

Чорт кажа, што мухі яшчэ трывожаць яго нос.

*Rusticus.* Nos nadabie z nimi ustrelić, kalib borzdo wyszli.

*Daemon.* Coż czynić, choć bez nosa, tylko że much niemasz.

Жаліцца на шуменьне ў галаве—пяюць сьвяшчкі—на што патрэбна апэрацiя.

*Rusticus.* Hetaho tabie radzić nie padymuiusia,
Adno tolko na hetom troszaczka znaiusia,
Swierdłam łob prakrucici, zaraz pauciekaiuć
Swierszki, niedabradzieia swoyho minie paznaiuć.

*Daemon.* Stoy, stoy, nie czyń dziury: dosi że postrzelona,
Nie chcę mieć głowy, by była dziurawiona.

*Rusticus.* Ia wżo tabie tut boley nie chaczu służyc,
Zaklicz sabie żyda, toy tabie paradzić.

Прыходзіць жыд і знаходзіць у чорта мэлянхолію, якую раіць лечыць іншым спосабам. Сялянін пахваляе гэны плян і канчае сваю прамову увагамі маральнага характару:

*Rusticus.* Ot hetak bies cieszycca, kali boha znieważaiuć
A ludzi hresznyie taho nie uważaiuć,
A nabarziey hreszniki katoryie hrechami,
Czynia(ć) złoio vsiohdy roznymi czasami.
Choczecież, kalib iz nas tak czort nie smieiausia,
Nikoli na świet da nas y nie pakazausia,
Pakidayciež hreszyci a boha mali(e)cie,
Niechay nas tut karaieć, a nie na tym świecie.

Трэба прызнаць, што спроба аўтора даць сьмешную інтэрмэдзію саўсім не ўдалася. Чорт лішне дурны і хворы, спосабы лячэньня не дасьціiйныя, а маральныя вывады не вяжуцца с папярэдняй сцэнай.

„РОЗМОВА ЦАРЯ ДАВЫДА З ЦАРЕМЪ ВОЛОТОМЪ ВОЛОТОВИЧЕМ". Паводле рукапісу XVII ст., які прыналежаў дыякану полацкай аднаверчаскай царквы.

„Одного часу зъехалисе на гору сынайскую 42 царове, а преднейши з помежи нихъ былъ царъ Волотъ Волотовичъ, а другии царъ былъ Давыдъ пророкъ Іесеовичъ. И вси тые царове приехали на нараду помежи собою. И помолившисе мовилъ до тыхъ царей Волотъ

Волотовичъ: мовте, а повѣдайте мнѣ, хоробрые царове, што кому ночи той снилосе а видѣлосе, повѣдайтѣ а не утайтѣ. И вси тыи царове молчали. И мовитъ цар Волот. А мне виделосе што зъ усточное стороны всхо́дило солнце красное, и освѣтило сторону полудневую и выростало древо райское, серебреные дерева кореніе, а вѣтки золотые; а под древомъ тымъ вилкъ ричелъ велми а срожилсе. Хто мнѣ тый сонъ розъгадаетъ, а правду повѣдаетъ. И вси царове молчали. Единъ отъ нихъ мовилъ царъ Давыд пророкъ. Господару ты наш, преднѣйшы цар Волотъ Волотовичъ, той твой сонъ я отгадаю. А што зъ стороны тое восточное всходитъ солнце красное и освѣтитъ всю землю полудневую, то на сей горе будетъ мѣсто красное. А што у древа кореніе золотые, а вѣтки серебреные, то родитсе у мене сынъ, а у тебе дочка Волха Волотовна и поберутсе они межи собою, и будетъ Соломонъ царствомъ твоимъ справовати. А вилкъ ричачи, то слава великая пойдетъ отъ племени его. И подяковалъ цар Волот Волотовичъ прыстойне цара Давыда пророка, што доброе слово рекл ему. И мовитъ цар Давыд, а ты мне преднейши царъ Волотъ Волотовичъ скажи про тое, чего деля у насъ солнце свѣтитсе и чому солнце сіяетъ и чому зора занимается і на чомъ у насъ небо ходить, на чомъ земля стоить. И рек цар Волотъ Волотовичъ цару Давыду. Солнце светитсе отъ очей пана Бога, а сияетъ солнце отъ шат Божыхъ, а зора занимаетсе отъ солнца красного, а небо ходитъ на воздусехъ, а земла стоитъ на трехъ велерыбехъ великихъ. А ты мне цар Давид порокъ скажи. Яки городъ всимъ городомъ мати, а якая церковъ всимъ церквамъ мати, а якая голова всимъ головамъ мати, а якое древо всимъ древамъ мати, а якая трава всимъ травамъ мати, яки камень всимъ каменемъ мати, яки птахъ всимъ птахомъ мати, яки звѣръ всимъ звѣромъ мати, якое езеро всим езеромъ мати, якая гора всимъ горамъ мати, якое море всимъ морямъ мати. И мовитъ царь Давыдъ пророкъ: всимъ городомъ мати святы градъ Іерусалимъ, а церквамъ мати светая София Премудрость божія. што въ той церкви стоитъ гробъ Христывы, тому церковъ тая церквамъ всимъ мати, а рѣкам всимъ мати Ердан рѣка тому што выплывае Ердань зъ









Пачатныя літары Супрасльскай друкарні.

раю Едемского и што Христосъ въ ней крстился. А головамъ всимъ мати голова праотца адама, а древомъ мати древо пѣвга, тому што Христосъ панъ Бог былъ на симъ древе розпяты. А травам мати трава плакун, бовемъ коли Христа розпинали Матка Боска зронила на нее свою слезу святую. А птаком мати птак Фэникс, які з попеловъ своихъ вскресаетъ. А звѣрамъ мати еднорог. А езером мати генеза ретъ езеро, а морамъ мати акиянъ море, а рыбамъ мати велерыбъ рыба, а горамъ мати сыонъ гора.

Гэты помнік належыць да апокрыфічнай літэратуры.

„АРИТМЕТИКА ИЛИ ЩИСЛЕНІЯ". Рукапіс Румянц. Музэю CCXLII („Описаніе русск. и словенск. рукоп." Востокова. СПБ. 1842, б. 333). Рукапіс складаецца с трох кніг; у першай—пачатныя чатыры правілы арытмэтыкі, у другой „Познаніе ѳрактъ" (дробяў), у трэцяй „регула трохъ" (трайное правіла). У канцы, пасьля правіл „о радиксѣ квадрата албо о корнѣ четвераком" сказана:

„есть и иные многіе регулы в сей науке которыхъ употребляютъ болши на Москвѣ чая себѣ кповышенію своей науки, но мы всѣ отставляемъ, для того, что по тѣхъ регулахъ никакіе помощи ни вчемъ не сыщет нихто, и всѣ тѣ бездѣльные регулы фалшивые по ихъ зовутся, родятся изсихъ же настоящихъ фундаментовъ и хто хороше вызнаетъ всѣхъ регулъ фундаменты можетъ самъ тѣхъ бездѣлицъ дѣлать сколько похочетъ толко мы втомъ своимъ ученемъ непозволяемъ лутчего голову ломать о дѣле неже о бездѣлье".

„ГЕОМЕТРІЯ". Зборнік Румянцаўскага Музэю CCXLII. Рукапіс трактуючы аб геомэтрыі складаецца с трох часьцей і канчаецца артыкулам

„о часѣхъ спатеричныхъ или слончныхъ (гноміка).

„КОЗМОГРАФІЯ или описанія свѣта". Зборнік Румянцаўскага музэю CCXLII. Рукапіс складаецца з двох кніг. У першай аб сфэры і аб астраноміі; ў другой аб мораплаўніцтве. У канцы артыкул:

„ученіе о знатіи персонъ или всѣхъ начальныхъ и малыхъ людей на корабле и о знатіи пушекъ корабельныхъ".

Імязоўніцтва тут узята з італьянскай, а асабліва вэнэціянскай мовы, хоць побач пададзены і гішпанскія назовы, прыкладам:

„Генерал воинской по влоску зовется—капітанъ генералъ дель армата, а в Гішпаніи онъ зовется—альмирантѣ"...

„АРХИТЕКТУРЕ милитарис доктрина или архитектури военной ученіе". Зборнік Румянцаўскага музэю CCXLII. Рукапіс складаецца с трох часьцей або кніг. У першай—фортыфікацыя; у 2-ой аб аблозе і абароне замкаў; у 3-яй „объ огняхъ военныхъ (аб пораху і аб гарматах) и объ шеренгахъ салдатъ". Рукапіс перапісаны ў Масковіі і дзеля гэтага мова перапраўленая, але побач з гэтым захавалася шмат крыўскіх слоў, прыкладам: личба, посполитый, скрыдло, ведлугъ широкости і г. д.

ХРОНОГРАФ XVII СТ. Рукапіс Віленскай Публ. бібліатэкі № 109 і другі рукапіс № 110. (Карскій, „Бѣлоруссы“, т. I).

КІЯЎСКІ ЛЕТАПІС 1621 Г. (Карскій, „Бѣлоруссы“, т. I). У гэтым рукапісе, да кароткага зьместу даўнейшых летапісаў, дададзены запіскі с падзей на Валыншчыне і на Палесьсі.

ЖЫРОВІЦКІ ПАМЯННІК. Рукапіс XVII ст. Віл. Публ. бібл. (гл. Добр. № 91).

ВЯЛІКАРЫЦКІ ПАМЯННІК. Рукапіс XVII ст. Віл. Публ. бібл. (па Дабр. № 91). Тут між іншым на першай балоне, ў агульным ўступе, памінаюцца:

„убогіе ихже некому поменути, скитающіеся по улицахъ, въ ровъ упадаючые, и тые, которые не мѣли гдѣ головы притулити“.

ГРОЗАЎСКІ ПАМЯННІК, грозаўскай Іоанна Богаслоўскай царквы (Слуцк. пав.) Апісаны Скрынчанкам (у „Чтен. Имп. Общ. И. и Др. Р.“ 1910), рукапіс XVII ст.

ДЗЯТЛАВІЦКІ ПАМЯННІК, дзятлаўскай Прэабражэнскай царквы (Слуцкі пав.). Апісаны Скарынчанкам (у „Чтен. Имп. Общ. И. и Др. Рос.“ 1910 г.), рукапіс XVII ст.

СТАТУТ ДЗІСЕНСКАГА „МОЛОДЗЕНЧЕСКОГО“ БРАЦТВА. Рукапіс XVII ст., пераховываецца ў Беларускім музэі Ім. Івана Луцкевіча ў Вільні. Статут пісаны старакрыўскай мовай, рукапіс нікім яшчэ не дасьледаваны. Агаловак напісаны мной с памяці, а, знача, перадае толькі агульны сэнс агалоўку, які надпісаны на арыгінале.

ІРМАЛОГІЙ НОТНЫ XVII СТАГ. Вітабскага Маркава манастыра (Віленскай Публ. бібл. № 118).

БІБЛЕЙСКІЯ КНІГІ ў рукапісе XVII ст. Пераховуюцца ўшытыя ў хронограф. ў Румянц. муз. № 2405. Апісаны Андр. Поповым у кнізе „Обзоръ хронографовъ русской рэдакціи“, (Вып. П. М. 1896 г. с. 276). Папоў лічыць гэты зборнік украінскім, але цытаты, пададзеныя ў яго, а такжа у В. М. Истрина („Александрія русскихъ хронографовъ“ М. 1893), тыповых украінскіх асобнасьцяў ня маюць.

„ПАТЕРИК“ XVII СТ. Рукапіс Віл. Публ. бібл. № 107. Гэты рукапіс зьмяшчае многа, ператворанага нашымі старасьвецкімі пісьменнікамі, матэр'ялу з рожных „Патэрыкоў“ і „Сказаній“. Дагэтуль ён акуратна не дасьледаваны і чакае свайго дасьледчыка. Мова мяйсцамі надзвычайна фігуральная, жывая, народная.

„МИНЕЯ ЧЕТЬЯ“ XVII СТАГ. Віленскай Публіч. бібл. № 81. (Карскій, „Бѣлоруссы“, т. I).

„СЛОВО О НЕПОКАЗАНЬНЮСЯ СЕСТРѢ И МАТЕРИ“. Рукапіс XVII ст. Віл. Публ. бібл. (Добр. № 107).

„СЛОВО НА ПАСХУ“. Рукапіс XVII ст. Віл. Публ. бібл. (Добр. 259). У гэтым зборніку маецца яшчэ некалькі іншых падобных твораў, пісаных старакрыўскай (беларускай) мовай.

„НАУКА ПРОТИВЪ ГРѢХОВЪ ВЕЛМИ ЕСТЪ ПОТРЕБНА“. Зборнік XVII ст. Віл. Публ. бібліатэкі (па кат. Добр. № 261).

Тэма „Науки“ дзесяць загадаў Божых, якія тлумачацца ў пытаньнях і адповедзях.

„ТРЭФОЛОГІЙ АБО ПРАЗДНЕЯ“ XVII СТАГ. Вілен. Пуб. бібл. № 210. Напісаны ў Супрасьльскім манастыры „року (1691)“.

ПРАЦЭС КАНАНІЗАЦІІ ІОЗАФАТА КУНЦЭВІЧА. Рукапіс канца XVII ст. ў сабр. архіб. П. Дабрахотава Рас. Акад. Наук.

„VOCABULARIUM SLAVONICO-LATINUM“ не раней XVII стаг. (Бэрлін. Каралеўскай бібл. № 11). Выпіскі з гэтага рукапісу былі ў 1839 г. зроблены К. Д. Іванішавым (был. рэктарам унівэрсытэту сьв. Ўладзіміра ў Кіяве) пад агалоўкам „Бѣлорусскій словарь“, але гэтыя выпіскі ня маюць шмат таго, што ёсьць у бэрлінскім рукапісе.

ЖЫРОВІЦКІ БОГАГЛАСЬНІК XVII СТ. Рукапіс з нотамі і славянска-крыўскім тэкстам, пісаным лацінскімі літарамі, прыкл.:

„Bog Hospod jawisia“.

Зьмяшчае нядзельныя царкоўныя сьпевы, тропары і нядзельныя ірмосы васьмі галасоў. Пераховываўся ў жыровіцкім кнігасхове. Аб гэтым Богагласьніку ўпамінае сьвятар Л. Паеўскі ў сваей брашуры. „Наши провинціональные архивы и ихъ значеніе для Зап. Руск. Края“ (Горадня, 1894 г).

АКАФІСТ БОГАРОДЗІЦЫ. Гэта кніжка была ўласнасьцю сьвятара Л. Паеўскага (гл. Наші провинціональные архивы и ихъ знач. для Зап. Рус. Края“ Горадня, 1894, б. 32-33). Дастаў Паеўскі кнігу з горадзенскага Барыса-Глебскага манастыра. Друкаваны акафісты па славянску, лацінскімі літарамі і па лаціне, прыкладам:

| | |
|---|---|
| Sowiet prewiecznyi otkrywaja tebie Otrokowice, Hawryil predsta... | Consilium abaeternum, revelans tibi Puella, Gabriel adstitit... |

Кніга знаходзілася апошнімі часамі ў кнігасхове Жыровіцкага манастыра. Паводле літар і заставак выйшла, здаецца, з жыровіцкай друкарні, ў XVII або ў пачатку XVIII ст.

АЛЕКСАНДРЫЯ 1697 ГОДУ. Рукапіс Маскоўскай Публіч. бібл. і Рум. муз. № 1562. На адвароце апошняга ліста запіс:

„Писа(л) сію Александрѣю Василій Гаврилови(ч) Менжинскій попови(ч) мозырскій дякъ... року (1697)".

МЭТРЫКА В. КН. ЛІТОЎСКАГА. Літоўскай мэтрыкай называецца архіў спраў дзяржаўнай канцэлярыі вялікага княства Літоўска-Рускага (Крыўскага), які знаходзіўся пад асабістым даглядам і кіравецтвам вялікага канцлера Літоўскага.

У гэтым архіве сабраны арыгінальныя дакуманты (іставікі) з XIII да XVIII ст. і копіі дакумантаў, выданых з дзяржаўнай канцэлярыі.

Да XVI ст. Мэтрыка в. кн. Л. пераховывалася ў Троках, у замку; адтуль яе перавязьлі, ў канцы XVI ст., ў Вільню, а, ўрэшце, ў XVIII ст.—ў Варшаву. Частка дакумантаў, якія датычаць маетнасьцяў князёў Радзівілаў, апынулася ў Несьвіжскім архіве (які спалены ў часе ўсесьветнай вайны), часьць была вывезена Швэдамі ў 1655 годзе. У 1794 г., пасьля таго як расійскія войскі занялі Варшаву, ў ліку іншых цэннасьцяў, Мэтрыка в. кн. Л. была перавезена ў Петраград.

Яшчэ ў Вільні, ў канцы XVI ст. (1594 г.) канцлер Леў Сапега апрацаваў рэестр дакумантаў Літоўскай Мэтрыкі, пры гэтым усе яе кнігі былі перапісаны нанова. Пасьля перавозу Мэтрыкі ў Варшаву, польскі гісторык Нарушэвіч, дапоўніў старыя рэестры новымі, пісанымі польскай пісоўняй. Акром гэтага, па загаду польскага ураду, ўсе дакуманты Мэтрыкі в. кн. Л., пісаныя па „руску" (крыўску), былі перапісаны польскімі літарамі. Перапісаных дакумантаў сабралася 29 томаў, за час ад 1386 да 1551 году. Гэты 29 томаў знаходзяцца і цяпер у Галоўным Варшаўскім архіве. У Петраградзе, да ўпарадкаваньня Мэтрыкі в. кн. Л., была высаджана царыцай Кацярынай II асобная камісія,—якая выдзеліла акты ўнутранных спраў асобна, а замежных—асобна. Першыя дакуманты перайшлі пад загад Дзяржаўнай Рады (Государственнаго Совѣта) і былі перавезены ў Маскоўскі архіў Міністэрства Справядлівасьці, а рэшта—ў Калегію Замежных Спраў, а адтуль ў Цэнтральны Архіў Міністэрства Замежных Спраў у Маскве. Акром гэтага, частка важнейшых дакумантаў трапіла ў рукапісныя аддзелы Публічнай бібліатэкі ў Петраградзе і такжа ў Румянцаўскі музэй у Маскве.

Такім чынам, гэты, бязьмернай вагі і цаны, гістарычны архіў быў зруйнаваны расійскімі рукамі і раскіданы па рожных мяйсцох, так што цяпер няма ўжо ніякай магчымасьці сабраць яго ўвесь у адно мейсца, тым больш, што ў часе перавозак па Расіі многа дакумантаў было загублена.

З дакумантаў Мэтрыкі в. кн. Л. шмат што было перадрукавана. Найбольш перадруковывала гэтых дакумантаў Імпэратарская Архэографічная Камісія. Акты Мэтрыкі в. кн. Л. увайшлі ў гэткія выданьні:

1. „Акты, относящіеся къ исторіи Западной Руси". Пад рэдакціяй І. І. Грыгаровіча.

2. „Акты, относящіеся къ исторіи Южной и Западной Руси“. Пад рэдакціяй Кастамарава.

3. „Россійская историческая библіотека“ т. т. XVII, XX, XXX, XXXII.

4. „Лѣтопись работъ Археографической Комисіи“ выдала так сама шмат дакумантаў.

5. Часьць дакумантаў Мэтрыкі Літоўскай была надрукавана Варшаўскім унівэрсытэтам пад рэдакціяй праф. Ф. І. Леантовіча, паводле копій Варшаўскага Архіву.

6. У Варшаве, ў 1840 г., было выдана падробнае апісаньне Варшаўскага Архіву зробленае Бандке і Гэрбартам.

7. Рад дакумантаў Літоўскай Мэтрыкі надрукаваў М. Оболенскі ў „Россійскомъ Историческомъ Сборникѣ“ 1838 г. кн. І і ў іншых выданьнях.

8. У 1883 годзе быў выданы ў Петраградзе, т. І „Литовской Метрики“, працай Земвяровіча.

9. Некалькі гадоў таму назад пры „Московскомъ Товар. Исторіи и Древностей Россійскихъ“, вышла выданьне дакумантаў Мэтрыкі пад рэдакціяй М. Доўнар-Запольскага. Дакуманты, надрукаваныя ім, датычаць галоўна эканомічных спраў, за час ад 1400 г. да 1529 г. Выданьне надзвычай старэннае і адзінае, якое захавала старую, літара ў літару, пісоўню, рэшта—ўсе расійскія выданьні—маюць моцна падпраўленую пісоўню.

10. „Хронологическій указатель документовъ, хранящихся въ Литовской Метрикѣ за время съ 1511 по 1749 г.“ Корсака.

С польскіх вучоных друкавалі дакуманты Мэтрыкі в. кн. Л. А. Прохаска (ў Львове), Ф. Радзішэўскі ў Кракаве і іншыя.

Літоўская Мэтрыка зьмяшчалася ў 556 томах folio (ў ліст) і абыймала гісторыю в. кн. Літоўскага і Рускага (Крыўскага) на прадоўжаньні больш 400 гадоў (ад 1386—1794 г.). З гэтага можна сабе ўявіць якое аграмаднае значэньне мае гэты архіў для нашай гісторыі. Гэта ёсьць падробны і самы пэўны, 556-тамовы летапіс, дзе, год за годам, адмечаны ўсе важнейшыя здарэньні дзяржаўнага жыцьця.

Ацэніваючы гэты архіў з літэратурнай стараны трэба заўважыць, што характар зьмешчанага ў ім матэр'ялу надта рознаякі і не паддаецца абагульненьню і сыстэматызаціі, тым больш, што пераважаючая яго часьць і дагэтуль яшчэ не перадрукавана. Зусім зразумела, што мова, правопіс і стыль ва ўсей Мэтрыцы ня могуць быць аднастайнымі на адлегласьці некалькіх стагодзьдзяў. Літэратурныя спосабы і навыкі, як і імязоўніцтва, ўрэшце граматычныя і сынтактычныя правілы мяняліся на працягу стагодзьдзяў. Уплывы паасобных правінцій в. кн. Літоўскага, ў склад якога ўходзілі Кіяўшчына і Валынь, Чарнегаўшчына і Латгалія, а такжа школьная грэка-лацінская асьвета вышэйшых краёвых школ, блізкія стасункі с Польшчай, Прусіяй, Масковіяй і Турэччынай, усе гэты чыннікі мелі ўплыў на дзяржаўную мову вялікага кн. Літоўскага, на мову тых асоб, якія складалі і пісалі дзяржаўныя дакуманты, або перакладалі іх з чужых моваў. У рамках сухіх дакумантаў мала было і мейсца да выяўленьня асабістага пісьменніцкага таленту. Дакуманты

пішуцца зазвычай паводле здаўна устаноўленых форм. Але і ў гэтым вялізным сабраньні сухіх афіцыяльных дакумантаў, час ад часу заблішчыць іскра жывой думкі, як выяўленьне асабістай істоты аўтора. Які колечы прыватны жыцьцёвы выпадак дае яму повад затрымацца над агульнымі ідэямі і праўдамі, якімі кіруецца чалавецтва і пафілёзафаваць на тую ці іншую тэму, загаварыць не сухой традыційнай канцэлярщчынай, а жывой народнай мовай. У гэткіх здарэньнях дакуманты даюць лепшыя пробкі крыўскай (беларускай) мовы.

Кожды урадовы акт звычайна пачынаецца пералічаньнем тэрмінаў княжага або каралеўскага тытулу, і толькі пасьля гэтага выкладаецца сама справа і тая ці іншая аб ей пастанова. Прыкладам:

„Самъ Александръ, Божей Милостью король польскій, великій князь Литовскій, Рускій; княжа Пруское, Жомойтски и иныхъ. Чынимъ знаменито симъ нашим листомъ, хто на него посмотрить, або чтучи его услышить, нынешнимъ и на потомъ будучимъ, кому будетъ потребъ того ведати. Билъ нам чоломъ земянинъ"...

Або:

—„Во име Боже станьсе. Мы Александръ. Б. М. король польский".

Ці проста:

„Сам Александръ Б. М. Билъ намъ чолом бояринъ"...

Бывае і крыху іншая форма:

„Александръ Б. М. король. Смотрели есмо того дела. Стояли перед нами очевисто. Жаловалъ князь (такі-то) на боярина нашого (такога-то) што онъ не хочеть ему служыти" і інш.

Ужо ў гэтых урадовых уступах выяўляюцца некатарыя адменнасьці ў зачатках дакумантаў, паводле індывідуальнай асобнасьці аўтора. Але бываюць такія „пачаткі" ў якіх яўна прабіваецца жаданьне па магчымасьці асьвяжыць гэту сухую афіцыяльную формулу, ажывіць яе высокай думкай. У гэткіх здарэньнях сустрачаюцца завілыя ўступы, як прыкладам:

„Во имя святыя, живоначальныя, нераздельныя тройцы, аминь. Каждая речь свѣта того подлугъ бѣгу человѣченства ведома есть ку сталости, которая жъ николи есть впевнена и въ памети трвала, але зъ часомъ забытю отдаетъ ся и съ памети выходитъ, нижли найдено есть вчоными слушною а справедливою речою выписаню оддати ку увѣренью и досвѣдченю на пришлыи часъ и на потомъ сталыхъ речей: прото мы Б. М. король... чинимъ знаменито"...

Уся гэта філёзофія разьвіваецца ў дакуманце якім пацьвярджаюцца правы прыватнае асобы на зямлю. Іншы ўступ гэтага характару сустрачаем у прывілеі Яну Хадкевічу дадзеным на землі і сёлы ў Жмудзі; прывілей пачынаецца гэткай глыбокай развагай:

„Во имя Святые и Нероздѣлимые троицы, амінь. Гдыбы вчинки людскіе, которые жъ съ прироженія своего кончаются, не съ твердости листовь приведены слушным свѣдецтвомъ, ку прошлого часу вѣдомости не были бы докончены, сказила бы всякую речь съ часомъ старость. А для того смысленостю Рады и ставено есть, абы безрадствомъ а неветавичностью речей, которые жъ ся имуть потомъ дѣяти,

шкоды не было. Прото ку вѣкуистой речи памяти, Мы Александр зъ ласки Божее король Польскии... чинимъ знаменито".

Часам аўтор акту падкрэсьляе ня толькі зьменнасьць чалавечай памяці і рэчаў на гэтым сьвеце, але праводзіць і іншыя думкі:

„Во имя Божее, Аминь. Гдыжъ цнотами и годностю всякий съ середнего раду вступаетъ на вышній ступень, на которомъ же ставши потвержается вѣрностю ку своему пану и сталостю розуму во всякихъ речехъ, порученыхъ ему. А прото ку вѣкуистои тое то речи памяти Мы король"... і т. д.

Закранутая тут, як бытцам мімаходам, каралеўская ласка, якой доля абдарыла шчасьліўца, ў іншых здарэньнях яшчэ больш падкрэсьляецца, прыкладам:

„Во имя Всемилостивого Бога, аминь. Ку вѣкуистои тои речи памети. Гды жъ речи, отъ княжатъ под часомъ даные, звычайностю листовъ для нѣкоторое достойное прычины бываютъ потвержены, жебы панская добровольность была досвѣтчена и на вѣчность доказана памятю листовъ и явностю выпису на знаемасть и лѣпшее увѣрение потомъ будучимъ. А прото Мы... зъ ласки Божее король":

Усё гэта гаворыцца пры нагодзе абдараваньня шляхціца зямлёй, каб мець яго і „на потомъ охотнѣйшого и пилнѣйшого къ службамъ".

Гэты ўступы і штучныя спосабы выкладу паказуюць на большую ці меншую адукацію пісара—аўтора дакуманту. Вялікія цэнтры, як Вільня, мелі людзей больш асьвечаных, але дакуманты, якія ўходзяць у склад Мэтрыкі, пісаліся па ўсіх краінах каторыя ўходзілі ў склад вял. кн. Літоўскага. Гэта лёгка заўважыць, бо ў канцы дакуманту найчасьцей азначаецца мейсца і час яго напісаньня. І тут мы бачым, што апрача Вільні, Трок, Менска, Полацка, Смаленска, Горадні, Пінска і украінных гарадоў—Чарнегава, Кіява, Луцка, шмат актаў пісалася ў меншых мястэчках, як—Слонім, Берасьце, Новае Места, Дрогічын, Мельнік, Біршты, Абольцы, Араны і г. п. І не глядзя на тое, дзе каторы дакумант быў пісаны, мова ва ўсіх дакумантах адна і тая-ж самая. Зразумела, што ў далёкіх ад цэнтру землях і ў малых мястэчках, адукаваных і падгатаваных людзей да гэтай дзейнасьці было менш, а асобы, мала адукаваныя часам уносілі провінціонализмы і граматычныя спамылкі. Але гэткія паадзіночныя здарэньні ня мелі ўплыву на характар мовы, які заўсёды зьяўляецца крыўскім (беларускім), што добра відаць з дакумантаў пісаных на далёкіх „украйнах", як у Кіяве, Падольшчыне, Луцку і інш.

Сталічны пісар умеў выпажыць думкі свае ясна, паступова і добрай мовай. Возьмем для прыкладу акт з Мэтрыкі, пісаны ў Кракаве, каралеўскім пісарам, у 1531 годзе. Гэта ёсьць „прывілей пану Яну Юрьевичу Глѣбовичу на воеводзтво Полоцкое".

„Во имя Божъе станься. Ижъ всякии вчинки цнотливым, которые зъ обычаевъ людскихъ походять и бывають въ заховалостѣхъ ихъ дѣланы, которыи жъ на знаемость звычаю винного часы своими явне ся черезъ досвѣдченье оказують и верне, а стале доконують, годно естъ абы слушне тежъ вчинности своее пожывали и были бы

ознаймены и на писмѣхъ выложеныи и потвержоныи для вѣдомости потомъ прошлое людское, абы часу посполитого съ памети не сходило. Про то мы, Жигимонтъ, зъ Божъее милости король польскій в. к. Литовскій, Рускій, Прускій, Жомойтскій, Мазовецкій и иныхъ, чинимъ явно тымъ то нашимъ листомъ, што жъ узнавши есмо вѣрныи, высокии, зацныи ку предкомъ нашимъ заслуги, предковъ воеводы Витебского, маршалка нашого пана Яновых Юрьевича Глѣбовича и самога пана Яна воеводы Витебского немнѣй также великихъ послугъ, которыи онъ намъ пану Речи Посполитой Земской стале а правдиве, самъ себе и накладовъ своихъ не лютуючы сказывалъ и чинилъ и втраты знаменитыи прыймовалъ, яко жъ и на томъ замку нашомъ Витебскомъ мѣшкаючы послуги свои вѣрне къ намъ заховывалъ; дѣ жъ мы хотячы на противку того нѣкоторое досытьвчиненье ласки нашое ему вдѣлати и вышнимъ а почтеннымъ мѣсцомъ его роду осмотрѣти, зачымъ бы онъ напотомъ охотнѣйшый и послушнѣйшый ку службам нашымъ былъ, кгды ся увидить таковою ласкою отъ насъ быти потѣшонъ, за причыною королевое нашое ее милости великое княгини Боны, пожаловали есмо его, дали ему замокъ Полтескъ отъ насъ держати со всими дворы нашыми зъ волостми, и зъ селы и со всими тыми доходы и пожытки, которыи кольвекъ тому воеводству зъ предковъ его першыхъ воеводъ Полоцкихъ здавна прыслухало".

„И маеть вже панъ Янъ Глѣбовичъ... и намъ и сыну нашому королю его милости молодому и великому князю Жыггимонту вѣрно а справедливе служити, и никоторого обтяженья подданымъ нашымъ тамошнимъ не маеть ся къ нимъ заховывати водлѣ правъ и волностей ихъ".

Пісаў гэту грамату „маршалокъ и писаръ господарскій—державца Слонимскій—и дорсунишскій, панъ Иванъ Горностай". С чаго відаць, што урад пісара, „господарского" належаў да высокіх годнасьцяў у в. кн. Літоўскім.

Няма ніякай магчымасьці ў кароткім нарысе затрымлівацца над зьместам актаў Мэтрыкі в. кн. Літоўскага дзеля страшэннай массы дакумантаў яе і рознаякасьці іх зьместу. Нават перадрукаваная частка дакумантаў лішне абшырна для гэтага. Таму мы затрымаемся яшчэ на некалькіх толькі цікавейшых прыкладах з гэтых дакумантаў.

Немалую гістарычную цікавасьць мае дакумант, які датыча вядомага маскоўскага ўцякача кн. Курбскага:

„Оповеданье старосты Кревского, князя Аньдрея Михаиловича Курпъскаго, на немъцовъ гельманьскихъ о побранье грошей и многихъ речей при немъ будучыхъ, коли вышолъ зъ Москвы".

„Шо перво сего оповедалъ и жаловалъ королю его милости староста Кревъскій, князь Аньдрей Михаиловичъ Курпъскій, ижъ едучи ему зъ Дерпту на имя его королевъское милости до здешнего панъства его милости господаръского, кгды деи до замъку его королевъское милости Иѳлянтского Гельму, просечи до Вольмеру о проводника, заехалъ, ино, дей, немцы тамошние гельманские его поимали и взяли, дей, у него золотыхъ черленыхъ трыста, ланъцухъ золотый, въ которомъ, дей, было золотыхъ такежъ трыста, обручыкъ золотый важилъ золотыхъ трыдцать, дукатовъ трыдцать, перстень золотый, въ немъ золотых десять, съ каменемъ шаѳеромъ, на кото-

ромъ былъ вырытъ гербъ его, таляровъ пятьсотъ, бахматъ серый, за которого дано двадцать пять рублевъ, секерку булатную чагонданское роботы, дано за нее рублевъ дванадцать, а з двухъ, дей, седелъ злотоглавъ ободрали, и, тые, дей, речи вси отъ него побравшы, его до другого замку его королевъское милости Иѳлянтского жъ Армусу, отвезли; а староста, дей тамошнии Армускии останокъ маетности его, што се ешо было пры немъ зостало въ него побралъ, то есть: пенезей рублевъ московскихъ сорокъ и чотыри, конь турецкии, за которого дано трыдцать рублевъ, узды черкаские две, дано за нихъ рубль грошей, шапки лисьи две, за которые дано тры рубли грошей, секерки служебничыхъ две, дано занихъ рубль грошей, дванадцать сумокъ служебныхъ зъ речми дробными, и, то, дей, все въ него уземшы, до третего замъку Лиѳлянтского, Буртникъ, до везенья его отослалъ. Ино его королевъская милость, за жалобою князя Курпъского, коморника его колевъское милости Михайла Нарбута на онъчасъ зъ листы, манъдаты его королевъское милости въ той речи выписаными до тыхъ немъцовъ послати рачилъ, который, оттоль приехавши, поведалъ, ижъ, кгды онъ съ тыми манъдаты его милости господаръскими писаными— одинъ до немъцы гельманьские, а другии до нѣмъца агермъского до Рыги прыехалъ, тамъ, дей, оные манъдаты княжати его милости Курляньскому отдалъ, а княжа, дей Курляньское, оные манъдаты у него оземшы, листъ свой до его королевъское милости въ той речи отписалъ, а потомъ господаръ его милость зась его до княжати Курляньского зъ другими манъдаты въ той же речи писаными по тые жъ немъцы послати рачилъ; а онъ так же, дей, оные мандаты княжати Курляньскому жъ на замъку Рызскомъ же во властные руки его подалъ; а княже, дей, Курляньское тым же обычаемъ зъ замъку Лемъзеля около того черезъ него жъ до господаря его милости писалъ; пры томъ же, дей, отписе послалъ до его королевъское милости ланъцух золотый въ которомъ сто пяцьдесятъ и два огнивы, а сорокъ золотыхъ черленыхъ, тые манъдаты по тыхъ нѣмъцовъ, по которыхъ писаны, послати, дей, обецалъ. Которое сознанье того коморника его королевъское милости до книгъ канъцлереи его милости сподарское записано, съ которыхъ князю Анъдрею Курпъскому выписъ сесь данъ есть. Писанъ у Кнышыне.

Цікава схарактэрызаваны тут стасунак улады в. кн. Літоўскага да маскоўскіх эмігрантаў і тлумачэньне прычын, якія выклікалі гэту эміграцію з Масковіі. Гэтых эмігрантаў, а іх было ня мала, прыймалі вельмі гасьцінна, асабліва знатных, як Курбскі. Як ведама, Курбскага адразу абдарылі старараствам крэўскім, а пасьля далі горад Ковель з замкам і акалічнымі скарбовымі землямі, і, вось у якой форме выкладаецца каралеўскі прывілей на гэту маетнасьць, дараваную Курбскаму ў 1567 гадзе.

„Жикгимонтъ Августъ и проч. Чынимъ явно симъ листомъ нашимъ всимъ пасполите нинѣшнимъ и напотомъ будучимъ, што многіе станы разныхъ народовъ, а наболшъ народъ хрестіянскій съ подданства князя московского утисненый и уближенья вольностей шляхетскихъ которыхъ подъ панованьемъ его, пана своего, для веставичныхъ долеглостей вытерпѣти не могутъ, подъ зверхность и панованье нашо горнучи до службъ нашихъ господарскихъ ся утекають, яко князь Андрей Михайловичъ Курпскій, будучи во оной земли зъ

дому своего старожитного, а слышачи и достаточную вѣдомость маючи о щодробливости ласки нашое господарское, которую есмо ко всимъ подданымъ панствъ нашихъ ховати звыкли, оставивши вси имѣнья и маетность свою, которую въ земли в. кн. Московского мѣлъ, и опустивши службы его, до которихъ вызванъ былъ, зъ волею и вѣдомостью нашого господарского и за кглейты нашими ку службам въ подданство нашо господарское пріѣхалъ и нам ся господару поддалъ; а будучи добре, цнотливе и верне, и мужне намъ господару и речипосполитой служилъ: прото мы, господаръ, хотячи ему за имѣнья и маетности его, которыхъ онъ для ласки нашое господарское въ земли московской отъехалъ, нагороженье вчинити и послуги его, которыя намъ, господару, и рѣчи посполитой оказалъ, ласкою нашою господарскою вызнати и объяснити и впредъ охотнѣйшимъ его ку службамъ нашимъ господарскимъ и потребамъ речипосполитой панства нашого князьства Литовского вдѣлати, первѣй сего дали есмо ему зъ ласки нашое господарское замокъ нашъ Ковель, въ земли Волынской лежачый зъ дворы фольварками зъ мѣсты, з мѣстечками" і г. д.

Разам з гэтым Курбскі і ўся яго сямья былі абдараваны ўсімі правамі нараўне з мясцовым баярствам.

Пададзеныя тут прыклады паказуюць на аграмадную навуковую цэннасьць Мэтрыкі в. кн. Л.: тут і гісторык, і этнограф, і соціолёг, і філёлаг, і нават пісьменнік знойдуць шмат ня выкарыстаных матэр'ялаў і фактаў для выясьненьня, так яшчэ мала дасьледаванай нашай гісторыі і пісьменнасьці.

Пры гэтым засьцерагаем, што прыведзеныя тут выпіскі пачэрпнуты з расійскіх перадрукаў Мэтрыкі, ў каторых не перададзена старая пісоўня. Расійцы, баючыся сэпэратызму, друкавалі гэтыя дакуманты, падпраўляючы мову паводле граматыкі Грота, хоць, аднак, словы рэдка замянялі. У гэтай кнізе чытач аднак знойдзе перадрукі зробленыя літара ў літару,—да гэткіх належаць:

1. Грамата в. кн. Вітаўта Ільі Вячкевічу 1407 г.
2. Ліст ад в. кн. Казіміра Лукашу Тарашковічу 1488 г.
3. Грамата в. кн. Александра Федьку Грыгаровічу 1492 г.
4. Сьведчаньне падданых жараслаўскіх, канца XV ст. (да 1502 г.)
5. Устава караля Жыгімонта І Мозырскай воласьці 1510 г.
6. Форма пісарскай прысягі 1522 г.
7. Рахунак кар. Жыгімонта с п. Янушам Касьцевічам 1522 г.
8. Запіс аб грабяжох і гвалтах кобрынскіх падданых ад дзяржаўцы Касьцевіча 1524 г.
9. Ліст кар. Жыгімонта І старцам`і ўсім мужам воласьці Магілеўскай 1525 г.

Праглядаючы Мэтрыкі в. кн. Літоўскага, заўважаецца гэткая эволюція ў мове. Ужо найдаўнейшыя акты не маглі выразіць падзей з жывога жыцьця слоўнікам богаслужэбных ц.-славянскіх кніг і ўносілі ў свой тэкст тэхнічныя і другія словы з жывой крыўскай мовы, перарабляючы іх у пісоўні на ц.-славянскі лад. У меру разьвіцьця дзяржаўнасьці павялічалася патрэбнасьць выпуску з урадовых канцэлярый што раз большага ліку урадовых дакумантаў, у якія, з кождым годам, ўсё больш і больш уходзіла народных слоў. Ужо ў дакументах XV ст. мы бачым толькі асьвячоныя традыціяй царкоўна-

боўгарызмы, як „азъ“, „реклъ“, „пакъ ли“ (ня больш 10% ц.-славянізмаў) сярод чыста крыўскай народнай мовы, якія, аднак, абазначаюцца ў напісаньні царкоўна-славянскім правапісам. Гэтая рожніца паміж вымовай і правапісам істнуе ва ўсіх старых мовах. Прыкладам, мы ведаем, што ў францускай, ангельскай і гішпанскай мовах вымова напісаных літар падлягае фонэтыцы жывой мовы. Па ангельску пішацца colonel, а чытаюць—*ролонэль* (палкоўнік); rough чытаюць—*рэф* (шаршавы); bough—*бау* (сук); па францускy пішуць hôtel, а чытаюць—отэль, champ—шан (поле), temps—тан (час). Гэтак сама і ў нашай старой пісоўні напісаньне літар *в, л, о, с* вымаўлялася іначай, чым пісалася. Словы з ц.-славянскім напісаньнем „былъ, шелъ, ведалъ, далъ“ у чытаньні вымаўляліся, як і цяпер: быў, ішоў, ведаў, даў; словы з літ. *о* „оксаміт, откуль“ чыталіся „аксаміт, аткуль“ і так далей. (Ад пачатку XVII ст., наадварот, пачалі вымагаць літэральнай вымовы напісанага).

На пачатку XVI ст. ў мове дзяржаўных дакумантаў ц.-славянскіх слоў ужо немаль саўсім няма, ў кождым здарэньні іх ня больш 2—3%, а ў паасобных дакумантах і таго менш, але традыцыйны гістарычны правапіс, будучы зьвязаны ц.-слав. абэцэдай, астаецца той самы, што і ў папярэдніх стагодзьдзях, з вельмі нязначнымі адступленьнямі на карысьць фонэтыкі.

Ніжэй друкаваны слоўнічак, сабраны з дакумантаў Мэтрыкі в. кн. Літоўскага, перадрукаваных праф. Доўнар-Запольскім („Чт. въ Импер. Общ. Истор. и Древн. Росс.“, кн. IV. Масква, 1899 г.). Паасобныя словы гэтага слоўніка не ц.-славянскія, а крыўскія народныя, якія і сягоньня ўжываюцца па ўсей нашай тэрыторыі, што можна бачыць з даложаных выпісак са слоўніка Насовіча і другіх комэнтарыяў.

АБОЗ. „Дал лічбу у в о б о з е Васко Костюшковіч“ (Лічба Ваські Косьцюшковіча 1508 г., № 121).—Абоз, абозы—слова ўжыванае дагэтуль паўсюдна.

АДКУЛЬ. „А хотя бы і хотели о т к у л ь собе людей прыбавити“ (Ліст кар. Жыгімонта I, 1507 г., № 106). „Адкуль туча, адтуль і дождж“ (Насовіч, 375).

АДНАКРОТ (однажды). „Што перво сего не о д н о к р о т жаловали нам люди нашы Неменчинское и Лыкгменское волости“ (Вырок в. кн. Александра 1495 г., № 29. „Аднакрот, калі я быў на кірмашы“ (Раманаў, „Бел. сборн.“, кн. IV, б. 126).

АКСАМІТ (бархатъ). „И што теж давал до подскарбего нашого о к с а м и т ы, и одомашки и сукны“ (Ліст кар. Жыгімонта I, 1509 г., № 114).

„Наша Тацянка наша, спаймала сабе пташа,
А ў залёным жыце ў чырвоным аксаміце“ (Нар. пес.).

„Узяла аксаміту на кабат“ (Насовіч, 4).

АПАСЬЛЯ. „А о п о с л я того Козарина держал братанич его Тишко“ (Грам. кар. Александра 1499 г., № 66).—„Апасьля я ня буду ў дварэ“ (Насовіч, 365). „Апасля прыду“ (Там-жа, бал. 7).

АПРАВІЛІ (оправдали). „И мы их в томъ оправили и нашъ лист имъ на то дали“ (Грам. в. кн. Александра 1495 г., № 35). Апавіць аправілі, знача—ўчынілі правым, апраўдалі; цяпер гэтае слова ня ўжываецца.

АПЫТЫВАЦЬ (допрашивать). „Старых мытниковъ ковенъскихъ опытывали, жида Зубца и его товаришовъ“ (Грам. кар. Александра 1499 г., № 43). „Людзі апытаны, да нічого такога не сказалі“ (Насовіч, 366).

АСТАНАК (остатокъ). „А на Божее нароженье мают нам останочную двесте копъ грошей дати“ (Ліст кар. Александра 1498 г., № 55).

„Астанкі вазьмі сабе. Ніякага астанку не асталося“ (Насовіч, 370).

БІСКУП (епископъ). „А иное давал на рускии церкви и бискупу киевъскому“ (Лічба кіяўскага ключніка 1496 г., № 44). Ужываецца цяпер для азначаньня асоб гэтай годнасьці р.-каталіцкага веравызнаньня (Насовіч, 26). У смаленска-полацкіх граматах слова „пискуп“, „біскуп“ ужываецца і для азначаньня праваслаўных ўладык.

БУДАВАЦЬ (строить). „Печъ збудовал“ (Квітацыя 1503 г., № 79). „Пан вялікую абору будуець, збудаваў“ (Насовіч, 37).

ВАГА (вѣсъ). „Мыто Луцкое и вагу“ (Грам. кар. Александра 1498 г., № 56).—„Вагою бярэш, вагою і аддай“ (Насовіч, 42).

ВАПНА (известь). „Ино на тую цеглу вышло и на вапну двесте копъ “(Квітацыя 1503 г., № 79)—„Вапнаю заліць бут“ (Насовіч, 43).

ВЕДАЦЬ (знать). „Чинимъ знаменито и даемъ ведати симъ нашимъ листомъ“ (Ліст в. кн. Вітаўта 1407 г.)—У гэтым значэньні ўжываецца і цяпер па ўсей Крывіі. „Веданьня не далі, што тата хвор“ (Насовіч, 104). Я ведаю, чаго ты хочаш.

ВЕЛЬМІ (весьма). „И людей за собою вельми мало мают“ (Ліст кар. Жыгімонта I, 1507 г., № 106).—„Табе вельмі хочацца. Вельмі прыгож“ (Насовіч, 48).

ВІЖ (понятой). „Писар Сенько рек, абыхмо послали там вижа нашого“ (Вырок кар. Александра 1497 г., № 47). З прычыны заведзенай у Крывіі тэрмінолёгіі з маскоўскага права, астаўся толькі вытвараны з гэтага тэрміну дзеяслоў. Прыкладам, у Слонімшчыне кажуць: „Панятыя віжуюць спашу“.

ВЫЗНАВАЦЬ (признавать) „Вызнаем сами на себе сим нашим листом“ (Запрадажная канца XV ст., № 29).—„Не вызнаеш свае віны. Вызнаў свой доўг. Вызнаньне дакумантаў духоўніцы“ (Насовіч, 82).

ВЫМЕЛКІ. „Из млыны и з вымелки“ (Грам. кар. Александра 1501 г., № 71).—„Мельнік назьбіраў вымалкаў“, знача—астаткаў, пасьледу ад мліва (кажуць у Слонімшчыне). Хоць сягоньня пераважна гэта слова абазначае прадукт меліва.

ГАНЕЦ (курьеръ). „А коли бы посол або гонецъ нашъ взялъ коня в которого данника нашого“ (Устава Жыгімонта I Мозырскай воласьці 1510 г., № 126). Дагэтуль усеагульна ўжыванае слова: „Ганца паслалі с пісьмом. Ганец прыехаў з гораду“ і г. п.

ГАРАДНЯ („простѣнокъ“ у агароджы гораду). „Казал им рубити осмъ городен, а они перед тым издавна робливали толко две городни“ (Ліст в. кн. Алексндра 1499 г., № 68).—„Гарадню маю паламаў“ (Насовіч, 119).

ГАРАДЗІШЧА. „У Свислочи на городищы“ (Вырок кар. Александра 1499 г., № 61).

Цяпер гэтае слова ўжываецца па ўсёй Крывіі ў тых аколіцах, дзе ёсьць астаткі старажытных украпленьняў—„гарадзішч“. „Пойдзем гуляць, карагоды вадзіць на гарадзішча“.

ГАТОЎКА, ГАТАВІЗНА (денежная наличность). „А маеть нам вси тыи гроши давати на каждый год готовизною“ (Грамата кар. Александра 1498 г., № 56).

„Дай лепей гатоўку, чымся адкладаць. Гатавізнаю заплаціў“ (Насовіч, 120).

ДАВЕДАЎШЫСЯ (узнавъ). „Пан Юрей о томъ доведавшися и до его милости отписал“ (Грам. в. кн. Александра 1493 г., № 21).

Гэтае слова ўжываецца цяпер у тым-жа значэньні па ўсёй Крывіі. „Даведаўшыся аб гэтым, ён зрабіў тое і тое“. (Гл. слова „ведаць“).

ДАКУЛЬ (пока). „Докуль от насъ тыи будуть корчмы держати“ (Ліст кар. Александра 1498 г., № 45).—Дакуль ты мяне мучыць будзеш? „Пакуль, дакуль“—агульна ўжываныя словы.

ДАХ (крыша). „И дахи покрывалъ“ (Квітацыя 1503 г., № 7).

Цяпер ужываецца ў значаньні страхі, зробленай з даховак (гонтаў або кахлі) і падпаветкі, пакрытай драніцай. „Скрозь дах капліць. Пастаў калёсы пад дах“ (Насовіч, 127).

ДЗЕІЦЦА (происходитъ). „От них крывды и шкоды великии деються“ (Вырок кар. Александра 1499 г., № 61).

Слова ўсеагульна ўжыванае: „Што там дзеіцца, высказаць цяжка! Гэта дзеялася гадоў таму пяток назад“ і г. п. Гэта дзеялася на Спасавы запусты“ (Насовіч, 182).

ДОВАД (доказательство). „Мы хотимъ добры довод на то вчинити“... (Судовы дакумат канца XV ст., № 45).

Гэтае слова ў значэньні „доказательства“ ўжываецца дагэтуль усеагульна: „Які довад таго, што ты там быў. Дай довад свае нявіннасьці“.

ДУБАС (названьне вадаплава). „И вы от нашего дубаса и отъ его комяги мыта не брали бы“ (Грам. кар. Казіміра 1488 г., № 17).—Цяпер па ўсей Зах. Крывіі ў аколіцах рыбных рэк і азёр гэтае слова ўжываецца агульна як назоў выдаўбаных з дубу чаўноў, толькі ў адных мяйсцовасьцях кажуць „дубас“, а ў другіх „дубіца“; магчыма, што „дубас“ і „дубіца“—два асобныя тыпы вадаплаваў. У Насовіча (бал. 147)—„дубоўка“.

ЖАДАЦЬ, ЖАДАНЬНЕ (желать). И они для нашего жаданя мостъ тотъ перед городом (замкам) замостили“... (Грам. в. кн. Александра 1495 г., № 36).—„Ні гадаў, ні жадаў, а само ў рот уляцела. Дарэмнае тваё жаданьне“ (Насовіч, 152).

ЖНУЦЬ (жнутъ). „...а три дни жита ж н у т ь, и иные службы служать“ (Грам. кар. Александра 1496 г., № 42).—Цяпер у гэтым-жа значэньні ўсеагульна ўжыванае слова. У Насовіча (бал. 157) паказаны толькі выводныя ад яго: жнейка, жнеічка, жнея, жнівеньне, жнівішча, жніўны, жніва (жніво).

ЗАПУСТЫ (масленица, заговѣнье). „А на великии з а п у с т ы другую двесте копъ (Грам. кар. Александра 1504 г., № 84).—„Гэта дзеялася на Спасавы запусты“ (Насовіч, 182).

ЗАЧЭПКА (претензія, задержка, придирка). ...„пропускали без мыта и без всякое з а ч е п к и“ (Ліст Жыгімонта І, 1507 г., № 102).—„Без зачэпкі ні часу, ка ўсяму прычэпліваешся“ (Насовіч, 193).

ЗБРОЯ (оружіе). „Служити у з б р о и на кони посполъ зыншыми татары нашыми“ (Ліст Жыгімонта І, 1507 г., № 102).—„Збройна едуць на вайну“ (Насовіч, 196); тут „збройна“ знача—пры зброі.

ЗВЕКУ (испоконъ). „А з в е к у есмо того озера не волочили“ (Вырок кар. Александра 1497 г., № 47).—Усеагульна ўжыванае слова побач са словам „спакон“: „У нас звеку (спакон вякоў) быў гэты звычай“.

ЗВЫШ (сверх). „А што есте приходу з в ы ш своих пенезей выдали на нашъ листъ“ (Квітацыя в. кн. Александра 1499, г., № 64.)—„Звыш не давай, як рубля“ (Насовіч, 200).

КАЖУХ (тулупъ). „Скиньдир присылал к нам слугу своего, обецаючы намъ по к о ж у х у..., а просечи нас абы то светчили, што он намъ кажеть“ (Судовы дакумант канца XV ст., № 45).—„Да Духа не здзявай кажуха, а па Дусе ў тым-жа кажусе“ (Насовіч, 240).

КАЛІ (когда). К о л и имуть его делити того имъ не надобе у делъ (дзель, часьць) искати“ (Грамата в. кн. Казіміра 1444 г.).—„Калі пыл на баране, то і блін на рашаце (Насовіч, 241).

КАМЯГА (назова вадаплава, гл. „Дубас“). ...„панъ воевода послался на всихъ случанъ и наменял (намякаў) на тыхъ, который туда к о м я г а м и ходять“ (Памятны запіс 1496 г., № 32).—Па Насовічу „камяга“—непаваротны, выдаўбаны з тоўстага дрэва, човен. Дзеля гэтага і непаваротнага тоўстага чалавека завуць камягаватым: „Камягаватая дзеўка“. Гэтае слова азначае такжа і карыта для вадапою. „Камяга абмерзла“ (Насовіч, 244).

КВІТАЦІЯ (квитанція) ...„ а вжо есмо много у них (у мытнікаў) подавали на к в и т а ц и я х“ (Грам. кар. Александра 1496 г., № 39). „А то все роздано на к в и т а ц е и“ (Лічба мытнікаў Валадзімерскіх 1496 г., № 53).

„Грошы аддаў і квітацыю ўзяў“ (Насовіч, 232).

КВІТАВАЦЬ, КВІТУНАК (отчётъ, разсчётъ). „Наш к в и т у н о к ъ намъ вернулъ“ (Пацьверджаньне Жыгімонта І, 1514 г., № 136).—„Квітуй усё, што я табе калі прынёс за доўг“ (Насовіч, 232).

КОЖДЫ (всякій). „К о ж д а я рѣчь свѣта того“ (Прывілей Жыгімонта І, 1516 г., № 141).—„Кождаму хочацца есьці“ (Насовіч, 240).

КОЛА (колесо). „Въ того млынка одно к о л о“ (Прывілей 1504 г., № 82). „Кола паправіць трэба. Кола ўвольні. Кожын чорт на сваё кола ваду цягне“ (Насовіч, 241).

КОСЯТЬ, КАСІЦЬ (косять). ...„а служба дей ихъ тое три дни сена к о с я т ь (Грам. кар. Александра 1469 г., № 42).—Агульна ўжыванае слова: „Мужчыны косяць, а бабы грабуць. Хлапец навучыўся добра касіць: проста піша касою!“

КРЫНІЦА (источникъ, родникъ). „З реками и с криницами“ (Грамата в. кн. Вітаўта 1407 г.).—„У крыніцы халодненькая вадзіца“. У крыўскіх народных песьнях крыніца раўняецца з дзяўчынай.

„Ай дзе тая крынічанька, што голуб купаўся?
Ай дзе тая дзяўчыненька, што я заляцаўся?
А ўжо тая крынічанька травою зарасла,—
А ўшо тая дзяўчыненька даўно замуж пашла“ (Насовіч, 253).

КРЫЎДА (обида, несправедливость). „Ажъ бы еси через то кривдъ имъ не чинилъ и новинъ не уводилъ“ (Грам. кар. Александра 1496 г., № 41).

„Бог зьвідзіць няхай маю крыўду, якую цярплю ад цябе“ (Насовіч, 252).

КУПЛЯ (покупка) ...„вольно торговати везде по великому князству Літовскому со всякою куплею“ (Прывілей 1504 г., № 83).—„Якія грошы, такая й купля“ (Насовіч, 260).

ЛІЧБА (счетъ, отчетъ). „Панъ Андрей подскарбий а Ивашко Владыко писар брали личбу у ключника киевского у Сенка Полозовича... што въ тыи часы брали мыто после личбы тое, как давали личбу у Троцех господару великому князю Александру“ (Лічба ключніка кіяўскага 1494 г., № 26).—„Лічба вялікая, да праўды мала“ (Насовіч, 270).

ЛОВЫ (охота). „З ловы и ловищи и з бобровыми гоны“ (Грам. в. кн. Вітаўта 1407 г.) ...„и тежъ коли з ними у ловы ездишъ, кажешъ имъ... речей своих стеречи“ (Грам. кар. Александра 1496 г., № 41). „И от тыхъ служобь тяглыхъ вызволили, а велели ему одною службою ловецкою служити“ (Ліст кар. Жыгімонта I, 1508 г., № 112).—„На лаўца і зьвер бяжыць“ (Народная прыказка).

ЛОЎЧЫ (охотникъ). „Ловчому нашому пану Мішку“... (Граматя в. кн. Казіміра, 1444 г.)—Яшчэ да апошніх часаў па дварох быў урад „лоўчага“, на павіннасьці якога ляжала пілнаваць лесу і лясной зьвярыны. Слова ўсеагульна вядомае.

ЛУКНО (лукошко). ...„з лукном меду“ (Вырок в. кн. Александра 1495 г., № 29).—„Лукно“ дрэўлянае начыньне ня с клепак, а з дзюплаватага пня з ўстаўным дном, ужыванае дагэтуль да мёду, масла, таплёнага сала і мукі. „У лукно—талакно, ў карабок—бабок“ (Нар. прыказка).

МЛЫН (мельница). „И тотъ ставъ... со млыномъ дали вечно и не порушно“ (Грам. кар. Александра 1503 г., № 81).

„Дарога каля млына. Ветраны млын“ (Насовіч, 286).

МЛЫНАР (мельникъ). „И землицы около того ставка, на которой жо млынар жывет“ (Прывілей 1504 г., № 32). Цяпер агульна ўжываецца побач са словам „мельнік“, хоць паміж гэтымі словамі трэба дабачаць маленькую рожніцу: „мельнік“ меля, а „млынар“ (ад слова „млын“) ня толькі меля, але і мае млын на ўласнасьць або ў арэндзе (Насовіч, 286).

МЫТНІКІ (таможенные чиновники). „Били намъ чолом мытники наши Путивльскии“ (Грам. кар. Александра 1496 г., № 39). Як імязоў дзяржаўна-адміністратыўны, слова гэтае выйшла з ужытку ў паточнай народнай мове.

МЯШЧАНЕ (горожане). „Били нам челом войтъ места Виленского, бурмистри и радцы и вси мешчане“ (Грам. в. кн. Александра 1495 г., № 36). Цяпер агульна ўжыванае слова: „Ого, наш Сымон хоча падпанкам зрабіцца, —з мяшчанкаю жэніцца“.

НАКЛАД (издержки). ...„ а если бых хто з нас мел торг рушити... тот заплатит вины... грош на грош и наклад увесь“ (Прадажны зап. канца XV ст., № 18). Агульна ўжыванае слова ў тым жа значэньні: „Гэта купля будзе для мяне накладнай“, знача—купля запатрэбуе многа выдаткаў.

НАМЕСЬНІЦТВА (намѣстничество). „А тридцать копъ тыми разы привезено с Чичерска от наместъницътва“ (Прыхода-расходны запіс пісара гаспадарскага 1496 г., № 38). Цяпер агульна ўжыванае слова: „Мой сын служыць у дварэ намесьнікам. Перад сьмерцю ён перадаў сваё намесьніцтва сыну“.

НАРОЗНА (въ розницу)... „не маеть его (віно гарэлае) продавати мимо них, ани шинковати им нарозно“ (Ліст кар. Александра 1498 г., № 55). „Нарозна жывуць. Нарозна пашлі. Нарозь кождая рэч даражэй“ (Насовіч, 317).

НАСЬЛЕДАК (наслѣдникъ). „Будет ли тая земля пуста, а наследка в нее не будет“ (Грам. кар. Александра 1494 г., № 24).

„Ні адтуль, ні адсюль насьледка Бог даў“ (Насовіч, 318).

НЕДАСТАТАК (нужда). „Штож з нашого великого недостатку продали есмо нивку в Дубровах“ (Прадажны запіс канца XV ст., № 18). Цяпер усеагульна ўжываецца ў тым-жа значэньні: „Сколькі ні працуй, ні бíся, а ўсё ў недастатку жывеш“.

НЕПАРУШНА (нерушимо). „Вечно и непорушно ему и его жоне“... (Грамата в. кн. Вітаўта 1407 г.).

„Бацькіно прыказаньне непарушна саблюдай“ (Насовіч, 335).

НІКОЛІ (никогда). „Николі мосту перед городом немощивали“.. (Грам. в. кн. Александра 1495 г., № 36).

„Ня быў там ніколі і ніколі ня буду“ (Насовіч, 340).

НЯБОЖЧЫК (покойникъ). „Штожъ небошчыкъ отец нашъ король его милость“... (Грам. в. кн. Александра 1493 г., № 21).—„Нябожчыкі ўсе харошы. За нябожчыцаю лепей было жыць“ (Насовіч, 327).

НЯШКОДНА (невредно). „Ино естли будеть торгом (ліч. мн.) по нашым двором не шкодно, и мы ему тотъ торгъ выйменьи его въ Жакгорех дали мети“ (Грам. в. кн. Александра 1495 г., № 30). Цяпер ужываецца ўсеагульна, як проціўстаўленьне значэньню „шкодна“ (вредно). „Табе шкодна, а мне—не“ (Насовіч, 711). Гэта самае кажуць яшчэ і так: „Мне няшкодна, а табе шкодна“.

НЯХАЙ (пусть). „Нехай они служат намъ доспехомъ и конем“ (Грам. в. кн. Александра 1495 г., № 35).

„Узяў чорт кароўку, няхай бярэ і вяроўку“ (Насовіч, 338).

ПАДАБАЛАСЯ (понравилось). „Витовту тое местцо подобалося на двор (каб пабудаваць двор)“—(Судовы дакумант канца XV ст., № 45).—„Табе дзеўка падабаецца, ды ты ёй ці ўпадабаўся. Кожды падабае харошае (Насовіч, 444).

ПАДВОДА „Ино коли и перво того подводъ не даивали и тыми разы ненадобе имъ подвод давати“ (Прывілей 1503 г., № 78).

„Ужо й падводанька для мяне гатова!“ (Насовіч, 439).

ПАЖЫТКІ (польза). „И со всими пожитки и податьми“ (Грам. в. кн. Вітаўта 1407 г.).—„Без пажытку ніхто не працуе. Работы многа, а пажытку мала“ (Насовіч 452).

ПАЛАВІЦА (половина, часть). „Троцкое половіцы“ (Грамата Казіміра-каралевіча, 1440 г.). — Ўсеагульна ўжыванае цяпер слова там, дзе кажуць „палавічнік“, г. зн.—той, хто мае права на палавіну чагоколечы. Словам, „палавіца“ мужык часта называе сваю жонку: „Што на гэта мая палавіца скажа“ (Насовіч, 462). У грамаце кар. Казіміра і наагул у старой нашай пісьменнасьці, слова „палавіца“ ўжывалася для азначаньня гарадзкога кварталу.

ПАЛЕПШЫЦЬ (улучшить). „И естли бы ся полепшило, тогды мает нам тое цены повышити“ (Грам. кар. Александра 1498 г., № 56). Ад слова „лепшыць“ (улучшать). „Нораў панскі лепшае, палепшыў“ (Насовіч, 274).

ПАМЯТАЦЬ (помнить) ...„мы памятуем... еще за великого князя Витовта“ (Судовы дакумант канца XV ст., № 45).

„Ці памятаеш ты, як былі ў нас Французы“? (Насовіч, 391).

ПАТРЭБНА (нужно, надобно). „Кому будет потребно“ (Грамата в. кн. Вітаўта 1407 г.).

„К пану патрэбна йці“ (Насовіч, 475).

ПАТРЭБЫ (нужды, необходимость). „Што еси выдал на нашы потребы“ (Квітацыя кар. Александра 1505 г. № 90).—Патрэба кажа. Патрэбу маю ехаць. Страціў грошы на рожныя патрэбы“ (Насовіч, 484).

ПАТУЖНІКІ (пособники) „Бил нам чолом городничий смоленский а просил въ нас села з людьмі въ Смоленском повете (такіх то і такіх, названы імёны) и з ихъ потужниками“ (Грамата пач. XVI ст. смаленскаму гараднічаму)—„Чаму не управіцца з такімі патужнікамі? Ці здарова твая патужніца?“—гэтак пытаюцца ў гаспадара аб яго жонцы (Насовіч, 485, 486).

ПАСЫЛАЦЦА, СПАСЫЛАЦЦА (ссылаться). „И они бояре послалися на пана Радивила Остиковича“... (Грамата кар. Казіміра 1488 г.). . .„панъ воевода послался на всихъ случан и наменял (намякаў) на тыхъ, которыи туда комягами ходять“ (Памятны запіс 1496 г., № 32). Цяпер ужываецца ў тым-жа значэньні: „Ен ня хоча працаваць і ўсё спасылаецца на сваю хворасьць“.

ПАЧАТАК (задатокъ). „А нам маюць початку дати тодыжъ, на светого Петра день, двесте коп грошей“ (Ліст. кар. Александра 1498 г., № 55). Каля Полацка ўжываецца і цяпер побач са словам задатак: „Арэнды, пачатку даў 50 рублеў“.

ПЛУГ. „Земли пашное на одинъ плугъ“ (Грам. кар. Александра 1503 г., № 81).—Усеагульна ўжыванае слова: „Даўней гаралі сохамі, а цяпер—

плугамі. Гэтага гараньня асталося на заўтра ня больш, як на адзін плуг", знача,—ня больш таго, што можна за дзень згараць адным плугам.

ПОПЕЛЪ (зола). „У пущи нашей Виленской близко мѣста попел жечы и клепки робити" (Ліст. Жыг. I, 1508 г., № 119).

„Золата і ў попелі відно" (Насовіч, 470).

ПРОДКІ (предки). „Продковъ нашихъ и отца нашего короля его милости" (Вырок в. кн. Александра 1495 г., № 29).

„Тут нашы продки дзяды й прадзяды жылі" (Насовіч, 522).

ПРАМЫТА, ПРАМЫТНІКІ (контрабанда, контрабандисты). „А соль везеть—от воза грош мыта, а коли оминеть гроша не дав... двадцать грошей промыты" (Грамата в. кн. Вітаўта 1407 г.).

Гл. слова „мытнікі".

ПРЫГОН (барщина). „И въ пригонъ и на толоку ходить" (Ліст кар. Жигимонта I, 1508 г., № 112).

„На прыгон гонюць" (Насовіч, 439).

ПРЫДАЦЬ (добавить). „Ино еще придали есмо (яму) у Бобруйской волости" (Грамата Казіміра-каралевіча 1440 г.).

„Не прыдавай к цане больш рубля" (Насовіч, 500).

ПРЫЯЖДЖАЮЦЬ. „Они приеждчаюць со Кгданска съ солью до Ковна" (Грам. кар. Александра 1496 г., № 43).—Агульна ўжыванае слова. Пры чым цікава, што даўнейшы правопіс яго блізка стаіць да сучаснай вымовы і правопісу: „На сьвяты да нас прыяжджаюць госьці".

ПРЫЙДУЧЫ (будущій). „Мартинъ Янгелевичъ свой год выдержить (арэнду) до светого Петра дня прийдучого" (Ліст. кар. Александра 1498 г., № 55).

„Палажы гэта на прыйдучыя часы" (Насовіч, 518).

„ПРЫСЕЛКІ. „Приселки на имя Марковичи" (Грам. в. кн. Александра 1501 г., № 71).—Цяпер ужываецца, ведама-ж там, дзе ёсьць гэтыя прыселкі, г. зн.—невялікія сялібы ўпабліжы сяла, прыданыя да аднаго старасты.

ПРЫСЛУХАЦЬ (повиноваться). „Со всим тымъ, што здавна к тому селу прислухало" (Грам. в. кн. Александра 1499 г., № 63).—„Прыслухаць"—ад слова „слухаць", якое, як і выводныя ад яго, ўжываецца і цяпер у значэньні „повиноваться". „Ня слухаеш добрых слоў, паслухаеш сабачай скуры. Слуханьне трэба аказваць гаспадару" (Насовіч, 592).

ПРЫХОД (приходъ, доходъ). „Пришло приходу двесте караиманов и двенадцать караиманов медомъ и грошми со всихъ волостей киевскихъ" (Лічба кіяўскага ключніка 1494 г., № 26).—Цяпер ужываецца ўперамешку са словам „прыбытак", якое больш адпавядае маскоўскаму „доходъ". „Хоць малы прыбытак, а ўсе ёсьць. Прыбытку з гэтага табе мала будзе" (Насовіч, 496). Ужываецца слова „прыход" і ў значэньні маскоўскага „выгода": „Ты прыходней купіў за мяне" (ibidem, 516).

ПЭРЛЫ (жемчугъ). „Тых грошей заплачоно туръком за перлы". (Прыхода-расходны запіс пісара гаспадарскага 1496 г., № 38).—„Пэрламі усажана карона ў абразе. Жыдоўка ў пэрлах ходзіць" (Насовіч, 412).

РАБІЦЬ (дѣлать). „Тот замок робил воевода троцкий“ (Ліст в. кн. Александра 1499 г., № 68). „На роботники, што цеглу робили“ (Квітація 1503 г., № 79).—Агульна ўжыванае слова: „Само нішто ня зробіцца, калі ня прымешся за работу“ (Насовіч, 563).

РАСХОД. „Расходъ тымъ караиманом (мера мёду)“. (Лічба кіяўскага ключніка 1494 г., № 26).

„Чужыя грошы расходуеш“ (Насовіч, 560).

САМАВОЛЬНА. „А што будут самовольно людей нашых за себе забрали и з землями их“... (Вырок в. кн. Александра 1495 г., № 29),—„Самавольна спасьвілі ў начы маю атаву“. У Насовіча (бал. 572) паказаны выводныя ад гэтага слова: „З самаволам гэтым ніхто ня справіцца. Дапусьціў дзяцей сваіх да ўсякага самавольства: што хочуць, то й робяць“.

СЬВЕДАМЫ (знающій). „А пры томъ были того добре свѣдоми“ (Прадажны зап. канца XV ст., № 18).—„Сьвядомы, што відомы“. (Нар. прыказка). „Людзі сьвядомыя гэтага дзела“.

СЬВЕДЧЫЦЬ (свидѣтельствовать). И они светчили штожъ дедъ их“... (Грамата кар. Казіміра 1488 г.). „Жерославчане светчили перед паном виленскимъ“ (Судовы дакумант канца XV ст., № 45).—Агульна ўжыванае слова: „На судзе ты будзешь сьведчыць пад прысягай“.

СЕЛЯНІН (крестьянинъ). „Штожъ им не надобе дяколъ давати ани иншых которых службъ з селяны (служити)“ (Грам. кар. Казіміра, 1488).—Агульна ўжыванае слова і цяпер для абазначаньня вясковага жыхара: селянін-ка, сялянства.

СЕНАЖАЦІ (сѣнокосы). „Зъ пашнями зъ сеножатьми, з лѣсы, з луги“ (Грамата в. кн. Вітаўта, 1407).—„Паедзем на сенажаць. Куплю табе хатку, яшчэ сенажатку“ Насовіч, 630).

СКАЗА (вред, поврежденіе, порча). „И для ихъ сказы от поганства (татараў), и для голоду (скінуты падатак)“. (Грам. в. кн. Александра Валадзімерскім мяшчанам 1495 г.. № 34). — „Конь ніякай сказы ня мае“ (Насовіч, 580). „Ня купляй шкла са сказінай“.

СПРАВА (дѣло). „Справа почалася при Богуши писари у Смоленску“... (Лічба Ваські Костюшковіча 1508 г., № 121).—„Дрэнная вышла справа з гэтага дзела“ (Насовіч, 608).

СПРАВЯДЛІВА (честно). „Светчимъ верне а справедливе“ (Судовы дакумант канца XV ст., № 45).—Агульна ўжыванае слова: „Справядліваму Бог памагае. Калі хочаш, каб цябе паважалі й любілі,—жыві справядліва“.

СТАВЫ (пруды). „С потоки, ставы и со всими пожитки“ (Грам. в. кн. Вітаўта, 1407).—„Вада цераз стаў пашла“ (Насовіч, 612).

СТРУГ. „А от струга по пятнадцати грошей“ (Вырок кар. Жыгімонта I, 1511 г., № 129).—Стругі і цяпер плаваюць па Дзьвіне, Дняпру і Прыпяці, гэта—вялікія вяславыя вадаплавы для перавозкі тавараў.

СПУСТОШАНЫ (разорены). „Именья ихъ отъ неприятелей спустошоны“ (Ліст кар. Жыгімонта I, 1507 г., № 106).—„Край спустошаны няпрыяцелем“ (Насовіч, 610).

СУДОВЫ (судебный). „И листъ имъ панъ воевода свой судовый на то далъ“ (Грам. в кн. Александра 1495 г., № 35).—„Судовая справа. Судовыя паперы“ (Насовіч, 621).

СЫГНЭТ. „Под сыкгнѣтомъ короля его милости“ (Запіс 1507 г., № 97). Пярсьцёнак з пячаткаю: „Сыгнэтам сваім прыпячатаў“ (Насовіч, 629).

СЧАДКІ (потомство). „Ему и его жоне, и его детемъ и близкимъ и счедкомъ“ (Грамата в. кн. Вітаўта 1407 г.). „И их шчадкомъ (Грам. в. кн. Александра 1493 г., № 21)“.—Ад „чадо“—дзяцё, патомства. У зах. Вітабшчыне ўжываецца ў народзе слова „нашчадзь“—патомства: „Нашчадкам сваім усё пакіну“.

ТАЛАКА. „И въ пригонъ и на толоку ходить“ (Ліст кар. Жыгімонта І, 1507 г., № 112). „Прасіў пан на талаку, а ня пойдзеш,—і за лоб павалаку. Слава, да й слава, паночак, твая: п'яна, да й п'яна талака твая“ (Насовіч, 636).

ТОЛЬКІ (только). „Толко нам тых двухъ годовъ виньни полтретинадцать копы грошей“ (Грам. в. кн. Александра 1496 г., № 39).—Агульна ўжыванае слова: „Давалі за карову толькі трыццаць рублёў. Толькі ты не скажы мацяры“.

ТОРГ (базаръ). „И просил насъ абыхмо ему дозволили торгъ мѣти выймени его в Гощы“ (Грам. в. кн. Александра 1495 г., № 20).—„Паехаў на торг“ (Насовіч, 637).

ТРЭЦІНУ. „Кому по половине, а кому третину“ (Лічба кіяўскага ключніка 1497—1498 г., № 54).—„Пан наш трэціну лесу свайго прадаў. З трэціны засяваю суседнюю зямлю“ (Насовіч, 639).

УБАЧЫЦЬ (увидѣть). „Иж вбачивши есмо трудность переезду отъ Мелника до Белска“ (Прывілей Жыгімонта І, 1516 г., № 141).—„Убачыш сам посьле, ды ня вернеш“ (Насовіч, 647).

ЎЗДОЙМАМ (оптомъ). „А хто бы зыншого города, албо места вино горелое до Смоленска привезъ, тот мает вздоймом тое вино продати тым жо корчмитомъ нашим“ (Ліст кар. Александра 1498 г., № 55)—„Усё сяло уздоймам узнялося рыбу лавіць“. У значэньні рас. „опт“ цяпер ужываецца слова „агул, агулам, агульнік, агульніца“—крама, дзе прадаюць не ў разброд, а агулам.

УПАМЯТАЎШЫ (помня). „Ино мы впамятавши его верную службу (Грам. в. кн. Александра 1492 г., № 22).—„Ня ведаю, ці упамятую я усё гэта“ (Насовіч, 660).

ФАЛЬШ (поддѣлка). „А нам грошей не браковати, нижли бы только не железо, а не медь, а не фальшъ, штобы было сребро“ (Ліст кар. Александра 1498 г., № 55).—„Тавар твой—нячысты тавар: многа фалшу ёсьць“ (Насовіч, 673). Ужываецца і „хвальш“: „Тут хвальш нейкая ёсьць“ (ibidem, 676).

ХТО (кто). „Хто нань узрить или чтучи въслышить“ (Грамата в. кн. Вітаўта 1407 г.).—Агульна ўжыванае слова: „Усе працуюць: хто гарэ, хто барануе, а хто сее. Хто цябе навучыў чытаць?“

ЦЭГЛА (кирпичъ). „Ино вробилъ цеглы и плитницу, што и печъ збудовалъ“ (Квітація 1503 г., № 79).—„Па цэглы паехалі“ (Насовіч, 693).

ЧАС (время). „И до сихъ часовъ тамъ многие люди корчмы маютъ“ (Ліст кар. Жыгімонта I, 1508 г., № 109).—„Часу ня маю з табой гаварыць“ (Насовіч, 696).

ЧОЎН (челнъ). „А от чолну великого по двенадцати грошей“ (Вырок кар. Жыгімонта I, 1511 г., № 129).—„У чаўне перабраўся цераз рэку. А што цябе прынясло, ці чаўначок, ці вясло“ (Насовіч, 696, 700).

ЯЗЫ. „Ани езов не забивали, ани езовничыи державец витебских на езох не леживали“ (Вырок кар. Акександра 1497 г,, № 48).—„Міма язу рыба ня пройдзе“ (Насовіч, 726).

ЯЛАВІЦА (нетельная корова). „И казали есмо им давати в каждый год (срокъ) за яловицу по полукопъю грошей“ (Грам. кар. Александра 1494 г., № 23).—„Карова ялаўка, а малако дае“ (Насовіч, 727). Прадалі ялавіцу на мяса.

**1697**

Pisarz powinien po Polsku a nie po rusku pisać.

Падзел на касты, рана пачаў руйнаваць еднасьць крыўскага народу. Мы бачылі, што ўжо ў XV ст. была высунута фантастычная тэорыя, што нашы магнацкія роды паходзілі ад рымлян. У гэту басьню магнаты верылі, і веручы пачувалі сябе нечым выжшым па роду-племені ад акружаўшага іх народу. Усьлед за магнатамі выдзялілася ў асобную, замкнутую саму ў сабе, касту шляхта і духавенства (якое рэкрутавалася ў 99% с шляхты). За шляхтай, замкнулася ў асобную касту паняволенае прыгоннай залежнасьцю сялянства. Кождая з гэтых трох каст, пад канец XVII стагодзьдзя, жыве ўжо сваім асобным жыцьцём, сваімі інтэрасамі і ідэаламі.

Магнаты адукуюцца заграніцай, паслуговуюцца ў штодзенным жыцьці чужаземнымі мовамі; сьпярша лацінай, а калі знаньне апошняй пашыралася праз школы на шляхту, то мовай французскай. У канцы XVII і пачатках XVIII ст. французская мова паміж нашай арыстакраціі становіцца мовай сямейнай. Прыкладам, князі Сулкоўскія і Мнішхі, падкаморчыцы в. кн. Літоўска-Рускага (Крыўскага), толькі ў 12-м годзе жыцьця пачыналі вучыцца мовы „краёвай“, пад якой назовай фігуравала ў іх мова польская.

Шляхта, ў конфэсіональных каталіцкіх і праваслаўных школах, зацьвярджала на ўсё жыцьцё ня толькі параграфы шляхэцкіх свабод, якія давалі



Аправа кнігі ў скуру з масяжовымі наружнікамі, віленскай работы XVII ст.

ей дыктатарскае палажэньне ў краю, але ўсычала ў сябе мілую яе амбіцям тэорыю, што шляхта паходзіць ад Яфэта, а сялянства—ад Хама. У гэту басьню таксама верылі і да яе датасовывалі практычнае жыцьцё; ёй апраўдывалі бязлітаснае панаваньне сваё над сялянствам і сьвядома аддзялалі сябе ад яго звычаямі і вопраткай. Паводле шляхэцкіх тэорый шляхта і сяляне—два розныя племі. Радзьдзел гэты давяршыла польская мова, якая, дзякуючы школам, распашырылася паміж шляхтай.

С пераходам магнатаў, а за імі шляхты ў каталіцтва, каставы падзел адпавядаў веравызнаўчаму падзелу: магнаты і шляхта—каталікі, сяляне—уніяты; праваслаўе слыло верай казацкай.

Каставая шляхэцкая арганізацыя, перанесеная да нас с Польшчы, шырыла польскія ўплывы сярод гэтай касты вельмі рана. Ужо ў 1544 годзе паны і шляхта в. кн. Літоўска-Рускага (Крыўскага), пісалі пэтыцыю да караля, ад Берасьцейскага сойму, па польску (Działyński: „Zbiór praw litewskich“). Пад актамі, пісанымі крыўскай мовай, с палавіны XVI ст., сустрачаем польскія подпісы. Гэткія подпісы да Люблінскай уніі даволі рэдкі, але пасьля 1569 году польскія подпісы магнатаў і шляхты сустрачаюцца што раз часьцей. Да XVII ст. крыўскія подпісы яшчэ пераважаюць, але ўжо ў пачатку другой чверці XVII ст. заўважаецца заніканьне, на ўрадовых дакумантах, крыўскіх подпісаў у пасьпешным тэмпе. У другой палавіне XVII ст. крыўскія подпісы на дакумантах бываюць ужо рэдка.

Вядомы абаронца праваслаўя кн. Канстантын Астрожскі, ў сваей перапісцы, пераважна ўжывае мовы польскай (Голубевъ, „П. Могила“, т. I, дадатак № 6, 11, 14, 17). Гэтак сама паступаюць Іпаці Поцей, (M. Wiszniewski „Hist. Lit. P.“, т. III, 264), Крыштаф Радзівіл, Леў Сапега; Мітрапаліты: Рагоза, Рутскі, П. Магіла; а таксама Плецянецкі, Ян Кароль Хадкевіч і інш. (Iabłonowski, „Akad. Kijowo-Mohilańska“ б. 58).

Не мала дапамагла пашырэньню польшчыны рэлігійная палеміка. Першы ўжыў польскай мовы ў палеміцы са стараны праваслаўных Сьцяпан Зызані, ў сваім „Катехизисе“ надрукаваным у Вільні ў 1595 г., дзе зьмесьціў „Kazanie sw. Cyrylla patryarchy Ierozolimskiego“. У 1597 г. выдана было Apokrisis Крыштафа Бронскага. У 1599 г. выдаюць уніяты „Antirrisis abo Apologia przeciw Krysztofowi Filaletowi“. За гэтымі першымі ластаўкамі пайшлі соткі іншых палемічных твораў са стараны праваслаўных і уніятаў, пісаныя па польску і, ўрэшце ад 1630-х годаў немаль выключна, а з другой палавіны XVII ст., ўжо саўсім выключна, рэлігійная палеміка вядзецца па польску.

Мова каталіцкага касьцёлу была лацінская, мова праваслаўнай і уніяцкай царквы—славянская, мовай шляхэцкай касты сталася—польская. Кожды шляхціц, і выйшоўшы з гэтай касты духоўнік, прызнаваў гэтыя тры мовы менш-больш роўнапраўнымі, але ніколі ня думаў і не хаціў „зьнізіцца“ да мовы паняволенага народу, адкідаў яе с пагардай, як азнаку ніжэйшай касты.

Змаганьне за праваслаўе, гэта было змаганьнем за догматы, абрады, герархію і духоўнае маетнасьці, але ня мела ў сабе ніякіх азнак змаганьня за народнасьць, ці за культурную ад палякаў аддзельнасьць. Наадварот, змагань-

не за праваслаўе было адным з галоўных фактараў, які прычыніўся да пашырэньня полёнізацыі і замены старакрыўскай мовы ў пісьменнасьці мовамі ц.-славянскай і польскай. У гэтым змаганьні ніводная старана—ані праваслаўныя, ані уніяты—не станула на грунт абароны народнасьці. Праваслаўе было праваднікам уплываў маскоўскіх, каталіцтва падпірала ўплывы і панаваньне шляхэцка-польскае, а уніяцтва, як вера мужыцкая, сталася прыдачай да каталіцтва.

Казацкая старшызна ва ўсім патварала шляхце і праваслаўнаму духавенству. Прыкладам, на акце выбару Капысьценскага на Кіява-Пячэрскую архымандрыю, акце выключна праваслаўным, паложана 54 подпісы казацкай старшызны па польску.

Пры гэткім культурным палажэньні і настроях сярод шляхты, адбыўся варшаўскі сойм 1697 г., на якім была ўнесена прапанова замяніць у урадах в. кн. Літоўска-Рускага (Крыўскага) мову „русскую" мовай польскай. Адарваная ад народу, сваей кастовасьцю, шляхта не разумела ўжо значэньня роднай мовы, не была ўжо самаістым народным і культурным індывідумам, а дзеля гэтага не ставіла крэпкага адпору. На сойме 1697 г. не аказалася прадстаўнікоў нацыі і дзеля гэтага прынята была пастанова гэткага зьместу:

> „Ponieważ język ruski niedostępny jest gienjuszowi polskiemu, przeto pisarz powinien po polsku, a nie po rusku pisać wszystkie wypisy i pozwy".

Шляхта пачувала сябе ўжо націянальна палякамі: „Gente Ruthenu, natione polonus".

Гэтым актам шляхта выкрэсьліла сябе з радоў нашай народнасьці, паставіла над сабой, як над прадстаўніцай нацыі і дзяржавы, нагробны знак адступніцтва. Дзеля гэтага падзею гэту ў нашым народным жыцьці абвялі мы жалобнай рамкай.

„ТРЭБНИКЪ", друк. ў Вільні, 1697 г., ў 8-ку, 6+218+13 лістоў (Ундольскій).

„ПОСЛѢДОВАНІЕ ПОСТРИГУ ВЪ МАЛЫЙ ИНОЧ. ОБРАЗЪ". Супрасль, 1697 г., ў ліст, 1+14 лістоў (Ундольскій).

„ЧАСОСЛОВЪ", друк. ў Магілеве, 1697 г., ў 8-ку. (Ундольскій).

„О САКРАМЕНТАХЪ", выдаў Леон Кішка, з дазволу Бялозара, ў Полацку, 1697 г., ў 12-ку, 204 лісты. (Ундольскій).

„АКАѲИСТЫ ВСЕСЕДМИЧНЫЕ", друк. ў Магілёве, 1698 г., ў 4-ку, 2+293+14 лістоў. (Ундольскій).

„ДІОПТРА, или зерцало живота во мірѣ сем человѣческого". Друк. ў Магілеве Максіма Вашчанкі, 1698 г., ў 4-ку, 6+195+29 лістоў.

„НЕБО НОВОЕ, съ новыми звѣздами сотворенное, т. е. преблагословенная Дѣва Марія Богородица, съ чудесами своими; сочиненія Архимандрита Іоанникія Галятовского". Друкавана ў Магілеве ў Макс. Вашчанкі; 4-ка, 2, 216 і 9 лістоў.

Перадрук з львоўскага выданьня 1655 году. У кнізе памешчаны дрэварыт работы В. Вашчанкі, які выабражае хрышчэньне Хрыста ў Іордане.

„ПЕРЛО МНОГОЦѢННОЕ, составлено Кирилломъ Транквиліономъ Ставровецкимъ, проповѣдникомъ слова Божія, Архимандритомъ Чернѣговскимъ, а перломъ многоцѣннымъ названо для двухъ причинъ поважныхъ: для высокаго Богословскаго языка риторскаго и для поэтицкаго художества". Магілеў, у Максіма Вашчанкі, 1699 г., ў 4-ку, 4+234+4 лісты.

„ИРМОЛОГЪ", друк. ў Максіма Вашчанкі, ў Магілеве, 1700 г., ў 8-ку, 1+223+2 лісты (Ундольскій).



Канцоўка XVIII ст. з друкаў Сьвятатроецкай друкарні у Вільні (дрэварыт).



Застаўка з друкаў XVIII ст. віленскай Сьвятатроецкай друкарні (дрэварыт).

# XVIII стагодзьдзе.

„ЧАСОВНИКЪ".—Напечатана бысть сія святая и богодухновенная книга, глаголемая Часовникъ, въ богоспасаемомъ градѣ Могилевѣ, году 7209, съ переводу многихъ книгъ: съ часовниковъ двохъ, въ осмуху, печатанныхъ въ великой Россіи 7124..." ў 8-ку, 2+231+6 лістоў.

„КНИГА ЖИТІЙ СТЫХЪ въ славу с: животворящ Трцы Бга хвалимаго въ стых своих. на три мсцы первыя, септемврій, октоврій и ноемврій. Блсвенїем в Бгу превелеб: е: млсти гсдна оца Серафіона Полховскаго млст: бжїею правос: Епспа мстис: Оршан: могил: въ бгоспасаемым градѣ Могилевѣ. въ друкарни братства бгоявленїя гсдня. Старанїем и коштом Максима Вощанки изданная тvпомъ. Въ лѣто отъ рождества Хва 1702 мсца Ноемврія 12 дня".

На першым лісьце сьпіс твораў, якімі карыстаўся аўтор гэтай кнігі і на 657 лістох тэкст. Агаловак надрукаваны на табліцах (скрыжалях), якія падтрымліваюцца анеламі; уверсе, на небе сьв. Тройца, паміж асоб Тройцы раскрытая кніга с подпісам: „радуйтеся яко имена ваша написаны суть на небесах" па баках почты сьвятых, унізе выабражаны „градъ Могилевъ" і подпіс „Василій Вощанка".

„ЧАСОСЛОВЪ сирѣчь послѣдованїе службы, по ряду часов нощных и дневныхъ в Бгоспасаемомъ градѣ Могилевѣ. въ друка: братства бгояв: гдня старанїем и коштом Максима Воща(н)ки. Тv-



Застаўка з друкаў XVIII ст. віленскай Сьвятатроецкай друкарні (дрэварыт).

пом издася в лѣт от рож хва 1703". 8-ка, 128 ненумараваных лістоў. Кругом агалоўку дрэварыт, які выбражае ўверсе Богамаці а ўнізе Іессея (?); на адвароце гэтага ліста Богародзіца с Хрыстом дзіцяцяй, подпіс „Ѳедоръ а".

„ПСАЛТИРЪ БЛАЖЕННАГО ПРРОКА И ЦАРЯ ДАВЫДА. Съ пѣснми мойсеовыми и млтвами по коейжда каѳисмѣ. В богоспасаемым град Могиловѣ. В друкарни браства бгоявлен Га Ба нашего Іс Ха Старанем Максима Вощанки. Рок 1703 тvпом издася". 8-ка 1+207 лістоў. У кнізе тры дрэварыты работы мясцовых рытаўнікоў. 1) на агалоўнай балоне сьв. Тройца і Богамаці, 2) на адвароце гэтай балоны—цар Давід і на адвароце 159 ліста—пераход жыдоў праз чырвонае море.

„ПСАЛТИРЬ" друк. ў Магілеве, 1705 г., ў 8-ку, 10+238+8,+146+18 лістоў. (Ундольскій).

„ДОНОШЕНІЕ о случившемся бою въ Курляндіи въ шести миляхъ отъ нітавы при мызѣ называемой муромѣ їюля въ 15 день, оу г(с)дина ѳелтмаршалка и кавалера Бориса Петровіча Шереметева с свейскимъ генераломъ Левенъгоуптомъ". На адвароце агалоўнай карты: „напечатася въ Вилнѣ іюлія въ 24 день 1705 году".

У гэтай лістоўцы падаецца вядомасьць аб няўдатнай бітве расійцаў са Швэдамі каля мызы Муромы.

РЭЛЯЦІЯ аб адбіцьці ад Пецярбурга швэдзкага генерала Мэйдэля і аб абароне Котліна. „Напечатася въ Вильнѣ іюлія въ 26 день 1705 году". Фармат у ліст, дзьве балоны.

„ТРИУМФЪ польскѣй музы по отриманымъ над шведами и ихъ адгерентами под Калишемъ звитяжствѣ на столицы московскѣй оголошоной, а пресвѣтлѣйшему дзѣржавнѣйшему незвытяжоному мо-



Застаўка з друкаў XVIII ст. віленскай Сьвятатроецкай друкарні (дрэварыт).

нарсе Піотрови Алексіевичови з Божей ласки великому царови цалой вѣлькой малой и бялой Роуси самодержцы... подъ звытяжскѣ ноги зложоны". 1706 г.

Друкаваны на польскай і „бѣларускай" мовах, у ліст, 18 балон, запоўненых пахвальнымі вершамі Даніеля Гурчына.

Канчаецца вершам гэткага зьместу:

Jam creatura twoia y poddany
Laur ci przynoszę wierszem opisany
Cny Caru racz bydź (iakom ci życzliwy) mnie miłościwy!...

„ПРИСЯГА яковую оучинили на генеральномъ съѣздѣ въ Новогродкѣ паны сенаторы и иншїи станы, Великого князьства Литовского на верность его царскому величеству. Декабря 2 дня 1707 г." У ліст, 4 балоны друку; ў нізе 4-й балоны: „Друковано въ Вильнѣ". На першай тэкст прысягі, на другой і трэцяй балоне імёны прысягаўшых. Пекарскі (Наука и литература... б. 151) падае вядомы яму адзіны экэмпляр гэтай прысягі, друкаваны „на Москвѣ лѣта Господня 1707 декабря въ 24 день" з агалоўкам зьмененай рэдакцii:

„Присяга якову оучинили на генералномъ съѣздѣ, въ Новогородкѣ господа сенатори, и прочая чины, великого княжества литовского въ вѣрности своей къ его црскому величеству декабря въ 24 день 1707 году".

Гэтак сама тэкст прысягі ў Пекарскага мае адменную рэдакцію. Судзячы па даце (22 дні пазьней падзеі) экзэмпляр, апісаны Пекарскім, зьяўляецца перадрукам для Масквы, а наш экзэмпляр зьяўляўся т. сказаць іставіком (Пераховываўся ў Чашніках у старасхове Валадковічаў, Лепэльскі павет).

У канцы 1706 году да цара Пятра дайшлі чуткі, што польскі кароль тайна заключыў угоду с Каролям XII і адрокся польскай кароны ў карысьць Ляшчынскага:

„и по тѣмъ вѣдомостямъ государь для того пошелъ въ Польшу, дабы оставшуюся безъ главы Рѣчь Посполитую удержать при себѣ".

28 сьнежня цар прыехаў у Жоўкву і прабыў там да 30 красавіка 1707 г.; выехаў з Літвы не раней сьнежня месяца тагож 1707 году.

„ПСАЛТИРЬ“, друк. ў Магілеве, 1710 г., ў 4-ку; надрукаваны староверамі са старага маскоўскага выданьня.

„ЧАСОВНИКЪ“, друк. ў Магілеве, 1713 г., ў ліст. 307 лістоў.

„Сія Бгодхновенная книга часовникъ, съ переводу печатаннаго в црствующемъ градѣ москвѣ. въ лѣто 7154 мца іюля въ 25 день. в немъ же обрѣтается на всякъ днь моленіе в чсть и славу и похвалу оцу и сну и стому дху, в трцѣ единому Бгу и пречтнѣй Бцѣ и агглу хранителю, и молебное поминовеніе за дшу оумершаго. и святцы с тропари и с кондаки и м-ца и н-ца. Пасхалія зрячая, и лунное теченіе и вся протчая обрѣтающаясь: типомъ изданъ въ тѵпографіи бгоспасаемаго града Могилева. при цркви братской бгоявленія гдня. въ лѣто от міроזданія 7221“.

„ВОПРОСЫ ЕЛЛИНОРОССІЙСКІИ отвѣтами св. отецъ отъ книгъ церковныхъ избранными раздрѣшенными тщаніемъ единаго правовѣрнаго презвитера лѣта господня 1715“. Ў 12-ку, 221 бал., друкавана ў Супрасьлі. Сопіков называе аўторам гэтай кнігі езуіта Шапеля, але Вішнеўскі („Hist. L. P.“, т. VIII, бб. 278-279) піша, што дамініканін Клім Ходыкевіч выдаў „Quaestiones graeco ruthenicae studio alicujus orthodoxi presbyteri L, tłumaczone na język polski i słowiański w roku 1715—16“.

„ТРЕБНИКЪ“, друк. ў Вільні, 1693 г. (Аб ім упамінаецца ў кнізе: „Вопросы еллино-россійскіе“, выд. ў Супрасьлю, ў 1715 г., бал. 26 і 27).

„КРАТКОЕ ПОУЧЕНІЕ О СЕДМИ САКРАМЕНТАХЪ или тайнахъ црковныхъ съ приложеніемъ нуждѣйшихъ вещей Іереемъ вѣдати благопотребныхъ“. Друк. ў Чарнегаве, 1716 г., ў 4-ку, 1+33 лісты. Перапраўлены перадрук Дыдаскаліи Сыльвэстра Косава, першы раз друкаваны ў Кутэйне 1637 г.

„АПОЛОГІЯ ВО УТОЛЕНІЕ ПЕЧАЛИ, человѣка сущаго въ бѣдѣ, въ гоненіи и озлобленіи, вкратцѣ сложеная“. Магілеў 1716 г., ў 4-ку, 20 лістоў. Твор сьв. Дзімітра Ростаўскага мітрапаліта. У канцы кнігі памешчана: „Христїанинъ пришлецъ земныи“.

„СОБРАНІЕ ПРИПАДКОВЪ КРАТКОЕ, и духовнымъ особамъ потребное, имѣющее въ себѣ науку о сакраментахъ, о десяти Божіихъ приказаняхъ, о приказаняхъ церковныхъ и о науцѣ Христіянской, съ выкладомъ молитвы Отче нашъ, и Богородице Дѣво, також де и науку, како подобаетъ наставляти малыхъ или невѣжовъ въ вѣрѣ Православной“. Друк. ў Супрасьлі, 1722 г., ў 4-ку, 6+152+1 л.

На адвароце агалоўнага ліста чытаем:

„Леонъ Кишка, божіею и св. апостольского ѳрону милостію архіепископъ, митрополита кіевскій, галицкій и всея Россіи, кіевопечерскій и супрасльскій архимандрита. Понеже св. соборъ замойскій единому токмо общежительному монастыреви супрасльскому повелѣ и изволи изданіе типомъ Катехисмовъ, Падежей совѣсти и Дѣяній собора замойского, сего ради да никто же въ свойственной си типографіи дерзнетъ нинешнея сея книги Падежей совѣсти, Катехизму и Лексикону типомъ изобразити подъ виною клятвы и утратою сицевыхъ книгъ възбраняемъ и завѣщаемъ. Писанъ въ Супраслю дня 2, месеца генваря 1722 г. Леонъ Митрополита рукою властною".

Не глядзя на такую засьцярогу „Собраніе припадковъ" было перадрукавана ў 1732 годзе ў Унеўскім манастыры за апробатай „Аѳанасія Шептицкого" архібіскупа Кіяўскага і „всея Россіи".

„ЛЕКСИКОНЪ, сирѣчь словесникъ Славенскій, имѣющъ въ себѣ словеса первѣе Славенскія азбучныя, по семъ же Польскія. Благопотребный къ выразумѣнію словесъ словенскихъ, обрѣтающихся въ книгахъ церковныхъ". Друкаваны ў Супрасьлі; 4-ка, 32+1 ліст.

С прадмовы відаць, што з сьвятароў уніяцкіх ледзь соты разумеў славянскую мову, што і было прычынай надрукаваньня гэтага славяна-польскага Лексыкону.

„КАЛЕНДАРЪ АБО МѢСЯЦЕСЛОВЪ ХРЕСТІЯНСКІИ". Друк. ў Супрасьлі, 1726 г., ў 4-ку. Пад агалоўкам верш, з якога відаць, што календар перакладзены с польскага:

Мы с польского на русскій перелицовали,
Вписавши безпремѣнно, што тамъ начитали.
Правда або неправда, мало ли, ли довольно,
Як с примусу читали, а не самовольно...
Же преемне подаемъ, а не сами змышляем,
Што намъ есть показано, тое вам являемъ.

І далей:

Здоровых и счастливыхъ аспектовъ глядете,
А нам за труд и за кошт гроши положетѣ.
Хто платить, и злый траф у добрый премѣняеть,
А и ворожбитъ з голой руки не вгадаеть.

У Пекарскага („Наука и литература"... б. 473-474) паказаны календар выданьня Кіява-Пячэрскай Лаўры 1720 г. з гэтым самым (з малымі зьменамі) вершам.

„ЛЕІТОVРГІКОN СИ ЕСТЬ СЛУЖЕБНИКЪ... Въ мон. Супрасльскомъ чина св. Вас. Вел. въ лѣто 1727". Гэта ёсьць першае выданьне уніяцкага Служэбніка ў супрасьльскай друкарні; другое выданьне выйшла ў 1763 годзе. Фармат у ліст.

КАЛЕНДАР НА 1727 Г. Выданьне „Квѣнтілѣана Василія з Корвѣновъ Квасовского", ў 4-ку, 20 лістоў, друк. ў Кенігсбэрзе. У выданым ім у Чарнегаве календары на 1719 год Квасоўскі тытулаваў сябе: „в преславной академїи краковской, а потомъ празкой наук вызволеныхъ и философїи оучителя. Математики и Архитектури военной професора, школъ Бжого тѣла на казѣмѣрѣ сеніора, в Шкламѣру директора". У выдаваных у Каралеўцы (Кенігсбэрзе) календарох ён называе сябе: „Наук вызволеныхъ философїи и математики оучитель, его кор. вел. прусского тайный секретарь и управѣлгованый типографъ".

„АКАѲИСТЫ", друк. ў Магілеве, 1728 г., ў 8-ку, 2+226+23 лістоў. (Ундольскій).

ЗБОРНІК ІНТЭРМЭДЗІЙ ПЕРШАЙ ПАЛАВІНЫ XVIII СТ. Рукапіс СПБ. Публ. бібл. (Разноязыч. Q. XIV, № 30). Паводле апісаньня праф. Карскага „Бѣлоруссы", т. III, бб. 222—227:

I. Colonus, Studiosus.

Інтэрмэдзія адкрываецца сцэнай школьнай рэкрацыі на якую прыходзіць змучаны цяжкой дарогай селянін:

„Achcie mnież! ludziey, ludziey, iak wady! ale tam rebiata żewżyki, vicher ich nosić, kruciatsa; heto każuć, szto ich na pahulanku raz u hod puszczaiuć; tamże to tam ni ładu ni paradku; adzin druhoho pichić nosem na ziamlu, u czubki, na kałaczki iak zapaluć. Ach daroha, daroha praklataia, samyie piekieliszki, utamiusia jak sabaka, paszanawauszy iasnoho Soniayka, krasnoho miesieczyka y was Panou; prysiadu trochu".

Гледзячы на вучняў селянін прыпамінае, што ў яго дома ёсьць здольны хлопчык „Bautruk", дзеля навукі якога ён не пашкадаваў-бы грошы. Да селяніна падбягае вучань і пытае:

*Stud.* A ty, mużyk, co tu masz za sprawę?
*Colon.* Nie muzyk, maś Panie, ani dudar, paroiu u kułak zatrublu, kali dzietki u chacie zubami zwoniać.
*Stud.* Ale co ty masz za sprawę?
*Colon.* Niet, maś Panie, niepiśmienny czaławiek, prawowasca niumieju, a chaćby paswaryusia z susiedami, to zaraz uradnik razsudzić sprawu pastronkam.
*Stud.* Czy masz iakę potrzebę?
*Colon.* Kudy, moy ty saławieyku patreby, ia y kuntusza nie maiu, dabro kab suitka była na chrybcie.
*Stud.* Głupi chłop iak cielę.
*Colon.* Było adno cielatko y toie zdochło.
*Stud.* Dyszkuruie iak grochu się obiadszy.
*Colon.* U mienie, paniczu, dzieciey iak bobu, a harochu y aśminki nietu.
*Stud.* Darmo, iak widzę groch na ścianę rzucam.

*Colon*. I ty, moś Panie, wielmi szumisz, haroch u harszczok nie na ścienu kiday.

*Stud*. Chłop rozumu i za szeląg niema.

*Colon*. Da taki u mienie barada iak les, a rozumu by nie było; a heto znaiesz, moy lebiedziu, szto każuć: kalib na Pańskuru mudrość nie mużyckaia chytrość, daunob mużyki pahybli.

Далей селянін выказуе пажаданьне вучыць свайго сына. Вучань за плату абяцае даць розуму сыну.

*Colon*. Każuć, maś Panie, szto rozum da haławy idzieć: to heto ty waszeć mnie u ucho nakładzi, a ia Synku swaimu u doma usio wytrasu.

Пачынаецца сцэна перадачы веды, камізм якой павінен апірацца на народнай этымолёгізацыі незразумелых чужаземскіх слоў:

*Stud*. Słuchayże: Verbis caepi novi(s).

*Colon*. Szto? szto? z uierby cepy nowyie?, nie, moy hałubczyku, z uierby ladaszczo cepy; uczy czaho inszoho. Parusz y rozumu łacinskaho.

*Stud*. Czy nie chcesz być Matematicus?

*Colon*. Heto, heto matać na us; hawary tolsz.

*Stud*. Dobrze, są tam duo cardines coeli

*Colon*. Szto? szto? dzuie karbony całyje, nie maiu, baczysz, nie adnoy całey, wytraśli uradniki..

У гэтым жа стылю далей ідзе навучаньне лёгікі з яе Caligo spinosa, якую селянін зразумеў, як „kałom pa śpinie“. Вучэньне селяніну не падабаецца і абяцае заплаціць абяцаны „talar bity“, тым больш штоён цяпер стаў разумным, а паводле прыказкі „hłupi daieć a mudry biareć“. Гэткім чынам прастак селянін перахітрыў вучня.

## II. Colonus et studiosus fugitivus.

Выступае тут селянін і збегшы ад лекцій вучань.

*Colon*. Znowu ia na torh z miachom, z kiścianiom hetym, kupić nie kupić, a patarhawać wolno. Toy szubrawiec skubent chacieu prostaho czaławieka aszwabić, da i Mikita ćwik, nie dasca. Treba by trochu pa palskiemu język przełamać, kab nie uszędy, Waspanstwo, paznali, że kłop prastak. Sługawał ia kiedyś y pod Charungwio Dragarską potreba tolko sobie prypomnieć.

Падбягае вучань, які з роспачы хоча ўтапіцца: хацеў ён пагуляць, а сярдзіты вучыцель вымагае сядзець дома з Alwarem і вучыцца.

*Colon*. Paniatko, moy saławieyko, czy nie od Bakiłamara uciekajesz?

*Stud*. Praudz wy Bokiłamar, pewnie że boki y grzbiet będzie w strachu, z miłuysię, schoway mę, Panie mużu, gdzie możesz, kontusik ci ten oddam, a żeby zaraz: nie bawżę, bo iak mię złapie, dogrzeie mi do żywego.

*Colon*. Siudy, paniatko, leż u miech, leż

Вучань улез у мех; селянін завязаў мяшок; пасьля, патвараючы голас вучыцеля, які шукае зьбега, пытае:

— A co to, chłopie, masz w worze?

— Szkło, maśpanie (адпавядае сваім голасам), niasu z huty da Pana.

— (Чужым голасам): **Pokaž sam, iakie szkło niesiesz.**

— (Сваім голасам): **Niepokažu, moy lebiadziu, heto baczysz szkło rycerskim uzłom zawiazau hutnik.**

Выабражаны вучыцель пагражае перабіць усё шкло, але селянін не згаджаецца паказаць яму яго; дзеля чаго селянін быў бытцам біты. Крэпка былі пабіты бакі і ў вучня, які ўвесь час, згодна умове, выдаваў гук: **tin, tin, tin, tin** або **dyn, dyn, dyn!** Урэшце выабражаны вучыцель крэпка скалануўшы мех адыйшоў. Вучань просіць хутчэй выпусьціць яго з мяшка:

*Stud.* **Nie wiem, w hucie czy tak gorąco, iak mnie było w worze, kiedy mi do žywego dopiekał.**

Селянін выпушчае яго, але бярэ за гэта, згодна умове, **sukmanku**, і яшчэ насьміхаецца над ім. Ідэя інтэрмэдзіі выказана ў канцавых словах селяніна:

*Colon.* **Oy tak treba hetych žeužykou rozumu nauczyć; nakidau ia iamu dobre, niechay znaie, szto to ad bakiłamara uciekać.**

### III Literat Wieśniak Samochwalski.

Самахвальскі, прыехаўшы з заграніцы, вызваў Літэрата на дыспуту „**na mihi**". Літэрат апынуўся ў трудным палажэньні, але яго выручае селянін Гаўрыла, які абяцае яму памагчы. Літэрат выдае Гаўрылу за свайго вучня і Самахвальскаму прыходзіца выступіць на дыспуту з апошнім. Самахвальскі падыймае руку ўверх, Гаўрыла апускае сваю ўніз; Самахвальскі паказуе адкрытую далоню, Гаўрыла сьціснуты кулак. Самахвальскі здаволены дыспутам, тлумачыць яе са свайго пункту погляду: Бог стварыў неба і зямлю і ўсё трымае на сваей далоні. Селянін не разумеючы істоты дыспуты, ўсё тлумачыць такжа паводле свайго разуменьня, а нямецкую мову Літэрата ён тлумачыць паводле народнай этымолёгіі.

**Szuplu, maśpanie, heto ty mudrec, heto ty miściuk, niczoho baczu nie znajesz; oś ia ciabie rozumu nauczu, hetak: chacieu ty, waszeć, mnie adnym pałcam adnoie oko wykałać, a ia tobie dwoma abadwa; chacieu ty mienie na wysokuiu szubienicu ciahnuć, a ia ciabie u ziamli zakapać. Chacieu ty mnie u szczoku udaryć, a ia tabie y zuby wybić, a szto czy szuplisz?**

### IV. Aulicus, puer, dominus, cocus.

У гэтай інтэрмэдзіі кухар гаворыць крыўскай мовай, на літоўскі лад.

### V. Ludus Fortunae.

Гэта інтэрмэдзія зьяўляецца самаістай перапрацоўкай камэдзіі П. Барыкі, „**Z chłopa kröl**". **Rusticus, poto madidus, innixus baculo, vulgo koł,** пяе нават песьні:

**Siadzić sawa na kalinie,**
**Syczyk na druhuy,**
**Azierniemsa, ahleniemsa,**
**Ažno na czužuy...**

**Sierhiey, ey Sierhiey! za szto ty mienie parychaiesz, nieydziesz? Sierhiey!** (ізноў пяе):

**Byu, byu Siemion bajar,**
**Siem hod, ieszcze niestar;**
**Sam ležyć na pieczy**
**Nohi na palicy...**

На сцэне прадстаўлена, як селянін памалу пьянее; падходзяць вартаўнікі і апранаюць яго ў панскую вопратку і пасьля будзяць. Убачыўшы сябе ў панскай вопратцы і пры сабе слуг, якія услуговуюць яму як пану, думае, што гэта чэрці:

**Szto heto, czy ludzie, czy czerci, tylko sztoś y kryža nie baiatsia.**

Слугі запэўняюць яго, што ён пан, вучаць гаварыць яго па польску, даюць яму гарэлкі і ён ізноў засыпае. Праспаўшыся і выцьвяразіўшыся, ўбачыўшы сябе ў сваей сялянскай вопратцы, думае, што ўсё бачанае ім быў сон.

Тэма твору, ў якой пьянага перапранаюць у багатыя вопраткі і запэўняюць, што ён важная асоба, вельмі даўнага паходжаньня: тэма гэта выкарыстана ў „Тысяча і аднэй ночы“ —Гасан „Каліф на гадзіну“; падобнае-ж было зроблена тыранам Дыанізам з Дамоклам; на гэтай тэме заснавана драма Кальдэрона „Жыцьцё гэта сон“; а такжа ўступ у камэдзіі Шэкспіра „Абласкаўленьне злосьніцы“, ў гэтым жа характары Гаўптмана „Schluck und Iau“ і інш.



Канцоўка з друкаў XVIII ст. віленскай Сьвятатроецкай друкарні.

КАЛЕНДАР ГРЭКА-РУСКІ, злаж. Вас. Корвен-Квасоўскі, друк. ў Кенігсбэрзе, 1730 г., ў 4-ку, 20 лістоў. (Ундольскій).
Таго-ж 1730 г. было выпушчана другое расшыранае выданьне гэтага календара, ў 4-ку, 44 лісты. (Ундольскій).

„ОКТОИХЪ“, друк. ў Магілеве, 1730 г. ў 4-ку 2+328 лістоў (Ундольскій).

„ВѢНЕЦЪ ХРИСТОВЪ съ проповѣдей недѣльныхъ“... Злажыў Антон Радзівілоўскі. Друкавана ў Горадні ў 1735 годзе, ў ліст, выданьне для стараабрадцаў (Вішнеўскі, т. VIII, б. 436).

„ВѢРА ПРАВОСЛАВНАЯ ВОСТОЧНЫЯ ЦЕРКВЕ“. Друкавана ў Горадні, 1735 году, ў ліст; выданьне стараабрадчаскае.

„ТРЕБНИКЪ языкославенскій, на три части розложенный“. „Въ Лаврѣ Супрасльской“ 1736 г. Крыху перайначаны перадрук трэбніка Пятра Магілы.

„ПРАВИЛО КО СВ. ПРИЧАЩЕНIЮ“, друк. ў Магілеве, 1736 г., ў 4-ку (Ундольскій).

„ПСАЛТИРЬ“, друк. ў Магілеве, 1738 г., ў 4-ку, 2+192 лісты. (Ундольскій).

„БИБЛІА“, ў Супрасьлі, 1743 г. (Вішн., т. VIII, бб. 436 і 459). Перадрук, здаецца, з астрожскага выданьня, коштам пінскага уніяцкага біскупа Булгака.

„МОЛИТВОСЛОВЪ“, друк. ў Магілеве, ў 1743 г., ў 24-ку, 2+270 лістоў. (Ундольскій).

„ТРЕБНИКЪ“, друк. ў Вільні, 1745 г., ў 8-ку. (Ундольскій).

„ОКТОИХЪ, СИРѢЧЬ ОСМОГЛАСНИКЪ, твореніе преп. о. нашего Іоан. Дам., въ богосп. градѣ Могилевѣ, въ друк. братст. Богоявл. Г. Б. и Спаса наш І. Христа, потомъ и тщаніемъ изданъ тогожъ крестнаго братства, року от Р. Х. 1747“, у 12-ку, 456 бал. (Ундольскій).

„ТРѴФОЛОГІОN или ЦВѢТОСЛОВЪ, избранныя службы со всенощными на Господскія праздники, богородичны, стих. нарочит., въ богосп. градѣ Могилевѣ, въ друк. бр. Богоявл. Господа Бога и Спаса нашего І. Христа издадеся року 1748, мца Февр. 27 д.“ У 4-ку, 8+78 ліст. (Ундольскій).

„СВ. ВАСИЛИЯ ВЕЛИКОГО УСТАВЪ“. Рукапіс XVIII ст. Гэта безумоўна адна з копій уставу васільянскага ордэну, які быў уложаны сьпярша для віленскага Сьв. Троіцкага манастыра уніяцкім мітрапалітам Вэльямінам Рутскім. Пераховуецца ў Віл. Публ. бібл. (Добр. № 54).

ЗБОРНІК ІНТЭРМЭДЗІЙ ПАЛАВІНЫ XVIII СТ. Рукапіс СПБ. Публ. бібл. Q. XVIII, № 108, бб. 66—70. На пачатку маецца надпіс „Выписано изъ бывшихъ въ смоленской семинаріи комедій“. Зьмешчаны тут дзьве сцэны.

І. У першай сцэне селянін зайшоў у касьцёл і, пачуўшы музыку пачынае скакаць. За гэта яго ганебна выгналі і закавалі ў ланцугі, пры гэтым ён выслухае нотацію ад паляка. Прамова селяніна пачынаецца гэтак:

> „Охъци мне, ти ведаетъ то ета моя баба, што я въ ета лиха попався и ѣтым безделлимъ обчипався, каліб уже и на ссвѣцѣ не было! а всіо яна, як вужа вилами, так, мянѣ: инъ идзи, дакъ идзи у Любавичи, ци ни пападзѣтца чаго гуляючи; и Богу помолися, и з сваими повидзися. Авось таки и ци (па)падіѣтца чаго купиць,—а всіо калибъ мужика з двора збыць. Правды, я старъ, а яна

бабіонка въ силѣ. Охъ, калибъ яѣ коломъ у зѣмлю! Ну вотъ, правды яѣ и паслухався да и падзись! (Тут ён сустрэўся с кумам, выпілі і пайшлі ў касьцёл). Ажну тамъ и стали бразгаць, по нашему то къ обѣдни, а па ихъ къ замши; вот я и паидись у ихъ хасьціолу, ажну тамъ якъ заиграюць: хто въ дудачки, хто въ свисцѣлачки, а хто въ тарарычки. Вотъ я, правды, ня бывши лихъ, да и падзись скакаць, а тут пат тую пару и придзись по нашему попъ, а по ихъ хазанъ, да подшутя; то я ахци мнѣ ета нѣхта-ж з маскаліовъ".

Селянін сьпярша гаворыць у духу „раёшнікаў", а пасьля, пад уплывам выпітага напітку, больш і больш блугаючыся і урэшце саўсім незразумела. Сцэна канчаецца бойкай.

II. У другой сцэне выведзены Сьвірыд і Зьмітрок. Сьвірыд апавядае Зьмітраку аб сваей споведзі:

„Охъци мнѣ, Змитруче, усѣ то отъ дѣтакъ!... Толка кажуць: идзи бацька къ успаведзи, ты нѣ разу въ цѣркви не бывъ,—да и упихнули бацку, якъ дурня въ цѣркву, кажи дзи, бацка, тоя, што попъ будзиць казаць. Вот попъ кажить: „ци быв ты хуть разъ въ усповедзи?"—И я папу: „ци бывъ ты хуть разъ въ усповедзи?"—„Што ты, знать, нѣхрящоникъ?" і г. д.—Вотъ за тое попъ на мѣнѣ и монисты наложивъ...

Зьмітрок апавядае аб малітве сваіх продкаў:

... яны маліваліся по прастацкому, а нѣ по писмянному:... Слава цябѣ Господзи, сущую, часнѣишую, избранны воявода, радуися нявеста, уси чины манашѣския, святая трапѣза... и кала и двора, и скацинки и шарсцинки, алилуй насъ да канца вѣка. Аминь. И шарпни, Господзи, па души и па цѣлу, па жонки, и па дѣткамъ, святое сягодни, святое и завтрѣ".



Канцоўка з друкаў XVIII ст. віленскай Сьвятадухаўскай друкарні (дрэварыт).

Падобна як езуіцкія, так і праваслаўныя інтэрмэдзіі мелі на мэце асьмяшыць селяніна, паказаць яго цемнату і глупату ў параўнаньні з клясамі празначанымі да панаваньня над ім.

„ОКТОИХЪ", друк. ў Магілеве, 1754 г., ў 4-ку, 2+328 лістоў. (Ундольскій).

„КИТИХИЗИСЪ", друк. ў Магілеве, 1757 г., ў 8-ку, 1+128 лістоў. (Ундольскій).

„УВѢЩАНІЕ (т. е. окружное посланіе) Георгія Кониcскаго, епископа Бѣлорусс. Мстисл., Оршан. и Могилевскаго, при вступленіи на еписк. каѳедру могилевскую 1757 г. 31 августа".

На адкрытым лісьце з уласнаручным подпісам біскупа Юр'я (Георгія). Друк. ў Магілеве (Ундольскій).

„СОБРАНІЕ ПОУЧИТЕЛЬНЫХЪ СЛОВЪ, говореныхъ Георгіемъ, Епископомъ Могилевскимъ". Друк. ў Магілеве, 1761 г., ў 4-ку. (Ундольскій).

„КАТИХИЗИСЪ", друк. ў Магілеве, 1761 г., ў 8-ку. (Ундольскій).

„БУКВАРЬ языка словенскаго", друк. ў Супрасьлі, ў 1761 г., ў 8-ку. (Вішнеўскі, т. VIII, б. 436).

ЛЕІТОVРГІКОN СИ ЕСТЬ СЛУЖЕБНИКЪ, въ немже по чину восточныя церкве литургіи, иже во св. отца наш. Іоан. Злат., Вас. Вел. и преждесв. Григ. Двоеслова папы Римскаго, съ службами недел. и движ. и недвижим. празд., на кійждо день всего лѣта святыхъ и съ иными многими зѣло полезными прилоги чиннѣ и справно положенныя содержатся. Вторицею тупомъ издадеся въ общежит. мон. Супрасльскомъ чина св. Вас. Вел., въ лѣто Господне 1763, ў ліст., 20+508+112 бал. (Ундольскій).

„ЕФРЕМА СИРИНА ПОУЧИТ. СЛОВА", друк. ў Вільні, 1764 г., ў 4-ку. У кнізе зьмешчана 12 слоў Ефрэма Сірына (Ундольскій).

„ЕВХОЛОГІОN, сирѣчь молитвенникъ", друк. ў Супрасьлі, 1766 г., ў 8-ку. (Ундольскій).

„ДОРОѲЕЯ АВВЫ ПОУЧЕНІЯ", друк. ў Вільні, 1767 г., ў 8-ку, 3+229 лістоў. (Ундольскій).

„ЧИНЪ МИРОВАРЕНІЯ", друк. ў Вільні (?), 1768 г., ў 4-ку. (Ундольскій).

„ЕФРЕМЪ СИРИНЪ", друк. ў Вільні, 1768 г., ў 8-ку, 1+585 лістоў. (Ундольскій).

„ДОРОѲЕЯ АВВЫ ПОУЧЕНІЯ", друк. ў Горадні, 1768 г., ў 8-ку. (Ундольскій).

„МОЛИТВОСЛОВЪ", друк. ў Вільні, ў друк. „чина св. Василіа Вел.", ў 1769 г., ў 16-ку, 964 бал. (Ундольскій).

„КАТИХИЗИСЪ" друк. ў палове XVIII стаг., ў 8-ку, 128 лістоў, праўдападобна ў Магілеве. Злажыў гэты Катэхізм Юры Каніскі.

„ЧАСОСЛОВЪ“, друк. ў Супрасьлі, 1772 г., ў ліст. 1+359 лістоў. (Ундольскій).

„ЧАСОСЛОВЪ“, друк. ў Вільні, 1772 г., (Ундольскій).

ЗБОРНІК ІНТЭРМЭДЗІЙ 1771—1776 Г. З рукапісу дастаўленага А. Д. Шчэрбаковым праф. В. Н. Перэтцу. Сама інтэрмэдзія пісана па украінску, але тут выведзены Цыган і Літвін, якія гаворуць крыўскай мовай. У украінскіх і польскіх інтэрмэдзіях Літвін (Крывіч) наіўна-дабрадушны, прастакаваты і лёгкаверны, але пры гэтым не пазбаўлены доўсьціпу, быў здаўна ўлюбленай дзеючай асобай. У даным рукапісе Літвін выступае с прычыны Нараджэньня Хрыста з гэткай тырадай:

*Литвин уходить и мовить.*

Гудуць, ахъ гудуць, истино гудуць,
гэто кажут(ь) аггли паюць;
гэто кажут(ь) Хрстосъ народи(л)ся;
гэто кажуць, весь миръ звеселѣвся;
Што то я сей ночи зо сну пробудѣвся,
И золотыи дощикъ з ніебіесь спустѣвся.
О ціепіеръ намъ пѣць да гуляць!
О ціепіеръ намъ Христа прославляць!
О ціеперъ нам по бору ходѣць,
о ціепер нам рожкѣ солѣць!

Тут раптам нападае на яго хвароба і ён кажа (паводле адрыўку з сабраньня В. Ластоўскага).

*Литвин.* Ах беда, панове людзіе,
Не ведаю, што з мене будзе!
Ах поглядѣць,
Якои бабки, албо якога лекара
Камне прыведѣть...

Уходзіць Цыган і пытае Літвіна, што яму баліць.

*Литвин.* А вот, паночекъ, нестравность, бурченя, рѣзачка, абенбило як Сідорову казу.

Цыган кажа яму легчы і пытае як яго імя. Літвін адпавядае: Мацей. Тады цыган бье яго палкай і кажа „Пацей, пане Мацей“. Літвін зрываецца, Цыган уцякае, а Літвін гразіць яму ў сьлед.

*Литвин.* А ліхо твоей матери! Напоцѣу, намацѣу, да и самъ къ чорту поляцѣў! Вот каб догнау, вот бы у плечы нагрукотау.

ІНТЭРМЭДЗІЯ ДРУГОЙ ПАЛАВІНЫ XVIII СТ. Рукапіс СПБ. Публ. бібл. (Польск. Q. XV. № 28). На 192 лісьце зьмешчана размова: *Rusticus et Iudeus.*

*Rusticus* (ідзе і сьпявае):

Hey nam koleda!
Da u naszoho Sauki
Czotyry lauki.

Hey nam koleda! Hey nam koleda!
Hospodar pry pieczy
Hulaieć mak taukuczy.
Hey nam koleda! Hey nam koleda!
Małyje rebiata
Kliczuć papu, papu tata!

Pierebaczcie, Mości Panowie! ot mužyk iak worona, podpiuszy sobie u žyda Leyzera, kryczyć sobie, iduczy dorohoju. (Сустрачаецца жыд).

*Iudeus*. Dobry deń, Iwanie.

*Rusticus*. Da śmierdziuch, czy nie baczysz, szto heto užo wieczar, a ty kažesz, dobrydzień.

*Iudeus*. Nuž, dobry wieczar tabie, Iwanie! (Распытывае куды ён ідзе, Іван у адповедзь пачынае пяяць каляду. Жыд просіць сьпяяць і яму вялічаньне).

*Rusticus*. Sztob ty, śmierdzie, nie daždau, kab ja tabie koledu śpiewau.

*Iudeus*. Nu dobry hod na tobie, zaśpieway—zapłaczu tabie.

*Rusticus*. A sztož ty mnie zapłacisz.

*Iudeus*. Dam tabie na kwaterku harełki.

Урэшце за zołotkowika селянін згаджаецца сьпяваць, але сьпявае лайчыва. Жыд просіць кінуць пяяньне, але селянін не ўнімаецца. Урэшце жыд заўважае ў селяніна ў кошыку пісталет, каторы хоча купіць; селянін, пагражаючы пісталетам, прымушае жыда пяяць насьмешныя на жыдоў куплеты.

„СЛУЖЕБНИКЪ, содержащъ въ себѣ литургіи иже во св. Отца наш. Іоан. Златоустаго арх. Конст., таже служба двѣ, сирѣчь св. и животв. Троицѣ и за усопшихъ, благосл. Его Преосв. Кvръ Фелиціана Володковича, митр. всея Росс. Въ Вилнѣ, въ типогр. его кор. мил. въ обители монаховъ чина св. Василіа В., лѣта отъ Р. Христова 1773“, ў ліст, 6—38 балон. (Ундольскій).

„ПѢСНОСЛОВЪ, свѣтоносное воспѣваніе Господа Бога и Спаса наш. І. Христа во славу побѣдительныя смерти провозвѣщующій, благосл. Е. Преосв. Кvръ Фел. Филиппа Володковича, митр. Кіевскаго, Галицкаго, и всея Россіи, Владим. и Берестійскаго еписк., изд. въ Вильнѣ, въ типогр. Е. К. М. въ об. мон. чина св. Василія В., лѣта Госп. 1774“, у 8-ку, 2+108 бал. (Ундольскій).

„Kantyczka, albo nabožne pieśni w narzeczu Połockim. Połock 1774“. Была ў руках аднэй прыватнай асобы дзісенскага павету. (Карскі, „Бѣлор.“ III. 145). Гэткую кантычку мелі мае бацькі ў пачатках 1890-х гадоў, якія жылі ў той час у Дзісне. Мой бацька дастаў яе ад Якавіцкіх з пад Хвядосава, таго-ж павету. Асабліва цікавы былі ў ей калядныя песьні, якія, дабіраючы ноты, сьпявалі ў нас у доме. Мела фармат каталіцкіх поль-

скіх кантычак, але шмат цянейшая, апраўлена была ў мяккую юхту з раменнымі завязкамі спераду.

„СВЯТЦЫ“, друк. ў Супрасьлі, 1774 г., ў 12-ку, 222+4 лістоў. (Ундольскій).

„ПСАЛТЫРЬ бл. прор. и царя Давида“; друк. ў Вільні, ў друкарні сьв. Васілія В., ў 1775 г., ў 4-ку, 6+274 бал. (Ундольскій).

„ЧАСОСЛОВЪ“, друк. ў Вільні, 1776 г., ў 8-ку. (Ундольскій).

„ПСАЛТИРЬ“, друк. ў Вільні, 1778 г., ў 4-ку, 64+2+294 лісты. (Ундольскій).

„СИНОДИКЪ“, друк. ў Вільні, 1778 г., ў 8-ку. (Ундольскій).

„ВЕЛИЧАНІЯ, ПО ВСЯ ДНИ И ВЪ ПРАЗДНИКИ ПѢВАЕМАЯ“, друк. ў Вільні, 1778 г., ў 8-ку. (Ундольскій).

„ЧАСОВНИКЪ“, друк. ў Супрасьлі, 1778 г., у 8-ку, 164 лісты. (Ундольскій).



Агалоўная застаўка, дрэварыт XVIII ст. віленскай Сьвятатроецкай друкарні.

„ПСАЛТИРЬ“, друк. Віленскай Акадэміі 1779 году, ў 4-ку, 70+348 лістоў. (Ундольскій).

„ЕФРЕМА СИРИНА ПОУЧИТ. СЛОВА и АВВЫ ДОРОѲЕЯ“, друк. ў Вільні, 1780 г., ў 4-ку, 237+1+101 ліст. (Ундольскій).

„ЧАСОВНИКЪ“, друк. ў Супрасьлі, ў 1780 г., ў 8-ку, 268+4 лісты. (Ундольскій).

„ПСАЛТИРЬ“, друк. ў Супрасьлі, 1780 г., ў 4-ку, 59+276 ліст. (Ундольскій).

„АЗБУКА“, друк. ў Супрасьлі, 1781 г., ў 8-ку, 60 ліст. (Ундольскій).

„ЕВАНГЕЛІЕ УЧИТ. ВОСКР. КАЛЛИСТОВО“, друк. ў Вільні, 1782 г., ў ліст., 4+412 лістоў (Ундольскій).

„КАТИХИЗИСЪ“ Лаўр. Зызаняга, друк. ў Горадні, 1783 г., ў ліст., 3+347 (4+386+12?) лістоў (Ундольскій).

„АНѲОЛОГІОN“, друк. ў Супрасьлі, ў 1783 г., ў ліст. (Ундольскій).

„ПСАЛТИРЬ“, друк. ў Вільні, 1784 г., ў 4-ку, 19+347 лістоў (Ундольскій.)

„СЛУЖБА И ПОВѢСТЬ О ИКОНѢ ТИХВИНСКІЯ БОГОР.“, друк. ў Вільні, 1785 г., ў 4-ку. (Ундольскій).

„ПСАЛТИРЬ“, друк. ў Горадні, 1785 г., ў 4-ку, 6+9+225+158+2 лісты. (Ундольскій).

„О ВѢРѢ ПРАВОСЛ. ВОСТОЧНЫЯ ЦЕРКВѢ“, друк. ў Горадні, 1785 г., ў ліст, 289 лістоў. (Ундольскій).

„ПСАЛТИРЬ“, друк. ў Вільні, 1786 г., ў 4-ку. (Ундольскій)..

„АЛЬФА І ОМЕГА“, друк. ў Вільні, 1786 г., ў 4-ку, 302 лісты. (Ундольскій).

„КИРИЛЛА АРХІЕПИСКОПА ІЕРУСАЛИМСКОГО, ПОУЧИТЕЛЬНЫЯ СЛОВА“. Друкавана стараабрадцамі ў Горадне 1786 году. (Сопіков).

„РОССІЙСКИМЪ ВСѢМЪ СЬВ. СЛУЖБЫ“ друк. ў Горадні, 1786 г., ў 8-ку, 152 лісты. (Ундольскій).

„СЛУЖБА ВЪ ВЕЛИКУЮ СУББОТУ И ВЪ СВѢТЛУЮ СЕДМИЦУ“, друк. ў Горадні, 1786 г., ў 12-ку, 132 лісты. (Ундольскій).

„ЧАСОСЛОВЪ“, друк. ў Супрасьлі, 1786 г., ў ліст, 325+1 ліст. (Ундольскій).

„ЕФРЕМА СИРИНА и АВВЫ ДОРОѲЕЯ ПОУЧЕНІЯ“, друк. ў Супрасьлі, 1786 г. ў 4-ку, 4+348+168+1 ліст. (Ундольскій).



Антыміс з выабражэньнем палажэньня ў гроб Хрыста (дрэварыт XVIII ст.)

„СВЯТЦЫ СЪ КРАТК. ЖИТІЯМИ“, друк. ў Супрасьлі, 1786 г., ў 8-ку, 239 лістоў. (Ундольскій).

„РОССІЙСКИМЪ ЧУДОТВ. СЛУЖБА И ПОХВАЛА“, друк. ў Супрасьлі, 1786 г., ў 4-ку, 18+1 ліст. (Ундольскій).

ЗБОРНІК ІНТЭРМЭДЗІЙ 1787 Г. Рукапіс Віленскай Публ. бібл. № 201. Б. 4., апісаны А. И. Сычевской. „Къ вопросу о Мольерѣ въ польской драматической литературѣ XVIII ст.“ (Руск. Филолог. Вѣстн. LXII, 73—109). Сабраны гэты зборнік ксяндзом К. Морашэўскім, прафэсарам рыторыкі і поэзіі ў Забельскай гімназіі (Дрысенскага пав.) і ксяндзом Цецерскім, вучыцелям у тэй-жа гімназіі. Падаем паволе апісаньня праф. Карскага „Бѣлоруссы“, т. III, б. 228—233.

I. Chłop, Żyd, Djabeł, Pokutujący *).

Гэта „Komedya“ напісана ў стылю старой школьнай драмы. З дзеячых асоб гавораць крыўскай мовай селянін і, з некатарымі сказамі, жыд. Зьмест

*) Поўнасьцю надрукавана ў часопісе „Беларусь“ 1920 г. (№№ 100, 106, 107).



Антыміс з выабражэньнем палажэньня ў гроб Хрыста (дрэварыт XVIII ст.).

такі. Калі селяніну абрыдла працаваць, ён пачынае жаліцца на сваё палажэньне і наракаць на першага чалавека, Адама, які зьеўшы забароннага яблыка загубіў усё чалавечае племя. Зьяўляецца чорт і раіць не наракаць на Адама, таму, што ён і сам не ўстаяў-бы супроць спакусы, каб пакаштаваць забароннага яблыка. Чорт прапануе селяніну зрабіць на сабе самім спробу: памаўчаць акрэсьлены час. Калі селянін ня вытрывае ў маўчаньні, то чорт возьме яго душу. Селянін згаджаецца, але ня можа вытрываць у маўчаньні і праігрывае заклад.

Галоўная чынная асоба тут Дзёмка. Ен вызначаецца тымі-ж уласнасьцямі, што і другія сялянскія тыпы, сустрачаныя ў школьных інтэрмэдзіях: ён глупаваты, гаворыць многа лішняга, любіць выпіць, але хітры і сабе на розуме. Чорт тут також хітры і не бяз гумару, ён можа ўсё зрабіць, асабліва калі прадаць яму душу; але разам з гэтым зьяўляецца пэрсонай павучаючай: яго вуснамі аўтор высказуе сваю мараль. Побач с прастадушным прастаком селянінам, чорт прадстаўляе іншую грамадзкую клясу, больш высокага кругазору і гаворыць па польску.

Твор гэты напісаны паводле асноў псэўдо-класычных драм і зьяўляецца пераходам ад праставатых інтэрмэдзій да запраўдных драматычных твораў.

І Акт, 1 ая сцэна.

*Chłop.* Och jak nieszczaśliwojo życio mэjo! Chadżu ja chadżu pieraz całuteńki dzień, aż nohi aniemieli, ruk nie czuwać ad pracy i tapara, horsz jeszczo ad capa; małaczu ad samych kurej, aż mało szto nie da paudnia jakby sam adzin: prauda, szto i żonka pamahała, da sztoż jeje za rabota, wiedama żanockaja sprawa, ciukneć kolka razy capom, aż zaraz jeje licho i biereć, to siadzieć, to lażeć, to kolki padapruć, tolki czort łoński jeje dusić, a potym jeszcze z homanom i klećboju poydzieć. Prapadzi jeno, nieszczaśliwojo życio naszojo, bo usio jak harawać, tak harawać musim .. Kap to Adam pierszy nasz aciec nie zahraszyu, tak by i my hetak nie pracawalib... A ja i szeleha pry duszy nie maju, da Duszysz nie maju! a Pan adnak na toie nie hledzić, da usio kryczyć: zapłaci, skurwy Syn! zapłaci, wużawa krou-mużyk! Aha tu, aha tu na ciebie! Adam, Adam, jak ty nas pahubiu...

2-я сцэна.

*Zyd.* Niu, na ciebie ciorny hod, chadzil ja, chadzil za taboju, bul dwoycy u twajoy chacie, az ledwo tut ja ciebie znasou; kali ty mnie addasi za harelku?

*Chłop.* Prapadzi ty, nie maju hdzie ad ciebje padzietca, addam, licho nie woźmieć.

Сцэна з жыдам канчаецца ўзаемным зьневажаньнем, але пераможцам, дзякуючы сваей хітрасьці, выходзіць селянін. Жыд адыходзіць са словамі:

*Zyd.* Budź zdarou, dziakuju, sto z dusoju mienie puściu.

*Chłop.* (Астаўшыся адзін): Kap to jon niezahraszyu, to by żyd praklaty, śmierdziuch astatni, mnie w woczy za harelku nie lez by. A jab u Raju szto dzień pa pautarab garca z kwartaju i pławinkaju wypiwauby, i usiob sabie spiewau... Adam, Adam! na licho tabie było słuchać żeńszczyny, było tabie jeje wieroukaju, wieroukaju ottak, jak ja swaju czasta święczu.

У камэдзіі многа народных прыказак і фігуральных сказаў, прыкладам:

Szeleha pry duszy nie maju.—Nie leż ty mnie w oczy. Kryczy, kab tobie rażon u horło ulez, kab tabie skulli horło raztaczyli. A ciabie czy Czort tam pahonić A ciapier bolsz kłopotu, niż piccia. Kab da jeje licho nie prystupiło. Mała szto krouiu nie pacieju. Kap ty skroź ziemli paszou. Ciebieb licho uzieło. Kap jeho czort uziau, adpuści Boża hrecha. Tak by ja nikoli taho nie uczyniu, prapadzi jeno. Ia nie wycierplu, kali tabie u mordu dam. A zakład chadzi sa mnoju. Ciep'er i rady sabie dać nie mahu. Biez twaje kazki ja heto wiedaju. Ion i z rodem swaim niedaždzieć. Aż u złość ustupiu. Chwaroba tych błaznow na maju hoławu pryniesło. Licho wiedajeć szto jeny rabili. Nie boysie, czort nie waźmie —zapłaczu. Usie chitryje, jak sabaki. Niechaj jeny pracham payduć. Nie daczekajesz ty z rodem twaim. Czy czort jemu skažeć. Iak ziemla mauczauby. Da hałubeńka ty moy, da kukułaczka ty moy, zieziuleczka nienahladnaja, da ty majo ni siojo, ni tojo, da daruyże hetot varoczek. Czort jeho dziary. Choćby sabie y na haławie chadzilib. U strachu woczy wialiki. Dwa razy aszukausia, tak treci raz y na zimnuju wadu dmuchać treba. Heto nie żarty z hetakim paniczom mieć sprawu.

Аўтор камэдзіі ня толькі ведае добра народную мову і характар народу, але знае такжа быт і забавы. З гэтай стараны цікава сцэна с „Pokutującym" які палічыў дуду за нейкую дзіўную гадзіну.

*Chłop.* Czaho, wasza, baissia, ci nie znaisz, szto heta iość.

*Pokut.* Nie wiem.

*Chłop.* Heto nie hadzina, heto duda ruskaia. Na niey można ihrać! (Пакутнік ня верыць і недапускае каб яе можна было ў рукі ўзяць. Селянін бярэ яе і іграе). Iak twoy durny um, tak baissia, nia musiu ty być z naszymi braćmi u karczmie, a my kali zbiaremsia do karczmy, mała jeje nierezwalim ad huku tolka dud naszych.

У канцы Камэдзіі селянін выказуе галоўную мысьль твору і некалькі павучаючых сэнтэнцій. Ен жалее, што слухаў тых, каторыя вучылі яго благога.

... katoryje kazali, kab ja byu niawiernym Panu, katoryje akraść Pana za hrech nia mieli, katoryje pry maładźbie kolka razy pa kolka czwiortak u karczmu nasili sa mnoy razam na harełku..., katoryje jak Panom adkazać, z winy wykrucitca uczyli. Praklatajo toja tawarystwa! praklataja z szelmami życcio... Nikalib ja hetak nieszczaśliwy nia byu ba, kab z tymi nie tawaryszyu, katoryja z djabłami żywuć... Ach, biedasz maja bieda! Bierażycie sia, Mużyczki, bierażycie sia, ja was aścierahaju, nie ruhaycie ani na Boha, ani na Adama, ale na siabie, my horszy jaszczo, jak Adam; y jon prauda zahraszyu, ale raz tolka pakutuwau. A my dzień u dzień hraszym y pakutuwać nia choczym! heto to pryczyna naszoy zhuby, heta u piekła nas wiadzieć...

Гэткім чынам школьная інтэрмэдзія, чэрпаючы матэр'ял з народнага жыцьця, з сялянскімі тыпамі, памалу разьвілася ў запраўдную камэдзію.

II. Doktor przymuszony.

Гэты твор прыналежыць пяру ксяндза Цецерскага, які напісаў яго не без уплыву Мольераўскага Le medecin malgre lui. Сама сцэна напісана па польску і толькі двоя сялян—Хведар і Апанас—гавораць крыўскай мовай. Мова ў Цецерскага значна горшая чым у папярэдняй Камэдзіі:

*Chwiedor.* Kab ty, wasza, byw laskaw, da daw iey iakocha ziella, kab jina użo nikoli ni chwareła, ba tak mnie iaie chwaroba horka daieła, iak nażom pa horle, ani spać, ani rabotu robić, ani ieść, ani siadzić, ani łażyć nikoli, usio tolki iak kałatowka krucicca, to tudy, to siudy, to tudy, to siudy.

*Sawalon.* Dla czegoż to?

*Chwiedor.* E! ty, wasza, niawiedaiasz jascze iakoia to hora, kali mana chwacić; zmiłuy się ty, wasza, paradź budź łaskaw.

*Sawalon.* Ale chcę wiedzieć, na co ona choruje?

*Chwiedor.* Dai jna y duża kab ty W Pan wiedaw chwareić, tolki iaie chwaroba uszkruzdonnaia, paznać niamożna, usio tolki stohnieć, a mnie tak żywot balić na iaie hlidzia.. Kolki nieszta iaie padpiraiuć czasta, iak padpora u pirapłocie, a iak wozmić gwałtu kryczać, dyk my aż z chaty, prapadzi iano, ucikaim, da usio nieszta iaie kidaić, to na tuju, to na siu staranu, tolki szto chaty ni razłomić, biisia

wob ścianu haławoy, da tahdy iey uhadzić, bracie, trudna, chodzim, iak kala czarta iakoha usie, a ina niczoha nia lubić, usio iey praciwna, usio kryczyć aszalewszy.

*Sawalon.* Nu coż? to ona w ten czas boleść musi wielkę mieć.

*Apanas.* Prawda heta zhadau wasza, tolki szto na ścianu nialezieć da-tki ma zbiażyć na les niekali, kali ty, wasza, iey ni pamożasz.

*Sawalon.* To musi wracać się w tę y w owę stronę kiedy się położy?

*Apanas.* Otož Doktar, nu Doktar, možna nazwać Doktaram, usio tak iak iość uzhadau; tak iość, Dabradzieiu, tak, tak; užo waszeci tolki troszuczku anamknuć, tak ty usio szupisz.

*Sawalon.* My to y zęby na tym ziedli.

*Apanas.* Iak ža ty, wasza, užo chleb iasi bez zubow, ziewszy zuby na leykach...

„СВЯТЦЫ“, друк. ў Супрасьлі, 1788 г., ў 8-ку. (Ундольскій).

„О АРТИКУЛАХЪ ВѢРЫ НАУКА“, друк. ў Супрасьлі, 1788 г., ў 8-ку, 128 лістоў. (Ундольскій).

„СТРАСТИ ХРИСТОВЫ“, друк. ў Супрасьлі, 1788 г., ў 4-ку (Ундольскій).



Застаўка з віленскіх кірылаускіх друкаў XVIII ст. (дрэварыт).

„КАНОННИКЪ“, друк. ў Супрасьлі, 1788, ў 8-ку. (Ундольскій).

„ПСАЛТИРЬ“, друк. ў Горадні, 1788 г., ў 4-ку, 400 лістоў. (Ундольскій).

„ПСАЛТИРЬ“, друк. ў Горадні, 1788 г., ў 4-ку, 367 лістоў. (Ундольскій).

„ЧАСОВНИКЪ“, друк. ў Вільні, 1788 г., 340+52 лісты. (Ундольскій).

„ХРИСТІАНСКОЕ БЛАГОЧЕСТІЕ“, друк. ў Супрасьлі, ў 8-ку, 1788 г. (Ундольскій).

„АЛЬФА И ОМЕГА, то есть начатокъ и конецъ, избранныя отъ божественныхъ писаній, Евангельской проповеди, Апостольскихъ ученій, и отъ правилъ св. отецъ“.

Пераклад з грэцкага. Друк. ў Супрасьлі, 1788 г., ў ліст., 685 лістоў.

„СКИТСКОЕ ПОКАЯНІЕ“, друк. ў Супрасьлі, 1788 г., ў 8-ку, 90 лістоў. (Ундольскій).

„СОЛОВЕЦКАЯ ИСТОРІЯ“, друк. ў Супрасьлі, 1788 г., ў 8-ку. (Ундольскій).

„ПОКАЯНІЕ (СКИТСКОЕ) СЪ ЧЕЛОБИТНОЮ“, друк. ў Супрасьлі, 1788 г., ў 8-ку. (Ундольскій).

„ЕФРЕМА СИРИНА И АВВЫ ДОРОѲЕЯ ПОУЧЕНІЯ“, друк. ў Супрасльлі, 1788 г., ў ліст, 314+1+28 лістоў. (Ундольскій).

„КАТИХИЗИСЪ, ПО ЛИТОВСКИ ОГЛАШЕНІЕ, рускимъ же языкомъ нарицается Бесѣдословіе, избранный отъ Божественныхъ писаній, Евангельскія проповѣди, апостольскихъ ученій и святыхъ Богоносныхъ отецъ, въ вопросахъ и отвѣтахъ, рекше во образѣ хотящаго разумѣти и въ образѣ могущаго разумъ дати“. Пераклад на маскальскую гутарку катэхізму Лаўрына Зызаняга, друкаваны стараабрадцамі ў Горадне, 1788 году, ў ліст, 395 лістоў.

„О ЖИТІИ ХРИСТІАНСКОМЪ“, друк. 1789 г., ў Супрасьлі, ў 8-ку, 78 лістоў. (Ундольскій).

„СТРАСТИ ХРИСТОВЫ“, друк. ў Супрасьлі, 1789 г., ў 4-ку. (Ундольскій).

„КНИГА, СОДЕРЖ. ВЪ СЕБѢ, КАКО ПОДОБАЕТЪ ИНОКОМЪ И ХРИСТІАНОМЪ ЖИТИ, И О ОБХОЖДЕНІИ ВСЕЛѢТНАГО КРУГА“, друк. ў Супрасьлі, 1789 г., ў 8-ку. (Ундольскій).

„СЛУЖБА ТИХВИНСКОЙ БОГОРОДИЦѢ СЪ ЧУДЕСАМИ“, друк. ў Горадні, 1789 г., ў 4-ку, 116 лістоў. (Ундольскій).

„СЛУЖБА И ПОХВАЛА ВСѢМЪ ЧУДОТВ. РОССІЙСКИМЪ“, друк. ў Горадні, 1789 г., ў 8-ку. (Ундольскій).

„О ЖИТІИ ХРИСТІАНСКОМЪ, книга отъ завѣщанія св. Апостолъ и отъ жительства св. отецъ“, друк. ў Горадні, 1789 г. ў 4-ку. (Ундольскій).

„ПСАЛТИРЬ“, друк. ў Горадні, 1789 г., ў 4-ку, 33+363+1 ліст. (Ундольскій.)

„ПСАЛТИРЬ“, друк. ў Супрасьлі, 1789 г., ў 4-ку, 357 лістоў. (Ундольскій).

„ИСТОРІЯ О ОТЦѢХЪ СОЛОВЕЦКИХЪ“ друк. ў Супрасьлі, 1789 г., ў 8-ку, 173 лісты. (Ундольскій.).

„ЕВАНГЕЛІЕ“, друк. ў Вільні, 1790 г., ў 4-ку, 272+142 лісты. (Ундольскій).

„ЕВАНГЕЛІЕ УЧИТЕЛЬНОЕ“, друк. ў Супрасьлі, 1790 г., ў ліст. 411+1 ліст. (Ундольскій).

„КАНОННИКЪ“, друк. ў Горадні, 1790 г., ў 8-ку, 107+1 ліст. (Ундольскій).

„ЧАСОВНИКЪ“, друк. ў Супрасьлі, 1790г., ў4-ку, 185+48 лістоў. (Ундольскій).

„ДОРОѲЕЯ СВЯЩЕННОИНОКА ЦВѢТНИКЪ“, друк. ў Горадні, 1790 г., ў 4-ку, 483 лісты. (Ундольскій).

„ОТЪ ЗАВѢЩАНІЙ БОЖЕСТВ. АПОСТОЛ... како подобаетъ инокомъ и христіаномъ жити“. У Супрасьлі, ў 1790 г., ў 8-ку. Знах. ў Сінод. бібл. (Ундольскій).

КАЛЯДНАЯ ПЕСЬНЯ. Гэта калядная песьня выклеена з акладкі уніяцкага служэбніка, друкаванага ў Супрасьлі, ў 1726 г., а апраўленага ў Вітабшчыне аб чым сьведчыць надпіс: Ten Mszał jest oprawiony Roku 1790 M sa Febr. Dnia 14. Iest oprawiony przez aktytorów Cerkwi Pierewoskiej y zapłacony Złt polskich 6, Dico 6.

Перавозскія цэркві былі фундаваны Казімірам Ягайлавічам, ў падзяку Богу за выратаваньне яго жаны ад утапленьня,—20 ліпня, ў дзень прарока Ільлі. Між іншымі былі фундаваны ім цэркві ў Вітабску, Вяліжы, Бешанкавічах. Усім гэтым царквам надаў Казімір на вечнае карыстаньне перавозы.



Мука Хрыстова, дрэварыт XVIII ст. паменшаны ў 16 разоў.



Грэхападзеньне, дрэварыт XVIII ст., паменшаны ў 16 разоў.





Канцоўкі з друкаў віленскай Сьвятатроіцкай друкарні XVIII ст.

W Betlehemie domie ubogim,
W Iessyowym y Dawydowym,
Stworytel ninie leżyt na sienie;
Woł y osłati hrejut d'tiati.
Anioły z nieba wsim dajut znati,
Kob szli pospołu Boga witati.
Samoy pownocznoy hłuchoy hodiny
Pierwszy pastyry biehli k iaskini.
Kuźma z Dziemanom, pred Chrystom Panom,
Pod samym dachom stali so strachom.
Pierszy Mikita rad Boga wita
Przy iaślech stawszy, kuczomku źniawszy.
Sawko z Jachimom, swoim bratymom,
Skoro pryśpieli zaraz zapieli.
Koruś z Tarasom hudeli basom,
Butrynko z Kantom pisczat dyszkantom,
Dzemid z Daniłom zahrali miło.
Borys z Protesom spieszali lesom,
Michailo dołom śpieszył z Antonom,
Hryś z Mołoniciu hnali roloiu,
Roman z Ihnatom, zo swoim bratom,
Płyli tudoiu Fufrat rekoiu.
Jaremko z Kośtiem był pierszym hośtiem
Siedziel w kutoczku na połozoczku,
Tiertuchu niuchał, muzyki słuchał.
Nazar z Koźmoiu, pred chraminoiu,
Tierez kanawku pokłali kładku
Rupnoy duszoiu z reznoy stupoiu.
Owdiey pałowy prynies osłowi
Hawryło w wieczku byczati sieczki.
Jzwieczno noddany wsiye Iwany
Rubiat mostoczek tierez potoczek.
W toj czas rybaki nutili raki,
Wsie po płoticy dali włodycy.
Hermiey z Haponom woły z pryponom
Jenas z Jurgasom z puszczow Litwiny
Nieśli Chrystowi z sałom botwiny.
Chimka z Ahapkoi dwie mołodzicy,
W dar Chrystu dali kowsz hołowciy
Ostap z Mokreiem, tretim Nupreiem
Tiahli barana do Chrysta Pana.
Pilip z Makarom so swoiskim darom,
Z niwy rodimoy, imi lubimoy
Dwa cheby wziali Bogu podali.
Mołody y stary wsiei piekary
Razom z oraczy nieśli kołaczy.
Znacharka Dosia śpiekła porosia:
Pokul dośpiła sama wsio zieła.
Z radości ony czerncy pokłony
Ninie złożyti k Bogu bieżytie.
I wy czerniczki wo czerowiczki
Obuitie nogi z radości mogi.
Wy niebożaty, mały chłopczaty
Śpieszaitie k Bogu w stainiu ubohu.
Kuszniery z futra nie dzetie kutra,
Krawcy przestantie skrawki chowati:
Sam Bòg robotu raczet wam dati.
Kowali hwozdi zrobietie z kopu
Aby obiti tuiu, tam szopu.
Gontary gontòw i łat dodaitie,
Stolary dwiery chutko hotuitie,
A wy, slesary, ich pryrychtuitie.
Wsiye sznicary kupno z malary,
Do toje szopy robtie owtary.
Szklery bołony, do szopy ony,
Poprystawlaitie, cześć Bogu daitie
A wy stelmachy robtie lektyki
Dla predwiecznego Boga władyki.
A wy muzyki skrzypki woźmietie
I Boga Spasa razwiesielitie.
Rymare uzdy i chomutiny
Prywieźli w dary Bożey Dietinie.
Wielmożni pany Greki Rzymiany
Czesno wchodili dary łożyli.
Day że, o Boże, wsim Tiebie znati
Y na Niebiosach bliż Tiebie stati.

„СОБОРНИКЪ“, друк. ў Супрасьлі, 1791 г., ў ліст, 168+1 ліст. (Ундольскій).

„ЦВѢТНИКЪ“, друк. ў Вільні, ў 1791 г. знах., ў Сін. бібл. (Ундольскій).

„ПАТЕРИКЪ АЗБУЧНЫЙ“, друк. ў Супрасьлі, 1791 г., ў 4-ку, 10+563 лісты (Ундольскій).

„ПАТЕРИКЪ СКИТСКІЙ“. Друкаваны ў Супрасьлі для стараабрадцаў у 1791 г., ў 4-ку. (Сопіков).

„ПРОЛОГЪ“ ад верасьня да Лютага, друк. ў Супрасьлі, 1791 г., ў ліст, 906 лістоў (Ундольскій).

„КАНОННИКЪ“, ў Супрасьлі, 1791 г., ў 4-ку, 352 лісты (Ундольскій).

„КНИГА КИРИЛЛОВА“, друк. ў Горадні, 1781 г., ў ліст 15+8+562 лісты. (Ундольскій).

„ПѢСНИ НАБОЖНЫЯ“, друк. 1791 г., прыводзіць з працы Щегловай Карскі (Бѣлор. III. 146, ў прыпісцы), але не падае ні дзе друкаваны, ані зьместу кніжкі.

„БУКВАРЬ языка словенскаго, чтенія и писанія учитися хотящимъ въ полезное руковожденіе издадеся въ обит. Супрасльской, и тщаніемъ иноковъ св. Василія В., лѣта отъ Р. Христова 1792, ў 8-ку, 44 бал. (У Віленскай Пуб. бібл. 2 экз.)

„ШЕСТОДНЕВЪ“, друк. у Вільні, 1792 г., ў ліст, 173 лісты. (Ундольскій).

„ЗЛАТОУСТЪ“, друк. ў Супрасьлі, 1792 г., ў ліст 8+358 лістоў. (Ундольскій).

„ДОРОѲЕЯ СВЯЩЕННОИНОКА ЦВѢТНИКЪ“, друк. ў Горадні, 1792 г., ў 4-ку, 482+1 ліст. (Ундольскій).

„NABOŽNYJE PIEŚNI“. Разсыланы былі ў 1771, 1778 і 1792 годах пры загадах духоўнай зьверхнасьці асобнымі друкаванымі аркушамі: „Radujsia Božy narodzie, radasć z nieba nam prychodzie“, „Nowa radasć stala, jaka nie bywała“, „Caru Chryście miły Baranku douhaciarpliwy“, „Kažuć ludzi, szto ja umru, a ja chaczu žyci“.

Усе гэты песьні маюцца такжа ў уніяцкіх богагласьніках (Карскі, „Бѣлор.“ III. 145).

„ТРІОДЬ ЦВѢТНАЯ“, друк. ў Супрасьлі, 1793 г., ў ліст, 587 лістоў. (Ундольскій).

„ЧАСОСЛОВЪ НАЛОЙНЫЙ“, друк. ў Супрасьлі, 1793 г., ў ліст. (Ундольскій).

„КАНОННИКЪ“ друк. ў Вільні, 1794 г., ў 8-ку, 120 лістоў. (Ундольскій).

„УСТАВЪ О ХРИСТІАНСКОМЪ ЖИТІИ“, друк. ў Вільні, 1794 г., ў 8-ку, 120 лістоў. (Ундольскій).

„ЕВАНГЕЛІЕ УЧИТЕЛЬНОЕ“, друк. ў Вільні, 1794 г., ў ліст, 411 лістоў. (Ундольскій).

„ДОРОѲЕЯ СВЯЩЕННОИНОКА ЦВѢТНИКЪ“, друк. ў Горадні, 1794 г., ў 4-ку, 483 лісты. (Ундольскій).

„СТРАСТИ ХРИСТОВЫ“, друк. ў Супрасьлі, 1794 г., ў 4-ку, 3+186 лістоў. (Ундольскій).

АКРУЖНАЯ ГРАМАТА Віктара, Архібіскупа Менскага, да ўсіх верных, у ліст, 1794 году, праўдападобна друкавана ў Магілеве.

АКРУЖНАЯ ГРАМАТА біскупа Магілеўскага і Полацкага Афанасія, ў ліст, 1795 году, праўдападобна друкавана ў Полацку.

КАТАЛІЦКІ УНІЯЦКІ КАТЭХІЗМ канца XVIII ст. Арыгінал гэтага катэхізму быў у канцы XIX ст. ў кс. Урбановіча, ў новым Пагосьце, Дзісенск. пав. Пісаны лацінскімі буйнымі, друкаванымі літарамі і абыймаў у 4-ку 62 балонкі. Пасьля далучэньня да Расіі ўсходнай часьці крыўскіх (беларускіх) зямель, каталіцкае духавенства пачало заводзіць народную мову ў дадатковым набажэнстве і ў навуцы веры ў адповедзь на вымаганьне Расійскага ураду, каб ў касьцёлах была ўжывана расійская мова. Маецца акольны ліст архібіскупа Богуш-Сестранцэвіча па Магілеўскай Архідыэцэзіі з 1794 году, ў якім ён кажа: „wszystkim w Archidjecezji plebanom zalecić i zaleca się, aby ludowitym językiem, jaki on rozumie, po skończonym nabożeństwie z ambon po kościołach kazania miewali“. (L. Wasilewski „Litwa i Białoruś“). Спамянуты вышэй кс. Урбановіч яшчэ ў 1890-х годах гаварыў казаньні пераважна ў мове крыўскай, якой гаворыць тут акалічная каталіцкая люднасьць.

КАТЭХІЗМ УНІЯЦКІ КАНЦА XVIII СТ. Рукапіс пісаны лацінскімі літарамі, пераховуецца ў Беларускім музэі імені Івана Луцкевіча, ў Вільні. Знайдзен гэты рукапіс у полацкім Богаяўленскім манастыры.

Полацкія уніяцкія біскупы ў канцы XVIII і пачатку XIX ст. разсылалі загады парахіяльным сьвятаром аб ужываньні народнай мовы ў науках і катэхізацііі. Захавалася „Odezwa Jaśnie Wielmożnego Jakuba Martusiewicza Łuc-

kiego Unickiego Diecezalnego Biskupa i administratora Połockiej Archidyecezii do urzędników onej w 1824 roku miesiąca października okolnie rozesłanaj dla nieodmiennego spełnienia“. У гэтай адозве чытаем: „Obowiązać podpiskami każdego z kapłanów Curam animarum utrzymującego, iż by ci nauczaniu parochwijan swych wiary Chrystusowej zasilali ją słowem Bożem językiem zrozumiałym przemawiając“. (Арыгінал гэтай адозвы ў Львоўскім музэі ім. Шэптыцкага).

З гэтага відаць як было ўжо спольшчанае уніяцкае духавенства, што згары патрэбен быў націск каб яны, ў навуцы веры, ўжывалі зразумелую для народу мову.

ЗАГАДКІ ЦАРА ДАВЫДА. З рукапісу XVIII ст., перадрукавана Раманавым (Бѣл. Сб. V. 212) паводле няпоўнага сьпіску з украінскімі, побач беларуска-крыўскіх, асобнасьцямі. Арыгіналам да гэтай варажбіцкай кнігі маглі паслужыць сярэднявекавыя Sortes Sanctorum. Тут сабраны выславы як з варажбіцкага псалтыра так са сьв. пісаньня і з апокрыфічнай літэратуры (Ев. Ѳомы).

„О ДВАНАДЦАТИ ПЯТНИЦАХ“. Апокрыф гэты да нашых часаў цешыцца вялікай папулярнасьцю і паслужыў матэр'ялам для духоўных вершаў. У Романава (Бѣлорусск. Сб. III, 264) надрукаваны кароткі адрывак гэтага апокрыфу.

„ЛИСТ ІИСУСА ХРИСТА, СЬВЯТОЕ ПИСЬМО“. Гэты апокрыф пранік да нас безумоўна праз Польшчу. У Ерліча (1600 г.) упамінаецца List Pana Iezusa Nazarańskiego, Króla Juckiego. У гэтым лісьце апавядаецца аб цудоўным яго пасланьні з неба ад самога І. Хрыста пры папежу Льве і аб тым як трэба шанаваць нядзельны дзень і якія з гэтага будуць мець карысьці тыя хто чытае і пераховуе гэты ліст.

„О ДВАНАДЦАТИ МУКАХ“. Гэты апокрыф ведамы ў нас ужо з XII ст. (Истор. слов. Порфирьева, 272). Апокрыф гэты і цяпер ходзіць па руках у новых сьпісках, але старасьвецкія сьпіскі яго яшчэ невядомы.







Канцоўкі з віленскіх кірылаўскіх друкаў канца XVIII ст.

„СТРАСТИ ХРИСТОВЫ“, друк. ў Супрасьлі, 1795 г., ў 4-ку, 4+186 лістоў. (Ундольскій).

„ДОРОѲЕЯ СВЯЩЕННОИНОКА ЦВѢТНИКЪ“, друк. ў Горадні, 1795 г., ў 4-ку, 482 +1 ліст. (Ундольскій).







Мэдаль адбіты царыцай Кацярынай II на памяць далучэньня крыўскіх зямель да Масковіі.

„ПСАЛТИРЬ“, друк. ў Вільні, 1796 г., ў 4-ку, 340 +52 лісты. (Ундольскій).

„ПСАЛТИРЬ“, друк. ў Супрасьлі, 1796 г., ў 4-ку, 33+362 лісты. (Ундольскій).

„СВЯТЦЫ“, друк. ў Супрасьлі, 1796 г., ў 16-ку, 231+1 ліст. (Ундольскій).

„СОНЪ БОГОРОДИЦЫ“, выданы Раманавым большчым на пяцёх сьпісках XVIII—XIX ст. Гэты-ж сон ведамы ў форме духоўнага народнага верша.

Богародзіца заснула ў горадзе Бэтлееме і бачыла страшны сон, у якім выабражаны былі мукі Хрыста (як у Эвангельлі). Да Богамаці падыйшоў Хрыстос, яна разбудзілася і расказала яму сон. Хрыстос ёй адказаў, што гэта ўсё запраўды збудзецца. Пасьля ўжо апавядаецца аб рукапісу сна што хто яе пераховуе захаваны будзе ад усякіх непрыемнасьцяў і ў будучым атрымае царства нябеснае.

Ужо ў XVI ст. гэты сон курсаваў па нашым краю. Навейшыя сьпіскі, публікаваныя Раманавым, паперакручываны малаграматнымі псаломшчыкамі і манахамі на вялікарускі лад, старэйшыя-ж яго сьпіскі (XVIII ст.) носяць на сабе сьляды рук староверскіх сэктантаў. Чыста беларуска-крыўскія рэдакціі гэтых сьпіскаў або загінулі, або яшчэ не адкрыты. Твор гэты адносіцца да апокрыфічнай літэратуры.

„ЗЛАТОУСТЪ“, друк. ў Вільні, 1798 г., ў ліст, 8+334 лісты (у гэтым годзе ў Вільні было выдана некалькі Златаустаў, рожніўшыхся адзін ад другога толькі не вялікімі друкарскімі асобнасьцямі).—(Ундольскій).

„ПРОЛОГЪ“, друк. ў Вільні, 1798 г., ў чатырох кн., у ліст. (Ундольскій).

„КАНОННИКЪ“, друк. ў Вільні, 1798 г., ў 4-ку, 4+479 лістоў. (Ундольскій).

„БУКВАРЬ“, друк. ў Вільні, 1798 г., ў 8-ку, 32 лісты. (Ундольскій).

„АКАѲИСТЫ“, друк. ў Магілеве, 1798 г., ў 4-ку. (Ундольскій).

„ПОУЧЕНІЯ СВ. ІОАННА ЗЛАТОУСТАГО“, друк. ў Горадні, ў 1798 г., ў ліст., Вішн., т. VIII, бал. 436).

„НИКОЛАЯ ЧУД. ЖИТІЕ“, друк. ў Вільні, 1800 г., ў 4-ку, 4+208 лістоў. (Ундольскій).

ЭНЭІДА НАВЫВАРАТ. „Энэіда навыварат“, напісана, ў канцы XVIII або ў пачатку XIX стагодзьдзя.

Аўтор паэмы невядомы. Некатарыя прыпісваюць яе Ровінскаму са Смаленшчыны, другія Манькоўскаму з Вітабшчыны.

„Энэіда“ паэма рымскага пісьменніка Віргілія. Аднак выводзячы падобна Віргілію, грэцкіх і рымскіх багоў, наш аўтор надае ім сялянскае аблічча і ў сваёй паэме дае характарыстыку сялянскага быту.

Паэма пры напісаньні не друкавалася. Як вельмі цікавы твор, яна перапісывалася рожнымі асобамі і гэткім парадкам пашыралася па ўсей Крывіі. Аднак, дзякуючы гэтаму, ў паэму трапіла многа ўставак і пазьнейшых пераробак. Паэма напісана ўсходна-крыўскаю моваю.

Да нас цалком паэма не дайшла; маецца толькі пачатак яе, а рэшта загубілася.

Жыў-быў Энэй, дзяцюк хупавы[1]),
Хлапец наўвошта украсіў;[2])
Хоць пан, але удаўсь ласкавы,
Даступен, весел, неграбіў.[3])
Ды грэкі вуйму[4]) нарабілі:
Як ляда,[5]) Трою ўсю спалілі.
Кашэль ён згробшы науцёк,
І, швыдка[6]) зробіўшы чаўнок,
Траянцамі яго набіў
Ды ў мора з імі ён паплыў.
Але Юнона была злая,—
Адродзьдзя панскага ліхая!—
Шукала ўсё яго згубіць.
На дно у пекла пасадзіць:
Затое, бачыш, ня ўзьлюбіла,
Яго Вэнэра што радзіла.
Юнона воблак адапхнула
Ды з неба на мара[7]) зірнула—
Плывець на чаўнаку Энэй!
„Ах, ты няпруціна[8]) зладзей!
Вось я цябе скручу, пад ляпу,
Ражном у мора, як сабаку!“...
Панёву[9]) швыдка нахапіла,
Кашэль сачнямі[10]) налажыла,

[1]) Энэргічны, жывы. [2]) прыгожы. [3]) грэбаваць=пагарджаць, знача ня горды, уважлівы. [4]) ўйма=множства. [5]) лядо выкарчаваная і выпаленая зямля. [6]) хутка, борзда. [7]) мора. [8]) някруціна=рэкрут. [9]) жаночая вопратка зложаная з двох полак, род фартуха. [10]) блін печаны на макавым або канапельным малацэ (соку).

Ў калёсы села, пакацілась,
Якраз ў Эоля апынілась.
Ўвайшла ў сьвятліцу, села ў кут.
„Здаровы ўсе! Эоль ці тут"?
Эоль сядзеў тады ля печкі,—
Мязгу[11]) скабліў на перапечкі[12])
Ды лапці лыкам падплятаў.
Ен тут аборы падабраў,
Заткнуў за пояс кацатыг,[13])
Скаціўся с печы ў адзін міг.
„Здарова, свацейка Юнона,
Даўно цябе я ня відаў".
І тры ёй зробіўшы паклоны,
Мякотнага[14]) на стол падаў.
Яна мякотнага паела,
Уцёршысь так яму запела:
„Ці ведаеш маё ты гора?
Энэй з траянцамі плывець;
Сьпіхні яго ты, сват, у мора,—
Няхай, паганец, воду п'ець!
Мяркую, чуў: Энэй—то зводнік,
Буянец, злодзей, канаводнік.
Траянцы также ўсе латрыгі,
Ўсе абібокі і ярыгі.[15])
Іх трэба ўсіх са сьвету зьвесьць!
Калі, сват, зробішь тую чэсьць,
То я дзявухну украсіву,
Салодкую, як з мёдам сьліву,
Табе за тое прывяду".
Эоль расшупіў[16]) тое дзела.—
Ў яго ўжо сьлюнка пацякла!
Любіў ён цешыць грэшна цела,
Дзявухна па нутру была.
Заскробся, барадой затрос,
Разгладзіў вусы, падцёр нос.
Зажыў у ноздру табаку,
Зачхаўся ўвесь, замармытаў
Ды рэч Юноне ён таку
З паклонам, віш ты, адказаў:
„Ах, вохці мне, мая Юнона!
Ніводнага-ж нет ветру дома!
Што буду робіць я цяпер?
Барэй з пахмельля, як вапер,
Ляжыць ў сьвятліцы на казёнцы[17])
А Норд учора зьехаў к жонцы,
Зэфір з дзяўчатамі заграўся.
А Эоль у батракі наняўся,
Як хочаш тут сабе гадай,
Але дзявухну даставай!
А я ўсё зроблю, грамадзею[18])
Са ўсіх глуздоў[19]) іх сьцебану,
З траянцаў выцісну алею,
На дно у мора заганю!
Твайго-ж пабольша ліхадзея,
Некрута,... Энэя
Я так папру яго вятрамі,
Аж булькаць будзе пузырамі,
Як сторч у вір ўсіх галавой
Намесьнік[20]) сьцягнець за сабой!"
І вось Эоль, галень[21]) схапіўшы,
На паншчыну склікаць пачаў,
І ўсе ён ветры распушчаў,
Бурліць ім мора наказаў.
Калі хто відзеў, як Бакціха[22])
Нямецка піва задаець,
Яке яно падымець ліха,
Запеніцца ды розна прэць,—
От так і мора заравела,
Бублілась, пенілась, шумела.
Энэй спалохаўся, ўсхадзіўся,
Матуз ад портак аж зваліўся,
Са страху й нюні распусьціў
Ды як у трасцы ён завыў.
Траянцы ўсе казлы задралі,
Са ўсіх чаўноў яны гукалі,
Ў балоце быдта Лісавэй[23]),
Ачухаўшысь, ўскрычаў Энэй:
„О, цар-царэвіч тат[24]) Няптун!
Ня буду прад табой брахці.
Зьмілуйся, мора ты зьміры,
Картузнай[25]) я прышлю цяртухі,[26])
Сударскай[27]) моцнае сівухі,
А грошы сам з машны бяры!"
Нэптун на грошы меў ахвоту,
Гарэлку добра ён сьцябаў.
Пачуў, што будзе за работу,
На ветраў строга закрычаў:
„А вон, нячысты някруціны!
З якей фантазіі вы тут?!
Глядзі, скаштуеце дубіны
І ноздры вам ражком утруць!"
Вось досыць ветрам тут дзякацца[28])
З Нэптунам знаць які жарт.
Дамоўкі сталі убірацца,

[11]) мязга, ніжні слой дрэўнай кары, якую дамешывалі да печыва. [12]) тое, што мы цяпер называем „булачкі". [13]) падплётка, касьцяное шыла. [14]) даслоўна „мяккога"; але пад гэтай назовай разумеецца піроҗнае. [15]) буяны. [16]) разважыў, абдумаў [17]) перафазоўка назовы мэблю „козэтка". [18]) эпітэт Зэўса, знача „дзеючага гром", грамавіку. [19]) са ўсех мазгоў. [20]) мова аб Нептуне, богу мора [21]) галень, кій, мова аб палцы „крывулі" якой перасылаючы з хаты ў хату апавяшчалі на прыгон. [22]) Бакціха, жана бога пьянства Бакха. [23]) Лесавік. [24]) тата. [25]) пачковай, вышэйшы гатунак. [26]) нюхальнай табакі. [27]) гасударскай. [28]) зьдзекавацца.

Як ад кутуза Банапарт.
Тут раптам неба спагадзелась.
Усплыла сонейка, зьясьнелась,
Энэй, уцёкшы так ад бед,
Састрапаць загадаў абед.
Траянцы ўзялісь за ядзэньне,
Як з поля панскія харты.
Была ў іх з затаўкай[29]) крупеня,[30])
Кулагу[31]) пхалі ў жываты;
Была ў іх гушча[32]) і драчона[33])
І парасяціна смажона.
Пілі гарэлку не каўшом—
Цягнулі ў волю ўсе набгом.[34])
Усячыны панасьцябаліс
Ды на палацях спаць паклаліс.
Вянэра с кірмашу павярнулась.
(У Ўшэсьці[35]) відзіш ты, была),
Ды аб Энэянку дачулась,
Юнона як яго спрагла[36]).
Андрак[37]) з насоўкай апранула,
З падплётам ўзьдзела кавярзьні[38]),
Анучкі рабыя абула,
Як бытцам войта селязьні;
Твар сыраваткаю абмыла,
Кужэльны ўзьдзела балахон,
Папранік[39]) ў хустачку ўлажыла,—
Пайшла да Зэўса на паклон.
А Зэўс тады сядзеў у клеці,—
Гарэлку з мёдам там сьцябаў.
Бяз сораму, як малы дзеці,
З падоньня пальцам калупаў.
Прышла Вэнэра і завыла,
Саплямі змазала ўсё рыла
Ды так зазюкала[40]) яна:
„А чым перад табою, бацька,
Мой абмішуліўся[41]) дзіцяцька?
Зюкні, яка яго віна?
Ня ўвідзяць Рыму яго вокі,
Калі Юнону ня уймеш!
Зьядуць па ростанях сарокі,
Сатрэць яна яго ў кулеш[42])."
Тут Зэўс, гарэлачку дапіўшы,
Ражком ў халяву пастучаў,
Цяртухі моцнае зажыўшы,
Таку гаворку распачаў;
„Дапрэць Энэянка да Рыму
І будзе тама ён царом.
Палепшы Чыжаўскіх[43]) харом
Паставіць каменны палаты.
Паны-ж ня будуць там багаты;
Свае чапы[44]) ён завядзець,
І ўсё на одкуп пабярэць.
Цяпер завернець к Карпагені,
(У Дзідоны, відзіш, талака),
Папрэць у волю ён смажэні,
Ад'есца з добрага быка,
Папарыцца ён там у лазьні,
Падпусьціць хвігля[45]) самай пані,
Закруціць моцна галаву,—
На любжу[46]) прывядзець ўдаву.
Ідзі, дачухна, ня турбуйся!
Ды скорамам, глядзі, ня жуйся!
Ні з кім саромна не клянісь
І ў Сташкоў Ніобе пакланісь!"
Вэнэра тут яму прысела,
Хранцуз пан Шэнак як вучыў,
Пайшла, вясельную запела:
Зэвэс ёй вельмі дагадзіў.
Энэй, пачухаўся, паскробся,
На ногі лапці падвязаў,
З палацяў да кута дагробся,
Да плыць падкорніку[47]) казаў.
Плыў, плыў аж ў ваччу зазелянелась,
І мора горш ад талакна прыелась,—
Ен ведзьмай на яго гладзеў.
А там пачаў ужо зьдзікацца
Ды так ні к чому стаў злавацца,
Што я й пісаць тут не пасьмеў.
Казаў, што лепш-бы на пагосьце
Схаўтурылі яго там косьці.
Дарэмна з Трої пакруціўся
Ды валачобнічаць пусьціўся.
Ен з гора піпку запаліў,
Ў балону[48]) голаву спусьціў.
Аж зірк у мора—і сказіўся![49])
Запеў „ізбранную" заксьціўся:
„Глядзеце, братцы, вунь сяло!"
Тут ўсіх за сэрца узяло·
Якраз на бераг прывалілі,
За плот чаўнок свой прыкруцілі,
Па шклянцы выпілі сівухі,
Паелі нашча саладухі,
Камоў[50]) з сьмятанай і глазухі.[51])

---

[29]) с салам. [30]) крупнік. [31]) каша з соладу. [32]) каша с пансаку і гароху [33]) каша з дзертых ячных круп. [34]) нахіляючы вядро [35]) назова сьвята Шосьнік. [36]) сьпякла. [37]) андарак, сподняя спадніца, ням. „unterrock". [38]) лапці [39]) пернік. [40]) інтымна загаварыла. [41]) правініўся. [42]) страва с цертага, таўчонага мяса с тукам, пірог з мясам. [43]) палац кн. Пацёмкіна. [44]) „чапы" дзежы, чаны ў якіх ставяць затор на гарэлку. [45]) штуку, жарт. [46]) любоў, паблудная любоў. [47]) памочніку капітана, які кіруе кармой. [48]) ў люку. [49]) зазлаваў, ашалеў. [50]) клёцак. [51]) творагу са сьмятанай.

Пайшлі у горад пагуляць.
Бягуць, як батракі с прыгону,
А ім ў варотах—тыц Дзідона,
Ды стала так на іх казаць:
„Глядзі які-ж то абарванцы!
Ці смоль вы з Шчучча вязецё?!
Ай вы, Духанскія цыганцы!
Курэй з падклецьця крадзіцё?!
Чаго сюды вас прыкруціла?
Я й так дзесяцкага прыбіла,
Што ён распраўшчыны ня знае
Ды без пашпортаў ўсіх пускае".
Як валасьні[52]) закапашылісь,
Пластом траянцы павалілісь,
Сачэнь Дзідоне паднясьлі,
Таку гаворку зацяглі:
Мы ўсе з Траянскага прыходу,
Сударскі перад тым былі,
Ды ўвосень прошлага мы году
А грэкаў ў мора уцяклі.
Энэй канторшчыкам у нас,
Прашпорты дзержыць Апанас.
Газэты-ж, панюхна, ты маеш:
Спраглі[53]) як Трою, аб тым знаеш,—
То нечага табе й казаць:
О, артыкульная[54]) Дзідона!
Ты нас у крэпасьць запішы.
Ў нядзелю роб сабе два згоны,—
Мы робіць будзем, дадушы!
І ўсяку паншчыну зьмякаем:
У бровара глядзець як знаем,
Загнеткі, сундукі рабіць,
На бочкі абручы набіць.
Піліп наш лепіць гарлачы,
Пракоп-жа ступы, таўкачы,
А Саўка зельле ўсяка знаець,—
Дзяцём ён вогнік адсякаець,
Хупаў бабамі варажыць
І скурапеню[55]) адхадзіць.
Глядзі, як мы парасшарпалісь,
Аж сорам сьвеціцца наскрозь,
Ўсе лапці розна растапталісь,
Сарочкі чорныя, як вось.
Калі ўжо ласка твая будзець,—
Вялі нам лазьню пратапіць!
Адзежу трэба нам папрудзіць[56]),
От так кішаць, ня можна жыць".
Дзідона румзала і выла
Цякло, як з лівара, з вачэй;
Маністы дзёргала, круціла,
А сэрца—тых-тых-тых у ей!
Яна ўжо чула пра Энэя,
Што з гулькаю[57]) ў яго і шэя,
Што волас ў галаве скруціўся,
Што нос казюлькай раздаваіўся.
То шупіла, які тут смак.
І вось кляўшыла[58]) яна так:
„Калі-б Энэй ваш схамянуўся
Ды сам ка мне ён падвярнуўся,—
Усячыны-б тады дастаў"...
Ен—шмык, як бытцам з неба спаў!
Ўзышлі ў сьвятліцу, пераксьцілісь,
Энэй і „Вотча" прачытаў.
За стол ўсе перадам садзілісь,
Мялянік[59]) на стале ляжаў.
Дзідона варыва ўлівала,
Шматкамі мяса ў місы клала
І забяляла малаком.
Трупаціла[60]) яна крупеню.
Яечню, руднік,[61]) жур,[62]) смажэню,
Каму пячэню з часныком;
Былі й салодкія пацешкі:
Вяземскі пернікі, гарэшкі,
Мязгі й мазюму[63]) рашаты.
Дуда вярлюем[64]) тут равела,
Сапелка гусыняй шыпела,
Скрыпела скрыпка, як туркі.
Дзявухны голасу гукалі,
Вясну малоданькі склікалі
І жарты розныя рабілі:
Казу сьвяточную вадзілі,
З загнеткі лося забівалі,
Дугу у браму прадзявалі,—
Пустоты ў воленьку было!
Расхарапушыўся[65]) Энэй,
Аж іскры сыплюць ад лапцей...

---

[52]) чэрві. [53]) сьпяклі, спалілі. [54]) стройная. [55]) шкрофул. [56]) перапаліць ў гарачым духу [57]) з наростам. [58]) нескладна гаварыла. [59]) блін з малозіва. [60]) паставіла закрытым у печ прэць. [61]) юшнік с крыві „руды". [62]) кісель. [63]) разынак. [64]) вирблюдам. [65]) разыйшоўся.

# СЛОЎНІК

## ПОМНІКАЎ СТАРА-КРЫЎСКАЙ (БЕЛАРУСКАЙ) ПІСЬМЕННАСЬЦІ ПАВОДЛЕ ПРЫВЕДЗЕНЫХ У ТЭКСЬЦЕ ВЫПІСАК.

**А**БО. „...а б о одинъ коли шапку приставить, а другій не приставить". (Потверженье короля Жыкгимонта 1514 г., бал. 281). „Правда ...а б о неправда, мало ли, ли довольно, як с примусу читали". (Супрасельскі календар 1726 г., б. 613).

АЖНУ. „А ж н у там и стали бразгать". (Зборнік інтэрмэдзій сярэдзіны XVIII ст., бал. 619).

АРГУМЕНТЫ. „Отказъ на а р г у м е н т ы противныхъ о божествѣ Христовѣ"... (Полемічны трактат, канца XVI ст., бал. 495).

АРКУШУ. „...и за писанье квитовъ тыхъ дьяки не маютъ болшъ брати, только 12 грошей, хотя бы н а а р к у ш у цѣломъ и большей писано было". (Устава на волоки, 1557 г., бал. 349).

АРТЫКУЛЫ. „...нѣкоторые а р т ы к у л ы (рас.: статьи) тому братству ихъ потребные зложили и написали". (Статут кушнерскага брацтва 1538 г., бал. 323).

**Б**АКШТА. „Муръ замковый широкій на тры сажни, а высокій на три копье; б а к ш т (рас.: „башень") около его такъ у квадрате яко и круглыхъ тридцать осмъ, а б а к ш т а отъ б а к ш т ы положена ест на сажни двасто". (Дыярыуш Самуэля Маскевіча XVII ст., бал. 531).

БАЛАМУТЯТЪ. „Короле(м) паномъ и речипо(с)политои якъ ту(ж) было б а л а м у т я (т ъ)". (Прамова Мялешкі 1589 г., бал. 447). „...сказа(л) бы хто зъ ва(с) лучше(й). толко н е б а л а м у т я ч и то и я на то(м) перестану". (там-жа, бал. 449).

БАЛЪВАНЪ. „... вчынили собѣ б а л ъ в а н а и назвали его Спэра на паметь его". (Лѣтописецъ... бал. 201). „...коли тот б а л в а н ъ сказилъся, и они тое озеро и мѣстцо хвалили и мѣли за Бога"... (там-жа бал. 201). „И поставил того б а л в а н а именем матки своее Пояты вышеи озера Жосли". (там-жа бал. 205).

БАТОГЪ. „Аже ударить по лицю или за волосы иметъ, или б а т о г о м ъ шибеть, платить безъ четверти гривна серебра". (Сьпіскі Смаленскай умовы 1229 г., бал. 70).

БАЧНОСТЬ. „...а къ тому маючы б а ч н о с т ь на зацность панства того вашое милости великого князьства Литовского". (Посольства рады в. кн. Літ. да кар. Жыгімонта, 1526 г., бал. 311).

БАЧУЧИ. „Мы б а ч у ч и, ижъ яко предкове ихъ, такъ и они, завжды у супольной вѣрности заховалися". (Привилей земли Полоцкой, 1511 г., бал. 275).

БЕЗАДЩИНЫ. „...также и въ б е з а д щ и н ы (безпатомная маемасьць) ихъ и въ отумерщины не вступатися намъ". (Привилей земли Полоцкой 1511 г., бал. 276).

БЕЗЛѢПИЧНЫИ. „И мы врозумѣвши штож то слушная рѣчь приказали есмо им улици б е з л ѣ п и ч н ы и (=неказістыя) стеною замуровати"... (Грамата в. кн. Александра 1505 г., бал. 259).

БЕЗМАЛЬ. „...ба, безмаль южъ не такъ, бо хотяжъ по полску мовимо, але правъ и звычаевъ запомнели есьмо“... (Здане пана Іоанна Щасного Герберта XVII ст., бал. 514).

БЕЗПРЕСТАНИ. „И приказали есмо воиту и мѣщаном абы там вкаждое броны (=брамы) сторожу мѣли безпрестани, ден и ноч“... (Грамата в. кн. Александра 1505 г., бал. 259).

БЕРЕЗЫНИ. „Борыс, вчынилъ город на имя свое на рецэ Березыни и назвал его Борысов“. (Лѣтописецъ.... бал. 203).

БЕРЕСТЬЯ. „И пошедшы з Новагородка и зарубил город Городно, и потом пошол до Берестья и нашол Берестѣи, и Дрогичын, и Мельник от Батыя спустошоны и покажены“. (Лѣтописецъ..., бал. 202).

БЕРЛО. „...а тое берло(=чалавое, самае буйнае зярно) маетъ быти у въ осень, по жнивѣхъ, на сторону отмолочено“. (Устава дворовъ 1529 г., б. 312). У іншых дакумантах у гэтым значэньні сустрачаецца слова: „бурмо“, „зерно бурмовое“, „бурмичское“, зн. адборнае, самае буйнае.

БЕСѢДАХЪ. „...старосты рочные при бесѣдахъ ихъ братскихъ мають якъ сами такъ и презъ ключники свои пильне того смотрѣти“... (Статут кушнерскага брацтва 1538 г., бал. 324).

БИСКУП. „...яко на людей королевскихъ, тако и на бискуплихъ, и на митропольихъ и на владычныхъ, и на князьскихъ и на панскихъ“ (Каралеускі і соймавы статут 1525 г., бал. 319). „...властелинъ, или князь или пискоупъ или игуменья, или инъ который любо члвкъ“. (Крыж сьв. Еуфрасіні кн. Полацкай XII ст., бал. 35). „Поклонъ и благословлѣнье от Якова, епискупа Полотьского, бровстови, намѣстьнику пискуплю“... (Полацкая грамата канца XIII ст., бал. 88).

БЛУДОВЪ. „...зачимъ много блудовъ (=спамылак) и злыхъ поступковъ, и занѣханье дозору правого и въ сихъ краѣхъ Рускихъ и много брыдкого святокупства наступило“. (Саборная грамата Кіяўскага мітрапаліта Рагозы. 1596 г., бал. 466).

БЛУКАЮЧЫСЕ. „Вышедши тогды зь овчарни своее а блукаючысе по пустыни“. (Унія... 1595 г., бал. 455).

БО. „...бо воиско Московское великое кошомъ положилося за Дубровною у мили“... (Ліст аб разьбіцьці Маскоўскага войска пад Улаю і Дуброунаю 1564 г., бал. 392).

БОЕЧЫСЯ. „...а князь великии Киевскии Дмитръ, боечыся великое силы и моцы его збегъ с Киева“. (Лѣтописецъ..., бал. 202).

БОЗКОСТИ. „...бозкости (рас.: „божественности“) своее красу зъявилъ ест на ней“... (Творы мітрапаліта Грыгора Цамблака. XV ст., бал. 148).

БОЛЕСТЯМЪ. „Лечь все тое початокъ болестямъ“. (рас.: „страданіям“) (Первая часть Нового Завѣта 1570 г., бал. 408).

БОЛОТЛИВЫМЪ. „А гдѣ надатокъ подлымъ, болотливымъ, або песковатымъ кгрунтомъ прійдетъ въ отмѣну давати, и то даемъ на пильное уваженье ураду нашого“... (Устава на волоки 1557 г., бал. 351).

БОНДОЮ. „А коли чии поробки украдутъ што у кого... коли первое украдаеть ино его не вѣшати, а заплатити бондою его (часьцю яму належачай,—пайком яго)“... (Судоўнік караля Казіміра Ягайлавіча 1468 г., бал. 163). „...абы челяди невольной, которыи мають приробки а бонды свои, по полторы копы жыта на рокъ давано, водлѣ стародавного обычая“. („Устава дворовъ 1529 г., бал. 312)

БОРГЪ. „...копами на пѣнязи роздаваны, на боргъ (=на доўг, пазычку) за слушнымъ рукоемствомъ заплаты"... (Устава дворовъ 1529 г., бал. 313).

„БОРЗДО. „И князь великии Якгеило з Витебъска борздо прыбежыть до Вилни з воиском." (Лѣтописецъ... бал. 216) „...кияз великии Олькгирдъ з Витебска борздо прыспелъ"... (там-жа бал. 214) „Zdychayże borzdo, czorcie, nieboyś, bies nie woźmie ciebie". (Інтэрмэдзія XVII ст., б. 581.) „...частовавшы и даровавшы безчысленое множество золота и серебра и боръздыми конми"... (Лѣтописецъ... бал. 204). „...жебы для борзѣйшоѣ справедливости, судей и писаря присяжного вамъ дати"... (Уставы 1559 г., бал. 382).

БОРОНИ. „...продати свой товаръ безо всякія борони„ (=забароны). (Сьпіскі Смаленскай умовы 1229 г., бал. 71).

БОРОНИТИ. „Аще который Нѣмчиць хочеть пойти съ своимъ товаромъ въ иный городъ Князю не боронити"... (Сьпіскі Смаленскай умовы 1229 г., б. 71.) „...въ дубровахъ своихъ не боронити имъ хоромовъ рубити а дровъ сечы подле давного обычая"... (Привилей мещаномъ Смоленскимъ, 1505 г., бал. 257) „Тые такъ не только не научаютъ, але и сами мало правъды знаютъ и онымъ, которые бы учити хотѣли, боронятъ, неиначе, яко предъ тымъ законники жидовские". (Катихисисъ 1562 г., бал. 386). „... и выбы имъ и берега не боронили"... (Грамата в. кн. Казіміра 1443 г., бал. 157).

БОРТНИКИ. „...рыболовы, бортники, ковали и иншыи подданыи дворовъ нашихъ"... (Устава дворовъ 1529 г., бал. 314).

БОРЩИКЪ „...ты борщикъ, а слуга ляхъ на покутнику штуку мяса". (Прамова Мялешки 1589 г., бал. 448).

БОРЫ. „...свои лѣсы и боры, и дубровы и гаи, въ тыхъ ихъ лѣсѣхъ и борѣхъ и дубровахъ и въ гаѣхъ не маютъ мѣщане на свои потребы мѣстские дерева брати"... (Привилей 1511 г., бал. 277).

БОЯЛ. „Бо ижъ су дѣтинства завжды боял гсда бога и росказане его ховал". (Кнігі Бібліі XVI ст., бал. 398).

БРАТАНИЧА. „...и посадит братанича своего на Вилни князем великим Якгеила Олкирдовича". (Лѣтописецъ..., бал. 214).

БРАТАННУ. „...иж сестру твою, а мою братанну дал за холопа Воидила". (Лѣтописецъ...., бал. 215).

БРОН. „Теж говорили нам мѣщане абы для певнейшое сторожи и безпеченства от неприятелеи немного форток было, нежли толко дозволили быхмо имъ пять брон (=брам) змуровати"... (Грамата в. кн. Александра 1505 г., бал. 259). „...и приказали есмо воиту и мѣщаном абы там вкаждое броны (=брамы, варотах) сторожу мѣли безпрестани ден и ноч". (там-жа бал. 259).

БРУСИШ. „Oclici mnie po Hreczesku brusisz (рас.: бороздишь;=баламуціш) wielmi mnoho, a sztob tobie daw w hubu nietucie nikoho". („Sieńko Nalewayko", сатыра XVII ст., б. 561).

БРЫДКОГО „...зачимъ много блудовъ и злыхъ поступковъ, и занѣханье дозору правого и въ сихъ краѣхъ Рускихъ, и много брыдкого святокупства наступило"... (Саборная грамата Кіяўскага мітрапаліта Рагозы 1596 г., бал. 466). „..же люди бридечися ихъ панованьемъ и звирхностью и не господарми, але тыранами оные называючы" (Статут 1588 г., бал. 439).

БУДЕ. „Хвалѣте дѣтки гспда, хвалите имя гспдне, нехай буде имя гспдне блгсловено от того часу аж навѣки". (Протэстанцкі псалтыр XVI ст., бал. 399). „Коли тое буде, и што за знак приходу твоего, и доконечене свѣта". (Казанье сьвятаго Кирилла 1596 г., бал. 468).

БУДОВАНЬЕ. „Продати на волоцѣ будованье и домовство подданому вольно, передъ урядомъ, при войтѣ и лавникахъ". (Устава на волоки 1557 г., бал. 354). „У подводы далекіе, альбо для будованья замковъ и дворовъ, подданые наши ходити повинны". (там-жа, бал. 351). „Такожъ абы кождый державца дворы наши будовалъ, оправовалъ, огородилъ, ставы и млыны, гдѣ могутъ быти, абы были роблены"... (там-жа, бал. 314).

БУНТОВАЛИСЕ. „А мы предсе до нихъ утекаемося и волимо зъ ними преставати и бунтоватисе на хрестіяне". (Унія... 1595 г., бал. 455).

БУРЛИВОМЪ. „...лѣпшій есть день единъ мешканя твоего, а нижъ тысеча лѣтъ, по томъ непевномъ и бурливомъ мору, жекглованя". (Казаньне двое XVII ст., бал. 516).

БЫДЛЯТИ. „...а особно на врядъ, за лопатку отъ каждого быдляти пѣнязми дня торгового". (Устава на волоки 1557 г., бал. 341).

БЫТНОСТЬ. „Такъ душу и всю ей бытность (=істоту) окрылъ князь злосливый грѣхомъ, и всю змазалъ, всю полономъ до кролевства своего завелъ". (Духовныя бесѣды 1627 г., бал. 541).

БЭЗПЕЧНЕ. „...якож он шолъ бэзпечне собѣ з лазни в Новгородку". (Лѣтописецъ, бал. 209). „...для великого окрутентства и невставичности его не был нихто пэвен а ни бэзпечонъ не только имѣней албо скарбовъ". (там-жа, бал. 200).

ВАГИ. „...вольно имъ будетъ по пятдесять пудовъ меду ваги Полоцкоѣ". (Пацьверджаньне прывілею месту Полацку 1580 г., бал. 422). „...што мы, зъ ласки нашое, зася тую вагу и плать съ нее дали бояромъ и мѣщаномъ на—полы". (Привилей земли Полоцкой 1511 г., бал. 277).

ВАЖНИЦУ. „Такожъ важницу мѣти въ замку, або въ мѣстѣ нашомъ Полоцкомъ"... (Привилей земли Полоцкой, бал. 277). „Такожъ важницу въ мѣстѣ Полоцкомъ мы, зъ ласки нашое, на розмноженье посполитого доброго и для лѣпшого вспоможенья мѣста нашого полоцкого, придали есмо". (там-жа, бал. 271).

ВАЗНИ. „А з оное вышеписаное вазни (рас.: „вражда") князь великии Довмонт направил шесть мужыков на брата своего Троиденя забити". (Лѣтописецъ, бал. 209). „Отожъ посполите болшую васнь на того маютъ, хто собѣ не дастъ кривды чинити"... (Унія... 1595 г., бал. 456).

ВАЛЬКУ. „И князь Мъстислав Луцкии и Пинскии почнет вальку с князем Скирмонтом,"... (Лѣтописецъ, бал. 204). „Бо не то валечник што часу подобного вальчить, але то велечник коли непогода вальки тогды нал неприятелемъ непріязни доводит (Лет. Быхаўца: Умова Смал. кн. Івана Александр. з Рыгай (1330—1359) бал. 115).

ВАЛНЫИ. „...вызвали черезъ листы наши на сеимъ валныи (=ўсеагульны) въ столечномъ мѣстѣ нашомъ Вилни зложоный"... (Статут в. кн. Літоўскага 1566 г., бал. 394). „...король его милость Жикгимонтъ будучи на великомъ вальномъ соймѣ у Вильни, зо всими паны радами его милости". (Каралеўскі і соймавы статутъ 1525 г., бал. 317).

ВАЛЫ. „У Гданску есть кому тамъ валы сыпати и безъ насъ". (Ліст Комуніякі за Абуховіча 1655 г., б. 575).

ВАНЧОСЪ. „Тежъ, при которомъ кольвекъ дворѣ нашомъ суть пожитки съ куповъ въ лѣсѣ, то есть, смолы, ванчосъ, (=ачасанае ў чатыракутнік бярвяно) клепки, попелъ, тое суполно на насъ зоставуемъ". (Устава дворовъ 1529 г., бал. 314).

ВАРОВАТИ. „А его милость пана гетмана просити, жебы насъ его королевская милость варовати (=абасьпечыць) рачилъ привилѣемъ своимъ господарьскимъ". (Варункі Кіяўскага Мітрапаліта Рагозы 1594 г., бал. 450). „Вapовати =варункаваць

ВБАЧЫЛЪ. „..и вбачылъ оное дитя обличемъ велми хорошо и възросту цудного, играючы з дѣтми малыми"... (Лѣтописецъ, бал. 209).

ВБОРЗѢ. „...послати ему своего человѣка вборзѣ къ Волочаномъ, атъ перевезутъ Нѣмечкый гость". (Сьпіскі Смаленскай умовы 1229 г., бал. 71). „...а вборзѣ, дастъ Богъ, и другая новина щастливая насъ всѣхъ увеселитъ" (Ліст аб разьбіцьці Маскоўскага войска пад Улай і Дуброўнай 1564 г., бал. 393).

ВГОТОВѢ. „...казали всей земли подданымъ нашымъ въготовѣ (=упагатове) быти къ сему Великодню"... (Посольство до мистра Лифлянтского паномъ Юрьемъ Завишичемъ 1507, бал. 264).

ВЕДАЕШЬ „..занеже самъ ведаешь, княжо, како не тако есть миръ, доконцанъ"... (Грамата Рыжскіх купцоў Вітабскаму князю Міхайле, каля 1300 г., бал. 89). „...даемъ ведати симъ нашимъ листомъ кождому доброму, нинешнимъ и потомъ будучимъ"... (Грамата в. кн. Вітаута 1407 г., бал. 142). „Наипреднейшая ест повинность ведати кождому священникови то все што се тут описаломъ". (Регулы Іосафата Кунцэвіча XVII ст., бал. 529).

ВЕДОМО. „На тоей ведомо вчинилъ яко живыми и мертвыми владаетъ"... (Творы мітрапаліта Грыгора Цамблака XV ст., бал. 148).

ВЕКШИ. „Оже купити Нѣмцичю гривну золота, дати ему ногата вѣсцю, или продасть, недати ему ни векши". (Сьпіскі Смаленскай умовы з немцамі 1229 г., бал. 72). Векшай называюць белку і цяпер у многіх мяйсцох, між іншым у Дзісеншчыне.

ВЕЛЕЮ. „...люди его, тые, што за Велею (Велія=вялікая) осѣли, играли на трубах дубасныхъ". (Лѣтописецъ, бал. 202). „И оберет собѣ великии княз Швинъторогъ мѣстцо на пущы велми хорошо подле реки Вельи"... (там-жа, бал. 206).

ВЕЛЕБНОГО. „...у святого Станислава у каплицы велебного (рас.: „блаженного") Казимера". (Лѣтописецъ, бал. 239).

ВЕЛИКЪДЕНЬ. „...и на Великъ-день мают до господаря его милости принести тую тысячу копъ грошей". (Каралеўскі і соймавы статут 1525 г., бал. 320). „...казали всей земли подданымъ нашымъ въ готовѣ быти къ сему великодню". (Посольство до мистра Лифлянтского 1597 г., бал. 264).

ВЕЛИКОСТИ. „Хвалите его ведлуг многое великости (рас.: „величія") его"... (Кальвінскі рукапісны псалтыр XVI ст., бал. 391).

ВЕЛЬМИ. „...и былъ вельми ласкавъ подданым своим". (Лѣтописецъ, бал. 201). „...мешкане ихъ над тыми реками вельми ся имъ подобало". (там-жа, бал. 201). „И долго вельми билися, и побили татарове Витовтово войско". (Повесьць аб бітве кн. Вітаута з царом Тэміркутлуемъ 1399 г., бал. 130).

ВЕЛЬНЕВЬЦЕМЪ. „Слово Изяслава, князя Полочького, къ епископу и къ местерю и къ всемъ вельневьцемъ (=вялікшым, старшызне) и ратьманомъ и всемъ горожаномъ". (Грамата полацкага князя Ізяслава до крыжакаў 1265 г., бал. 83).

ВЕПРЫ. „...а гдѣ коли тыи вепры забьетъ, имѣетъ тогды знамя на древѣ учинить". (Віськіцкі статут XV ст., бал. 155).

ВЕРТАЛИ. „...але опять зъ нею едналися и до послушенства eѣ вертали“. (Саборная грамата Кіеўскага мітрапаліта Рагозы 1596 г., бал. 466).

ВЖЕНУТЬ. „...и со всим своим двором у зброях, и вженуть (=угоняць) у город у Вилню“. (Лѣтописецъ, бал. 215).

ВЖИВАТИ. „...маеть игуменъ по тую границу тую луку держати и вживати (=ужываць) и его потомки на вечные часы“. (Грамата в. кн. Вітаўта 1384 г., бал. 118). „...таковые вси абы ровного права зъ шляхтою не вживали“. (Устава на волоки 1557 г., бал. 356).

ВЖИТКИ. „...вси потягли тягнути, и вси вжитки посполъ зъ мѣстомъ мають вживати“. (Потверженье 1511 г., бал. 281). „И били нам чоломъ абы есмо дозволили им вмѣсте дом одинъ къгостиный збудовати къ ихъ мѣстскому вжитку“... (Грамата в. кн. Александра 1503 г., бал. 258).

ВЗГЛЯДЪ. „...у пана однакъ естъ местъце ласки и захованья, естъ взглядъ (рас.: „уваженіе“) на особы“. (Статут 1588 г., бал. 439).

ВЗЛЕГАЛИ. „...словъ збытныхъ межи собою не мовили, и на столъ не взлегали“. (Статут кушнерскага брацтва 1538 г., бал. 324).

ВЗНАКОМИЧЕНЫ. „...не были черезъ листы упевнены и годнымъ свѣдетствомъ къ пришлой вѣдомости взнакомичены“... (Потверженье мѣщаномъ Полоцкимъ на право Майдеборское 1510 г., бал. 268).

ВЗОРЪ. „...абысте ваши княжацские м(л)сти, зацного стану княжата, а передънеишихъ вожовъ сынове, всимъ иншимъ съ себе добрыи взоръ а прикладъ давати рачили“ (Катихисисъ 1562 г., бал. 385).

ВИДОМЫЕ. „Сакрамента, алболи Тайны суть видомые знаки и причины инструменталные Ласки Бжои“. (Дедаскалія С. Косава, 1637 г., б. 557).

ВИНАМИ „...абы тыхъ ябедниковъ винами карано подле ихъ заслуги“... (Привилей мещаномъ Смоленскимъ 1505 г., бал. 257).

ВИНЫ. „...нехай тыи вины (=штрафы) выбирають бурмистры, подлѣ ихъ писаного права Майтборского“. (Потверженье мѣшаномъ Полоцкимъ на право Майдеборское 1510 г., бал. 273).

ВЛАДАЕТЪ. „На тоей ведомо вчинилъ яко живыми и мертвыми владаетъ“. (Творы мітрапаліта Грыгора Цамблака XV ст., бал. 148).

ВЛАДНОСТЬ. „...владность (=ўладу) свою господары и короли того света над людьми ростегали“. (Статут 1588 г., бал. 438).

ВЛАСНОЮ. „Максимъ Козловскій енералъ его королевской милости дворный, власною (=уласнай) рукою“. (Запіс возьнага Казлоўскага 1597 г., бал. 478). „Нерон былъ панъ окрутныи а невъставичныи, иж властную матку свою и доктора своего навышшого Сэнэку без кождое прычыны ку смерти прыправил“. (Лѣтописецъ, бал. 200) „И прозвал тот Керънус берегъ своим языкомъ властным по латыни литус“. (там-жа, бал. 202).

ВЛОСКИМЪ. „А потомъ отецъ протосинкгелъ Влоскимъ (=італьянскім) языком до короля его милости и до всего сенату широкую рѣчь учинилъ“. (Справа отца Никифора 1597 г., бал. 474).

ВМЕЛИ. „И простыи люди не вмели (=ня умелі) звати по латине и почали звати Литвою“. (Лѣтописецъ, бал. 202).

ВОДЛЕ. „...судити жывых и мертвых и отдати кождому водле заслуги его“. (Лѣтописецъ, бал. 200). „А у войтовство кождому маетъ быти придано волок сто, альбо больш, водлѣ прилеглости“. (Устава на волоки 1557 г., бал. 340).

ВОДЛУГЪ. „...и службу земскую заступовати, водлугъ уставы земское“... (Каралеўскі і соймавы статут 1525 г., бал. 317).

ВОЖОВЪ. „...абысте ваши княжацские мл(с)ти, зацного стану княжата, а передънеиших вожовъ (рас.: „вождей“) сынове, всимъ иншимъ съ себе добрый взоръ а прикладъ давати рачили“. (Катихисисъ 1562 г., бал. 385).

ВОИСКУ. „...а скоро о воиску господаря нашого и тежъ о поражцѣ Шуйского зъ воискомъ увѣдали“. (Ліст аб разбіцьці Маскоўскага войска пад Улай і Дуброўнай 1564 г., бал. 393).

ВОЛОДѢЕТЪ. „...ино жона тая вдова, доколѣ на вдовьемъ столцѣ сѣдитъ, имѣньемъ мужьимъ володѣетъ“. (Привилей земли Полоцкой 1511 г., бал. 276).

ВОЛОДѢНІЕ. „Такежъ обѣцуемъ и слюбуемъ ижъ въ земляхъ тыхъ нашыхъ великого князьства земль, городовъ, мѣстъ, а либо которыхъ-кольвекъ дѣдичствъ у володѣніе и въ держаніе, а либо нѣкоторыи вряды, а любо чьти не имамъ дать жадному чужоземцу, але только родичамъ тыхъ земль нашых предреченыхъ великого князьства Литовского“... (Прывілей в. кн. Казіміра 1457 г., бал. 162).

ВОЛОКУ. „Гдѣ бы споръ шолъ о рѣчь ровную, меньшую, альбо мало большую, нижьли о волоку, тогды таковые рѣчи можетъ врядъ съ ревизоромъ альбо померчимъ кончати и становити“... (Устава на волоки 1557 г., б. 352.)

ВОЛОЩАНЕ. „А которые то повезутъ, такъ мѣщане яко и волощане, абы имъ также плачоно было помильное“. (Устава на волоки 1557 г., бал. 361).

ВОЛЯ. „...такоже буди и Русину воля въ Ризѣ и на готьскомъ березѣ“. (Сьпіскі Смаленскай умовы з немцамі 1229 г., бал. 72).

ВОРОЖБИТУ. „...и мовитъ ворожбиту своему именемъ Лизденку“. (Лѣтописецъ, бал. 212). „А и ворожбитъ з голой руки не вгадаетъ“ (Календар 1726 г., б. 613).

ВОРОЖИЛА. „...а тежъ и тогды тая баба на двое ворожила“. (Отпісы Кміты Чорнабыльскага 1573—1574 г., бал. 418).

ВОСПОЛОКЪ. „Есть нѣкоторые лѣсы, пущы и дубровы наши до которыхъ зъ стародавна шляхта и подданые ихъ уступы и входы маютъ, восполокъ (=супольна) съ поддаными нашими“... (Устава на волоки 1557 г., бал. 352).

ВПАДУ. „...абы подданыи наши, вмѣсто обороны, отъ войска сказы и впаду (=страты) болшого не приняли“... (Постановленье на соймѣ Новгородскомъ 1508 г., чэрвеня 5 дня, бал. 265).

ВПАДЪ. „...видячи впадъ и сказу, которую жъ мѣщане тамошніе мѣли“. („Потверженье мѣщаномъ Полоцкимъ на право Майдеборское“. 1510 г., бал. 269).

ВПОРА(Д)У. „Благословеныи муж онже не отшол впора(д)у неучстивы(х)“. (Псалтыр XVI ст., бал. 495).

ВРОЗУМѢЛЪ. „И врозумѣлъ, иж тот свѣтъ ничого не естъ, и опустившы свѣт и пострыгъся в чернъцы, и названо имя ему Василіи, а прозвищом Лаврыш“. (Лѣтописецъ, бал. 208).

ВРОЧИСТЫЕ· „... меды куповали и сычивали на врочистые свята“ (рас.: „торжественныя“). (Статут кушнерскага брацтва 1538 г., бал. 323).

ВРЯДНИЧОГО. „А што съ третьего снопа врядничого (=чыноўніцкага) тамъ зостанетъ, маетъ ревизоръ на зошлого половицу дати“. (Устава на волоки 1557 г., бал. 357).

ВСЕМОГУЧИ. „А Богъ всемогучи нехай тобѣ благо(с)вит, и нехай тя ро(з)роди(т) и ро(з)множи(т), абы(с) бы(л) намно(ж)ство люди(й)". (Кнігі Бібліі XVI ст., бал. 396).

ВСТАВИЧНОЙ. „...въ борбѣ вставичной (рас.: „безпрестанной", „безпрерывной") отъ діавола и ему служачих быти"... (Кратковременный отвѣтъ Өеодула XVI ст., бал. 479). „...которыи тую землю къ хрестіяньской направили, и вставичнѣ ся на противку непріятелемъ вѣры святоѣ застановляли"... (Пасольства рады в. кн. Літоускага да караля Жыгімонта 1526 г., бал. 311).

ВСТАНОВИЛИ. „...и встановили собѣ братсво свое кушнерское въ томъ мѣстѣ Виленскомъ мѣти". (Статут кушнерскага братства 1538 г., бал. 323).

ВСТУПАТИСЯ. „...а который Витблянин, умирая, откажетъ остатокъ своего имѣнія кому, и въ то намъ не вступатися"... (Привилей бояромъ и мѣщаномъ Витебскимъ 1503 г., бал. 252).

ВТЕГНУЛИ. „Повстали против его Нѣмцы, Пруси и Лиөлянты и втегнули (=увайшлі) з великимъ множеством людеи своих в землю Жомоитскую". (Лѣтописецъ, бал. 210).

ВТЕКЪ. „А хто бы зъ воиска втекъ до дому, а въ томъ его поимають, тогды того на шыбеницу"... (Постановленье на соймѣ Новгородскомъ 1508 г., бал. 266).

ВТИСКИ. „...княжатомъ и паном Рымскимъ, шляхте и всему посполству крывды и втиски чынилъ"... (Лѣтописецъ, бал. 200).

ВТОПИЛИ. „...поимали Смольняне маршалъка Смоленского Петрыку и втопили его у Днепръ". (Лѣтописецъ, бал. 230).

ВТРАПЕНИ. „Тогды подадутъ васъ во втрапени (рас.: „страданія", „непріятности") и забіютъ васъ". (Первая часть Нового Завѣта 1570 г., бал. 408).

ВУЖА. „...а всіо яна, як вужа вилами, так мяне: инъ идзи, дакъ идзи у Любавичи" (Зборнік інтэрмэдзій палавіны XVIII ст., б. 618).

ВУЯ. „...и возми собѣ оттоле жону з дочок лавана вуя твоего". (Кнігі Бібліі XVI ст., бал. 396).

ВЧИНКОВЪ. „...маючи бачность отецъ святый папежъ и цесаръ хрестіяньскій на знаменитость вчинковъ великого князя Витовта". (Пасольства рады в. кн. Літоускага да караля Жыгімонта 1526 г., бал. 311).

ВЧЫНИЛ. „Старшыи же сын Боркъ вчынил городъ на рецэ Юре"... (Лѣтописецъ, бал. 201). „И вчынили бои вельми великии от пораня олиж до вечора"... (там-жа, бал. 205).

ВЫБАВИЛЪ. „...и абы своимъ стараньемъ такъ много душъ христіанскихъ зъ неволи и смерти выбавилъ" (рас.: „спас"). (Справа отца Никифора 1597 г., б л. 476). „И во младыхъ лѣтехъ своихъ выбавилъ Зузанну жену Яхимову отъ смерти". (Біблія Ф. Скарыны 1517—1519 г., бал. 288).

ВЫБОДАТИ. „Бачечи тое помыслилъ собе скоморошецъ, же жидовинъ, ему скомороху, хочеть око выбодати". (Дышкурсъ жыдовина зъ скоморохомъ XVII ст., бал. 558).

ВЫБРИНУТЬ. „...если черезъ вашъ ретунокъ будетъ выдвигнена, зъ вами и зъ нею выбринуть" (=выйсьці бродам, выратавацца)... (Первая часть Нового Завѣта 1570 г., бал. 415).

ВЫГНАНОМУ. „В тот час будучы князю Станиславлю Киевскому у Бранску выгнаному от великого князя Кгидимина". (Лѣтописецъ, бал. 212).

ВЫГОИЛЪ. „И князь Скиргаило князя Юря от ран выгоилъ и прывезъ его къ городу Смоленску". (Лѣтописецъ, бал. 219).

ВЫЗВОЛЯЕМЪ. „Тежъ вызволяемъ ихъ отъ подводъ, которые жъ первѣй посполито давали". (Потверженье мѣщаномъ Полоцкимъ на право Майдеборское 1510 г., бал. 271).

ВЫЗУЙТЕСЯ. „Гды бовѣмъ Апостолъ мовитъ: вызуйтеся (=пазбудзьцеся) зъ старого чловѣка". (Духовныи бесѣды 1627 г., бал. 541).

ВЫИСТЬЮ. „...для того, по выистью менованого часу личбѣ того повѣту, въ которомъ оный врядъ лежитъ, маетъ подскарбій, также за вѣдомостью и листомъ нашимъ, въ имѣніе недбалого вослати и увязати ся за всю сумму зъ уряду его до скарбу належачую". (Устава на волоки 1557 г., б. 350).

ВЫКЛАДАТ(Ь). „...не мают выкладать (рас.: „излагать") словенских словъ по руску, але такъ читати яко написано"... (Регулы Іосафата Кунцэвіча XVII ст., бал. 530).

ВЫЛОЖЕНЫ. „...изъ латины были въ часку ричь и въ тыхто сторонахъ на дальней земли рускіи выложены" (рас.: „изложены"). (Статут в. кн. Ягайлы 1423 г., бал. 150).

ВЫКРУТНЫХЪ. „...и еще, чого ты не вѣдаешъ, яко простакъ будучи, додасть собѣ матеры и выкрутныхъ (рас.: „лукавых") доводовъ своихъ". (Унія... 1595 г., бал. 456).

ВЫМЕЛКИ. „Дозволили есмо тежъ имъ млынъ справити на рѣцѣ на Полотѣ, а вымелки и пожитки съ того млына мають роздѣлены быти на двое". (Потверженье мѣщаномъ Полоцкимъ на право Майдеборское 1510 г., бал. 271).

ВЫМОВА. „...и вже таковымъ вымова (=адгаворка) не будетъ пущона на спустошенье, згорѣнье, вымеретье и убожство". (Устава на волоки, 1557 г., бал. 349). „...а съ того не вымовлятися всимъ подданымъ нашимъ". (там-жа, бал. 343).

ВЫНИКЛЫЙ. „...иншій мовлю поневажъ з иншей причины выниклый найдуетъся". (Казанье XVII ст., бал. 528).

ВЫПИСЪ. „...съ которыхъ и сесь выписъ подъ печатью его королевской милости великого князьства Литовского Овсѣю Максимовичу есть выданъ". (Запіс вознага Казлоўскага 1597 г., бал. 478).

ВЫПРОСТУЮТЬСЯ. „А гдѣ безъ земянскихъ кгрунтовъ не выпростуються, таковые земли беручи, нашими кгрунты мають отдавати". (Устава на волоки 1557 г., бал. 351).

ВЫПУДИТЪ. „...а кгды ихъ который зъ нихъ староства и вряду своего выпудитъ, абы жаденъ зъ иншыхъ становъ подданыхъ нашыхъ черезъ то ихъ не прыймовалъ". (Статут 1566 г., бал. 395).

ВЫРОКЪ. „...то маетъ быти отложено на вырокъ (рас.: „приговоръ" нашъ". (Устава на волоки 1557 г., бал. 357).

ВЫРЫИ. „...вырыи (=вырэж) на нем образъ б'тоvлинъ иже хоробруетъ и ездить на кфире". (Тайна Тайныхъ, Аристотелева врата. XVI ст., бал. 337).

ВЫСЛОВИЛЪ. „...яко его другий зацный мудрецъ высловилъ" (=высказаў). (Статут 1588 г., бал. 439).

ВЫСТУПОКЪ. „...если бы староста въ томъ братствѣ передъ братьею который выступокъ (=праступак) учинилъ"... (Статут кушнерскага брацтва 1538 г., бал. 324).

ВЫСТУПЪ. „...тогды мы ихъ маемъ за таковый выступъ виною на шою сказнити, абы на потомъ того ся недопускали". (Устава караля Жыгімонта старога Мозырскай воласьці XVI ст., бал. 274).

ВЫШЕРЕЧЕНЫЙ. „...а другии вышереченыи сын его Ердивилъ почнеть мешкати и пановати на Новегородцы". (Лѣтописецъ, бал. 202).

ВѢДАЛЫЕ. „Каневцы, вѣдалые (якія ведаюць) тыхъ границъ господарскихъ". (Граница князьству Литовскому з землею татарскою 1540 г., бал. 334).

ВѢДАНЕ. „Грамматіка есть певное вѣдане жебысмы добре мовили и писали". (Грамматіка словенска 1596 г., бал. 463).

ВѢДАТИ. „Два суть конъцѣ всякой науки въ писмѣ, яко философове пишутъ: вѣдати што сь есть потребное и отповѣдати". (Грамматіка словенска 1596 г., бал. 463). „Ино мы вамъ всимъ подданымъ нашимъ даемъ вѣдати". („Тотъ листъ о войну писанъ" 1514 г., бал. 282). „А они маютъ, кождый зъ нихъ, сами на себе тыи пѣнязи разложити, якъ вѣдаючи водлѣ можности кождого"... (Каралеускі і сойманы статут 1525 г., бал. 320). „А хто зъ войны уѣдетъ безъ вѣдома господарского, або безъ гетманова, тотъ шыю тратитъ". („Устава сойму Виленского, 1507 г., бал. 263). „Бортное дерево наше все абы врядъ въ своей вѣдомости мѣлъ". (Устава на волоки 1557 г., бал. 353).

ВѢЖИ. „...ижбы въ нижнемъ и верхнемъ замку вѣжи (рас.: „башни") оправити". (Уставы 1559 г., бал. 381).

ВѢКУИСТОЙ. „А прото, къ вѣкуистой (=векавечнай) тоѣ рѣчи памяти"... (Привилей земли Полоцкой 1511 г., бал. 275).

ВѢЩКОВЕ. „...ото вѣщкове (рас.: „волхвы"), з всходу пришли до Іер(с)лима мовячи, где есть нарожоный кроль жидовскій". (Евангеліе учительное XVII ст., бал. 518).

ВЯЗЕНЕМ. „Гды ему през цѣлыи два роки срокгимъ а окрутным темничным вязенем мордованному". (казанье двое XVII ст., бал. 515).

ВЯЗНИ. „...вязни з обу сторон собѣ поворочали"... (Лѣтописецъ, бал. 234). „...кромѣ иныхъ вязьней, которыхъ много по войску". (Ліст аб разбіцьці Маскоўскага войска пад Улай і Дуброўнай 1564 г., бал. 392).

ГАДАЛИ. „О которомъ ни думали ни гадали" (=памяталі)... (Отпісы Кміты Чорнабыльскага 1573—1574 г., бал. 418).

„ГАИ. „...а потом тот балванъ згнил, и там гаи вырос"... (Лѣтописецъ, бал. 205). „...свои лѣсы и боры, и дубровы и гаи, въ тыхъ ихъ лѣсѣхъ и борѣхъ и дубровахъ и въ гаѣхъ не маютъ мѣщане на свои потребы мѣстские дерева брати"... (Привилей земли Полоцкой 1511 г., бал. 277). „Коли жъ хто украдетъ дубъ или два въ чюжомъ гаю, маеть платити 6 скотц за каждыи дубъ". (Вісьліцкі статут XV ст., бал. 154).

ГАМОВАЛИ. „...жадныхъ откуповъ не брали, и своихъ врядниковъ дворныхъ отъ того гамовали" (=стрымлівалі)... (Устава дворовъ 1529 г., бал. 316).

ГАНИТИ. „Многіе найдутся таковые, чытателю хрестіяньскій, которые, не вѣдаючы кгрунту истности самое, звыкли подъ часъ и добрые речи ганити" (рас.: „порицать")... („Гаръмонія" XVII ст., бал. 507). „...тое, што первей въ нашей церкви ганили, згола, всѣ нашы церемонѣи и вѣры вызнанья и сакраменты, тое все южъ хвалятъ". (там-жа, бал. 507). „Того я не ганю, естли пристойне чинять и водлугъ науки Христовы"... (Здане пана Іоанна Щлсного Герберта XVII ст., бал. 514).

ГАСИТИ. „Ано бы лѣпѣй гасити, (рас.: „тушить“), коли у сусѣда горитъ, анижли коли до твоего даху прийдетъ“. („Унія“ 1595 г., бал. 456).

ГИНУЛА. „...яко бы капщизна наша не гинула (=не прападала)“. (Устава на волоки 1557 г., бал. 342).

ГІСТОРІЯ. „Гісторія албо правдивое выписаніе Іоанна Дамаскина о житіи святых“. (Гісторія, б. 553).

ГЛАДКА. „...толко абы гладка (=поўная, круглая) а красна была, а его очомъ ся подобала“. (О дворѣ турского султана XVII ст., б. 868).

ГЛЕДИ(Т). „...и хто таки яко г(сп)дъ б(о)гъ н(а)шъ, котори(й) на высокостя(х) мешкае(т), а гледи(т) на поко(р)ныхъ на небе и на зе(м)ли“. (Протэстанцкі псалтыр XVI ст., бал. 399).

ГНИЛИ. „Учитель наказаньемъ наученьемъ и напоминаньемъ захoвуетъ людеи отъ духовное гнили“. (Катихисисъ 1562 г., бал. 386).

ГНОЙ. „...и положил се по(д)ле стены и заснул, а ластовка з гнѣ(з)да упустила гной на очи его“. (Кнігі Біблії XVI ст., бал. 398).

ГНѢВУ. „О избавленіи нашемъ отъ гнѣву Божія и отъ моцы діавольское“... („Біблія Ф. Скорины“, бал. 288).

ГОДИ. „...и того-бы з насъ годи было, за нашое лихое шалберство“. (Ліст Комуніякі да Абуховіча 1655 г., б. 575).

ГОДИНА. „Iесусъ (о)твѣце има река приде година (=час) ать ославися сынъ человѣчь“. (Адрывак Супр. Евангельля X—XI ст., бал. 18). „Дай боже изно(в)ъ токо(й) годины (=часу, пары) приждати и теперъ“. (Прамова Мялешкі 1589 г., бал. 447).

ГОДИ(Н)НИКЪ „...добри то на(ш) годи(н)никъ пету(х) што нехибне о по(л)ночи кукаракуе(тъ)“. (Прамова Мялешкі 1589 г., бал 448).

ГОДНА. „Которая речъ ижъ есть вечное памети годна (рас.: „достойна“), прыстояло, абы для ведомости посполитое въ друкъ подана была“. (Описанье и оборона събороу Берестейского 1596 г., бал. 470). „...а маютъ на тотъ врядъ обирати людей годныхъ (рас.: „достойных“), набожныхъ, смысльныхъ, безъ кождыхъ даровъ, подъ сумнѣньемъ“. (Потверженье мѣщаномъ Полоцкимъ на право Майдеборское 1510 г., бал. 272) „На тую квестію ачбыся не годило тобѣ жадное отповѣди дати“. (Вопросы и отвѣты православному зъ папежникомъ XVII ст., бал. 502).

ГОДНОГО. „Сторожа маетъ чергою быти; а естли бы пригодилася черга негодного на сторожу, а панъ гетманъ хотѣлъ бы послати годного на сторожу въ други разъ: тогды маетъ у того у негодного коня вземши дати подъ годного“. („Устава сойму Мѣнского военная, 1507“, бал. 264).

ГОДЯЧА. „...которая монета имѣеть быти вѣчна, добрая и годяча, (=згодная, добрая), абы была любоприимна всѣмъ людемъ“. (Віськаўскі статут XV ст., бал. 154).

ГОЛУБКА. „Смотри якъ то голубка ноаху служила“. (Хронологія 1581 г., бал. 426).

ГОЛОГУЗДЫЕ. „... и то велми стра(ш)ная шкода галогуздые кури (мова аб індыкох) ховати, ихъ достатком варити и и(н)ные пташки смажи(ти)“. (Прамова Мялешкі 1589 г., бал. 448). С „калакуты“, калакуцкія (г. зн. калькуцкія) куры, пад уплывам народнай этымолёгізацыі выйшла „голагуздыя“.

ГОНЕЦЪ. „...гонецъ маетъ ѣхати до уряду господарьского, за листомъ господарьскимъ подводнымъ“. (Устава на волоки 1557 г., бал. 361). ...„подъ

посла або подъ гонца нашого, а любо на которую на иншую нашу потребу"... (Привилей мещаномъ Смоленскимъ 1505 г., бал. 257). „И пошлет гонца своего къ сыну своему князю великому Витовту"... (Лѣтописецъ, бал. 215).

ГОНЯЧИ. „...которые, яко ся зъ ними поткали, заразомъ ихъ сперли, ажъ потомъ почали тылъ подавати и такъ тежъ гонячи за ними били ихъ". (Ліст аб разбіцьці Маскоўскага войска пад Улай і Дуброунай 1564 г., бал. 392).

ГОРИТЪ. „Ано бы лѣпѣй гасити, коли у сусѣда горитъ, анижли коли до твоего даху прийдетъ". (нив... 1595 г., бал. 456).

ГОРНУЧИ. „...подъ зверхность и панованье нашо горнучи до служобъ нашихъ господарскихъ ся утекають" (Мэтрыка в. кн. Літоўскага, б. 592).

ГОРОДНО. „И пошедшы з Новагорадка и зарубил город Городно и потом пошол до Берестья и нашол Берестѣи, и Дрогичын, и Мельник от Батыя спустошоны и покажены"... (Лѣтописецъ, бал. 202).

ГОРЪШЫИ. „...иж горъшыи былъ тым землямъ и окрутнеишыи на нихъ, нижли Антиох Сирскии, и Иродъ Иерусалимскии". (Лѣтописецъ, бал. 208).

ГОРѢЛКИ. „...отъ пива одинъ грошъ, а отъ горѣлки два грошы". (Устава на волоки 1557 г., бал. 360). „...вольно мѣщаномъ Полоцкимъ напитки, медъ, пиво, горѣлку, на властную потребу свою мѣти". (Пацьверджаньне прывілею месту Полоцку на Майдеборскае права 1580 г., бал. 422).

ГОСПОДАРА. „А про то оберыте собѣ господара (рас.: „государя") доброго, хто бы мѣлъ боронити того панства великого князства Литовского". (Лѣтописецъ, бал. 209). „И по немъ межы собою господара не мели и мешкали без пана" (там-жа, бал. 201).

ГОСПОДАРУ. „Да не гнѣвайся Господару, а хтож кого остережеть, коли не милы свой давны другъ" (Ліст Комуніякі да Абуховіча 1655 г., б. 576). Слова-зварот „Господару" тут, як і ў шмат якіх іншых помніках нашай пісьменнасьці, ужыта ў значэньні рас.: „Господин", польск.: „Panie".

ГОСПОДѢ. „...а гдѣ дворовъ нашихъ нѣтъ, ино въ мѣстѣхъ, або на селѣ, на одномъ мѣстцу, въ господѣ, (=ў кватэры), не поѣзджаючи и не посылаючи на села а ни въ домы воитовъ"... (Устава на волоки 1557 г., бал. 346).

ГОСТИНЦАХЪ. „А на гостинцахъ и дорогахъ, гдѣ мы господарь съ дворомъ нашимъ ѣдемъ". (Устава на волоки, бал. 355). „...въ слушномъ селѣ, звлаща при гостинцу, можетъ быти корчма за вѣдомостью вряду". (Устава на волоки 1557 г., бал. 342).

ГОСУДАРЪ. „Тежъ естли бы чій слуга збожье попасъ, государъ (ў знач. гаспадар) того слуги маетъ тое збожье поплатити, а слуга тотъ маетъ кіемъ каранъ быти". (Постановленьне на соймѣ Новгородскомъ 1508 г., бал. 266).

ГОТОВЫ. „...ани на жадныи заклады ани на поруки, вынявши готовы (рас.: „наличные") пѣнези". (Вісьліцкі статут XV ст., бал. 155). „Гатоўка", „гатавізна" ў знач. рас. „наличность"—звыклыя словы ня толькі ў старой нашай пісьменнасьці, але і ў жывой народнай мове.

ГРАБАРЫ. „...могутъ выдати до двадцати копъ на наемники и на грабары (=землякопы) до такоѣ роботы". (Устава на волоки 1557 г., бал. 345).

ГРАЗКОМУ. „Мѣсто аж до Днѣпра у ровнѣйшому мѣйстцу осажено нижли замокъ але у гразкому а болотистому"... (Дыярыуш Самуэля Маскевіча XVII ст., бал. 531).

ГРАНИЦЫ. „А князь великии Скирмонтъ собравшы вси воиска свои и подкал его на границы своеи у Коидонове, и поразилъ того цара, и всю рать Татарскую побил"... (Лѣтописецъ, бал. 204). „Тежъ уставляемъ: хто съ кимъ имѣетъ границу при лѣсѣ". (Вісьліцкі статут XV ст., бал. 154).

ГРИДНЯ. „Гридня великая и съ сѣньми, гдѣ тивонъ и рикунья живутъ". („Археограф. Сборн.", Вільня, 1867 г., т. I., б. 148).

ГРОМАДАМИ. „...въ чомъ не лядяко имъ шанцуется, бо не по одной а великими громадами Стадо Христово урываючы до своее оборы плюгавое загоняютъ"... (Унія... 1595 г., бал. 454).

ГРОУДИ. „...который ссалъ гроуди мое"... „(Житіе св. Алексія человѣка Божія XV ст., бал. 181).

ГРОШМИ. „Не грошми, але кровю ся еѣ (волі) докупаютъ". (Вѣршѣ на жалостный погребъ Петра Конашевича XVII ст., бал. 538).

ГРУБІЯНСТВО. „...бо за тымъ, ижъ наукъ нѣтъ, великое грубіянство въ нашихъ духовныхъ умножилося". (Ліст кн. Канстантына Астрожскага 1593 г., бал. 450).

ГУБУ. „A sztob tobie daw w hubu (рас.: „рот") nietucie nikoho" („Sieńko Nalewayko", сатыра XVII ст., бал. 561).

ГУБЪ. „А робятамъ малымъ и невѣстамъ губъ (=грыбоў), овощу лѣсного всякого, ягодъ и хмѣлю во всякихъ пущахъ нашихъ не боронити". (Устава на волоки 1557 г., бал. 353).

ГУДУЦЬ. „Гудуць, ах гудуць, истинно гудуць, гэто кажут(ь) аггли паюць" (Зборнік інтэрмэдзій 1771—1776 г., б. 621). Слова „гудуць" у народнай мове ужываецца ў двуякім значэньні: аб ігры на духавым інструманце („Дудары гудуць") і аб прыцішаным сьпеве („Старцы песьню гудуць").

ГУМЕНЪ. „Платъ весь съ десятоѣ волоки; кромъ овса и сѣна третій снопъ зъ туменъ нашихъ всякого збожья". (Устава на волоки 1557 г., бал. 352).

ГУМЕННИКИ. „Тежъ, абы державцы дворовъ нашихъ и вси врядники дворные, яко заказники, старцы, тивуны, приставы, сорочники, гуменники, обирали што зъ лѣпшихъ служобъ, вѣрныхъ которыи бы больше стерегли роботы, пашни (=пасеву) и иншихъ нашихъ пожитковъ, нижли лупежства, або отступованья отъ повинныхъ роботъ"... (Устава дворовъ 1529 г., бал. 316).

ГУРБОЮ. „З гурбою (=грамадой) держить: так, так, так, а коли мовишь: тое не так,—и пискнути не хочеть". (Ліст Комуніскі да Абуховіча 1655 г., б 576).

ГУТОРЫЛІ. „Vpierod hutoryli z starymi hrekami" („Sieńko Nalewayko", сатыра XVII ст., б. 561).

ГУТУ. „...збудовати гуту (рас.: „завод") скляную, накладомъ своимъ властнымъ ку его пожитку". (Грамата 1551 г., бал. 376).

ГУФАМИ. „...и панъ гетманъ дворный зъ иньшими гуфами (=ротамі) за ними пошелъ". (Ліст аб разбіцьці Маскоўскага войска пад Улай і Дуброўнай 1564 г., б. 392).

ГЭТАК. „Tot' bywało on o tom hetak ludziom każec". (Інтэрмэдзія 1651 г. бал. 568).

**Д**АСИ. „...не даси ни коня ни серебра"... (Грамата Рыжскіх купцоў Вітабскаму князю Міхайле Канстантынавічу, каля 1300 г., бал. 91).

ДАРЕМНО. „Кгдыж даремно вѣкъ свой жити будешъ, если той путь не знайдешъ которыйсь стратилъ". (Отпись на листъ унитовъ Виленскихъ XVII ст., бал. 519). „...а естли не могутъ, то даремна и праца наша". (Наказ да Новагарадскага сабору 1624 г., бал. 539).

ДАТКОМЪ. „...был велми ласкавъ на подданых своих щодробливе их всяким даткомъ и дары опатруючы"... (Лѣтописецъ, бал. 232).

ДБАЛИ. „...а на свой только пожитокъ речи натегаючы, о сполное добро всихъ мало дбали"... (Статут 1588 г., бал. 438). „...взираючи на начальника вѣры и совершителя Іисуса, который вмѣсто потѣхи принялъ крыжъ, о встыдѣ не дбалъ". (Справа отца Никифора 1597 г., бал. 477).

ДЕВИЦЫ. „Сталося есть воплощене сына Божого от Духа святого з благословенное девицы чыстое Марѣи"... (Лѣтописецъ, бал. 200).

ДЕРЖАВЦЫ. „...державцы дворовъ нашихъ, въ каждомъ дворѣ особно, довѣдавшихся, колько бочокъ жыта есть потреба ко насѣнью"... (Устава дворовъ нашихъ 1529 г., бал. 312).

ДИВО. „...и тут не малое учынилося диво (ў знач. рас.: „чудо")... (Лѣтописецъ, бал. 219).

ДОБРЕ. „...з чого на каждомъ соборе будуть пытаные, если ихъ добре умеють". (Регулы Іосафата Кунцэвіча XVII ст., бал. 530).

ДОБРОВОЛЕНЬСТВА. „...и просили насъ абы есмо имъ вси тые права и доброволенства (рас.: „благоволенія", „свободы"), нашимъ привильемъ потвердили"... (Привилей земли Полоцкой 1511 г., бал. 275). „...а прото зъ ласки нашое, для ихъ верное службы вси тые вышейписанные доброволенства" (=свабоды). (Привилей мещаномъ Смоленскимъ 1505 г., бал. 257).

ДОБРОВОЛЬНЕ, „...и теперь они его добровольне (=свабодна) уживаютъ и водле тыхъ артыкуловъ вышей мененыхъ завжды се радятъ и справуютъ"... (Статут кушнерскага брацтва, 1538 г., бал. 325). „...о разбои на добровольнои дорозѣ". (Вартскі статут 1420 г., бал. 150).

ДОБЫТОКЪ „...тежъ, гдѣ первѣй добытокъ (=статак, скот) пасывали". (Потверженье мѣщаномъ Полоцкимъ на право Майдеборское 1510 г., бал. 272).

ДОБЫТКОМЪ. „...звитяжство одержавшы з великимъ весэльем и добыткомъ (=здабычай) золота и серебра"... (Лѣтописецъ, бал. 206). „И князь великии Тронятя звитяжство одержившы и добытку великого золота, и серебра, и каменя жэмъчугу, и шат дорогих набравшы и пошол у свою землю". (там-жа, бал. 205). „...со многимъ полоном и невымовным добытком завоевавши и городы многие побравши"... (Умова Смаленскага князя Івана Александравіча з Рыгай (1330—1359 г.), бал. 116). Слова „дабытак" ужывалася і ўжываецца ў траякім значэньні: скот, уласнасьць і здабыча. „Пасьвіць дабытак"; „Усяго дабытку ў яго—кажух на плечах"; „Пчолы каля ліп маюць добры дабытак".

ДОВЕДАЛСЯ. „И в тотъ часъ доведался великии князь Монтвилъ Жомоитскии, иж Руская земля спустошона"... (Лѣтописецъ, бал. 202).

ДОВНИМАЛИ. „А сторожи тое видели и не догадалися: довнимали, (=думалі)—жонка вышла з жонкою"... (Лѣтописецъ, бал. 217).

ДОВОДЪ. „...и доводъ (рас.: „доказательство") на то оставили людей добрыхъ старыхъ, бояръ, мужовъ сугранныхъ многихъ"... (Апісаньне граніц паміж вялікім князьствам Літоўскім і каронай польскай 1546 г., бал. 335). „Доводы о правдивомъ божествѣ и человѣченстве Христовѣм". (Полемічны трактат канца XVI ст., бал. 495). „О старшенстве Петра Стго доводы из семи соборов". (Полемічныя творы Іозафата Кунцэвіча XVII ст., бал. 518).

ДОВОДНЕ. „Люди и тое кажуть доводне (рас.: „подлинно", „достовѣрно")—во всихъ штурмахъ Вашмости только одного ткача забито". (Ліст Комувіякі да Абуховіча, 1655 г., б. 576).

ДОВОДНЮ. „...слуги пана Миколаевы и владычни и окольничыхъ слуги ихъ въ доводню (сьледчая вязьніца) сажають, а на поруку не дають"... („Привилей мещаномъ Смоленскимъ 1505 г., бал. 256).

ДОВЦЕПНЫ. „...суть Чехове люди на западе слонца, на горахъ, а люди довцепны" (рас.: „остроумные"). (Статут в. кн. Ягайлы 1423 г., бал. 150).

ДОВЪТИПЪ. „Ачъ кольвекъ, вѣмъ то добре, ижъ не толъко мой тупый розумъ, мѣлкій довътипъ, (рас.: „остроуміе") слабая сила и не оумѣстная вымова, подолати тому, жадною мѣрою, не можетъ". (Казанье двое XVII ст., бал. 516).

ДОВѢДЫВАТИСЯ. „...вышли довѣдыватися и познавати, и, кого познавши, врядомъ нашимъ вѣдомо о томъ давати". (Грамата 1539 г., бал. 333). „...тотъ довѣдавшися, же я хочу до Грецыи ѣхать, далъ ми чотыри листочки запечатованы до своихъ пріятелей". (Справа отца Никифора 1597 г., б. 473). „...державцы дворовъ нашихъ, въ каждомъ дворѣ особно, довѣдавшися, колько бочокъ жыта есть потреба ко насѣнью". (Устава дворовъ нашихъ 1529 г., бал. 312).

ДОВѢДАЛСЯ. „И довѣдался князь великии Нарымонт, што ж князи Ятвезъские померли, а люди ихъ мешкают без господара". (Лѣтописецъ, б. 207). ...„и потомъ довѣдался, што город Киев сожжонъ". (там-жа, бал. 202).

ДОГЛЕДАТИ. „...А пастыры засъ старшіе, которые бы того догледати и той явной и великой шкодѣ забѣгати мѣли". (Унія... 1595 г., бал. 455). ...„ижъ торговъ и вольностей мѣстскихъ уживають, и доглѣдати, абы тежъ нихто поблуднѣ и безъ вѣдомости вряду на кгрунтѣхъ нашихъ не мѣшкалъ". (Устава на волоки 1557 г., бал. 342). „...мають съ паны врядники порозумѣваючися, имѣній его милости господарьскихъ доглѣдати". (там-жа, бал. 362). „Тежъ ревизоръ маетъ доглядати и съ пильностью довѣдыватися абы нихто съ шляхты и подданыхъ нашихъ въ пущахъ, на властныхъ грунтѣхъ нашихъ проробковъ не чинили и никакъ къ собѣ не привлащали". (там-жа, бал. 350).

ДОДУШИ. „Додуши (рас.: „ей-Богу!") то мне дивно што Вашмости триста подвод подъ одну постѣль Москва дала". (Ліст Комуніякі да Абуховіча 1655 г., бал. 576).

ДОКОНЧЕНЬЮ. „Ажъ потомъ, по доконченью (рас.: „по окончаніи") сейму, кгды ся уже только сами канцлерове и урядницы зостали". (Справа отца Никифора 1597 г., бал. 476). „Тут ся докончалъ родъ княжати Рымского Палемона". (Лѣтописецъ, бал. 206).

ДОКОНАЮТСЯ. „...олижъ вси иныи личбы того року доконаются (=скончацца), тогды вжо его слухати въ личбѣ будуть, и, што зъ личбы при немъ найдется, заплативши, имѣнье возметъ"... (Устава на волоки 1557 г., б. 350).

ДОКУЧАЕШЪ. „Бо тежъ ты, яко простакъ неякій, не такъ имъ докучаешъ"... (Унія... 1595 г., бал. 456).

ДОПИРАЛИСЯ. „...одноѣ ляски, одноѣ печати, одного скарбу, одноѣ канцеляреи допиралися (=вымагалі)"... (Ліст аб разьбіцьці Маскоўскага войска пад Улай і Дуброўнай 1564 г., бал. 393).

ДОРОСЛОГО. „...а пана дорослого лѣт, хто бы мог боронити мечом отчызны своее"... (Лѣтописецъ, бал. 209).

ДОСПѢЕТЪ. „А доспѣетъ (=станецца) ся въ которого Полочанина татьба, и доищутъ ли ся татьбы, ино господару отдати"... (Привилей земли Полоцкой, 1511 г., бал. 277).

ДОСТАТКИ. „...а коли на перепышные достатки каша рижовая зъ шафраном“. (Прамова Мялешкі 1589 г., бал. 448).

ДОСТИГНУТИ. „...высокость славы, и глубокость невычерпаемыхъ даровъ пречистое и преблагословенное Владычицы нашея Богородицы присно Дѣвы Маріи словы зличити, мыслю огорнути, и розумомъ достигнути“ (рас.: „постигнуть“). (Казаньне двое XVII ст., бал. 516).

ДОСТОЕНСТВА. „...але и таковые на достоенства (рас.: „почести“, „сановництва“) не маютъ быти припущены, ани отъ господара установлены“. (Статут 1588 г., бал. 436).

ДОСЫТЬ. „...быдла въ дворѣхъ нашихъ мѣлъ досыть, и овшельки сохи дворныи“. (Устава дворовъ нашихъ 1529 г., бал. 315).

ДОСЪГАЕТЪ. „Землею засъ до Перскихъ границъ досѣгаеть (рас.: „достигаетъ“). (Гісторыя о Варламе і Іоасафе 1637 г., бал. 554). „...ieželi wasza wiera y wysoka y hłuboka, a chren że ieye dosiahnieć“. (Інтэрмэдзія 1651 г., б. 570).

ДОТКНУЛСЯ. „...потомъ поступилъ Гдь и доткнулся ихъ и рекъ имъ: востанте, и небойтеся“. (Зборнік XVII ст., б. 567).

ДОТЫЧЕТЪ. „Але, што ся дотычетъ (рас.: „касается“) иншихъ жидовъ, родичовъ тамошнихъ, або и прихожихъ, которые бы съ предковъ своихъ въ жидовскомъ старомъ законѣ были“... (Грамата 1539 г., бал. 333). „Напервѣй што ся дотычетъ попису земского“... (Каралеўскі і соймавы статут 1525 г., бал. 317).

ДОЧАСНЫЙ. „Бо тамтые дочасныи (рас.: временный) животъ дѣтемъ даютъ, а овіи вѣчный животъ отроженьемъ даруютъ“. (Лекарство на оспалый умыслъ человѣчій XVII ст., бал. 506). „Тое подобенство естъ о тыхъ которые роскошами дочасного живота ошукиваются“. (Гісторыя о Варламе і Іоасафе 1637 г., бал. 554).

ДОЧКУ. „И князь Кернусъ не мелъ сыновъ, только одну дочку именем Пояту“... (Лѣтописецъ, бал. 202).

ДОЩУПАТИСЯ. „...и руками правды дощупатися могутъ“. (Гаръмонія XVII ст., бал. 507).

ДРАБЫ. „...а его милость панъ гетманъ навышшій, также зъ иньшими туфы и съ дѣлы и съ драбы, (=апалчэнцамі), а притягнувши на поле не малое подъ село при рѣцѣ Улѣ“. (Ліст аб разьбіцьці Маскоўскага войска пад Улай і Дуброўнай 1564 г., бал. 392).

ДРАПЕЖИТИ. „...и окольничихъ бы слуги не казали имъ людей драпежити (=грабіць)“... (Привилей мещаномъ Смоленскимъ 1505 г., бал. 257).

ДРЕВЦО. „На которомъ бы былъ панцеръ доброй, а приблица, а мечъ, а павеза, а древцо зъ прапоромъ цвѣтнымъ“... (Каралеўскі і соймавы статут 1525 г., бал. 317).

ДРУГДЫ. „...а межи таковыми купци чужиземци другды могутъ быти и лазуки, або которыи иншии лихии люди“... (Грамата 1503 г., бал. 258).

ДРЫГАНЪТЫ. „...и то не малая штука кони дрыганъты (=жарабцы-расплоднікі) на ста(й)ни ховати“... (Прамова Мялешкі 1589 г. бал. 448).

ДУБРОВЫ. „...свои лѣсы и боры, и дубровы и гаи, въ тыхъ ихъ лѣсѣхъ и борѣхъ и дубровахъ и въ гаѣхъ не маютъ мѣщане на свои потребы мѣстские дерева брати“... („Привилей земли Полоцкой 1511 г., бал. 277)“. „...въ дубровахъ своихъ не боронити имъ хоромовъ рубити а дровъ сечы подле давного обычая“... (там-жа, бал. 257). „Равнины великие и дубровы роскошные“... (Лѣтописецъ XV ст., бал. 201).

ДУНАЙ. „Варакгамі названы былъ народ водлугъ Стріковского сведки, а то от моря которое москва зовет варецким морем а то море швецыю олівает и дунай инфлянты“ (Дунай=заліў; мова аб Рыжскім заліве). (Прологъ, XVII ст., б. 564).

ДУРНИНА. „И то на свете дурнина годин(н)ики“. Прамова Мялешкі 1589 г., бал. 448).

ДЫБА. „Аще Руский гость или въ Ризѣ, или на Готьскомъ березѣ извинится (будзе вінаваты), никакоже его всадити въ дыбу (калоду)“... (Сьпіскі Смаленскай умовы з немцамі 1229 г., бал. 70).

ДЫБЛЕ. „...и толко убра(в)ши се на высоки(х) подкова(х) до девокъ дыбле“. (Прамова Мялешкі 1589 г., бал. 448).

ДѢВКА. „Гдѣ бы которая дѣвка безъ воли отцовское и матчины ишла замужъ, таковая отпадываетъ отъ посагу и отъ имѣнья отчизного и материстого“. (Статут 1566 г., бал. 394). „И пануючы Кестутю на троцэх и на Жомоити и вслышал дѣвку на полонъдзэ именемъ Бируту“... (Лѣтописецъ, бал. 213).

ДѢВСТВО. „...и тая Парасковѣя обецалася дѣвство свое заховати в цэлости до жывота своего“. (Лѣтописецъ, бал. 203).

ДѢДИТСТВО. „...хотячи дѣдитство вашое милости привлащити“. (Пасольства рады в. кн. Літоўскага да караля Жыгімонта 1526 г., бал. 311). „Дѣдитство“, тое, што па дзядох асталося, „адзядзічана“ ўнукамі.

ДѢДОВИ. „...абы(сь) осѣлъ землю мешканья твоего, которое обѣцалъ дѣдови твоему“. (Кнігі Біблії XVI ст., бал. 396).

ДѢЕТЪ. „...абовѣмъ честь которая ся священникомъ дѣетъ, (=робіцца) на Богася стягаетъ“... (Лекарство на оспалый умыселъ человѣчій XVII ст., б. 506). „...июда отповедал: все добро дѣетсе наймилейша госпоже“... Мука Господа нашого Ісуса Хрыста XV ст., бал. 180). „...великое затрудненье въ скарбѣ, дѣется, коли рокъ въ рокъ личбами входитъ“... (Устава на волоки, 1557 г., б. 350).

ДѢТКИ. „Хвалѣте дѣтки гспда, хвалите имя гспдне, нехай буде имя гспдне благслвено от того часу аж навѣки“. (Протэстанцкі Псалтыр XVI ст., б. 399).

ДЯКЛА. „Тежъ жыта наши данныи и овсы, то есть, дякла, державцы наши абы суполно до городничого отдавали“... (Устава дворовъ нашихъ... 1529 г., бал. 313). „Дзякло“, сьпярша датак ў падзяку за што, даваны з ўдзячнасьці, пазьней стаўся абавязковым падаткам. Дагэтуль слова „дзякло“ ўжываецца ў народзе ў значэньні гонорару (рас. „благодарности“).

ДЯКОВАТИ. „...за што пану Богу дяковати, же подъ панованьемъ королей ихъ милостей и великихъ князей пановъ нашихъ, тую владзу и вольность у рукахъ своихъ маемъ“... (Статут 1588 г., бал. 441). „Трыщан даровал Ижоту королю Марку и рече: королю, маеш ми за нее дяковати“ (Повесть о витязехъ XVI ст., бал. 374).

**Е**ВЬИ. „Евьи (=асеці) тежъ, гдѣ бы врядъ разумѣлъ быти непотребные, маетъ зъ гумна нашого выкинути“... (Устава на волоки, 1557 г., бал 344).

ЕДИНОСТАЙНО. „...ижъ подлугъ часовъ старыхъ въ земли нашей жалобы на судѣхъ не бывали сужены единостайно (=аднастайна)“. (Вісьліцкі статут XV ст., бал. 152).

ЕДИНОЦСТВА. „...яко за единоцства (=еднасьці) бывало“... (Прывілей Жыгімонта трэцяга 1595 г., бал. 453).

ЖАДАЮ. „И рече старець: о господина, уже ея (сьмерці) давно жадаю". (Слово о Мартынѣ мнисѣ XII ст., бал. 25). „...дали мы на просьбу и на жоданье княгини нашое великое Ульяны"... (Грамата в. кн. Вітаўта, 1384 г., бал. 118).

ЖАДОСТЕИ. „Даніилъ мужъ жадостеи (рас.: „страстей") и пророкъ Господень преславныи".. (Біблія Ф. Скарыны 1517—1519 г., бал. 288). „А такъ вжо бы панове Поляцы не мѣли тоѣ жадости, абы тое паньство вашое милости отчизное было унижено и привлащоно къ нимъ". (Пасольства рады в. кн. Літоўскага да караля Жыгімонта 1526 г., бал. 312).

ЖАДНОГО. „А сына жадного (=ніякага) не мѣл, толко одну дочку мѣл на имя Едвигу"... (Лѣтописецъ XV ст., бал. 218). „...тые маю таемные заховати, а жадному чоловеку ихъ не маю объявляти ани тежъ жадныхъ листовъ не маю писати безъ росказанья господарского"... (Форма прысягі, бал. 309).

ЖАТИ. „...три дни серпомъ жыто жати, а три дни ярыны, а сѣно косити по старому". (Устава дворовъ, 1529 г., бал. 314).

ЖАТЦИ. „...и поишла и пришла и збирала в поли за жатци" (Біблія, перакладзеная з гэбрайскага XV ст., бал. 242).

ЖЕНОЦКАЯ. „Куделя, пане, женоцкая рѣчь да штоб пекла горазд оладки". (Ліст Комуніякі да Абуховіча, 1655 г., б. 575).

ЖЕНСКОЕ. „Мы уставляемъ, которыи члонкы имѣють судити старосты: напервѣй судить о усилство женское". (Вартскі статут, 1420 г., бал. 150).

ЖЕРЕБЯ. „А къ тому, кождую свирѣпу (=кабылу) и жеребя мѣти въ реистрѣ на имя, шерстью"... (Устава дворовъ, 1529 г., бал. 315).

ЖИВНОСТЬ. „А онъ маетъ с того самъ живность мѣти изъ слугами своими". (Устава караля Жыгімонта, XVI ст., бал. 273). „Полякомъ трудность великая, штося дотычетъ купованья живности на себе и на кони"... (Постановенье на соймѣ Новгородскомъ 1508 г., Чэрвеня 5 дня, бал. 265). „...двѣ части на насъ и къ пожитку нашому зоставуемъ, а третяя часть жыта державцамъ нашимъ, къ ихъ живности и пожитку"... (Устава дворовъ, 1529 г., бал. 312). „...а зъ меншимъ людомъ и апаратомъ военнымъ и живностю Смеленска додержалъ". (Ліст Комуніякі да Абуховіча 1655 г., б. 578).

ЖИВОТИННОГО. „...абы конюшые брали съ конского и зъ животинного стада зъ мѣстского куницу по двадцати грошей на лѣто, подле давного обычая"... (Привилей мешаномъ Смоленскимъ 1505 г., бал. 257).

ЖМЕНЮ. „Ot nahatawau iemu, ieszcze piercu daycie žmieniu dobruju". (Інтэрмэдзія XVII ст., б. 582).

ЖНИВА. „...а жоны ихъ, лѣтѣ, не болшъ, одно шесть дней до жнива, альбо до полотья будутъ повинни"... (Устава на волоки, 1557 г., бал. 343). „Скоро по жнивѣхъ, абы десятины костельныи, гдѣ суть повинни, супольна были отдаваны". (Устава дворовъ, 1529 г., бал. 312).

ЖОЛНЕРЫ. „...и стацею, которую были наготовали на послы московскии и на жолнеры"... (Запіс аб рабунках і прымусах кобрынскім падданым XVI ст., бал. 310).

ЖОНАТЫ. „...попове грецке соу(т) жонаты". (Повесьць аб трох каралёх, XV ст., бал. 181).

ЖОНОК. „...а иных жонок и мужыков и малых дѣтокъ на колье тыкали"... (Лѣтописецъ, бал. 218). „И змыслила собе: як жонъки будуть насъ

